**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2015. 722 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*

Укладальнік і рэдактар *Сяргей Навумчык*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

У кнізе сабраныя матэрыялы, якія больш чым паўтара дзесяцігодзьдзя гучалі на хвалях Радыё Свабода — інтэрвію са Сьвятланай Алексіевіч, дыскусіі зь яе ўдзелам, рэпартажы пра сустрэчы з чытачамі ды іншыя тэксты пра першую ў Беларусі ляўрэатку Нобэлеўскай прэміі.

У кнізе скарыстаныя фатаздымкі Ўладзя Грыдзіна, Багдана Арлова, Аляксандры Дынько, AFP.


FOL

ISBN 978-0-929849-78-2

# Зьмест

## Verba et scripta

Сьвятлана Алексіевіч была супраць кнігі з эфіру:
«Гаварэньне і тэкст — гэта розныя рэчы. Трэба шмат працаваць над тэкстам гаварэньня, каб ён быў роўны аўтару».

Так яна адказала на ідэю сабраць пад адной вокладкай яе словы і словы пра яе, якія гучалі на Свабодзе.

Гэтая засьцярога тычыцца літаратуры. Тэкст падчас нараджэньня і ёсьць сам аўтар, ад першай літары да апошняй кропкі, і ў гэтым сэнсе Алексіевіч нічым не адрозьніваецца ад Флябэра, Чэхава ці Быкава.

Адрозьніваецца яе мэтад, небясьпечны, як усё геніяльнае, якое выглядае простым. Аўтар робіцца нябачным і ўсюдыісным, чыстай формай, прасторай і часам. Як сьведчыць досьвед яго пачынальніка Алеся Адамовіча, гэты мэтад лепш за ўсё працуе на мяжы вайны і міру, жыцьця і сьмерці. У сьнежні 1993-га я рабіў зь ім доўгае інтэрвію, апошняе ў яго жыцьці. У канцы Адамовіч сам пачаў задаваць пытаньні — і першае было пра Алексіевіч. Што адбываецца ў Менску, як яна трымаецца, што казалі ў судзе — толькі скончыўся працэс з нагоды «Цынкавых хлопчыкаў». Я хадзіў на

суд, бо кнігу выдала і выдавецтва «Беларусь», калі я быў там галоўным рэдактарам. Дасталася тады і Радыё Свабода, якое абараняла аўтара. Алексіевіч у апошнім слове прынесла асабістыя прабачэньні за боль, які адчулі яе героі, але цьвёрда адмовілася выбачацца як пісьменьніца: «Я пішу, запісваю сучасную, бягучую гісторыю... Гэта дакумэнт і адначасна мой вобраз часу».

Адамовіч любіў Алексіевіч, ёй прысьвечаны ягоны артыкул пра жанр гаварэньня і тэксту, які называўся «Як быць геніяльным». Аўтар у гэтым жанры «звышлітаратуры» працуе з тонамі слоўнай руды, каб засталося золата, і так, паводле Адамовіча, становіцца кангеніяльным, напрыклад, Дастаеўскаму. Нобэлеўскі камітэт пагадзіўся з гэтым меркаваньнем, і імя Алеся Адамовіча разам зь імем Быкава (і Дастаеўскага) удзячна прагучала з вуснаў ляўрэаткі ў сталіцы Швэцыі.

У журналістыцы, тым больш на радыё, гаварэньне не становіцца тэкстам у сэнсе Адамовіча, яно адразу тэкст. Гэта тэкст бягучых падзеяў, рэакцыі на іх, эмацыйнай аргумэнтацыі, пераходных сэнсаў, блізкага кантэксту, аднамомантнай рэальнасьці — іншымі словамі, працэсу, які называюць дыханьнем, быцьцём, шумам жыцьця. У нобэлеўскім сьвятле, аднак, штодзённасьць ператвараецца ў гісторыю, дзе ўсе дарогі вядуць у Стакгольм.

Сьвятлана Алексіевіч пераглядзела сабраныя разам рэпартажы і інтэрвію, як яна прызналася, «зь дзіўным пачуцьцём, быццам там гаворка пра іншага чалавека, які жыве ў іншай краіне. Ня я пісала». «Ня я» тут азначае, верагодна, уражаньне ад самой сябе ў люстэрку свайго ж жанру: аўтар стаў героем.

Але думку наконт мэтазгоднасьці друкаваньня Сьвятлана Алексіевіч зьмяніла зь іншай прычыны: «Не ўва мне справа, а ў тым, што застанецца дакумэнт, дакумэнт часу, які чым далей, тым болей будзе цікавым. Жыцьцё пасьля імпэрыі...»

Насамрэч гэта толькі частка справы. У Нобэлеўскай лекцыі Алексіевіч назвала сябе «чалавекам-вухам». Чытачы гэтай кнігі пабачаць, што ня ў меншай ступені яна — чалавек-голас.

Голас глыбокі, жывы, упарты, верны толькі сабе і свайму таленту. Голас сусьветнага дыяпазону і нобэлеўскай клясы. Голас нашага часу.

Наш голас.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

## Сьвятлана Алексіевіч: Самая цяжкая спадчына, якая засталася ад сацыялізму, гэта траўмаваны чалавек, таму што лягер разбэшчвае і ка́та, і ахвяру.

*пра чалавека*

Мы — людзі эпохі войнаў, рэвалюцыяў, развалаў, і іншага досьведу ня маем. Мы — людзі культуры барацьбы, культуры вайны, скажам так — супрацьстаяньня і разбурэньня. Але ўсё ж нягледзячы на ўсе гэтыя жахі, якія чамусьці бясконца пашыраюцца, чалавек створаны ня толькі для таго, каб закрыць дзот, падняцца на дах рэактара, скончыць самагубствам з-за таго, што ідэя загінула. Напэўна ж, Божы замысел іншы. (Сакавік 1999)

*пра нечаканасьць*

Сьвет настолькі нечаканы сёньня, што прагназаваць яго практычна немагчыма. (Сьнежань 2002)

*пра барыкады*

Я даўно зразумела, што барыкада — вельмі небясьпечнае месца, і ня толькі для мастака, але і для чалавека ўвогуле. Калі мы ўжо апынуліся на барыкадзе, то трэба не захлынуцца жарсьцямі і памятаць, што на барыкадзе вельмі цяжка застацца чалавекам. Я таксама лічу вельмі небясьпечнай справаю шукаць беларуса сярод народу. Мне бліжэй Сакрат, які днём зь ліхтаром шукаў чалавека. Давайце шукаць чалавека. (Сьнежань 2002)

*пра маленькага дыктатара*

Дыктатура маленькага чалавека — гэта самае жахлівае, што адбываецца сёньня, асабліва ў нашай краіне. (Лістапад 2004)

*пра стабільнасьць*

Калі гаварыць пра стабільнасьць, то самае стабільнае месца ў сьвеце — гэта турма. Гэта тое, што з намі і адбываецца — турэмная сьвядомасьць, турэмная пайка, ізноў жа самыя чэсныя людзі — гэта наглядчыкі. Гэта мысьленьне ўчорашняга й пазаўчорашняга дня. Уявіце сабе, якім гэты чалавек выйдзе з турмы, з гэтай талеркай баршчу, з татальнай, як яму здаецца, абароненасьцю. Гэты чалавек будзе няздольны да будучыні, гэта дзіця, ён выйдзе ў агромністы сьвет, які ад яго зачынялі, якога яго прывучалі баяцца, бо наглядчыкі самі разуменьня ня мелі пра гэты сьвет. (Лістапад 2004)

*пра ідэі*

Патрэбныя ідэі. Але чым больш я слухаю і гавару, тым болей чую тое самае — або ілюзіі, або суцяшэньні, або канфармізм. Можа, нам усім трэба памаўчаць і прыставіць вуха да вуліцы? (Лістапад 2004)

*пра душу*

Гераізм як такі — не прадмет маіх кніг і майго інтарэсу. Я займаюся дасьледаваньнем чалавечага духу, чалавечых пачуцьцяў. Я дасьледую, што чалавек знаходзіць у гэтым вар'яцтве, калі ён можа забіць іншага, калі нават абавязаны забіць дзеля чагосьці. Мяне цікавіць тое, што адбываецца не на тэрыторыі дзяржавы, а на тэрыторыі чалавечай душы. (Травень 2005)

*пра палітыкаў і народ*

Нас нічому не навучыў нават досьвед паразаў 90-х гадоў, калі мы мелі такую моцную фігуру, як Пазьняк. Паставіўшы дэмакратыю ззаду, а мову наперадзе, мы прайгралі нават у той час, калі быў вялікі запас веры ў людзях, калі была вельмі моцная хваля антыкамунізму. І мяне зьдзіўляе, што высновы ня зробленыя, і гэта прымушае думаць — у нацыянальным крыле няма палітыкаў, я чую галасы культуролягаў, а не рэальных палітыкаў. Яны не ўяўляюць рэальны народ, яны ўяўляюць уласную мару аб народзе. (Жнівень 2005)

*пра дзяржаўнае будаўніцтва*

Трэба падзяляць дзьве задачы: дэмакратычная дзяржава і нацыянальная дзяржава. І гэта ня толькі дзьве розныя задачы, але і два этапы — спачатку дэмакратычная дзяржава. Калі б мы гэта сказалі ў 1990 годзе, мы б мелі дэмакратыю, а потым і Беларускі ліцэй, і Беларускі ўнівэрсытэт, і беларуская студэнцтва, і беларускі садок. (Жнівень 2005)

*пра выпрабаваньне*

Мы вучым іншы сьвет, як ня трэба жыць. Гэта — нашае наканаваньне. Гэта — пастка нашай культуры, але ў мяне ёсьць надзея, што Чарнобыль павінен вызваліць чалавека. Нам дадзенае гэтае выпрабаваньне, каб мы яго прайшлі. Незразумела, чаму першыя павіны гэта прайсьці мы — найменш падрыхтаваныя да гэтага. Можа, таму, што мы такая нявінная, дзіцячая нацыя, можа, таму нам дадзенае такое выпрабаваньне. (Красавік 2006)

*пра Чарнобыль*

Чарнобыль для нас — гэта сапраўды Чарнобыльскі шлях, гэта вельмі доўгі шлях. Усе гэтыя нашы палітычныя баталіі, усе гэтыя сувэнірныя асобы, якія зьяўляюцца на нашай зямлі, са знакам плюс ці мінус — з пункту гледжаньня радыенуклідаў, якія жывуць тысячы гадоў, усё гэта пыл і нікчэмнасьць. Але мы павінны пачаць гэтую інтэ-

лектуальную працу. Можа, хаця б зьбіраць міты, веды, сапраўдную праўду. Гэта вельмі доўгі шлях. Чарнобыль — гэта наш лёс. (Красавік 2006)

*пра сур'ёзнага пісьменьніка*

Справа ня ў тым, каб сабраць матэрыял, трэба сабраць філязофію. Сэнс сур'ёзнага пісьменьніка ў тым, каб штосьці пачуць на вуліцы. Флябэр сказаў, што ён чалавек-пяро. Я чалавек-вушы. Маё вуха на вуліцы. (Травень 2007)

*пра місію*

Я належу да такіх людзей, якія лічаць, што трэба спакойна рабіць сваю справу. Гэта як у апостала Паўла: бываюць такія часы, калі маіх казаняў ня чуюць, але гора мне, калі б я іх не казаў. Вось гэта маё стаўленьне да жыцьця. (Студзень 2007)

*пра зьніклыя словы*

Я нядаўна размаўляла са сваёй сяброўкай, яна чытала нейкую старую кнігу і кажа: божа, як мы агрубелі, колькі трэба ўсяго вяртаць сёньня ў літаратуры! Мы ведаем колеры — чырвоны, чорны, жоўты, а раней грэкі ведалі колер «хворай малпы», «колер ласося», «колер сонца, якое патухае ўначы» — маса рэчаў, якія мы страцілі па дарозе цывілізацыі... (Студзень 2007)

*пра радасьць жыцьця*

Улада ніколі не расплачваецца адна, расплачваецца кожны з нас, кожны чалавек. Але ўсё роўна — гэтыя 70-80 гадоў жыцьця — гэта ўсё, што ў нас ёсьць. І грэкі маюць рацыю: усё ж, трэба вучыцца майстэрству жыцьця. Калі мы будзем цаніць сябе, сваіх блізкіх, цаніць людзей і радавацца жыцьцю — нейк гэта будзе адбівацца і на ўсім астатнім, і зробіць значна болей, чым проста палітычныя атакі, на якія ўжо ў грамадзтва няма энэргіі. (Жнівень 2007)

*пра гішпанскага караля і беларускіх дыплячатаў*

Калі я прыяжджаю ў нейкую краіну, то мяне можа запрашаць любая амбасада, гішпанскі кароль, але ніколі не запросіць беларуская амбасада. А потым паціху яны могуць прыйсьці на п’есу, штосьці шапнуць, і тое далёка ня ўсе... (Чэрвень 2008)

*пра лібэралізм*

Я абсалютна савецкі чалавек, з савецкімі комплексамі, і я ганаруся гэтымі комплексамі. І не зьбіраюся таньчыць перад лібэральнымі каштоўнасьцямі, дзе маленькі чалавек ня ставіцца ні ў што. Хаця я — зацятая лібэралка. Але мне не падабаецца, што маленькі чалавек выкінуты з гэтага вазку, які скача невядома куды. Арыенціру няма. (Ліпень 2008)

*пра мужчын у сям'і*

Я ўсё больш схіляюся да таго, што мы ўсе — закладнікі сваёй культуры. Ёсьць праблема адсутнасьці Дома, адсутнасьці сям'і, такое адчуваньне, што маеш справу з бяздомнымі людзьмі. Нібыта жывуць мужчына і жанчына разам, але спытаеш — ці памятаеце вы дзень вашай першай сустрэчы, дзень вашага шлюбу? У Эўропе гэта людзі памятаюць і сьвяткуюць. А ў нас калі прайшло 10–20 гадоў — ня памятаюць. Дні нараджэньня дзяцей — мужчыны ня памятаюць, кажуць — «здаецца, у сакавіку». (Верасень 2009)

*пра еднасьць*

Я пагадзілася б з тым, што ў беларусаў няма агульнай ідэі, ім няма на чым аб'яднацца. Нацыянальная ідэя сёньня не працуе з гістарычных прычынаў. (Чэрвень 2011)

*пра сьведчаньні*

Кожны чалавек носіць гісторыю ў сабе ды зносіць, сыходзячы, з сабой. Толькі ў аднаго гэта дзьве старонкі, а ў другога —дзесяць, і г. д... Літаратура ўжо не пасьпявае адлюстраваць усё гэта. Пісьменьнік спрабуе шукаць нейкія новыя словы, аднак энэргія зь іх сышла. Каму давярае цяпер наш сучасьнік? Гэта, зразумела, сьведкі, сьведчаньні... І гэтыя сьведчаньні важна сёньня захаваць на любым носьбіце — дыктафоне, камэры, тэлефоне... Ня важна як. Галоўнае — убачыць,

пачуць. І зафіксаваць. Зафіксаваць гэты момант можа мастак, журналіст... (Кастрычнік 2012)

*пра жанчын у палітыцы*

Я лічу, што калі абставіны зьменяцца, а яны зьменяцца, у палітыку ды грамадзкае жыцьцё прыйдзе шмат жанчын. Бо яны ёсьць, і іх рост як асобаў вельмі адчувальны. Яны растуць на тле гэтых падзеяў, на тле страху, нават асабістых стратаў, на той зьнявазе, якую мы перажываем як нацыя. Жанчыны «праб'юцца». Бо трымаць іх далей на другасных ролях проста немагчыма. (Кастрычнік 2012)

*пра дзьве маці*

Я заўсёды казала, што ў мяне дзьве маці — беларуская вёска, у якой я вырасла, і расейская культура, у якой я выхоўвалася. Як можна ад іх адмовіцца? (Чэрвень 2013)

*пра беларускую мову*

Беларуская мова для мяне — гэта і вясковыя краявіды, і вясковыя бабкі, сярод якіх я расла, празь беларускую мову я пазнавала сьвет жаночага голасу — я ніколі не лічыла і не лічу яе нейкай адсталай ці нясьпелай. (Чэрвень 2013)

*пра прымітыў аўтарытарызму*

У нашым грамадстве няма дыялёгу, у нас нейкі камандны стыль ва ўсім. Ну і зразумела, што дыктатура ці любая форма аўтарытарнай улады робіць наша жыцьцё вельмі прымітыўным. Уся піраміда сходзіцца недзе зьверху на адным чалавеку. Гэта як у партызанскім атрадзе — усё залежыць ад таго, што гэта за чалавек, ад узроўню яго адукацыі, ад узроўню яго разуменьня жыцьця. (Лістапад 2013)

*пра дэградацыю грамадзтва*

Я павінна прызнаць, што ў савецкую эпоху — як ні дзіўна гэта будзе гучаць — мы жылі ў больш эўрапейскім часе. Таму што існавалі нейкія стандарты. Падпадаў Брэжнеў або Машэраў пад гэтыя стандарты ці не — але гэтыя стандарты існавалі. І быў акрэсьлены ўзровень патрабаваньняў да эліты. Я тут не кажу пра савецкую літаратуру, але ўсё ж размова тады ішла пра «чалавека на выраст». А цяпер людзей пакінулі самім сабе, цяпер няма ніякіх аб’яднальных ідэй, акрамя таго, каб выжыць. Трэба прызнаць, што грамадства дэградуе. (Лістапад 2013)

*пра расчараваньне*

Калі прыйшоў гарбачоўскі час, усе людзі рванулі — яны рванулі да нейкага справядлівага, сумленнага жыцьця. Гэта была, безумоўна, ілюзія. Мы тады былі наіўныя, праўда? І тое, што

атрымалася, нікому не падабаецца — тое, як усё падзелена; тое, хто сёньня пры ўладзе; тое, якая цяпер улада; тое, што калі ў цябе ёсьць грошы, дык ты чалавек; а калі няма грошай, дык пайшоў ты пад стол і маўчы... Калі ў цябе ёсьць грошы, ты можаш жыць у запаведным лесе і ставіць сваё жыльле, дзе толькі захочаш... А калі ты прыбліжаны да галоўнага, дык ты ўвогуле можаш рабіць, што заўгодна. І, вядома, ёсьць расчараваньне ўсім, што, як кажуць, атрымалася яшчэ горшым, чым было. Не заўсёды можна з гэтым пагадзіцца, але людзям не падабаецца сёньняшняе жыцьцё. Ну, ня несьлі ж яны плякаты ў 90-ыя гады з падтрымкай Абрамовіча або з надпісам «Лукашэнку да ўлады». Ніхто ж гэтага не хацеў. Вось з чым зьвязана расчараваньне. (Лістапад 2013)

*пра апошнія 200 гадоў*

Я жыву ў Беларусі і я лічу сябе беларускай пісьменьніцай. Адначасова я не магу адмовіцца ад расейскай культуры, проста я апынулася ў такім часе, дзе ўсе гэта было зьмешана, дзе ўсё гэта было як бы ў адным сплаве. І гэта немагчыма так агрэсіўна разьдзяліць. 90% Беларусі размаўляе на расейскай мове. І што вы з гэтым зробіце, нават калі на кожным скрыжаваньні вы будзеце крычаць, што трэба любіць родную мову? Каб любіць родную мову, трэба было па-іншаму пражыць апошнія 200 гадоў. Гэтай магчымасьці ў нашага народу не было. Але гэта ня значыць, што я не павінна яго любіць і паважаць. Проста гэты

наш час існуе ў такім раскладзе. У гэтым трэба існаваць і палітыкам, і нам, гуманітарнай эліце. (Лістапад 2013)

*пра мову імпэрыі*

Гэта была б няпраўда, калі б сказаць, што мае кнігі — гэта частка толькі расейскай культуры. Яны — таксама частка беларускай культуры, таму што і ў характарах, і ў дэталях, і ў самым жыцьці вельмі шмат беларускага матэрыялу. Гэта і першае, і другое. Проста «ўтопія» гаварыла на расейскай мове, і вось зрабіць мой праект, як я яго сабе ўяўляла, можна было толькі на расейскай мове.... Калі б я напісала гэтую сваю «мастацкую энцыкляпэдыю», назавем яе так, на беларускай мове, гэта была б няпраўда. Не гаварыў у савецкі час народ тут на беларускай мове. (Лістапад 2013)

*пра Беларусь*

Беларусь — гэта там, дзе я расла, я іншых людзей проста ня ведаю. На самым пачатку, калі пасьля студэнцтва я працавала ў газэце, падзеі вясковага жыцьця былі маімі ўлюбёнымі тэмамі. Чалавек, які вырас сярод усяго гэтага, можа ставіцца да яго толькі зь любоўю. Гэта той сьвет, у якім я вырасла, і іншага сьвету я ня ведаю. (Лістапад 2013)

*пра выбар*

Самая галоўная бітва адбываецца не на барыкадах, не на Плошчы, не на Майдане. Самая галоўная бітва адбываецца, калі чалавек вырашае, ідзе ён на Майдан ці не ідзе, выдае ён кнігу ці не выдае, выганяе ён студэнта, які быў на Плошчы ці не, студэнт вырашае, іду я на Плошчу ці не. (Люты 2014)

*пра перамогу над камунізмам*

Тым, хто старэйшы, я хацела б сказаць: ня трэба адчайвацца. Усё ж галоўнае мы зрабілі: камунізм пераможаны. А маладым людзям я хацела б сказаць: рыхтуйцеся да будучыні, яна ўсё адно прыйдзе. Будзе эўрапейская будучыня. Але рыхтуйце сябе — гэты час вельмі жорсткі... (Люты 2014)

*пра тонкі слой культуры*

Людзі, якія былі ў лягерах, на вайне, казалі мне, што культура — гэта тонкі слой. У лягеры ён зьлятае за 10 дзён. На вайне — яшчэ хутчэй. Вось тэма, якая мяне заўжды хвалюе: як дапамагчы чалавеку ўпільнаваць у сабе чалавека. Мне здаецца, што гэта вечная праца. Гэта было і пры Сталіне, і пры дэмакратах... (Люты 2014)

*пра мову як супрацiў*

Мяне вельмі радуе цяперашняя цікавасьць да беларускай мовы, столькі людзей запісваецца на курсы. На сёньняшні момант — гэта форма супраціву. (Красавік 2014)

*пра дом*

Я хачу жыць дома, мне тут падабаецца, мне падабаюцца нашы людзі. Каб пісаць, трэба жыць тут. Хаця тое, што адбываецца вакол, палохае мяне. (Верасень 2014)

*пра рознасьць мэнталітэтаў*

У Расеі ідзе вельмі небясьпечны працэс. Я ўжо казала, што будзе вялікая вайна. А вялікая вайна яшчэ больш правакуе чалавечую прыроду. Мне падаецца, у беларусаў гэта ўсё ня так. Побач з намі Эўропа, мы вельмі патрыярхальная краіна, і хрысьціянская культура адыгрывае сваю станоўчую ролю. У нас няма гэтай стыхійнасьці, гэтай вольнасьці нават у мэнталітэце. Гэта ўсё ж іншы сьвет. (Верасень 2014)

*пра радзіму*

Я люблю беларускі народ, я люблю расейскі народ, мае сваякі ўсе з боку бацькі былі беларусы, мой любімы дзядуля, і наогул я ў чацьвёртым пакаленьні вясковы настаўнік, мой прадзед вучыўся разам зь Якубам Коласам, так што я адчуваю,

што гэта мая радзіма, мая зямля. І разам з тым, мая бабуля, мая маці — яны ўкраінцы. Я вельмі люблю Украіну. (Кастрычнік 2015)

*пра ката і ахвяру*

Самая цяжкая спадчына, якая засталася ад сацыялізму — гэта траўмаваны чалавек, таму што лягер разбэшчвае і ка́та, і ахвяру. (Кастрычнік 2015)

*пра Адамовіча і Быкава*

У першую чаргу я б, вядома, сказала дзякуй маім настаўнікам: Адамовічу і Быкаву. Вось гэта мае настаўнікі. І Быкаў, які быў прыкладам такой чалавечай стойкасьці, і Алесь Адамовіч, які, вось як ставяць голас, я б сказала, ён паставіў мне машыну мысленьня, гэты чалавек. Я нікога роўнага яму ў беларускай культуры ня ведаю, па эўрапейскім размаху. Вось пра гэтых людзей, што тычыцца Беларусі, я падумала ў першую чаргу. (Кастрычнік 2015)

## Васіль Быкаў: Спроба Алексіевіч асэнсаваць маральныя праблемы афганскай вайны выклікала шалёны адпор

12 сьнежня 1993
Аляксандар Лукашук, Менск

*Зь інтэрвію з Васілём Быкавым.*

**Аляксандар Лукашук:** Як вы ацэньваеце тое, што адбываецца ў Беларусі зь літаратурай, я маю на ўвазе канкрэтны літаратурны твор Сьвятланы Алексіевіч — «Цынкавыя хлопчыкі»?

**Васіль Быкаў:** Тое, што адбываецца ў Беларусі, мае канкрэтную прывязку і да творчасьці Алексіевіч, і да Менску. Я маю на ўвазе вось гэты нядаўні судовы разгляд. Але ўвогуле гэта характэрна для посткамуністычнай мэнтальнасьці. І галоўнае тут, як я ўжо гаварыў, канцэнтруецца менавіта ў няпэўнасьці асэнсаваньня ўсёй гэтай афганскай авантуры як зьявы — грамадзкай, псыхалягічнай.

А галоўнае, можа быць, як ідэйнай зьявы ў нашай гісторыі. Таму што далей усьведамленьня таго, што гэтая вайна несправядлівая, што зь ёй трэба было скончыць, што і зрабіў Гарбачоў, выведшы адтуль войскі, наша грамадзкая думка не пайшла. На тым яна і спынілася. Яна спынілася на тым, хаця мы, чалавецтва, наш народ апынуліся перад сотнямі тысяч удзельнікаў гэтай авантуры. Авантура сама па сабе скончылася

там, пакінуўшы пасьля сябе больш за мільён, каля двух мільёнаў сьмерцяў афганцаў, масу зьнішчаных кішлакоў, палёў, культурных цэнтраў і рэлігійных асяродкаў таксама. Усё гэта засталося ззаду. Але людзі, якія ўсё гэта ўчынілі — яны тут. Якія павінны быць у нас да іх адносіны? Хоць бы маральна, якія адносіны? У грамадзтва на гэта няма адказу.

Дык вось, Алексіевіч зрабіла спробу ў жанры літаратуры асэнсаваць нейкім чынам нейкія пачаткі гэтай праблемы. І адразу ж гэта выклікала шалёны адпор. Найперш з боку таго, каго лягчэй за ўсё было скарыстаць — маці ахвяраў. Маці ня тых людзей, якія там забівалі і жывуць цяпер між намі, а тых, якія самі загінулі там. Гэта, канечне, было вельмі проста, гэта — самае лёгкае рашэньне. І яно было знойдзена і прыменена ў нас у Беларусі. Менавіта супраць гэтага твору «Цынкавыя хлопчыкі», супраць яго аўтара Сьвятланы Алексіевіч і супраць спробы асэнсаваць усё-ткі ролю нашых людзей (у дадзеным выпадку — людзей з нашай нацыі, зь беларускай) у гэтай вайне — паўсталі маці, жанчыны. І, канечне, як сродак былі скарыстаныя судовыя разборкі.

## Хто зь беларускіх пісьменьнікаў атрымае Нобэлеўскую прэмію

5 ліпеня 1998
Сяргей Дубавец, Вільня

*Зь перадачы «Вострая брама. Беларускі культурны кантэкст XX стагодзьдзя».*

**Сяргей Дубавец**: Беларуская інтэлігенцыя збалелася па Нобэлеўскай прэміі. Пра гэта гавораць, марацьс, верацьс у шчасьлівае ўзнагароджаньне як у панацэю ад нацыянальнага выраджэньня. Усе гэтыя, на першы погляд, бяссэнсавыя летуценьні ўжо самі па сабе ёсьць жыцьцём культуры, якая намацвае сваю новую постсавецкую герархію.

На Нобэлеўскую прэмію вылучаюць, аб ёй хадайнічаюць, за яе спаборнічаюць. І ўсё гэта адбываецца пераважна таемна або й зусім таемна. Бо такія правілы дыктуе сам інстытут Нобэлеўскай прэміі, якая прызначаецца ў выніку складанай сыстэмы кулюарнага лабіраваньня. Сакрэтнасьць прыводзіць да таго, што ў розных асяродках беларускае эліты выношваюцца наконт Нобэля свае «віды», пра якія па-за межамі асяродку ня ведае ніхто. Такім чынам, у Беларусі можа адначасова высьпельвацца некалькі кандыдатаў у розных намінацыях, а самое прызначэньне акажацца, як заўсёды, нечаканым. Момант мафіёзнасьці ў гэтыя закулісныя гульні прыўносіць аб'ём прэміі — больш за мільён даляраў. Можна цалкам уявіць сабе, што для некага гэта ніштаваты бізнэс.

У нацыяналістычных асяродках Нобэля зьвязваюць найперш зь літаратурай і найчасьцей называюць імя Васіля Быкава. Але й тут, высьвятляецца, ня ўсё адназначна і «аднагалосна». Скажам, я быў перакананы, што ўся наша эліта спадзяецца на прысуджэньне прэміі Быкаву і як можа лабіруе гэтую ідэю яшчэ з часоў Брэжнева (калі Быкаву, казалі, далі Ленінскую прэмію нібыта дзеля таго, каб ён не атрымаў Нобэля), а можа быць і раней.

І вось гады тры таму ў зімовай Варшаве я размаўляю з адным беларускім апазыцыйным прафэсарам і кажу яму, што няблага было б, каб наша апазыцыя выкарыстала свае міжнародныя сувязі дзеля лабіраваньня Васіля Быкава на прэмію. Прафэсар задумаўся і адказаў, што Быкаў, вядома, добры пісьменьнік, але ён стары, а ў нас ёсьць маладзейшыя, якія пра вайну пішуць лепей за яго.

Адказ прафэсара я расцаніў як недасьведчанасьць. Маўляў, ня ведае чалавек літаратуры, бо якія такія маладзейшыя ў нас пішуць лепш за Быкава і тым больш пра вайну?

Тую гутарку з прафэсарам я ўвесь час згадваў для сябе амаль як анэкдот. Пакуль не зразумеў, што памыляўся тады не прафэсар, а я сам. І ў той час, калі мы гаворым пра кандыдатуру Васіля Быкава, у яго, аказваецца ёсьць у Беларусі зусім рэальны канкурэнт.

Зусім нядаўна я зразумеў, што прафэсар меў на ўвазе Сьвятлану Алексіевіч. Яна ж і маладзейшая, і таксама піша пра вайну. Яе творы шырока

перакладаюцца ў сьвеце. Увагі з боку прэсы ёй не бракуе, дый пра яе кандыдатуру на Нобэля ўжо даводзілася чуць ня раз. А калі ўлічыць, што прэмія, як правіла, бывае нечаканай... Выходзіць, бэнэфаўскі прафэсар ужо тры гады таму ведаў, каго яму трэба лабіраваць на швэдзкую прэмію.

Асабіста я нічога ня маю супраць Сьвятланы Алексіевіч. І калі б зоркі леглі для яе шчасьліва, варта было б шчыра парадавацца за пісьменьніцу, якая піша па-расейску. Але не за Беларусь.

Бо, парадаксальным чынам, такая прэмія магла б стаць апошнім цьвіком у труну беларускае мовы, якая пасьля такога прызнаньня расейскамоўнае літаратуры ў Беларусі наўрад ці б ужо ачомалася да паўнавартаснага грамадзкага існаваньня. Магчыма, яна б атрымала статус ірляндзкае мовы, на якой яшчэ гавораць сяляне ў краіне, дзе сямёра англамоўных пісьменьнікаў носяць званьне ляўрэатаў Нобэля.

Справядліва было б, каб расейскамоўныя пісьменьнікі прадстаўляліся ў сьвеце як расейскія. На жаль, пакуль гэта ня так. І ў тым не віна пісьменьнікаў, а бяда тых краінаў, што падарваныя 200-гадовай расейскай акупацыяй.

Купалава апазыцыя «Белабог — Чарнабог» трансфармавалася ў алітэрацыю Аляксандра Лукашука «Нобэль — Чарнобыль». Самое слова «нобэль» з гэтага моманту стала беларускім. Ці стане яно для нашае культуры лёсавызначальным?

**Аляксандар Лукашук**: Нобэлеўская прэмія для Беларусі — як Чарнобыль наадварот. Ейнае

выпраменьваньне прасякнула б жыцьцё нацыі на пакаленьні наперад і асьвяціла б на пакаленьні назад. У гэтым сьвятле адкрылася б — і так стала існай — уся Беларусь, мінулая і будучая, для сьвету і для сябе самой. Спраўдзілася б Купалава мэтафара пра пачэсны пасад між народамі. З Нобэлеўскага п'едэсталу загаварыла б уся нашая задушаная, закатаваная, расстраляная ў XX стагодзьдзі літаратура і мова. Яна б уваскросла як Хрыстос пасьля зьняцьця з крыжа.

Тое, што я сказаў, — аргумэнты слабасьці. Вонкавае прызнаньне — пацьверджаньне істотнасьці існаваньня, яго вартаснасьці — патрэбнае тым, хто сумняваецца ў сабе. Беларусы сумняваюцца. Для мяне асабіста гэта быў бы самы шчасьлівы дзень у жыцьці. Толькі слабыя ведаюць, што такое перамога.

**Уладзімер Арлоў**: Я лічу, што найбольшую верагоднасьць атрымаць Нобэлеўскую прэмію ў сучаснай Беларусі мае пісьменьнік, і мы ведаем імя гэтага пісьменьніка. Калі прысуджэньне яму Нобэлеўскай прэміі адбудзецца, напрыклад, сёлета, то мой прагноз такі. Па-першае, нарэшце сярод багатых беларусаў зьявіцца пісьменьнік, які дасягнуў багацьця не праз гандаль, напрыклад, гарэлкай ці сумленьнем, а літаратурнай працай. Па-другое, чалавек, які займае пасаду прэзыдэнта краіны, не павіншуе нобэлеўскага лаўрэата. Па-трэцяе, дзяржаўныя выдавецтвы Беларусі не закідаюць нобэлеўскага лаўрэата прапановамі пра новыя выданьні ягоных кніг. Па-чацьвертае, Міністэрства адукацыі не парэкамэндуе вы-

кладчыкам роднай мовы абавязкова правесьці адмысловы ўрок, прысьвечаны новаму нобэлеўскаму ляўрэату. Па-пятае, калі чытачы захочуць сустрэцца зь ляўрэатам, высьветліцца, што дзеля гэтага патрэбны пісьмовы дазвол «вэртыкалі» або, напрыклад, БПСМ (прапрэзыдэнцкі Беларускі патрыятычны саюз моладзі, існаваў з 1997 да 2002. — *Рэд.*). Можна прагназаваць таксама пэўныя захады з боку падатковай інспэкцыі. Але ўрэшце гэткая рэакцыя будзе мець несумнеўны станоўчы эфэкт. Карацей, я мару, што ў XXI ст. Беларусь уступіць са сваім першым нобэлеўскім ляўрэатам, бо на наступнае стагодзьдзе ў нас плянуюцца новыя.

**Зянон Пазьняк**: Нобэлеўская, як і ўсялякая прэмія, што адзначае талент і інтэлект, спрыяе фармаваньню разумнай эліты грамадзтва. А ў грамадзтве ўзровень разумнай эліты — гэта найважнейшае. Страта такой эліты ці яе перараджэньне, ці абніжэньне ўзроўню вядзе да грамадзкіх хваробаў, такіх як таталітарызм, самаразбурэньне, страта арыентыраў, што можа скончыцца нацыянальнай катастрофай.

Наяўнасьць прэміі для эліты і для элітарных дасягненьняў трэба толькі вітаць. З другога боку, сытуацыя з прызначэньнем такіх прэміяў ня можа быць цалкам аб’ектыўнай. Тут умешваюцца палітычныя, геаграфічныя і іншыя традыцыйныя чыньнікі. Акрамя таго, грамадзтва таксама павінна быць актыўным.

Інтэлектуальны ўзровень беларускай эліты — гуманітарнай, навуковай, тэхнічнай — вельмі

высокі. Але грамадзтва ня ўмее яго скарыстаць, ня ўмее выявіць, прадставіць і нават шанаваць. Не знаходзіцца актыўных людзей, каб арганізаваць падрыхтоўку і прадставіць Васіля Быкава на Нобэлеўскую прэмію. Само па сабе такое ня робіцца, а пісьменьнік і ягоная творчасьць вартыя прэміі Нобэля. Грамадзтва ня здолела нават абараніць вялікага пісьменьніка ад лукашэнкаўскага акупацыйнага рэжыму. І гэта ў значнай ступені ўзяла на сябе міжнародная супольнасьць.

Так што розум у грамадзтве павінен быць актыўным. Калі гэтага ня будзе, то не адбудзецца і яго поўнай рэалізацыі. Будуць страты. Можа быць, як і ў прыкладзе зь Беларусяй, высокі інтэлектуальны ўзровень, але гэта прападае марна альбо выкарыстоўваецца іншымі, не на карысьць нацыі.

## «Кніга Алексіевіч ёсьць ці не найглыбейшым асэнсаваньнем трагедыі хлопчыкаў, якім пашчасьціла не апынуцца ў цынку»

15 лютага 1999
Сяргей Навумчык, Прага

*У Беларусі адзначаюць дваццатую гадавіну завяршэньня вываду савецкіх войскаў з Афганістану.*

У сьнежаньскую ноч 1979-га зь віцебскага аэрадрому ўзьнялася ў паветра самая першая эскадрыльля транспартнай дывізіі, якая прывезла ў Афганістан першыя савецкія дэсантныя падразьдзяленьні. Ужо праз некалькі дзён самалёты вярнуліся зь першымі цынкавымі трунамі.

Ленін, чыё вучэньне было кананічным для таго пакаленьня, якому давялося ваяваць у Афганістане, пісаў пра войны справядлівыя і несправядлівыя. Савецкая вайна ў Афганістане не была справядлівай нават паводле ленінскай тэорыі.

Дысыдэнту Ўладзіміру Букоўскаму на пачатку 1990-х гадоў удалося на некалькі тыдняў атрымаць доступ да архіву Генэральнага сакратара ЦК КПСС, які цяпер завецца прэзыдэнцкім архівам. У сваёй кнізе «Маскоўскі працэс» Букоўскі прыводзіць успаміны ўдзельнікаў штурму палаца тагачаснага кіраўніка Афганістану Аміна.

Штурм пачаўся з артылерыйскага абстрэлу, потым спэцгрупа ўварвалася ў палац, закідваючы ў кожны пакой гранаты і паліваючы ўсё навокал агнём з аўтаматаў. Калі дабраліся да пакояў Аміна, убачылі, што ён трымае на руках шасьцігадовага сына, а побач быў старэйшы сын-падлетак. Імгненна расправіўшыся з кіраўніком Афганістану, афіцэры КДБ разрадзілі свае аўтаматы і ў ягоных дзяцей. Так пачалася афганская вайна.

Дзеці Аміна не пасьпелі заплакаць, але іншыя мільёны афганскіх дзяцей аплакалі сьмерць сваіх бацькоў ды матак. У Савецкім Саюзе аплакваць блізкіх давялося бацькам — сярэдні ўзрост палеглых савецкіх вайскоўцаў не перавышаў дваццаці гадоў. Паводле афіцыйнай статыстыкі, на тэрыторыі былога Савецкага Саюзу — звыш трынаццаці тысячаў магілаў тых, хто не вярнуўся жывым з той вайны. Ёсьць усе падставы меркаваць, што лічба заніжаная, бо колькасьць ахвяраў з афганскага боку дасягае — паводле афганскіх зьвестак — каля мільёна чалавек. Відавочна, дакладныя лічбы ўжо ня будуць вядомыя ніколі.

Вашынгтонскі палітоляг Пол Гоўбл у камэнтары да сёньняшняга юбілею заўважае, што тры фактары — вывад войскаў, прызнаньне, што савецкая інтэрвэнцыя ня мела падтрымкі мясцовага насельніцтва, і агалошваньне зьверстваў у дачыненьні да мірных жыхароў, — рэльефна выявілі антычалавечасьць савецкае сыстэмы. І гэта адыграла істотную ролю ў яе канчатковым зьнішчэньні.

Беларусь афганская вайна не абмінула. Сотні магілаў ці не ва ўсіх раёнах Беларусі, выступ дэпутата-афганца супраць акадэміка Сахарава на першым зьезьдзе, — і кніжка Сьвятланы Алексіевіч, якая на сёньняшні дзень ёсьць ці не найглыбейшым асэнсаваньнем трагедыі хлопчыкаў, якім пашчасьціла не апынуцца ў цынку.

Тая вайна была бессэнсоўная для ўсіх. І, можа, адзіны яе сэнс для беларусаў — навучыць, што змаганьне за чужыя інтарэсы шчасьця не прыносіць.

## Гомельская абласная бібліятэка адмовілася арганізаваць сустрэчу зь пісьменьніцай Сьвятланай Алексіевіч

4 сакавіка 1999
Казімер Яноўскі, Гомель

*Гомельская абласная бібліятэка адмовілася арганізаваць сустрэчу сваіх чытачоў зь пісьменьніцай Сьвятланай Алексіевіч, якая прыехала ў гэты горад, каб сустрэцца з героямі сваёй будучай кнігі.*

Паведамлю слухачам Радыё Свабода, што першай Сьвятлана Алексіевіч запісала гісторыю жыцьця й каханьня настаўніцы-пэнсіянэркі, якая ў маладыя гады выйшла замуж за інваліда, нарадзіла яму траіх дзяцей і пачувала сябе шчасьлівай і патрэбнай каханаму чалавеку доўгія гады. Гэтае каханьне дае сілы жанчыне й цяпер, калі каханага чалавека ўжо ня стала.

Я пацікавіўся ў пісьменьніцы — што гэта будзе за кніга, як яна стасуецца з папярэднімі — «Апошнімі сьведкамі», «Цынкавымі хлопчыкамі», «Чарнобыльскай малітвай», якія крытыкі называюць энцыкляпэдыяй усіх савецкіх пакаленьняў.

**Алексіевіч**: «Калі апошняя кніга — «Чарнобыльская малітва» — была ўжо напісаная і я думала: што павінна быць далей, дык вырашыла, што цыкл мой мусіць быць завершаны яшчэ дзьвюма кнігамі. І гэты цыкл як бы называецца

«Чалавек знаёмы». Пасьля я пачну другі — «Чалавек незнаёмы», чалавек іншых адносінаў з сусьветам. Мы — людзі эпохі войнаў, рэвалюцыяў, развалаў і іншага досьведу ня маем. Мы — людзі культуры барацьбы, культуры вайны, скажам так — супрацьстаяньня і разбурэньня. Але ўсё ж нягледзячы на ўсе гэтыя жахі, якія чамусьці бясконца пашыраюцца, чалавек створаны ня толькі для таго, каб закрыць дзот, падняцца на дах рэактара, скончыць самагубствам з-за таго, што ідэя загінула. Напэўна ж, Божы замысел іншы. І напэўна ж, кожны з нас мае ў жыцьці такія ўспаміны, якія ён у апошнюю сваю гадзіну згадае. Ён напэўна ўспомніць штосьці асабістае, прыватнае, калі хочаце — начное. Як бы начны чалавек. Новая кніга будзе называцца «Дзівосны алень вечнага паляваньня». Як сказаў Аляксандар Грын, шчасьце, каханьне — гэта дзівосны алень вечнага паляваньня. Чалавек гоніцца за ім. Так што шостая кніга працягне мой летапіс пра нашага чалавека нашых пакаленьняў. Але ў нас, славянаў, чамусьці сумна ўсё атрымліваецца. Чамусьці мы ніяк ня можам быць шчасьлівыя. Таму кніга — гэта зноў расповед пра людзей, але празь іх асабістыя гісторыі, праз каханьне, якое яны перажылі, праз тое, што яны зразумелі ў жыцьці».

Сьвятлана Алексіевіч прызнаецца, што вельмі часта прымушае сябе езьдзіць, каб ня стаць «кабінэтным вучоным», ці такім «заходнім» пісьменьнікам, якога на Захадзе друкуюць, але які даўно забыўся, што робіцца ў яго ўласным доме.

У гэтай сувязі я пытаюся ў пісьменьніцы — чаму менавіта Гомельшчына, так сказаўшы, выбраная ў якасьці аб'екту дасьледаваньня?

**Алексіевіч**: «Я працавала тут, калі пісала кнігу «Чарнобыльская малітва». Раней — таксама, працуючы над першай кнігай «У вайны не жаночае аблічча», рабіла тут запісы. Па-другое, Гомельшчына для мяне — гэта штосьці асаблівае. Мой бацька родам зь Петрыкаўскага раёну, зь вёскі Камаровічы. Пасьля вайны ён быў дырэктарам у шмат якіх школах на Гомельшчыне, а ў Веткаўскім раёне ў вёсцы Прысна я наагул пайшла ў школу і спадзяюся, што там яшчэ жыве мая першая настаўніца, якую я вельмі любіла. У Капаткевічах Петрыкаўскага раёну я закончыла сярэднюю школу. Добрая для мяне паездка».

Дадам, што абласная бібліятэка адмовілася арганізаваць сустрэчу сваіх чытачоў зь пісьменьніцай, чые кнігі выдадзеныя ў 19 краінах сьвету.

## «Мужчынская ваяўнічая статкавая сьвядомасьць, падпарадкаваная нейкаму важаку, адвучыла ад індывідуальнай адказнасьці»

Валянціна Аксак, Менск
3 чэрвеня 1999

*У Менску пачаўся Першы ўсебеларускі форум «Жанчына. Плянэта. Будучыня». Каля двухсот дэлегатаў з розных рэгіёнаў Беларусі, а таксама каля ста гасьцей з Расеі, Польшчы, Украіны, Малдовы ўдзельнічаюць у гэтай імпрэзе. Яна зладжаная Ўсебеларускім жаночым фондам сьв. Эўфрасіньні Полацкай пры падтрымцы дзьвюх украінскіх няўрадавых жаночых арганізацыяў ды трох расейскіх.*

Такая вялікая прадстаўнічасьць форуму абумоўленая мэтамі арганізатараў — абудзіць жанчыну да сацыяльнай, грамадзянскай, духоўнай, інтэлектуальнай актыўнасьці ды змусіць грамадзтва прыняць грамадзкую жаночую працу.

«Мужчынская сьвядомасьць зайшла ў тупік, і сьвет пакараны за тое, што адмовіўся ад жаночай энэргіі», — сказала на адкрыцьці форуму старшыня ягонага аргкамітэту славутая пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч.

І ў гэтай сувязі яна выказала сваё бачаньне прычынаў нечуванай трагедыі на Нямізе. Мужчынская ваяўнічая статкавая сьвядомасьць,

падпарадкаваная нейкаму важаку, адвучыла ад індывідуальнай адказнасьці за свае дзеяньні. А ўсяго толькі і трэба было ў той жахлівы момант — адступіцца назад, гэта значыць, замест інстынкту статку «Рабі, як усе!» — прыняць асабістую адказнасьць за сябе і таго, хто побач, лічыць Сьвятлана Алексіевіч.

## У Хэльсынкі адбылася прэзэнтацыя кнігі Сьвятланы Алексіевіч

26 красавіка 2000
Якуб Лапатка, Хэльсінкі

*Учора ў Хэльсынкі адбылася прэзэнтацыя кнігі Сьвятланы Алексіевіч «Чарнобыльская малітва». Цікавасьць да падзеі выявілі практычна ўсе найбуйнейшыя газэты Хэльсынкі і Фінляндыі, а таксама фінскае тэлебачаньне.*

Сёньня ў прэсе зьявіліся матэрыялы, прысьвечаныя публікацыі «Чарнобыльскай малітвы» на фінскай мове. У газэтах падрабязна выкладаецца зьмест кнігі і апісваюцца наступствы Чарнобылю для Беларусі.

Вялізны артыкул у газэце «Helsingin Sanomat» пачынаецца са словаў: «Пра нас, беларусаў, у сьвеце даведаліся толькі пасьля Чарнобылю. Чарнобыль стаўся нашым акном у Эўропу. Мы зьяўляемся адначасова і ягонымі ахвярамі, і ягонымі сьвятарамі. Гаварыць пра тое проста страшна».

Камэнтуючы гэтае выказваньне, газэта піша, што доўгі час Беларусь не лічылася галоўнай ахвярай Чарнобылю. А кніга Алексіевіч дапамагае нам прабіцца праз тыя сумёты хлусьні і маўчаньня, якія былі нагароджаныя вакол сытуацыі ў Беларусі пасьля Чарнобылю. Далей паведамляецца, што «Чарнобыльская малітва» перакладзена на 20 моваў тым часам як у сябе на радзіме яна фактычна забароненая.

Маральна-этычнае пытаньне «забыцца або памятаць» для Сьвятланы Алексіевіч вырашаецца проста: памятаць. Перакладчык і літаратар Робэрт Коламайнэн, сказаў: «Гэтая кніга для нас сталася сапраўдным адкрыцьцём. Мы ведалі пра Чарнобыль, мы нават ведалі крыху пра становішча ў Беларусі, але ўсё гэта ня тое. Ведаць можна і табліцу множаньня, аднак адчуць, прапусьціць гэта праз уласныя пачуцьці — гэта зусім іншая справа».

Апроч учарашняй прэсавай канфэрэнцыі Сьвятлана Алексіевіч сёньня ўвечары будзе гаварыць у гарадзкім парку Эсплянада на «Дні кнігі і ружы», у расейскім клюбе пры Інстытуце гістарычных дасьледаваньняў Хэльсынскага ўнівэрсытэту, а таксама ў Нацыянальным фінскім ПЭН-цэнтры.

У чацьвер яна выступала ў музэі Леніна ў Тампэрэ, а ў пятніцу — у гарадзкой бібліятэцы гораду Торы. Пісьменьніца, як піша «Helsingin Sanomat», імкнецца абудзіць homo soveticus ад дзесяцігодзьдзяў гіпнатычнага сну.

## «Я не перапыняю сувязі з радзімаю»

14 верасьня 2000
Ганна Соўсь, Менск

*На наступным тыдні пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч пакіне радзіму й два гады будзе жыць спачатку ў Італіі, а потым — у Францыі. Учора адбылася апошняя сустрэча пісьменьніцы з грамадзкасьцю Беларусі. Падчас яе адбылася прэзэнтацыя беларускага выданьня «Чарнобыльскае малітвы». Такім чынам, Беларусь стала сямнаццатай краінаю сьвету, дзе надрукаваная «Чарнобыльская малітва».*

Праз тыдзень Сьвятлана Алексіевіч пакіне Беларусь. Яна едзе на запрашэньне й на стыпэндыю эўрапарлямэнцкай пісьменьніцкай арганізацыі. Прыблізна год Сьвятлана Алексіевіч будзе жыць у Італіі (у Флярэнцыі), а потым яшчэ год — у Францыі.

Ейная апошняя сустрэча з грамадзкасьцю адбылася ў рамках міжнароднае канфэрэнцыі «Разбуранае XX стагодзьдзе: Хроніка будучыні», якую ладзіў міжнародны жаночы фонд імя Сьвятой Эўфрасіньні Полацкае. Падчас вечарыны адбылася прэзэнтацыя беларускага выданьня «Чарнобыльскае малітвы».

Упершыню гэтая кніга выдадзеная на беларускай мове. «Чарнобыльская малітва» надрукаваная на сродкі Прадстаўніцтва ААН у Беларусі, а таксама пры ўдзеле літаратурна-мастацкага

фонду «Гронка». Кніга мае невялікі наклад, усяго 1500 асобнікаў, частка зь іх будзе бясплатна перададзеная беларускім бібліятэкам.

Падчас вечарыны Сьвятлана Алексіевіч распавяла нашаму радыё пра тое, што плянуе ў Італіі скончыць працу над сваёй кнігаю пра каханьне «Дзівосны алень вечнага паляваньня»:

«Я не перапыняю сувязі з радзімаю, буду сюды прыяжджаць, таму што доўга без сваёй краіны жыць не магу», — зазначыла Сьвятлана Алексіевіч.

На думку пісьменьніцы, у Беларусі надышоў час пакідаць барыкады, бо гэта ўсё адбітак пэўнае «культуры вайны». «Я не кажу, што трэба даць гэтай правінцыйнай дыктатуры рабіць з намі ўсё, што заўгодна, — лічыць Алексіевіч, — але ўвесь час заставацца на барыкадах нельга». На ейную думку, цяпер для Беларусі галоўная праблема — гэта праблема апазыцыі, праблема эліты.

Надоечы Алексіевіч вярнулася з Токіё, дзе зь яе ўдзелам японскай тэлекампаніяй NHK была зьнятая мастацка-дакумэнтальная стужка «Маленькі чалавек і вялікая ўтопія». Гэта 75-хвілінны фільм пра пісьменьніцу і герояў ейных твораў. «Мы выбралі па 2-3 герoi з кожнай маёй кнігі, праехалі па ўсёй былой краіне-ўтопіі, здымалі ў Беларусі, Украіне, Расеі», — распавяла Сьвятлана Алексіевіч. Гэтая стужка хутка будзе дэманстравацца на японскай тэлевізіі. Што тычыцца Беларусі, дык Сьвятлана Алексіевіч цяпер і не спадзяецца, што фільм «Маленькі чалавек і вялікая ўтопія» ў блізкім часе можа быць паказаны на радзіме.

## «Жанчыне ня месца на барыкадах»

Валянціна Аксак, Менск
18 чэрвеня 2001

*У Менску прайшла канфэрэнцыя, арганізаваная Ўсебеларускім жаночым фондам сьв. Эўфрасіньні Полацкай.*

Напачатку гаворка пайшла ў звычным для жаночых імпрэзаў рэчышчы: мажлівасьці ды формы рэалізацыі сацыяльна-пэдагагічных ды псыхалягічных уплываў жаночых арганізацыяў на фармаваньне гуманістычных пачаткаў у грамадзтве.

...Натуральна гаворка пакрысе перамясьцілася ў надзённы для Беларусі момант стварэньня ў грамадзтве такіх мажлівасьцяў. Павярнуў гаворку ў гэтае рэчышча адзіны ў залі мужчына — юрыст Георгі Куневіч.

Доля жанчын сярод электарату складае каля 53%. І яны ня толькі выбіраюць будучыню сваім дзецям, але і імкнуцца ўплываць на выбар мужчынаў. Пра што асабліва яскрава сьведчыць палавы склад групаў незалежных назіральнікаў на будучых прэзыдэнцкіх выбарах. Паводле зьвестак арганізатараў канфэрэнцыі, жанчын-назіральніц будзе больш за палову.

Пра рост увагі беларускіх жанчын да прэзыдэнцкіх выбараў засьведчыла прысутнасьць на канфэрэнцыі вядомае пісьменьніцы Сьвятланы Алексіевіч, якая ад мінулай восені жыве ў Італіі

і якой належыць выслоўе, што жанчыне, тым больш творчай, ня месца на барыкадах.

**Алексіевіч**: «Я проста думаю, што ў жанчын іншая барыкада. Я супроць той формы барыкады, калі гэта нянавісьць — незалежна ці са знакам плюс ці са знакам мінус. Таму што агрэсіўнае энэргіі і так шмат у нашым грамадзтве.

Я лічу, што жанчына павінна адстойваць нашую годнасьць, нашае жыцьцё, нашую будучыню, але сваімі жаночымі сродкамі. Вось што я мела на ўвазе. Я не казала, што давайце пакінем усё як ёсьць і падпарадкуемся гэтаму. Я казала, што час патрабуе сваіх формаў супрацьстаяньня, і тут жанчыны маюць велізарны вопыт», — сказала Сьвятлана Алексіевіч.

## «Мітынг з асобнага чалавека робіць масу»

18 кастрычніка 2002
Алена Панкратава, Менск

*У менскім музэі Янкі Купалы беларускія інтэлектуалы сустракаліся са Сьвятланай Алексіевіч.*

Сьвятлана Алексіевіч прыехала ў Беларусь тыдні на тры. За гэты час яна мяркуе наведаць Маскву і Варшаву, дзе будзе вырашаць пытаньне экранізацыі некаторых сваіх кнігаў.

Як сьведчыць пісьменьніца, ейныя раньнія творы цяпер шмат перавыдаюцца на Захадзе. Чытачы той самай Італіі, дзе яна цяпер жыве і працуе, а таксама Францыі вельмі актыўна вяртаюцца да пераасэнсаваньня камуністычнай ідэі, былога савецкага досьведу. Яны адмаўляюцца ад былых спрошчаных клішэ, але ставяць сабе пытаньне: што ж гэта за крывавая сацыяльная канструкцыя, якая час ад часу так магічна вабіць да сябе людзей і пры гэтым ніяк ня можа ажыцьцявіцца?

**Алексіевіч**: «У адной з рэцэнзіяў я прачытала, што яны ўспрымаюць мяне як хранікёра лёсу маленькага чалавека і вялікай утопіі. У той самай Італіі, дзе вельмі моцная камуністычная апазыцыя, дзе яна схаваная, мімікраваная, ідэалы і досьвед гэтай утопіі вельмі цікавыя. Калі глядзіш на нашае жыцьцё адтуль, то бачыш, што

нам не хапае мужнасьці ацаніць тое, што цяпер адбываецца.

Мы ўвесь час у сыстэме міталягемаў круцімся і карыстаемся старымі адказамі. Барыкады нам падаюцца найвышэйшай формай супрацьстаяньня. А на самой справе гэта другі сьвет. І як прагучала ў часе круглага стала, і дэмакратыя, і дыктатура — гэта ўжо тэхналёгіі кіраваньня масавай сьвядомасьцю. Таму нам трэба ўсім рабіцца хаця б прафэсіяналамі».

У часе сёньняшняга круглага стала «Інтэлектуалы: спакусы маўчаньня», на якім старшынявала Сьвятлана Алексіевіч, беларуская творчая эліта імкнулася зразумець, чаму раней ва ўмовах татальнай несвабоды мастакі, хай на эзопавай мове, давалі шчырыя адказы на пытаньні, хто яны і дзе яны. Сёньня, як распавялі ўдзельнікі круглага стала дый сама пісьменьніца, адчуваецца настальгія па такіх людзях.

**Алексіевіч**: «Я думаю, што адзіная магчымасьць зараз стварыць нейкую сытуацыю палітычную, інтэлектуальную — гэта ня мітынг. Мітынг з асобнага чалавека робіць масу. А мы ўжо маем такі цэмэнтны маналіт. Я думаю, што менавіта тыя каштоўнасьці прыватнага жыцьця, да якіх прыйшоў Захад, ёсьць этапы нашага руху».

Як лічаць удзельнікі сёньняшняга круглага стала, новыя каштоўнасьці, ідэі ў грамадзтве могуць узьнікнуць толькі тады, калі людзі насамрэч грунтоўна асэнсуюць сэнс такіх будзённых сёньня словаў, як «дэмакратыя», «гісторыя», «культура», «нацыя».

## «Сьвет сёньня нагэтулькі нечаканы, што прагназаваць яго немагчыма»

31 сьнежня 2002
Юры Дракахруст, Прага

*У перадачы «Праскі акцэнт» вынікі году абмяркоўваюць пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч, галоўны рэдактар часопісу ARCHE Валерка Булгакаў і дырэктар Радыё Свабода Аляксандар Лукашук.*

**Дракахруст**: Напад на Амэрыку 11 верасьня летась зьмяніў сьвет. За некалькі дзён да гэта адбылася падзея, якая мела ня менш важнае значэньне для Беларусі — 9 верасьня летась пачаўся другі прэзыдэнцкі тэрмін Аляксандра Лукашэнкі. У гэтых падзеях-сымбалях, як у своеасаблівым кодзе ДНК, было зашыфраванае далейшае разьвіцьцё, аддаленыя, у тым ліку і зусім непалітычныя, наступствы. Як сёлета раскрываліся сэнсы, закладзеныя ў гэтых падзеях? Спадарыня Алексіевіч, Вам слова.

**Алексіевіч**: Сапраўды, 11 верасьня, а яшчэ раней Чарнобыль, сталі межамі, знакамі іншага сьвету, у якім мы апынуліся. Мы арыентуемся яшчэ па ранейшых арыенцірах, а гэта ўжо зусім іншы сьвет. Зло зьявілася пад новымі маскамі, у новым адзеньні, да чаго мы аказаліся зусім не гатовыя. Тое, як мы паводзілі сябе пасьля Чарнобылю, як сьвет паводзіць сябе пасьля 11 верасьня, сьведчыць пра тое, што мы засталіся ў коле ра-

нейшых уяўленьняў і каштоўнасьцяў. А гэта зусім іншы сьвет, які, пэўна ж, пагражае нам новымі катастрофамі. Гэтае зло ня толькі далейшае за нашы веды, але і далейшае за нашу фантазію.

На гэтым тле тое, што адбываецца ў нашай маленькай Беларусі, зь цяжкасьцю ўпісваецца ў новы кантэкст. Як ні сумна нам гэта канстатаваць, мы сталі нацыяй, якая спазьнілася. Мы ўсё яшчэ сутыкаемся са старымі праблемамі таталітарызму, таталітарызму не тэхнагеннага, які пагражае сьвету, а зусім прымітыўнага, правінцыйнага, які паралізуе інтэлектуальную сілу нацыі і масаваю сьвядомасьць. Гэта — непасільны цяжар для нашага народу.

**Дракахруст:** Спадар Лукашук, на Ваш погляд, як на працягу сёлетняга году разварочваліся тыя знакі, якія зьявіліся ў жыцьці сьвету і Беларусі летась? Я маю на ўвазе 11 верасьня і 9 верасьня 2001 году.

**Лукашук:** «Я думаю, што пераабраньне Аляксандра Лукашэнкі на другі тэрмін нічога не зьмяніла для Беларусі. Можна было чакаць, што ён будзе трымацца за ўладу, дамагацца яе легальнымі і нелегальнымі спосабамі і, нарэшце, утрымае яе. А вось тое, што адбылося ў Амэрыцы, істотна паўплывала на сьвет. Пасьля выпрабаваньня 11 верасьня Амэрыка выразна выявілася адзінай звышдзяржаваю. Гэта паказала і адхіленьне ад улады рэжыму талібаў, і адбудова новага Афганістану, і паводзіны Амэрыкі ў дачыненьні да Іраку. Цяпер не чакаюць, пакуль, як кажуць, гром грымне, а пачынаюць прымаць папераджальныя

меры. І вось гэта мае непасрэднае значэньне для Беларусі. Сёлета я ўдзельнічаў у канфэрэнцыі ў Вашынгтоне «Беларусь: прапушчанае зьвяно ў «ланцугу зла»», на якой выступаў сэнатар Джон МакКэйн . Ён сказаў: «Упершыню за ўсю сучасную гісторыю існаваньня Беларусі ў якасьці суверэннай дзяржавы дзеяньні злачыннага ўраду гэтай краіны пагражаюць бясьпецы ЗША. Урад Лукашэнкі паставіў сучасныя супрацьпаветраныя ўзбраеньні краіне, зь якой ЗША, хутчэй за ўсё, давядзецца весьці вайну. І гэтыя ўзбраеньні могуць і будуць выкарыстоўвацца Іракам для зьнішчэньня амэрыканскіх пілётаў. У дадзеным выпадку справядліва сказаць, што сябра нашага ворага — наш вораг.

**Дракахруст:** Сёлетні год стаў годам далейшага аб’яднаньня Эўропы, саміты НАТО ў Празе і Эўразьвязу ў Капэнгагене сталі адметнымі вехамі на гэтым шляху. А што Беларусь? Ці стала яна бліжэйшай да Эўропы? Ці гэты «нябачны мур» падняўся ня толькі на Бугу, але і ў душах людзей, абазначаючы тую самую мяжу цывілізацыяў, пра якую пісаў Гантынгтан, а яшчэ раней Кіплінг — «Захад ёсьць Захад, Усход ёсьць Усход, і разам ім не сыйсьціся»? Сп. Лукашук, як Вы мяркуеце?

**Лукашук:** Я магу працытаваць дэпутатку нямецкага бундэстагу Элізабэт Шрэдтэр, якая шмат гадоў займалася беларускімі праблемамі. У нядаўнім інтэрвію нашаму радыё яна назвала «мітам» уяўленьні пра тое, што нібыта ў беларусаў ёсьць нейкая іншая мэнтальнасьць, адрозная ад эўрапейскай. Працытую таксама ізноў сэнатара

МакКэйна: «Беларусы сталі закладнікамі колішняй падтрымкі Масквою рэжыму Лукашэнкі. Гісторыкі могуць спрачацца, што больш паўплывала на фармаваньне беларускай нацыянальнай сьвядомасьці: суіснаваньне з партнэрамі ў Вялікім Княстве Літоўскім ці наступствы стагодзьдзяў агрэсіяў і акупацыяў. Аднак дзеля таго, што ўлада ў Беларусі мала зьмянілася ад часоў, калі яна складала частку Савецкага Саюзу, вінаваціць у сёньняшніх праблемах трэба не нацыянальную культуру, не мэнталітэт, а гісторыю расейскай падтрымкі менскай тыраніі.

**Дракахруст***:* Менавіта сёлета сацыёлягі, у тым ліку і афіцыйныя, фіксавалі рост праэўрапейскіх настрояў у Беларусі. Спадарыня Алексіевіч, на Ваш погляд, што гэта азначае?

**Алексіевіч**: У Вашым першым і цяперашнім пытаньнях ёсьць пэўная доля рамантызму, за які мы вельмі дорага заплацілі за апошнія 10 гадоў. Мы не любілі і ня любім мець справу з жорсткаю і зусім непрыемнаю рэчаіснасьцю. Тое, што мы сялянская нацыя, тое, што мы страцілі шмат часу ў гісторыі і гэтыя страты цяперназапасіліся, тое, што мы маем траўмаваную масавую сьвядомасьць. Вы прыгадайце, што перажылі нашы людзі за апошнія 50 гадоў: Сталіна, лягеры, войны, Чарнобыль, развал імпэрыі. Гэтая імпэрыя, крывавая і жахлівая, была ўсё ж абжытая людзьмі, і вось усё гэта абрынулася. Тое, пра што зараз сказаў Аляксандар Лукашук, што ва ўсім вінаватая расейская палітыка, ці пераважна яна — я мяркую, што гэта верхні слой. Мы часам

задавальняемся такімі тлумачэньнямі, баючыся дадумаць рэчы да канца, да разуменьня, што праблема — у нас саміх. Таму ў нас такая ўлада, такая залежнасьць.

Адзін мой замежны сябра сказаў мне: «Вы дзіўная краіна. Вы больш гаворыце пра мінулае, чым пра будучыню. Вы прыдумляеце сабе мінулае. Гэта — ваша здольнасьць ці выжыць ці схавацца».

Думаю, што нашы цяперашнія здагадкі не зусім дарэчныя, бо мы мадэлюем усё паводле цяперашняга стану. Але сьвет нагэтулькі нечаканы сёньня, што прагназаваць яго практычна немагчыма. Таму і нашы пытаньні, і нашы адказы крыху наіўныя.

**Дракахруст**: Але вернемся да беларуска-расейскіх адносінаў. Спадарыня Алексіевіч, у сёлетнім беларуска-расейскім канфлікце Вы асабіста ўбачылі чыстую палітыку, ці нейкую мэтафізыку?

**Алексіевіч**: Трэба было выбіраць. Гэта тое, чаго больш за ўсё баіцца беларус. Увогуле, слабы чалавек больш за ўсё баіцца выбіраць і зьведаць праўду. А гэта прагучала настолькі жорстка і прагматычна, што стала зразумела, што трэба выбіраць. Я хачу заўважыць, што наш народ ня думае пра Расею як пра нешта чужое, іншае, ён адчувае роднасьць з Расеяй. Канфлікт з Расеяй, непрыманьне Расеі існуе толькі ў галовах інтэлектуалаў. У глыбіні народу агрэсіі да Расеі няма. Наконт тых беларуска-расейскіх разборак, якія адбываліся, я мяркую, што гэта рахункі эканамічных элітаў. Я не хачу сказаць, што ўвесь наш

капітал з аднаго і другога боку — злачынны, але ў ім сапраўды шмат людзей з барбарскаю моцай і цьмяным паходжаньнем капіталу. Народ ад гэтых разборак стаяў убаку.

Увогуле, самае непрыемнае, што ўсё, пра што мы гаворым і пішам, што хоча наша эліта і наша апазыцыя — народ стаіць убаку ад усяго гэтага. Гэтак жа, як ён стаіць убаку і ад таго, што робіць улада. Але ўлада мае рычагі кіраваньня, у апазыцыі, інтэлектуалаў гэтых рычагоў няма, яны выкінутыя на ўзбочыну і абсалютна маргінальныя.

Грамадзтва дэмаралізаванае і дэпрэсіўнае. Але мяне сапраўды зьдзівіла нарастаньне праэўрапейскіх настрояў у грамадзтве пры антызаходніцкай палітыцы ўлады. Гэта адзінае, што дае мне надзею. Магчыма, прычына тут — у прыходзе новага пакаленьня. Гэтыя людзі езьдзяць, глядзяць Інтэрнэт і ўвогуле ня хочуць жыць на ўзбочыне цывілізацыі і рамантычна цытаваць Багушэвіча ці Купалу — «людзьмі звацца». Яны ня хочуць быць маргіналамі ў сьвеце. Але пакуль старэйшае пакаленьне ім гэтага шанцу не дае. Значыць, у іх спадзеў толькі на саміх сябе».

**Лукашук**: Палітычна мы шмат гаварылі пра беларуска-расейскі канфлікт. Відавочна несумяшчальнасьць прэзыдэнта Пуціна і кіраўніка Беларусі.

Сьвятлана Алексіевіч казала, што беларускае грамадзтва стаіць убаку ад гэтых працэсаў. На палітычнай мове гэта называецца адсутнасьцю дэмакратыі, аўтарытарным рэжымам. Спадарыня Алексіевіч крыху раней казала пра немаг-

чымасьць прадказваць, як могуць разгортвацца падзеі. Я хачу нагадаць, што з пункту гледжаньня палітычнай гісторыі нічога новага не адбылося ў гэтым сэнсе. Перад Інтэрнэтам было адкрыцьцё Гутэнбэрга, электрычнасьці, чыгункі, самалётаў.

Адно назіраньне, вельмі добра вядомае палітолягам. Ніводная дэмакратыя не ваявала зь іншай дэмакратыяй. Адсюль выснова — накірунак, у якім можа і будзе разьвівацца сучасны сьвет, які хоча пазьбегнуць самазьнішчэньня і вайны — гэта дэмакратыя, гэта адзіная гарантыя міру.

**Алексіевіч**: Я спачатку адкажу Аляксандру Лукашуку. Я прынцыпова нязгодная з тым, што ў сьвеце нічога не памянялася. Усё памянялася катастрафічна. Я недзе чытала, што калі вынайшлі порах і паставілі на ўзбраеньне, то салдаты, што прызвычаіліся ваяваць кінжаламі, адмовіліся мецць справу зь мясьнікамі, і ўсе загінулі.

Прыблізна тое самае адчуваецца цяпер у сьвеце — бездапаможнасьць людзей перад мясьнікамі. Той самы Інтэрнэт патрабуе ўжо іншага чалавека, зь іншых, так бы мовіць, запчастак культуры. Нават нашай біялёгіі ўжо не хапае для гэтага. І мы будзем рабіць выгляд, што нічога ў сьвеце не памянялася. Мы так і застанемся на выселках цывілізацыі і ня выканаем сваёй ролі эліты.

Што тычыцца народу, то я б хацела атрымаць адказ на пытаньне, куды падзелася энэргія нашай нацыі, чаму за апошнія 10 гадоў яна ўвогуле выйшла ў пясок. Чаму нас так мала, чаму

на плошчы нас увогуле амаль няма? Значыць, плошча ўжо ня месца рашэньня палітычных праблемаў, значыць, усе гэтыя рэвалюцыйныя запалы, якія кідае часта нашая апазыцыя — гэта не працуе. Гэта іншы сьвет і ня трэба хавацца ў ілюзіі.

Цішыня і самотнасьць у грамадзтве — з тае прычыны, што людзі зразумелі бясьсільле ўсіх гэтых формаў. Справа ня толькі ў тым, што яны прыгнечаныя галечаю і барацьбой за выжываньне — гэта павярхоўнае тлумачэньне. Адбываецца нейкі экзыстэнцыйны крызіс. Людзі апушчаныя ў самоту.

**Булгакаў**: Я хацеў бы падыскутаваць са спадарыняй Алексіевіч наконт пасіўнасьці беларускага народу. Рэч у тым, што беларускі народ — гэта ня ёсьць нейкая цэльная зьява, беларускі народ адначасова ня ёсьць поўным сынонімам насельніцтва Рэспублікі Беларусь. Беларускі народ — гэта больш адметнае паняцьце.

**Дракахруст**: А хто вызначае, хто зь беларускага насельніцтва ўваходзіць у народ? Вы асабіста?

**Булгакаў**: Гісторыя нашай часткі Эўропы складаецца з драматычнага працэсу ператварэньня этнічнай супольнасьці ў нацыянальную. Паляк — гэта ня той, хто мае польскую кроў, а той, хто гаворыць па-польску і зьяўляецца носьбітам польскай культуры. Той, хто па крыві беларус, хто народжаны беларусам, яшчэ мусіць зрабіць над сабою высілкі, каб лічыцца прадстаўніком гэтай нацыі, а ня гэтага этнасу.

**Алексіевіч**: Мы — закладнікі закладнікаў. Нам даводзіцца страчваць шмат энэргіі на культуру барацьбы, на барыкаду. Але я даўно зразумела, што барыкада — вельмі небясьпечнае месца, і ня толькі для мастака, але і для чалавека ўвогуле. Калі мы ўжо апынуліся на барыкадзе, то трэба не захлынуцца жарсьцямі і памятаць, што на барыкадзе вельмі цяжка застацца чалавекам. Я таксама лічу вельмі небясьпечнай справаю шукаць беларуса сярод народу. Мне бліжэй Сакрат, які днём зь ліхтаром шукаў чалавека. Давайце шукаць чалавека.

**Лукашук**: Мне здаецца, што мы перабольшваем значэньне любых падзеяў, якія адбываюцца падчас нашага жыцьця. Нам здаецца, напрыклад, што папярэдняя вайна была самая жахлівая, якая магла быць, што Чарнобыль ці выбух ядзернай бомбы — гэта самае жахлівае, што можа здарыцца. Гісторыя сьведчыць, што тое, што сучасьнікам падаецца самым страшным, наступнымі пакаленьнямі так не ўспрымаецца.

Спадарыня Алексіевіч казала пра ілюзіі, у якіх жывуць людзі, якім яна спачувае: гэта інтэлектуальная эліта, інтэлігенцыя. Тады атрымліваецца, што тыя людзі, якія перамаглі, гэта значыць, Лукашэнка і каманда — яны жывуць без ілюзіяў і таму яны пераможцы? Нічога сабе пераможцы, якія апынуліся ў турме і ня могуць выехаць на Захад са сваёй краіны.

Мне здаецца, што ў мінулым годзе ў Беларусі было дзьве вельмі істотныя перамогі. Першая — гэта тое, што ўдалося адстаяць ад разбурэньня

Курапаты. І другая — гэта тое, што, дзякуючы нястомным высілкам людзей, якіх было мала (але мала — гэта таксама неадназначнае паняцьце), больш не было палітычна матываваных зьнікненьняў людзей.

## Мужнасьць ідэалізму

25 чэрвеня 2003
Радыё Свабода

*У Менску дзясяткі тысяч людзей прыйшлі на пахаваньне Васіля Быкава. Слова на разьвітаньне ад Сьвятланы Алексіевіч.*

**Алексіевіч***:* Вельмі цяжка гаварыць цяпер, бо яшчэ некалькі тыдняў таму я чула жывы голас Васіля Ўладзімеравіча. І мы размаўлялі пра ўсё, але не пра тое, пра што хочацца казаць зараз. А зараз хочацца казаць пра тое, што мы ўсе не пасьпелі сказаць яму: і ён быў далёка ад нас, і мы былі занятыя — сабою і гэтым жахлівым часам. Я маю на ўвазе перш за ўсё тое, што адбываецца ў нас у Беларусі.

Я не пасьпела сказаць яму пра тое, што я яго вельмі люблю. У гэты цяжкі час ён уратаваў годнасьць усіх нас, нашу нацыянальную годнасьць. Шмат у якіх краінах я чула: «Дзе вы, дзе гэты беларускі народ, дзе гэтая беларуская мова, дзе беларуская эліта?» Аднак пры гэтым заўжды гучала рэфрэнам: «Але ў вас ёсьць Быкаў». Штосьці для нас усіх сышлося ў гэтай асобе, хаця здавалася, што мы маем справу з народам і часам, калі няма ніякіх апосталаў, праведнікаў, прапаведнікаў. Не, як высьвятляецца, ёсьць. У нас быў гэты чалавек.

Мы любілі яго, і мы верым, што будзе нейкая іншая будучыня. І яго няўрымсьлівая шчырасьць,

раскошная для цяперашняга часу, няздольнасьць да любога кампрамісу — гэта тое, што застанецца з намі разам зь яго кнігамі, разам зь яго здагадкамі і перасьцярогамі. Застанецца асоба — асоба шчырая, ідэалістычная. У яго была мужнасьць ідэалізму. І гэта вельмі важна, што ён зрабіў гэта менавіта цяпер, менавіта сёньня.

## Хто зь беларускіх пісьменьнікаў можа прэтэндаваць на Нобэля?

12 сакавіка 2004

*З онлайн-канфэрэнцыі на сайце Радыё Свабода з пісьменьнікам Уладзімерам Арловым.*

«Хто зь беларускіх пісьменьнікаў ці паэтаў, пасьля сьмерці Васіля Быкава, мог бы прэтэндаваць на Нобэлеўскую прэмію? Ігар Сасім, Бабруйск».

**Арлоў**: Сьвятлана Алексіевіч, Рыгор Барадулін, Алесь Разанаў (пералічваю паводле альфабэту).

## «Можа, нам усім трэба памаўчаць і прыставіць вуха да вуліцы?»

22 лістапада 2004
Юры Дракахруст, Прага

*Што засьведчылі пра беларускі народ мінулыя выбары ў Палату прадстаўнікоў і рэфэрэндум, у выніку якога скасаванае абмежаваньне на два тэрміны, цягам якіх тая самая асоба можа займаць пасаду прэзыдэнта Беларусі? Ці будзе Беларусь калі-небудзь у Эўропе? Куды ўлада зьбіраецца весьці Беларусь далей? Наагул, хто каго вядзе — улада народ ці народ уладу? Гэтыя тэмы абмяркоўваюць у «Праскім акцэнце» пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч, галоўны рэдактар часопісу «ARCHE» Валерка Булгакаў і рэдактар газэты «Советская Белоруссия» Павал Якубовіч.*

**Дракахруст**: Пасьля рэфэрэндуму й выбараў прайшло больш за месяц. Улада мяркуе, што атрымала на выбарах сакрушальную перамогу, апазыцыя гаворыць пра велізарныя фальсыфікацыі. Але тут варта сказаць, што, па-першае, нават паводле дадзеных экзыт-полу літоўскай філіі інстытуту Гэлапа Лукашэнка на рэфэрэндуме атрымаў 48% — амаль палову, а па-другое, рэакцыя беларускага грамадзтва на афіцыйныя вынікі галасаваньня адрозьнівалася ад рэакцыі, скажам, сэрбаў у 2000 годзе ці грузінаў сёлета.

Іншымі словамі, тэмай нашай гутаркі ня ёсьць наяўнасьць ці адсутнасьць фальсыфікацыяў

падчас кастрычніцкага галасаваньня. Што засьведчыла сёлетняя электаральная кампанія, што ў выніку яе даведаліся пра беларускі народ асабіста Вы? Спадарыня Алексіевіч, Вам слова.

**Алексіевіч**: Я павінна прызнаць, што тое, што мы ўсе адчуваем — я назаву гэта левай інтэлігенцыяй, як гэта прынята на Захадзе — мы ўсе адчуваем паразу. Можна казаць пра фальсыфікацыі. Зразумела, была манаполія на інфармацыю, было замбаваньне — я памятаю, Павал Ізотавіч, як у кожны дом прыносілі бясплатны нумар газэты, прысьвечаны прэзыдэнту. Зразумела, гэта татальны перасьлед любога іншадумства, было зачынена прынамсі 20 газэтаў, 56 грамадзкіх арганізацыяў.

Але разам з тым я павінна прызнаць, што гэта — перамога Лукашэнкі, як бы мы сябе ні суцяшалі. Самае сумнае, што мы ня ведалі ўласны народ, мы беглі дзесьці наперадзе яго й аглядаліся то на Захад, то на Расею, а не на ўласны народ. А ён аказаўся вось такі, і ён слухае гэтага чалавека, ён выбірае гэтага чалавека, ён закладнік гэтага чалавека.

**Дракахруст**: Спадар Булгакаў, Вы наўрад ці будзеце пазыцыянаваць сябе як левага інтэлігента, але як Вы адказваеце на гэтае пытаньне: што Вы даведаліся пра беларускі народ падчас сёлетняй электаральнай кампаніі?

**Булгакаў**: Я б рэзка не выдзяляў зь беларускага народу такія яго часткі, як улада і апазыцыя. Спадарыня Алексіевіч гэтыя дзьве зьявы закранула ў сваім выказваньні.

Вынікі гэтай электаральнай кампаніі сьведчаць, што ўлада расцэньвае перамогу на рэфэрэндуме як свой вялікі здабытак, а апазыцыя апынулася ў стане разгубленасьці. Што датычыць простага, шараговага абываталя, то ён ня схільны быў гіпэрбалізаваць значэньне гэтай імпрэзы, гэтага мерапрыемства для сваёй будучыні й будучыні ўсёй краіны.

Мне здаецца, расцэньваць гэтую падзею як адназначную перамогу ўлады таксама можна зь вялікай доляй умоўнасьці. Яна з аднаго боку ў кароткатэрміновай пэрспэктыве сапраўды павялічыла магутнасьць дзяржаўнай машыны, але гэтая магутнасьць усё больш і больш завязваецца на адным чалавеку. Наколькі такая сыстэма, завязаная на адным чалавеку, можа быць стабільнай, можа зрэагаваць на выклікі часу ў недалёкай будучыні — пытаньне застаецца адкрытае.

Што датычыць апазыцыі, то для мяне, напрыклад, ясна, што калі прэзыдэнцкія выбары 2006 году будуць весьціся такімі самымі мэтадамі, то вынікі прэзыдэнцкай кампаніі для апазыцыйнага лягеру будуць прыкладна такія самыя, як і сёлета. Здаецца, настаў час пры абмеркаваньні, напрыклад, адзінага дэмкандыдата на выбары 2006 году высоўваць нейкія правакацыйныя, неспадзяваныя ініцыятывы. Чаму б не зрабіць адзіным кандыдатам Паўла Шарамета, Аляксандра Старыкевіча альбо Андрэя Дынько? Мне здаецца, кожны з гэтых людзей мог бы далёка апярэдзіць паводле пасьпяховасьці на выбарах

2006 году кожнага з традыцыйных лідэраў апазыцыі, якія ўжо набілі аскому.

Што тычыцца беларускага народу, то вынікі рэфэрэндуму й парлямэнцкіх выбараў засьведчылі зародкавы стан грамадзянскай супольнасьці. Уласна кажучы, у палітыцы ўлада можа заходзіць настолькі далёка, наколькі дазваляе грамадзянская супольнасьць. Апошнія 10 гадоў экспансіі ўлады ўшыркі і ўглыбкі сьведчаць пра тое, што гэтая зародкавая грамадзянская супольнасьць дазваляе ўладзе ажыцьцяўляць гэтую экспансію ў любым кірунку».

**Дракахруст**: Спадар Якубовіч, а як бы Вы адказалі на гэтае пытаньне — што Вы даведаліся пра беларускі народ у выніку галасаваньня 17 кастрычніка?

**Якубовіч**: Я зь цікавасьцю праслухаў спадара Булгакава. Забаўна ў нас адбываецца, калі наша эліта — левая ці правая, разглядае працэс жыцьця як нейкую электаральную дзейнасьць. Калі паставіць Шарамета, ці будзе гэта лепш, чым адзіны кандыдат ад «Пяцёркі плюс»? Мне падаецца, што гэта крыху сьмешна, бо да сур’ёзных асноваў жыцьця, якімі жыве народ, як я дазволю сабе сказаць, ня мае ніякага дачыненьня, ці зробяць нашы тэхнолягі стаўку на Шарамета ці на Старыкевіча. Яны, апроч іншага, проста малавядомыя асобы, але справа ня толькі ў гэтым. Яны невядомыя як людзі, якія могуць нешта прапанаваць грамадзтву, акрамя набору банальнасьцяў, якія паказвалі сваю нёздатнасьць апошнія 10 гадоў.

Наагул мне здаецца, «брожение умов», у тым ліку і электаральнае, якое здольнае паўплываць на выбары таго або іншага дэпутата (мы, відаць, больш гаворым пра мінулыя парлямэнцкія выбары), дык вось, «брожение умов» пачынаецца з бурчэньня пустых страўнікаў.

У Беларусі сёньня ўзровень жыцьця дастатковы для таго, каб насельніцтва гэта ацаніла. А пра нейкія сур'ёзныя палітычныя катаклізмы могуць думаць толькі самыя вялікія аптымісты. Людзі пайшлі галасаваць у немалой, а па шчырасьці — у рэкорднай, колькасьці, каб выказаць сваё стаўленьне да прэзыдэнта Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. З аналізу пошты, якая прыходзіць у нашу газэту, вынікае, што людзі ўспрынялі сытуацыю вельмі проста — могуць зьняць з працы Лукашэнку. І людзі прыйшлі, каб выказаць сваё стаўленьне да гэтага, каб сказаць: «Не, мы за Лукашэнку».

**Дракахруст**: На гэтым тыдні на адкрыцьці першай сэсіі Палаты прадстаўнікоў новага скліканьня з праграмнай прамовай выступіў Аляксандар Лукашэнка. Гэтая прамова — своеасаблівая праграма дзеяньняў да 2006 году і нават на больш працяглы пэрыяд. Куды кіраўнік дзяржавы не зьбіраецца весьці краіну, свой народ, зь ягонага выступу менeй-болей зразумела: «Старыя ўстаноўкі тыпу «дагнаць», «перагнаць», «засвоіць цывілізаваны досьвед» — гэтыя паняцьці мы ўжо адкінулі, і вяртаньня да іх ня будзе». А што будзе? Як Вы з гэтага выступу зразумелі — куды, да якой мадэлі грамадзкага жыцьця Аляксандар

Лукашэнка зьбіраецца весьці беларусаў? Спадар Якубовіч, Вам слова.

**Якубовіч**: Мне не зусім зразумелая пастаноўка пытаньня — куды павядзе Лукашэнка народ? Бушу ж ніхто не задае пытаньне, куды ён павядзе народ. Ёсьць нейкія законы разьвіцьця, ёсьць жыцьцёвы кантэкст, кантэкст палітычны. Але ў сваёй праграмнай прамове прэзыдэнт зьвярнуўся да тых асноваў жыцьця, якія сапраўды турбуюць кожнага беларуса, калі толькі ён не адданы заўзятар палітыкі і жыве ня толькі абстрактнымі палітычнымі ўяўленьнямі. Лукашэнка заявіў пра тое, што наступны год будзе годам, калі дзяржава вельмі сур'ёзна зьвернецца да праблемаў сацыяльнай палітыкі: дарогаў, школы, заработнай платы, мэдыцыны, да праблемы дэбюракратызацыі, да пашырэньня магчымасьці людзей праявіць дзелавую ініцыятыву.

Зразумела, над усім гэтым можна грэбліва паўсьміхацца, маўляў, што гэта за драбяза, чаму менавіта пра гэта трэба казаць. Але трэба прыгадаць, што ў першай перадвыбарчай праграме прэзыдэнта ў 1994 годзе гаварылася — адвядзем народ ад бездані. І тады гэта было актуальна. Цяпер гэтак пытаньне не стаіць. І тыя высілкі дзяржавы, якія скіраваныя на рэальнае паляпшэньне жыцьця, у тым ліку ў пэўных сэгмэнтах — і на ўзмацненьне дзяржаўнага кантролю, рэгуляваньня, а ў іншых сэгмэнтах — і на абарону грамадзяніна ад празьмернага дзяржаўнага ўплыву — відаць, прыйшоў час для вырашэньня гэтых задачаў. І я мяркую, што ўсё гэта паслужыць умацава-

ньню беларускай дзяржаўнасьці й беларускай дзяржавы. Гэта задача самага бліжэйшага часу.

Словы справаздачы наконт таго, што мы адкінулі заклікі «дагнаць і перагнаць», трэба разумець у кантэксьце працы, якую робіць дзяржава для агульнага паляпшэньня дабрабыту беларускіх людзей. Я прашу прабачыць мне гэтыя канцылярызмы, але часам інакш і ня скажаш. Ці атрымліваецца ў дзяржавы палепшыць дабрабыт людзей? Так, атрымліваецца. Ці задавальняюць нас, выбаршчыкаў тэмпы гэтага паляпшэньня? Зразумела, не. Калі мы параўнаем нашае жыцьцё з расейскім, можна адчуць пэўнае задавальненьне. Калі мы будзем параўноўваць наш дабрабыт з Польшчай, зразумела, гэта нас задавальняць ня можа. Таму дзяржава сёньня вымушаная зьвярнуцца да сацыяльнай сфэры. Мяркую, што асноўная маса насельніцтва ацэніць гэтыя высілкі і будзе ў гэтым сэнсе салідарная з уладай.

**Дракахруст**: Спадарыня Алексіевіч, мы зараз больш казалі пра тое, што Лукашэнка хоча весьці беларусаў туды ці сюды. Тут прыгадваецца фраза Мао Цзэдуна «Народ — гэта чысты аркуш паперы, на якім можна пісаць самыя прыгожыя герогліфы». Але можна прыгадаць і думку знакамітага псыхоляга Карла Юнга — «Дыктатар заўсёды вядзёны». Што больш пасуе да цяперашняй беларускай сытуацыі? Іншымі словамі: Лукашэнка вядзе беларусаў — ці беларусы вядуць Лукашэнку?

**Алексіевіч**: Я б хацела напачатку адказаць на гэтае пытаньне, што сыстэма завязаная на адным

чалавеку, і таму яна недаўгавечная. Мы ведаем Кубу, ведаем эпоху Сталіна. 50 гадоў для чалавечага жыцьця — гэта вельмі даўгавечна. Тут асаблівых ілюзіяў не застаецца.

У чым я бачу небясьпеку таго, што адбываецца, менавіта небясьпеку, бо мы і бяз гэтага ўжо нацыя, якая спазьнілася? Чалавек, які вядзе і якога вядуць — адзін, тут якраз узаемны працэс. Я думаю, што Лукашэнка, калі прыйшоў да ўлады, мог пайсьці ў розныя бакі, паколькі гэта чалавек улады, ягоная галоўная жарсьць — улада. Але нарэшце ён вылепіўся ў тую форму, у тую пачвару, якую нарадзіла настальгія і разгубленасьць народу, запалоханага сялянскага народу.

Тое, пра што казаў Павал Ізотавіч, нагадала мне перапіску пісьменьніка Фёдара Абрамава і Аляксандра Твардоўскага. Абрамаў паскардзіўся, чаму «Новый Мир» не гаворыць пра яго новы раман «Дом», калі вакол столькі рэцэнзіяў. А Твардоўскі адказаў: «Уявіце сабе, каб у аповесьці Талстога «Казакі» усе героі былі на ўзроўні казакаў. Гэта немагчыма. А ў Вас усе на ўзроўні казакаў», пісаў Твардоўскі.

Вось у нас усё і адбываецца «на ўзроўні казакаў», гэта значыць — на ўзроўні самага прымітыўнага, маленькага чалавека. Я не хачу яго пакрыўдзіць, але дыктатура маленькага чалавека — гэта самае жахлівае, што адбываецца сёньня, асабліва ў нашай краіне. Дзіўна, калі людзі, якія адказваюць за фармаваньне масавай сьвядомасьці, разважаюць на ўзроўні казакаў, на ўзроўні майго суседа ў вёсцы Пятра Сільвес-

травіча. Гэта гаворыць пра тое, што менавіта адзін чалавек, сабраўшы і акумуляваўшы працэсы, якія фармавалі сьвядомасьць у савецкія гады, закансэрваваў гэтую дзіцячую сялянскую сьвядомасьць. Прабачце мне, Павал, але толькі з народам-дзіцём можна размаўляць на такім узроўні: «Давайце будаваць лазьні, дарогі, здымем кепскага старшыню». Гэта проста катастрофа, калі казаць з гледзішча нашага руху наперад. Зразумела, ён адбываецца па-за нашай воляй, ёсьць мэтафізычныя сілы, але мне не падабаецца ні падзел на ўладу і народ, ні падзел на апазыцыю і народ, узаконены Лукашэнкам.

Апазыцыя стала аб'ектам кпінаў, але я б хацела сказаць менавіта беларусам: «Не гуляйце ў гэтыя гульні, таму што апазыцыя такая, якую вы нарадзілі. Вы перадаверылі гонар і годнасьць нацыі купцы людзей. Яны вось такія, магчыма, у чымсьці наіўныя, магчыма не заўсёды ўяўляюць рэальныя працэсы. Але яны такія, якія мы ёсьць». Сёньня нас не ўратуюць ні дарогі, ні палацы — нам калі-небудзь будзе сорамна за гэты час. Мы ўсе ці разгубіліся, ці вырашылі перачакаць. Мы страцілі гэты шанец, які гісторыя нам выпадкова падаравала. Можа, таму і страцілі.

**Дракахруст**: Спадар Якубовіч, я даю Вам слова для адказу.

**Якубовіч**: Не, у мяне ёсьць пытаньне. Я высока цаню літаратурную і грамадзкую дзейнасьць Сьвятланы. І я б хацеў пачуць ад яе — што нас уратуе? Натуральна, што ня варта зводзіць маё меркаваньне да таго, што трэба толькі будаваць

дарогі й спартовыя збудаваньні — гэта частка гаспадарчага жыцьця і ня больш за тое. Калі плянка размовы падымаецца да філязофскіх вышыняў, я б хацеў спытаць — а што ўратуе? Я пачуў, што ня трэба сьмяяцца з апазыцыі — яна, маўляў, такая дзіцячая, наіўная і разгубленая таму, што такой зрабіў яе народ. Наагул, ні з кога ня трэба сьмяяцца — ні з апазыцыі, ні з суседа Сьвятланы Пятра Сільвестравіча, ні з Паўла Ізотавіча. Але я б хацеў даведацца — што ж нас уратуе, Сьвятлана?

**Алексіевіч**: Ня трэба тут нічога прыдумляць. Дастаткова цывілізаванага досьведу ў сьвеце. Нас уратуе, як бы тое Вас, Павал Ізотавіч, ні зьдзівіла, чалавечая годнасьць, для якой ёсьць адзіная форма — дэмакратыя, а не аўтарытарызм. Як Вы можаце патлумачыць мне, чаму зачынены ЭГУ — адзіны сур'ёзны ўнівэрсытэт, які ўпісваў нас у кантэкст ідэяў, якія сёньня вандруюць у сьвеце? Як Вы можаце патлумачыць закрыцьцё Ліцэю? Як гэта можаце патлумачыць Вы, дастаткова разумны чалавек, які прыстасаваўся да гэтага часу? Вы, зразумела, неяк зараз мне гэта мне патлумачыце, але калі Вы застаняцеся сам-насам з сабой, як Вы сабе гэта патлумачыце?

Усім нам будзе потым нязручна і сорамна за тое, што мы тым або іншым чынам гэтаму спрыялі, ці недарабіўшы нешта, ці служачы гэтай канфармісцкай ідэі. Гэта вялікая аблуда, што мы, беларусы, больш-менш сытна пераджылі гэты прамежкавы час. Прыйдзе час, і мы апынемся ззаду ўсіх — гэта цалкам відавочна. Вы дума-

еце, талерка баршчу — гэта дастаткова? Можна, зразумела, кожны дзень усыпляць людзей гэтай талеркай баршчу, гэтымі дажынкамі, пажынкамі, такімі правінцыйнымі спэктаклямі. Але гісторыя — гэта нешта зусім іншае. Яна сыходзіць у нас між пальцамі, Павал Ізотавіч.

**Якубовіч**: Сьвятлана, зразумела, мне цяжка адказаць, і мне дзіўна, што пытаньне зьвернутае да мяне, чаму зачыненая адна навучальная ўстанова і адчынена іншая. Відаць, нашая размова павінна закрануць больш сур'ёзныя рэчы, чым талерка баршчу як альтэрнатыва ЭГУ, ці Дажынкі як альтэрнатыва Ліцэю.

У суседняй Расеі, дзе ўзровень дэмакратыі быў надзвычай высокі, і гэта было заўважана ўсімі, цяпер адбываюцца працэсы, якія, як мне падаецца, значна больш пагрозьлівыя, чым тыя, што адбываюцца ў Беларусі. На мой погляд, гэта гаворыць пра тое, што размова ідзе пра нейкія фундамэнтальныя рэчы, характэрныя для славянскіх краінаў. Можа быць, той спакой у Беларусі, тое будаўніцтва, той маральны стан, які мы заўважаем і ў апазыцыі, і ў улады — можа, гэта характэрна для гістарычнага кантэксту, можа, гэта больш сур'ёзна, чым нейкія падзеі канкрэтнага жыцьця?

**Дракахруст**: Спадар Якубовіч, і Вы, і кіраўнік дзяржавы апэлюеце да інтарэсаў простага чалавека. Як бы Вы патлумачылі гэтаму самаму простаму чалавеку, які сэнс рашэньня пра забарону вывазу дзяцей за мяжу на аздараўленьне? Няўжо там, на гэтым Захадзе, усё так жахліва, што дас-

таткова беларускаму дзіцяці ўбачыць гэта нават краем вока, каб атруціцца?

**Якубовіч**: Я магу падзяліцца ўласным адчуваньнем. Ведаючы Аляксандра Рыгоравіча, я мяркую, што мелася на ўвазе зусім ня тое, што беларускія дзеці, як у часы напалеонаўскіх войнаў расейскія салдаты, убачыўшы Парыж, прынясуць на Радзіму нейкія ідэі, несумяшчальныя з традыцыйным жыцьцём. Размова ідзе пра значна больш простыя рэчы, што наагул характэрна для інтэрпрэтацыі дзеяньняў улады і словаў прэзыдэнта. У нас часам простыя рэчы інтэрпрэтуюць як вельмі складаныя філязофскія вузлы.

З адпраўкай дзяцей на аздараўленьне за мяжу склалася ня вельмі добрая сытуацыя. З гэтага вялікага праекту корміцца вельмі шмат людзей і арганізацыяў, далёка ня самых празрыстых, гэтую сфэру ўвесь час скаланаюць скандалы. Размова ішла пра больш строгі падыход дзяржавы да самой праблемы. Трэба, каб адпраўкай людзей на аздараўленьне за мяжу займаліся ня людзі, якія робяць з гэтага бізнэс, а людзі, адказныя ва ўсіх сэнсах. Я бачу сэнс словаў прэзыдэнта менавіта ў гэтым. Ня трэба інтэрпрэтаваць гэта як загад нікога не пускаць і паставіць мур за Берасьцем. Прэзыдэнт — чалавек практычны. Ён хоча, каб гэты праект быў пад кантролем дзяржавы і каб гэтым займаліся людзі адказныя.

**Дракахруст**: Спадарыня Алексіевіч, мы пачулі, як гэтыя словы кіраўніка дзяржавы разумее Павал Якубовіч. А як іх разумееце Вы?

**Алексіевіч**: Я ізноў прыгадваю незабыўнага Васіля Быкава. Памятаеце ягоны раман «Знак бяды», калі ідзе вайна, а галоўны герой танна купляе адно абсталяваньне, другое, і мяркуе — хай сабе гэты жахлівы, агромністы сьвет грукае вакол, а я тут перажыву. І мы ведаем, чым гэта канчаецца. Дзеяньні ўлады мне нагадваюць нешта падобнае. Мне здаецца, што гэта зьвязана з адмежаванасьцю ад сьвету і з амаль паталягічнай неадукаванасьцю. Зь велізарнай інтуіцыяй, зразумела, але і зь велізарнай неадукаванасьцю. Мне заўсёды шкада, што там няма växдарадцаў з сучасным мысьленьнем, бо пры такім даверы народу можна было б шмат зрабіць.

Калі гаварыць пра стабільнасьць, то самае стабільнае месца ў сьвеце — гэта турма. Гэта тое, што з намі і адбываецца — турэмная сьвядомасьць, турэмная пайка, ізноў жа самыя чэсныя людзі — гэта наглядчыкі. Гэта мысьленьне ўчорашняга й заўчорашняга дня. Уявіце сабе, якім гэты чалавек выйдзе з турмы, з гэтай талеркай баршчу, з татальнай, як яму здаецца, абароненасьцю. Гэты чалавек будзе няздольны да будучыні, гэта дзіця, ён выйдзе ў агромністы сьвет, які ад яго зачынялі, якога яго прывучалі баяцца, бо наглядчыкі самі ўяўленьня ня мелі пра гэты сьвет. У гэтага сьвету ёсьць свае крызісы, праблемы, але гэта — чалавечы сьвет, гэта сьвет шчырага пошуку, шчырых памылак. Але гэта не турма, гэта не акварыюм, не закрытая прастора, у якую мы ўсё глыбей пагружаемся, дый яшчэ мы, інтэлектуалы, часам знаходзім гэтаму апраўданьне, бо мы і ў гэтым

часе, і ў гэтым працэсе тым або іншым чынам удзельнічаем.

**Дракахруст**: Спадарыня Алексіевіч, а можа гэтымі сваімі ізаляцыяніскімі крокамі ўлада адпавядае пажаданьням, імкненьням беларусаў, можа, яны проста баяцца прынамсі таго самага Захаду, дый Усходу цяпер, хочуць аддзяліць, адгарадзіць сябе ад незразумелага, пагрозьлівага зьнешняга сьвету? І, можа быць, у пэўным сэнсе, улада проста рэтрансьлюе гэты страх?

**Алексіевіч**: Гэта бясспрэчна. Я паўтаруся, Лукашэнка ёсьць і будзе такім, якім хоча народ. У яго чуцьцё неверагоднае, і ў гэтым ён нашмат наперадзе нас. Ніхто ня будзе падазраваць мяне ў любові да цяперашняй улады, але я магу сказаць, што менавіта гэтая асоба захавала незалежнасьць Беларусі, дала эканамічную стабільнасьць, ён зьмікшыраваў гэтыя жорсткія постсавецкія працэсы. Магчыма, ён выправіў памылку, калі ўся постсавецкая прастора кінулася ў гэты амэрыканскі варыянт капіталізму, які не падыходзіць ні славянскай мэнтальнасьці, ні славянскай гісторыі, калі ня быў выкарыстаны скандынаўскі досьвед сацыял-дэмакратыі, што, на мой погляд, было б у найбольшай ступені нашае.

Але калі мы возьмем вобраз народа як дзіцяці, пра што ўвесь час гаворыць наш лідэр, дык вось гэтае дзіця раней ці пазьней павінна выйсьці ў людзі, у гэты агромністы сьвет. Мы ж, беларусы, маленькая купка — 10 мільёнаў чалавек, ня можам быць асобна ад астатняга сьвету. Ня трэба сябе суцяшаць, дзіця павінна вырасьці і ступіць

у гэты агромністы сьвет. Час нам расьці, хопіць і ўладзе, і народу песьціць гэтую дзіцячую сьвядомасьць, гэты страх, хаця б дзеля таго, што найбольш культывуецца ў нашым грамадзтве — хаця б дзеля дзяцей.

**Дракахруст**: Беларускія выбары і рэфэрэндум выклікалі рэзкую рэакцыю ўрадаў краінаў Эўразьвязу і ЗША. У ЗША прыняты «Акт аб дэмакратыі для Беларусі», прэзыдэнт Буш падпісаў яго пасьля галасаваньня 17 кастрычніка, новую, больш жорсткую палітыку выпрацоўвае Эўразьвяз. Беларускія ўлады могуць лічыць такі падыход несправядлівым, але гэта факт. Беларуская ўлада спадзяецца, што гэтае кола ізаляцыі ўрэшце аслабне, што Захад пераканаецца, што падобная палітыка бясплённая — ці беларуская ўлада гатовая існаваць у такім коле ізаляцыі, а можа, нават лічыць яго карысным? Спадар Булгакаў, як Вы мяркуеце?

**Булгакаў**: Я ў працяг дыскусіі не пагадзіўся б са спадарыняй Алексіевіч наконт дамарослага ізаляцыянізму беларусаў. Тут ёсьць два вымеры гэтай праблемы. Першае — гэта прагматычны выбар і эканамічныя матывы паводзінаў беларусаў. Беларусы — унікальны народ на захадзе СНД, бо паводле статыстыкі прынамсі 40% беларусаў на працягу апошніх 10 гадоў выязджалі ў краіны Ўсходняй і Заходняй Эўропы. У параўнаньні зь беларусамі расейцы і ўкраінцы выязджаюць удвая, а то і ўтрая радзей, што ў прынцыпе сьведчыць пра дынамізм, прагматызм і энэргію шараговага беларуса. З другога боку — існуе куль-

турная карціна сьвету, дзе сапраўды межы аўтэнтычнай уласнай асвоенай культурнай прасторы канчаюцца за Берасьцем, і сьвет, які пачынаецца за Берасьцем, падпарадкоўваецца іншаму тыпу рацыянальнасьці, што, безумоўна, шараговага беларуса нейкім чынам адпалохвае. Таму ня ўсё так адназначна.

**Якубовіч**: Я зь цікавасьцю выслухаў меркаваньні Валера. Мне яны падаюцца глыбокімі і рэалістычнымі. Калі гавораць, што беларус — гэта малое дзіця, зь якога любы валадар можа, як з плястыліну ляпіць тое, што яму хочацца — гэта, зразумела, спрашчэньне. Беларусы сапраўды людзі вельмі прагматычныя, людзі вельмі адаптаваныя да рэальнага жыцьця, і людзі, якія разумеюць, што да чаго. Сапраўды, наўрад ці ў нас знойдзецца малады чалавек, які ня быў бы ў Нямеччыне, Італіі, ня кажучы ўжо пра Польшчу і Літву. Людзі маюць магчымасьць параўноўваць. Разам з тым, у Беларусі невыпадкова асноўная маса насельніцтва падтрымлівае дзеяньні ўлады і філязофію ўлады. Пра гэта гавораць усе статыстычныя дадзеныя зь любых крыніцаў.

Відавочна, што Эўропа была б ня супраць абмежаваць сябе Бугам, тымі гістарычнымі межамі, якія існавалі да Другой усясьветнай вайны, а дакладней — тымі, якія існавалі апошнія гадоў 600. Па-ранейшаму Польшча адчувае сябе апошняй мяжой заходняй цывілізацыі, і наўрад ці яна бачыць Беларусь у складзе эўрапейскай сям’і. Мяне апошнім часам павесяліла пазыцыя міністра культуры Латвіі Гэлены Дэмакавай, яе

ініцыятыва рыхтаваць кіруючыя кадры для будучай Беларусі.

Я адчуваю тут нейкі «трамвайны сындром», маўляў, мы апошнія скочылі ў трамвай і не пускаем іншых, штурхаем іх. Ня надта радыя былі Беларусі ў Эўропе і напачатку 90-х гадоў, ня надта радыя і цяпер. І таму калі ўплывовыя асобы з Эўразьвязу кажуць, што людзі зь Беларусі, Расеі, Украіны могуць думаць пра ўступленьне ў Эўразьвяз у неабсяжнай будучыні, то гэта невыпадкова.

Разам з тым, ніхто не ўхваляе палітыку ізаляцыянізму. Гэтую сытуацыю ніяк не назавеш добрай. Але казаць, што ў гэтым вінаватая ўлада — гэта будзе спрашчэньнем. Застаецца спадзявацца, што на захадзе і на ўсходзе ад Беларусі сытуацыя будзе мяняцца. Сытуацыя не забэтанаваная.

**Алексіевіч**: Так, беларусы шмат езьдзяць, я ведаю гэтыя лічбы, беларусы шмат карыстаюцца інтэрнэтам. І беларусы галасуюць за Лукашэнку — дадам я. Давайце скончаць з гэтым падлашчваньнем да свайго народу, якое ўжо прывяло расейскую інтэлігенцыю ад народніцтва да 1917 году. Ня трэба шукаць ворагаў у тэндэнцыях, якія набіраюць моц на Захадзе. Такое стаўленьне да іх — гэта хвароба правінцыйнасьці. Гэта сапраўды хвароба, калі мы варымся ва ўласным соку, з раніцы да вечара гаворым пра Пуціна і пра Лукашэнку, а не гаворым пра гісторыю.

Не Эўропа нас не прыняла. Я шмат езьдзіла ў часы, калі быў Шушкевіч. Эўропа тады павярнулася да Беларусі, дастаткова прыгадаць візыт

Клінтана, ягоную сустрэчу зь Зянонам Пазьняком. Эўропа не адштурхоўвала нас, магчыма яна пераблытала нас з Прыбалтыкай ці спалучыла ў сваім уяўленьні. Але мы аказаліся іншымі, мы апынуліся паміж. Эўропа нас прыме, і ня трэба казаць, што яна нас не прымае. Але яна, зразумела, ня прыме нас такімі, якія мы ёсьць цяпер. Цяпер няма надзеі на Расею. Тут я ўпершыню павінна пагадзіцца з Паўлам Ізотавічам. Што там варыцца ў гэтым расейскім катле — невядома. Апошнія падзеі гавораць пра тое, што ў чымсьці паўтараецца наш беларускі варыянт.

Мы жывем сапраўды на фоне ўсясьветнага крызысу, калі ні Амэрыцы, ні сьвету да нас няма справы, бо сьвет сам паглыбляецца ў страх. Я нядаўна на працягу месяца была ў Расеі, Гішпаніі, Швэйцарыі й Францыі, і ва ўсіх гэтых краінах у мэтро ў кожным вагоне стаялі паліцэйскія. І я зразумела, што сьвет стаў маленькім. Але мы не адгародзімся ад гэтага сьвету.

Патрэбныя ідэі. Але чым больш я слухаю і гавару, тым болей чую тое самае — ці ілюзіі, ці суцяшэньні, ці канфармізм. Можа, нам усім трэба памаўчаць і прыставіць вуха да вуліцы?

## «Мы будзем спрабаваць выжываць, жыць»

5 студзеня 2005
Юры Дракахруст, Прага

*Пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч лічыць, што 2005 год будзе часам глыбінных працэсаў у беларускім грамадзтве, годам назапашваньня страху ва ўлады і прыхаванага, падпольнага пратэсту ў грамадзтве.*

**Алексіевіч**: Я мяркую, што год не прынясе нейкіх асаблівых зьменаў, мне здаецца, што будуць адбывацца працэсы назапашваньня. З аднаго боку — назапашваньне страху ў улады. А з другога боку, як гэта ні дзіўна сёньня гучыць, бо часьцей сёньня гаворыцца, што мы ўсе баімся, падушкай тэлефон накрываем, тым ня менш у грамадзтве будзе нарастаць супрацьстаяньне, супрацьстаяньне падпольнага чалавека ці партызанскага чалавека, калі зыходзіць зь беларускага гістарычнага досьведу. Таму што ўлада, мне здаецца, робіць памылкі. Там былі разумныя людзі, але цяпер улада іх выкідае. Гэта дастаткова самагубчы шлях пры тым, што выбары праз паўтара года.

Я мяркую, што вось гэтая татальная «зачыстка» ўсіх арганізацыяў, у пэўным сэнсе апазыцыйных — гэта небясьпечна нават для ўлады. Я не яе прыхільнік, але я магу сказаць, што калі б там заставаліся разумныя людзі, яны б сказалі,

што апазыцыйны друк, грамадзянская супольнасьць усё ж былі пад кантролем гэтай улады. Для ўлады яны былі своеасаблівым тэрмомэтрам, можна было вымяраць тэмпэратуру ў грамадзтве. Сёньня абсалютна зачысьціўшы ўсю тэрыторыю, улада, у адрозьненьне ад таго, што яна думае, цалкам страціла кантроль над падзеямі, якія адбываюцца. Яна будзе сілкавацца сама сабой і ня будзе ведаць, што адбываецца там, пад ёй. А там будзе нарастаць супрацьстаяньне найперш намэнклятурнай часткі.

Што тычыцца грамадзтва ў цэлым, то мы можам чакаць, што праз год гэтыя працэсы выйдуць на паверхню, як казаў Велімір Хлебнікаў «З прыцемкаў колькасьці ў сьвет якасьці». Я мяркую, што загнаўшы гэтага падпольнага чалавека ў сябе, улада падчас выбараў і сустрэнецца з гэтым падпольным беларускім чалавекам, партызанам. Немагчыма сёньня адгарадзіцца ад сьвету і лічыць, што ты жывеш нідзе, што ты адгародзіш чалавека ад усяго, што адбываецца навокал, ад Украіны, ад Расеі, ад Францыі. Калі ўсё будзе загнана на ўласную тэрыторыю чалавека і ён застанецца сам насам зь бюлетэнем, ён зробіць нечаканы выбар.

Але сёньня ідзе працэс назапашваньня, я не чакаю ніякіх пераменаў, дакладней, перамены могуць быць у гэтых самагубчых дзеяньнях улады. Яна будзе гэта ўсё зачышчаць, падчышчаць, а мы будзем спрабаваць выжываць, жыць.

## «Энэргія асьветніцкая, энэргія палітычная сышла з нашых кніг»

3 сакавіка 2005
Іна Студзінская, Менск

*3 сакавіка — Міжнародны дзень міру для пісьменьніка. Сьвята гэта заснаванае 48-м Кангрэсам Міжнароднага ПЭН-клюбу, які адбыўся ў студзені 1986 году. Пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч лічыць, што ў Дзень міру для пісьменьніка ўсім — і літаратарам, і чытачам — трэба задумацца, што з намі з усімі адбываецца.*

**Алексіевіч**: «Я думаю, мы павінны быць расчараваныя тым, што з намі адбываецца. Ня толькі з намі ў Беларусі, а наагул, з усім сьветам. Яшчэ гадоў 20 таму, калі пачалася перабудова, упаў Бэрлінскі мур, узьніклі мэтафары нейкіх пераменаў. Здавалася, будзе новы сьвет. І вось што адбылося за гэтыя 20 гадоў: войны паўсюль. Сьвет зноў стаў размаўляць мовай вайны. І мы пайшлі як бы не ў XXI стагодзьдзе, а назад. Думаю, у гэты дзень усім нам — і пісьменьнікам, і чытачам — трэба падумаць пра тое, што нешта з намі адбываецца. Я шмат ежджу па сьвеце, і я бачу гэтую разгубленасьць і ў простых людзей, і ў інтэлектуалаў — будучыню зноў немагчыма прагназаваць…»

Беларускім пісьменьнікам даводзіцца пастаянна адстойваць свае меркаваньні, свае перакананьні, свае правы. І як гэта ні парадаксальна, адстойваць нават сваю маёмасьць, пабудаваную

на пісьменьніцкія сродкі — Дом літаратара. Ня першы год ідзе барацьба за будынак, і цяпер у пісьменьнікаў адбіраюць апошняе. Чаму беларускім пісьменьнікам пастаянна даводзіцца змагацца?

**Алексіевіч**: «Я думаю, мы проста закансэрваваліся. Выявілася, што мы так заражаныя гэтым мікробам савецкім, што паралізаваныя ім. І я б не казала толькі пра будынак Саюзу пісьменьнікаў, які ў нас забіраюць несправядліва. Гэта сьведчыць пра тое, што ўлада ня лічыцца з намі, мы ёй не патрэбныя. Гэта яшчэ сьведчыць і пра іншае: энэргія даверу, энэргія асьветніцкая, энэргія палітычная — яна сышла з гэтага будынку, яна сышла, напэўна, з нашых словаў, з нашых кніг. Мы перасталі быць, як раней — царквою, парлямэнтам, важным для людзей словам. Думаю, тут нашы страты».

## «Гісторыя ня любіць перапісваньняў, і потым яна адпомсьціць за гэта»

9 траўня 2005
Юры Дракахруст, Прага

*9 траўня спаўняецца 60 гадоў перамозе дзяржаваў антыгітлераўскай кааліцыі над фашыстоўскай Нямеччынай. У нашым цыклі «Беларусь на вайне» мы спрабуем яшчэ раз прыгадаць перагорнутыя старонкі гісторыі. Чаму і праз 60 гадоў пасьля сканчэньня Другой Усясьветнай вайны яна працягвае выклікаць вельмі моцныя эмоцыі і пачуцьці, прычым ня толькі ў Беларусі? Якую ролю адыгрывае памяць пра вайну ў справе пабудовы беларускай нацыі? Ці мацуе культурную, духоўную сувязь Беларусі з Расеяй упэўненасьць беларусаў, што яны перамаглі ў Другой Усясьветнай вайне? На гэтыя тэмы ў цыклі перадачаў «Беларусы на вайне» разважаюць: зь Менску — філёзаф, культуроляг Ігар Бабкоў, з Парыжу — пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч.*

**Дракахруст**: Адна з кніг Сьвятланы Алексіевіч мае назву «У вайны не жаночае аблічча». Гэтая і іншыя кнігі пісьменьніцы ёсьць сьведчаньне, сьцьвярджэньне, што ў вайны наагул не чалавечы твар, гэта нялюдзкая, вар'яцкая справа. Чаму ж людзі, народы настолькі высока ставяць каштоўнасьць ваеннага гераізму, ваенных перамогаў? Калі гэта ўсеагульнае звар'яценьне, то што тут уласна гераізаваць?

**Бабкоў**: Перш за ўсё, сам панятак ваеннага гераізму выклікае пытаньне. Рэч у тым, што гераізм — гэта ахвяраваньне жыцьцём за Бацькаўшчыну, за супольнасьць, у рэшце рэшт — за свабоду, і гэта ёсьць індывідуальным дзеяньнем. А вайна — гэта заўсёды масавая, калектыўная акцыя, у якой індывідуальнае дзеяньне «тоне» ў масе ўчынкаў. У гэтым сэнсе вайна абясцэньвае індывідуальнасьць і асобу. Гераізм, ахвярнасьць, мужнасьць — мне здаецца, што гэтыя рэчы паўстаюць ня дзякуючы вайне, а хутчэй насуперак ёй, як спроба адгарадзіць, адваяваць тэрыторыю асабістага, тэрыторыю, дзе жыцьцё ўсё яшчэ мае кошт. Хаця і давесьці каштоўнасьць жыцьця можна толькі вольна ахвяраваўшы ім, адмовіўшыся ад яго такім парадаксальным чынам.

Праблема ў тым, што вайна імкнецца прысвоіць сабе гераізм, зрабіць яго сваім апраўданьнем і скарыстаць як індывідуальную матывацыю, г. зн. стварыць такі міт вайны, у якім гераізм зьяўляецца калектыўнай нормай. Тое, што рабіў Васіль Быкаў у сваёй «акопнай праўдзе» — ён адбіраў гераізм у ваеннага міту і вяртаў яго асобе, паказваючы экзыстэнцыяльную неадназначнасьць гераізму.

**Дракахруст**: Спадарыня Сьвятлана, мы пачалі размову з Вашых твораў; як бы Вы маглі адказаць на пытаньне, чаму людзі гэтак узносяць ваенныя подзьвігі? Людзі настолькі недасканалыя, што тысячагодьдзямі гераізуюць «вар'яцтва»?

**Алексіевіч**: Я пачну з таго, што адкажу, чаму я напісала гэтыя кнігі. Я напісала іх на знак пратэсту супраць гэтай гераізацыі вайны. Я нарадзілася ва Ўкраіне, дзе служыў бацька, але вырасла ў беларускай вёсцы. Я памятаю, што там практычна не было мужчын. У кнігах я чытала пра вайну з мужчынскага голасу, а ў жыцьці я чула пра іншую вайну. Я лічу, што патаемны сэнс вайны неразгаданы намі да канца. Мы ўсе ўдзельнічаем у гэтай культуры, мы назапашваем яе, нават цяпер, напачатку XXI стагодзьдзя, калі паўсюль ідуць войны: Чачня, Ірак, Афганістан, нядаўна — Югаславія. Чалавецтву ніяк ня выскачыць з гэтага кола, ні дэмакратычнай дзяржаве, ні аўтарытарнай, нікому. Мы — яшчэ людзі гэтага сьветапогляду, людзі эпохі войнаў і рэвалюцыяў.

Што тычыцца гераізму, то гераізм як такі — не прадмет маіх кніг і майго зацікаўленьня. Я займаюся дасьледаваньнем чалавечага духу, чалавечых пачуцьцяў. Я дасьледую, што чалавек знаходзіць у гэтым вар’яцтве, калі ён можа забіць іншага, калі нават абавязаны забіць дзеля чагосьці. Мяне цікавіць тое, што адбываецца не на тэрыторыі дзяржавы, а на тэрыторыі чалавечай душы, што чалавек даведваецца пра самога сябе, што ён з гэтымі ведамі потым робіць, і што гэтыя веды праз шмат гадоў робяць з усімі намі.

**Дракахруст**: Маё наступнае пытаньне тычыцца якраз таго, «што гэтыя веды праз шмат гадоў робяць з усімі намі». Чаму ў Беларусі тэма апошняй вайны дагэтуль выклікае бурную рэакцыю? Варта

сказаць, што і ня толькі ў Беларусі, падчас апошніх выбараў у Францыі, калі ў другі тур выбараў раптоўна выйшаў правы радыкал Жан Мары Лё Пэн, спалоханая ўлада, забыўшы і пра эўраінтэграцыю, і пра паліткарэктнасьць, пачала казаць: Шырак — нашчадак Супраціву, Лё Пэн — нашчадак Вішы. Справа тут ня ў тым, хто насамрэч чый спадкаемца, справа ў тым, што і дагэтуль гэта працуе, апазыцыя «сябра-вораг» 60-гадовай даўніны ў народнай сьвядомасьці актуальная і дагэтуль. Чаму?

**Алексіевіч**: Я думаю, што мы ў сябе дома, у Беларусі, ня вырашылі праблему канца XIX — пачатку XX стагодзьдзя. Паколькі ў нас няма такіх моцных гістарычных апірышчаў, вакол якіх можна было б сабраць нацыю, сканструяваць яе, то дзеля добрых, я б сказала, рамантычных мэтаў спрабуюць дзесьці прыдумаць, дзесьці перапісаць мінулае. Гэта не заўсёды адпавядае праўдзе. Што тычыцца вайны, то я чытала і польскіх, і нашых гісторыкаў, і мне падаецца гэта перапісваньнем гісторыі, перапісваньнем дзеля высокай мэты — зрабіць нацыю. Але я думаю, што гісторыя ня любіць такіх перапісваньняў, і потым яна адпомсьціць за гэта. Гэта небясьпечны шлях, і па ім ня варта ісьці. А паколькі ў нас у апошняе стагодзьдзе было мала такіх гістарычных падзеяў, паводле якіх можна было б разгарнуць барацьбу за саміх сябе, то, відаць, таму вайна стала ў эпіцэнтры гэтай барацьбы.

**Дракахруст**: Спадар Ігар, а як Вы мяркуеце, чаму апазыцыя «сябра-вораг» 60-гадовай даўніны

ў беларускім грамадзтве дагэтуль актуальная? Скажам, ніхто не спасылаецца і не апэлюе да апазыцыяў часоў грамадзянскай вайны. А вось да той вайны... Яна жывая, яна ў пэўным сэнсе працягваецца.

**Бабкоў**: Я тут, можа быць, не пагадзіўся б з такой тэзай, што яна жывая. Мне здаецца, што сытуацыя якраз адваротная. Рэч у тым, што беларускія ўлады, рэанімуючы савецкую спадчыну, проста не маглі прайсьці альбо абмінуць Вялікую Айчынную вайну, і для мяне цікава ня тое, што яны да яе зьвярнуліся, а тое, чаму так позна зьвярнуліся, чаму гэта адбылося не ў сярэдзіне ці напрыканцы 1990-х гадоў. Чаму менавіта цяпер гэтая тэма старой вайны вяртаецца ў культуру? Мне здаецца, не таму, што яна актуальная і выклікае моцныя эмоцыі, якраз наадварот — таму што вайна адарвалася ад рэальнасьці і сталася такім пустым знакам, чыстым мітам. Тыя рэальныя людзі, якія памяталі вайну, якія маглі параўнаць гэты пусты міт са сваім досьведам, яны, на жаль, усё больш адыходзяць. І менавіта таму, што вайна стала такім чыстым мітам, яна цяпер бясьпечная і зь ёй можна рабіць усё што заўгодна. Вайна, менавіта Вялікая Айчынная, а не Другая Ўсясьветная, будзе выступаць спосабам самалегітымацыі ўлады.

**Дракахруст**: Ігар, Вы ўжылі слова міт. Але міт — гэта ня толькі і ня столькі няпраўда, гэта складнік, апірышча калектыўнай тоеснасьці, тое, што выклікае моцныя эмоцыі, што мае моцны мабілізацыйны патэнцыял. Вось Вы сказалі, што

вайну пачалі выкарыстоўваць толькі цяпер. Але мы памятаем, як у 1995 годзе напярэдадні парлямэнцкіх выбараў і моўнага рэфэрэндуму БТ паказала Азаронкавых «Дзяцей ілжы», дзе кадры цяперашніх апазыцыйных мітынгаў ішлі поруч з хронікай калябарацыйных маніфэстацыяў часоў вайны. І гэта дзейнічала. Чаму гэта дзейнічае?

**Бабкоў**: Рэч у тым, што тады ўлады працавалі «ўсярэдзіне» ваеннага міту. Сам выбар паміж калябарацыяй і пазыцыяй на савецкім баку — гэта нутраны выбар беларуса, і эксплюатавалася тое, што трэба было рабіць правільны выбар. Сёньня ж улады гуляюць з ваенным мітам як з пэўнай цэльнасьцю, як з адной з унівэрсальных падзеяў XX стагодзьдзя, у якой бралі ўдзел беларусы як супольнасьць. Мне здаецца, што гэты нутраны аспэкт выбару будзе паціху адыходзіць, а акцэнт будзе зьмяшчацца як раз на гэту цэласнасьць.

Я, прынамсі ў Менску, ня бачыў, каб тэма вайны выклікала што-небудзь, акрамя эмацыйнай стомы. Усё гэта ўспрымаецца хутчэй, як састарэлае занудзтва, чым правакуе нейкія эмоцыі, як гэта было яшчэ ў сярэдзіне 1990-х, пра што Вы прыгадвалі.

**Дракахруст**: Спадарыня Алексіевіч, Вы сказалі, што пішаце пра вайну не ў прасторы дзяржавы, а ў прасторы чалавечай душы. Пры гэтым Вы адзначылі, што таямніца вайны яшчэ не разгаданая. Але, можа, яе і немагчыма зразумець, застаючыся ў прасторы душы аднаго чалавека? У працяг нашай гутаркі я дазволю сабе дзьве цытаты. Адна — знакамітая фраза дзяржсакратара ЗША часоў

Рэйгана Аляксандра Хэйга: «Ёсьць рэчы больш важныя, чым мір». І другая — з кнігі расейскага філёзафа Мікалая Бярдзяева, напісанай падчас Першай Усясьветнай вайны: «Вайна дае мужнае адчуваньне гісторыі, пацыфізм ёсьць адмаўленьне самастойнасьці гістарычнай рэчаіснасьці. Ідэя майго народу — не адзіная, якая мае права на існаваньне. Вайна ня ёсьць барацьба за маральную праўду і справядлівасьць, гэта барацьба за анталягічную сілу нацыяў і дзяржаваў». А на Ваш погляд, ці «ёсьць рэчы больш важныя, чым мір» і ці сапраўды «пацыфізм ёсьць адмаўленьне самастойнасьці гістарычнай рэчаіснасьці»?

**Алексіевіч**: Тое, пра што Вы гаворыце вось гэтымі цытатамі, належыць усё ж эпосе, якая папярэднічала найноўшай. Тады была крыху іншая зброя і крыху іншы чалавек. Я мяркую, што гэтыя фармулёўкі падыходзілі да мінуўшчыны, хаця мы й дагэтуль спрабуем імі карыстацца. Але неабходнасьць новага сьветапогляду абсалютна відавочная. За некалькі гадоў жыцьця ў Францыі, я зразумела, што адбылося з французамі ў 1940-я гады: у іх быў шок пасьля Першай Усясьветнай вайны, пасьля якой яны для сябе вырашылі, што няма нічога вышэйшага за чалавечае жыцьцё. Мы іх судзілі з зусім іншага пункту гледжаньня.

Я вось зараз чула Ігара, ён спрабуе паглядзець на гэтую вялікую гісторыю з пункту гледжаньня беларуса. Я як літаратар хачу паглядзець на яе з двух бакоў. Па-першае, з пункту гледжаньня чалавека, які жыве сёньня і цяпер, у канкрэтным часе, з пункту гледжаньня людзей, якія жылі

тады, гэта значыць, савецкіх людзей. Я запэўніваю Вас, што тады не было такога падзелу: «Я беларус, я украінец, я татарын, я габрэй», гэта было на другім пляне. Яны адчувалі сябе савецкімі людзьмі, падабаецца нам гэта ці не, гісторыю ўжо не раскалоць.

А другі пункт гледжаньня, які мяне цікавіць, гэта тое, што называецца падсьветка вечнасьцю, вечны чалавек на вечнай зямлі, як казала Ахматава, «голы чалавек на голай зямлі». Я мяркую, што сёньня набірае моц пацыфісцкі сьветапогляд, нягледзячы на тое, што вакол столькі войнаў. Я б хацела заўважыць, што ня толькі расейская ці беларуская ўлады хочуць скарыстаць міт вайны ў сваіх мэтах. Тое, што было тут у Францыі летась, на юбілей высадкі ў Нармандыі — ні Беларусі, ні Расеі і ня сьнілася такая пампэзнасьць і такі патас. За намі значна больш крыві, больш ахвяраў. Ня будзем нават казаць пра тое, што мы хацелі зрабіць твар Перамогі прыгожым, а ён жахлівы. Але калі глядзіш хроніку тых гадоў, як бессэнсоўна гінулі амэрыканскія салдаты, як яны падчас высадкі ішлі па вадзе і штабялямі падалі ў гэтую ваду, як сёньня ўсе гавораць пра бяздарных амэрыканскіх генэралаў — паўсюль тое самае.

Мы жывем у сьвеце, які робіцца ўсё больш агульным, а мы яшчэ спрабуем вырасьціць нешта на нашай асобнай дзялцы. Можа, штосьці і вырасьце. Але паўстала праблема трываласьці чалавека. Я Вас запэўніваю, што ідэяў няма нідзе ў сьвеце. Іх не было і ў 1990-х гадох, тысячагадовы савецкі Рэйх разваліўся выпадкова, і выпадко-

выя людзі выпадкова апынуліся наверсе. Яны ня ведалі, што з гэтым рабіць. У іх не было і няма ідэяў. Але паўтаруся — іх няма нідзе ў сьвеце, усе спрабуюць за штосьці ўхапіцца, ухапіцца за чалавечую трываласьць, бо ня можа ж ідэя быць біякамфортная і біяжывёльная.

**Бабкоў**: Мне хацелася б пагадзіцца са спадарыняй Сьвятланай, што самы час беларускім інтэлектуалам выходзіць за межы беларускасьці, за межы нацыянальнага наратыву, нацыянальных інтарэсаў, таму што адчуваецца, што сьвет настолькі хутка і глыбока глябалізаваўся, што шмат якія рэчы немагчыма ўбачыць і прадумаць з пэрспэктывы чыста беларускай. Гэтак, напрыклад, было з вайной у Іраку: калі па ўсім сьвеце ішлі пацыфісцкія дэманстрацыі, у Беларусі было абсалютна ціха. Гэтая нацыянальная пэрспэктыва прывяла да палахлівай адмовы ад удзелу ў сур'ёзнай дыскусіі, якая адбывалася ў сьвеце.

Што тычыцца пытаньня, наколькі вайна можа разглядацца як рэч трансцэндэнтная, транспэрсанальная, наколькі вайна можа быць анталягічнай, быць выяўленьнем волі да магуты, а народы — інструмэнтамі гэтай волі. Мне здаецца, што такое вывядзеньне вайны ў трансцэндэнцыю — гэта зноў-такі рамантычны міт. Існаваньне ў гісторыі немагчымае ня толькі бяз волі, але і без, скажам, рацыянальнага дзеяньня. І ўсе гэтыя ваенныя міты маюць хутчэй кампэнсацыйны характар у нашым безнадзейна рацыяналістычным грамадзтве.

**Дракахруст**: Ігар, у працяг Вашай апошняй думкі. Вы раней сказалі, што ня так ужо гэты міт у Беларусі і працуе, хаця ўлада чамусьці зацята эксплюатуе пачуцьці, зьвязаныя менавіта з той вайной. Але магчыма, самі па сабе гэтыя пачуцьці цалкам натуральныя, бо яны грунтуюцца на тым, што тады беларусы былі ня толькі аб'ектам гвалту, ня толькі аб'ектам гісторыі, але і яе суб'ектам, прычым суб'ектам пераможным. І гэтая гістарычная суб'ектнасьць (паводле Бярдзяева анталягічная, быцьцёвая моц) — для беларусаў каштоўнасьць, ад якой беларусы ня хочуць адмаўляцца?

**Бабкоў**: Я думаю, што Другая Ўсясьветная вайна, Вялікая Айчынная вайна, наагул, досьвед савецкасьці, нягледзячы на ўсю крышачку зьдзеклівую рыторыку 1990-х гадоў — гэта ўнівэрсальны досьвед для беларусаў. У прынцыпе, савецкая цывілізацыя — гэта адна з вэрсіяў праекту Асьветы, які спрабавала рэалізаваць Усходняя Эўропа. Няўдача гэтага праекту тлумачыцца хутчэй у тэрмінах эўрапейскай пэрыфэрыі, чым нейкага вялікага ідэалягічнага супрацьстаяньня. У Беларусі, калі яна напачатку 1990-х ізноў усплыла на паверхню гісторыі, пошукі такога пункту суаднесенасьці, у параўнаньні зь якім права Беларусі быць на паверхні гісторыі было б цалкам легітымным, непазьбежна прыводзілі менавіта да гэтага досьведу Вялікай Айчынай вайны і да міту Перамогі. Тут я цалкам з Вамі пагаджуся. Адзінае, хачу дадаць — міт вайны, міт Перамогі ідуць поруч зь мітам стабільнасьці, мітам пра

тое, што беларусы заслужылі права жыць у міры і стабільнасьці.

**Алексіевіч**: Калі я чую гэта, калі чытаю нашы газэты і бачу, як ідзе падрыхтоўка да вялікага юбілею, то мяне дзівіць наша ўлада. Дзівіць, наколькі яна не глядзіць далей аднаго кроку наперад. Бо для яе гэты міт, якім яна карыстаецца, даволі небясьпечны. Ігар спрабуе адсланіцца ад яго, а дарма, на мой погляд. Бо адзіны час, калі можна было казаць пра беларускі народ, калі ён быў, калі ён адчуў сябе народам — гэта быў якраз час Вялікай Айчыннай вайны. Тады мы сапраўды маглі казаць, што мы нацыя.

Я апытвала тысячы людзей і чула ад іх, што гэта быў сапраўды народны рух. Усім бы нам абаперціся на гэтае мінулае і гэтыя каштоўнасьці, каб стварыць гэты народ, які ўвесь час распадаецца на Заходнюю і Ўсходнюю Беларусь, на прыхільнікаў Пазьняка і Лукашэнкі.

Але я пагаджуся, што ёсьць і элемэнт стомленасьці, Занадта доўга адкрывалася гэтая чакра, гэта таксама небясьпечна. Няма нейкай энэргіі, якая патрэбная і ўладзе, якая не разумее, што рабіць, і тым, хто ёй супрацьстаіць, гэтай электрычнасьці ўжо адтуль не зыходзіць. Гэта быў час духоўны, высокі, хаця і страшэнна крывавы. Адтуль можна дастаць тое, што тады мы былі мы.

Што тычыцца мяне, то для мяне няма нічога вышэйшага за чалавечае жыцьцё ў нармальных умовах, я не магу сказаць, што чалавечым жыцьцём можна ахвяраваць дзеля чагосьці, для мяне чалавек — вышэй за ўсё, бо ён — замысел Божы.

Але, як казаў Ігар, мы жывем у рэальным сьвеце і рэальным часе, зь яго ня выскачыць, і трэба жыць паводле ягоных законаў. Ня трэба паддавацца гіпнозу любімых ідэяў, трэбаісьці з адкрытымі вачыма да рэчаіснасьці.

**Дракахруст**: Спадарыня Сьвятлана, вы сказалі, што менавіта ў вайну беларусы адчулі сябе народам, адчулі сябе нацыяй. Але ў той час бокам вайны была не Беларусь як такая, а Савецкі Саюз, часткай якога Беларусь тады была. На Ваш погляд, у якой ступені ўпэўненасьць беларусаў у тым, што яны перамаглі ў той вайне, што савецкі бок быў іх бокам, а нямецкі — варожым бокам, наколькі гэта мацуе ці ўтрымлівае іх повязь, сувязь з Расеяй, ці скажам шырэй — з расейскай культурнай, духоўнай і нават палітычнай прасторай? І наадварот — наколькі шлях у Эўропу вымагае іншага погляду на Другую Ўсясьветную вайну і ролю ў ёй беларусаў?

**Алексіевіч**: Любы беларус Вам скажа, што ў гады вайны загінуў кожны чацьвёрты беларус. Ня кожны чацьвёрты савецкі чалавек, а кожны чацьвёрты беларус. Аддзяленьне відавочнае ў агульным пэйзажы гэтага жахлівага змаганьня. Скажуць так : «Перамаглі мы, савецкія, але загінуў кожны чацьвёрты беларус». Так што беларусы ў сувязі з вайной адчуваюць сябе асобна беларусамі. Што тычыцца асобнага тэксту, які мы ўсё спрабуем напісаць, хаця для яго няма ні альфабэту, ні мовы, то я лічу, што гэта ўжо спозьненая ідэя. Усё больш мацуецца разуменьне, што сьвет адзіны, што асобнасьць існуе толькі для таго, каб

абжыць гэтую прастору, бо памеры ўсяго сьвету вышэйшыя за чалавека. Сьвет адзіны і вельмі маленькі, і нашаму жаданьню аддзяліцца ад Расеі ў культурным пляне наканаваная непазьбежная параза, адарваць і падзяліць славянскія народы немагчыма.

Што ж тычыцца нашага шляху ў Эўропу — ня ведаю. Для грамадзкай сьвядомасьці, для людзей у любым гарадку і вёсцы ў Беларусі нават Польшча і Чэхія значна далейшыя, чым Расея. Гэта хутчэй культывуецца ў сьвядомасьці інтэлігентаў як форма супрацьстаяньня. Але нельга дзьве тысячы гадоў выкрэсьліваць з гэтай культурнай, амаль генэтычнай сьвядомасьці. Я не падзяляю гэтых ідэяў, мне нават нецікава думаць у гэты бок, бо гэтаму наканавана гістарычная параза.

**Бабкоў**: Я думаю, што ў беларускай культуры вельмі рана паўстаў свой уласны міт пра вайну, які зьяўляўся часткай агульнага міту, мы памятаем гэтае жартаўлівае найменьне «Беларусьфільму» «Партызанфільмам». Машына культуры працавала дастаткова інтэнсіўна, каб выгарадзіць сваю тэрыторыю, сваю прастору, свае эмоцыі, тэксты і ідэі. Я ня бачу сувязі міту вайны з Расеяй. З савецкім праектам — так, безумоўна, з савецкай цывілізацыяй, можа нават з ідэяй камунізму, але ня ўласна з Расеяй. Гэта вялікі парадокс, але Расея сама мае калясальныя праблемы з «прыватызацыяй» усёй гэтай савецкай міталёгіі.

Што тычыцца схемы «паміж Эўропай і Расеяй», то мне яна здаецца састарэлай. У сёньняшняй глябальнай сытуацыі супрацьпастаўленьня

Эўропы і Расеі быць проста ня можа. Калі казаць пра паступовае згасаньне Захаду (я думаю, літаральна на працягу 10-20 гадоў мы будзем мець зусім іншую канфігурацыю цэнтраў сілы ў сьвеце), то розьніца паміж эўрапейскім праектам і ўсходнеэўрапейскім альбо расейскім у параўнаньні з гэтымі новымі канфігурацыямі будзе выглядаць настолькі дробнай, што будаваць на гэтым сваю ідэнтычнасьць і сваю доўгатэрміновую стратэгію бессэнсоўна. Нам проста трэба забыць пра старыя схемы і глядзець у будучыню.

## Алексіевіч: «Спачатку — дэмакратычная дзяржава, потым — нацыянальная». Бураўкін: «Гэта будзе трагедыя. Дэмакратыя даб’е беларускую мову».

22 жніўня 2005
Юры Дракахруст, Прага

*Праект радыёстанцыі «Нямецкая хваля» пачаць вяшчаньне на Беларусь на расейскай мове, падтрыманы Эўракамісіяй, спарадзіў гарачую дыскусію ў Беларусі, якая выйшла далёка за межы ўласна рашэньня замежнай радыёстанцыі. Спрэчка — пра месца беларускай мовы ў грамадзтве, пра яе ролю ў нацыятварэньні. Наколькі дарэчныя і карэктныя разьлікі ініцыятараў праекту? Чаму пазыцыя Эўразьвязу ў пытаньні вяшчаньня на Беларусь адрозьніваецца ад моўнай палітыкі ўнутры самога Зьвязу? Ці ёсьць беларуская мова адзіным падмуркам нацыянальнай кансалідацыі? Над гэтымі тэмамі ў «Праскім акцэнце» разважаюць пісьменьнікі Сьвятлана Алексіевіч і Генадзь Бураўкін.*

**Дракахруст**: Тэма мовы вяшчаньня новай беларускай праграмы «Нямецкай хвалі» спарадзіла немалыя жарсьці. Жорсткая палеміка ідзе на газэтных старонках і на Інтэрнэт-форумах, зьбіраюцца подпісы пад пэтыцыямі, палітоляг Віталь Сіліцкі і шэраг палітыкаў і дзеячоў культуры заклікалі да байкоту новай радыёпраграмы,

сябры робяцца калі ня ворагамі, то зацятымі праціўнікамі. Выглядае, што рашэньне «Нямецкай хвалі» і Эўракамісіі патрапіла ў балючую кропку грамадзтва, разварушыла вострую праблему, якая паўстала вельмі даўно і нікуды ня зьнікла. Варта сказаць, што ў адрозьненьне ад ранейшых выпадкаў падобных спрэчак улада гэтым разам, як кажуць, маўчыць, як рыба, дыскусія ідзе паміж людзьмі і выданьнямі дэмакратычных поглядаў. Зьява гэтая з палітычнага пункту гледжаньня некарысная, але ў рэшце рэшт яна сьведчыць пра тое, што некаторыя рэчы ў гэтым асяродзьдзі за дзесяцігодзьдзе не былі дагавораныя і высьветленыя. Паспрабуем некаторыя зь іх дагаварыць сёньня.

Сп. Бураўкін, прыхільнікі расейскамоўнага вяшчаньня спасылаюцца на дадзеныя апытаньняў і сацыялягічных дасьледаваньняў. Паводле іх, нягледзячы на наяўнасьць адукаваных гарадзкіх культурных асяродкаў, у масе сваёй беларускамоўныя ў Беларусі маюць нізкую адукацыю, сталы век, жывуць у вёсцы, у большай ступені схільныя падтрымліваць Лукашэнку, аўтарытарызм, больш арыентаваныя на Расею. Адваротныя характарыстыкі ў большай ступені, падкрэсьліваю — у маштабе ўсяго грамадзтва, уласьцівыя якраз расейскамоўнай грамадзе. Але менавіта на гараджанаў, адукаваных, на моладзь новы інфармацыйны праект «Нямецкай хвалі» і разьлічвае. Дык, можа, выбраўшы расейскую мову, яго ініцыятары мелі рацыю?

**Бураўкін**: Я думаю, што тыя дадзеныя, на якія Вы спасылаецеся, мякка кажучы, некарэктныя. Бярэцца колькасная маса, ня ўлічваючы якасныя паказчыкі. І я ня надта схільны «аддаваць» другой частцы моладзь і тым больш гарадзкую інтэлігенцыю. Я ня згодзен з тым, што моладзь абсалютна адданая расейскамоўнасьці. Мы бачым па палітычных дэманстрацыях і па іншых паказчыках, што ў моладзі больш прачынаецца і праяўляецца цікавасьць да свайго роднага, спрадвечна гістарычнага, у тым ліку і да беларускай мовы.

Але бясспрэчна, што русыфікацыя, якая ня тое што дзесяцігодзьдзямі, але стагодзьдзямі вялася на нашай роднай зямлі, яна ж прынесла плён. І больш таго, калі ў гэтую русыфікацыю ўключыўся сёньняшні рэжым, уключыўся настолькі нахабна, як гэта не было і ў савецкія часы, то бясьследна гэта праходзіць ня можа. І таму гэты пласт расейскамоўнай сымпатыі да СМІ — ён ёсьць, улічваць яго трэба.

Іншая справа, што ў гэтай сытуацыі зь «Нямецкай хваляй», якая на мой погляд часам залішне драматызуецца, заходнія журналісты і тым больш палітыкі ня надта добра ўяўляюць сытуацыю ў Беларусі і ня надта добра ўяўляюць тое, што схавана, што невідавочна. Бо русыфікацыя — гэта адзін з паказчыкаў сёньняшняга дыктатарскага рэжыму, пры дапамозе русыфікацыі робіцца шмат рэчаў недэмакратычнага парадку.

А калі з той «Нямецкай хваляй» так атрымліваецца, што быццам бы ідзе падтрымка ру-

сыфікацыі (я не лічу, што гэта так, але гэтак атрымліваецца ў разуменьні многіх), то для мяне таксама гэта пытаньне — пра што думаюць на Захадзе тыя, хто хоча дэмакратыі для Беларусі? Пра што думаюць палітыкі, якія кажуць, што яны ня хочуць зьнікненьня Беларусі з палітычнай мапы сьвету, а хочуць разьвіцьця сувэрэннай дэмакратычнай Беларусі, а значыць і разьвіцьця беларускай культуры, якая, як паказвае ўсясьветны досьвед, найбольш ясна і непаўторна можа выказаць сябе на сваёй роднай мове, якая ёсьць, якая жыве? А вось як яна жыве, у якіх умовах — гэта іншае пытаньне. І «Нямецкая хваля», мне здаецца, на жаль, ня надта прадумана прымала рашэньне.

**Дракахруст**: Сп-ня Алексіевіч, цяперашняя моўная сытуацыя ня ёсьць вынікам зусім ужо натуральнага разьвіцьця, у значнай ступені — гэта вынік шматгадовай мэтанакіраванай палітыкі. Дык вось, ці ня лічыце Вы, што стварэньне такой расейскамоўнай праграмы для Беларусі — гэта сьвядома або несьвядома крок у рэчышчы той самай палітыкі, яшчэ адна жменька зямлі ў труну беларускай мовы і культуры?

**Алексіевіч**: Вы ведаеце, я крыху сачыла за дыскусіяй і была зьдзіўленая яе рамантызмам і агрэсіўнасьцю адначасна. Мне здаецца, што за гэтым стаіць рэха энэргіі падзеяў ва Ўкраіне. Я яшчэ раз зразумела, што мы за 20 гадоў нічому не навучыліся — усё тое самае. Нас нічому не навучыў нават досьвед паразаў 90-х гадоў, калі мы мелі такую моцную фігуру, як Пазьняк.

Паставіўшы дэмакратыю ззаду, а мову наперадзе, мы прайгралі нават у той час, калі быў вялікі запас веры ў людзях, калі была вельмі моцная хваля антыкамунізму. І мяне зьдзіўляе, што высновы ня зробленыя, і гэта прымушае думаць: у нацыянальным крыле няма палітыкаў, я чую галасы культуролягаў, а не рэальных палітыкаў. Яны не ўяўляюць рэальны народ, яны ўяўляюць уласную мару аб народзе.

А супадзеньне інтарэсаў улады і таго, што адкрылася вакол гэтай сытуацыі — я мяркую, што гэта павярхоўнае меркаваньне. Сумна прызнаваць, але сёньня, калі чытаеш усю гэтую дыскусію, разумееш, што адзіны рэальны палітык у беларускай прасторы — гэта Лукашэнка. Іншая справа — зь якім знакам. Але гэты чалавек мае справу з рэальным народам, з рэальнай сытуацыяй, з рэальным часам.

Няма ў нас таго народу, пра які казаў Генадзь Мікалаевіч. Наш народ у асноўным расейскай сьвядомасьці. Я шмат езьдзіла па Беларусі і пераканалася, што тыя людзі, пра якіх мы гаворым, ёсьць толькі пад дахам АРХЭ ці «Нашай нівы», можа ў студэнцкіх інтэрнатах, але ня ўся нават моладзь такая. І я хачу паўтарыць, што нас не павінен паралізаваць досьвед Украіны, хай не дае залішніх надзеяў. У нас зусім іншая, больш жорсткая сытуацыя. І я думаю, што ў гэтай сытуацыі Deutsche Welle і тыя, хто даваў грошы на гэтую праграму, калі яны выйгралі тэндэр, прынялі вельмі дакладнае, прагматычнае рашэньне. Сёньня на беларускай мове вельмі мала людзей

у Беларусі слухае праграмы. Улада зрабіла ўсё, каб маргіналізаваць беларускую мову і людзей, якія яе культывуюць. Таму было прынятае рашэньне — ахапіць як мага большую частку людзей. Гэта вельмі правільнае рашэньне, бо пакуль мы ня пусьцім дэмакратыю наперадзе мовы, мы ізноў загінем.

**Дракахруст**: Аргумэнты праціўнікаў расейскамоўнага вяшчаньня «Нямецкай хвалі» грунтуюцца на сылягізьме. Умовай дэмакратычнага разьвіцьця краіны ёсьць нацыянальная кансалідацыя. Нацыянальная кансалідацыя, паводле іх, можа грунтавацца толькі на сваёй, роднай, нацыянальнай мове. Вяшчаньне па-расейску, асабліва з Эўропы, падрывае пазыцыі гэтай мовы, а значыць, нацыянальнае адзінства, а значыць і дэмакратычную пэрспэктыву. Сп-ня Алексіевіч, Вы з гэтым ня згодныя?

**Алексіевіч**: Я абсалютна з гэтым нязгодная. Трэба падзяляць дзьве задачы: дэмакратычная дзяржава і нацыянальная дзяржава. І гэта ня толькі дзьве розныя задачы, але і два этапы — спачатку дэмакратычная дзяржава. Калі б мы гэта сказалі ў 1990 годзе, мы б мелі дэмакратыю, а потым і Беларускі ліцэй, і Беларускі ўнівэрсытэт, і беларуская студэнцтва, і беларускі садок.

Мне здаецца, што цяперашняя дыскусія дэманструе адну з траўмаў, якую дае культуралягічнае, клюбнае мысьленьне, калі маленькая група асобаў, кансалідаваная вакол вельмі прыгожай і шчырай ідэі, падабаецца самой сабе. Яны настолькі закаханыя самі ў сябе, што даўно

ня бачаць, што адбываецца на вуліцы, і далей за студэнцкія інтэрнаты не выходзяць. Я ў адчаі гэта кажу, бо пачуць тое самае праз 20 гадоў — гэта адчуваньне поўнай паразы.

А што тычыцца Захаду, то ўявіце сабе такую карціну — цяжка хварэе блізкі нам чалавек. Мы, родныя, шкадуем яго, папраўляем падушачкі, супакойваем яго. Прыходзіць доктар, які жорстка разьбіраецца ў сытуацыі: тое зрабіць, гэта ўкалоць, тое рэзаць. І ягонае рашэньне прыводзіць нас у жах. Сёньня сьвет дастаткова жорсткі і прагматычны. І такое эмацыйнае галашэньне вельмі ўласьцівае нашай культуры, але я магу сказаць — паглядзіце, што робіцца ў сьвеце. У XXI стагодзьдзі фармаваць нацыю — задача вельмі складаная і рамантычная, але вучыцеся чамусьці на ўроках.

**Бураўкін**: Я хацеў бы запярэчыць ці паспрачацца са Сьвятланай па некаторых пазыцыях, хаця некаторыя яе цьверджаньні я прымаю, і горка гэта ці ня горка, але яны маюць месца. Але мне здаецца, што яе сьцьвярджэньне, што трэба разьдзяляць — альбо дэмакратыя альбо мова, гэта тое трагічнае перакананьне, якое і прывяло да таго, што сёньня ёсьць у Беларусі, і можа прывесьці да таго, што ня дай Бог можа адбыцца ў будучыні. Калі гэта палітыка рэальная і калі гэта палітыка мудрая, ня сёньняшняя прагматычная, як мы любім казаць, а мудрая, ня толькі для сёньняшняга пакаленьня, мы не павінны разьдзяляць у нацыянальнай дзяржаве пытаньне дэмакратыі і пытаньне мовы. І тое, што іх разьдзялілі ў 90-я

гады некаторыя палітыкі з аднаго боку і з другога боку — гэта іх вялікая, а можа нават і трагічная памылка. Але ж давайце мы памылкі будзем выпраўляць, а не заганяць яшчэ глыбей.

Давайце ня будзем адрываць паняцьце дэмакратыі ад паняцьця нацыянальнай годнасьці, нацыянальнай гісторыі, урэшце ад паняцьця нацыянальнай ідэі. І тут пытаньні мовы, як бы што ні казалі, нікуды ад гэтага не падзенесься — яны вельмі вострыя, таму што яны вельмі тонкія.

І Захад павінен дапамагаць усё ж такі лепшым сілам, тым, якія, так бы мовіць, ёсьць. І Захад не павінен казаць, што няма праблемы мовы. Ёсьць праблема мовы. Якая прагматыка, даруйце? Гэта прагматыка рынкавая і недальнабачная, калі аказваецца, што грошы на расейскамоўны праект ёсьць, а на беларускамоўны, як сказаў сп. Вік, няма. Даруйце, але гаворка ідзе відаць не пра грошы. Я разумею рэаліі, але мяне трывожыць тое, што пры гэтым адкідаецца і ігнаруецца тое, што ў кожнага народу вельмі дарагое. Сьвятлана спаслалася на рэвалюцыю, будзем называць яе так, ва Ўкраіне. Правільна! У тых падзеях, што адбыліся ва Ўкраіне, мела значэньне нацыянальнае пытаньне, мела значэньне мова, хаця там агромністая маса расейскамоўных людзей. І калі тая самая «Нямецкая хваля» вядзе перадачы на Ўкраіну па-ўкраінску, то чаму яна ня можа весьці перадачы на Беларусь па-беларуску, разумеючы, што калі мы гаворым пра будучыню Беларусі, то гэтая будучыня абавязкова будзе зьвязаная зь беларускай мовай. А калі яны гэта адкідаюць,

даруйце, я ня надта веру ў шчырасьць іх дэмакратычных пабуджэньняў.

**Дракахруст**: Сп. Бураўкін, мы ўжо часткова пачалі размаўляць пра праблему, якая, так выглядае, ёсьць ключавой ва ўсёй гэтай гутарцы. Андрэй Дынько ў сваім лісьце на сайт «Наше мнение» піша: «Ці можа быць расейскамоўны тэкст асновай нацыянальнага дыскурсу — гэта яшчэ трэба даказаць». Пра тое самае піша і Віталь Сіліцкі: «Пытаньне ў тым, ці будзе расейскамоўны беларускі нацыяналізм мець працяг сам па сабе. Ну, зьнікне беларуская мова, дзе вы знойдзеце, дзе выгадуеце новых Быкавых, Арловых, Хаменак, Хадановічаў? А калі ня выгадуеце, то чым іх замеціце?» Сапраўды ў гэтым ключ — ці магчымы расейскамоўны беларускі нацыянальны праект, ці можа ён ужо існуе?

**Бураўкін**: Гэта для мяне вельмі тонкае пытаньне, бо што такое нацыянальны праект? Я абсалютна веру ў тое, што ў Беларусі могуць быць таленавітыя творцы, якія пішуць па-расейску. Я гэта не адкідаю і маю гэтаму доказы. Іншая справа — я лічу, што выявіць найбольш поўна, глыбока і тонка душу народу, даруйце за такія гучныя словы, у Беларусі можна толькі на роднай, матчынай мове, бо мова нясе ў сабе такія непрыкметныя, невідавочныя глыбіні, якія не нясе ў сабе ніякая іншая інтэлектуальная субстанцыя. Таму сапраўды, калі народ нараджае такіх геніяў, як Быкаў у прозе, Барадулін у паэзіі, гэты народ мае права мець культуру на сваёй мове, ён яшчэ ня вычарпаў сябе ў сваёй мове. А дзяржава, і на-

ват міжнародная супольнасьць падпіхвае яго: «Да бросьте вы этот белорусский язык, пусть будет колбаса». На гэта ўсё сыходзіць.

Я хачу вярнуцца да гэтай тэзы — сьпярша дэмакратыя, потым мова. Пры такім разьвіцьці падзеяў, як у нас, гэта будзе трагедыя, і ня толькі для Беларусі, але і для дэмакратыі, калі беларускую мову зьнішчыць менавіта дэмакратыя, даб'е беларускую мову менавіта дэмакратыя.

Я таксама чалавек эмацыйны і не хачу сказаць, што валодаю ісьцінай, але зь вялікай трывогай і боязьзю стаўлюся, калі такія тонкія рэчы, як мова, нацыянальны характар, мэнталітэт, нацыянальная ідэя хочуць вырашаць вельмі проста, ня ў самых лепшых традыцыях жорсткага рынку.

**Дракахруст**: Сп-ня Алексіевіч, а Вы кім адчуваеце сябе — проста таленавітым расейскамоўным пісьменьнікам або прадстаўніком расейскамоўнага беларускага нацыянальнага? І як Вы сябе вызначаеце ў межах гэтай дылемы — мова або кілбаса? Вы на баку кілбасы?

**Алексіевіч**: Я б хацела сказаць, што мяне зьдзівіла гэтая эмацыйнасьць заклінаньня. Я уяўляю размовы, якія вядуцца ў нашых нацыянальных колах, што дэмакратыя — гэта кілбаса. Маўляў, заходнія людзі нічога не разумеюць і прапаноўваюць нам кілбасу. Ды не кілбасу. Справа ў тым, што дэмакратычны досьвед вельмі шырокі. Тое, што адбываецца ў нас, адбываецца ў палове афрыканскіх дзяржаваў. Я нядаўна была ў Сараеве, паўгода таму — у Краіне Баскаў, тыя самыя праблемы. Паверце, у заходніх людзей дастаткова

вялікі досьвед, і яны маюць, што з чым параўноўваць. Нам здаецца, што тое, што здараецца з намі, здараецца толькі з намі, што расейцы — акупанты, што расейская мова — акупацыйная. Усё гэта ня так.

Толькі пад дахам АРХЭ — я бяру АРХЭ як мэтафару нацыянальных летуценьняў — уяўляюць расейскую мову як мову акупантаў. Народ так ня думае. Хутчэй у яго ў глыбіні памяці ёсьць нэгатыўнае стаўленьне да польскай мовы і да палякаў. Ёсьць адзіны праект — дэмакратычны. А яго складнік — нацыянальны праект.

Што тычыцца пытаньня да мяне асабіста, то тут я адкажу крыху з іроніяй — пра сябе нельга казаць інакш. У мяне ёсьць свой расейскамоўны нацыянальны праект. Учора я атрымала кнігу зь Японіі — гэта мая 84-я кніга ў сьвеце. 84 кнігі, якія выдадзеныя на 36 мовах, на якіх я кажу пра Беларусь. Пра нас мала ведаюць, штосьці чулі пра Лукашэнку і ўсё. Трэба быць крыху больш цьвярозымі і сьціплымі, ня трэба гэтых заклінаньняў — «ня будзе мовы». Хто сказаў, што дэмакратычны праект зьнішчае мову? Чаму трэба гэтак фаталістычна настройвацца, што прыйдуць дэмакраты і зьнішчаць мову? Калі мы так сябе настройваем, калі перад выбарамі паказваем народу, наколькі мы вузкія, наколькі мы маленькі клюб, мы робімся ад яго ўсё далей і далей.

Мы не гаворым пра тое, як ён жыве, як ён прыніжаны — мы ўсё зводзім да мовы, да трох-чатырох знакаў, вельмі дакладных, але зразумелых вузкаму колу інтэлігенцыі.

Генадзь Мікалаевіч, я запэўніваю Вас, давайце выйдзем на вуліцу ў Горадні ці дзе і паўторым гэтую нашую размову, якая абсалютна нармальная, калі Вы гаворыце з Барадуліным ці з Дынько, але гэта будзе кітайская грамата для нашага мужыка. А вось Лукашэнка гаворыць на мове, зразумелай для яго.

**Бураўкін**: Сьвятлана, я хачу сказаць, што мы сапраўды перабіраем у гэтай спрэчцы — і адны, і другія, і Вы таксама перабіраеце. Вы мне кажаце, што калі мы выйдзем у Горадні і будзем размаўляць пра Барадуліна ці пра Дынька, гэта для многіх гарадзенцаў будзе кітайскай граматай. Але, даруйце, кітайскай граматай будзе і для Францыі і Італіі, дзе Вы жывяце, размова пра многіх пісьменьнікаў, нават вельмі таленавітых. Мы гаворым пра іншае — не пра культурны ўзровень, не пра традыцыі дэмакратыі і культуры, а пра беларускую праблему, якой няма, на шчасьце ці на жаль, у многіх краінах сьвету — такой вострай і такой надзённай: культура нацыянальнай мовы, культура нацыянальнай ідэнтыфікацыі. Гэтая праблема ёсьць, і рабіць выгляд у канкрэтных палітычных рашэньнях, што гэтай праблемы няма і ня ўлічваць яе нельга.

Вы, Сьвятлана, вельмі правільна сказалі, што нельга выключаць з паняцьця дэмакратыі такі складнік, як мова. Тут я цалкам згодны, хоць раней Вы сказалі, што сьпярша дэмакратыя, потым мова. У сур'ёзнай, тонкай палітыцы, як Вы ведаеце, дробязі адыгрываюць большую ролю, чым нейкія генэральныя лініі і пляны, бо ў дробязях

выяўляецца сутнасьць палітыкі. А наконт таго, што Захад вельмі дэмакратычны, вельмі мудры і вельмі разумны, я б не сьпяшаўся так казаць. Я таксама трошкі ведаю замежжа, менш чым Вы, але ведаю, і я памятаю, як гэты Захад ставіўся да прыходу Гітлера і таго, што ён вырабляў на Захадзе. І ў мяне вельмі вялікая перасьцярога, што ўрокі з гісторыі і Захад ня надта зрабіў.

**Дракахруст**: Сп-ня Сьвятлана, некалькі ўдзельнікаў дыскусіі прыгадвалі, што сёлета ў чэрвені Эўразьвяз увёў яшчэ адну афіцыйную мову ўжытку — мову, на якой у абавязковым парадку выдаюцца ўсе дакумэнты Зьвязу, усе форумы забясьпечваюцца перакладчыкамі на гэтую мову і гэтак далей. Гэтая новая мова — ірляндзкая, на якой у самой Ірляндыі гаворыць невялічкая частка насельніцтва. Але гэта — знак павагі да нацыянальнай тоеснасьці ірляндцаў, тут меркаваньні прагматыкі не прыводзяцца. А ў адносінах вяшчаньня на Беларусь — менавіта яны і пераважаюць. Чаму?

**Алексіевіч**: Я думаю, што размова тут ідзе не пра падвойны стандарт, хоць я згодная з Генадзем Мікалаевічам, што ідэалізаваць Захад ня трэба, і я яго не ідэалізую. Ня трэба забываць, што тут пабудавана збалянсаванае грамадзтва, якое здольнае на такія рэчы. А ў нас размова ідзе пра барацьбу і ў прыватнасьці пра перадвыбарчую барацьбу.

Апошняя дыктатура Эўропы — яна як бяльмо на воку для ўсяго Эўразьвязу, і трэба нешта рабіць. Унутраных, уласных сілаў у беларусаў

няма — значыць ім трэба дапамагаць. Як? Прымаецца вельмі жорсткае, прагматычнае рашэньне — уцягнуць як мага больш людзей, бо будзем шчырымі — хаця шмат хто падчас перапісу казаў, што яго родная мова — беларуская, на ёй вельмі мала людзей гавораць дома. А калі і гавораць, то гэта пераважна пралукашэнкаўская вёска. А трэба ахапіць як мага больш людзей. Няма тут ніякага прыніжэньня ці падвойнага стандарту.

Калі Вам прызнаюцца ў каханьні, хіба Вам важна, на якой мове — на беларускай або на расейскай? Або важна тое, што прызнаюцца? І вось я прызнаюся ў любові да Беларусі на расейскай мове.

**Дракахруст**: Сп. Бураўкін, а як Вы мяркуеце, чаму Эўразьвяз выказвае павагу нават амаль памерлай ірляндзкай мове, але прагматычна падыходзіць да беларускай моўнай сытуацыі?

**Бураўкін**: Я хацеў бы згадзіцца са Сьвятланай, што, відаць, сапраўды ў гэтым рашэньні вельмі пераважалі задачы сёньняшняга дня, можа, нават тая самая прэзыдэнцкая кампанія, якую Аляксандар Рыгоравіч, як ён сам нядаўна прызнаўся, пачаў з 2001 году і вядзе кожны дзень. Можа быць, гэта сапраўды адыграла ролю. Адзінае тое, што мы ўвесь час гаворым пра гэтых славутых прагматыкаў, але я сумняваюся як раз у іх прагматызьме, бо слухаюць «Нямецкую хвалю» ня больш за 10% людзей. Наіўныя людзі тыя, хто думае, што такім чынам яны могуць супрацьстаяць абсалютна агалцелай і нахабнай прапагандзе, якая ліецца з радыё і тэлебачаньня. Тое,

што Вы, Юры, сказалі, што ў адносінах да мовы, якая амаль не жыве, быў зроблены жэст павагі, дык я думаю, што сур'ёзныя палітыкі, калі яны прымалі рашэньне, яны павінны былі зразумець, што жэсты павагі маюць у палітыцы вельмі вялікае значэньне, такі жэст — гэта знак разуменьня тых праблемаў, якія ня сёньня і ня заўтра будуць вырашаныя.

Я прывяду як прыклад амбасадара Злучаных Штатаў Джорджа Крола. Цяпер на афіцыйных імпрэзах ён — адзіны сярод дыпляматаў і палітыкаў, хто паўсюль падкрэсьлена выступае па-беларуску. Гэта — унікальны, бліскучы, выдатны жэст павагі да беларускага народу. А калі падтрымліваюць нашых чыноўнікаў, якія сьвядома, дэманстратыўна цураюцца мовы, калі яны не саромеюцца сьцьвярджаць, што гэтая мова ня вартая іхных высокіх галоваў і гнуткіх языкоў, то ізноў жа — гэта пытаньне палітыкі.

## Данута Бічэль: «Няма Беларусі без беларускай мовы»

*Новая перадача сэрыі «Прыватны дзёньнік». Асабістымі занатаванымі думкамі мінулага тыдня са слухачамі Свабоды дзеліцца паэтка Данута Бічэль, якая жыве ў Горадні.*

13 верасьня 2005
Радыё Свабода

**Данута Бічэль**: Слухаю ранкам радыё «Свабода». Пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч прызнаецца ў любові Беларусі на расейскай мове. Як моцна трэба любіць, каб, стаўшы пісьменьніцай, ня ведаць мовы.

Няма Беларусі безь беларускай мовы. Беларусь — гэта беларуская мова. Яе ня вылічыш у працэнтах ужываньня, як збожжа, як грошы. Мова — гэта душа, а душа — маленькая. Але без душы чалавек — не чалавек, а д’ябал.

## «У нас краіна беларусаў, якія ня ведаюць, што яны беларусы»

Юры Дракахруст, Прага
29 студзеня 2006

*Ці зьявілася ў Беларусі асабовая і праграмная альтэрнатыва Аляксандру Лукашэнку? Чаму найбольш сур"ёзнымі апанэнтамі дзейнаму прэзыдэнту сталі ў той або іншай ступені нацыянальна арыентаваныя палітыкі? Ці ператвараецца цяперашняя выбарчая кампанія ў сутыкненьне Польшчы і Расеі? Гэтыя пытаньні абмяркоўваюць у «Праскім акцэнце» філёзаф Валянцін Акудовіч і пісьменьнікі Сьвятлана Алексіевіч і Ўладзімер Някляеў.*

**Дракахруст**: На падставе выступаў, інтэрвію, заяваў прэтэндэнтаў на кандыдата ў прэзыдэнты, на падставе хады збору подпісаў за іх — ці можна сказаць, што зьявілася годная альтэрнатыва ці нават альтэрнатывы Аляксандру Лукашэнку — альтэрнатывы як асобе і альтэрнатывы праграмныя — іншага шляху краіны? Спадар Акудовіч, паводле Вашых назіраньняў, ці ўбачыла беларускае грамадзтва адказ на пытаньне «Хто, калі ня ён»?

**Акудовіч**: Толькі шалёны аптыміст можа казаць, што мы ўжо маем сёньня альтэрнатыўную Аляксандру Лукашэнку палітычную фігуру. Але разам з тым у мяне з кожным днём мацнее смут-

нае прадчуваньне, што патэнцыял гэтай альтэрнатывы ёсьць у Аляксандра Мілінкевіча.

Магчыма, такім самым смутным прадчуваньнем кіраваліся і дэлегаты Кангрэсу дэмакратычных сілаў, калі ў якасьці адзінага кандыдата абралі не кагосьці з палітычных «зуброў» — не Лябедзьку, Калякіна ці Шушкевіча, а мала каму вядомага Мілінкевіча. І падобна, што яны не памыліліся. Не прамінула і паўгода, а гэтага даўгалыгага чалавека з Гародні ўжо прымалі на найвышэйшым палітычным узроўні ў шэрагу суседніх краінаў.

Аднак ня будзем сьпяшацца з высновамі. Выбары якраз і пакажуць, ці мае рацыю той, хто прадчувае патэнцыял агульнанацыянальнага лідэра ў Аляксандру Мілінкевічу. Але ня ў тым сэнсе, што ён пераможа на выбарах — хто пераможа, праўдай ці няпраўдай, усім добра вядома.

Выбары могуць дапамагчы Мілінкевічу раскрыць увесь свой палітычны патэнцыял. А калі ён пасьля 19 сакавіка ня сыдзе ў палітычны цень, як Ганчарык калісьці, дык беларускае грамадзтва магчыма нарэшце займее гэтак доўга чаканую альтэрнатыву Аляксандру Лукашэнку.

**Дракахруст**: Спадарыня Сьвятлана, некалькі месяцаў таму Вы ўдзельнічалі ў нашым «Праскім акцэнце» з Генадзем Бураўкіным, і тады Вы казалі, што ніякіх альтэрнатываў Лукашэнку і блізка няма. Якія ў Вас уражаньні цяпер?

**Алексіевіч**: Я ўжо каля двух месяцаў у Беларусі, крыху езьдзіла па вёсках, па невялікіх гарадох, днямі вярнулася з Магілёва. Вось мы сядзім

у Магілёве ў залі, чалавек 100, і на сьцяне вісіць партрэт Мілінкевіча.

І я гляджу на гэтыя добрыя твары, прыйшла добрая публіка з ужо забытымі тварамі — настаўнікі, мясцовая інтэлігенцыя, і на сьцяне вісіць гэты партрэт. І ў мяне адчуваньне, што я ці то ў Польшчы, ці то ў Чэхіі. Я бачу, што зьявіўся годны, нармальны чалавечы твар. Ён адпавядае і часу, і драматычным падзеям, якія ў нас адбудуцца незалежна ад таго, зьменіцца гэтая ўлада ці застанецца. У ягонай плястыцы, забытай у нас інтэлігентнасьці для мяне ёсьць пэўная надзея.

Я чула аўдыторыю і бачыла, што напрацаваная ўжо беларуская прастора, да мяне падыходзілі маладыя людзі, яны распавядалі мне, як яны шукалі сьляды паўстаньня Каліноўскага. Яны ўсе гавораць па-беларуску.

Бачна, што расьце гэтая маса людзей. І зьяўляецца гэты твар, на якім факусуюцца чаканьні лепшай часткі грамадзтва. Чакала грамадзтва Лукашэнку — яно яго і атрымала. А цяпер грамадзтва поўнае новых чаканьняў, яшчэ не асэнсаваных, схаваных. Але гэтая постаць ёсьць.

Я ня ведаю, ці адбудзецца гэты цуд зараз, я ў гэтым неяк мала ўпэўненая. Хоць я размаўляла з украінскімі інтэлектуаламі, яны за месяц да рэвалюцыі казалі, што ня вераць у яе магчымасьць. Але раптам узьнікае нейкі новы хімічны элемэнт. Мы дзеля гэтага працуем, думаем — раптам гэта адбудзецца. Але фігура гэтая ёсьць.

**Дракахруст**: Спадар Някляеў, і спадарыня Сьвятлана, і спадар Акудовіч гавораць пра аль-

тэрнатыву толькі ў асобе Аляксандра Мілінкевіча. Вы — сябра штабу іншага кандыдата — Аляксандра Казуліна. Ці стварае ён сапраўдную альтэрнатыву Аляксандру Лукашэнку?

**Някляеў**: Па-першае, я хачу падтрымаць Сьвятлану ў тым, што нельга дапускаць бязьвер'я ў перамогу, якое пануе цяпер у большасьці нашых людзей. Сьвятлана дарэчы прыгадала прыклад Украіны, я там таксама нядаўна быў — і сапраўды, ніхто да таго, як гэта сталася, ня верыў, што такое можа быць. Мэнталітэтна ўкраінцы вельмі з намі падобныя, і развагі былі такія самыя: «Ай, ніколі ў нас ужо нічога ня будзе, так мы і сканаем на гэтым памежжы». Не, сталася.

Любая альтэрнатыва калі ня годная, то лепшая за тое, што мы маем. Па сутнасьці для выбаршчыка любая праграма ў вуснах прэтэндэнтаў пазбаўленая сэнсу, бо яна нічым не напоўненая. Па сутнасьці ёсьць не праграмы, а чаканьні пэўных сацыяльных групаў, у тым ліку і інтэлігенцыі.

Якраз неактыўны ўдзел інтэлігенцыі ў палітычных пэртурбацыях апошняга часу мяне найбольш насьцярожвае.

Я ня ў штабе Казуліна, але сапраўды ў групе, якая яго падтрымлівае. Чаму? Чаму я не ў Мілінкевіча? А што мне рабіць у Мілінкевіча? Ён беларус натуральны, у адрозьненьне ад большасьці нашых палітыкаў, якія палітычна беларусы. Яны і гавораць па-беларуску толькі на трыбунах.

Беларускасьць — гэта брэнд, гэта адзінае, што можна супрацьпаставіць Лукашэнку. Яго нельга перайграць ні ў эканамічным, ні ў палітычным

пляне, таму яны ўсе становяцца на гэтую самую беларускасьць.

Казулін — гэта таксама не натуральны беларус, але ён скіроўваецца да таго. І не ўплываць у гэты момант на чалавека з пэрспэктывай было б памылкай.

Асабіста ён мне трохі нагадвае Генадзя Карпенку, зь якім я ў свой час блізка сябраваў, і мае адносіны з Карпенкам прывялі, скажам, да зьяўленьня Маладэчанскага фэстывалю народнай музычнай культуры.

Усе гавораць — «адзіны кандыдат, адзіны кандыдат». Я заўсёды быў за шырокі палітычны спэктар у Беларусі. Я таксама спадзяюся на цуд кшталту ўкраінскага, але палітыка адзінага кандыдата на мінулых выбарах прывяла да таго, да чаго прывяла. І чым так радыкальна зьмянілася сытуацыя, што тая самая палітыка праз 5 гадоў прывядзе да іншага, калі ня будзе ня толькі альтэрнатывы Лукашэнку, але і альтэрнатывы сярод тых людзей, якія вылучаюць сябе сёньня кандыдатамі ў прэзыдэнты?

**Дракахруст**: Спадар Някляеў ужо пачаў размову пра праграмы кандыдатаў. Тут прыгадваецца вядомы анэкдот: «Хто такі зануда? Гэта чалавек, які на пытаньне «Як справы?» пачынае распавядаць, як ягоныя справы». Сапраўды, часам выбаршчыкі гавораць пра кандыдатаў: «А якая праграма ў Мілінкевіча, якая праграма ў Казуліна? Я яе ня ведаю». Хаця калі ў адказ пачуюць, што кандыдат мае намер зьменшыць, скажам, падаходны падатак на 10%, зьнізіць на

3% стаўку рэфінансаваньня, прыцягнуць інвэстыцыі, то скажуць: «Ды не, гэта ня тое». А што тое, што людзі маюць на ўвазе, калі гавораць пра праграму? І ці ёсьць праграмы ў гэтым народным сэнсе ў прэтэндэнтаў на кандыдата ў прэзыдэнты?

**Алексіевіч**: Я думаю, гэта кепска, што мы не ўкладаем у праграму той сэнс, які ўкладаюць у эўрапейскіх краінах. Але, відаць, трэба пагадзіцца, што мы знаходзімся ў прамежкавым стане будаўніцтва новага жыцьця. Мы больш давяраем харызьме, носьбіту нашых прадчуваньняў.

Што ў людзей зьвязана зь Мілінкевічам, калі інфармацыя даходзіць да іх? Я заўважыла, што беларускае тэлебачаньне робіць даволі пісьменна з пункту гледжаньня ўлады — не называе імёнаў. Людзі, асабліва ў вёсках, проста ня ведаюць, што ёсьць такі чалавек, як ён выглядае, якія ягоныя якасьці.

Для нашых людзей чалавечыя якасьці кандыдата значаць больш, чым ягоная праграма. Наш выбаршчык яшчэ палітычнае немаўлятка.

Для людзей, якія аддадуць свае галасы за Мілінкевіча — а іх будзе нямала — ён увасабляе ідэю іншага жыцьця на славянскім, ірацыянальным узроўні. Гэтая ягоная інтэлігентнасьць канфліктуе з тым, што мы маем сёньня ў нашай дзейнай уладзе — у нашым грамадзтве татальнай пасрэднасьці зьверху данізу. Калі бачыць гэтых людзей улады, проста ўражваесься, як гэтая шэрасьць адраджае сябе і генэруе.

Зь Мілінкевічам людзі зьвязваюць тое, што мы адкрыемся сьвету, што будзе ня сорамна ні за тое, як чалавек гаворыць, ні за тое, як ён глядзіць. Гэта ўвасабленьне нашых надзеяў.

Сорамна за свой страх, якім прасякнутае грамадзтва, сорамна за свой сорам, сорамна за прыніжанасьць свайго жыцьця. Назапасілася вялікае сховішча псыхалягічных чаканьняў. І патрэбная фігура, якая зробіць гэты эмацыйны прарыў.

**Дракахруст**: Са словаў сп-ні Сьвятланы вынікае, што калі людзі гаворац пра праграму, яны маюць на ўвазе нейкае пасланьне кандыдата ў прэзыдэнты. Скажам, у Лукашэнкі ў 1994 годзе такім пасланьнем было — «Адпомсьцім і пакараем злодзеяў і карупцыянэраў», пуцінскае пасланьне ў 2000 годзе ўкладалася ў ёмістае — «Мачыць у сарціры». Спадар Някляеў, Вы маглі б сказаць, якое пасланьне ў гэтым сэнсе ў Аляксандра Казуліна?

**Някляеў**: Усё на паверхні нібыта ляжыць. Мы зараз тое самае кажам, што казалі і на мінулых выбарах, і на пазамінулых. Народ не чакае ніякіх эканамічных пасланьняў. Я маю на ўвазе менавіта народ, тых людзей, якія з дня ў дзень думаюць, як пражыць. Ён сам ведае, што калі ён не засее поле, не заб’е курку, то хто б там якую эканоміку яму ні абяцаў, ён будзе галодным. Таму, канечне, чакаецца нейкае духоўнае пасланьне. З маіх сустрэчаў з простымі людзьмі вынікае, што ім абрыдла жыць у сьвеце невыразна.

Праўда, сёньняшняе нашае выразнае існаваньне, дык лепш бы яго не было, кожнаму нармальнаму чалавеку за такое «выразнае» існаваньне сорамна.

І гэта пры тым мы жывем невыразна, што Беларусь — гэта зусім не маленькая краіна, як пра яе часам кажуць. Вунь Літва, Латвія, Эстонія — сапраўды краіны невялікія, але яны існуюць у сьвеце выразна, і перш за ўсё гэтая выразнасьць зыходзіць з таго, што яны нясуць у сабе нацыянальнага.

Калі пачынаеш гаварыць пра нацыянальнае на ўзроўні істэблішмэнту, чуеш, што гэта, маўляў, непэрспэктыўна, асабліва што тычыцца беларускага, што гэта ўсё лясьнецца, што будзе панаваць нейкае глябальнае нешта. Але так задумвацца, дык яно ўсё разам узятае непэрспэктыўнае, бо некалі пад патухлым сонейкам усё скончыцца. Але ж з гэтага не вынікае, што чалавецтва будзе хацець перастаць жыць. І з гэтага не вынікае, што чалавек, якому ў дадзены момант хочацца быць нацыянальным, хочацца быць выразным, расхоча гэтага таму, што гэта некалі ў аддаленасьці скончыцца.

І вось Казулін пры адпаведнай карэктыроўцы якраз вось гэтую выразнасьць мог бы выказаць. Ён, як і Мілінкевіч, яшчэ крыху дзіўнаваты для большасьці людзей. «Адкуль такі ўзяўся?» — пра яго пытаюць. А ён падобны да гэтых людзей, ён і на сустрэчах блытаецца гэтак жа, як і тыя, з кім ён сустракаецца. Але відно, што ён хоча разам з усімі гэтымі людзьмі стаць выразным. Я думаю,

што гэта асноўнае, што ён на сёньняшні дзень у сабе нясе.

**Дракахруст**: Валянцін, ва Ўладзімера зараз прагучала фраза «Мы казалі гэта і на мінулых выбарах, і на пазамінулых», а людзі, маўляў, занятыя сваімі куркамі і не падымаюць вочы ўгару. Але мы памятаем нават па найноўшай беларускай гісторыі, як, скажам, людзі ў 1994 годзе аб’ядналіся вакол пэўнай постаці — добрай або кепскай — няважна, але яны ў пэўнай ступені адарваліся тады ад сваіх курак.

Або ўзяць пазалеташні досьвед Украіны, калі блізка мільёну чалавек стаялі на майданах па ўсёй краіне. Тут справа, відаць, у своеасаблівым «залатым ключыку» — калі яго знойдзеш, то ён адчыняе душы людзей і яны адрываюцца ад сваіх курак. Ці ўбачылі Вы, спадар Валянцін, у руках у нейкага кандыдата такі «залаты ключык»?

**Акудовіч**: Я крыху дыстанцуюся ад гэтай вядомай думкі, што ёсьць недзе нейкае слоўка «сэзам», яго толькі трэба знайсьці — і дзьверы адчыняцца. Я думаю, што ўсё наадварот — калі сытуацыя высьпявае, тады ўжо неістотна, якое слоўка, слоган, лёзунг прагучыць. Мне даводзіцца дастаткова сустракацца з замежнымі сябрамі, у якіх гэта ўжо адбылося. Яны чамусьці ўвесь час робяць акцэнт на гэтым, славакі кажуць пра той лёзунг, сэрбы — пра іншы. Я ня веру, што праблема ў нейкім «ключыку».

Патрэбны найперш «замок», куды ўтыркнуць той «ключык». Калі замок не вісіць, то насі той «ключык» у кішэні і бразгай ім колькі хочаш.

І таму пытаньне хутчэй у тым, калі ў Беларусі сасьпее гэтая крытычная маса, і тады можа прагучаць што заўгодна, і людзі выйдуць. І выходзілі мы і па 20, і па 50, і па 100 тысячаў, і неістотна пад якімі словамі, і магчыма, неістотна нават, пад якім сьцягам.

Я пакуль ня бачу гэтага высьпяваньня.

Яно існуе, тут я згодны з Уладзімерам і Сьвятланай, яно ідзе ў колах інтэлігенцыі, у грамадзкім сэнсе актыўных людзей. Але пакуль, мне здаецца, гэта вельмі мала. Іншая рэч, што наш досьвед сапраўды паказвае, што вялікія зрушэньні адбываліся нечакана.

І таму застаецца спадзявацца,, што гэтыя працэсы, якія адбываюцца, нам проста нябачныя. Нам вельмі цяжка ацэньваць, што насамрэч адбываецца ў Беларусі, бо мы знаходзімся пад накрыўкай дыктатуры. Там штосьці варыцца, штосьці булькоча, але мы ня можам бачыць, бо мы накрытыя рэпрэсіўным рэжымам, рэжымам страху. Мне страшэнна цікава было б даведацца, што там зварылася.

**Дракахруст**: Уладзімер, як Вы ўжо казалі, часам можна пачуць меркаваньні пра тое, што нацыянальная інтэлігенцыя ў Беларусі ізаляваная са сваімі размовамі пра мову і культуру, якія народу абсалютна нецікавыя. Але калі справа даходзіць, так бы мовіць, да справы, то высьвятляецца, што чаканьні той часткі грамадзтва, якая не задаволеная існым становішчам, цяпер факусуюцца або на людзях выразна нацыянальна арыентаваных, такіх, як Аляксандар Мілінкевіч,

ці на такіх, як Аляксандар Казулін, якія шукаюць гэтай арыентаванасьці — хаця сам ён і не належыць да гэтага кола і сам па-беларуску не гаворыць, але вакол яго стаяць такія людзі, як Уладзімер Някляеў, Ніл Гілевіч, Алесь Пашкевіч, Вольга Іпатава. Чаму? Чаму так атрымліваецца, што альтэрнатыва аказваецца зьвязанай з той самай нацыянальнай ідэяй?

**Някляеў**: Я катэгарычна ня згодны з тым, што зараз сказаў мой паважаны сябра Валянцін, што яму ўсё адно, пад якім мы сьцягам выходзілі на вуліцы разам з тысячнымі натоўпамі. А мне не ўсё роўна.

З майго гаўбца быў некалі відзён бел-чырвона-белы сьцяг, які тады лунаў над рэзыдэнцыяй прэзыдэнта. Я выходзіў з каўкай і цыгаркай на гаўбец, і ў мяне, прабачце, разам з гэтым сьцягам лунала душа. Як толькі перавесілі, я там ні разу не сядзеў, не паліў і не ўзьляцеў. Калі ў чалавека гэта ёсьць — гэта ёсьць, калі няма — то няма і нікому тут нічога не давядзеш.

На онлайн-канфэрэнцыі на «Свабодзе» ў Зянона Пазьняка спыталіся, што б ён зрабіў найперш, калі б стаў прэзыдэнтам. Ён адказаў — адразу б памяняў нацыянальную сымболіку. Палітычна і эканамічна нібыта ня з гэтага трэба пачынаць, але вось тут я цалкам на ягоным баку. Калі гэтага няма, то я не разумею, дзеля чаго ўсё астатняе.

Лукашэнка на сёньня стаў найперш перашкодай у духоўным жыцьці краіны. Бо як бы яна разьвівалася эканамічна, калі б быў ня ён, а нехта

іншы? Думаю, што прыкладна гэтак жа, можа крыху больш рынкава. Але пры любым іншым у нас бы было іншае духоўнае жыцьцё. У гэтым і праблема.

**Акудовіч**: Мой любімы паэт, дарагі мой сябра Ўладзімер Някляеў трошкі ня так расчытаў маю рэпліку. Я ня менш за яго і за каго заўгодна заангажаваны і ў нашую сымболіку і ў беларускасьць. Я казаў, што калі людзі выходзілі масава на вуліцы, яны выходзілі не як мы зь Някляевым — пад пэўны сьцяг, яны выходзілі таму, што была энэргетыка і патрэба пераменаў.

**Дракахруст**: Спадар Валянцін, у Вас у свой час быў знакаміты артыкул «Бяз нас», дзе Вы з горыччу апісалі глыбокую ізаляцыю нацыянальнай інтэлігенцыі. Дык чаму ж у рэшце рэшт на альтэрнатыўным баку лідэрамі аказваюцца людзі ўсё ж нацыянальна сьвядомыя?

**Акудовіч**: Мала хто заўважае, што за 15 гадоў незалежнасьці беларусы ўжо амаль афарміліся як нацыя. А не заўважаюць гэта найперш таму, што шлях нацыятварэньня бачыўся і бачыцца многім зусім іншым — а менавіта этналінгвістычным, праз ахопліваньне ўсяго грамадзтва нацыянальнай культурай, беларускай мовай, уласнай гісторыяй і да таго падобнае.

Аднак атрымалася ўсё зусім інакш. Беларусы неўпрыкмет для сябе пачынаюць гуртавацца ў нацыю на сацыяльных падставах — гэта значыць, свая дзяржава, свае законы, свой дзяржаўны лад і гэтак далей.

Але з чаго тады нават у нацыянальна не заангажаваных палітычных лідэраў відавочна бачны акцэнт на ўласна нацыянальнае, як, скажам, у спадара Казуліна? Рэч у тым, што нацыянальна сфармаваны чалавек, на якіх бы падставах ён ні фармаваўся, пачынае разумець значэньне ўнівэрсальных каштоўнасьцяў. А значыць, ён пакрысе ўсьведамляе, што ўласна беларускае, якім бы маргінальным сёньня яно ні было — гэта адна з тых унівэрсальных каштоўнасьцяў, якая нябачна зьвязвае нашу краіну ў адно цэлае.

Беларускасьць сёньня знаходзіцца ў маргінальным стане, але гэта — цэнтрапалеглая маргіналія. Вымі яе цалкам — і ўсё пасыплецца.

І таму чуйныя, разумныя людзі, як у выпадку з Казуліным, першае, што робяць, калі самі не зьяўляюцца ўнутры нацыянальнымі ў пляне ўласна беларускага — яны агароджваюць сябе людзьмі выразна нацыянальна заангажаванымі, як Іпатава, Някляеў і да таго падобнае.

**Дракахруст**: Спадарыня Сьвятлана, ізноў жа вяртаючыся да Вашай палемікі з Генадзем Бураўкіным у «Праскім акцэнце». Вы тады казалі, што нацыянальна арыентаваная інтэлігенцыя — гэта такія летуценьнікі, іх сьвет — гэта, так бы мовіць, вузенькая прастора вакол рэдакцыяў «Нашай Нівы» і «ARCHE», а вакол, казалі Вы, жыве зусім іншае грамадзтва, чужое гэтым ідэям.

Але цяпер Вы самі кажаце, што на вастрыні чаканьняў апынуўся Мілінкевіч — чалавек менавіта гэтых ідэяў. Чаму?

**Алексіевіч**: Не зусім дакладна перададзены сэнс таго, што я хацела сказаць тады. Як я зразумела, і ў розных выданьнях яго таксама няправільна зразумелі. Я не казала, што ёсьць шчырыя беларусы вакол «ARCHE», «Нашай Нівы», вакол нейкіх лідэраў, такіх як Акудовіч. Я казала, што большая частка Беларусі яшчэ гаворыць па-расейску. Справа ня ў мове ці ня толькі ў мове. Ня важна, на якой мове адбываецца высьпяваньне нацыі, высьпяваньне наагул чалавечай сьвядомасьці, роўнай таму, што адбываецца ў сьвеце.

І калі размова ішла пра вяшчаньне зь Нямеччыны, я тады сказала, што вельмі разумны крок, каб яно было на расейскай мове, бо да выбараў засталося няшмат часу (высьветлілася, што яго яшчэ менш), і давайце заангажуем гэтую частку людзей.

Што тычыцца нацыі, то яна сапраўды за гэты час відавочна зьбіраецца, і гэта адбываецца ня толькі паводле нутраных, але і паводле зьнешніх прычынаў. Іншага стрыжня, акрамя нацыянальнага, на сёньняшні момант разьвіцьця чалавецтва няма. Я б не сказала. што гэта маргінальная інтэлігенцыя і што гэтыя каштоўнасьці маргінальныя. Мы ўжо прызвычаіліся так думаць і прыніжацца. Яны яшчэ не артыкуляваныя і адбываюцца на падсьвядомым узроўні.

Адзін нямецкі філёзаф казаў, што ёсьць ананімныя хрысьціяне — людзі, якія ня ведаюць, што яны хрысьціяне. У нас краіна беларусаў, якія ня ведаюць, што яны беларусы. Я гэта магу сказаць і пра сябе.

Гэтая ўлада закрытая ад сьвету, сьвет не прымае гэтую ўладу, але людзі езьдзяць, глядзяць. Хай сабе яны цягаюць скрыні з харчамі ці рэчамі, якія яны прадаюць, але яны бачаць, які велізарны сьвет. І яны бачаць, што гэты сьвет сёньня мае праблемы, і яны вырашаюцца праз асэнсаваньне, хто ты ёсьць — італьянец гэта італьянец, француз гэта француз, паляк гэта паляк.

Людзі бачаць, што войны, якія ідуць сёньня і якія часам называюць тэрарызмам, зьвязаныя з глыбокімі нацыянальнымі праблемамі. Усходні сьвет ня хоча жыць, як амэрыканцы ці эўрапейцы, ён ня хоча жыць на гэтых хуткасьцях, так хутка губляць каштоўнасьці.

У нас страх выжываньня, а там страх страты сябе, страты свайго сьвету. І за што чалавек можа ўхапіцца? У экзыстэнцыяльным сэнсе — за дом, але калі ён выходзіць зь яго, ён можа ўхапіцца за нейкую супольнасьць. Бяз гэтай кропкі гэта будзе ці камфортная жывёла ці страчаная пясчынка.

Іншага шляху няма. Проста калі я пра гэта кажу, я кажу на іншым узроўні і на расейскай мове, таму неяк інакш прачытваецца мой тэкст.

**Дракахруст**: Сп-ня Сьвятлана, Вы кажаце, што ёсьць вялікая колькасьць беларусаў, якія гавораць па-расейску. Дык чаму ў выніку спантаннай канкурэнцыі ў апазыцыйным лягеры на першыя месцы выйшлі людзі, адзін зь якіх сам гаворыць па-беларуску, а другі, калі сам і не гаворыць, то атачае сябе людзьмі з гэтага кола?

**Алексіевіч**: Людзі, якія выяжджаюць — я шмат бачыла па сьвеце беларусаў, расейцаў, украінцаў,

яны адʼяжджаюць касмапалітамі. Але потым у іх зьяўляюцца ці самавары, ці слуцкі пояс — чалавек хоча за нешта зачапіцца, асэнсаваць, хто ён. Мы гойсалі па гэтай постсавецкай прасторы, як ніводная нацыя, мы былі нічыйнымі. Але глядзім — там жывуць украінцы, там малдаване, там расейцы. А хто мы? Іншай энэргетыкі няма.

Валянцін слушна сказаў, што можна пачуць энэргетыку прасторы сьвету, толькі калі ты на нечым стаіш.

І нягледзячы на тое, што нацыянальнае не артыкулюецца ўладай, не артыкулюецца культурай, якая сёньня расьцярушаная, людзі артыкулююць гэта на падсьвядомым узроўні.

Людзі разумнейшыя і за пісьменьнікаў, і за палітыкаў. Наша грамадзтва разумнейшае за нашу ўладу і нашу культуру.

**Дракахруст**: Ну мы ўсё ж зьвернемся да прадстаўнікоў культуры. Я папрашу вас сказаць, як вы ацэньваеце тое, што ініцыятыўная група Зянона Пазьняка адмовілася здаваць подпісы ў ЦВК, гэта азначае, што кіраўнік БНФ спыніў змаганьне за пасаду прэзыдэнта.

**Акудовіч**: Па-першае, гэтага ўсе чакалі, усе ведалі, што так яно і будзе. Відавочна, што ў БНФ цяпер вельмі малы рэсурс у самых розных плашчынях, тым больш калі нацыянальна заангажаваныя атрымалі менш радыкальнага лідэра — Мілінкевіча. Тое, што здарылася, і павінна было здарыцца, а па-другое, гэтак будзе і да лепшага.

**Алексіевіч**: Я нават зьдзіўленая такому цьвярозаму рашэньню. Я ня ведаю, якімі матывамі

ён кіраваўся, але для мяне гэта быў нейкі знак таго, што прыйшоў час новых інтэлектуальных выклікаў у грамадзтве, і нацыянальная ідэя са стадыі рамантыкі пераходзіць у стадыю рэалізацыі. Спатрэбіўся новы лідэр, які захоўвае гэтую мяккую беларускую мэнтальнасьць і разам з тым дастаткова канкрэтны ў сваім бачаньні.

Адзінае, што мяне засмучае, і я мяркую, што гэта засмуціць значную частку нашага грамадзтва — гэта тое, што Мілінкевіч такога польскага тыпу, а з гэтым зьвязаныя гістарычныя крыўды і складанасьці, якія зьвязваюць нас з польскім грамадзтвам і каталіцызмам. Я баюся, што гэта ў пэўнай ступені яму перашкодзіць.

У Пазьняка ў свой час гэта таксама было. Але калі быў час рэвалюцыі, разбурэньня, патрэбныя былі такія фігуры, як Пазьняк. А цяпер надыходзіць час будаўніцтва. І зьяўляюцца іншыя фігуры. І дзякаваць Богу, што старыя фігуры годна сыходзяць у гісторыю.

**Някляеў**: Ну што тут, уласна кажучы, камэнтаваць. Усё сказаў Валянцін, і Сьвятлана таксама правільна сказала. Зянон Станіслававіч як палітык цяпер вымушаны гуляць у прапанаваных яму ўмовах. Ён ня мог не ўключыцца ў гэтую перадвыбарчую прэзыдэнцкую кампанію і ня мог ня выйсьці зь яе.

**Дракахруст**: На гэтым тыдні адбылося магчыма выпадковае, але сымбалічнае супадзеньне. У той час як Аляксандар Лукашэнка ў Санкт-Пецярбургу вёў перамовы з Уладзімірам Пуціным і старшыняваў на саміце Эўраазіяцкай эканаміч-

най супольнасьці, Аляксандар Мілінкевіч выступаў з трыбуны польскага Сэйму і паціскаў руку польскаму прэзыдэнту Леху Качынскаму.

Разам з тым, скажам, Аляксандар Казулін падчас онлайн-канфэрэнцыі на «Свабодзе» заявіў: «Не сакрэт, што праект «адзінага» — праамэрыканскі і празаходні. А я выступаю за збалянсаваную палітыку Беларусі як з Расеяй, гэтак і з Эўропай і Амэрыкай. І я не адзін у нашай краіне».

Ці можна сказаць, што гэтая кампанія, як тое ня раз было ў беларускай гісторыі, ператвараецца ў спаборніцтва двух вялікіх беларускіх культурных і мэнтальных магнітаў — Расеі і Польшчы, як тыя заходні і ўсходні вучоныя ў купалаўскіх «Тутэйшых», якія ўвесь час зьяўляюцца з розных бакоў сцэны і задаюць своеасаблівы кантэкст таму, што адбываецца.

Уладзімер, ці лічыце Вы, што кампанія атрымліваецца такая: Расея супраць Польшчы?

**Някляеў**: Тут ня толькі Расея супраць Польшчы. Нашая кампанія, як і папярэдняя, атрымліваецца такая, што ўсе супраць усіх. Калі ў кожнага з кандыдатаў спытацца: «Калі ты не пераможаш, то што лепш — каб перамог твой дэмакратычны канкурэнт ці каб застаўся Лукашэнка?», то, я клянуся, кожны скажа — хай лепш застанецца Лукашэнка.

Да мяне ўжо колькі народу чаплялася — як гэта ты, Някляеў, у Казуліна? Давай мне ўсе распавядаць, што Казулін — ня толькі праект лукашэнкаўскай улады, але і крамлёўскі праект, маўляў, усё там ужо даўно дамоўлена, што надыходзіць

«гадзіна Х» і Лукашэнку мяняюць на Казуліна. Дык я кажу — калі так, то я проста дурань, калі не пайду да Казуліна, калі запраграмавана, што ён будзе пры ўладзе.

Што да супрацьстаяньня Захаду і Ўсходу і бліжэй — Расеі і Польшчы. Гэта ёсьць абразок у Янкі Брыля, калі яму адзін паляк, прычым інтэлігентны, выкшталцоны паляк, прафэсар, казаў, калі яшчэ толькі пачалася наша нібыта незалежнасьць: «Нешта вы там загульваеце з Расеяй, дык вы гуляйце ня зь ёй, а з намі, мы, палякі, вам болей дамо дэмакратыі».

Казаць пра расейскі бок, як там мысьліцца пра Беларусь, няма чаго — мы для іх «сапсаваныя расейцы», якіх трэба «адрамантаваць». І, канечне, бяз гэтай выразнасьці, выразнасьці гістарычнай, без аднаўленьня гэтай годнасьці нічога ня будзе. Мы забыліся і ў чалавечых адносінах і ў адносінах групавых пра гэтае слова — годнасьць. А яно, па-мойму, наагул ключавое ў чалавечым існаваньні.

**Акудовіч**: Некалі я пісаў, што Расея — не на ўсход ад Беларусі, а Ўсход Беларусі. Гэта значыць, што Расея пэўным сваім контурам, як і Эўропа, натуральна знаходзіцца ўнутры нашай уласнай самасьці.

У розныя гістарычныя эпохі на нашых землях дамінавала то Эўропа, то Расея, і ўсяляк для нас было ня надта добра. Цяпер мы ізноў маем вельмі небясьпечны дысбалянс у бок Расеі. Яшчэ трохі — і наш родны карабель можа перакуліцца.

Таму зь якой бы пазыцыі наступны прэзыдэнт ні прыйшоў да ўлады, зь якой бы праграмай ён ні прыйшоў да ўлады — ён у рэальнай палітыцы будзе змушаны быць празаходнім, каб хаця б выправіць гэты дысбалянс.

З апірышчам на адну Расею беларусы ніколі шчасьлівага жыцьця не збудуюць. Але не збудуюць яго і толькі на Эўропе. Нам аднолькава патрэбныя і Эўропа, і Расея. І ня зь нейкіх вонкавых меркаваньняў, а таму, што мы ўнутры сябе — і Эўропа, і Расея. Гэтае спалучэньне і дае эфэкт Беларусі і беларусаў.

**Алексіевіч**: Я калі даведалася пра гэтую паездку Мілінкевіча, я была зьдзіўленая. Па маіх перакананьнях гэта была памылка. Зразумела, чаму яна была зробленая. Зрабіць украінскую рэвалюцыю дапамаглі антырасейскія настроі, якія вельмі моцныя ва ўкраінскім народзе. У мяне бацька — беларус, а маці — украінка, і я ведаю, як моцна ва Ўкраіне ня любяць «маскалёў». Гэта велізарная энэргія, і гэта ў пэўным сэнсе дапамагло зрабіць рэвалюцыю.

Але беларусы іншыя людзі, тут такой антырасейскасьці няма. У 1994 годзе ў вёсцы мне адзін стары сказаў, што будзе галасаваць толькі за Лукашэнку, а не за Пазьняка ці Шушкевіча. Я яго спытала «Чаму?» Ён адказаў: «Таму што тыя глядзяць на Польшчу, на каталіцызм. А калі для расейцаў мы — малодшы брат, то для палякаў мы быдла». І мне здаецца, што гэта памылка палітыка, які толькі пачынае сваю палітычную кар’еру — гэтак абазначаць наш гістарычны ва-

рыянт. Сапраўды павінна быць раўнавага. І я думаю, што такая дэманстрацыя прыхільнасьці памылковая.

У рэшце рэшт становішча Польшчы ў Эўропе дастаткова маргінальнае. Яе любяць як ідэю, а не як краіну. Палякі дастаткова складана ставяцца да самой Беларусі. Гэта канфлікт, які нас чакае наперадзе — праз 10-20 гадоў.

У мяне было адчуваньне палітычнай некарэктнасьці і недакладнасьці.

## Сьвятлана Алексіевіч узнагароджаная прэміяй Таварыства амэрыканскіх крытыкаў

6 сакавіка 2006
Сяргей Навумчык, Прага

*Пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч узнагароджаная прэміяй амэрыканскага таварыства NATIONAL BOOK CRITICS CIRCLE (NBCC) за кнігу «Галасы з Чарнобылю». Прэмія ня мае грашовага эквіваленту, але зьяўляецца адной з найбольш прэстыжных літаратурных узнагародаў у сьвеце англамоўнай літаратуры.*

**Алексіевіч**: Для мяне вельмі істотна, што гэтая кніга пра Чарнобыль узнагароджаная і заўважаная, — у амэрыканскім выданьні яна завецца «Галасы з Чарнобылю», — але ў цэлым адзначаны як унікальны праект, які я пішу ўжо трыццаць гадоў, які складаецца зь пяці кніг — «Маленькі чалавек і Вялікая Ўтопія». Гэта значыць, пра магію гэтай утопіі, пра гэты вялікі падман распавядаюць і самі сьведкі, і самі творцы, і ка́ты, і ахвяры. І я спадзяюся, што больш людзей прачытае, даведаецца, для мяне гэта таксама вельмі важна. Асабліва цяпер, калі наша маленькая краіна займае асаблівае месца ў сьвядомасьці Эўропы і сьвету, са сваёй бядой, са сваёй немагчымасьцю пераадолець гэтую бяду. Мне здаецца вельмі важным, калі аддаецца перавага аўтару «адсюль», ягонаму голасу.

## Мая прафэсія — дадумваць рэчы сумленна да канца

8 сакавіка 2006
Сяргей Навумчык, Прага

*На вэбсайце Радыё Свабода адбылася онлайн-канфэрэнцыя з пісьменьніцай Сьвятланай Алексіевіч. Цягам некалькіх дзён карыстальнікі сайту задавалі пытаньні, прыходзілі пытаньні і ў часе канфэрэнцыі. Вусныя адказы пісьменьніцы занялі некалькі гадзінаў і прагучалі ў эфіры Радыё Свабода.*

*Паважаная спадарыня Алексіевіч! Як Вы ставіцеся да біяграфіі Лукашэнкі, якую выдаў Фядута? Гэта літаратура, палітыканства ці лізаблюдзтва? Нешта падобнае выдаў Зяньковіч пра кіраўніка расейскага сэнату Міронава. Можа, вам прыйшоў час напісаць пра «homo soveticus»? Сава Курловіч.*

**Алексіевіч**: Тое, што я пішу — гэта і ёсьць гісторыя гэтага гома-саветыкуса, гісторыя гэтага тыпажу. Савецкі чалавек, як ён жыў і як ён зьнікае. Усе пяць кніг, якія я напісала, і дзьве кнігі, якія я цяпер пішу, яны пра гэта. Але гэты фэномэн я дасьледую ня толькі на беларускім матэрыяле. Кнігу Аляксандра Фядуты я чытала. Я ўвогуле вельмі добра стаўлюся да Сашы Фядуты, лічу, што гэта вельмі добры, адукаваны журналіст, з добрым стылем, і мне заўсёды яго

цікава чытаць, і гаварыць зь ім, і слухаць яго меркаваньне. Што тычыцца гэтай кнігі, мне здаецца, яна занадта вялікая. Гэтая прастора патрабавала трошкі іншых навыкаў, можа быць, якіх не было ў аўтара, такіх пісьменьніцкіх, журналісцкіх. І самае галоўнае, чаго мне там не хапіла — як вось дзейнічае гэты мэханізм, як чалавек робіцца царом... Як, да прыкладу, зь Ельцына, які спрабаваў зрабіцца дэмакратам, атрымаўся цар Барыс. Як з дырэктара саўгасу, якога выштурхоўвае наверх, таксама атрымліваецца такі царок? І не адсочаная псыхалёгія масавай сьвядомасьці, чаму гэта падтрымку ў народзе атрымала... Проста прасочана ўся гэтая міталёгія, якая ходзіць, і нейкія факты... Але факты фактамі, зь іх заўсёды трэба дастаць нейкі сэнс, нейкую філязофію... Вось мне гэтай цэльнасьці ў Сашавай кнізе не хапіла. Але ўсё роўна, яна робіць вельмі важную працу. Я думаю, хай людзі чытаюць, хай думаюць...

*Спадарыня Алексіевіч! Скажу шчыра, я ніколі не ўваходзіў у кола прыхільнікаў вашай творчасьці. Магчыма таму, што адчуваецца прыхаваная адмоўная энэргія ад Вас і Вашых кніг да беларускасьці, да Беларусі. Тым ня менш, што дае Вам падставы лічыць сябе беларускай пісьменьніцай? Бенедзікт.*

**Алексіевіч**: Я часта чую такое меркаваньне, асабліва ад моладзі. Я думаю, гэта ідзе ад адчуваньня слабасьці, ад нежаданьня зразумець, у якім сучасным сьвеце мы жывем.

Чаму я пішу на расейскай мове? Таму што я ствараю хроніку ўтопіі. Утопія размаўляла на расейскай мове. Вось гэтая велізарная краіна, вось гэты страшны экспэрымэнт, гэты вялікі падман... яго мова была расейская. Таму напісаць сваю хроніку на беларускай мове — гэта была б не дакладная гістарычная праўда.

Чаму я лічу сябе беларускім пісьменьнікам? Вы ведаеце, я сябе лічу наогул пісьменьнікам. Я не адмаўляюся ад таго, што я беларускі пісьменьнік. Я не адмаўляюся ад таго, што я чалавек сьвету. Я не адмаўляюся ад таго, што я выхавана больш на расейскай культуры, на расейскіх ідэях. Напрыклад, я не магла б напісаць чарнобыльскую кнігу бяз Фёдарава, Дастаеўскага, Цыялкоўскага.

Пастаноўка пытаньня для сёньняшняга часу даволі дзіўная, я б нават сказала састарэлая. Я жыла два з паловай гады ў Парыжы. І дастаткова проста пажыць там месяц, каб убачыць: вось вядуць дзяцей у дзіцячы садок, з іх 40% — чорныя ці жоўтыя. Вядуць дзяцей у школу — 60% чорныя ці жоўтыя. Ужо зьявілася нават у Нямеччыне такое паняцьце як «канстытуцыйны патрыятызм», гэта значыць, мы разумеем, што з часам Эўропа будзе жыць у сьвеце, дзе можа паўгораду, траціна гораду Бэрліну будуць складаць людзі зусім розных культураў — арабскія, кітайскія раёны. Гэта ўжо факт нашага жыцьця, факт будучыні.

Мы — нацыя, якая спазьнілася. Мы вырашаем праблемы мінулага. І мы яшчэ праблему мовы ўводзім як галоўную. Яна сапраўды для нас галоўная, але я яшчэ раз хачу сказаць: мат-

рыцу мінуўшчыны ўсё ў меншай ступені можна накладваць на матрыцу будучага нашага жыцьця. Будучыня абсалютна непрагназуемая. Я, напрыклад, гаварыла зь нямецкімі інтэлектуаламі і францускімі. Яны не падазравалі, і толькі цяпер, пасьля нядаўніх беспарадкаў у Францыі, сталі ўсур'ёз гэта абмяркоўваць, што няма ўжо францускай Францыі. Яна іншая. І будучыня нейкая іншая.

Дадамо да гэтага: сьвет існуе ў велізарным супрацьстаяньні магутнай амэрыканскай маскультуры, амэрыканскаму кіно, амэрыканскай музыцы.

Вось калі паглядзець на сьвет з пункту гледжаньня Бога: ці існуе для яго асобна расеец, беларус, кітаец? Для яго ёсьць чалавек. Таму я, напісаўшы кнігу пра Чарнобыль, адзначала: ідучы па мёртвай, заражанай радыяцыяй зямлі, ты адчуваеш сябе не расейкай, беларускай, француженкай, ты адчуваеш сябе прадстаўніком біявіду. Ты адчуваеш сябе зусім адзінокім у гэтым вялізным сьвеце, пра які мы думаем, што мы ім валодаем, які мы зусім не кантралюем.

Там зямля вельмі хутка забывае чалавека. Там трава ўжо па плечы аленям. Ці бачыш яблыневыя сады, зарослыя бярозамі. Гэта іншы сьвет. Вось такія наіўныя, інтэлектуальна падлеткавыя пытаньні... я ведаю іх эмацыйнасьць. Я ведаю, чым яны прадыктаваныя. Але мы ўсё ж жывем ужо ў зусім новым сьвеце.

*Нядаўна перачытваў Вашу «Чарнобыльскую малітву». Прызнацца, проста каціліся сьлёзы. Простая схіляю перад Вамі, Сьвятлана, галаву. Пераժыць гэтулькі такога, прапусьціць праз сябе — не ўяўляю, як такое магчыма, асабліва жанчыне. Распавядзіце, калі ласка, пра свой досьвед пісаньня гэтай кнігі (або пакіньце інтэрнэт-спасылку, калі гэта ўжо ёсьць недзе больш поўна). Дзякуй. Алесь.*

**Алексіевіч**: Пра гэта, вядома, можна больш даведацца з маіх інтэрвію, якія ёсьць на маім сайце www.alexievich.info. Там было шмат досыць вялізных інтэрвію. Але калі пытаюцца, як я гэта пераժыла, я супраць таго, каб вельмі перабольшваць асаблівасьці пісьменьніцкай прафэсіі.

Калі ў мяне памірала сястра ў 35 гадоў ад раку, сама будучы лекаркай, я бачыла, што такое хірург-анколяг, які кожны дзень бачыць дзіцячыя сьлёзы, матчыны сьлёзы і схіляецца над гэтай чалавечай матэрыяй, якую ён хоча паправіць, я думаю, што яны пераժываюць ня менш, чым пісьменьнікі.

Мы жывем. І мужнасьці трэба ўсім сёньня для жыцьця. Патрабуецца мужнасьць ня толькі, каб пераժыць гэта, а мужнасьць для таго, каб зразумець гэта.

У працы над кнігай «Чарнобыльская малітва» мне больш сіл і мужнасьці спатрэбілася, каб гэта зразумець. Ня проста запісаць пакуты чалавечыя (я не калекцыяную чалавечыя пакуты і жахі). Для мяне было важна дастаць чалавечы дух, зразу-

мецъ гэтую таямніцу. Чарнобыль — гэта перш за ўсё таямніца, якая перакінула нас у зусім новую рэальнасьць.

Мы жывем у Беларусі і ў гэтым сьвеце, не зусім разумеючы, што з намі адбылося. Хоць потым гэтыя вежы, якія паваліліся ў Нью-Ёрку, новыя войны, якія ідуць на Ўсходзе і якія называюцца неяк незразумела — тэрарызм. Усё гэта кажа пра новыя супрацьстаяньні і новыя выклікі. Чарнобыль усё гэта пачынаў.

Езьдзіць, зьбіраць, думаць было вельмі цяжка, але я гэта рабіла дзесяць гадоў. Людзі тады былі ўзрушаныя тым, што здарылася. Самае цяжкае было зразумець і вырвацца з гэтых учэпістых і драпежных абдымкаў часу, падняцца над матэрыялам.

*Шаноўная Сьвятлана! Даўно сачу за вашай творчасьцю і грамадзкай пазыцыяй. Шчыры дзякуй Вам за ўсе Вашы творы. Прабачце небараку Чаргінца і купку зь ім... Чакаю Вашай новай кнігі. Я ня ведаю, пра што яна, але упэўнена ў адным — гэта будзе мудрая Кніга. Скажыце, над якой тэмай Вы цяпер працуеце? Дзякуй! Ірына Лаўроўская. Берасьце.*

**Алексіевіч**: Я цяпер працую над другой часткай «Зачараваныя сьмерцю». Гэта кніга пра тое, што з намі адбылося за 20 гадоў, чым мы адрозьніваемся ад тых, кім мы былі ў 1985-1995 гадах — падчас надзей, часу перабудовы, часу падоранай нам гісторыяй дзяржавы, як быццам асобнага (а

ўласна, мы аказаліся няздольныя скарыстацца гэтай свабодай, тут жа яе аддалі ў рукі першага, хто трапіўся, таго, хто гатовы быў яе схапіць і падмануць нашы чаканьні), — і пра тых, якія мы цяпер — 1995–2005 гады.

Чаму мы сталі цынічнымі, чаму мы сталі расчараванымі, чаму даляр перамог нас і зламаў хутчэй, чым гэта нават зрабілі сталінскія лягеры. Сталінскія лягеры ўсё ж такі перажылі, а даляр не перажылі. З чым гэта зьвязана ў чалавечай прыродзе, у спакушэньні матэрыяльным, чаго ня ведала наша культура... Я ў адным інтэрвію цытавала мастака Ільлю Кабакова, які сказаў, што раней мы змагаліся з пачварай, і гэта рабіла маленькага чалавека вялікім. Пачвара — гэта монстар.

І вось мы перамаглі гэтую пачвару. Азірнуліся — і выявілася, што нам трэба жыць з пацукамі, з сацыяльнымі страхамі, з монстрамі, якія жывуць у чалавечай прыродзе. Жыць з гэтымі монстрыкамі, са страхам, які жыве ў нашай падсьвядомасьці. Гэтага досьведу ні ў нашай культуры, ні ў расейскай культуры няма. Мы былі краінамі, якія заўсёды выжывалі, у нас моцная філязофія выжываньня, філязофія барацьбы, філязофія пакуты.

А філязофіі жыцьця ў нас няма. І таму мы былі выкінутыя ў зусім новую прастору, мы аказаліся бездапаможныя, і таму мы хапаемся за нейкія матэрыяльныя рэчы і ня маем прышчэпкі ад усяго гэтага. Я спрабую ў гэтым разабрацца — што з намі адбылося.

Ужо гадоў дзесяць я пішу кнігу — у мяне наперадзе яшчэ сёмая кніга. Шостая кніга — гэта кніга пра каханьне, кожны распавядае сваю гісторыю каханьня і жыцьця. І праз гэта паказана, што мы разумеем пад шчасьцем, як мы жывем, што нам падабацца, што мы любім, пра што мы тужым. Мы сапраўды ўступілі ў новы час, калі кожны чалавек задумаўся, што ёсьць ягонае ўласнае жыцьцё, а ня толькі будаўніцтва чагосьці вялікага. Ужо ўсе гэтыя ідэі не прышчапляюцца. Усе гэтыя нацыянальныя расейскія ідэі ці яшчэ нейкія. Мы ўжо вучымся жыць безь вялікіх падзей і безь вялікіх ідэй. Мне здаецца, што гэта будзе яшчэ адзін погляд на тое, што з намі адбываецца цяпер. Вось гэта дзьве працы, якія я раблю. І сама стараюся зразумець нешта ў нашым жыцьці, і слухаю дзясяткі і сотні людзей, і раблю з гэтых хораў кнігу, якая была б вобразам нас сёньняшніх — вобразам часу.

*Які Ваш прагноз адносна маючых адбыцца выбараў? Ці ёсьць, на Вашу думку, у Беларусі шанец здабыць новага прэзыдэнта ўжо гэтай вясной? Дзякуй, Мікалай.*

**Алексіевіч**: Я б хацела, каб наша жыцьцё зьмянілася. Каб мы — і краіна, і наш народ — займелі нейкі іншы сымбаль, нейкую іншую фігуру, каб адкрыліся іншыя гарызонты, і мы сапраўды ўвайшлі б, як гэта цяпер кажуць, у цывілізаваны сьвет... Але я баюся, што ў нас няма, як мне здаецца, унутраных сілаў перамагчы сытуацыю, і

гэта перш за ўсё, паколькі ўлада моцная. І нахабная, скажам так.

Я ўжо казала, што Кучма не страляў ва ўласны народ. А Карымаў — страляў. І давайце падумаем, якая ўлада ў нас? Напрыклад, наколькі я чула, вось на гэтым апошнім «вялікім сходзе», там казалі што будуць з аўтаматам абараняць гэтую ўладу. Уласна — абараняць аднаго чалавека. А ня тое, чаго хоча народ.

Вядома, хацелася б спадзявацца, але думаю, што сёньня я ня бачу падстаў для аптымізму, таму што працуе адзін аргумэнт вельмі магутны. Трэба аддаць належнае Лукашэнку.

Я разумею, што дыктатары — людзі прынцыпова неадукаваныя. І прынцыпова некультурныя. Інакш яны не былі б дыктатарамі. Але дзякуючы сваёй інтуіцыі, ён задзейнічаў магутны, скажам так, сацыяльны фактар.

Вялікі працэнт людзей у гэтым грамадзтве задавальняе тое, што адбываецца ў краіне. Гэта значыць, яны могуць дзесьці зарабляць, дзеці сельскія могуць недзе вучыцца, для іх ёсьць нейкая квота ў ВНУ, ёсьць яшчэ бясплатная нейкая асьвета, ёсьць бясплатная ахова здароўя. Гэта значыць, ён задзейнічаў рэсурс сацыялізму. Вось гэта тое, што ў бліжэйшых да нас краінах страчана — там чалавек з ваеннага сацыялізму адразу быў выкінуты ў дзікі рынак, і чалавек аказаўся адзінокі і разгублены. Лукашэнка інтуітыўна нейкія рэчы зьмікшыраваў. І таму, ня трэба адмаўляць, ён задзейнічаў шмат фактараў, якія важныя ў пераходны пэрыяд ад сацыялізму

да капіталізму. І я думаю, што на сёньняшні момант для большасьці людзей ён нейкая фігура. Усе разумеюць, што яна ўжо — пераходная. Ужо на трэцім тэрміне ўсе гэта разумеюць. Але, памойму, у яго яшчэ ёсьць час. Псыхалягічны час адносна мысьленьня ў нашай краіне.

І я баюся, што пакуль пераменаў ня будзе.

*Добры дзень спадарыня Сьвятлана! Па-першае, дзякуй Вам, што вы ёсьць у нас. Па-другое: як Вы ставіцеся да сёньняшняга сьвята — Дня жанчын 8 сакавіка?*

**Алексіевіч**: Я яго разумею як сьвята вясны, хоць у Беларусі яшчэ зіма. Ва ўсякім выпадку, з майго акна я бачу замерзлую рэчку, пакрытую белым сьнегам, і на гэтым белым сьнезе сядзяць белыя чайкі.

*Добры дзень, Сьвятлана, я чула, Вы атрымалі грант са швэдзкага боку, каб мець магчымасьць працаваць у Швэцыі нейкі час. Калі гэта так, калі зьбіраецеся прыехаць, у якім горадзе будзеце жыць і які час? Дзякуй! З павагай, Юлія.*

**Алексіевіч**: Я буду жыць у Гётэборгу два гады. Але я ніколі не жыву ўвесь час за мяжой. І калі я жыла ў Італіі, у Францыі і ў Нямеччыне, я заўсёды праз 3-4 месяцы прыяжджаю дадому, шмат ежджу і па Беларусі, і па Расеі, была і ў Грузіі, і ва Ўкраіне, і ў Літве. Я жыву ў сваім сьвеце, са сваімі людзьмі, паколькі я пра гэта пішу.

Я не дазваляю сабе спыніцца на адным месцы ня толькі таму, што тут небясьпечна жыць — ніхто тут ня бегае за мной з аўтаматам Калашнікава. Але не друкуюць. Не даюць выступаць. Вось паехалі мы ў Магілёў з Валодзем Арловым — у бібліятэцы не дазволілі, у кнігарні не дазволілі, у школе не дазволілі, таму што ёсьць нейкі загад, падпісаны міністрам адукацыі, дапускаць да публікі толькі членаў саюзу Чаргінца.

Гэта не галоўнае. Галоўнае — напісаць твор, які б патлумачыў і першым сфармуляваў бы тое, над чым людзі думаюць, чым пакутуюць, у поцемках ходзяць, але яшчэ пакуль не здагадваюцца. Вось гэта, я лічу, у чым задача пісьменьніка — першаму пра нешта здагадацца, першаму пра нешта сказаць. Гэта значна важней асабіста для мяне, чым я была б проста на плошчы і прамаўляла.

Я лічу, што мае кнігі зробяць больш, калі я зраблю гэтую працу. Іншая справа, што для гэтага мне патрэбна і цішыня, і нейкая душэўная раўнавага. Хірург жа ня можа рабіць апэрацыю, калі вакол яго працуюць рэпрадуктары і гучаць прамовы. Ёсьць свая прастора працы, я яе вельмі аберагаю. І шукаю гэтыя словы, нейкі сэнс, які нам трэба сёньня знайсьці і здабыць.

Таму што нават калі ўлада зьменіцца, у нас усё роўна будзе вельмі шмат праблемаў. У кожнага з нас і ў усіх нас разам, таму што мы яшчэ па-ранейшаму нацыя патэнцыялу і надзеяў. Ня трэба цешыць сябе. У нас яшчэ доўгі шлях.

*(Па-ўкраінску) Хачу перадаць прывітаньне з Івана-Франкоўску і пажадаць вытрымкі, сілы, аптымізму і перамогі!!!*

**Алексіевіч**: Я б хацела на гэта адказаць, таму што дзесьці гады два ці тры таму японскае тэлебачаньне здымала пра мяне фільм, і я была ў Івана-Франкоўску, таму што я там нарадзілася, у гэтым горадзе, я была там у манастыры, дзе некалі ігуменьня мяне выратавала ад сьмерці.

Я была дачкой савецкага афіцэра. Мой бацька ажаніўся з украінкай, сам бацька — беларус з Палесься. Я нарадзілася ў Івана-Франкоўску. І я памірала, бо савецкія войскі змагаліся з «бандэраўцамі», і нельга было нічога купіць. Я памірала ад рахіту. Тады мой бацька, таварышы неяк перакінулі яго праз сьцяну кляштара, падышоў да настаяцельніцы, стаў перад ёй на калені і сказаў: «Я савецкі афіцэр, вы можаце мяне забіць, можаце мяне ненавідзець, але Вы ж верыце ў Бога, Вы маглі б выратаваць маё дзіця. Мая жонка — украінка». Ігуменьня сказала, што хай твая жонка прыходзіць кожны дзень, і яна будзе атрымліваць казінае малако. «Але ты больш не прыходзь у гэты дом. Мы ня любім вас, але дзіця мы ня можам ня выратаваць». Таму для мяне Івана-Франкоўск — гэта асаблівае месца.

*Вы вельмі сымпатычная жанчына. Што Вы цэніце ў мужчынах?*

**Алексіевіч**: У мужчынах я цаню сумленнасьць і розум. Гэта і ёсьць чалавечая сіла. З узростам пачала яшчэ шанаваць чалавечую дабрыню, мяккасьць. Гэта чамусьці робіцца ўжо раскошай у нашым сучасным хуткасным сьвеце.

*Што б Вас прымусіла выйсьці на плошчу з пратэстам?*

**Алексіевіч**: Па прыродзе сваёй я чалавек самотнай працы, чалавек думаньня. Мая прафэсія, я лічу — дадумваць рэчы да канца. Вось мая прафэсія. Я дрэнна сябе ўяўляю з мэгафонам на вуліцы, хоць я паважаю гэтых людзей і разумею, што такая форма пратэсту сёньня магчымая. Але я супраць рэвалюцый, супраць энэргіі натоўпу. Мне здаецца, што сёньня гэтая форма супрацьстаяньня ўжо ў мінулым. Натоўп, і гэтая энэргія... Гэтыя мэтады, ва ўсякім разе, я псыхалягічна не прымаю. Для мяне бунт — гэта заўсёды страшна. Рэвалюцыя — гэта заўсёды страшна, вядома. Яна бывае такая прыгожая, як у Грузіі або ва Ўкраіне, гэта было вельмі прыгожа. Але ніколі няма ўпэўненасьці, што гэта абыдзецца без крыві. І я ня думаю, што я магла б кагосьці паклікаць на вуліцу і сама пайсьці на вуліцу. Я ўсё ж за асьветніцтва. За працу, якую трэба рабіць разам з часам.

*Вы выдалі цудоўную кнігу пра тых, хто спрабаваў ці ўчыніў суіцыд. Пытаньне не правакацыйнае: у Вас былі калі-небудзь такія думкі?*

**Алексіевіч**: Справа ў тым, што цяпер я пішу другую частку гэтай кнігі «Зачараваныя сьмерцю». Пішу пра тое, што цяпер адбываецца і чаму. Гэта кніга, яе другая частка, пра тое, што з намі адбылося за 20 гадоў.

Мая кніга не пра самагубства. Гэта не мая тэма. Мая кніга пра людзей, якія канчалі самагубствам на развале імпэрыі — той самы маршал Ахрамееў, тая самая пісьменьніца Юлія Друніна або абаронца Брэсцкай крэпасьці Тэмэрын Зінатаў. То бок, людзі, якія не маглі разьвітацца з ідэяй, як матылькі ў цэмэнце. Яны ўліплі туды і не змаглі аддзяліцца.

Гэтае крушэньне імпэрыі яны ўспрынялі як крушэньне ўласнага «Я», уласнага жыцьця. Я ў сваёй хроніцы «Галасы Ўтопіі» — гэта значыць маленькі чалавек і вялікая ўтопія — дасьледую нашу гісторыю, якую распавядае сам маленькі чалавек. Я займалася часам распаду: што адбывалася з гэтым маленькім чалавекам падчас распаду.

Я сама спазнала такія настроі толькі ў дзяцінстве, паколькі, напэўна, самыя адзінокія часы ў нашым жыцьці — гэта часы дзяцінства.

А так у мяне прадзед, дзед, бацькі — вясковыя настаўнікі. Я спадзяюся, што мяне не нагэтулькі лёгка зламаць у гэтым жыцьці. Я спадзяюся, у мяне ёсьць генэтычная раўнавага, і я вельмі берагу яе. Не хацела б яе страціць.

*Добры дзень, Сьвятлана. Якія галоўныя праблемы сёньняшняй беларускай літаратуры? Дзякуй.*

**Алексіевіч**: Праблема беларускай літаратуры ў тым, што няма беларускай літаратуры. Мы маем сёньня разгубленае, дэпрэсіўнае грамадзтва і разгубленых пісьменьнікаў. Некаторыя маладыя пісьменьнікі яшчэ спрабуюць нешта сказаць, але гэта больш падобна на літаратурныя гульні або на ілюстрацыю нацыянальных ідэй. Пісьменьнікі больш старэйшых пакаленьняў, яны глуха змоўклі. Той інструмэнт, які быў напрацаваны — у ранейшым супрацьстаяньні, у савецкай сытуацыі — сёньня не працуе, таму што сёньня супрацьстаяньні зрушыліся больш у экзыстэнцыйны бок. У нас спынены гістарычны час. Можна сказаць, што Беларусь — гэта музэй. Паедзеш ва Ўкраіну — там зусім іншыя працэсы. Там ёсьць рух. У нас час спынены ўладай.

Але разам з тым калі я гутару зь людзьмі, я бачу, што грамадзтва і людзі асобныя разумнейшыя і за сваю эліту, і за сваю ўладу. Я думаю, што гэта выклікае надзею ў тым пляне, што мы — нацыя патэнцыялу. Гэты патэнцыял назапашваецца і ўмацоўваецца. Рана ці позна ён неяк прарвецца.

Галоўная праблема ў літаратуры — гэта тое, што няма новых ідэй. Нацыянальна арыентаваныя, жорстка арыентаваныя людзі і групы, яны таксама, на жаль, ня могуць прадставіць новых ідэй. Мне падабаецца часопіс ARCHE і газэта «Наша Ніва», а асабліва іх перадрукі з польскай,

чэскай пэрыёдыкі, філязофскай думкі. Яны спрабуюць намацаць для нас нейкія ідэі і шляхі, але гэтая праца ідзе слаба. Ва ўсякім выпадку, літаратурнага эквіваленту мы пакуль ня маем.

Самая моцная рэч, якую я прачытала, гадоў сем гадоў таму, гэта была аповесьць «Любіць ноч — права пацукоў» Юрыя Станкевіча.

*Сьвятлана, якое ваша стаўленьне ды сытуацыі з двума пісьменьніцкімі саюзамі ў Беларусі?*

**Алексіевіч**: Вельмі добра сказаў пісьменьнік Анатоль Кудравец падчас аднаго з судовых пасяджэньняў. Ён сказаў, што ў 1937 годзе, калі з 500 членаў Саюзу пісьменьнікаў засталося не рэпрэсаваных, не пасаджаных, не расстраляных — усяго 12 чалавек, будынка ў іх ніхто не забраў. Будынак захаваўся. Сёньня мы маем трыюмф хама, разгул культурнага бандытызму, які стаў ужо амаль што бытавой зьявай нашага жыцьця. Самае неверагоднае, што ўсе з гэтым зьмірыліся і зжыліся. Гэты факт нашага бясьсільля таксама вельмі паказальны.

Вядома, калі ім не падабаецца «апазыцыйны» Саюз пісьменьнікаў, яны ствараюць свой Саюз пісьменьнікаў, пры тым, што ніводзін сур'ёзны, вялікі пісьменьнік туды не ўвайшоў. Напрымалі туды людзей з рэгіёнаў амаль у загадным парадку, нейкіх чыноўнікаў. Гэта поўны дэспатызм. Адзінае, што можа быць нам падтрымкай і суцяшэньнем — час не спыніць. Спрэчкі цара і людзей мастацтва вядома чым скончацца — перамогай

людзей мастацтва. Час не спыніць. Але трэба прызнаць, што сёньня мы на руінах.

Мы павінны проста рабіць сваю справу. Толькі такім чынам мы можам захаваць і сябе, і наогул гэты Саюз. Ён ёсьць, ён існуе. Ёсьць агульнае разуменьне. Ёсьць агульная зьвязка сумленных і таленавітых людзей. Гэта павінна нас умацоўваць. Мы гэта перажывем. Рана ці позна гэта скончыцца.

*Дзень добры, спадарыня Алексіевіч. Я быў на адным з паседжаньняў суду над Вамі і Вашай кнігай «Цынкавыя хлопчыкі», калі маці палічылі сябе і сваіх дзяцей абражанымі і падалі, мяркую не па сваёй ініцыятыве, на Вас у суд. Тады Вас абараняла «Ліга правоў чалавека» і ў прыватнасьці — яе кіраўнік Яўген Новікаў, які сёньня вядомы як адзін з адыёзных абаронцаў подлага рэжыму. І, калі Вы кажаце «Усё так эфэмэрна... займаючыся шмат гадоў дакумэнтам пачуцьцяў, я ведаю тое, як яны рухаюцца... Кожны раз іншы сьвет...», дык ці не змаглі б вы растлумачыць, у чым падабенства ў дзеяньнях і паводзінах тых жанчын і Я. Новікава, якімі пачуцьцямі яны кіраваліся і ў чым розьніца, калі яна ёсьць? Дзякуй. Лявон С.*

**Алексіевіч**: Я пайшла тады ў суд над кнігай дзеля мацярок. Мне хацелася ім нешта растлумачыць, я думала, ім можна нешта растлумачыць. Я памятала жанчыну, якая хавала сына, і вось такая маленькая труна стаяла ў маленькай аднапакаёвай кватэры, яна ў шаленстве стукала

ў яе, казала — «Ці ты, ці ты там, сынок? Труна такая маленькая, а ты такі вялікі...» Крычала мне — «Раскажы, раскажы, як ён там сталярнічаў на дачы генэральскай, страляць не навучылі, адправілі... і за два месяцы забілі». А потым я бачу яе ў судзе. Кажу: «Што Вы тут робіце?». Яна адказвае: «Мне патрэбен сын-герой, а не забойца, як ты напісала». Ну, гэта ёй ужо, вядома, патлумачылі. І мяне ўразіла, калі ў залю суду ўвайшоў сьвятар айцец Віталь і паспрабаваў сказаць — «Маці, не шалейце! Бо там таксама афганскія маці плачуць», — і яны кінуліся зрываць зь яго крыж. Я зразумела, што індустрыя савецкага патрыятызму вельмі сапсавала душу. Я зразумела, як цяжка мы хворыя, якое цяжкае таварыства. Што застаецца пасьля Ўтопіі? Ня толькі дрэнныя дарогі, дрэнныя чаравікі або дрэнныя зубныя лекары — застаецца разбэшчаны чалавек. Вось гэта мы і маем. Вось чаму і прыходзяць потым да ўлады такія людзі, як Лукашэнка, чаму мы топчамся на месцы і нікуды ня можам прарвацца.

А што тычыцца Новікава, Вы ведаеце, я нават неяк уключыла тэлевізар і паглядзела на гэты твар... Я ўбачыла, як нават памяняўся твар у чалавека. Я думаю, гэта — чалавечы тып, падобны на Лукашэнку. Гэтыя людзі, якія маглі б зрабіцца і дэмакратамі, або камуністамі, або дыктатарамі — ім патрэбная сама ўлада. Іх цікавіць толькі гэта. І яны могуць стаць усім чым заўгодна. Новікаў — гэта анэкдатычны клон Лукашэнкі, але парода — тая самая.

*У Беларусі кнігі Алексіевіч не друкуюцца даўно — ужо 12 гадоў (калі не лічыць кнігі, выдадзенай прыватным чынам Сяргеем Законьнікавым)». А ва Ўкраіне вашыя кнігі друкуюцца? Чаму не ў Беларусі?*

**Алексіевіч**: Ва Украіне пераклалі «Чарнобыльскую малітву», у Літве пераклалі. Кнігі выходзяць пастаянна ў Расеі. І зараз адно з маскоўскіх выдавецтваў будзе публікаваць томік за томікам усе мае кнігі, усю маю хроніку.

У Беларусі — не, ніводнае выдавецтва, ні залежнае, ні незалежнае, за гэта не бярэцца. Хоць я думаю, што сёньня прыйшоў час сур'ёзных кніг, паколькі мы спачатку думалі, што свабода — гэта такое сьвята, што ўсё ў нас атрымаецца, як ва ўсіх. Гэта не атрымалася, стала зразумелым, што чужыя ідэі гэтак хутка не прыжываюцца, што мы іншыя, што мы яшчэ да многіх рэчаў не гатовыя і не разумеем іх.

Ну і што, што мы карыстаемся словамі «дэмакратыя», «лібэралізм», «лідэр» — гэта проста словы, яны яшчэ нічым не напоўненыя, гэта яшчэ не аплачана залатым запасам генэтычных або нейкіх псыхалягічных і інтэлектуальных набыткаў. І таму я думаю, што мы пакуль можам спадзявацца на час, і ў кожным чалавеку ў адзіноце праходзіць вялікая праца. І вельмі шкада, што пісьменьнікі самаўхіліліся ад гэтай працы. І ня толькі таму, што нам мала дзе можна гаварыць і пісаць, але яшчэ і таму, што нам мала чаго можна сказаць. Мы ўжо адвыклі ад сур'ёзнай размовы.

Усе гэтыя постмадэрнісцкія гульні, усе гэтыя корпаньні ў сабе, ва ўласных сэксуальных праблемах і комплексах — гэта ўсё мае права на існаваньне. Але калі гэта робіць пісьменьнік дзенебудзь у Эўропе, гэта яшчэ зразумела. А ў нас ад гэтай працы, я б сказала, несумленна ухіліцца.

Людзі хочуць чытаць і хочуць сур'ёзнай размовы. Я ва ўсякім выпадку спрабую не даваць сабе спуску, хоць я таксама чалавек, я таксама стамляюся, у мяне ёсьць біяфізыка і свае межы. Але гэта мая прафэсія — дадумваць рэчы сумленна да канца. Хоць часам бываеш мішэньню паміж дзьвюх барыкад — цябе ня любяць і нацыянальныя рухі, цябе ня любіць і Лукашэнка зь яго ўладай. Але жыцьцё такое маленькае, што ня хочацца гуляць ва ўсе гэтыя гульні, хочацца быць проста сумленным чалавекам, якому цікава жыць.

*1. Сьвятлана, сёньня часта пачуеш слова глябалізацыя. Вы, мяркую, маеце свой, як заўсёды, адметны погляд на рэчы, таму хацеў бы пачуць, ці зьвязваеце Вы Чарнобыль і наступствы з глябалізаваным сьветам і дзе наш паратунак? 2. Вы ладзіце няспынны дыялёг з чытачамі, грамадзкімі актывістамі. А якія ў Вас адносіны зь «зялёнымі», наогул экалягічным рухам? Наколькі папулярная Вы менавіта ў гэтых колах (маю на ўвазе сусьветны кантэкст)? 3. Якія небясьпекі для Беларусі Вам бачацца выразна з гледзішча яе экалягічнага стану? Вядома, апроч наступстваў Чарнобыля. Дзякуй!*

**Алексіевіч**: Я вельмі шмат выступала на розных экалягічных кангрэсах, сымпозіюмах, сустракалася зь «зялёнымі»... І былі дыялёгі зь філёзафамі на гэтую тэму. Але я б не магла сказаць, што ў «зялёным» руху ёсьць прарывы — таксама нейкае таптаньне на месцы, але што тычыцца Беларусі і Расеі — ёсьць нейкі антыатамны рух... У Беларусі, па-мойму, гэта ўсё ў такім зачаткавым стане... Грамадзтва спынена ў сваёй самасьвядомасьці, у сваім разьвіцьці...

І калі я бываю ў чарнобыльскай зоне, мяне больш за ўсё дзівіць, што ніхто не аб'ядноўваецца! Нават маці хворых дзяцей, дзяцей, якія паміраюць — і тое не аб'ядноўваюцца! Гэта значыць, мы знаходзімся яшчэ на іншым узроўні сьвядомасьці. У нас, перш за ўсё, няма грамадзянскай супольнасьці, няма свабоднага грамадзтва. У кожным чалавеку няма той тэрыторыі асобы, на якой могуць ідэі свабоды, ідэі грамадзянскай супольнасьці працаваць. Каштоўнасьці ўласнага жыцьця няма... Такое адчуваньне, што быццам скончылася вялікая вайна. І такая цана жыцьця свайго.

Толькі-толькі пачынае нешта зьяўляцца ў людзях. Яны пачынаюць трохі езьдзіць, нешта глядзець, нягледзячы на тое, што жыцьцё як бы пад магутным прыгнётам і кантролем. І ўсё ж людзі пачынаюць разумець, што можна жыцьцё пабудаваць інакш, можна дах пакрыць мэталёвай дахоўкай, можна дзяцей вывучыць ў іншым месцы... Гэта толькі-толькі пачынаецца. Ну а ў грамадзкім жыцьці цалкам зачыстка праведзена.

Улада абараняе саму сябе. Дакладней, улада пэрсаніфікаваная ў адным чалавеку, які абараняе самога сябе і трымае грамадзтва ў пастаяннай гістэрыі, заяўляючы, што грамадзтва ў небясьпецы. А ніякай небясьпекі няма! Небясьпека толькі ў аднаго чалавека.

І ніякія «змовы» ня трэба адкрываць. Калі і існуе «змова» — то гэта «змова» сумленных і сумленных людзей. Вось гэта адзіная змова, якая існуе ў гэтай краіне. Але гэтыя людзі сёньня дастаткова разгубленыя, яны ў бясьсільлі. Пакуль цяжка казаць пра тое, каб тут нейкія ідэі працавалі. На жаль, вельмі часта наша сытуацыя нагадвае грубы анэкдот: калі б Чарнобыль здарыўся ў папуасаў, то ўвесь сьвет бы пра гэта ведаў, акрамя саміх папуасаў. Нешта падобнае з намі.

*Паважаная Сьвятлана, як вам падаецца, чаму ў Лукашэнкі такая нянавісьць да старажытнай беларускай мовы і культуры? Ці гэта ягоны ўзровень адукацыі перашкаджае яму, ці нешта іншае? Кастусь Дубок, Таронта.*

**Алексіевіч**: Разумееце, я ўжо сказала, што дыктатары — прынцыпова некультурныя людзі, яны на гэтым стаяць.

Калі ў ім быў бы той інструмэнт унутраны, які ёсьць у Мілінкевіча, які як бы прадстаўляе беларускую ідэю — гэта быў бы нават фізычна іншы чалавек. У яго быў бы іншы слоўнік, у яго была б іншая плястыка, у яго былі б іншыя ўяўленьні цалкам.

Але Лукашэнка — гэта чалавек з савецкага часу, зьлеплены моцна савецкім часам, з моцнай прагай улады, і ён, вядома, хоча застацца ў гісторыі. Але ён ужо выкарыстаў увесь свой патэнцыял. Яму няма з чым рухацца.

А ўзяць вось гэта новае, перахапіць тую самую беларускую ідэю, або ўзяць вакол сябе інтэлектуалаў нейкіх, людзей з думкамі пра будучыню, з ідэяй будучыні — у яго ўжо няма гэтых антэн. І я думаю, ён ужо ходзіць па коле, і нацыю водзіць па коле. І гэта зразумела, чаму. У яго ўжо няма гэтых магчымасьцяў. Таму што ён абмежаваны гэтым сваім часам і сваёй адзінотай, я б сказала.

Чамусьці мне ўяўляецца, што гэта вельмі самотны чалавек. Чалавек, які зьяўляецца фанатыкам — любові, улады ці яшчэ чагосьці — як кожны фанат, такі чалавек вельмі самотны. Такі чалавек вельмі небясьпечны для сябе, а ўжо тым больш, калі ён ва ўладзе.

*1. Цытую Вас, Сьвятлана: «Таму сёньняшні сьвет аказаўся ня менш страшным. І чалавек па-ранейшаму ў ім самотны. І па-ранейшаму ня ведае, як жыць». І яшчэ цытата: «...увесь сьвет — ва ўсякім выпадку, эўрапейскі — жыве пры самай страшнай дыктатуры — дыктатуры маленькага чалавека». Ці ведаеце Вы, Сьвятлана, як жыць? І што трэба зрабіць для таго, каб маленькі чалавек убачыў у сабе задаткі чалавека вялікага і стаў ім? У Вас ёсьць такі рэцэпт? 2. Ці была ў Вас у юнацтве мэта стаць пісьменьнікам, альбо ўсё атрымалася спантанна? І кім была б Сьвятлана*

*Алексіевіч цяпер, калі б не паехала ў 1973 годзе зь Бярозы ў Менск? Мікалай Сінкевіч, «Маяк».*

**Алексіевіч**: Наконт рэцэптаў «Як жыць?» — думаю, мінуў той час, калі пісьменьнікі ведалі больш за іншых. Сёньня кожны чалавек так паразумнеў, што пісьменьніку цяжка даць адказ, і можна казаць толькі пра свой уласны шлях. Я паезьдзіла па сьвеце і магу сказаць, што ў Эўропе, у дэмакратычнай часткі, сапраўды дэмакратыя — гэта жыцьцё, зладжанае для сярэдняга чалавека. Ён хоча спачатку, каб у яго была машына, дом, а потым ужо — кнігі, якія ён разумее... Ня трэба сябе суцяшаць, як мы гэта рабілі ў савецкі час, што мы публіка, якая чытае больш за іншых. Нічога падобнага. Я думаю, 70 працэнтаў людзей заўсёды хацелі чытаць Марыніну, Дашкову (бяру іх як сымбаль) — і зусім не жадалі чытаць Дастаеўскага, Васіля Быкава, ці Кузьму Чорнага... Дэмакратыя — таксама свайго кшталту пастка. Але іншая справа, што гэта пастка, у якой існуе выбар. Але я думаю, яшчэ ўсё XXI стагодзьдзе будзе стагодзьдзем «маленькага чалавека». І ён выбірае сабе падобнага — паглядзіце на лідэраў краін сёньня. Гэта прадстаўнікі «маленькага чалавека». Ну а ў нас ужо дыктатура «маленькага чалавека» ў самай прымітыўнай стадыі.

Што тычыцца майго пісьменьніцтва? Ня ведаю... Мае бацькі казалі, што як я толькі навучылася пісаць, казала, што буду пісьменьніцай... Я ня думаю, што так гэта сур’ёзна было, але я заўсёды хацела пісаць. Але хіба пісьменьніцтва —

прафэсія? Гэта мой спосаб зразумець, навошта я, навошта ўсё, што вакол мяне. Гэта мой спосаб жыцьця, скажам так. Я не раблю зь сябе мэсію. Мне проста цікава жыць, цікавыя людзі, цікава іх разумець, цікава шукаць словы...

*Калі б Вы выбіралі сёньня, дык куды пайшлі б вучыцца: ізноў на журфак БДУ, ці некуды?*

**Алексіевіч**: Мае бацькі былі вясковымі настаўнікамі, у іх не было шмат грошай, нас было трое дзяцей, і наўрад ці яны маглі мяне яшчэ кудысьці паслаць, дзе б я магла вучыцца — ім гэта было не па сілах.

Мой прынцып — вучыцца трэба ў асобы. Асоб такіх на нашым журфаку, вядома, няма. Там ёсьць добрыя выкладчыкі, але асоб няма. Хоць я памятаю Арыядну Апялінскую. Яна вяла гісторыю расейскай журналістыкі і не была вельмі моцным выкладчыкам, але нешта было ў ёй такое тургенеўскае, нешта арыстакратычнае ў яе вобразе, якое казала пра тое зьнішчанае жыцьцё, якое мы не засьпелі. Вось такіх людзей трэба шукаць. І ўвесь час трэба вучыцца ў кніг, у жыцьця, у размоў. Божа мой, а з нашымі беларускімі бабулькамі, са старымі як цікава гаварыць! Я асабіста жыву па прынцыпе, як у Казьмы Пруткова — і заняўся я, прабачце за выраз, самаадукацыяй.

*Як Вы лічыце, чаму многім жанчынам падабаецца наш прэзыдэнт? Справа ў зьнешнасьці ці ў гіпнатычнай харызьме яго асобы? Агульнавядома,*

*што жанчыны «любяць вушамі», і тое, пра што гаворыць Лукашэнка, ужо, відаць, ня мае ніякага сэнсу...*

**Алексіевіч**: Я думаю, што мы счытваем інфармацыю ня толькі са слоў, мы счытваем яе і яшчэ на нейкім іншым узроўні, можа быць яшчэ не да канца выяўленым навукай. Я думаю, што тут уся справа ў энэргетыцы, для мяне асабіста. Таму калі Вы будзеце думаць пра тое, што вымаўляецца, пра гэта нельга гаварыць сур'ёзна, гэта не паддаецца ніякай лёгіцы — гэта шаманства. Але тая магутная энэргетыка, якая ідзе, яна валадарыць. Нацыя неаформленая, людзі стаміліся ад гэтай энэргетычна магутнай камуністычнай ідэі, ад гэтай магутнай апрацоўкі. Яны прывыклі, што на іх увесь час нешта ціснула, нешта іх накіроўвала. І раптам яны аказаліся выкінутыя ў пяць газэт і ў пяць розных праўдаў. Гэта зусім незразумелы сьвет, і яны ня ведалі, як ім у ім арыентавацца. Мы ж сялянская краіна. І раптам зьяўляецца чалавек з такой магутнай энэргетыкай. Я думаю, справа ў гэтым. А жанчыны больш эмацыйна падуладныя гэтаму.

*У колькіх краінах, на якіх мовах і колькі Вашых кніг выдадзена?*

**Алексіевіч**: У мяне ёсьць сайт www.alexievich.info. Там на сёньняшні момант, па-мойму, 87 кніг. Гэта каля 25 краін. У некаторых краінах усе пяць кніг выйшлі, а ў некаторых краінах — дзьве-тры

кнігі. Гэта і Кітай, і Віетнам, і ўся Эўропа, і Японія. А сёлета, па-мойму, выйдзе яшчэ дзевяць кніг.

**Навумчык**: Мы завяршаем нашу вэб-канфэрэнцыю. Усім дзякуй за пытаньні. Прыносім прабачэньні слухачам, на чые пытаньні Сьвятлана Алексіевіч ня пасьпела адказаць.

**Алексіевіч:** Дзякуй усім. Я заўсёды цаню чалавечую размову, чалавечую шчырасьць. Мне ня трэба і не цікава, калі мне кажуць толькі добрае. Вядома, словы падзякі — гэта выдатна, але мне заўсёды цікавае жывое жыцьцё. Яно і вульгарнае, і злое, і цёплае, і цудоўнае — гэта цікава. Добрая размова — яна яшчэ раз пацьвярджае маё даўняе перакананьне, што людзі, грамадзтва ў нас цікавейшае і за эліту, і за ўладу. І гэта выклікае надзею.

## «З Чарнобылем беларусам жыць вечна»

23 красавіка 2006
Юры Дракахруст, Прага

*Ці стаў Чарнобыль для беларусаў нацыянальнай траўмай такога самага маштабу, як для габрэяў — Галакост, ці для армянаў — генацыд 1915 году? Чым адрозьніваецца сьвядомасьць жыхароў Чарнобыльскай зоны ад сьвядомасьці беларусаў астатняй часткі краіны? Ці трэба беларусам забыць Чарнобыль, каб жыць далей? Гэтыя пытаньні ў «Праскім акцэнце» абмяркоўваюць пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч, старшыня фонду «Дзецям Чарнобылю» Генадзь Грушавы і кіраўнік Цэнтру сацыялягічных і палітычных дасьледаваньняў БДУ Давід Ротман.*

**Дракахруст**: Беларусь у сваёй гісторыі зазнала жахлівыя гуманітарныя катастрофы — войны і эпідэміі. Як успрымаюць людзі Чарнобыль — як яшчэ адну катастрофу ў шэрагу іншых, ці як нешта выключнае? Сьвятлана Алексіевіч, як Вы лічыце?

**Алексіевіч**: Я лічу, што Чарнобыль — адна з галоўных падзеяў XX стагодзьдзя, нягледзячы на войны і рэвалюцыі. Але калі казаць выключна пра нашу геаграфію — Украіна, Беларусь — тыя, хто найбольш пацярпелі ад Чарнобылю, то мы не зразумелі, што з намі адбылося. Гэта адбываецца, але гэта не асэнсавана. Маўчаць нашы пісьмень-

нікі, маўчаць нашы філёзафы. Я шмат думала над тым — чаму?

Мяркую, што адна з прычынаў — у тым, што супалі дзьве катастрофы. Празь некалькі гадоў пасьля Чарнобылю адбылася катастрофа сацыяльная, калі агромністая імпэрыя ўтопіі, сацыялістычны мацярык сышоў у нябыт, на аскепках імпэрыі нешта адбываецца, і людзі занятыя найперш гэтым. Бо гэта зразумела, гэта ўкладаецца ў традыцыі культуры, культуры ваеннай, гістарычнай, рэвалюцыйнай, культуры барацьбы. Наша культура на гэтым грунтуецца. А вось другая, касьмічная катастрофа, якая адбылася на вачах гэтага пакаленьня, яна не ўсьвядомленая. Не асэнсаваная з прычыны таго, што, па-першае, яе засланіла першая катастрофа, а па-другое — чалавечая культура наагул не была гатовая да Чарнобыльскай катастрофы. Гэта абсалютна новая рэальнасьць, гэта іншыя маскі зла, іншае аблічча сьмерці. Чарнобыль зьнішчыў паняцьці прасторы і часу. Гэта ўсё не ўкладаецца ў гэты кароткі прамежак часу, дзе чалавек і бяз гэтага атрымлівае велізарную колькасьць шокаў. Паколькі з Чарнобылем беларусам жыць вечна, яго асэнсаваньне ў нас толькі наперадзе, ён для нас яшчэ толькі пачынаецца.

**Дракахруст**: Генадзь Грушавы, маё пытаньне ня столькі пра тое, як асэнсоўваюць Чарнобыль інтэлектуалы, пісьменьнікі, гуманітарыі, а пра тое, чым стаў Чарнобыль для простых людзей, якія сталі ахвярамі катастрофы. Як яны ўбудоўваюць Чарнобыль у сваю гістарычную памяць?

Чарнобыль для іх — яшчэ адна «вайна», яшчэ адна «эпідэмія», ці гэта погляд у бездань, у якую не глядзеў ніхто і ніколі?

**Грушавы**: Я цалкам згодны са Святланай у тым, што Чарнобыль — гэта падзея накшталт Галакосту ці ГУЛАГу, калі глядзець у XX стагодзьдзе. Пытаньне, якое Вы задалі — што гэта азначае для беларускага народу — яно хвалюе мяне ўжо шмат гадоў. Напачатку здавалася, што сапраўды нешта такое здольнае абудзіць народ, нейкія здольнасьці абудзіць, якіх яшчэ не было ў гэтага народу, падштурхнуць яго да дзеяньняў, якія ён апошнія сто, дзьвесьце ці трыста гадоў яшчэ ніколі не рабіў. Але крок за крокам я вымушаны быў пераканацца ў тым што — так, Чарнобыль напалохаў большую частку беларускага народу, можа нават і ўвесь народ, але ён ня даў уражаньня той жудасьці, якая ўтварае шок у сьвядомасьці народу, пасьля якога ідзе новая якасьць жыцьця, адчыняюцца нейкія такія пэрспэктывы і даляглады, якіх не было раней. Вось гэтага не адбылося. Трасянула трохі, канечне, і вельмі сур'ёзна. Але чамусьці гэта праз 3-5 гадоў сышло. Я задаваўся пытаньнем — што, чаму? Гэта выключная асаблівасьць беларускага народу. А калі б гэта было ў іншай краіне? Калі б гэта здарылася, напрыклад, дзесьці ў Эўропе? Гэтак сама было б, як і ў нас?

Мне падаецца, што гэтая жудасьць, гэтую катастрофу беларускі народ ужо перажыў, прычым так перажыў, што ачомацца ён яшчэ да сёньняшняга дня ня можа. Гэта здарылася ў часы вайны.

Чаму так шмат людзей у Чарнобыльскіх рэгіёнах, калі мы пачыналі гэтую справу, параўноўвалі яе з вайной? Маўляў, ды не, ды што вы, дзеткі, ды ўсё добра, каб толькі не было вайны. Мне падаецца, што ў генах дзьвюх генэрацыяў беларускага народу так глыбока засела гэтае ўзрушэньне ад вайны, ён такі раздушаны гэтай вайной, што Чарнобыль да такога ўзроўню не ўзьняў яго сьвядомасьць, да такога ўзроўню яго ня зрушыў. Гены не пускаюць, няма магчымасьці ўспрыняць гэта так глыбока, як гэта ўвайшло ў сьвядомасьць і нават у нейкія жыцьцёвыя каштоўнасьці, як тое, што здарылася падчас вайны. І акрамя таго, што сказала Сьвятлана — гэта, бясспрэчна, тое самае. Народ у вайну не перамог. Ён прынёс галоўныя ахвяры, а перамагла сыстэма. Вось тая сыстэма, якая ўтварыла ГУЛАГ, дзе ГУЛАГ зьяўляецца галоўным мэханізмам кіраваньня дзяржавай і грамадзтвам. І вось гэтая самая сыстэма перамагла зноў у Беларусі пасьля Чарнобылю. Таму Чарнобыль упісваецца ў гэтую сыстэму і не дае магчымасьці рухацца гэтаму народу наперад. Мне падаецца, што галоўная прычына ў гэтым, гэта мая асабістая думка, канечне.

Тым ня менш, я бачу, наколькі амбівалентная сьвядомасьць простых беларусаў. З аднаго боку, яны бачаць тое, што адбываецца, адчуваюць сябе ахвярамі, а з другога — яны шукаюць, як скарыстаць для сябе тое, што сьвет зьвярнуў увагу на гэта, што людзі гатовыя дапамагаць. Людзі забываюцца непасрэдна аб трагедыі, аб сваёй адказнасьці за яе, а шукаюць шляхі, як зарабіць

сабе нешта, карыстаючыся гэтай трагедыяй. Людзі іншых краінаў, мне падаецца, больш глыбока ўспрымаюць тое, што адбылося ў 1986 годзе, чым самі беларусы.

**Дракахруст**: Сп-ня Сьвятлана, сп. Генадзь ужо правёў гэтую аналёгію паміж Чарнобылем і Галакостам. Такія катастрофы, як Галакост габрэяў ці генацыд армян у 1915 годзе, урэзаліся ў нацыянальную сьвядомасьць гэтых народаў. І нават на сёньняшнія праблемы, скажам, габрэі і армяне глядзяць праз прызму тых сваіх катастроф. Ці можна сказаць, што для беларусаў Чарнобыль стаў такой самай катастрофай, якая кардынальна зьмяніла іх сьвядомасьць?

**Алексіевіч**: Я хацела б напачатку працягнуць тое, што сказаў Генадзь. Я прыгадваю, як прысутнічала пры эвакуацыі адной вёскі. І вось мы стаім з палкоўнікам, які кіруе эвакуацыяй, падбягаюць салдаты і кажуць, што адна старая ня хоча выходзіць са свайго дому. Мы падыходзім да гэтага дому, стаіць бабка са сваім катом, трымае ікону ў руках, і яна, убачыўшы мяне, адну жанчыну сярод мужчынаў, кажа: «Дзетачка мая, ну хіба гэта вайна? Я ж перажыла вайну, тады страляюць, бамбяць, чужыя салдаты, а тут жа сонейка сьвеціць, салдаты свае, птушкі лётаюць, нават мышку сёньня маленькую бачыла. Чаму я павінна сыходзіць? Хіба гэта вайна?»

Вось гэта культура вайны, культура нашай сьвядомасьці. І ні я, ні гэты палкоўнік, ні вучоны, які падышоў пазьней, не маглі адказаць на пытаньне гэтай старой. Толькі потым я зразумела, што

гэтая бабка сфармулявала галоўнае пытаньне, якое зьявілася ў гэтым пасьлячарнобыльскім сьвеце. Так, гэта вайна, але зусім іншая. І людзі ня ў стане яе асэнсаваць, у іх няма гэтага інструмэнта. Мы спыняем сваё асэнсаваньне на ўзроўні пакутаў. Вось гэта і ёсьць наша праца — культура галашэньня. Але праца інтэлектуальная ня зробленая, ня зробленая ні грамадзтвам, ні асобнымі інтэлектуаламі.

Чарнобыль далейшы за Галакост. Чаму? Таму што ён адчыняе бездань зьнішчэньня. Гэта зьнішчэньне нават не асобнай нацыі, гэта зьнішчэньне ранейшага ўяўленьня пра сьвет. Гэта ўсё ўзарванае, стала відавочна, што гэта шлях да самазьнішчэньня, што чалавек паставіў сябе ў гэтым сьвеце не на тое месца. Чалавек зьнішчае сябе, дрэва, птушку, усе навакольныя біялягічныя віды. Галакост — гэта агромністая трагедыя, гэта трагедыя ня толькі габрэйскага народу, гэта трагедыя ўсясьветнай культуры. Але Чарнобыль яшчэ далейшы. Гэтая вайна ідзе кожны дзень, яна забівае нас гэтымі малымі дозамі, забівае вада, зямля, ежа.

Я памятаю, самае дзіўнае ўражаньне, якое ў мяне было ў зоне, гэта тое, што гэтым ліквідатарам выдавалі аўтаматы. Сьмерць паўсюль, сьмерць пад новым абліччам, нельга ляжаць, сядзець на зямлі, нельга доўга каля дрэва стаяць, лічыльнік шчоўкае, а чалавек ходзіць з аўтаматам. Былі там лётчыкі, якія прыляцелі з Афгану. Яны кажуць: «Што мы тут робім, з кулямётамі на

борце? Мы атрымліваем дозы і больш нічога». У каго яны мусілі там страляць?

На маіх вачах абрыналася культура вайны, культура ранейшага сьвету, як дачарнобыльскі чалавек ператвараўся ў чарнобыльскага. А паколькі ў нас сёньня сыстэма закрытая, сыстэма аўтарытарная, то мы робім злачынства і супраць уласнага народу, і супраць чалавецтва. Чаму? Мы сталі гіганцкай чарнобыльскай лябараторыяй. Але мы гэтыя веды хаваем і ад сябе, і ад уласнага народу. Тое, што з намі адбылося, тое, чым стане Чарнобыль для нас і для ўсяго чалавецтва, гэта будзе асэнсавана, але для гэтага можа быць спатрэбіцца яшчэ 10-20 гадоў.

**Дракахруст**: Давід Ротман, я ведаю, што Вы праводзілі адмысловыя сацыялягічныя дасьледаваньні масавай сьвядомасьці жыхароў пацярпелых ад Чарнобылю рэгіёнаў. Якія асаблівасьці мае сьвядомасьць людзей, якія там жывуць?

**Ротман**: Тут сытуацыя вельмі цікавая і неадназначная. Мы праводзілі дасьледаваньні і 20 гадоў таму, потым саліднае дасьледаваньне праводзілі ў 1990 годзе, а цяпер паспрабавалі апытаць тыя самыя катэгорыі людзей у тых самых паселішчах, што і 20 гадоў таму. Гэтая праца рабілася ў Чарнігаўскай вобласьці Ўкраіны, Гомельскай вобласьці Беларусі і Бранскай вобласьці Расеі. З нашых апытаньняў вынікае, што для Беларусі гэта была трагедыя ўсёй краіны, для Расеі і Ўкраіны гэта была трагедыя, якая закранула асобныя рэгіёны.

Другая асаблівасьць — гэта тое, што Чарнобыльская катастрофа адрозьніваецца ад любой

іншай, скажам, ад Галакосту ці генацыду армян, тым, што ў 1986 годзе аварыя была для людзей віртуальнай. Нельга было нічога ні адчуць, ні ўбачыць.

Мы таксама вывучалі лісты, якія людзі пісалі сваім родным 26-27 красавіка 1986 году. Яны проста пачалі адчуваць сябе кепска. Віртуальнасьць гэтай катастрофы не зьмяніла адразу сьвядомасьць людзей, але ўжо потым, калі людзям пачалі тлумачыць, што і як адбылося, яны пачалі адчуваць сябе маральна прыгнечанымі.

Што тычыцца іншых, незаражаных рэгіёнаў Беларусі, то тут мы адзначаем спачуваньне і адначасна страх таго, што гэта можа распаўсюдзіцца і на іх. У гэтым адрозьненьне. У заражаных рэгіёнах Чарнобыль наўпрост адбіўся на здароўі людзей і там — гэта адчуваньне рэальнай пагрозы. У іншым выпадку — гэта пачуцьцё магчымай у будучыні пагрозы, пагрозы здароўю свайму і сваіх дзяцей.

**Дракахруст**: Сп. Генадзь, Сьвятлана Алексіевіч у нашай размове некалькі разоў паўтарыла, што Чарнобыльская катастрофа беларусамі не асэнсаваная. Але я дазволю сабе такую, можа, крыху дзёрзкую аналёгію. Псыхіятры раяць людзям, якія перажылі цяжкую псыхічную траўму, не фіксавацца на ёй, у пэўным сэнсе забыць яе, выкінуць яе са сваёй сьвядомасьці, бо інакш гэтая траўма «зжарэ» псыхіку. Ці дарэчная падобная парада беларускай нацыі адносна Чарнобылю? Можа быць, Чарнобыль трэба забыць, каб жыць далей?

**Грушавы**: Заўвага вельмі слушная. Скажу нават больш, я згодны з тым, што падобная рэакцыя якраз і назіраецца ў чарнобыльскіх рэгіёнах, але яна назіраецца не на саму сытуацыю трагедыі. Для таго каб рэагаваць так, як Вы кажаце, трэба гэтую трагедыю асэнсаваць, трэба гэтую бяду прапусьціць у сярэдзіну і пачаць жыць побач зь ёю. А калі чалавек яе назірае, пра яе чуе, але яе не перажывае, то яму абсалютна ня трэба вось так рэагаваць на саму крыніцу гэтай небясьпекі. Ён рэагуе на тое, што ён чуе, што больш-менш даступна яго сьвядомасьці.

І такая рэакцыя сапраўды адбылася, але гэта была рэакцыя на тое, што паспрабавалі зрабіць людзі, няшмат такіх людзей знайшлося ў Беларусі, якія змаглі вось так адчуць і ўбачыць што такое Чарнобыль у пэрспэктыве стагодзьдзяў, лёсу ўсёй нацыі, усяго чалавецтва. І калі гэтыя людзі пачалі вельмі голасна крычаць, пачалі вельмі ціха пераконваць, зьвяртацца да масы людзей з тым, каб яны расплюшчылі вочы, адчынілі вушы, пачалі працаваць над тым, каб асэнсаваць, зразумець, што адбываецца — вось тады і распачалася тая рэакцыя адарваньня, аб якой вы кажаце. Я думаю, што большасьць жыхароў Беларусі такім чынам адрэагавала і рэагуе на тыя заклікі, якія якраз патрабуюць ад гэтых людзей, як я ўжо сказаў, зьменаў ня толькі ў паводзінах, але і ў мысьленьні. А жыцьцё зацягвае. Гэтая адказнасьць — вельмі цяжкі груз, ён якраз і перашкаджае больш-менш камфортнаму жыцьцю.

За гэтыя гады адбылося не забываньне Чарнобылю, а адбылося адарваньне ад той адкрытасьці, ад тых людзей, якія спрабуюць растлумачыць сэнс гэтай катастрофы, хоць такіх людзей няшмат, і самае галоўнае — большасьць гэтых людзей не знайшлі простыя і ясныя адказы на тыя пытаньні, якія ўзьнікалі ў беларускага народу. Народ заблытаўся, таму што адны вучоныя казалі адно, другія — другое, палітыкі заклікалі ў той бок, нейкія практыкі — у іншы. І гэтая заблытанасьць яшчэ больш аблегчыла прыняцьцё вось таго ўнутранага стану, які, як Вы кажаце, сёньня проста ратуе большасьць людзей ад такога псыхалягічнага стрэсу. Але я лічу, што ўсё ж пакуль мы не перажывем такі стрэс, мы ня выратуем ні саміх сябе, ні сваіх нашчадкаў ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы.

**Дракахруст**: Спадар Ротман, Вы казалі, што некалькі разоў рабілі дасьледаваньні ў чарнобыльскіх рэгіёнах. Паводле Вашых дасьледаваньняў, ці адбылося ў сьвядомасьці тых, каго Вы апытвалі, «забываньне» Чарнобылю, як тое было пасьля шматлікіх беларускіх войнаў і мораў — адбылося тое, што адбылося, трэба жыць далей?

**Ротман**: Па-першае, я скажу, што згодны з Генадзем Грушавым. Па-другое, калі гэта паспрабаваць штучна блякаваць і забыць, то тады людзі перастануць мабілізоўваць сябе на супраціў гэтай трагедыі. А пэўныя зьмены зь цягам часу безумоўна адбыліся, яны проста не маглі не адбыцца. Вынікі дасьледаваньняў паказваюць, што калі раней жыхары Чарнобыльскіх рэгіёнаў

гэтую праблему ставілі на першае месца, то цяпер яна стаіць у адным шэрагу з праблемамі, якія ўзьнікаюць у жыцьці грамадзян нашай краіны. Адбылося пэўнае «выраўноўваньне» гэтай праблемы, хоць яна працягвае заставацца.

Іншая справа, што ў ацэнках свайго жыцьцёвага стану людзі сталі крыху больш аптымістычнымі. Гэта ў большай ступені тычыцца грамадзян нашай краіны — гэта паказала апошняе апытаньне, чым тых, хто жыве ў расейскіх і ўкраінскіх чарнобыльскіх рэгіёнах. І гэта я тлумачу тым, пра што ўжо казаў — што тут трагедыя для ўсяго беларускага народу, а для Расеі і Ўкраіны гэта трагедыя асобных рэгіёнаў.

**Дракахруст**: Спадар Ротман, а як за гэтыя гады ў чарнобыльскіх рэгіёнах зьмянілася стаўленьне людзей, іх спадзеў на дзяржаву?

**Ротман**: Цяпер людзі ў значна большай ступені, чым раней, кажуць, што яны хочуць самі шукаць шляхі для вырашэньня ўласных праблемаў. 15-20 гадоў таму ў асноўным была надзея на дапамогу дзяржавы, такая спажывецкая пазыцыя. А цяпер гэтая пазыцыя стала паступова адыходзіць, у апытаньнях яна назіраецца значна радзей. І гэта незвычайная і цікавая зьява.

**Алексіевіч**: Па-першае, я хацела б яшчэ зрабіць некалькі заўваг наконт таго, што адбывалася зь людзьмі ў першыя гады. Я думаю, што наша навука застаецца ў палоне старых мэтадалёгіяў. Каб новае пачуць, трэба па-новаму спытаць. Калі ў цябе няма гэтых новых антэнаў, то ты і не пачуеш нічога.

Я памятаю чалавека ў роспачы, я шукала яго для сваёй кнігі. Людзі распавядалі, як хавалі зямлю ў зямлі, я ніколі не забуду карціны, як ідзе бабка, нясе скрынку малака, а побач ідзе салдат — яны ідуць хаваць малако, як мылі стрэхі, як трэба было інакш варыць спрадвечную ежу — бульбу, як дзяцей вадзілі ў школу толькі па асфальце, а на лес ім можна было толькі глядзець. Я ня думаю, што такія рэчы можна забыць, ня думаю, што гэта не павінна застацца ў архіве чалавецтва.

Проста наша навука — яна дачарнобыльская, яна хоча размаўляць аб Чарнобылі дачарнобыльскай мовай. І вось гэты нахабны аптымізм нашай улады — нахабны, бо інтэлектуальна не прадуманы, злачынны, бо любая дыктатура — рэч прымітыўная, гэта паралізуе ўсіх. Усе здабываюць аптымізм, каб чалавек перажыў, але не ў імя будучыні.

Калі мы гэта не асэнсуем — гэта проста катастрофа. І справа ня ў тым, што людзі забываюць. А што ім думаць? Бытавая сьвядомасьць адлюстроўвае толькі тое, да чаго здольныя дайсьці людзі, чыя прафэсія — думаць, прапаноўваць нацыі адказы, ставіць па-новаму пытаньні. Гэтага мы ня робім. І гэтыя спакойныя развагі: «Так, людзі забылі, так, трэба забыць». Я лічу — ніводзін інтэлектуал такой думкі сабе дазволіць ня можа. Гэта ўсё роўна, як калі Вы хворыя на рак ці на СНІД. Як Вы можаце забыць, што Вы хворы? Гэта злачынства і перш за ўсё — перад самім сабой. Хворая наша зямля, вада, хворыя нашы дзеці, кожны дзень у Беларусі паміраюць ад наступстваў

Чарнобылю два ліквідатары і адно дзіця. А Вы кажаце — забыць Чарнобыль. Гэта пошласьць, якая прасякае наша грамадзтва. Мы спыніліся ў гістарычным часе і ўсе — саўдзельнікі гэтага. Я лічу, што гэта абсалютна безадказныя для інтэлектуала адказы. Я ж не зямлю капаю ў рэшце рэшт. Мая прафэсія — дадумваць рэчы да канца. Я думаю, што гэта да нас вернецца, Чарнобыль у нас ня ззаду, а наперадзе, і мы саўдзельнікі ўсяго гэтага.

**Дракахруст**: Сп-ня Сьвятлана, у мяне да Вас такое пытаньне — наконт прагрэсу, погляду беларусаў на прагрэс пасьля Чарнобылю. Мне тут прыгадваюцца радкі Купалы: «Край балот, о край, калі ж ты станеш краем фабрык дымных і машын». Гэтае імкненьне да індустрыялізацыі, да прагрэсу было, як найменей, ня толькі данінай камуністычнай ідэалёгіі. Варта прыгадаць, што беларусы гістарычна нядаўна сталі індустрыйнай нацыяй — толькі ў 1973 годзе колькасьць дзяцей, якія нарадзіліся ў гарадох, перавысіла колькасьць дзяцей, якія нарадзіліся ў вёсцы. І пры гэтым індустрыйным драйве — наколькі яны гатовы прыняць гэтую тэзу, што прагрэс — гэта пагроза?

**Алексіевіч**: Мы, зразумела, нацыя, якая спазьнілася, мы дагэтуль молімся на тыя ідэі, ад якіх сьвет ужо адмовіўся, і цешым сябе надзеямі, якія сьвет ужо паспрабаваў і зь якімі разьвітаўся. Сьвет зразумеў, што галоўны прадукт цывілізацыяў — гэта катастрофы. Пакрысе, паволі выпрацоўваецца альтэрнатыўнае мысьленьне — зь іншымі крыніцамі энэргіі, зь іншым стаўленьнем

да ўсяго жывога, зь іншымі паняцьцямі права і адказнасьці. У нас аб гэтым нават і пытаньне не стаіць.

А мы вырашаем старыя праблемы — праблемы выжываньня, праблемы барацьбы. Генадзь дакладна сказаў, што каштоўнасьць жыцьця ў нас па-ранейшаму — гэта дарагі дыван і добрая машына, а не само жыцьцё. У нас каштоўнасьці эпохі жабрацтва, эпохі барбарскіх пакут. Але міжволі — і тут сапраўды можна падумаць пра Нябеснага дырыжора — міжволі мы аказваемся выкінутымі ў будучыню. Мы абсалютна да гэтага не падрыхтаваная, бо наша філязофія — не далей за ўласнае гняздо, і сякера, рыдлёўка і конь — гэта штодзённыя спадарожнікі ня менш як паловы нашага насельніцтва, а значыць, і нашай сьвядомасьці.

Я назвала сваю кнігу «Хроніка будучыні». Калі людзі будуць ісьці такім шляхам, калі тое, што зь імі адбылося, ня будзе асэнсавана, то будзе тое, што мы ўсе бачылі, як гэтыя самасёлы ізноў касілі літоўкай, сядзелі пры лучыне, па сьледу зьвера варажылі аб надвор'і. Час укусіў свой хвост.

Але я думаю, што мы сталі жыхарамі гіганцкай Чарнобыльскай лябараторыі. Беларусы нездарма гавораць пра сябе, што яны людзі — «чорныя скрыні». Як ёсьць у самалёце «чорныя скрыні», па якіх потым дасьледуюць хаду і прычыны катастрофы, дык вось мы — нацыя-«чорная скрыня».

Людзі, можа, гэта не асэнсоўваюць, асабліва калі іх справакаваць на гэтае неасэнсаваньне. Каб зрабіць гэтую працу з чарнобыльскім мысь-

леньнем, трэба быць свабодным чалавекам, трэба мець унутры сябе тэрыторыю гэтай свабоды. Сёньня мы гэтага ня маем. Але мяркую, што мы ўсё ж першымі асэнсавалі, што будучыня — не такая, пра якую казалі героі Чэхава, што праз сто гадоў жыцьцё будзе прыгожым і чалавек будзе цудоўным. Праз 100 гадоў — Чарнобыль, ГУЛАГ і ўсё астатняе, што з намі адбылося. Мы вучым іншы сьвет, як ня трэба жыць. Гэта — нашае наканаваньне. Гэта — пастка нашай культуры, але ў мяне ёсьць надзея, што Чарнобыль павінен вызваліць чалавека. Нам дадзена гэтае выпрабаваньне, каб мы яго прайшлі. Незразумела, чаму першыя павінны гэта прайсьці мы — найменш падрыхтаваныя да гэтага. Можа, таму, што мы такая нявінная, дзіцячая нацыя, можа, таму нам дадзенае такое выпрабаваньне.

Чарнобыль для нас — гэта сапраўды Чарнобыльскі шлях, гэта вельмі доўгі шлях. Усе гэтыя нашы палітычныя баталіі, усе гэтыя сувэнірныя асобы, якія зьяўляюцца на нашай зямлі, са знакам плюс ці мінус — з пункту гледжаньня радыенуклідаў, якія жывуць тысячы гадоў, усё гэта пыл і нікчэмнасьць. Але мы павінны пачаць гэтую інтэлектуальную працу. Можа, хоць бы зьбіраць міты, веды, сапраўдную праўду. Гэта вельмі доўгі шлях. Чарнобыль — гэта наш лёс.

## «У той час, калі Вы гінеце, яны робяць рамонт, купляюць новую машыну»

8 сьнежня 2006

*Экс-кандыдат у прэзыдэнты Аляксандар Казулін быў арыштаваны 25 сакавіка 2006 г. у часе масавага шэсьця супраць фальсыфікацыі выбараў, затым быў асуджаны на 5,5 гадоў. У калёніі «Віцьба-3» абвясьціў галадоўку.*

**Алексіевіч**: Казулін пайшоў далей за нас усіх, ён хоча пайсьці да канца. Я мяркую, што ён — апошні прадстаўнік савецкага ідэалізму. Ягонае ўяўленьне пра барацьбу, пра формы барацьбы — яны сілкуюцца ідэаламі мінулага. І я б хацела сказаць, што гэта трагедыя– і нашага руху, і асабіста Аляксандра Ўладзіслававіча. І я б хацела яму сказаць, што час зусім іншы. Мяняюцца спосабы барацьбы. Сёньня мужнасьць патрэбная для таго, каб раней за іншых нешта сфармуляваць, зразумець, нарадзіць ідэі. Час Сьценькі Разіна, час вулічных герояў — ён прайшоў.

Я не хачу прынізіць подзьвігі тых людзей, якія выйшлі на наш беларускі Майдан, сілкуючыся водблескамі ўкраінскага пажару. Але я думаю, што сёньня патрэбныя іншыя мэтады барацьбы, мэтады паступовага будаўніцтва — партыяў, супраціву, ідэяў.

Казулін уварваўся на палітычную сцэну, для мяне ён быў супрацьвагой нашай плебейскай уладзе, яе прымітыўнасьці. Такіх людзей, як Ка-

зулін, вельмі няшмат. Я хацела б сказаць Аляксандру Ўладзіслававічу — ня трэба адчайвацца. Ягоны крок прадыктаваны адчаем, што нельга зламаць гэты мур, што людзі маўчаць, што ў той час, калі Вы гінеце, яны робяць рамонт, будуюць дамы, купляюць новую машыну.

Паколькі каналы інфармацыі закрытыя, манапалізаваныя — ягоны ціхі подзьвіг ня будзе вядомы. Гэта павінна быць відовішчам, а відовішча закрытае. Тое, што яму здаецца, што ён пракрычыць сьвету — гэта будзе задушаны крык, яго не пачуюць.

Сёньня патрэбная іншая мужнасьць, мужнасьць выжыць, мужнасьць прыйсьці да людзей і потым сабраць нейкую сваю каманду і пакрысе падточваць гэта. Гэта — не асабістае Лукашэнкі, гэта сядзіць у кожным чалавеку. Рэвалюцыю трэба зрабіць у галаве кожнага чалавека.

Я жыву ў тым самым доме, у тым самым пад'езьдзе, дзе Казулін. І я часта бачыла яго шчасьлівым: дзьве прыгожыя дачкі, ягоная жонка — было бачна, што там каханьне, заўсёды было радасна іх бачыць. Можа, героі рэвалюцыі, якая ў нас усё ніяк не адбудзецца, са мной не пагодзяцца, і, можа, Аляксандар Уладзіслававіч са мной не пагодзіцца, але я скажу: маленькае жыцьцё, Ваша асабістае жыцьцё, жыцьцё Вашых дзяцей — вышэй за тыя мэты, якія Вы ставіце. Ня трэба сьмерцю акупляць новыя ідэі. Толькі жыцьцём. Вяртайцеся да жыцьця! Адчай нам не памочнік.

*Аляксандар Казулін спыніў галадоўку, якая доўжылася 52 дні, 11 сьнежня 2006 году.*

## «Я не расейская пісьменьніца»

31 траўня 2007
Алена Струвэ, Менск

*Пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч, якая апошнім часам жыве і працуе ў швэдзкім Гётэборгу, прыехала ў Менск на вакацыі. Тут яна зьбіраецца працягнуць працу над кнігай «Дзівосны алень вечнага паляваньня» і завяршыць кнігу «Час second-hand». Пісьменьніца мяркуе сустрэцца зь некаторымі героямі сваіх будучых твораў і запісаць іхныя споведзі. Сёньня ў Сьвятланы Алексіевіч дзень народзінаў. Яго яна зьбіраецца сустрэць у сваім вясковым доме, у вузкім коле блізкіх людзей. Мы гутарым пра такую падзею, як дзень народзінаў. Ці правільна віншаваць з гэтым чалавека, які да свайго нараджэньня ў прынцыпе ня мае ніякага дачыненьня? Як ставіцца Сьвятлана Алексіевіч да сьвяткаваньня гэтай падзеі і да цяперашняй канкрэтнай даты?*

**Алексіевіч**: У некалькіх пакаленьнях я — дачка вясковых настаўнікаў. Я вельмі ўдзячная гэтай сваёй культурнай генэтыцы. Я маю такую вясковую цьвярозасьць у дачыненьні да сябе, да ўсіх маіх датаў, посьпехаў, славы. Гэта ня ёсьць маім гонарам і гэта не кранае мяне ні на грам. Мне ўсё цікава на ўзроўні нейкай радасьці, якую я пражываю асабіста. Што да гэтага дня… Ну, існуюць формы, традыцыі. Нават час людзі прыдумалі. Бо часу няма — ёсьць нейкае касьмічнае існаваньне.

Ці ня так? А дзень народзінаў — ну, проста добра, што нейкім чынам ты зьявіўся на сьвет. З гадамі толькі становіцца сумна, што жыцьцё так хутка праходзіць.

**Струвэ**: Што Вам не падабаецца ў гэты дзень?

**Алексіевіч**: Калі мне мае аднагодкі пачынаюць казаць, што ў «нашым узросьце» трэба тое і тое, і што «галоўнае здароўе»… Я думаю: «Бог мой, тут цяпер столькі адкрываецца розных дзівосных рэчаў. Я вось нядаўна прыехала зь Ляпляндыі, дзе ўражваюць і пэйзажы, і алені, якія тысячамі ідуць уверх у горы. Ты столькі пражываеш і адкрываеш за кароткі час, а табе кажуць: ну, здароўя... Мне заўсёды хочацца пачуць нечаканае слова, хочацца сустрэць нечаканага чалавека. Мне азартна жыць».

**Струвэ**: У часе цяперашняга наведаньня Беларусі Вы зьбіраецеся сустрэцца зь людзьмі, якія ідуць на такі азартны крок як зьмена твару, цела…

**Алексіевіч**: Так, адзін з кавалкаў кнігі будзе пра гэта.

**Струвэ**: Як пісьменьніцу Вас цікавіць гэтая праблема?

**Алексіевіч**: Я гэта ніяк да сябе не прыстасоўвала. У мяне такой праблемы не было. Аднак гэта цікава… Ну, напрыклад, нос я сабе б паправіла. Тым больш, гледзячы на майго старога бацьку, я ўяўляю, што гэты нос будзе і ў мяне ўсё жыцьцё расьці… (*сьмяецца*)… Але, калі сур’ёзна... Я сустракала ў Маскве адну жанчыну, моднага

фатографа, і яна казала, што сёе-тое памяняла з дапамогай хірурга. У яе быў дэфэкт вуха і такі даўгі, з гарбінкай, нос. І яна расказала, што ёй зрабілі «модны нос». Аказваецца, ёсьць такое паняцьце — модны нос. І тады я падумала, што ў гэтым ёсьць рацыя, калі чалавек належыць да публічнай прафэсіі. Я зразумела, што людзі сёньня маюць нейкія іншыя ўяўленьні пра праблемы цела, чым раней. Маральныя, чалавечыя, эстэтычныя.

**Струвэ**: З чым гэта зьвязана?

**Алексіевіч**: Гэта зьвязана са стаўленьнем да жыцьця. Чалавек ужо не зьбіраецца залежаць ад таго, што яму дадзена Творцам. Калісьці Фройд сказаў: «Нос — гэта лёс» Аднак цяпер ты і гэта можаш зьмяніць. Чалавек сам бярэ на сябе місію Творцы, пачынаецца нейкая іншая Творчасьць. Я ўчора сядзела ў чарзе да зубнога лекара. Гэта ўсё былі жанчыны за 50. Менавіта для іх, для іх разуменьня жыцьця праблема прыгажосьці стаіць вельмі жорстка. Яны ўсьведамляюць, што ім патрэбныя біялягічныя падпоркі. Мяняецца працягласьць жыцьця, ты жывеш даўжэй, аднак ня маеш зубоў...

**Струвэ**: Як Вы ставіцеся да «біялягічных падпорак»?

**Алексіевіч**: Я добра стаўлюся да гэтага, да таго, што чалавек працягвае сабе жыцьцё. Зь гледзішча старажытных рымлянаў, мы жывем вельмі шмат. Ня выключана, што чалавек будзе жыць 200 гадоў. У зьвязку з павелічэньнем працягласьці жыцьця зьяўляюцца нечаканыя праблемы — старыя людзі. Калі вы ходзіце па эўрапейскіх вуліцах,

то старых людзей болей за астатніх. Гэтыя людзі хутка зьменяць сьвет, сыстэму каштоўнасьцяў, паколькі ў той самай Эўропе яны не зьяўляюцца нейкай «гароднінай», нейкім прыдаткам да жыцьця дзяцей. Чаго нельга сказаць пра палову людзей на постсавецкай прасторы. У прынцыпе, і тут чалавек прыйдзе да іншага асэнсаваньня свайго жыцьця. Павінна быць уласнае жыцьцё зь нейкім уласным сьвятам, сэнсу якога мы дагэтуль не зразумелі.

**Струвэ**: Цягам 30 гадоў Вы запісваеце споведзі былых савецкіх людзей, і гэтыя споведзі «маленькіх людзей», паводле Вашых словаў, складаюць біяграфію імпэрыі альбо біяграфію ўтопіі. Новая кніга «Час second-hand» — гэта працяг тэмы?

**Алексіевіч**: Калісьці ў мяне была кніга пра самагубцаў «Зачараваныя сьмерцю». Пра тое, як многія людзі шчыра верылі ў вечную ідэю сацыялізму і як у сваім бальшавіцкім варыянце вечная ідэя аказалася вельмі крывавай і трагічнай для іх. Там было 17 гісторый. Цяпер для «Часу second-hand» я пакінула 10 найбольш паказальных гісторый. Дадаю разьдзел, пра што мы думалі і марылі ад 1986 па 1996 і пра што — у 1996-2006. І гэтае сумяшчэньне дае падставы для асэнсаваньня, што з намі адбылося, чаму замест вялікіх ідэяў прыйшоў геданізм, то бок цяга людзей да камфорту? Ці ёсьць наш пэрыяд вульгарным альбо мы вяртаемся да нейкай нормы? Усё гэта вельмі сур'ёзныя пытаньні. У мяне ў кнізе пра гэта размаўляюць дзясяткі і нават сотні людзей.

**Струвэ**: Вы доўга пішаце свае кнігі?

**Алексіевіч**: Друкаваць, як на варштаце, усё новыя гісторыі — бессэнсоўна. Я доўга працую над кнігамі. Напрыклад, гісторыю каханьня «Дзівосны алень вечнага паляваньня» пішу болей за 10 гадоў. У мяне будзе 100 апавяданьняў пра каханьне. Трэба да сябе прыслухацца, што ты павінен сказаць.

**Струвэ**: Напэўна, гэта складана — сказаць сваё слова пра каханьне?

**Алексіевіч**: З каханьнем усё складана. Сам досьвед экзыстэнцыяльны вельмі складаны. Бо ў мяне ж ня проста каханьне. Цяпер гэтых любоўных расказаў — усе спосабы, розныя рамантычныя гісторыі — у вялікай колькасьці на кніжных паліцах.

Я хачу далей працягнуць свае дасьледаваньні. Кожны з нас ставіць перад сабой гэтае пытаньне — самае таямнічае, самае карэннае пытаньне жыцьця: «навошта?» З аднаго боку, каханьне «дано нам в утешенье», каб было ня страшна памерці, а зь іншага боку, дае сэнс нашаму жыцьцю, бо чалавек мае нейкую большую місію, чым толькі прызнаць сябе часткай біялягічнага ланцужку — нарадзіць дзяцей, працягнуць свой род. Калі нашы людзі вырашаць матэрыяльныя пытаньні, наядуцца, для іх гэтыя пытаньні стануць вельмі сур'ёзнымі, бо яны галоўныя ў жыцьці.

Наперадзе ў мяне гэтая кніга і яшчэ кніга пра старасьць. Я хачу шмат высьвятліць пра сваё пакаленьне ды сябе і прайсьці з гэтым да канца.

**Струвэ**: Як хутка Вы плянуеце завяршыць кнігу пра каханьне?

**Алексіевіч**: Яшчэ дзесьці год патрэбны для гэтага. Справа ня ў тым, каб сабраць матэрыял, трэба сабраць філязофію. Сэнс сур'ёзнага пісьменьніка ў тым, каб штосьці пачуць на вуліцы. Флябэр сказаў, што ён чалавек-пяро. Я чалавек-вушы. Маё вуха на вуліцы. Я лічу, што пісьменьнік павінен першым сфармуляваць нейкія рэчы, якія знаходзяцца ў паветры. Першым сказаць пра гэта.

**Струвэ**: Наколькі важнае для Вас палітычнае жыцьцё?

**Алексіевіч**: Я ўвесь час удзельнічаю ў палітычным жыцьці. Хутчэй сымбалічна. Аднак вы заўсёды можаце даведацца пра маю пазыцыю. З-за гэтага я жыву ў Эўропе, я маю на ўвазе, з-за канфліктаў з уладай. Аднак для мяне як для мастака — гэта не галоўнае. Я спадзяюся, што сваімі кнігамі я гэта сфармулюю. У нас няма ідэяў, працуюць нейкія старыя ідэі культуры выжываньня. Культура барацьбы ўжо ня можа цалкам запоўніць сучаснага чалавека. Перад чалавекам адчыніліся зусім іншыя далягляды, і ён уступіў у зусім іншую прастору жыцьця. Гэтыя новыя людзі толькі зьяўляюцца ў нас.

Ёсьць таксама людзі, якія «чарка-шкварка». У мяне дом у вёсцы. Нядаўна там зьявіўся такі маленькі бізнэсовец, ён падманвае людзей, спойвае іх. Ён вельмі проста вырашае свае праблемы: мех мукі ці чагосьці іншага. Ён разумее, што вакол няма асобаў, а ёсьць культура выжываньня, сялянская такая хітрасьць. Трэба было выжыць гэтым людзям на балоце. Таму я з сумам слу-

хаю нашых палітыкаў, тое, што было нядаўна на Кангрэсе дэмакратычных сілаў. Замест разьмеркаваньня ўлады, трэба думаць, дзе мы і да якога чалавека мы сёньня выходзім. Гэты чалавек стаў больш агрэсіўным. Бо ён нічога не разумее наконт расслаеньня грамадзтва, наконт магчымасьцяў, якія адкрываюцца — усё ёсьць, а ты нічога ня можаш. І трэба гэтаму нейкі сэнс надаць, каб не было простай сытасьці жывёліны. Вось з чым трэба выходзіць да людзей.

**Струвэ**: Для заходнеэўрапейскага чытача вы — беларуская пісьменьніца, якая прадстаўляе посткамуністычную Ўсходнюю Эўропу…

**Алексіевіч**: Чалавек з усходу… Бо я не займаюся выключна беларускай гісторыяй, а займаюся біяграфіяй імпэрыі, біяграфіяй утопіі. Гэтая імпэрыя размаўляла па-расейску і закранала вялікія прасторы, аднак з гледзішча мэнтальнага, біяфізычнага бачаньня сьвету, бо ёсьць таксама і такое бачаньне, я, вядома, не расейскі пісьменьнік. У мяне шмат такога беларускага бачаньня.

**Струвэ**: У Беларусі Вас не выдаюць больш як дзесяць гадоў. Таксама прадстаўнікі нацыянальнай апазыцыі ня лічаць вас беларускай пісьменьніцай. Ваша творчасьць для іх касмапалітычная. Вас гэта крыўдзіць?

**Алексіевіч**: Я думаю, што з часам я буду належаць да гэтай беларускай прасторы… Калі літаратура будзе ўвогуле кагосьці цікавіць. Я разумею, што нацыі трэба вызначыцца. І гэта вельмі няпроста рабіць у XXI стагодзьдзі. Праца складная і барацьба складаная. З аднаго боку, амэрыканская

масавая культура, з другога — расейскі ўплыў. Пасьля Чарнобылю, калі ты адчуваеш сябе біявідам, які можа проста так зьнікнуць, я думаю, што нацыянальны погляд мусіць быць больш гнуткім і шырокім. Нацыянальнасьць — гэта ня толькі тое, што ты гаворыш па-беларуску і лаеш Лукашэнку…

## «Кубай у Эўропе ўжо нельга быць»

8 ліпеня 2007
Юры Дракахруст, Прага

*Што будзе пасьля Лукашэнкі? Ці можна збудаваць нацыю на каштоўнасьцях, супольных зь іншай нацыяй? Ці ёсьць у Беларусі супольныя грамадзкія інстытуты, на якіх можна будаваць грамадзянскую нацыю? Над гэтымі тэмамі ў перадачы «Праскі акцэнт» Радыё Свабода разважаюць пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч, рэдактар газэты «Советская Белоруссия — Беларусь сегодня» Павал Якубовіч і былы амбасадар Беларусі ў Нямеччыне Пётра Садоўскі.*

**Дракахруст**: Сёлета Беларусь ў 11-ты раз сьвяткавала Дзень незалежнасьці 3 ліпеня. Гэтая дата — нагода паразмаўляць пра ў чымсьці дзіўную прыроду той дзяржаўнай, а можа нават і нацыянальнай ідэалёгіі, якую прышчапляе беларусам дзейная ўлада. Справа тут ня толькі ў тым, правільная яна або не, а ў тым, чаму яна нагул працуе.

Звычайна, нацыянальная ідэнтычнасьць — нешта паводле вызначэньня ўнікальнае і асобнае, і будуецца на такіх самых унікальных, асобных ад іншых каштоўнасьцях, гістарычных і культурных падзеях: французы сьвяткуюць гадавіну сваёй Францускай рэвалюцыі, амэрыканцы — абвяшчэньня сваёй незалежнасьці ад Брытанскай імпэрыі і гэтак далей.

Разам з тым, паводле афіцыйнай вэрсіі, гістарычны і культурны падмурак цяперашняй беларускай нацыянальнай незалежнасьці — не асобны беларускі, а супольны зь іншымі народамі, у першую чаргу расейскім. Савецкая ўлада? Дык яна і была ўладай супольнай дзяржавы. Вялікая Айчынная вайна? Дык Айчынай тады быў Савецкі Саюз. Ці можна пабудаваць трывалую нацыянальную ідэнтычнасьць на такім падмурку? Сп. Якубовіч, як Вы лічыце?

**Якубовіч**: Я мяркую, што чым менш грамадзкая думка будзе разважаць пра нацыянальную ідэнтычнасьць, тым, магчыма, хутчэй Беларусь выйдзе з глыбокага крызісу, які дастаўся ў спадчыну і яшчэ не пераадолены. І мне здаецца, што няма нічога страшнага ў тым, калі больш думаць пра тое, што аб'ядноўвае, а не разьядноўвае.

Ці варта сёньня думаць пра тое, што Вялікая Айчынная ці Другая ўсясьветная вайна адбывалася ў Беларусі такім чынам, як яна адбывалася, некаторыя кажуць нават пра грамадзянскую вайну? Гэта тэма для дасьледчыкаў, але калі гэтыя жарсьці пераносяцца на людзей, якія жывуць дастаткова цяжкім жыцьцём, ні да чога добрага гэта не вядзе.

Мне здаецца, што ў Беларусі спакойна высьпявае нейкая добрая ідэя, хаця я і не люблю слова «нацыянальная ідэя». Асабліва гэта бачна ў моладзі, якая ўжо абсалютна ўпэўнена лічыць, што Менск — гэта сталіца іх роднай краіны, а Масква, як і Варшава — гэта сталіцы суседніх дзяржаваў, што мы — частка Эўропы і гэтак далей.

**Дракахруст**: Сп. Якубовіч, прабачце, я Вас перапыню. Вы гаворыце крыху як прапагандыст. Я ўчаплюся за Вашы апошнія словы, калі Вы гаворыце, што моладзь уяўляе, што Менск — гэта сталіца сваёй краіны, а Масква — гэта сталіца іншай краіны. Чаму? Чаму гэта іншая краіна, калі паводле афіцыйнай дзяржаўнай ідэалёгіі гэтыя дзьве сталіцы нічога не падзяляе?

**Якубовіч**: Чаму? Тут я з Вамі, Юры, нязгодны абсалютна. Менск — гэта сталіца Беларусі, а Масква — сталіца Расеі. Гэта дадзенасьць, і калі глядзець на гэта спакойна, то якая тут супярэчнасьць і да чаго тут чапляцца, як Вы сказалі?

Ёсьць людзі, якія мэнтальным чынам яшчэ з Савецкім Саюзам разьвітацца ня могуць. Але для большасьці, якія 15 гадоў жывуць у сувэрэннай дзяржаве, гэта ўжо не праблема. А наступнае пакаленьне наагул пра гэта наўрад ці будзе разважаць. Іншая справа, якія канфігурацыі будуць выбудоўвацца ў будучыні — ці будзе гэта саюз або нешта іншае. Ніхто не выключае, што Беларусь праз пэўны час можа быць у Эўразьвязе. Але ў любым выпадку, я сёньня ведаю няшмат людзей, якія блытаюць сталіцы нашых дзяржаваў. І я кажу гэта не як прапагандыст, а як самы просты абывацель.

**Дракахруст**: Пятро Садоўскі, Павал Якубовіч сказаў, што гэта не праблема, але, на мой погляд, праблема тут палягае ў тым, чаму гэта перастала быць праблемай. І чаму гэта перастала быць праблемай на тым грунце, які на першы погляд здаецца даволі хісткім. Такая мадэль дзяржаўнай

ідэалёгіі, як у Беларусі, мае месца хіба ў непрызнаным Прыднястроўі, цяжка прывесьці іншы прыклад. Дык чаму ж гэта працуе, чаму, як сказаў сп. Якубовіч, людзі ўсё ж уяўляюць, што Менск — гэта сталіца наша, а Масква, пры ўсёй любові ці іншых пачуцьцях да яе — ня наша. Чаму?

**Садоўскі**: Я тут дзесьці нязгодны з Паўлам, у чымсьці хацелася б паспрачацца. Калі мы гаворым пра тыпы дзяржаўных ідэалёгій, нам не абысьці такія паняцьці, як крэольства, канстытуцыйны патрыятызм, паноўная культура. Я ня ведаю, ці можна адразаць мінуўшчыну ад сёньняшняга дня, як часткова робіць Павал. Я ня ведаю, ці можна пабудаваць устойлівую мадэль дзяржавы без інстытутаў грамадзянскай супольнасьці, якія могуць быць збудаваныя, абапіраючыся на мінулую гісторыю. Я ня ведаю краіны, нават крэольскай, якая б збудавала ўдалую, устойлівую дзяржаву, адкінуўшы старую гісторыю і культуру.

У Эўропе мы гаворым пра постнацыянальную эпоху, але калі праект эўрапейскай Канстытуцыі быў тарпэдаваны Францыяй і Галяндыяй, дыскусіі ішлі па ўсёй Эўропе. І старшыня нямецкага парлямэнту, бундэстагу, крытыкуецца за ягоную тэзу пра «паноўную культуру» (Leitkultur), якая павінна быць у Нямеччыне. Немцы спрачаюцца з паняцьцем «канстытуцыйны патрыятызм».

Ёсьць такая краіна, як Ізраіль, якая ня мае ні канстытуцыі, ні сталых межаў. Яна рэалізавалася ідэалягічна ў часе, а не ў прасторы. І цяпер змагаюцца дыяспарысты зь сіяністамі. Прынамсі 4

мільёны габрэяў, якія жывуць у ЗША, лічаць, што яны працягваюць мэсіянскую ідэю, што абраны народ павінен быць гумусам для разьвіцьця іншых цывілізацый.

Калі адказваць наўпрост на Ваша пытаньне, ці можна пабудаваць трывалую ідэнтычнасьць на такім падмурку, варта пералічыць, з чаго складаецца ў нас гэты падмурак. Гэта ідэалёгія праваслаўнага хрысьціянства, ідэалёгія ізаляцыянізму, нейкай фобіі адносна Захаду. Трэба таксама казаць пра сацыяльную дзяржаву, і пра карпаратыўную дзяржаву, і пра міты, на якіх трымаецца гэтая сыстэма. Вы пытаецеся, чаму яна трымаецца. Трымаецца на добрай прапагандзе і на пакуль што трывалым падмурку, які трымаўся дзякуючы добрым цэнам на энэрганосьбіты.

Каб скончыць адказ на гэтае пытаньне, я скажу, што мне ўпершыню за апошнія 12 гадоў стала трывожна. Я пэнсіянэр, і мне хапае з жонкай пэнсіі на 3 тыдні толькі есьці і заплаціць за кватэру. Мы зараз пачалі наладжваць адносіны з трэцім сьветам, нарэшце загаварылі пра сапраўдную эканомію і дывэрсыфікацыю паставак энэрганосьбітаў, гаворым пра «Белую Русь» і «За незалежную Беларусь». Наша кіраўніцтва шукае.

Я сёньня не хачу па-беларуску крытыкаваць Лукашэнку, я хачу, каб мы ў нейкім кансэнсусе спрабавалі знайсьці адказ на тое пытаньне, якое Вы, Юры, задалі.

**Дракахруст**: Сьвятлана Алексіевіч, падчас усіх апошніх крызісаў у беларуска-расейскіх адносі-

нах расейцы разважалі прыкладна гэтак: «Беларусы ж — такія як мы, у іх і ідэалёгія трымаецца на тым, што ў нас супольнае. Прыкрыем кранік, і будуць яны нашымі». І кожны раз расейцы з гэтымі развагамі гараць «сінім полымем». Чаму?

**Алексіевіч**: Я ня думаю, што расейскія палітыкі і культуролягі ня маюць рацыі ў гэтых сваіх развагах. У іх будзе шанец, і няма тут, у краіне, унутранага супрацьстаяньня. Я не прыхільніца Лукашэнкі, але Беларусь, як тое ні дзіўна, трымацца на ім ды яшчэ на ілюзіях і спадзяваньнях моладзі. Але нашая ўлада збудавана на старой савецкай, славянскай харызматычнасьці лідэра. Ён маласымпатычны нам, інтэлігенцыі, але ён акумулюе сялянскую боязь прагрэсу, перамен і разам з тым такую сялянскую цьвярозасьць.

Улада малакультурная, а сёньня нават на інтуіцыі моцнага лідэра нельга доўга ўтрымацца. Працэсы глябалізацыі, рэлігійнага супрацьстаяньня, нарастаюць, і Беларусь павінна да чагосьці далучыцца. Кубай у Эўропе ўжо нельга быць.

І я мяркую, што вось гэтая ідэалёгія, пра якую казаў Павал, гэта вельмі дзіўная рэч. Ён — адзін з ідэолягаў сёньняшняга часу, і ягоныя словы мяне яшчэ раз пераканалі, наколькі наша ўлада не гатовая да новага часу. Ідзе вульгарны пэрыяд: людзі наядаюцца, робяць эўрарамонт, падарожнічаюць і сьпяшаюцца гэта рабіць, як былыя галодныя дзікуны, у якіх у мазгах сядзіць, што гэта хутка можа скончыцца. І вось гэты жывёльны пэрыяд трэба ж неяк ідэалягічна прыкрыць. Чым? Улада ж не задзейнічала інтэлектуальны патэнцыял нацыі.

Калі даць свабоду дыскусіі, свабоду ідэалягічную, нешта б сасьпела ў грамадзтве. Нічога гэтага ня робіцца, а замест гэтага пачынаецца старое савецкае клікунства: вось у нас была вайна.

Цяпер я шмат ежджу па Расеі і па Беларусі. Мяжа ёсьць, але ўлада — савецкая, народ — савецкі, і ўсе атрыбуты савецкага мысьленьня. Гэта працуе і з расейскага, і зь беларускага боку. Проста там інтэлектуальны патэнцыял іншы і грошы іншыя. Пакуль гэта крыху прыхавана: там нафтадалярамі, тут — калгаснай хітрасьцю. Але за гэта давядзецца адказваць. Доўга гэты прамежкавы стан не пратрымаецца. І ня будзе беларускай дзяржавы. Што гэта за ідэалёгія — давайце накормім і напоім людзей? Прабачце, але гэта ж не жывёлагадоўчая фэрма.

**Якубовіч**: Я з глыбокай павагай стаўлюся да меркаваньняў Сьвятланы і Пятра. Але ў чым прадмет спрэчкі? Дзяржава павінна клапаціцца пра ўсё: і пра тое, каб людзі былі абутыя і сытыя, дакладней, людзі самі павінны сябе апранаць і карміць, а дзяржава павінна ствараць умовы, каб гэта было. Калі людзі сталі жыць крыху лепш, чым раней, дык гэта відавочна.

Сталі жыць лепш, нейкі спакой у людзей, у моладзі ёсьць альтэрнатыва — працаваць у Беларусі ці ў Польшчы ці Ірляндыі, вучыцца ў БДУ ці ў Варшаўскім унівэрсытэце. Калі такая сытуацыя ёсьць у краіне, гэта ўжо някепска. Можна лічыць уладу некультурнай. Але ёсьць розныя людзі і ў палітыцы, і ў эканоміцы, і ў адміністрацыйных органах.

Я са Сьвятланай не зусім пагаджуся. Езьдзячы па Расеі і па Беларусі, можна ўбачыць шмат рознага. Але рабіць з гэтага выснову, што Беларусь ператвараецца ў жывёлагадоўчую фэрму — гэта занадта.

Мне самому ня надта падабаюцца некаторыя атрыбуты нашай ідэалягічнай працы, занадта просталінейныя плякаты, якія вісяць на вуліцах, спрошчаныя схемы ідэалягічнай працы. Часам дзеяньні прапагандыстаў улады проста пыл узьнімаюць з працаў 1970-х гадоў.

Але адносна апазыцыі гаварыць пра нейкі сацыяльны і грамадзкі крэатыў наагул не выпадае. Часам там проста «Менская газэта» 1941 году. Толькі мяняй прозьвішчы, а зьмест — той самы пячорны. Хоць ёсьць і цікавыя людзі, і цікавыя ідэі.

Але ня варта казаць, што ўсё у дзеяньнях улады грунтуецца на савецкім досьведзе. Вось я нядаўна апублікаваў артыкул пра тое, што ў Гомелі знайшлі месца пахаваньняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсій 1937 году. Чаму гэта трэба замоўчваць? Мне гэта зусім не зразумела. Некаторыя людзі ва ўладзе адразу кажуць — гэта супраць камунізму, а камунізм гэта... Мы, сёньняшнія людзі, грамадзяне Беларусі кажам, што хочам узяць з савецкай эпохі нешта пазытыўнае. Яно сапраўды там было. Але мы павінны з брыдотай адмовіцца ад таго нялюдзкага, што адбывалася ў 1930-я, часткова ў 1920-я і 1940-я гады. І вось тады зьявіцца нейкае паразуменьне.

**Дракахруст**: Існуюць дзьве мадэлі пабудовы нацыі: на культурна-этнічным адзінстве — нямецкая мадэль, і на грамадзянска-палітычным адзінстве — француская мадэль. Хіба не найбольш яркім прыкладам апошняй мадэлі зьяўляюцца Злучаныя Штаты Амэрыкі, там этнічнага адзінства як такога няма, а мова — супольная з былой мэтраполіяй. Але ёсьць тое, што называюць «грамадзянскай рэлігіяй» амэрыканцаў. Дарэчы, амбітным, хоць і няўдалым, праектам пабудовы грамадзянскай нацыі была ідэя савецкага народу.

Цяперашняя беларуская ўлада культурна-этнічны праект пабудовы нацыі адкідае. Як мы чулі ад Паўла Якубовіча, улада зводзіць культурна-этнічны праект да досьведу калябарацыі часоў вайны. Гэта азначае, што выбар робіцца на карысьць мадэлі грамадзянскай нацыі. Але ж для пабудовы грамадзянскай нацыі патрэбныя моцныя, паважаныя грамадзкія інстытуты, якія і могуць злучыць людзей у супольнасьць, і злучаюць, скажам, у тых самых ЗША. Ці ёсьць у Беларусі, у беларусаў такія інстытуты, на якіх можна ўгрунтаваць грамадзянскую нацыю? Спадар Садоўскі, як Вы мяркуеце?

**Садоўскі**: Я пачаў бы адказ з парадаксальнай прымаўкі: каб эканоміць ваду, яе трэба больш піць. Людзі ахвотна п’юць кока-колу, піва і гарэлку. Але каб зрабіць 1 літар піва, трэба страціць 7 літраў вады, на кока-колу — 4, а на біяпаліва этанол — 4650 літраў вады. Мы гаворым пра эканамічныя і сацыяльныя посьпехі, пра про-

стае, штодзённае жыцьцё, якое задавальняе абываценя, а абывацелі складаюць у любой краіне працэнтаў 75, думае 10-15 працэнтаў, актыўна працуе 4 працэнты людзей. Я мяркую, што нам лепш апэраваць эўрапейскімі прыкладамі, вось нават і Павал кажа, што мы — Эўропа.

Вы, Юры, некалькі разоў ужывалі тэрмін «грамадзкія інстытуты» і ўзгадвалі Злучаныя Штаты. Я паўтаруся, што ня ведаю нацыі, дзяржавы, дзе грамадзкія інстытуты былі б збудаваныя без нацыянальнай ідэі. Праўда, цяпер гэта ўжо нібыта нямодна, кажуць, што нацыянальная ідэя скончылася ў XX стагодзьдзі. Але мы — недабудаваная нацыя, і наш прэзыдэнт — люстэрка гэтага. Ён мае посьпех, таму што адлюстроўвае стан электарату. Але відавочна, што трэба ўжо пайсьці наперад.

Калі паглядзець на эўрапейскія краіны, такія, скажам, як Нямеччына, то мы бачым, што ў эпоху глябалізацыі робіцца актуальным патрыятызм, і ня толькі канстытуцыйны, але й нацыянальны. Я як германіст магу сказаць, што калі б немцы не былі нацыяй у звыклым сэнсе, яны б усе свае інвэстыцыі вывезьлі туды, дзе танная працоўная сіла, і беспрацоўе ў Нямеччыне было б яшчэ большым, чым цяпер. У апошнія 2 гады беспрацоўе зьмяншаецца. І гэта ў значнай ступені вынік таго, што нямецкія прадпрымальнікі, якія быццам цалкам урасьлі ў глябалізацыю, паводзяць сябе як патрыёты, думаюць ня толькі пра свае прыбыткі, а пра тое, як заняць працай іх землякоў.

Паглядзіце на паводзіны нямецкіх энэргетычных канцэрнаў адносна Францыі, Італіі, Расеі, балтыйскіх краінаў. Яны паводзяць сябе патрыятычна. Крэольская нацыя такога ня зробіць. Калі Вы паглядзіце на Лацінскую Амэрыку, то ўбачыце, што там няма стрыжнёвай нацыянальнай ідэі і многія краіны застаюцца бананавымі рэспублікамі.

**Дракахруст:** Сп-ня Алексіевіч, Вы ўжо назвалі адзін інстытут, на якім цяпер спрабуюць збудаваць беларускую нацыю. Гэта прэзыдэнт, прычым не пасада прэзыдэнта, а канкрэтная асоба, якая гэтую пасаду займае — Аляксандар Лукашэнка. У пэўным сэнсе ўлада будуе беларускую нацыю як народ Лукашэнкі. Пакуль гэтая мадэль неяк працуе. Што будзе, калі ён сыдзе — так ці іначай? Ці не атрымаецца так, што ня толькі палітычная сыстэма, але і нацыянальнае адзінства можа пахіснуцца і нават рассыпацца, збудаванае толькі на гэтым стрыжні?

**Алексіевіч**: Фэномэн Лукашэнкі трымаецца ня толькі на ягоных асабістых якасьцях. І адзінае, у чым я згодная з Паўлам, што апазыцыя ў нас кволая і кепска вучыцца, яна не жыве ў сьвеце сучасных выклікаў. Трэба аддаць належнае Лукашэнку, што ён вучыцца хутка, ён тое, што Арыстоцель называў палітычнай жывёлінай. І тут мы ўсе атрымалі паразу. Ён інтуіцыяй спаралізаваў уласны народ, накінуў яму ніжні ўзровень, узровень спажываньня. Нацыю нівэлявалі да вульгарнага ўзроўню спажываньня, таго, наконт чаго ўвесь

сьвет крыкам крычыць, што гэта шлях у пустату. А ў нас гэта яшчэ называецца прагрэсам.

Лукашэнка зьмікшыраваў пераход у гэтую новую, незразумелую, страшную прастору, і ягоныя асабістыя якасьці супалі з часам. Ён даў адчуваньне, што нічога ў сьвеце не памянялася. Пётра ўжо казаў, што гэта было за чужы кошт, але савецкасьць у ім — гэта тое, на чым трымаецца і сам ён, і ілюзіі народу.

У мяне ёсьць дом у вёсцы, каб жыць сярод нармальных людзей, а не на пісьменьніцкіх лецішчах. І там адзін селянін мне сказаў: «А вось сыдзе Лукашэнка, і будзе ж жахліва, будзе ж хаос». І я ўбачыла, чаго баяцца людзі, чаго баіцца намэнклятура, якая, магчыма, і ненавідзіць яго, паколькі ён прыніжае яе і трымае ў страху, чаго баяцца сяляне, якія атрымліваюць мізэрныя заробкі, але ж хочаш — дзьве каровы трымай, хочаш — дзесяць. Яны баяцца, яны чуюць той хаос, які прыйдзе. Бо здушаная ўсялякая сіла супраціву, сіла ідэі, сіла альтэрнатывы. Застаецца тое, што ёсьць у моладзі. Павал казаў, што людзі, асабліва моладзь, адчуваюць сябе ў асобнай дзяржаве, што мы тут — беларусы, а там — расейцы. Гэта як у Расеі. На чым трымаецца сёньня расейскае антызаходніцтва, асабліва сярод моладзі? На крыўдзе — падмануў Захад, не падтрымаў, не прыняў на роўных. На чым трымаецца адчуваньне, што мы беларусы? На крыўдзе на расейцаў: яны багатыя, а мы... Крыўда — гэта кепскі падмурак. Няздольнасьць мяняцца спараджае ахвяру, а гэта вельмі агрэсіў-

ная істота. І я думаю, што нас чакаюць вельмі цяжкія часы. І яны будуць.

**Дракахруст**: Сп. Якубовіч, для Вас гэтае пытаньне, магчыма, далікатнае, але які Ваш адказ на яго? Ці не атрымаецца так, што калі Лукашэнка раней ці пазьней, з тых або іншых прычынаў сыдзе, то беларуская дзяржава сыдзе разам зь ім?

**Якубовіч**: Сьвятлана істотна падняла планку размовы. Я зь ёй шмат у чым згодны, але хачу сёетое ўдакладніць. 10 гадоў таму я браў вялікае інтэрвію ў Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. І ён тады сказаў: «Я ў чымсьці разумею канцлера Льва Сапегу. Перад мною стаяць ў пэўным сэнсе тыя самыя праблемы». І сапраўды, у Беларусі шмат у чым праблемы тыя самыя, што былі ў Вялікага Княства Літоўскага. Сьвятлана гаворыць пра крыўды. Я б ня стаў пераводзіць іх у эмацыйную плоскасьць. Але ж сапраўды ў студзені сёлета нашу краіну — і левых, і правых, і праваслаўных, і каталікоў — «Газпром», як бранiраваны кулак, спрабаваў паставіць на калені. Прычым вельмі прагматычна: або здавайце вашу прамысловасьць нашым прадпрымальнікам, або мы адключаем вам газ. Дзякаваць Богу, у адказ гэтыя людзі атрымалі цьвёрдую і халодную непахіснасьць, хаця, зразумела, ні праблема ня вырашаная, ні больш шырокае пытаньне гістарычнага выбару.

Захад гэтак сама холадна паставіўся да гэтай сытуацыі, маўляў, вы там блізкія адзін да аднаго, дык і вырашайце свае справы, а мы з плота паглядзім, чым гэта ўсё скончыцца. Гэта першае

мае удакладненьне. Другое — наконт расейскага князя Івана Каліты. Ён у гісторыі застаўся неадназначнай фігурай, але, на мой погляд, галоўнае ў ягонай дзейнасьці было ня тое, што ён далучыў некалькі княстваў да свайго Маскоўскага, а тое, што захаваў дзяржаўнасьць і выхаваў у людзей, асабліва ў моладзі, поўную адсутнасьць страху перад Ардой. І таму, калі ён памёр, зьявіліся і Сергій Раданежскі, і Дзьмітры Данскі.

Мне здаецца, галоўная заслуга Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі ў тым, што ён захаваў Рэспубліку Беларусь, захаваў чалавечы, духоўны патэнцыял, зь якога ўсё потым створыцца: і грамадзянская супольнасьць, і ўпэўненасьць, што мы беларусы і Масква для нас — сталіца вельмі дружалюбнай дзяржавы, але ня больш таго. Гэтак, як і Варшава. Што мы — частка Эўропы. Але гэта пэрыяд трэба перажыць.

Сьвятлана як буйны літаратар выказала тое, што хвалюе нас усіх — нас чакаюць цяжкія часы. І рыхтуючыся да гэтых часоў, неабходная ўнутраная кансалідацыя. І тое, што такая кансалідацыя ёсьць, на мой погляд — галоўная заслуга Лукашэнкі і часу Лукашэнкі, пры ўсіх экстравагантнасьцях прапаганды, нехлямяжасьці літаратараў і кампазытараў, адсутнасьці агульнанацыянальных дыскусій. Я, дарэчы, за іх. Польшча сваім «круглым сталом» паказала, як гэта важна. Але самае галоўнае, што вырастае новы народ.

**Дракахруст:** Пятро Садоўскі, а ці Вы згодны з такой аптымістычнай ацэнкай? А ці ня можа атрымацца наадварот, што сыстэма, збудаваная на

адной асобе, можа рассыпацца пасьля яе зыходу? І не такі квітнеючы сад застанецца пасьля яе, як абмаляваў нам Павал Якубовіч, а пустыня?

**Садоўскі:** Мне здаецца, што Павал усё ж не казаў пра квітнеючы сад. А што да Вашага пытаньня, то мне здаецца, што нічога страшнага ня будзе. Мы проста вернемся ў нейкі 1990–1991 год і будзем шкадаваць пра страчаны час. Але наша шкадаваньне, а таксама выгляд квітнеючага саду ці развалін будзе залежаць ад таго, як доўга мы будзем жыць так, як жывем, як здолее вырасьці бізнэс, і ня толькі буйны, а той, што ў вёсках і райцэнтрах.

Я думаю, што пасьля зыходу нашага прэзыдэнта будзе развал маленькага Савецкага Саюзу. Нічога страшнага ня будзе. Мы павінны разумець тое, што па-расейску называецца «привходящие обстоятельства».

Мы вось глядзім на Расею і зайздросьцім ёй. Але хай Расея скажа дзякуй Злучаным Штатам за тое, што яны ваююць на нафтаносным Усходзе. Расейцы разумеюць, што некалі гэта скончыцца, і дай Бог ім свае шалёныя даляры разьмясьціць як трэба. І мы ж тое самае. Маем расейскі рынак, які пакуль што-нішто ў нас купляе, і мы 12 гадоў тут трошкі жыравалі. Усё залежыць ад гэтых зьнешніх абставінаў.

**Дракахруст**: Спадар Садоўскі, я б хацеў пагаварыць як раз пра тое «жыраваньне», пра якое Вы казалі.

**Садоўскі**: Ну, жыраваньне вельмі адноснае.

**Дракахруст**: Так, але шмат эканамістаў кажуць цяпер пра сапраўдны спажывецкі бум, які назіраецца ў Беларусі, сьведчаньне чаму — значны рост куплі аўтамашын і неверагодны рост цэнаў на нерухомасьць, асабліва ў сталіцы

І гэта пры тым, што як раз улада пасьля беларуска-расейскай нафтагазавай вайны крыкам крычыць пра тое, што трэба рыхтавацца да горшых часоў, зацягваць паясы, сьведчаньне чаму, напрыклад, дэкрэт Лукашэнкі пра эканомію. А народ нібыта ня чуе, нібыта сам сабе кажа: «Нічога, наш «бацька» ўсё роўна неяк выкруціцца». І працягвае купляць-купляць-купляць. Ці не стварае гэта сапраўды псыхалягічную пастку і для ўлады, і для народу? І чым гэтая пастка можа скончыцца?

**Садоўскі**: Мне здаецца, што адказ тут вельмі просты і таямніцы тут ніякай няма. Ёсьць дасьледаваньні наконт спажывецкіх бумаў. Скажам, у Нямеччыне такі бум назіраўся ў часы Адэнаўэра і Эрхарда. У краінах пераходнага пэрыяду такія бумы назіраюцца, калі ёсьць трывога і няўпэўненасьць у эканамічным разьвіцьці краіны.

Калі б была адкрытая эканоміка, калі б быў свабодны бізнэс, людзі б панесьлі свае грошы ня ў банкі, а куплялі б акцыі і каштоўныя паперы, пра што Станіслаў Багданкевіч кажа ўжо 10 гадоў. Людзі б не куплялі другую машыну, трэці мабільнік, другую кватэру. Людзі сапраўды баяцца, я тут са Сьвятланай абсалютна згодны, людзі ня ведаюць, што будзе заўтра. Бо што з таго, што людзі нясуць грошы ў банкі?

Я сам у банку паўтара года працаваў і ведаю. Калі прадпрыемства атрымлівае грошы не за кошт продажу акцый, а бярэ крэдыт, даражэе вытворчасьць, растуць цэны.

На сёньняшні дзень спажывецкі бум, пра які Вы, Юры, гаворыце, гэта своеасаблівая форма ашчаджаньня, людзі ўкладаюць грошы ў машыну, у кватэру, у тэлевізар. Ня ўсе людзі разумеюць, што тыя высокія заробкі, якія мы атрымлівалі апошнія гады — яны не заробленыя. Асабліва гэта зразумела, калі паглядзець на інфляцыю, на рэнтабэльнасьць прадпрыемстваў, на ўліваньне ў іх грошай. Гэта незаробленыя заробкі. І людзі сьпяшаюцца іх патраціць на ўсякі выпадак, каб на чорны дзень не застацца безь нічога.

Пастка тут такая, што сінэкура аднойчы скончыцца, і давядзецца жыць па сродках, будуць даяжджаць аўтамашыны, дапрацоўваць пральныя машыны. І ўсё пачнецца спачатку.

**Дракахруст**: Спадар Якубовіч, а як бы Вы ахарактарызавалі гэты цікавы фэномэн? На Ваш погляд, у чым яго прычына, акрамя, зразумела, росту жыцьцёвага ўзроўню: недавер да дзяржавы, пра які казаў спадар Садоўскі, ці наадварот — залішні давер?

**Якубовіч**: Наагул кажучы, гэта пытаньне інтэрпрэтацыі. Можна зайсьці сёньня ў любую віленскую краму, кшталту «Акропаліс», і ўбачыць велізарную колькасьць людзей, якія купляюць, прычым гэта не беларусы, а літоўцы. Але пры гэтым нельга сказаць, што літоўцы, паводле схемы Пятра, так ужо баяцца заўтрашняга дня. Людзі

хочуць жыць сёньня і цяпер, і калі ёсьць магчымасьць купіць машыну, то яе купляюць.

З аднаго боку, людзі сталі жыць крыху лепш. Я, Юры, не казаў ні пра сады квітнеючыя, ні пра бум вар'яцкі, якога няма. Ёсьць цяжкое жыцьцё, і нездарма зьяўляюцца дырэктывы, якія нагадваюць — не расслабляйцеся, мы вельмі бедная дзяржава.

Але ёсьць элемэнт і таго, пра што Вы, Юры, сказалі. Многія людзі ня вельмі крытычна ставяцца да ацэнкі сваіх пэрспэктываў, і ёсьць такое грамадзянскае ўтрыманства: маўляў, ёсьць прэзыдэнт, які ведае, як будзе сёньня, заўтра і пасьлязаўтра. І хаця прэзыдэнт увесь час кажа, што трэба разьлічваць на сябе, а дзяржава зробіць тое, што яна можа зрабіць, вера ў правадыра — гэта частка нашай мэнтальнасьці.

Гэта ня пастка ў тым сэнсе, што яе нехта штучна стварае. Але чалавек павінен ведаць, што найлепшыя інвэстыцыі — гэта інвэстыцыі ў дзяцей, у адукацыю, у нерухомасьць, каб не чакаць, калі выканкамаўская чарга падыдзе, а самому думаць. Спадзеў на правадыра — гэта мэнтальная скрыўленасьць, рудымэнт сацыялістычнай мінуўшчыны, а ня нешта, што накідае прапаганда.

І я лічу, што грамадзтва, якое ўсур'ёз развaжае наконт будучыні, павінна разумець, што будучыня залежыць, як пішуць у нашых газэтах, ад таго, як кожны канкрэтны чалавек гэтую будучыню сябе ўяўляе.

**Дракахруст**: Спадарыня Алексіевіч, а ў Вас, як у «канкрэтнага чалавека», які погляд на гэтую праблему?

**Алексіевіч**: Я гэта бачу крыху інакш. Я мяркую, што мы — не асобныя людзі і ня ўсё тут залежыць ад мясцовых умоваў. Сёньня толькі ў краінах ісламу яшчэ працуе энэргія рэлігіі. А ў астатнім сьвеце скончыўся час вялікай гісторыі. Людзі расчараваліся ва ўсіх ідэях і ў містычных сэнсах. І беларусы — нацыя, якая спазьнілася, зь недабудаванай дзяржавай — сыходзяць зь вялікай гісторыі ў сваю маленькую гісторыю і кажуць: «Чума на абодва вашыя дамы! Ёсьць сёньня і цяпер, і я хачу жыць сёньня». Гэта мы, наіўныя шасьцідзясятнікі, думалі, што разваліцца ўсё гэта і людзі кінуцца каяцца, будаваць дзяржаву, вучыцца свабодзе, а яны кінуліся вучыцца жыць. Яны, як дзеці, усё спрабуюць. Мне даводзілася спатыкацца з расейскімі алігархамі — Беразоўскім і Абрамовічам. І здавалася б — людзі ўсё маюць, але нават яны выхваляюцца тым, што набылі, людзі, што менш багатыя, выхваляюцца крыху меншымі яхтамі.

Мы, беларусы, яшчэ такое недафармаванае цела, а цябе выкідаюць у дарослае жыцьцё. На пэўны час аўтарытарны лідэр нібыта абараніў грамадзтва, зрабіў такую сумесь турмы і дзіцячага садка.

Але ва ўсім сьвеце адбываецца, а ў нас, на непадрыхтаванай глебе гэта хутчэй і жахлівей — дыктатура маленькага чалавека, які хоча смачна есьці і мала працаваць. У сваім доме я паспра-

бавала памяняць газавую пліту. Дык гэта два дні трэба сядзець на тэлефоне, дзесяць дзяўчат адказваюць вам, але насамрэч ніхто ні за што не адказвае. І, можа, празь месяц да вас хтосьці прыедзе. Яны атрымліваюць новыя заробкі, пэўна ўжо езьдзяць на нейкіх патрыманых машынах з Захаду, але ўменьне працаваць — усё тое самае. Іх навучылі толькі хацець.

Лідэр сам не падазрае, якая небясьпека, перш за ўсё для яго і для народу — дыктатура маленькага чалавека, дыктатура яго любові. Але калі ён будзе расчараваны, калі гэта ўсё яму не дадуць, а ён толькі ўвайшоў у смак — якой страшнай будзе яго нянавісьць. І няма чаго замілоўвацца гэтым дзіцячым садком, які хоча жыць. Мы — як дзеці, і гэта вельмі страшна для ўсіх нас.

## «Час Лукашэнкі скончыўся»

22 жніўня 2007
Сяргей Навумчык, Прага

*На вэбсайце Радыё Свабода адбылася онлайн-канфэрэнцыя зь пісьменьніцай Сьвятланай Алексіевіч.*

*Спадарыня Святлана, вы напісалі сцэнарый для дакумэнтальнага фільму пра аднаго зь лідэраў КПЗБ Мікалая Арэхву, выйшаў ён напрыканцы 80-х. Маглі бы вы распавесьці пра тое як паўстаў фільм, якое ўражаньне на вас зрабіў Арэхва і ці ёсьць магчымасьць сёньня паглядзець гэты фільм. Дзякуй, Віктар.*

**Алексіевіч**: Гэта быў такі фільм «Гэтыя незразумелыя старыя людзі». Насамрэч, гэта быў дзівосны чалавек, Арэхва, я яго яшчэ засьпела, і ён як ніхто даў мне зразумець трагедыю камуністычнай веры. Таму што ўсе думаюць, што гэта бандыты, як пісаў калісьці Пазьняк, «Ленін быў сыфілітык» — гэта прымітыўныя ўяўленьні, я лічу... Гэта прыгожая была ідэя, і туды сышло вельмі шмат прыгожых людзей. І вось адзін зь іх быў Арэхва.

Ён расказаў мне, як ён прыйшоў да гэтай ідэі і чым гэта скончылася. Яго пасадзілі, за ім пасадзілі яго жонку, а потым ён мне расказвае, што ў часе вайны яго адпусьцілі на фронт. Ён вярнуўся з фронту ўжо з ардэнамі і мэдалямі,

яго выклікаюць у КДБ і кажуць: «Мы вяртаем вам ваш партыйны білет». Ён кажа: «Я быў проста шчасьлівы». Яны сказалі: «Жонку вашу мы вам вярнуць ня можам, але мы вам вяртаем ваш партбілет». І ён зноў кажа: «Я быў шчасьлівы». Я кажу: «Хіба вы не кахалі сваю жонку, яна была што, проста партыйны таварыш?» Ён кажа: «Як вы можаце так думаць! Мая жонка была вельмі прыгожая, я ніколі потым ня здолеў пакахаць», і паказвае мне яе фатаздымак. Я кажу: «Дык як вы маглі так сказаць, што вы былі шчасьлівыя, калі яны забілі вашую жонку?» А ён кажа: «Як вы не разумееце, яны ж вярнулі мне білет!» «Але ж яны забілі вашу жонку!» І тут ён мне ў такой разьюшанасьці кажа: «Нас нельга судзіць паводле законаў лёгікі, нас трэба судзіць паводле законаў веры!» І тады я зразумела, якая гэта была рэлігія для гэтых людзей. Я нават ня ведаю, дзе цяпер гэты фільм...

*Паважаная Сьвятлана Аляксандраўна, вы, канешне, добры публіцыст, нават я б назваў вас летапісцам. Але мяне вельмі абурае ваша стаўленьне да беларускай мовы. Чаму амэрыканскія амбасадары вучаць беларускую мову? Адзін нават даваў інтэрвію для Радыё Свабода на беларускай мове. Чаму вы так пагарджаеце беларускай мовай? Згодзен з вамі, што Беларусь — гэта фэрма на чале з Начальнікам-бацькам. Але чаму вы так зьняважліва ставіцеся да беларускай апазыцыі? У час НЛП на ТБ працаваць цяжка. Ці лічыце вы, што ў Беларусі, найперш, «псыхалягічны стан*

*сталінізму»? Напішыце кнігу-летапіс — Хроніка сучаснага сталінізму. Дзякуй. Валеры Грыцук.*

**Алексіевіч**: Гэтая агрэсіўнасьць — яна крыху спозьненая, яшчэ 20 гадоў таму такіх было шмат, а цяпер мы маем справу з гэткім «абарыгенам» гэтай ідэі агрэсіўнасьці...

Ведаеце, такі патрыятызм, які стаіць звычайна за такой ідэяй — гэта жаданьне пазьбегчы нейкай адказнасьці. Адказнасьці за тое, што часы мяняюцца, і ўсё нашмат больш складана, чым нам здаецца. І вам, аўтару пытаньня, здаецца, што калі б усе людзі размаўлялі па-беларуску, то вырашыліся б усе праблемы — зусім не.

І я зусім не пагарджаю беларускай мовай, проста я яе ня ведаю настолькі добра, каб на ёй пісаць — я думаю, гавару па-расейску, я б сказала, што я чалавек і беларускай, і расейскай культуры, і тое, чым я займаюся, гэтая мая ідэя жыцьця — напісаць аўтабіяграфію імпэрыі, зрабіць 7 кніг, сто гадоў савецкай і постсавецкай гісторыі, была такая магутная ідэя, якая заўсёды будзе. Гэта ў нас усё ў мінулым, а ў Італіі і Францыі я бачыла гэтыя дэманстрацыі і бачыла, наколькі папулярныя гэтыя ідэі — можа, і ў нас яшчэ пачнуцца гэтыя трацкісцкія гурткі, ужо ў Расеі гэта пачынаецца — зь левай ідэяй людзі ня так хутка разьвітаюцца, калі яны яшчэ хадзілі ў асьлінай шкуры, яны марылі пра братэрства і роўнасьць...

Таму ўявіць сабе, што сьвет такі просты, я не магу — я хачу стварыць сабе, як гэта было, як гэта завалодала людзьмі, як яны ў гэта верылі,

як ідэя змарнела — і гэта ўсё будзе расказваць сам маленькі чалавек: як ён выйшаў адтуль, што было потым, якія кропкі апоры ён шукаў, за што ён чапляўся, да чаго прыходзіў, які сэнс ён шукаў у гэтым маленькім кавалку часу, які нам адведзены на Зямлі...

Дык вось, утопія размаўляла па-расейску — я не змагла б зрабіць свой, як цяпер модна казаць, «мастацкі праект» на беларускай мове, гэта была б няпраўда. Калісьці, калі я напісала «У вайны не жаночае аблічча», чалавек з такім самым сьветапоглядам і з такой самай агрэсіўнасьцю спытаўся ў мяне: а чаму ў вас там ёсьць нават цыганка, рускіх шмат, татаркі, чаму толькі беларускіх жанчын ня бралі — я тады сказала, што вайна насамрэч была Вялікая Айчынная, там былі розныя, ня толькі беларускія жанчыны, і ў гэтай утопіі ўдзельнічала агромністая прастора, агромністая колькасьць людзей, агромністы нацыянальны кацёл...

І гэтак склалася маё жыцьцё, хоць я дачка сельскіх настаўнікаў — маці ўкраінка, бацька беларус — што ў нас дома была расейская мова, і я рада, што я выхаваная ў расейскай культуры зь яе абсягам, яе сьветапоглядам, яе філязафічнасьцю, зь яе Дастаеўскім, Талстым, Чэхавам, Розанавым, гэта мае ўлюбёныя аўтары, і Герцэн мой любімы аўтар — бяз гэтай культуры я была б ня я, я б ня бачыла сьвет такім, якім бачу цяпер. І беларускую мову я люблю, люблю сваю краіну — я шмат разоў магла застацца за мяжой, у мяне былі такія магчымасьці і ёсьць і цяпер,

але я ніколі гэтага не зраблю. Я хачу жыць дома, у Беларусі, я люблю гэтую геаграфію, люблю гэтага чалавека, але ў мяне іншая мова любові, а зусім не такая мэханістычная...

Вось калі б я пачала размаўляць на нейкай кальцы, як бальшыня апазыцыі размаўляе, то я б ужо была патрыёткай айчыны... Ведаеце, на такім узроўні мяне ўжо праблемы не цікавяць, мяне цікавяць праблемы сапраўды штосьці сфармуляваць і зразумець у гэтым хутка зьменлівым сьвеце...

Вы кажаце, што я дрэнна стаўлюся да апазыцыі — не, я дрэнна стаўлюся да такога схалястычнага мысьленьня, да такой савецкай антысавецкасьці, да такога лукашэнкаўскага антылукашэнства, калі ўсё прымітыўна і проста. Я бачу сьвет іначай — для мяне ўсё таямніча, незразумела, і сваю працу як пісьменьніка я разумею гэтак: шчыра дадумваць рэчы да канца. Вось гэта мая прафэсія.

*Спадарыня Алексіевіч, якой Вы знайшлі Беларусь у гэты свой прыезд? Што зьмянілася ў лепшы бок, а што — у горшы?*

**Алексіевіч**: Гэта вельмі цікавае пытаньне, на якое я спрабую сама сабе адказаць — ува мне адбываецца нейкая праца, асэнсаваньне... Я ўжо казала, што я раблю цяпер новую кнігу, «Час second-hand. Прыватныя падрабязнасьці аднаго рытуалу». Гэта пра тое, што мы былі за людзі ў гэтай страшнай камуністычнай сыстэме-ўтопіі

і куды мы выйшлі. Чаму вы выйшлі ў нейкую пустэчу, дзе няма за што ўхапіцца? Адзінае, за што можна ўхапіцца — за нацыянальную ідэю, дый тое гэта выявілася як ня самы трывалы падмурак.

І гэты мой прыезд пацьвердзіў мяне ў такіх думках, што мы жывём у часе катастрофы грандыёзных праектаў. Я ня маю ўжо на ўвазе такія праекты XX стагодзьдзя, як камунізм і фашызм, гэтыя «магутныя» энэргіі, якія на гэтай эўрапейскай частцы адышлі ўжо ў гісторыю. Мы яшчэ карыстаемся гэтымі словамі, можна казаць пра нейкія прыкметы таталітарнасьці, але пра магутную дзяржаву нельга казаць, гэта ўжо іншае грамадзтва, атамізаванае, рассыпанае, гэта немагчыма.

Катастрофа праекту ў чым? Мы бачым гэта па ўсім сьвеце. Напрыклад, у культуры змаганьня. Сьвет стаіць на культуры змаганьня, і мы бачым, што нават такія вялікія краіны як Амэрыка цярпяць паразу. Вось гэтая культура змаганьня цярпіць сёньня паразу, бо ні ірацкая праблема ня вырашана, ні афганская ня вырашана з пазыцыі сілы — ясна, што гэтак іх вырашыць нельга. Другое — рэвалюцыя аранжавая ва Ўкраіне сутыкнулася з масай праблем, кіргіская рэвалюцыя цюльпанаў таксама. Стала зразумела, што сьвет уступіў у нейкую новую фазу, дзе барацьба набывае нейкія новыя формы.

І вось калі я хадзіла па сучасным Менску і езьдзіла па Беларусі, я зразумела, што сёньня ня выведзеш людзей на вуліцу — гэта ілюзія.

Гэта проста дзейнічаюць шасьцярэнькі нейкіх палітычных тэхналёгіяў, але яны круцяцца ўжо ўхаластую. Я б нават сказала, што турыстычныя бюро, будаўнічыя крамы, супэрмаркеты робяць сёньня нашмат больш працы, чым апазыцыя.

Я была ў адной вёсцы — калісьці гэта была тыповая калгасная савецкая вёска — без платоў, нейкія гаспадары крэпкія былі, але заўсёды было крыху сумнае відовішча, хаця ў нас у Беларусі ня так, як у Расеі, тут лепей. Раптам я прыяжджаю — палова вёскі гэта нейкія дамы, якія я бачыла толькі ў Літве ці ў Польшчы: агароджы, дрэвы, брук, нейкія дошкі зробленыя прыгожа, дахоўкай пакрытыя дахі замест гэтага шыфэру, пра які ўжо ўсе ведаюць, што ён небясьпечны для чалавека, нейкія кветкі зусім іншыя — і я падумала, трэба пазнаёміцца з гаспадарамі. Я пагаварыла з адным, з другім — адзін быў у Чэхіі, другі ў Славаччыне, трэці ў Польшчы, чацьвёрты нават у Парыжы — нейкая сваячка выйшла туды замуж... І яны бачылі іншае жыцьцё.

І вось яна, апазыцыя: людзі хочуць жыць паіншаму. То бок, нарошчваецца іншая прастора годнасьці, іншага разуменьня жыцьця, а ня так, як мы думалі раней — сядзе ў крэсла хтосьці іншы, і будзе зусім іншая краіна. Ды ня будзе! Трэба наладзіцца на доўгі шлях. І я бачу, што нягледзячы на застыглы час, на гэтую палітычную ўладу, якая спыніла час у нашай краіне, усё адно маленькі чалавек сам шукае выйсьця, і на шчасьце — знаходзіць яго. Ён насамрэч вучыцца іншаму жыцьцю. Я ўзрадавалася: гэта сьведчыць

пра тое, што калі наверсе «дах» зьменіцца, то будуць людзі, зь якімі можна будзе рабіць гэтае іншае жыцьцё. Вось гэта маё адчуваньне.

*Вы займаліся тэмай Чарнобылю. Якое Ваша стаўленьне да рашэньня будаваць у Беларусі АЭС?*

**Алексіевіч**: Я думаю, што гэта проста катастрофа. Я закідаю гэта перадусім нашай культуры — ня толькі ўладзе, Лукашэнку, а перадусім нашай культуры. Мы не расказалі так пра Чарнобыль нашаму, беларускаму чалавеку — ва ўсім сьвеце больш разумеюць, што такое Чарнобыль, як у тым анэкдоце: «Калі б Чарнобыль выбухнуў у папуасаў, пра гэта ведаў бы ўвесь сьвет, апрача саміх папуасаў» — гэта жорстка, але гэта, на жаль, так — а ў Беларусі, якая настолькі пацярпела, няма ні сапраўднага экалягічнага руху, ні супрацьатамнага руху, няма моцных чарнобыльскіх саюзаў — усе дазволілі сябе раздушыць.

І тое, што сёньня на гэтым узроўні палітычнага мысьленьня зьяўляецца такая ідэя... Бо што такое атамная станцыя? Гэта высокія тэхналёгіі. Грошы забясьпечваюцца валютным запасам. Высокія тэхналёгіі павінны быць забясьпечаны прынамсі сьвядомай палітычнай уладай, тэхналягічнай культурай, кадрамі, падрыхтоўкай масавай сьвядомасьці... У Чарнобылі людзі працавалі і жартавалі: наша патэльня, наш рондлік... За гэтым жаргонам стаяла розьніца, разрыў між сучасным чалавекам і гэтымі новымі тэхналёгіямі.

У выходныя яны ехалі да сваіх маці і працавалі віламі і рыдлёўкамі на гародзе, а потым вярталіся і разважалі гэтаксама — патэльня, націсьнем тую кнопку, тую...

Беларусь, якая сёньня апынулася на тэхналягічных задворках, трэба сабе шчыра гэта ўявіць — мы ж ня можам даць сьвету канкурэнтназдольныя кампутары, фотаапараты — у лепшым выпадку «Мілавіца» можа станікі прадаць, дый тое дзякуючы таму, што гэта натуральная бавоўна, альбо драўляную мэблю немцы ў нас нібыта купляюць, зробленую з чыстага дрэва, але паводле іхных узораў... І побач з гэтым такая ідэя — гэта яшчэ раз сьведчыць пра безадказнасьць улады і пра тое, што ўрок Чарнобылю не прачытаны.

І гэта перадусім наша віна, віна нашай культуры. Я ня памятаю спэктакляў выдатных пра гэта, кніг такіх пра гэта, я ведаю толькі палітычныя акцыі пратэсту і чарнобыльскія фонды — вось адзінае, што адказвала на тое, што адбылося. Усё астатняе не перапрацаванае культурай, для якой гэтая вельмі сур'ёзная, філязофская, тэхнічная праблема аказалася не пад сілу. Мы аказаліся ня роўнымі праблеме, якая паўстала перад намі, а чыноўнікі ёсьць чыноўнікі, яны неабавязкова павінны быць філёзафамі.

*Вы шмат часу жывяце на Захадзе. Як там успрымаюць беларусаў? Ці мы проста згубіліся ў агульнай плыні пост-гомасавецікус?*

**Алексіевіч**: Ведаеце, калі я адкажу на гэтае пытаньне, на мяне можна будзе пакрыўдзіцца, альбо пакрыўдзіцца на людзей на Захадзе, але гэта — людзі зь іншым пачуцьцём агульнай годнасьці, зь іншым разуменьнем мэты і сэнсу жыцьця, якасьці жыцьця, павагі да сябе самога... Там сьвет круціцца — паважаюць цябе як чалавека і паважаюць усё, што тваё — твая маёмасьць і г. д. Таму з гледзішча заходняга чалавека Лукашэнка, што адбываецца зь людзьмі, што адзін чалавек паралізаваў грамадзтва, што некуды зьнікла інтэлігенцыя, нават чыноўнік, які таксама ёсьць апірышчам дзяржавы, што ўсе прыніжаныя і ўсе з гэтым міряцца — усе будуць аднойчы ў неўразуменьні, як сёньня людзі старэйшага ўзросту ўзгадваюць, як Брэжнеў выступаў з устаўной сківіцай і якую лухту ён вёрз, а маса людзей на зьездах стаялі, пляскалі ў ладкі — гэтак мы з часам будзем прыніжана выглядаць. Таму ім цяжка нас любіць. Яны ўвесь час у неўразуменьні: што гэта за людзі? Чаму яны з гэтым згодныя?

Але калі я сустракаюся зь людзьмі, якія езьдзілі ў Чарнобыль, якія дапамагаюць, маюць нейкія праекты, супрацоўнічаюць з нашымі арганізацыямі, установамі, яны кажуць, што мы мяккі, добры, сардэчны народ... Гэта асабісты кантакт. А кантакт з гісторыяй, мінулай ці сучаснай, выклікае ў заходняга чалавека неўразуменьне. У іх палітычныя праблемы ўжо на іншым узроўні. Праблемы чалавечай годнасьці, улучна з матэрыяльным, яны пазбаўлены — ты там павінен змагацца за сябе, інакш жыцьцё кіне цябе на дно — ты не

памрэш з голаду, але будзеш прыніжаны. Але там у чалавека ёсьць шанец, ён свабодна ідзе, уключае тэлевізар і ня думае, дзе ён, у якім стагодзьдзі, дзе ён апынуўся — гэта тое, што я адчуваю, калі чую па тэлебачаньні нашых палітыкаў. Некаторых зь іх я ведаю, гэта годныя людзі, але тое, што яны сёньня кажуць — гэта ніжэй за іх... Гэта выклікае неўразуменьне, як можна так прынізіць і спыніць нацыю зь яе культурай.

*Сьвятлана, калі б Вы сустрэліся з Лукашэнкам, што б Вы яму сказалі?*

**Алексіевіч**: Я б яму сказала, што ягоны час прайшоў. Я не магу думаць, што ўсё, што ён зрабіў, можна цалкам выкрасьліць — напэўна, многія працэсы ўнікальнага пераходу ад сацыялізму да капіталізму, да якога ўсе, на жаль, ідуць — лепш бы мы ішлі да сацыял-дэмакратыі — у яго не хапіла культуры чалавечай і палітычнай пайсьці да сацыял-дэмакратыі. А такі шанец у яго быў. Бо ў нас гэта не сацыял-дэмакратыя, а сацыялізм у ягоным найгоршым варыянце, гэткая сумесь турмы і дзіцячага садка, як я ўжо казала. Магчыма, ён зьмікшыраваў гэты пераход. У нас няма такога жорсткага расслаеньня, як у Расеі, яшчэ ня ўсё да канца разрабавана, але зараз, я думаю, мы будзем адкупляцца за газ, і ў выніку ўсё будзе прададзена, разрабавана, апынецца нават не ў беларускіх алігархаў, а ў расейскіх, гэта, на жаль, сумная гісторыя. Мэта чалавека — улада, і ён будзе за яе плаціць. Усё ж, я думаю, гісторыя па-рознаму

будзе ставіцца да яго, нейкія рэчы яна паставіць яму ў заслугу... Гэта трагічная фігура. Калі б у яго цяпер хапіла мужнасьці сысьці, ён бы застаўся ў гісторыі, і я перакананая, што меркаваньні пра яго падзяліліся б. Але я думаю, што гэтага не адбудзецца. Аднак ягоны час скончыўся.

*Над чым Вы цяпер працуеце? Будзем спадзявацца, што Вашы кнігі можна будзе купіць ня толькі у Мюнхене і Стакгольме, але і ў Менску.*

**Алексіевіч**: На жаль, мае кнігі тут ужо не выходзяць, колькі Лукашэнка пры ўладзе — нейкі паралельны працэс атрымліваецца. Яны выходзяць у Расеі, у выдавецтве «Время» выдалі калекцыю ўсіх маіх кніг, чатыры кнігі ў новым, дапоўненым варыянце, і яны нейкім чынам трапляюць сюды, я іх бачыла часам і ў супэрмаркетах, толькі яны чамусьці вельмі дарагія — відаць, расейскі кошт пераводзіцца сюды, паколькі супэрмаркеты тут расейскія, і часам прыводзяць гандляры.

То бок, кнігі ёсьць, і як бы іх няма. Вось нядаўна я атрымала прэмію, таксама набыла і прывезла некалькі тысячаў кніг. Але цяпер, на жаль, я знаходжуся ў нейкім неафішаваным чорным сьпісе, які ёсьць ва ўсіх чыноўнікаў, якія займаюцца культурай, і я не магу, напрыклад, прапанаваць свае кнігі Нацыянальнай бібліятэцы, як гэта было раней, за свае грошы, альбо аддаць іх у школы, клюбы — я магу іх толькі аддаць у рукі людзям, якія будуць чытаць і даваць іншым.

Я належу да такіх людзей, якія лічаць, што трэба спакойна рабіць сваю справу. Гэта як у апостала Паўла: бываюць такія часы, калі маіх казаняў ня чуюць, але гора мне, калі б я іх не казаў. Вось гэта маё стаўленьне да жыцьця. І цяпер я раблю дзьве працы. Адна кніга — гэта «Дзівосны алень вечнага паляваньня», гэта гісторыя каханьня, якую я раблю ўжо больш за 10 гадоў, але гэта вельмі складана зрабіць...

І другая, якую я хачу зрабіць раней — гэта «Час second-hand». Гэта кніга пра тое, у якім сьвеце мы апынуліся, чаго мы хацелі 20 гадоў таму, на што мы спадзяваліся, аб чым марылі, што адбылося і якія мы цяпер. Я спрабую прааналізаваць — мне здаецца, прыйшоў час сфармуляваць, знайсьці нейкія адказы, аб'ектыўна пачаць абдумваць сваю мінуўшчыну, прамаўляць яе, а ня проста сказаць — вось, камунізм гэта страшная, цёмная старонка нашай гісторыі, адвярнуцца і ісьці далей. Не, нічога не атрымаецца. Гэта трэба прадумаць, прамовіць... Вось цяпер я раблю гэтую працу.

А чаму «second-hand»? Таму што мы нікуды не прарваліся... Гэта, вядома, сытуацыя постмадэрну ў сьвеце — ніякіх новых ідэяў, мы жывем у сьвеце копій — сваіх, чужых... Гэта сёньня ў нашым грамадзтве, у расейскім грамадзтве, і нават у сьвеце — я даволі доўгі час за мяжой, 7 гадоў у чатырох краінах — вядома, сьвет заняты пошукам нейкай новай ідэі, нейкага новага сьветапогляду.

*Пытаньне праз SMS: Вы напісалі не адну кнігу. Кожная ня гледзячы на няпросты шлях да чытача набывала шырокую вядомасьць у нас у Беларусі і за яе межамі. Які з Вашых твораў найбольш любімы Вамі? Вялікі дзякуй за непрыхаваную праўду у «Чарнобыльскай малітве». Віктар Акуленка. Брагін.*

**Алексіевіч**: Я не магу сказаць, якую кнігу я люблю найбольш. Я пра гэта таксама задумвалася нядаўна. Некалькі гадоў сышло ў мяне на тое, што я дапаўняла кнігі, таму што «У вайны не жаночае аблічча», «Цынкавыя хлопчыкі», дый «Чарнобыльская малітва», і «Апошнія сьведкі» — усе кнігі мелі вялікія архівы. То бок, кніга траплляла да людзей, яны мне нешта пісалі, мяняўся час за 20 гадоў, людзі штосьці перадумвалі... Дакумэнт — не такая застыглая, нерухомая форма, што гэта раз і назаўсёды, як трамвайны квіток альбо пашпарт — хаця і ў пашпарце сёе-тое можна памяняць. Таму пакуль чалавек жывы, дакумэнт зьмяняецца — ягонае стаўленьне, ягонае адчуваньне, і час неяк уяўляецца іначай...

Я, калі працавала над усімі гэтымі кнігамі, то кожны раз была зноўку закаханая ў кожную кнігу, яе герояў, яе ідэю. Напэўна, любімыя — «У вайны не жаночае аблічча», «Цынкавыя хлопчыкі»... Я не ў кнігу закаханая, а ў шлях, калі нейкія рэчы ўдаецца глыбей зразумець, лепш сфармуляваць, больш здагадацца пра нешта ў чалавеку.

Ня ведаю, я люблю хутчэй шлях кніг у сабе, як яны адгукаюцца ў людзях — вось гэтае ад-

люстраваньне. І люблю, калі яны патрэбныя, нават сёньня, нягледзячы на тое, што людзям не патрэбныя прапаведнікі, сьвятыя, бо такі сёньня час — кожны сам сабе прапаведнік і настаўнік. Нельга нават зразумець, у чаго ці ў каго людзі вучацца — супэрмаркет іх вучыць, ці там Маркес, ці Янка Купала, ня ведаю... Складана штосьці зрабіць са словамі — яны нейкія ня моцныя, зь іх зьнікае энэргія, электрычнасьць... Але калі атрымліваеш такое пытаньне, то думаеш, што пішаш недарэмна.

*Святлана, вітаю. Вашыя кнігі заўжды няпростыя, яны б'юць па самых балючых кропках. А якая кніга стваралася найцяжэй? Шчыры дзякуй за Вашую працу. Наста.*

**Алексіевіч**: І цяпер цяжка новая кніга пішацца, «Час second-hand», пра тыя 20 гадоў, якія мы пражылі пасьля катастрофы, пасьля вызваленьня, але найцяжэй мне давалася, вядома, «Чарнобыльская малітва». Таму што мой жанр, у якім я працую, зьвязаны ня з тым, каб перапрацаваць агромністую колькасьць матэрыялу, я не ствараю калекцыю жахаў — націсьні кнопку тэлевізара, і жахаў будзе больш чым дастаткова, будзе жахліва выходзіць на вуліцу і вечарам не захочацца слухаць музыку...

Матэрыял — гэта адно, хоць гэта цяжкая шахцёрская праца. Самае галоўнае — стварыць канцэпцыю, філязофію, прадставіць нейкі новы погляд на рэчы. Чарнобыль быў нейкай таямні-

цай, я адразу гэта для сябе вызначыла зь першых паездак. Тут была і мэтафізыка, і нейкая новая філязофія — мы зазірнулі далей за ўсіх, чалавецтва не было ў гэтай прасторы, і патрыярхальная нацыя сутыкнулася з зусім новымі выклікамі, да якіх нават супэрдзяржавы былі не падрыхтаваныя — і раптам беларускі і ўкраінскі селянін апынуліся з гэтым сам-насам і ўсё спазнавалі самі.

І ў мяне не было традыцыі, на якую абаперціся. Калі я пісала пра вайну, то божа мой — колькі людзі жывуць, столькі яны ваююць... Ёсьць цэлая традыцыя, «культура вайны», як пра яе пісаць... Калі ты нават пішаш іначай, то ты ад нечага адштурхоўваесься... Па Чарнобыльскай тэме я пісала кнігу гадоў 10-11, і складанасьць была менавіта ў гэтым — знайсьці нейкія новыя тэксты, сабраць іх, пачуць іх, а для гэтага трэба было выйсьці на новы давер да жыцьця, бо ў культуры гэтага не было...

І гэта вельмі цяжкая праца, мы рабілі яе разам з маімі героямі, бо я шукала чалавека агаломшанага — ня проста таго, хто ўскочыў на біялягічны канвэер, і яго панесла — ці няшчасьце, ці вайна... Мне патрэбны быў маленькі філёзаф, і насамрэч яны ў тыя дні былі агаломшаныя — яны думалі, пайшлі ў цэрквы, спрабавалі на штосьці абаперціся. Вельмі цікава было размаўляць са старымі — я раптам убачыла, што зь імі размаўляць цікавей, чым з вучонымі, генэраламі, таму што штосьці ў гэтай сялянскай культуры ёсьць наладжанае на выжываньне — тое, чаго ў сучаснай цывілізацыі няма. На многія пытаньні

трэба было адказаць ці прынамсі паспрабаваць адказаць, вось я і спрабавала.

*Добрага дня! Шаноўная Сьвятлана, на вашу думку, якая ўсё-ткі асноўная прычына недрукаваньня вашых кніг на Беларусі. Дзякую. З павагаю, Антось.*

**Алексіевіч**: Любы таталітарны рэжым — гэта, канечне, прымітыўная сыстэма. Зь нізу да верху падбіраецца вельмі прымітыўная ўлада, заснаваная на боязі і на герархіі падпарадкаваньня. Ніхто нічога не бярэ на сябе. Узьнікаюць дзіўныя фігуры. Хто такі наш міністар культуры? Калі паглядзіш — будаўнік з выгляду. Твары міністраў, самога прэзыдэнта гавораць пра паветра культуры, культуру краіны, грамадзтва. Культура — гэта нейкія чаканьні, нейкія падзеі... Гэтага няма, хіба толькі моладзь сама штосьці выдае... А так — гэта нейкая машына паводле нейкага савецкага клішэ. Тэлебачаньне — поўная ідэалягічная машына. Здаецца, нібыта робяцца нейкія кнігі, нейкае кіно, нейкія прэм’еры — але нібыта мы існуем у нейкім вакуўме... Няма падзей, людзей, фігур, думак, ідэй... Калі вы ідзяце ў беларускае кіно, вы загадзя паводле назвы ведаеце, што гэта за канструкцыя — такі савецкі зьлепак...

Гэта самае страшнае, што адбылося — у школе, адукацыі, культуры, грамадзтве — зьнік нейкі рух, нічога не адбываецца... У Маскве наадварот, бачны нейкі прарыў — там нейкія сайты, нейкія ідэі, нейкія людзі... Адчуваецца — у іх

ужо іншая адукацыя... У нас ёсьць таксама сайт «Новая Эўропа» — нібыта яго робяць у ЭГУ, там ужо іншы погляд.

Гэта цікава, але гэтага вельмі мала. Культурнае жыцьцё паралізаванае, і любы тэкст, які не ўкладаецца ў гэтае маленькае сьветаўспрыманьне, вядома ж, здаецца апазыцыйным, страшным. Але я лічу, што галоўнае — напісаць. Калі кніга зробленая, гэта ўжо форма інфармацыі і нейкай яе працы ў сьвеце... Галоўнае — зрабіць гэтую працу ў сабе.

*Ствараюцца і руйнуюцца дзяржавы, абясцэньваюцца грошы і забываюцца героі, а што, на Ваш погляд, галоўнае ў жыцьці? Назавіце пяць кніг, якія, на Ваш погляд, павінен прачытаць кожны. Мікалай.*

**Алексіевіч**: Я магу сказаць, каго я чытаю — Дастаеўскі, Герцэн, Розанаў, Чэхаў, Мамардашвілі. Гэта фігуры, да якіх я час ад часу вяртаюся, і яны чысьцяць мой сьветапогляд і намячаюць нейкія ніткі ў шляху, калі ты за нешта чапляесься, заходзіш у тыя закуткі, нешта абдумваеш, некуды ідзеш. Але насамрэч у такі час, час руйнаваньня, постмадэрн, калі сьвядома абіраюцца копіі і кажуць, што гэта нібыта сьвядома — у прынцыпе, няма нічога іншага, таму мы спрабуем знайсьці нейкія кропкі апоры, але гэта ня толькі ў нас, а ўсюды.

А што тычыцца сэнсу жыцьця, то гэта для мяне, вы ведаеце, нейкае пытаньне, на якое няма

адказу. Я часта, калі завяршаю кнігу, думаю — гэтак плачам, гэтак пакутуем, а навошта гэта ўсё? Не забуду жанчыну ў кнізе «У вайны не жаночае аблічча» — які ў яе ашаламляльны аповед пра сьмерць, пра жыцьцё, пра тое, як яны апынуліся ў акружэньні — маладыя хлопцы, і яна адна дзяўчына між іх, і яны раніцай вырашаюць, што ў палон яны не здадуцца. І адзін падыходзіць да яе і кажа: «А ты бабу спрабавала?» А да вайны было такое піроржнае «баба», і яна кажа — спрабавала... А ён кажа: «Дурніца ты, вось раніцай загінем, і так і не даведаемся, што гэта такое...» І насамрэч іх толькі некалькі чалавек прарвалася, а гэты хлопец таксама загінуў... І ў яе столькі падрабязнасьцяў, вось ты нарадзіўся, і ўсё выкарыстаньне твайго жыцьця — упасьці са зьвязкай гранат пад танк... Так, нейкая ідэя, радзіма — але чалавек у такія хвіліны наагул думае пра боскую задуму: навошта ўсё гэта?

І раптам я прыходжу да гэтай жанчыны, якая потым мне ўсё гэта распавяла, і яна мне кажа: а вы ў савеце вэтэранаў спыталіся? А ў вас ёсьць дазвол на публікацыю? Мала таго, калі я ёй даслала тое, што я выбрала для кнігі, гэты расповед пра бабу яна выкрасьліла, і там былі такія клічнікі — гэта я табе расказала, каб ты паплакала са мной, а пісаць трэба зусім іншае... Я думаю, што столькі пакутаў, зазіраньне ў такія бездані, а чалавек гэтым не карыстаецца — гэта ня робіць яго ні свабодным, ні шчасьлівым...

У яе я не знайшла таго, што ёсьць у «Нататках ля ўзгалоўя» Сэй-Сёнагон, японскай пісьмень-

ніцы — тысячу гадоў таму напісаных прыдворнай дамай. Вось там ёсьць такі лёгкі ветрык: ад яе сыходзяць каханкі, а яна кажа: вось пройдзе час, і ня будзе гэтага чароўнага цела, гэтага барвовага плашча... Потым яна сядзіць і думае, якія рэчы ёй больш за ўсё падабаюцца — як човен плыве па рацэ, як птушка раптам пралятае... Вось гэта схапіць для мяне сёньня важна, гэты чалавек у часе — ці ў Другой сусьветнай вайне, ці ў Чарнобылі, ці на парэштках імпэрыі...

І разам з тым для мяне галоўны сэнс як для пісьменьніцы — схапіць вось гэтае вечнае, гэты барвовы плашч, гэтае маладое цела, гэты човен, форма, прыдуманая чалавекам... Пра гэта здагадаліся грэкі, яны казалі: «майстэрства жыцьця». Ня сьвята жыцьця, паводле Хэмінгуэя, гэта крыху спрошчана, груба, а вось гэтае майстэрства жыцьця...

Я нядаўна размаўляла са сваёй сяброўкай, яна чытала нейкую старую кнігу і кажа: божа, як мы агрубелі, колькі трэба ўсяго вяртаць сёньня ў літаратуры! Мы ведаем колеры — чырвоны, чорны, жоўты, а раней грэкі ведалі колер «хворай малпы», «колер ласося», «колер сонца, якое згасае ўначы» — маса рэчаў, якія мы страцілі па дарозе цывілізацыі... І ў чым складанасьць гэтай кнігі пра каханьне: у гэтым сюжэце няма нічога новага, ён, яна, ці то прыходзіць хтосьці яшчэ, ці то наагул гэтая істота, званая каханьне, прыходзіць і нечакана сыходзіць... Вось зрабіць новую інсцэніроўку, вярнуць гэты «колер ласося» і «ко-

лер хворай малпы», вось у гэтым пісьменьніцкі і чалавечы сэнс, бо побач ідзе ўласнае жыцьцё.

*Спадарыня Алексіевіч, мне падабаецца Ваша творчасьць. Некалькі год таму я патрапіў у тэатар у Брусэлі. Са мной быў Тамаш Саевіч («Польскае Радыё»). Была пастаноўка па Вашай кнізе «Чарнобыльская малітва». Спэктакль мяне вельмі закрануў, хаця быў па-француску. Калі ў тэатры даведаліся, што я зь Беларусі, дык размова і вечарына працягнулася да 4-ай раніцы. У фае тэатру былі фатаздымкі з Чарнобыльскай зоны — старыя бабулькі зь дзядулькамі, кінутыя хаты. Я запытаў у кіраўніка тэатру, што яго натхніла зрабіць такі спэктакль? Адказ быў такі: сам твор і знаёмства з аўтарам. Мажліва, у Вас былі яшчэ нейкія цікавыя сустрэчы за мяжой? З павагай, Мікалай Раманаў. Антвэрпэн, Бэльгія.*

**Алексіевіч**: Рэч у тым, што ў сьвеце ўсе мае кнігі маюць тэатральныя, кінаварыянты, і асабліва «Чарнобыльская малітва» — як ніводная з маіх кніг яна прайшла па сьвеце, было вельмі шмат яе тэатральных пастановак, і ў кожнай краіне было сваё прачытаньне... У Францыі больш за ўсіх ідуць спэктаклі, там нават у Бардо быў фэстываль, дзе з усёй Францыі прывезьлі 12 спэктакляў паводле «Чарнобыльскай малітвы», і гэта было вельмі цікава... Я думала, чаму менавіта чарнобыльская кніга мела такі масавы водгук і настолькі зацікавіла эўрапейскіх інтэлектуалаў...

У мяне былі дыскусіі з Полем Вірыльё, якога называюць «філёзафам Апакаліпсісу», і ў нас былі такія дэбаты на сцэне, дзе зьбіралася па 600-700 чалавек, і нават фільм існуе з нашым дыялёгам... Мяне зьдзіўляла, што ў залі было шмат маладых людзей, былі цікавыя пытаньні...

Я думаю, што «Чарнобыльская малітва» — насамрэч, хроніка будучыні. Яна выйшла за межы досьведу нейкай адной сыстэмы, адной мэнтальнасьці, хоць тэма вайны таксама выходзіць за гэтыя межы, каб кніга была не мясцовага спажываньня, кніга павінна выйсьці на той пункт інтэлектуальнага назапашваньня, які існуе ў сьвеце, каб гэта было цікава ўсім, а ня толькі на «вясковым выгане». Іначай ня варта пісаць — чаму я настолькі доўга пішу свае кнігі. Я магла б зрабіць 10 такіх кніг, як у «У вайны не жаночае аблічча», я ж ужо дастатковы прафэсіянал, і не пісаць кнігу 7-10 гадоў... Але я хачу, каб кожная кніга была зусім іншай, я павінна вырвацца зь ёю ў зусім іншую прастору, а не паўтарыць саму сябе, тое, што я ўмею рабіць.

А ў Чарнобылі заходняя публіка, заходнія інтэлектуалы знаходзяць адказы на гэтыя страхі будучыні, яны робяцца агульнымі — ужо нельга, як раней, калі вайна ішла ў Эўропе ці ў Савецкім Саюзе, а хтосьці адседжваўся ў Амэрыцы ці ў Аўстраліі, сёньня гэта немагчыма. То бок, страх — гэта новая, паўсюдная культура. Я аднойчы на працягу месяца была ў чатырох краінах: у Францыі паліцэйскія кідаліся да кожнага пакета ў мэтро, у Гішпаніі якраз былі выбухі здарыліся, у

Маскве ў мяне 10 разоў праверылі пашпарт... Вось гэтая культура страху, у якой мы жывем, яна ахапіла ўвесь сьвет, і пра страх гавораць больш, чым пра любоў. І безумоўна ў чарнобыльскай кнізе ёсьць гэтае супрацьстаяньне: да чаго ідзе прагрэс, што прагрэс — гэта форма новай вайны, — усе ваюють з прыродай і ў выніку гінуць...

*Дзень добры. Вашыя кнігі нясуць у сабе боль чалавека. Вы яго прапускаеце праз сябе. Што Вам дапамагае у гэтым: унутраныя рэсурсы, вера, упэўненасьць у тым што гэта неабходна людзям? Што людзі павінны зразумець, для чаго невыносны боль Вашых кніг? Дзякуй.*

**Алексіевіч**: Ведаеце, у нашай сям'і была такая трагедыя — калі памерла мая сястра. Ёй было 35 гадоў, яна вельмі хутка згарэла, за чатыры месяцы ад страшнай формы раку. І я тады ўсутыч сутыкнулася зь лекарамі-анколягамі. І пасьля таго, што я бачыла (я практычна не сыходзіла з гэтага шпіталю), калі, напрыклад, прывозяць дзіця, яму робяць апэрацыю, але ў яго няма шанцаў, і я памятаю дактароў, прафэсара Кацярыну Вішнеўскую, Галіну Канстанцінаўну Тагрунскую, — ніколі я цяпер не скажу, што мы, пісьменьнікі, больш за ўсіх нясем нечы боль, што мы больш за ўсіх нагружаныя гэтым цяжарам сусьвету, трагічнасьцю чалавечага існаваньня... Ніколі я сабе гэтага не дазволю, таму што калі я бачыла, як працуюць гэтыя людзі, як гэтыя лекары вяртаюцца пасьля апэрацыі, зь якімі тварамі, і як

яны потым павінны казаць нешта гэтаму дзіцяці, ягоным бацькам...

Я ня думаю, што я больш перажыла і перадумала — хоць я была на вайне, перажыла суды над сваімі кнігамі, і перажыла ўсялякага кшталту пагрозы і канфлікты з уладай. Гэта ўсё ж можна ў нейкай ступені перавесьці у інтэлектуальны бок. І ў той час я б не сказала, што такія кнігі лёгка пісаць, і што гэта мне проста даецца. Зусім не.

Ну вось, напрыклад. Я ў Афганістане, вакол адны мужыкі, да мяне прыстаўлены нейкі падпалкоўнік, мы на нейкай выставе сучаснай зброі, якую яны захапілі ў маджахедаў. Зброю паказваюць заходнім карэспандэнтам, каб сказаць, што Амэрыка дапамагае маджахедам. І сапраўды, па-свойму прыгожая сучасная зброя. Якраз тады памерла мая сястра, і я думала — калі б усе гэтыя інтэлектуальныя высілкі, што пайшлі на зброю, накіраваць на выратаваньне людзей, а не на забойства — можа, мая сястра была б жывая? І вось я падыходжу да такой міны, яна як навагодняя цацка, мне кажуць, што гэта міна італьянская. Я кажу? «Як навагодняя цацка!» А афіцэр побач са мной кажа: «Калі на яе наступіць — ад чалавека застаецца паўвядра мяса». Праз дзень альбо два ён мне тэлефануе ў гатэль (гэта быў гатэль Генштабу ў Кабуле) і кажа: «Хочаце пабачыць, што ад хлопцаў засталося, якія праехалі па такой міне?» — «А што?» — «Лыжкамі з брані зграбаюць». На вуліцы сьпёка 40 градусаў. Ісьці альбо не? Але ж я выхаваная ў традыцыях расейскай культуры — ісьці да канца. «Ты павінен ісьці да

канца», як казаў Алесь Адамовіч, мой настаўнік, мой любімы беларускі пісьменьнік. І я еду. І бачу ўвесь гэты жах, што, сапраўды, зграбаюць па пяску, каб хоць нешта даслаць маці разам з адзежай. І няма чаго рабіць зь сябе гераіню — я страчваю прытомнасьць, ці то ад таго, што я ўбачыла, ці то ад узрушанасьці гэтай чалавечай бессэнсоўнасьцю — што мы робім у гэтых чужых пясках? А дзе-небудзь у Разані сядзіць гэтая бабулька і ня ведае, што ўжо тут ёй зьбіраюць... Альбо сьпёка? Я ня ведаю.

Потым я вяртаюся дамоў, і мне трэба ўсе гэтыя дыялёгі зьняць з касэты... І вось — павінна я гэта рабіць ці не, да якой мяжы ісьці? Усе гэтыя карціны — перада мной. Не, гэта ня лёгкая праца. Але я думаю, што ўвогуле жыцьцё само па сабе — трагічнае. І гэта трэба сабе спакойна ўяўляць. Трагічнае хаця б таму, што як Нагібін пісаў на вышыні закаханасьці ў сваіх дзёньніках — «Божа, як страшна ад адной думкі, што гэты сьвет трэба пакінуць...» Так што я ня думаю, што мне цяжэй жыць, чым ўсім астатнім. Думаць, можа, цяжэй

*Сп-ня Алексіевіч, што для вас было самым станоўчым і самым непрымальным у СССР? Дзякуй. Віктар.*

**Алексіевіч**: Ведаеце, на гэтае пытаньне ў новай кнізе вельмі добра адказвае адна з маіх гераіняў. Яна кажа: вось я была як матылёк у цэмэнце — было адчуваньне адарванасьці жыцьця, вырванасьці зь нейкага сусьветнага кантэксту... Я, на-

прыклад, да сёньня шкадую, што я ня ведаю шмат моў, бо калі б іначай склаўся час, калі б я сёньня вучылася, я б, вядома, вывучыла больш моваў, адкрыла для сябе філёзафаў нашмат раней, што прыйшлося рабіць даволі позна, бо гэта ўсё было закрыта... Цяпер, калі гэта нават перакладаецца на расейскую мову, то вельмі фрагмэнтарна, у залежнасьці ад нейкіх інтарэсаў... І прыходзіцца некаторыя рэчы дадумваць інтуітыўна.

Я і цяпер яшчэ ня ведаю добра ніводнай мовы, і калі я жыву ў нейкай краіне, то многія рэчы я ўхопліваю інтуітыўна, вышукваю інфармацыю з краявідаў, намёкаў, з архітэктуры... Гэта больш складаная праца, а потым чытаеш нейкага філёзафа, і разумееш, што гэты самы шлях можна было прайсьці хутчэй і раней... І вось гэты акварыюм — гэта было самае прыгнятальнае.

Я памятаю і сваю журналісцкую працу ў газэтах — вечнае адчуваньне «ката ў пастцы», што ты ня можаш — тое, што мне было цікава, было непатрэбна. Думаю, у гэтым трагедыя нашай літаратуры, вясковай, як яе называлі, і ваеннай літаратуры, таму што там увесь час прысутнічала спачатку «вайна-ідэя», гэта сталінскае стаўленьне, потым пачала прабівацца праўда пра вайну, гэткае народнае стаўленьне «вайна-бяда», але мы так і ня ўзьняліся да таго, што яшчэ Анры Барбюс рабіў, калі пісаў свае кнігі пра першую ўсясьветную вайну — «вайна-шаленства», экзыстэнцыяльныя праблемы. Ня тое, колькі каштавала вайна, які страшны Сталін, а наагул, як чалавек робіць выклік Богу, забівае іншага чалавека ў такой

колькасьці, як ён застаецца сам-насам з гэтым пачуцьцём, з гэтай думкай. Я да гэтага здолела прабіцца толькі дзякуючы жаночаму стаўленьню да вайны і дзякуючы таму, што я сама была ў Афганістане («Цынкавыя хлопчыкі»), бачыла, як гэта адбываецца, але гэта было ўжо вельмі позна, мне было трыццаць зь нечым, каля сарака... І я здолела нейкім шляхам узяць гэтую ўсясьветную культуру...

Мы былі зачыненыя, я адчувала прыніжэньне як інтэлектуал, як чалавек, у якога не было гэтага выйсьця... Я памятаю, калі я хацела прачытаць Ніцшэ і Фройда, у студэнцкія часы, я пайшла ў дэканат па нейкую паперку — я павінна была атрымаць дазвол, мне яе не далі. То бок, я не змагла зразумелым для іх чынам патлумачыць, навошта мне Ніцшэ і Фройд, ім было гэта незразумела. Мы павінны былі вучыць, калі газэта «Праўда» выходзіла, калі там што... Я сказала, што гэта патрэбна мне для разуменьня сьвету. Акрамя жаху — я была неблагой студэнткай — я нічога ня бачыла ў вачах свайго дэкана Булацкага...

**Навумчык**: Завяршаем нашу онлайн-канфэрэнцыю. Вашае, спадарыня Сьвятлана, уражаньне ад пытаньняў і Вашыя пажаданьні слухачам і наведнікам вэб-сайту Свабоды.

**Алексіевіч**: Неяк малавата злых пытаньняў, а можа, людзі зразумелі, што агрэсія — не найлепшая форма пазнаньня сьвету і пазнаньня чалавека, які гаворыць на Свабодзе. Нармальныя пы-

таньні, людзі хочуць зразумець сьвет, дакапацца да сілы слова, да сэнсу слова.

Я думаю. што сёньня вельмі важна для ўсіх нас захаваць душэўны спакой. Захаваць гэтае жаданьне працы, не стаміцца, не расчаравацца, не махнуць рукой, не паддацца, калі ты бачыш, што чалавек ператвараецца то ў камфортную жывёлу, то ў агрэсіўную жывёлу. Усё роўна чапляцца за лепшае — тое, што ёсьць у цябе ў жыцьці, тое, што ты прачытаў, тыя, пра існаваньне якіх ты здагадваесься. Жыцьцё нашае не дае шмат нагодаў вельмі радавацца жыцьцю — але ў нас іншага часу ня будзе. І нават больш, мяркуючы па той сытуацыі, у якой мы цяпер жывем у Беларусі — думаю, што нашае жыцьцё будзе пагаршацца. Наша ўлада павінна будзе адказваць за гэтыя пропускі, страты гістарычнага часу. А ўлада ніколі не расплачваецца адна, расплачваецца кожны з нас, кожны чалавек.

Але ўсё роўна — гэтыя 70-80 гадоў жыцьця — гэта ўсё, што ў нас ёсьць. І грэкі маюць рацыю: усё ж, трэба вучыцца майстэрству жыцьця. Калі мы будзем цаніць сябе, сваіх блізкіх, цаніць людзей і радавацца жыцьцю — неяк гэта будзе адбівацца і на ўсім астатнім, і зробіць значна болей, чым проста палітычныя атакі, на якія ўжо ў грамадзтва няма энэргіі. Таму кожны павінен зрабіць гэтую маленькую працу ў самім сабе, і тады, магчыма, будзе тое, чаго мы так хочам.

## Вядомых пісьменьнікаў выкінулі са школьнай праграмы

31 жніўня 2007
Валянціна Аксак, Менск

З новага навучальнага году беларускія школьнікі ня будуць вывучаць творы Генадзя Бураўкіна, Вольгі Іпатавай, Сяргея Законьнікава, Сьвятланы Алексіевіч, Анатоля Сыса, Уладзімера Някляева, Леаніда Дранько-Майсюка, Уладзімера Арлова ды многіх іншых сучасных пісьменьнікаў.

Іхняе месца ў толькі што выдадзенай Міністэрствам адукацыі праграме па беларускай літаратуры занялі імёны пісьменьнікаў, невядомых чытачам, затое добра вядомых дзяржаўным чыноўнікам.

## «Расея пайшла па кітайскім шляху, вось мы і будзем Тыбэтам пры гэтым “Кітаі”»

4 студзеня 2008
Юры Дракахруст, Прага

*Што рыхтуе нам 2008 год? Што вы прагназуеце, чаго баіцеся , перасьцерагаецеся і на што спадзеяцеся ў наступным годзе?*

**Алексіевіч**: Я ехала зараз у таксоўцы, і там па радыё ўсіх палохалі Пацуком, што ён не для ўсіх будзе дружалюбным. Я сама нарадзілася ў год Пацука, так што спадзяюся, што ён мяне пашкадуе.

Для сябе я хацела б скончыць новую кнігу «Час сэкан-хэнд. Канец чырвонага чалавека». У ёй я развражаю, над Вашымі, Юры, сёньняшнімі пытаньнямі.

Чаго я баюся? Я баюся таго, што раней ці пазьней гэтая нашая беларуская рэзэрвацыя будзе падаўленая Расеяй і ўвойдзе ў гэты моцны паток. Я цяпер шмат еджджу па Расеі. Там нібыта адбываецца шмат пераменаў. Але з другога боку ідзе жорсткае разьмежаваньне грамадзтва, і расейская мэнтальнасьць гэтага не прымае. Асабліва гэта бачна па моладзі. І гэта пагражае новымі катастрофамі, проста цяпер дзякуючы нафтагрошам гэта ня так заўважна.

І я баюся, што Беларусь будзе ўцягнутая ў гэты вір, і вытрываць у нас няма ні матэрыялу для супраціву, ні прасторы. Гэта пачнецца ў 2008

годзе, і пачнецца вельмі нахабна, бо Расея пухне ад грошай, і каб іх уратаваць, іх трэба некуды раскідваць.

Банальнасьць, але Беларусь — гэта такі сябра Расеі, якога яна не захоча губляць і якога будуць купляць і палохаць. Гэта ж усё бачна і па крэдытах, і па ўсім: як нам іх даюць і як з намі размаўляюць.

Калі раней мы думалі, што Расея нам дасьць дэмакратыю, то цяпер у яе ў самой вялікія праблемы з гэтымі інстытутамі і зь яе псыхалёгіяй. Яна відавочна пайшла па кітайскім шляху, вось мы і будзем Тыбэтам пры гэтым «Кітаі».

На што я спадзяюся? На тое, што наша слабая апазыцыя паразумнее, што зьявяцца нейкія новыя людзі, новыя лідэры. Безумоўна, будуць пэўныя «браджэньні» эканамічнага характару, можа, гэта паспрые зьяўленьню новых людзей.

Я ня зьвязваю гэта з новым маладым пакаленьнем, якраз новае пакаленьне больш за ўсё расчароўвае, прынамсі ў Расеі. Гэта канфармісты, прагматыкі, рацыяналісты, людзі, якія паводле сваіх жаданьняў вельмі хутка сталі старымі. Лідэры зьявяцца зь сярэдняга пакаленьня, так мне здаецца.

Гэта такія наіўныя навагоднія пажаданьні, і, я спадзяюся, такія самыя страхі.

## «Выйсьці з палону гіпнозу Лукашэнкі»

30 траўня 2008
Іна Студзінская, Менск

*31 траўня — юбілей самай вядомай у сьвеце пісьменьніцы зь Беларусі Сьвятланы Алексіевіч. Яе кнігі не выдаюцца дзяржаўнымі выдавецтвамі Беларусі. Яе дакумэнтальная проза перакладзеная больш чым на 20 моваў сьвету. Апошнія гады пісьменьніца жыве і працуе ў Швэцыі, але на юбілей абавязкова прыедзе ў Беларусь.*

Гэта парадокс, які не разумеюць у цывілізаваным сьвеце: каб кнігі сусьветна вядомых, прызнаных пісьменьнікаў выходзілі мільённымі накладамі на розных мовах ўсюды, але толькі не на радзіме творцы. Каб літаратар меў дзясятак прэстыжных міжнародных прэміяў і узнагародаў, і ніводнай айчыннай.

Словы і пажаданьні Сьвятлане Алексіевіч ад калегі па літаратурнаму цэху **Наталкі Бабінай**:

«Для мяне асабіста Сьвятлана Алексіевіч — гэта прыклад такога пісьменьніка, які мае сілу і мае мужнасьць дадумваць усё да канца, гаварыць усё да канца, без усялякага страху, без усялякіх эківокаў на абставіны, на людзей. Я б хацела пажадаць, каб усясьветная слава пісьменьніцы Алексіевіч яшчэ ўзрастала. І яшчэ пажадаць, можа, ня толькі ёй, а нам усім, чытачам, каб яе кніжкі выдаваліся ня толькі ва ўсім сьвеце, але і тут у нас, у Беларусі».

**Сьвятлана Алексіевіч** апошнія гады жыве і працуе за мяжой: спачатку ў Італіі, цяпер у Швэцыі. На радзіме бывае часта. Пісьменьніца перакананая:

«Мы не павінны быць закладнікамі Лукашэнкі, мы не павінны быць закладнікамі ягонага калгаснага інтэлекту. Асабліва для эліты вельмі важна выйсьці зь ягонага палону, зь ягонага гіпнозу, сапраўды пачуваць сябе ў сьвеце, а ня толькі ў Беларусі. Я яшчэ раз паўтару: у сьвеце, Беларусьсю — але ў сьвеце».

У сваёй творчасьці Сьвятлана Алексіевіч абрала «жанр чалавечых галасоў». Яна прызнаецца, што свае кнігі выглядае і выслухоўвае на вуліцах, за акном, у іх рэальныя людзі распавядаюць пра галоўныя падзеі свайго часу. Яна піша пра вайну, пра Чарнобыль, пра Афганістан, пра самагубцаў і пра каханьне. Сьвятлана лічыць сябе шчасьлівым чалавекам:

«Я ўсё ж веру, што ўсё ёсьць у гэтым жыцьці: і каханьне ёсьць, і блізкія людзі ёсьць, і радасьць ёсьць. Мне ўдалося захаваць нейкую радасьць у жыцьці. І гэта цудоўна, што мы атрымаліся, і мы ёсьць. Жыць і ў часе, і разам з тым памятаць, што ёсьць тваё адзінае жыцьцё. Я і ў сваіх кнігах спрабую спалучыць сучаснага чалавека і тое, што называецца вечным чалавекам. Мне чым далей — тым жыць больш загадкава, чым далей — тым цікавей».

## «Мінімум сем-восем гадоў ідзе на адзін твор»

31 траўня 2008
Аляксандар Уліцёнак, Менск

*Сёньня пісьменьніцы Сьвятлане Алексіевіч — 60 гадоў.*

Назвы яе кніг сталі своеасаблівымі прыкметамі часу — «У вайны не жаночае аблічча», «Апошнія сьведкі», «Цынкавыя хлопчыкі», «Зачараваныя сьмерцю», «Чарнобыльская малітва»…

У Нямеччыне, Францыі, Японіі яна лічыцца адным з найбольш выдаваных замежных аўтараў. Тры гады таму Сьвятлана Алексіевіч атрымала галоўную літаратурную прэмію ЗША.

На наступным тыдні яна — грамадзкі рэдактар нашага радыё. Штодня спадарыня Алексіевіч будзе дзяліцца думкамі і назіраньнямі пра тое, што адбываецца з намі цяпер, а на пятніцу яна даручыла журналістам Свабоды падрыхтаваць перадачу на тэму «Чым жыве чалавек у сёньняшнім сьвеце».

Напярэдадні юбілею са Сьвятланай Алексіевіч гутарыў журналіст Аляксандар Уліцёнак.

**Алексіевіч**: Апошнія 30 гадоў я пішу хроніку «чырвонай цывілізацыі». Дасьледую «чырвонага чалавека». Як з адной гэтай вялізнай імпэрыі атрымалася многа розных краінаў, у якіх пачынаецца свая гісторыя. Але паўсюль усё яшчэ жыве гэты чалавек. У каго ён ператвараецца? Як? То

бок вывучаю, аналізую 100 гадоў руска-савецкай гісторыі.

**Уліцёнак**: Наступнае тады пытаньне — пра вялікую савецкую ўтопію, мітамі якой жыве той самы звычайны чалавек. Хто ў гэтай гісторыі вас найбольш уражвае?

**Алексіевіч**: Самае цікавае для мяне — сам чалавек. Тут, у Беларусі, час нібыта спыніўся, атрыбутаў сацыялізму захавалася, як нідзе. Дапусьцім, у форме сацыяльнага кантракту з насельніцтвам. Мне падаецца, каб тут была, як яе называюць — дыктатура ў чыстым выглядзе, то яна б так доўга не пратрымалася б. Атрымліваецца, яна мае апірышча. І абапіраецца менавіта на нешта ў чалавечай душы. Ці не таму працэнтаў 60-70 яна задавальняе? Вось з гэтым і цікава разабрацца.

**Уліцёнак**: І напрыканцы — пра каханьне. Скажыце, пра яго пісаць лягчэй, чым пра вайну?

**Алексіевіч**: Пра вайну таксама вельмі складана… Ну а пра каханьне пішацца вельмі марудна. Наагул, усе кнігі займаюць у мяне шмат часу: гэта сотні людзей, таму мінімум сем-дзесяць гадоў ідзе на адзін твор.

Каханьне сёньняшняга ўзору, калі мы адкрыліся сьвету, калі ўвесь гэты непаўторны, вялізны досьвед стаўся нашаю часткай, нашмат больш ускладнілася. Бо, бачыце, іншымі становяцца людзі. І зь імі ўжо па-іншаму гаварыць трэба! Іх ужо цікавяць абсалютна іншыя рэчы… Тое адбіваецца літаральна на ўсім. Аднак асабліва — на каханьні.

З аднаго боку, цяпер няма калі кахаць — трэба працаваць і выжываць, а жыцьцё высока падняла планку. А з другога боку, чалавек ужо зразумеў: нічога ў сьвеце ня мае сэнсу, акрамя таго, якога мужчыну ці якую жанчыну ты знойдзеш…

## «Хацелі ў будучыню, а трапілі ў мінулае»

2 чэрвеня 2008
Аляксандар Уліцёнак, Менск

*Сёньня пісьменьніца разважае, чаму «чырвоны чалавек», выхаваны за саветамі, застаецца і ў сёньняшнім дні, чаму савецкая мінуўшчына вабіць нават маладое пакаленьне, ці ўсё ў тым часе было выключна чорнага ці шэрага колераў?*

**Алексіевіч**: У мінулым стагодзьдзі былі дзьве страшныя й энэргетычныя ідэі: фашызм і інтэрнацыянальны сацыялізм у бальшавіцкім варыянце. Абедзьве пацярпелі паразу. Хоць бальшавіцкі сацыялізм пратрымаўся крыху больш.

Дзякуючы чаму? Атрымліваецца, нешта ёсьць у гэтай ідэі такое, што заварожвае людзей. Улічыце: яна захапіла лепшых, прыгожых. Уяўленьне пра гісторыю, што ўладу захапіла купка авантурыстаў, садыстаў і прымусіла мільёны жыць па-іншаму — неразумнае, нікчэмнае.

Я дастаткова шмат займалася мэмуарамі пачатку стагодзьдзя, гісторыяй рэвалюцыі і зразумела: усё да гэтага ішло, тут і трагічнае супадзеньне мэнтальнасьці, і нэндзы, і разрухі — працэс вельмі складаны… А ў выніку маем «чырвонага чалавека».

Ён мне вельмі цікавы. Асабліва сёньня, у наш час, калі ў паветры выразны дух кашалька, нажывы, дух мамоны, калі ўсё падпарадкоўваецца страўніку, «дванаццаціперснай кішцы»… На гэ-

тым фоне магу сказаць, напрыклад, што мне даспадобы жанчыны ваеннага пакаленьня — такіх прыгожых душ больш ніколі ня будзе. Гэта былі самыя цудоўныя людзі!

У тым нашым жыцьці, якое аддаляецца, было ўсё ж шмат моцнага і цікавага, высокага гістарычнага досьведу. Вось многія і сумуюць па тым часе. Прычым ня толькі старэйшыя, але й маладыя.

Бо гэты новы сьвет, той варыянт, які ў нас атрымліваецца (у нас жа не народна-дэмакратычная рэвалюцыя — гэта нейкі намэнклятурны капіталізм, або намэнклятурна-постіндустрыяльнае грамадзтва, ня ведаю, як лепш назваць) — гэта зусім ня тое, што мы хацелі. У імя чаго зьбіраліся некалі стотысячнымі мітынгамі.

Атрымалася нешта іншае. Хацелі ў будучыню, а трапілі ў мінуўшчыну.

У мяне новая кніга так і называецца «Час second-hand: Канец «чырвонага чалавека»».

## «Беларус хоча пераменаў, але ня хоча ўзрушэньняў»

Аляксандар Уліцёнак, Менск
3 чэрвеня 2008

*Сёньня Сьвятлана Алексіевіч разважае, як беларуская мэнтальнасьць уплывае на цяперашні стан соцыюму й краіны.*

**Уліцёнак**: Сёньняшняя Беларусь — гэта трывіяльны працяг Атлянтыды савецкай, або ёй даданіся нейкія новыя, а магчыма нават і знакавыя рысы ў псыхалёгіі?

**Алексіевіч**: У нейкім сэнсе час тут і цяпер прыпынены палітычна. Але хто такі беларус? Гэта ўсё ж чалавек зь сялянскай мэнтальнасьцю: ён хоча пераменаў, але ня хоча ўзрушэньняў. Многае ў сёньняшняй уладзе яму знаёмае, звыклае, з гэтым людзі мірацца.

А з другога боку яны езьдзяць, глядзяць, слухаюць, бачаць сьвет, будуюцца, купляюць нязвыклыя рэчы, частуюцца новай ежай — зрушэньне адбываецца. І яго не спыніць ніякай аўтарытарнай уладзе — хутчэй яна сама будзе мяняцца. Бо грамадзтва разумнее, становіцца больш плястычным, больш дынамічным. Уладзе ад гэтага нікуды не падзецца. Тым больш і Расея ўжо ня стане ўтрымліваць беларускі сацыялізм: усе заклапочаныя ўласнымі інтарэсамі.

Мы ўступілі ў сьвет, дзе няма ілюзій. І да гэтага трэба быць гатовымі.

Іншая рэч, я не падзяляю ідэі пра тое, што нас чакае рэвалюцыя. Не дачакацца яе тут. Будзе павольная, паўзучая эвалюцыя, так мне падаецца.

**Уліцёнак**: Што ў беларусах неадэкватна ўспрымаюць тыя самыя швэды ці немцы, зь якімі вам даводзіцца часта мець справу?

**Алексіевіч**: Са свайго досьведу замежных вандровак магу сказаць: людзі паўсюль аднолькавыя. Добрыя і злыя, мэлянхолікі і сангвінікі — хутчэй вось так сьвет дзеліцца. Тое, што адбываецца зь Беларусьсю, залежыць не ад характару беларусаў — тут хутчэй справа ў масе гістарычных прычынаў. Не, зусім не ў мэнтальнасьці рэч, калі кажуць, што беларусы вось такія нібыта марудныя, сядзяць там у сваіх балотах, а потым ужо — выбух: партызанскі рух…

Я так ня думаю. Проста Эўропа падзяліла постсавецкі сьвет на зоны сваіх інтарэсаў. А беларусы выпалі з-пад гэтай увагі. Прыбалтыка, напрыклад, была цікавая швэдам, немцам, гэтаксама як і іншыя. А мы апынуліся недзе пасярэдзіне, і паводле неабвешчанай дамовы трапілі ў сфэру інтарэсаў Расеі.

Зноў кажу: ня думаю, што тое зьвязанае з нашай мэнтальнасьцю. Тут справа ў гістарычных заканамернасьцях. Урэшце — у гісторыі.

## «Ведаю дакладна: рамантызм сёньня злачынны»

4 чэрвеня 2008
Аляксандар Уліцёнак, Менск

*Сёньня Сьвятлана Алексіевіч разважае пра ролю эліты.*

**Алексіевіч**: Памятаю, лячу ў самалёце, і са мной побач — вучоны. Вялікі, у сэнсе пасады і рангу — начальнік з Акадэміі навук. Спачатку, пакуль ён мяне не пазнаў, была вельмі добрая гутарка. І раптам нешта мільгае ў вачох: «Вы хто — Алексіевіч?!» Ну, ня ведаю: каб можна было выскачыць тады ў ілюмінатар, то ён бы напэўна так і зрабіў… Зьбялеў, пачаў азірацца: хто яго бачыць…

Вось яна, наша эліта: тут і баязьлівасьць у чалавечых паводзінах, у думцы… Тут усё неяк разам.

А з другога боку бачу малады рамантызм: мы — асаблівыя, мы — ня рускія, мы цягнемся некуды вышэй, у Эўропу…

Тыя жывуць страхам, гэтыя — сьветам рамантызму.

А моцнага мазгавога цэнтру, эліты сапраўднай сёньня ня маем. Найлепшыя магікане памерлі ўжо: няма ні Караткевіча, ні Быкава, ні Адамовіча, Брыля няма… Але ж былі ў нас такія людзі!

А цяпер, у такі страшны час, мы абсалютна бяз пастыраў. А яны нам дужа патрэбныя. Бо мы вырашаем праблемы XX, а не XXI стагодзьдзя.

Няхай нават з розных прычынаў шмат каго з нас не чытаюць і ня слухаюць (мяне, напрыклад, як і многіх іншых, выкідваюць з праграм, не друкуюць), аднак сёньня такі сьвет, калі можна і сказаць, і надрукаваць. У такім разе трэба не ў адчай упадаць, а спакойна рабіць сваю працу.

Чаму? Дакладна ведаю, што тыя сотні маладых людзей, якія выходзяць на вуліцу, яны ня зробяць рэвалюцыі. Але нас, нашую годнасьць — ратуюць.

Адзінае, у чым я абсалютна ўпэўненая, гэта наступнае: рамантызм сёньня злачынны. Эліта мусіць ісьці да людзей, гаварыць зь імі, выяжджаць на месцы. Я, дарэчы, калі вяртаюся ў Менск, вельмі шмат падарожнічаю тут.

Бо гэта наш сьвет, ён не падобны на іншы. Нельга ў менскім мэтро езьдзіць па нью-ёркскім раскладзе. У нас сваё жыцьцё. Што зусім не азначае, нібыта тут паўстане нейкая асаблівая, беларуская дэмакратыя. Яна або ёсьць, або яе няма. Але…

Але трэба ўглядацца ў сваё жыцьцё.

## «Перамагчы зло канчаткова можна толькі ў сваёй душы»

6 чэрвеня 2008

*Грамадзкі рэдактар тыдня — Сьвятлана Алексіевіч.*

**Алексіевіч**: Цяпер мы ўсе перажываем пэрыяд адзіноты і разгубленасьці перад новым жыцьцём, перад новай сыстэмай каштоўнасьцяў. Вядома, Біблію не перапісалі, але… Кожны час існуе ў нейкіх сваіх адказах. Сёньня чалавеку трэба адказаць: што важна, акрамя прыватнага жыцьця?

А мы жывём цяпер у часе культу прыватнага. Аднак гэты вульгарны пэрыяд хутка пройдзе. Вось мы паезьдзім, паглядзім сьвет і ўбачым: там людзі ўжо не зьвяртаюць увагі, як, напрыклад, апрануты чалавек, што для нас цяпер дужа важна. Калі я прылятаю ў Менск, першае, што бачу ў аэрапорце, далей у горадзе — жанчыны на высокіх абцасах, размаляваныя, вельмі добра апранутыя, нібыта сёньня ва ўсіх іх нейкае сьвята… А ва ўсім сьвеце тое ўжо нецікава!

У гэтым сэнсе прыйшоў час дэмакратызму, прыязнасьці, асабліва я тое заўважыла ў Швэцыі — ды паўсюль. Я была ў кампаніі з каранаванымі асобамі, мільярдэрамі, дык па адзеньні цяжка здагадацца пра сацыяльны ранг чалавека: тыя самыя джынсы, тыя самыя акуляры — толькі іншы рахунак у банку.

Усе занятыя абсалютна іншым, калі шукаюць сэнс у жыцьці. Апроч гэтага мінімуму ў грамадзтве спажываньня, да якога мы рвемся, каб аднаму мець, скажам, «мэрсэдэс», другому скрыню піва штодня, ёсьць нешта больш значнае.

Сапраўды, з-пад вечка труны не пра тое ж будзе згадваць нябожчык, якія ў яго былі туфлі ці марка аўтамабіля? Зусім не пра тое… Адзін расейскі мільярдэр, які нечакана захварэў і чакаў найгоршага, сказаў мне: я ўсё маю, я ўсё паспытаў, але ў апошнюю мінуту буду ўзгадваць, як піў віно з туфліка каханай жанчыны.

Выходзіць, з сабой чалавек бярэ тое, што — Над. Над матэрыяльным.

## «Мы ўвайшлі ў сьвет без ілюзій»

9 чэрвеня 2008
Аляксей Знаткевіч, Прага

*На мінулым тыдні грамадзкім рэдактарам нашага радыё была пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч.*

**Знаткевіч**: Сп-ня Алексіевіч, Вы кажаце, што сёньня чалавеку трэба адказаць: што важна, акрамя прыватнага жыцьця. Што найбольш важнае цяпер для Вас асабіста па-за межамі прыватнага?

**Алексіевіч**: Я думаю, таксама пошукі гэтага сэнсу. Паколькі сьвет цалкам зьмяніўся. Я разумею, што Біблію не перапісалі, але ўсё ж сыстэма каштоўнасьцяў зьмянілася. Такое нечаканае выпрабаваньне, як выпрабаваньне матэрыяльным — гэта спакуса такая для чалавека.

Я працую над новай кнігай пра тое, што з намі адбылося за апошніх 20 гадоў на постсавецкай прасторы — я ўжо трыццаць гадоў пішу біяграфію імпэрыі, біяграфію гэтага чалавека, ці аўтабіяграфію, бо ў маім жанры людзі самі распавядаюць пра сябе — таму для мяне вельмі важна знайсьці ў словах нейкую новую электрычнасьць, новы сэнс... Таму што мы ў сябе дома ў Беларусі часам захапляемся барацьбой, бо мы ў запозьненым стане, ня вырашылі яшчэ праблемы палітычнай улады, праблемы нацыянальнай ідэі, і барыкадная культура захінае ад нас масу іншых

пытаньняў, якія непазьбежна паўстануць, калі мы вырашым гэтыя чыста палітычныя пытаньні.

**Знаткевіч**: А гэтыя пытаньні можна вырашаць ужо цяпер, ці ўсё ж ёсьць нейкія базавыя палітычныя пытаньні, якія сьпярша трэба вырашыць?

**Алексіевіч**: Я як пісьменьнік магу адказаць на гэтыя пытаньні, я не палітык. У савецкай школе нас вучылі, што чалавек сам па сабе добры, а гэта абставіны робяць яго дрэнным. Але гэта зусім ня так. Калі карыстацца рэлігійнай мовай, ёсьць нібыта нейкі першародны грэх, але ў прынцыпе чалавек вечна боўтаецца між дабром і злом. І як мы зразумелі пасьля сусьветнай рэвалюцыі, нам здаецца, што мы нейкія асаблівыя — расейцы, беларусы, эстонцы... Гэта, вядома, такія хваробы росту. Перамагчы зло можна толькі на сваёй тэрыторыі — на тэрыторыі сваёй душы. Але гэта нямала.

**Знаткевіч**: На нашым сайце ў інтэрнэце наведнікі даволі актыўна камэнтуюць Вашыя думкі, выказваньні — я б найперш хацеў працытаваць камэнтары ў нечым нязгодных, каб была магчымасьць для дыскусіі. Наведнік **Міхась Мазак** піша:

«*Я не магу пагадзіцца з думкай Сьвятланы Алексіевіч, што голая дыктатура — не асноўнае, на чым трымаецца цяперашняя ўлада. Быццам бы ёсьць нешта больш глыбокае. Паверце маім назіраньням (а я стасуюся зь вялікай колькасьцю разнастайных тыпажоў) менавіта страх і безвыходнасьць дамінуюць у настроях людзей. Яны баяцца, прычым ня могуць растлумачыць, чаго*

*менавіта. І гэта часьцяком ідзе праз выхаваньне ў дзяцінстве, мае глыбокія карані ў папярэдніх пакаленьнях Беларусаў».* Як бы Вы пракамэнтавалі такое меркаваньне?

**Алексіевіч**: Я хачу сказаць, што так думаць — гэта проста. Гэта тая пастка барыкаднай культуры. Нам здаецца, што народ у нас любімы, харошы, і мы ўсе такія добрыя — інтэлігенцыя, ці эліта. А насамрэч тая спадчына, якая застаецца ад моцнай такой энэргетычнай ідэі, такой як фашызм ці сацыялізм, гэтая спадчына — чалавек. Застаецца чалавек з псыхалёгіяй ахвяры. І ён заўсёды думае, што ўсё, што адбываецца — ня вынік ягонай волі, ягонага жыцьця, ягоных пераканаьняў і бязьдзейнасьці. Ён думае, што вінаваты хтосьці, што мы ня выкарысталі свой гістарычны шанец, які быў 10-15 гадоў таму. Прынамсі, многія вакол нас яго скарысталі.

Я магу сказаць, што абвінаваціць мяне ў тым, што я падтрымліваю Лукашэнку — сьмешна, і ніхто гэтага ня зробіць, я спадзяюся, але як шчыры чалавек я лічу, што справа інтэлектуала — дадумаць рэчы да канца. І калі я размаўляю зь людзьмі, дадумваю рэчы да канца, ці імкнуся дадумваць, наколькі магчыма, то магу сказаць, што рэжым Лукашэнкі ня быў бы такі доўгі, калі б ён не задавальняў па тых або іншых парамэтрах масу людзей.

Усё, што адбываецца на Плошчы ці ў розумах студэнцтва, маладых людзей, якія ва ўсе часы былі рэвалюцыйнай часткай грамадзтва, у частцы беларускага літаратурнага грамадзтва — выйдзіце

за кальцавую дарогу Менску, вы ўбачыце людзей, якіх гэта цалкам задавальняе. Вы ўбачыце іх на рынках, хоць яны і супраць, але захоўваюць нейкі ўласны інтарэс і не ідуць да канца...

Вось у гэтым разабрацца нашмат важней, чым пэрсаніфікаваць зло і казаць, што яно ў адным Лукашэнку... Ды не. Гэтыя пераходныя, прамежкавыя часы вельмі складаныя. Проста сказаць — аўтарытарызм, дыктатура, гэта спрашчае задачу эліты. А насамрэч гэта вельмі складаны «піражок», і мы з гэтым не разабраліся — ні са сваім народам, чаго ён сёньня хоча, як ён жыве, на што ён здольны, ні з нацыянальнай ідэяй... У нас шмат адкрытых пытаньняў.

**Знаткевіч**: Даволі актыўна наведнікі сайту адрэагавалі на Вашае выказваньне, што Аляксандар Лукашэнка здолеў прадоўжыць сацыялізм — заключыў з насельніцтвам сацыяльны кантракт. І цяпер у параўнаньні з Расеяй у нас сапраўды абаронены студэнт, абаронены бедны чалавек, стары чалавек. Наведнік пад імем «**Антыкамунар**» піша — «*Цікавае меркаваньне, аднак спадарыня Алексіевіч шчыра памыляецца: ні студэнт, ні пэнсіянэр, і ніхто яны (акрамя ўладнай групоўкі) не абаронены!*»

**Алексіевіч**: Для новай кнігі, «Час second-hand», я езьдзіла па Ўкраіне, Прыбалтыцы і вельмі шмат па Расеі, і па Беларусі таксама. Магу з поўнай адказнасьцю сказаць, што ў Расеі жыцьцё больш жорсткае. Там насамрэч такі дзікі капіталізм, абсалютна нахабны, якому ўлада спрабуе неяк даць рады, але гэта ўжо практычна немагчыма.

Я не кажу, што мы добра жывём, але кажу пра тое, што гэты пераходны час Лукашэнка «зьмікшыраваў», за кошт Расеі, танных коштаў, ценявой эканомікі — я не палітык, ня ведаю — але ён насамрэч, думаючы пра ўладу, зьмікшыраваў гэта для насельніцтва, і пакуль што яму ўдавалася гэта ўтрымаць. Іншая справа, што нельга ўтрымаць час, законы грамадзкага разьвіцьця — давядзецца ўсё прадаваць, усё дзяліць, і будуць багатыя і бедныя, і народна-дэмакратычнага сацыялізму, пра які мы марылі, калі задумваўся праект пахаваньня сацыялізму, гэтай Атлянтыды, яго нідзе не адбылося. У прынцыпе, цяпер паўсюль такі намэнклятурны капіталізм.

**Знаткевіч**: Але шмат кажуць, што такі намэнклятурны капіталізм ужо ў апошнія некалькі гадоў у Беларусі стварыўся, і Беларусь рухаецца ў расейскім кірунку, і што сацыяльныя гарантыі пачатку 2000-х гадоў зьнікаюць...

**Алексіевіч**: Я таксама пра гэта казала, што ўлада цяпер прыпёртая да сьценкі, бо ні Расея яе цяпер ня будзе ўтрымліваць, ужо няма Ельцына зь яго партыйнымі яшчэ замашкамі, цяпер усім кіруюць грошы, даляр — мы ўвайшлі ў сьвет без ілюзій, і тут я не спрачаюся.

***Званок**: «Мяне зьдзівіла грамадзкі рэдактар «Свабоды» Алексіевіч сваім кампліментам Пуціну. Калі б яна зьезьдзіла ў Смаленскую вобласьць на тыдзень, яна б убачыла і жахлівую карупцыю, і тое, што Смаленск — горад-банкрут, што з вобласьці бягуць людзі. А паколькі лобі ў Смаленскай вобласьці ў Маскве няма, то грошы з Масквы*

*ідуць, напрыклад, Кадыраву. І ў гэтым пляне я згодны зь Літвіненкам, што сумленным людзям у Расеі месца няма, і што Пуцін зрабіў Расею «скончанай» краінай».*

**Знаткевіч**: Вось такое меркаваньне аднаго з нашых слухачоў. Як бы Вы яго пракамэнтавалі?

**Алексіевіч**: Я ня ведаю, дзе ў мяне ёсьць камплімэнт Пуціну і ўладзе. Я належу да тых людзей, якія ня могуць быць заадно з уладай, гэта ўвогуле традыцыя нашай інтэлігенцыі. Я ня ведаю, дзе гэта чалавек у мяне вычытаў. Часам людзі спрачаюцца ня зь іншым чалавекам, а зь нейкай ідэяй, якая ў іх у галаве. Не, я думаю, што тое, што адбываецца ў Расеі — гэта, вядома, больш энэргічна, хутка, чым у нас, але я ніколі не сказала, што гэта тое, чаго я або людзі, якіх я любіла ў 1980-90-я гады, хацелі. Ня ведаю, дзе чалавек гэта ўзяў.

**Знаткевіч**: Магчыма, ён камэнтуе Вашыя словы пра тое, што рэжым Ельцына разбураў Расею, а прыйшоў Пуцін і здолеў спыніць нейкія алігархічныя працэсы, але шмат хто лічыць, што тыя самыя капіталы перайшлі ў іншыя рукі, а розьніца між багатымі і беднымі ня зьнікла, і Расея па-ранейшаму алігархічная, толькі што ў алігархаў памяняліся імёны...

**Алексіевіч**: Я ня ведаю, калі я гэта казала. Я казала іншае, што Пуцін стаў перад пытаньнем: альбо Расея разбураецца, альбо яе трэба неяк сабраць. Ён сабраў яе мэтадамі, якія ён ведаў, мэтадамі, скажам, камандна-вайсковымі. Мяне, магчыма, зразумелі неяк спрошчана.

**Знаткевіч**: Некалі ў часопісе «ARCHE» Вы, адказваючы на пытаньне пра будучыню беларускай мовы, выказаліся даволі пэсымістычна, ці нехта скажа «рэалістычна», і сярод іншага сказалі: «Мы пацярпелі паразу». Калі б гэта было пытаньне пра дэмакратыю ў Беларусі, гэтая фраза была б зразумелая, але чаму мы ў гэтым кантэксьце? Наколькі я разумею, беларуская мова ня ёсьць нечым, за што Вы змагаліся, нейкай каштоўнасьцю сама па сабе, ці я памыляюся тут?

**Алексіевіч**: Рэч у тым, што калі я кажу «мы пацярпелі катастрофу», я кажу аб нашых дэмакратычных уяўленьнях, нашых ідэалах, пра якія мы думалі, седзячы на кухнях і прыгожа ўяўляючы, як мы будзем свабоднымі, і думалі, што ўся справа ў камунізьме, а выявілася, што ўся справа ў чалавеку. Я пра гэта казала, я ніколі не казала пра мову.

**Знаткевіч**: Але пытаньне было канкрэтнае пра пэрспэктывы менавіта мовы — і Вы казалі, што мы пацярпелі паразу ў пытаньні мовы.

**Алексіевіч**: Праблема мовы заўжды даволі далікатная для мяне, паколькі я не пішу па-беларуску, мяне часта ў гэтым папракаюць, бо так склалася маё жыцьцё, што я нядобра ведаю беларускую мову. У маёй сяброўкі, пісьменьніцы Марыі Вайцяшонак — у яе была цётка, у якой яна вырасла, і ў яе вельмі чароўная беларуская мова, на якой мала хто ў нас піша... У мяне ў сям'і заўжды гаварылі па-расейску, і таму я гэтую праблему заўсёды абыходжу, каб не кранаць нечыя пачуцьці, бо для некага гэта вельмі балюча.

Нядаўна мы размаўлялі з Генадзем Бураўкіным, і ён сказаў, што, Сьвета, Вы павінны дараваць людзям, якія Вас часта абвінавачваюць, таму што нам вельмі балюча...

Калісьці мне і Быкаў гэта казаў. Я нікога не абвінавачваю, але я стамілася, калі мне 20 гадоў кажуць: чаму вы не размаўляеце па-беларуску, ня пішаце. І вось тое, што я раблю — ідэя ў мяне напісаць 7 кніг, я напісала чатыры, — гэта аўтабіяграфія ўтопіі, а савецкая ідэя размаўляла па-расейску. Я пра гэта пішу, а не пра расейскую ці беларускую гісторыю. Мяне цікавіць менавіта тыпаж савецкага чалавека. Таму калі мяне спрабуюць загнаць у кут і казаць пра мову, то мяне ці тады не зразумеў карэспандэнт, ці Вы не зразумелі... Я ў гэтыя пытаньні ніколі не ўваходжу, гэта ня тая прастора, дзе я пачуваю сябе свабоднай і бесстароньняй.

**Знаткевіч**: Вы шмат пішаце і кажаце пра «чырвонага чалавека», чалавека савецкага — наколькі Вы лічыце савецкім чалавекам сябе асабіста, ці Вы за савецкім чалавекам назіраеце ўсё ж збоку?

**Алексіевіч**: Ведаеце, я думаю, што савецкі чалавек нават Вы, хоць я падазраю, што Вам каля трыццаці гадоў. Я дык тым больш, таму што мне гадоў нашмат больш. Я прайшла са сваімі героямі ўвесь шлях, я ніколі ад іх не адмаўлялася. Гэта я напісала «У вайны не жаночае аблічча» і адчувала рамантызм веры, які перажыло тое пакаленьне, калі ідэя была маладая, моцная... Калісьці я сустрэлася з Акуджавам, і ён казаў, як ён малады ішоў на фронт, а ягоная цётка сумна

паглядзела на яго і кажа: «Два фашызмы б’юцца», а ён казаў — «Я не зразумеў, пра што яна кажа». Я таксама не разумела.

Але калі я паехала ў Афганістан і мы зь верталётчыкамі ўзьняліся над зямлёй, і там бачу — штосьці блішчыць, і мне кажуць — там ляжыць некалькі соцень цынкавых трунаў... Калі я ўбачыла бессэнсоўнасьць гэтых сьмерцяў, гэтай ідэі сусьветнай рэвалюцыі, я прыехала адтуль свабодным чалавекам.

То бок я думаю, што я іду разам са сваімі героямі. Я імі захапляюся, недзе не разумею, недзе баюся, але адзінае, што я магу абсалютна шчыра сказаць, што мне вельмі шкада міту аб добрым прыгожым чалавеку, у які мы тады верылі. Магчыма, яго не было, але мне падабаліся тыя людзі. Падабалася ваенная генэрацыя, хоць іх можна сёньня абвінаваціць, што яны маўчалі, і што ГУЛАГ — гэта было менавіта зь імі...

Калісьці, 20 гадоў таму мы фанабэрыста казалі, што яны вінаватыя. Але прабачце, мы сёньня гэтак жа сама маўчым... Я ведаю шмат разумных людзей, якія мне кажуць адно, а самі на працы робяць зусім іншае. То бок небясьпека аўтарытарнай улады ў тым, што ўсе робяцца як бы саўдзельнікамі. Я ведаю, што калі я прыяжджаю ў нейкую краіну, то мяне можа запрашаць любая амбасада, гішпанскі кароль, але ніколі не запросіць беларуская амбасада. Разумееце? А потым паціху яны могуць прыйсьці на п’есу, штосьці шапнуць, і тое далёка ня ўсе... На жаль, мы ўсе міжволі робімся саўдзельнікамі таго, што адбываецца.

**Знаткевіч**: А якія савецкія рысы пазытыўныя і нэгатыўныя Вы маеце?

**Алексіевіч**: Я ведаю, што тое, на чым Вы мяне падлавілі — слова «мы» — гэта дрэнна. Чалавек усё ж асобная істота, а сёньня ўжо дакладна няма хору, хор распаўся, можа быць тут, у нас, у Беларусі ёсьць нейкі такі агульны хор барацьбы, але ў прынцыпе прыватнае жыцьцё адмаўляе хор. Кожны сыходзіць у сябе. Думаю, ад гэтага мне трэба вызваляцца, ад жаданьня ўсё абагульніць і зрабіць тыпажом.

Чалавек сёньня хоча і крычыць кожны сам па сабе. Няшмат прапаведнікаў, дый яны нікому не патрэбныя — ні праведнікі, ні прапаведнікі сёньня не патрэбныя. Кожны крычыць штосьці сваё, замкнуўся ў сваёй прасторы. У нас у Беларусі мы пакуль што на барыкадзе, але калі пачне крыху разьвівацца жыцьцё, гэта будзе вельмі жорсткае выпрабаваньне. Тады мне падабалася, што было штосьці вышэйшае за мяне. У той час я разумею, што няма нічога вышэйшага за чалавечае жыцьцё. Але калі чалавек проста камфортная жывёла, гэта таксама неяк ня вельмі прыгожа...

**Знаткевіч**: Але сучасная моладзь знаходзіць таксама шмат ідэяў, якія не адпавядаюць гэтаму індывідуалізму — тыя самыя «маладафронтаўцы», якія дастаткова радыкальна спрабуюць прапанаваць хрысьціянскую ідэалёгію...

**Алексіевіч**: Я кажу, што мы жывем у прамежкавы час, мы пакуль занятыя барыкаднай культурай, мы яе вязьні, і ў нас шмат агульнага, але гэта — прамежкавы пэрыяд. Потым мы вы-

рвемся ў сьвет спажываньня, бо пытаньне сэнсу жыцьця стаіць паўсюль. Я 8 год пражыла за мяжой, і магу сказаць, што нідзе няма адказаў. Усе ў пастцы гэтага спажываньня, гэтага прыватнага жыцьця, якое заводзіць чалавека ў тупік. Іншага варыянту на сёньня, на жаль, няма. Сёньня сэнс нашага жыцьця ўратаваны тым, што мы змагаемся, гэта надае сэнс нашаму жыцьцю. Але далей праблемы будуць нашмат больш складаныя і жорсткія, і нашая культура будзе да іх нашмат менш падрыхтаваная, бо мы — людзі «культуры барацьбы».

## «Я нідзе ня бачу Лукашэнкі, паўсюль тырчыць Сталін»

28 ліпеня 2008
Юры Дракахруст, Прага

*Ці застанецца Беларусь аўтарытарнай дзяржавай? Ці зьменіцца яе цяперашні савецкі антураж? Над гэтымі тэмамі ў «Праскім акцэнце» разважаюць пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч, шэф-рэдактар газэты «Наша ніва» Андрэй Дынько і публіцыст Аляксандар Фядута.*

**Дракахруст**: Што са спадчыны Аляксандра Лукашэнкі захаваецца ў жыцьці Беларусі пасьля ягонага сыходу? Цяпер такая пастаноўка пытаньня здаецца недарэчнай, прыкметаў таго, што сыход адбудзецца хутка, пакуль няшмат. Але такое пытаньне — спосаб паразважаць пра тое, што ў нашым сёньняшнім жыцьці — бягучае, часовае, абавязанае асаблівасьцям цяперашняга кіраўніка краіны, а што — больш, трывалае, доўгатэрміновае.

Часам мары і нават развагі пра тое, «што будзе, калі...», зводзяцца да спадзеву, што гады кіраваньня Лукашэнкі пасьля ягонага сыходу разьвеюцца, як кепскі сон, і беларусы прачнуцца ў чэрвені 1994 году. Аднак, назіраючы за наступствамі самых выбітных «каляровых» рэвалюцый апошніх гадоў, часта прыходзіш да высновы, як мала там па сутнасьці зьмянілася, і што матрыца,

зададзеная аўтарытарнымі ўладарамі, засталася непахіснай.

Давайце паспрабуем спрагназаваць, што ж зь сёньняшняй спадчыны застанецца ў будучыні. Пачнём з дэмакратыі. Цяпер яе няма. А будзе? Хіба досьвед кіраваньня Лукашэнкі ня будзе спакусай для ягоных наступнікаў, нават калі яны будуць паходзіць з самай дэмакратычнай апазыцыі? Яны ж будуць ведаць, што можна і так.

А з другога боку — ці не атрымаецца так, што прыйдзе сапраўдная дэмакратыя, а праз некаторы час народ скажа: «Пры Лукашэнку быў парадак, а цяпер — бардак»? Аляксандар Фядута, Вам першаму пытаньне.

**Фядута**: Захаваецца, на мой погляд. І ў мяне ёсьць дзьве падставы так лічыць. Па-першае, правесьці эканамічныя і палітычныя рэформы можна, на мой погляд, толькі выкарыстоўваючы аўтарытарныя мэханізмы ўлады. І менавіта дзеля таго, каб дэмакратыя ўсталявалася хутка, новая ўлада павінна будзе дзейнічаць гэтак жа аўтарытарна, як Лукашэнка.

А па-другое, сёньняшнія лукашэнкаўскія апанэнты маюць той самы палітычны досьвед, што і ён. Яны не зьяўляюцца, уласна кажучы, дэмакратамі: паглядзіце, што цяпер адбываецца ў партыі БНФ, паглядзіце, як паводзяць сябе прадстаўнікі Аб’яднаных дэмакратычных сіл, калі размова ідзе пра спробу абмеркаваць іх пазыцыю і іх учынкі, і вы ўбачыце, што гэта — тое люстэрка, у якое глядзіцца Лукашэнка.

**Дракахруст**: Андрэй Дынько, ці згодны Вы з прагнозам Аляксандра?

**Дынько**: Мне падаецца, што пытаньне, якім будзе палітычная сыстэма пасьля Лукашэнкі, застаецца адкрытым. Чым даўжэй Лукашэнка будзе трымаць уладу ў краіне, тым менш шанцаў, што сыстэма, якую ён заклаў, захаваецца пасьля яго сыходу. Такія сыстэмы «заточаныя» пад аднаго чалавека. І, як паказвае досьвед, яны не захоўваюцца пасьля сыходу гэтага чалавека.

Трэба зьвярнуць увагу, што цяперашняя сыстэма, апроч іншага, яшчэ і дысфункцыянальная. Напрыклад, мы маем парлямэнт, які не выконвае ролю парлямэнту, ён выконвае ролю адно легітымацыі рашэньняў, якія прымаюцца выканаўчай уладай, і ня больш за тое. Гаварыць пра поўную стабільнасьць гэтай сыстэмы не выпадае, хоць словы Яна Максімюка пра тое, што Лукашэнка заклаў элемэнты дзяржаўнасьці, якія яго перажывуць — у гэтым ёсьць сэнс. Ну, скажам, ён стварыў нармальную мытную сыстэму, памежную службу, падатковую службу, ясна, што яны захаваюцца (Мытны і памежны дзяржкамітэты былі створаныя ў 1992-1993 гг. — *Рэд.).* А вось, скажам, камітэт дзяржаўнага кантролю — у мяне ёсьць сумнеў.

**Дракахруст**: Сьвятлана, Андрэй падышоў да пытаньня тэхналягічна, разьбіраючы лёс дзяржаўнай сыстэмы па пэўных інстытуцыях. Ну а калі паглядзець у цэлым, якасна: сыстэма, якая будзе пасьля Лукашэнкі, будзе набліжаная да той сыстэмы, якая існуе, скажам, у Польшчы

ці Літве, ці гэта будзе толькі пэўная мадыфікацыя таго, што ёсьць і цяпер?

**Алексіевіч**: Я мяркую, што трэба падзяляць, што зрабіў Лукашэнка, а што зрабіў час. Мытня, памежная служба — стварэньне гэтага прадыктаваў час, гэта робяць і суседзі. Гэта не ягоная справа.

Што ж зрабіў сам Лукашэнка? Я наважуся сказаць, што ён нічога новага не зрабіў, гэта працяг таго, што ў нас было. Гэта генэральны сакратар, толькі называецца сёньня прэзыдэнт, з тымі самымі паўнамоцтвамі і ўладай, хіба што зь непадпарадкаваньнем Маскве. А ў астатнім — гэта сталінская арганізацыя. Я нідзе ня бачу Лукашэнкі, паўсюль тырчыць Сталін.

Мы кажам, што Сталін сышоў. А хто пасьля яго застаўся, хто застаўся нават пасьля «адлігі», пасьля хрушчоўскага бунту намэнклятуры, прыніжанай Сталіным? Застаўся сталінскі чалавек.

Лукашэнка здолеў даказаць, што ў сацыялізму застаўся рэсурс, што ён ня быў выпрацаваны, што, дарэчы, гаворыць на карысьць Гарбачова, яго маштабу. Лукашэнка ўскосна даказаў, што калі б у нас былі больш разумныя кіраўнікі, то разьвіцьцё магло б пайсьці іншым шляхам, шляхам народнай дзяржавы, народнага капіталізму, а не намэнклятурнага і не прыхаванага, як у нас цяпер. Гэта быў бы шлях з арыентацыяй на маленькага чалавека.

Я не прыхільніца Лукашэнкі, але ён, на жаль, падабаецца большай частцы майго народу. Гэты

савецкі чалавек застаецца, і Лукашэнка — гэта ягонае люстэрка.

Адзінае, што застанецца пасьля Лукашэнкі і з чым давядзецца лічыцца любому яго наступніку — гэта тое, што дзяржава павінна быць народнай. Яна ня стала народнай, якой магла б быць, але пэўны сацыяльны кантракт з насельніцтвам быў і да апошняга часу вытрымліваўся. Ва ўсялякім выпадку, гэта дэкляравалася. Я мяркую, што ён увойдзе ў гісторыю як неадназначная постаць, калі ён своечасова і без крыві сыдзе.

**Дракахруст**: Сьвятлана Алексіевіч ужо сказала пра савецкасьць, пра савецкасьць структурную, зьместоўную. А я хачу пагаварыць пра савецкасьць зьнешнюю, бо гэта таксама немалаважны чыньнік.

Беларускі рэжым, магчыма, і ня самы рэпрэсіўны на абшарах былога СССР, але ўжо пэўна — самы савецкі, хаця б паводле антуражу. І зварот «таварышы», што гучыць з вуснаў кіраўніка дзяржавы, і архітэктура, і зьмена бел-чырвона-белага сьцяга на падноўлены савецкі, і перанос Дня Незалежнасьці на 3 ліпеня — дзень вызваленьня Менску ад нацыстаў — усё заклікана ствараць уражаньне, што Беларусь працягвае жыць у СССР. Такой канцэнтрацыі савецкасьці няма ня тое, што ў Кіеве ці Вільні, але нават у Ашгабадзе ці Ташкенце.

А пасьля Лукашэнкі — застанецца гэта ці не? Можа, справа ня толькі ў тым, што цяперашні прэзыдэнт — своеасаблівы рамантык савецкасьці, а ў ягонай упэўненасьці, што гэта ў ідэа-

лягічным сэнсе працуе, а нешта іншае працаваць ня будзе? Можа, у гэтым давядзецца даволі хутка ўпэўніцца і ягоным наступнікам, кім бы яны ні былі?

**Дынько**: Сьвятлана Алексіевіч вельмі мудра прапанавала падзяліць тое, што зрабіў Лукашэнка, і тое, што прадыктаваў час. У такой закрытай, ізаляванай сыстэме, як цяперашняя Беларусь, мы часам схільныя ўсё зводзіць да дзеяньняў аднаго чалавека ці прынамсі нейкай закуліснай групы, якая ажыцьцяўляе ўладу. Насамрэч, грамадзтва залежыць ад воляў і дзейнасьці мільёнаў людзей, кожны зь якіх па-свойму ўплывае на ходу гісторыі, кожны зь якіх ёсьць творцам сваёй нацыі, сваёй дзяржавы і яе будучыні.

Лукашэнкаўцы старанна лепяць са свайго правадыра вобраз беларускага Атацюрка, нават мянушку яму выбралі аналягічную — Ата-Цюрк — па-турэцку азначае «бацька туркаў». Туркменбашы, дарэчы, таксама ж «бацька туркменаў»...

Лукашэнкаўцы бачаць у цяперашняй сыстэме зародак вечнага рухавіка, які зможа захавацца. Але яны пры гэтым робяць адну вялікую памылку. Чаму спадчына Атацюрка аказалася такой даўгавечнай, чаму ён шануецца ў сваёй краіне? Таму што ён жалезнай рукой вёў сваю краіну ў будучыню, мадэрнізаваў, эўрапеізаваў яе.

Са спадчыны Лукашэнкі захаваецца тое, што было арыентавана ў будучыню, што прадбачыла

будучыню. А ўсё, што было арыентаванае на мінуўшчыну, аджыве. Гэта закон гісторыі.

У гэтым сэнсе — наконт савецкай спадчыны. Лукашэнка навязвае гэтую савецкую спадчыну, ён сілай заганяе грамадзтва ў савецкую «скуру». Мне падаецца, што ўсё гэта абсыплецца і трэсьне, як толькі беларускае грамадзтва перарасьце сябе.

**Дракахруст**: Сьвятлана Алексіевіч, вось Андрэй сказаў, што, на ягоны погляд, Лукашэнка «навязвае савецкую спадчыну беларускаму грамадзтву». А яно што — супраціўляецца гэтаму, як нечаму абсалютна яму чужому?

**Алексіевіч**: Я не магу, на жаль, падзяліць рамантызм Андрэя. Я днямі зайшла ў краму ў сваім раёне. Гэта цэнтар гораду, даволі заможны раён. І ўбачыла жанчыну (яна настаўніца, мы некалі зь ёй размаўлялі), якая купляе паўдзясятка яек і грамаў 200 самай таннай кілбасы. І я адчуваю, што мне сорамна побач зь ёй купляць нешта лепшае...

Я абсалютна савецкі чалавек, з савецкімі комплексамі, і я ганаруся гэтымі комплексамі. І не зьбіраюся таньчыць перад лібэральнымі каштоўнасьцямі, дзе маленькі чалавек ня ставіцца ні ў што. Хоць я — зацятая лібэралка. Але мне не падабаецца, што маленькі чалавек выкінуты з гэтага вазка, які скача невядома куды. Арыенціру няма.

Арыенцір ёсьць у інтэлігенцыі, у маладога пакаленьня, як Андрэй кажа. Але мы, на жаль — гарадзкія вар'яты ва ўласным грамадзтве, мы мар-

гіналы, ізгоі. У мяне ёсьць дом у вёсцы. Дык вось, усё, пра што мы гаворым, абсалютна незразумела і непатрэбна майму суседу Пятру Селіверставічу, які жыве там побач са мной.

На чым трымаецца Лукашэнка, на чым трымаецца савецкасьць? Ня ён яе дэкляруе, ён проста зразумеў, што гэта ягоны адзіны шанец утрымацца.

Я памятаю, як у першыя месяцы свайго кіраваньня ён хацеў запрасіць Яўлінскага. Гэта быў іншы Лукашэнка. Але як сапраўдная «палітычная жывёла» ён унюхаў, што народ жа іншы. Тут пра дэмакратыю ведае толькі пара інтэлігентаў, дый тое ім толькі здаецца, што яны гэта ведаюць.

А што тычыцца заўтрашняга дня, то відавочна, што грамадзтва будзе расслойвацца, будзе ўсё прадавацца, пойдзем шляхам Расеі, будуць бедныя і багатыя. І вось цяперашнія калгасы — гэта мільёны бедных людзей, яны будуць трымацца за савецкае. Стратныя заводы, мільёны людзей, выкінутых з працы — яны таксама будуць трымацца за савецкае.

У нашых рамантычных мроях нам здаецца, што гэта Лукашэнка нясе за ўсё гэта адказнасьць. А вы думаеце, што імпэрыя, якая мела такую магутную філязофію, якая праліла столькі крыві, так проста сыдзе?

**Дракахруст**: Аляксандар Фядута, а чый рамантызм Вам бліжэйшы — Андрэя ці Сьвятланы?

**Фядута**: Ну, я наагул пэсыміст, Вы ведаеце. Таму мне бліжэй пэсымістычны рамантызм спадарыні Алексіевіч. І каб пацьвердзіць тое, што яна

казала, я прыгадаю расповед былога кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі Леаніда Сініцына пра тое, як Лукашэнка абіраў эканамічную мадэль краіны. Ён тады спытаў віцэ-прэм'ера Лінга, ці ведае той, што такое рынак. «Не», — адказаў Лінг. Ён спытаў амаль палову ўраду, а ўрад ужо меў нейкі рынкавы досьвед. Але пасьля таго, як нават прэм'ер Чыгір сказаў, што, па шчырасьці, ня ведае, што такое рынак, Лукашэнка сказаў Сініцыну: «Вось так. Будзем будаваць тое, што ведаем. Ведаем сацыялізм».

І тое, што гэтая абраная мадэль аказалася больш прыстасаванай да жыцьця, чым усе мы думалі і чакалі, насамрэч пацьвярджае слушнасьць таго, пра што кажа спадарыня Алексіевіч.

Справа сапраўды не ў Лукашэнку, справа ў тым, што ў кожным беларусе жыве Лукашэнка. У ім ёсьць і савецкае, і беларускае. І гэтая выбуховая сумесь і ёсьць пэўнай падставай для таго, каб меркаваць, што Лукашэнка ня сыдзе як постаць ідэалягічная. Ён сыдзе толькі як кіраўнік дзяржавы. Але ён застанецца ў сэрцах людзей. Сёньня старэйшае пакаленьне адчувае настальгію па Сталіне, а тыя, хто стане старэйшым пакаленьнем заўтра, будуць настальгаваць па Лукашэнку.

**Дынько**: У словах Сьвятланы Алексіевіч мяне больш за ўсё зачапіла яе непахісная вера ў тое, што нічога на гэтым сьвеце не зьмяняецца. Такая эклезіястычная вера. Я зыходжу зь іншага, з таго, што ўсё мяняецца, нічога не стаіць на месцы. Казаць, што беларусы заўсёды застануцца савецкімі,

таму што яны савецкімі былі і ёсьць, гэта значыць адмаўляць людзям ва ўсялякім уплыве на грамадзкія працэсы. Беларусы не застануцца савецкімі, таму што я гэтага не хачу, таму што я дзейнічаю супраць гэтага. І такіх, як я — тысячы. І дзейнасьць гэтых тысяч людзей дасьць свой плён.

Сьвятлана кажа, што маленькі чалавек ні ў што ня ставіцца ў лібэральным сьвеце, называе нас, беларускіх інтэлектуалаў, «гарадзкімі вар'ятамі». Мы — не вар'яты, мы дактары. Роля інтэлектуалаў у такой сытуацыі, як сёньня, якраз у тым, каб быць дактарамі.

Што ж тычыцца маленькага чалавека, то ён якраз у лібэральным сьвеце, у лібэральных дэмакратыях абаронены. Чаму людзі пачуваюцца шчасьлівымі ў Даніі, у Нямеччыне, але пачуваюцца няшчаснымі ў Беларусі (пра што сьведчаць сацыялягічныя дасьледаваньні)? Не ў апошнюю чаргу — праз пачуцьцё неабароненасьці, якое пануе ў нас, праз адсутнасьць бясьпекі маленькага чалавека, як называе яго Сьвятлана, ці простага чалавека, як называюць яго лукашэнкаўцы.

Тое, што яму ў Беларусі добра — гэта адзін з найвялікшых лукашэнкаўскіх мітаў, да яго і трэба ставіцца, як да міту. Давайце паглядзім на аб'ектыўныя рэаліі сучаснай Беларусі. Беларусь выйшла на першую пазыцыю ў сьвеце па колькасьці самагубстваў на душу насельніцтва. Па колькасьці забойстваў на 100 тысяч насельніцтва Беларусь у 8 разоў перавышае ўзровень Эўразьвязу. Лукашэнка сам прызнаў, што за апошнія 5 гадоў узровень злачыннасьці ў Беларусі

вырас на 70%. Мы назіраем дзікую дэградацыю чалавечага патэнцыялу.

Сьвятлана кажа, што сьпіваліся ў Беларусі заўжды, сьпіваліся і пры саветах, і пры цары. Але любы чалавек, які назіраў за беларускай вёскай 50 ці 30 гадоў, скажа, што на вёсцы адбыліся ў гэтым сэнсе кардынальныя зьмены. Я — малады чалавек, але нават у гады майго дзяцінства ў вёсцы пілі намнога менш, а жанчыны не пілі наагул. Насамрэч, лукашэнкаўская сыстэма вінаватая ў тым, тым што адбываецца гэтая дэградацыя чалавечага патэнцыялу.

Чаму? Таму што людзі ня бачаць жыцьцёвай пэрспэктывы. На іх таксама ня ўскладзеная адказнасьць, людзі пазбаўленыя ўласнасьці, людзі ўключаныя ў сыстэму эканамічных адносінаў, у якіх ад іх мала што залежыць. Нарэшце, адным са складовых элемэнтаў сыстэмы, якую мы маем сёньня ў Беларусі, ёсьць культ сілы, які таксама спрычыняе траўмы, выклікае комплексы і вынішчае сацыяльны капітал.

Тое, што нам застанецца пасьля Лукашэнкі — гэта дэградаваны сацыяльны капітал. Вось з гэтым Беларусь будзе мець вялікія праблемы. Бо лягчэй адбудаваць заняпалую інфраструктуру, лягчэй перабудаваць эканамічную сыстэму, але значна цяжэй перавыхаваць тых людзей, якія прывучыліся красьці, бо «ўсё вакол калгаснае, усё вакол маё», якія прывучыліся піць, бо няма чаго рабіць, якія прывучыліся дабівацца свайго кулаком. Вось з гэтым давядзецца жыць доўгія гады.

**Дракахруст**: Вось наконт таго, што казаў Андрэй пра дэградацыю сацыяльнага, чалавечага капіталу. Аляксандар, Вы, наколькі я ведаю, пэўны час займаліся палітычнай працай ва Ўкраіне. Ці можаце Вы параўнаць гэтыя працэсы там і ў Беларусі?

**Фядута**: Украінцы дэградавалі ў значна меншай ступені. І гэта вельмі балюча адчуваецца мной. Ёсьць такі паказчык — адносіны да посьпеху іншага чалавека. Зайздрасьць ва Ўкраіне амаль што адсутнічае, асабліва сярод моладзі. Моладзь глядзіць на пасьпяховага чалавека і кажа сама сабе — мы таксама будзем такімі. Мы будзем працаваць, і мы нешта атрымаем. Ну, ня будзе ў мяне той імпэрыі, якую мае Рэнат Ахметаў, але ў мяне будзе маленькая друкарня, маленькая цырульня ці нешта іншае. Моладзь да гэтага імкнецца.

У нас такое немагчыма. Немагчыма для ўсіх, акрамя вельмі нешматлікай часткі моладзі, для якой бацькі стварылі ўмовы. А іншыя ня могуць атрымаць добрую працу, ня могуць атрымаць стартавы капітал, каб пачаць уласную справу. І вось гэтае пачуцьцё безвыходнасьці, пачуцьцё адсутнасьці пэрспэктываў — гэта тое, што пакідае Лукашэнка. Гэта адчуваецца менавіта цяпер, калі пачалася сапраўдная прыватызацыя і высьветлілася, што ўласных беларускіх прыватызатараў няма, няма тых людзей, якія маглі б легальна набыць уласнасьць, якая належыць беларускай дзяржаве, і стаць яе гаспадарамі.

Калісьці Васіль Лявонаў сказаў мне — самае жудаснае нават ня тое, што няма багатых людзей у Беларусі, а тое, што тыя багатыя, якія будуць, ня будуць адчуваць сябе беларусамі, яны будуць прышлымі, нетутэйшымі. І для іх беларусы застануцца тубыльцамі, нацыяй працаўнікоў і ня больш за тое.

Насамрэч, я хачу сказаць камплімэнт Вам, Юры. Вы ў якасьці сёньняшніх суразмоўцаў абралі прадстаўнікоў трох розных пакаленьняў утапістаў. У кожнага з нас у галаве свая ўтопія — і ў спадарыні Алексіевіч, і ў мяне, і ў спадара Дынько. Гэтыя ўтопіі адрозьніваюцца тым досьведам, які мае пакаленьне кожнага з нас. Тое, што мы абмяркоўваем сёньня — гэта крах дзьвюх утопіяў, спадарыні Алексіевіч і маёй уласнай, і адзіны з нас, у каго ёсьць пэўны аптымізм, хоць гэта і ўтапічны аптымізм — гэта спадар Дынько. І дзякуй Богу, калі ён, а ня мы, будзе мець рацыю.

**Алексіевіч**: Андрэй сказаў: «Сьлядоў Лукашэнкі ня будзе, бо я гэтага не хачу». Дарагі Андрэй, я таксама гэтага не хачу, але я больш цьвяроза сабе ўсё ўяўляю. Мае рацыю Фядута, у мяне сапраўды ўжо няма таго біялягічнага аптымізму, якім Вы яшчэ поўны. Мне бліжэй тое, што казаў Бродзкі — Салжаніцын думае, што ўся справа ў камунізме, а справа ў чалавеку.

Мы і без Лукашэнкі спазьняемся з фармаваньнем нацыі, мы яшчэ ня выйшлі са стадыі народу. Я думаю, што нашы маладыя людзі, у якіх ёсьць шанец уратаваць гонар нацыі, яны таксама ідэалісты. Яны чарговы раз спрашчаюць праб-

лемы. Не спадзявайцеся на рэвалюцыю. Будзе марудная, паўзучая эвалюцыя. А параўноўваць нас з Даніяй — гэта наагул сьмешна. У найлепшым выпадку з Расеяй можна параўноўваць. На Захадзе дэмакратычны мэханізм адточваўся стагодзьдзямі, ня трэба нават глядзець туды. Гэта як роды ў жанчыны — нельга праскочыць пэўныя этапы.

Ніводнае пакаленьне ўтапістаў, пра якія казаў Аляксандар, ня можа сёньня сказаць: «Я ведаю, як яно будзе». Ды нічога мы ня ведаем. Вось ірванула 4 ліпеня (выбух у Менску на сьвяткаваньні афіцыйнага Дня незалежнасьці — *Рэд.*). І ніхто ня ведае, што гэта такое — ці нейкія гульні, ці вар'яцтва адзіночкі. Мы нават не ўяўляем сабе, штó нас чакае наперадзе, мы проста не гатовыя да гэтага. Народ за акном жыве па сваіх законах, бізнэс — па сваіх, улада — па сваіх, а мы, інтэлігенты — па сваіх. І ўтапізм у такіх умовах — гэта ўжо злачынна.

## «Усё супраць нас»

Ганна Соўсь, Прага
21 лістапада 2008

*Госьцяй «Начной Свабоды» была пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч. Яна адказала на пытаньні «Свабоды», слухачоў і наведнікаў сайту нашага радыё.*

**Соўсь**: Сьвятлана, мы прапанавалі наведнікам нашага сайту задаць вам пытаньні праз сайт svaboda.org. На пачатку размовы я хацела папрасіць Вас расказаць слухачам Свабоды, дзе вы цяпер жывяце ў Нямеччыне і над чым працуеце?

**Алексіевіч**: Я цяпер жыву ў Бэрліне. Напэўна, шмат хто ведае гэты горад і бываў там. Цяпер нашы людзі вельмі шмат езьдзяць і любяць гэты горад. Але я яго практычна ня бачу, таму што заканчваю новую кнігу, якая называецца «Час second-hand. Канец чырвонага чалавека». Кніга пра апошнія дваццаць гадоў нашага жыцьця, што з намі было, у што верылі, да чаго прыйшлі, ці параза гэта, ці катастрофа, ці свабода… Адказы, як заўжды ў маім жанры, даюць сотні галасоў, сотні людзей рознага веку, узроўню ўспрыманьня — усе мы спрабуем зразумець, што гэта такое.

**Соўсь**: Ведаеце, як толькі я пачула слова second hand, адразу хачу задаць пытаньне **Аляксандра з Магілёва**: «*Колькі, на вашую думку, павінна прайсьці часу, каб беларускі народ насыціўся пат-*

*рыманымі машынамі, бытавой тэхнікай і гэтак далей і перайшоў да заваяваньня такіх каштоўнасьцяў, як свабодныя дэмакратычныя выбары і права прыватнай уласнасьці на зямлю?»*

**Алексіевіч**: Гэта вельмі трапнае пытаньне. Акурат сёньня я працавала над споведзьдзю старога камуніста, і ў яго гэта прыкладна так гучала: «Так, у нас была мара. Няхай гэта скончылася морам крыві. Гэта ж наш ідэалізм. Мы былі не злачынцы, мы былі ідэалісты. А што ў вас цяпер? Гаршчок капусты? Што гэта такое? Перамагла Яе Вялікасьць кілбаса? Жратва? Выходзіць, што чалавеку больш нічога ня трэба?» Насамрэч, спажывецкі сьвет, цывілізацыя спажываньня — гэта вельмі моцнае ўражаньне і вельмі цяжкае выпрабаваньне і спакуса для згаладалых людзей. Гэта надта чалавечае жыцьцё, вельмі камфортнае, але і чарговы вялікі падман. Тут, у Эўропе, людзі ўжо гэта разумеюць і спрабуюць схапіцца за нешта духоўнае. Вось сёньня да мяне прыходзіў рамантавац кампутар досыць просты чалавек. Ён расказаў, што ў выходныя дні яны зь сябрамі клюбу зьбіраюць дапамогу для дзяцей Афрыкі.

Чалавек спрабуе за нешта зачапіцца. Вось гэтага ў нас цяпер няма. Кожны сам сабе. І нават людзі, якія змагаюцца ў імя беларускай ідэі, маладыя людзі, якіх я вельмі паважаю і захапляюся імі, я бачу іх расчараваньне, таму што яны самотныя сярод сваіх сяброў, іх няшмат. Калі нешта зьменіцца, я ня ведаю. Я думаю, я нават упэўненая, што рэвалюцыі, на жаль, не адбудзецца. Мі-

нуў час. Мы страцілі гэты шанец. Застаецца эвалюцыя, але вельмі марудная. Усё супраць нас.

**Соўсь**: І ў працяг нашай гаворкі, у Лёндане сёньня завяршыўся беларускі інвэстыцыйны форум, і ўчора ў эфіры Начной Свабоды сакратар Згуртаваньня беларусаў Вялікай Брытаніі Сяргей Пяткевіч сказаў, што піяр-мэнэджэр Тымаці Бэл свой інвэстыцыйны форум правёў у Беларусі. Калі б Вам запрапанавалі, як лорду Бэлу, палепшыць імідж Беларусі ў сьвеце, што б Вы найперш зрабілі?

**Алексіевіч**: Перш за ўсё, я б зрабіла тое, што нам даўно трэба рабіць. Хоць мяне ня вельмі любяць на Радыё Свабода за маё меркаваньне, я лічу, што мы запозьненая нацыя. Мы сёньня вырашаем праблемы мінулага стагодзьдзя. Каб дагнаць час, трэба рабіць ня тую рэформу адукацыі, якую робіць наша ўлада, прэзыдэнт Лукашэнка, як яе называюць самі настаўнікі — «рэформу сантэхнікаў». Усё — для адукацыі, гэта галоўнае, дзе мы можам нагнаць час: даць грошы, магчымасьці, свабоду, ініцыятыву настаўніку і нашым навукоўцам. Вось дзе наш гістарычны шанец. Але гэтыя пытаньні цягнуць за сабой праблему свабоды, дэмакратыі. А бачыце, як яна зьмізарнела, і ня толькі ў нас, а ва ўсім сьвеце. На свабоду ідзе сёньня наступленьне — ад страху, ад масавага бескультур’я.

**Соўсь**: У гэтыя дні ў сталіцы Нямеччыны адбываецца прэм’ера фільму «Невядомая жанчына з Бэрліну». Паводле крытыкаў, гэта новы погляд на вызваліцеляў і тых, каго вызвалялі. Уражань-

нямі ад фільму дзеліцца экспэрт у галіне мэдыяў **Эдыт Шпільхаген**, якая шэсьць гадоў працавала ў адукацыйным цэнтры IBB у Менску, вяла праекты, прысьвечаныя ў тым ліку і гісторыі другой сусьветнай вайны:

*«Я зь вялікай цікавасьцю паглядзела фільм «Невядомая жанчына з Бэрліну», прысьвечаны апошнім дням вайны. Фільм пра тое, як нямецкая жанчына прыходзіць да савецкага маёра, які служыць у камэндатуры ў Бэрліне, і распавядае, што савецкія салдаты згвалтавалі яе, а таксама іншых жанчын. Аднак фільм ставіць больш шырокія пытаньні. Што шукалі немцы ў СССР у часе Другой сусьветнай вайны? Чаму яны ішлі ў гэтую краіну? Фільм дае адказ: рэакцыя маладых савецкіх салдат была досыць лягічнай, калі яны прыйшлі ў Бэрлін і ўзгадалі, што рабілі фашысты зь іхнымі сем'ямі. Фільм атрымаўся вельмі гуманістычны і, мяркую, будзе ўспрыняты ня толькі немцамі. Асноўная задача яго ў тым, каб вайна больш ніколі не паўтарылася».*

**Соўсь**: Сьвятлана, калі б Вы цяпер узяліся за дакумэнтальную прозу пра Другую сусьветную вайну, якіх бы герояў абралі? Які б быў цяперашні погляд на тую вайну? Ці зьмяніўся ён з часоў напісаньня кнігі «У вайны не жаночае аблічча»?

**Алексіевіч**: Два гады таму я зрабіла новую рэдакцыю гэтай кнігі, аднавіла выразанае цэнзурай, самацэнзурай (я таксама была чалавекам свайго часу). І шматлікія мае гераіні, сыходзячы, пакідалі мне свае лісты, успаміны. Час спрыяў адкрыцьцю праўды. Але вось тэма каханьня,

сэксу была найбольшым табу. Гэта адзіная тэма, на якую я не магла разгаварыць сваіх гераінь. А яшчэ гадоў дзесяць таму мы зь нямецкім рэжысэрам Хельгай Зандэр рабілі фільм «Вызваліцелі і вызваленыя» на тэму прыходу савецкіх войскаў і абыходжаньня зь нямецкімі жанчынамі. Я выбрала тады найбольш цікавых, вальнадумных сваіх гераінь і хацела, каб яны расказалі ёй тое, чаго яны не расказалі мне. Памятаю, як мы былі ў Валянціны Чудаевай, камандзіра зэнітнай гарматы, яна рабіла пельмені, накрыла стол. Хельга задавала ёй пытаньні: «Скажыце, калі ласка, ну як маглі вашы мужчыны ўстрымацца? Ці можна спыніць чалавека на вайне?» — «Не, жанчыны трымаліся. На лініі Сталіна быў загад, і жанчыны яго строга трымаліся». І скончылася тым, што Хельга ўпала на стол і заплакала і нават закрычала: «Я прыйшла да вас, як сястра. Я хацела з вамі пагаварыць пра сьвет мужчын, які навязвае нам свае законы. Празь пяцьдзясят гадоў трэба казаць ужо пра вар'яцтва, а не пра перамогу». Але жанчыны маўчалі. Усё гэта я дадала ў кнігу. І думаю, што сёньня я б дадала якіх-небудзь экзістэнцыйных рэчаў, распрацоўваючы тэму вайны-вар'яцтва. Але жаночая псыхіка такая, што яна і ў тыя часы намацала нейкія такія мацерыкі пачуцьцяў, якія ўсё ж вытрымалі выпрабаваньне часам. Але я вельмі люблю гэтую кнігу і ня думаю, што я б сёньня ў ёй шмат што зьмяніла.

**Соўсь**: Пытаньні Сьвятлане Алексіевіч задаюць і слухачы «Свабоды» праз наш тэлефон аўтаадказьнік.

***Антон зь Менску**: Паважаная Сьвятлана, а што б Вы зрабілі з бацькамі-п’яніцамі? І ці дапамогуць тут працоўныя лягеры, як тое прапануе зрабіць Лукашэнка?*

**Соўсь**: А я дадам, што ўчора Аляксандар Лукашэнка заявіў, што неабходна стварыць у кожнай вобласьці працоўныя лягеры для нядбайных бацькоў, якія ня хочуць сплачваць дзяржаве выдаткі на ўтрыманьне дзяцей. Спадарыня Сьвятлана, як бы Вы адказалі на гэтае пытаньне?

**Алексіевіч**: Гэта жах, таму што слова «лягер». Мая бабуля, украінка (у мяне маці ўкраінка, бацька — беларус), калі мы размаўлялі пра 1937 год, вельмі добра сказала: «Гэты мех трэба толькі разьвязаць, і тады яго ўжо не завяжаш, дух назад не загоніш». Я думаю, што гэта вельмі страшна і лягічна для аўтарытарнай улады — прыйсьці да нейкай мадыфікацыі лягераў. Мы ўсё далей адыходзім ад спробы грамадзянскай супольнасьці. Чарнобыльскіх дзяцей ужо не пускаюць за мяжу, грамадзянскія ініцыятывы ўсе прыдушаныя жалезнай рукой дзяржавы. І ўвогуле, трэба, каб эўрапейскія краіны давалі грошы, а ён вырашаў, як імі распарадзіцца: ці лягеры для п’яніц будаваць, ці лядовыя палацы. Гэта кажа толькі пра бездапаможнасьць улады. А ўвогуле, уладу крытыкую я, вы на радыё Свабода, інтэлігентныя людзі. А народ жа маўчыць! І мы слухаем самае прымітыўнае ўяўленьне пра тое, як павінна быць наладжана жыцьцё. Асабіста я адчуваю пачуцьцё паразы.

**Соўсь**: Сьвятлана, вас вылучалі на Нобэлеўскую прэмію ў галіне літаратуры. Наколькі Вы сур'ёзна ставіцеся да гэтага? Ці ёсьць любая прэмія, і Нобэлеўская ў тым ліку, сапраўднай ацэнкай пісьменьніку?

**Алексіевіч**: Гэтае пытаньне было б больш дарэчы для спартоўцаў, а для пісьменьніка наўрад ці. Мне проста цікава жыць, мне проста цікава думаць, мне цікава ўзірацца ў жыцьцё, аналізаваць. Я досыць шчасьлівы чалавек, хаця ў мяне каля 17 значных прэмій. Гэта радасная падзея, вядома, але я пра гэта сур'ёзна ня думаю.

**Соўсь**: І зараз пытаньне ад наведніцы сайту **Тамары зь Менску**: «*Паважаю і захапляюся Вамі і Вашымі працамі. Як хутка беларус пераможа свой страх і абыякавасьць? Вельмі чыста на вуліцах. Але кажуць, што шмат прыбірае той, у каго вельмі брудна і няўтульна на душы. Так бы мовіць кампэнсацыя. Гэта так?*»

**Алексіевіч**: Я ня ўпэўнена, што гэта так. Я люблю прыгожыя рэчы. І калі да мяне прыходзяць, то ўсе зьдзіўляюцца. Там няма каруначкаў і візэруначкаў. Але я люблю прыгожыя рэчы. Усе думаюць, што тут павінна жыць нейкая мілітарыстка. Усё павінна быць жалезнае і непрыгожае, але разам з тым я не магу сказаць, што я гэтым абараняюся ад чагосьці. Хоць ад нашых вуліц, асабліва ад менскіх (там, за Менскам, гэтае адчуваньне зьнікае) гэтая чысьціня ўзмацняе адчуваньне таталітарызму, аўтарытарнасьці. У Брусэль, напрыклад, прыяжджаеш — брудны горад. У Парыжы пасьля абеду ці ў Флярэнцыі

таксама брудна. Людзі жывуць, людзі вольныя, ад іх застаюцца сьляды. А тут няма сьлядоў. Ні ў гісторыі, ні ў нашых жыцьцях. Усё падчышчана. Што да нашага будучага жыцьця, я дзіўлюся, як хутка мы вярнуліся ў стойла, як хутка мы ўсё ўзгадалі. Мы маўклівыя. У мяне былі моманты адчаю: былі суды, мяне ня любіць улада, я вымушана жыць за мяжой. Гэта ня самы страшны канфлікт, які перажывае пісьменьнік. Гэта нармальна для нашага пісьменьніка, мы заўжды так жылі. Але самае страшнае — гэта канфлікт з гэтым маленькім любімым мной беларусам, якому сапраўды хапае гэтага гаршка капусты. Гэты вульгарны пэрыяд трэба перажыць. Але так доўга чалавек ня ўзгадвае пра тое, што яму трэба быць нечым большым, чым адзінкай гэтай сыстэмы.

**Соўсь**: І апошняе пытаньне ад наведніка сайту **Севярына Глеба зь Бярозаўкі**: *«Дзе можна набыць вашыя кнігі»?*

**Алексіевіч**: Цяпер у выдавецтве «Время» ў Маскве выйшаў чатырохтомнік. Усе гэтыя кнігі пад новай рэдакцыяй. Іх можна набыць і ў Менску, у «Кароне». Калі я там бываю, да мяне падыходзяць, я падпісваю. Адзінае, што мяне бянтэжыць — яны дарагія. Мяркую, што ў студзені будзе кніжная выстава. Выдавецтва зьбіраецца прывезьці мае кнігі, і я таксама б хацела прыехаць. Выдаць у Беларусі ніводнае выдавецтва не ўзялося, тым больш дзяржаўнае. Хоць, я думаю, гэта таксама прадмет асабістае мужнасьці. Ня думаю, што там за кожным стаіць Лукашэнка.

## «Улада будзе такой, якой будзем мы»

15 лютага 2009
Іна Студзінская, Менск

*14 лютага ў выставачным павільёне «Белэкспа», дзе гэтымі днямі праходзіць XVI Міжнародная Менская кніжная выстава, адбылася сустрэча зь беларускай пісьменьніцай Сьвятланай Алексіевіч, якая цяпер жыве і працуе ў Бэрліне. Сьвятлана Алексіевіч — найчасьцей выдаваны сучасны аўтар у Японіі, нядаўна яна атрымала Нацыянальную прэмію крытыкаў ЗША. Але ў Беларусі кнігі Сьвятланы Алексіевіч не выдаюць.*

У маскоўскім выдавецтве «Время» толькі што выйшаў чатырохтомнік твораў Сьвятланы Алексіевіч. У невялічкім закутку каля стэнду гэтага расейскага выдавецтва і адбылася сустрэча пісьменьніцы зь землякамі.

Ахвотных трапіць на сустрэчу зь пісьменьніцай было вельмі шмат. Многія прыйшлі з кветкамі. Маленькі закутак ня мог зьмясьціць усіх. Сотні людзей стаялі ў чарзе па аўтографы да аўтаркі. Сама Сьвятлана была вельмі ўражаная такім прыёмам і ўсхваляваная:

**Алексіевіч**: «Я вельмі рада, што праз 10 або 15 гадоў урэшце я дома і магу гаварыць са сваімі чытачамі на радзіме. Я вельмі засумавала бяз вас…»

За 30 гадоў творчага жыцьця Сьвятлана Алексіевіч напісала 5 кніг. Яны выйшлі мільённымі накладамі ў ста выдавецтвах сьвету. Цяпер яна

працуе яшчэ над трыма творамі. Пісьменьніца прызнаецца:

**Алексіевіч**: «Я ўсе кнігі пішу па 10 гадоў, вось «Чарнобыльскую малітву» — 11 гадоў. Калі чытаеш — здаецца, гэта ня так цяжка. А насамрэч сабраць гэты трагічны матэрыял вельмі складана. Але яшчэ складаней — знайсьці новы погляд, новы ракурс, укласьці гэта ў нейкую новую філязофію, каб гэта сапраўды было адкрыцьцём... Мы сёньня ўжо дастаткова культурныя, дастаткова разумныя. Сёньня грамадзтва разумнейшае за ўладу, разумнейшае нават за мастацтва і літаратуру. Таму вельмі сур'ёзна трэба думаць, з чым можна выйсьці да вас і што вам сказаць».

У маскоўскім выдавецтве «Время», якому пісьменьніца перадала правы на выданьне яе кніг на расейскай мове, выйшлі чатыры тамы з запланаванага сямітомніка твораў («У вайны не жаночае аблічча», «Апошнія сьведкі», «Цынкавыя хлопчыкі», «Чарнобыльская малітва»). Цяпер яна піша новую кнігу «Час second-hand. Канец чырвонага чалавека». Гэта кніга пра апошнія 20 гадоў нашага жыцьця, якія былі вельмі складаныя для самой Сьвятланы, складаныя для ўсіх беларусаў.

**Алексіевіч**: «Складаныя гады не таму, што канфлікт з уладай, канфлікт, часам, і з маімі героямі, якія таксама ва ўладзе свайго часу, ва ўладзе нейкіх маніпуляцый... Мы ўсе безабаронныя перад сваім часам, перад краінай. Я думаю, кожны з нас у адзіноце прайшоў гэты шлях. Таму што ніколі не было яшчэ такога шляху — ад сацыялізму да капіталізму. Я асабіста была да гэтага не гатовая.

А ў Беларусі, у параўнаньні з той самай Расеяй, іншымі краінамі, як бы запаволеныя гэтыя працэсы пераходу ў капіталізм, у рынак. У нас такі «аўтарытарны сацыялізм», калі ёсьць такая разнавіднасьць».

Новая кніга Сьвятланы Алексіевіч складаецца зь некалькіх частак: пра што гаварылі на кухнях у 1987—1997 гадах — 10 гісторый у чырвоным інтэр’еры; хоры з вулічнага шуму 1997—2007 гадоў — 10 гісторый без інтэр’еру. Яна сама ў роспачы:

**Алексіевіч**: «Я вяду цягам ужо 30 гадоў вось гэтую «хроніку чырвонай цывілізацыі» — пішу пра тое нашае жыцьцё, якое называлася сацыялізмам. Але мы, нягледзячы на тое, што езьдзім на іншых аўтамабілях, носім імпартныя, кітайскія і італьянскія шмоткі, пакуль яшчэ застаемся савецкімі. Мы пакуль яшчэ з зусім іншага часу, які не супадае зь цяперашнім часам. І кожнаму з нас трэба прайсьці яшчэ гэты нялёгкі шлях».

У плянах пісьменьніцы — дапісаць кнігу пра каханьне, завяршыць працу над кнігай «Канец чырвонага чалавека». А сёмая кніга будзе пра старасьць. Яна верыць ў лепшае:

**Алексіевіч**: «Улада будзе такой, якой будзем мы. Улада — наша адлюстраваньне. Уладу трэба нікому не аддаваць. Яе трэба браць цывільным шляхам. Яе трэба адстойваць кожнаму з вас. Трэба змагацца на прасторы сваёй асобы, сябе трэба мяняць. І гэта адзіны шлях: мы будзем новыя, і жыцьцё будзе новае. Вось пра гэта я і пішу».

## «Людзі былі як патроны ў патранташы»

15 верасьня 2009
Юры Дракахруст, Прага

*Чаму ў Беларусі такі высокі пакзьнік самагубстваў? Як ён мяняўся ў апошнія дзесяцігодзьдзі? Чаму за гэты час назіраўся істотны рост самагубстваў сярод мужчын? Як абумоўліваюць схільнасьць да самагубстваў культурныя і рэлігійныя асаблівасьці? Над гэтымі пытаньнямі ў «Праскім акцэнце» разважаюць пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч, псыхіятар Менскага гарадзкога псыханэўралягічнага дыспансэру Ігар Сарокін і псыхоляг Менскага гарадзкога Цэнтру сям'і і дзяцей Жанна Міцкевіч.*

**Дракахруст**: 27,5 выпадкаў на сто тысяч насельніцтва — такім быў паказчык самагубстваў у Беларусі летась. Гэта адзін з самых высокіх паказчыкаў і ў рэгіёне, і ў сьвеце. У сярэднім у Эўропе штогод забівае сябе 17 чалавек са ста тысяч насельніцтва. Чаму так шмат беларусаў канчаюць жыцьцё самагубствам?

**Міцкевіч**: Тут нельга назваць нейкую адну прычыну. Паводле колькасьці самагубстваў на 100 тысяч чалавек насельніцтва мы ўваходзім у пяцёрку краінаў, найбольш схільных да самагубстваў. Беларусам уласьцівае імкненьне да стабільнасьці, пакою, звычкі. Ёсьць прамая залежнасьць паміж суіцыдам і стратай сацыяльнага статусу. Гэта называецца «комплекс караля Ліра». Калі

адбылася «перабудова», калі чалавек не знаходзіць сабе месца пасьля таго, як ён быў стабільна ўладкаваны, тады і здараецца мноства самагубстваў. Але яшчэ адна прычына — гэта алькагалізм. Псыхатэрапэўты лічаць, што алькаголікі ўчыняюць каля траціны ўсіх самагубстваў і чвэрць усіх спробаў зрабіць самагубства. Хранічныя алькаголікі — вялікая частка беларускага насельніцтва. У Цэнтар, дзе я працую, прыходзяць жанчыны, і кожная чацьвёртая кажа, што муж п’е.

**Дракахруст**: Сьвятлана Алексіевіч, Вы ў свой час напісалі кнігу пра самагубцаў «Зачараваныя сьмерцю». На Ваш погляд, чаму так шмат беларусаў канчаюць жыцьцё самагубствам? Жанна Міцкевіч сказала пра сытуацыю нестабільнасьці, але, напрыклад, вайна — гэта, здаецца, найвышэйшая форма нестабільнасьці. Але вядома, што падчас вайны колькасьць самагубстваў рэзка зьмяншаецца. А чаму цяперашняя нестабільнасьць спараджае рост самагубстваў?

**Алексіевіч**: Я і цяпер пішу новую кнігу «Час second-hand. Канец чырвонага чалавека», і там таксама будзе пра людзей, якія сыходзяць з жыцьця ці то ад бездапаможнасьці ці з пратэсту. Я да таго, што сказала Жанна, магу дадаць тры, як мне падаецца, галоўныя прычыны самагубстваў у Беларусі ў наш час.

Ня трэба забываць, што мы жывем на рэштках імпэрыі. Тая рэзэрвацыя, у якой мы жывем, не дае такую стабільную карціну сьвету, якую даваў сацыялізм. Сацыялізм — гэта не такая простая ідэя, у ім была мэтафізыка, ён пра-

паноўваў сэнс жыцьця. Гэта была амаль ваенная сытуацыя. Ні ў воднай экстрэмальнай сытуацыі чалавек не канчае з сабой, ён мабілізуецца, у яго ёсьць мэта.

Пасьля развалу імпэрыі мэты зьніклі, раздрабіліся. Зьявіліся мэты, зусім не зьвязаныя з нашай гісторыяй — назапашваньне, спажываньне. Гэта зусім новыя выклікі і спакусы, няма на што мэнтальна абаперціся. У мяне ў кнізе ў адной гераіні маці памерла не ад старасьці, а ад таго, што не хацела жыць пры капіталізме. Страта сэнсу жыцьця: усё, што ззаду — дарма, усё, што наперадзе — абсалютна незразумела.

Другая рэч — чалавек сышоў з барыкады. Людзі нават гэта не ўсьведамлялі, але яны былі як патроны ў патранташы. Цяпер яны выкінутыя, выкінутыя ў сям’ю, выкінутыя да другога чалавека. Гэта таксама бездань. Але наша культура ня вучыць, як жыць з другім чалавекам. Патрапіць пад уладу іншага чалавека можа быць яшчэ страшней, чым на вайне. Мы ж вар’яты, мы ўвесь час жылі недзе: на вайне, у Чарнобылі, у ідэі, мужчыны ўвесь час былі як бы ня дома. Да гэтых выклікаў людзі таксама не гатовыя. Ён вярнуўся дадому і ня ведае, што там рабіць.

І трэцяя прычына — гэта новае жыцьцё. Яго хацелі, але меркавалі, што гэта будзе такі прыгожы эўрапейскі супэрмаркет. А аказаліся, што сусед уладкаваўся, а я — не. І асабліва пацярпелі мужчыны. Жанчына хапаецца за дзіця, за інстынкт. А мужчына — ён паляўнічы, ён павінен прыносіць здабычу ў дом. А ён пасьля камунізму,

дый наагул славянскі мужчына — гэта чалавек, якому прасьцей устаць у шыхт і загінуць у агульным шыхце, чым прызнацца, што сусед уладкаваўся, а я — не, і сказаць, што гэта я вінаваты.

**Дракахруст**: Сп-ня Сьвятлана, вы ўжо раней адказалі на першую частку майго пытаньня — пра прычыны скачку ўзроўню самагубстваў у 90-я, але ў чым прычыны зьніжэньня гэтага ўзроўню ў апошнія гады? Ці яно сапраўды тлумачыцца тымі адміністрацыйнымі мерамі ўліку, пра якія казаў сп. Ігар? Ці гэта аб'ектыўны працэс, бо зьніжэньне паказчыка самагубстваў назіраецца і ў суседзяў Беларусі — у Літве, ва Ўкраіне, у Расеі. У Літве ён усё роўна самы высокі ў сьвеце, але ён ніжэйшы, чым быў 10 гадоў таму. Можа, гэта вынік працэсу адаптацыі, прывыканьня грамадзтва да новай рэчаіснасьці?

**Алексіевіч**: Прычына — у стоме. У людзей быў шок, калі гэтая сцэмэнтаваная канструкцыя разьляцелася і чалавек апынуўся ў пяску і парэштках. Зьявіліся хуткія багатыя і хуткія бедныя, да гэтага трэба было прызвычаіцца, і працэс прывыканьня быў вельмі цяжкі. Што да алькагалізму, то гэта традыцыя, але гэта і сьледзтва ўсіх гэтых працэсаў. Калі кажуць «алькагалізм», то нібыта закрываюць праблему. А там шмат прычынаў — і наша слабасьць, і бясьсільле людзей. І людзі зразумелі, што ім трэба прыстасоўвацца да новага жыцьця. Старыя людзі яшчэ больш пастарэлі, усё ж 20 гадоў прайшло, і ўжо Бог займаецца тым, колькі гадоў ім засталося.

А ў моладзі завышаная самаацэнка і завышаныя патрабаваньні да жыцьця. Я думаю. што праз гадоў 10–20 у нас наўрад ці нешта моцна памяняецца і ў нас ізноў будзе скачок самагубстваў, бо іх надзеі ня спраўдзяцца.

Я часам думаю, калі гляджу БТ і чытаю газэты, што гэта ўсыпленьне, гэта наркотык моцнай прэзыдэнцкай аўтарытарнай улады. І чалавек уваходзіць у змову з гэтай уладай, як чалавек уваходзіць у змову са сваёй хваробай. Ён пачынае паддавацца шаманству гэтай ўлады: у нас усё кепска, але ў нас усё добра. Задзейнічаны фактар сацыялізму, які ў нас яшчэ 20 гадоў працаваў і які сьведчыць пра тое, што ў сацыялізму быў патэнцыял — гэта дало вынікі. Чалавек умее прыстасоўвацца. На шчасьце.

**Дракахруст**: Сп-ня Жанна, а як бы Вы патлумачылі гэтую траекторыю: даволі памяркоўнае значэньне паказчыка самагубстваў у 80-х, рэзкі скачок у 90-х і павольнае зьніжэньне ў апошнія гады?

**Міцкевіч**: Я хачу дадаць да таго, што гаварылі. Этнічны характар у гэтай праблеме ўсё ж назіраецца. У Грузіі, Армэніі і Азербайджане паказчык самагубстваў — 2 чалавекі ў год на 100 тысяч насельніцтва. Мужчына нясе адказнасьць за сваю сям'ю. Што тычыцца беларусаў, то выхаваныя ў большасьці жанчынай, вырасьлі слабыя мужчыны, якія ня могуць пастаяць ня толькі за сябе, але і за сваю сям'ю. І ў выніку гэты чалавек, які апынуўся ў пэрыяд 90-х перад новым жыцьцём, які не знаходзіў сабе месца, быў слабы.

Гэты самы мужчына слабы і цяпер. Ён выйшаў на пэнсію — ён ня ведае, што рабіць. Ён прыйшоў з войска — ён ня ведае, што рабіць. І таму шмат жанчын, што прыходзяць да нас, кажуць — муж не працуе, я працую.

Вы задалі пытаньне наконт гэтага зьніжэньня паказчыку самагубстваў у апошнія гады. Па-першае, я згодная з Вамі — ідзе менавіта адаптацыя да новага жыцьця. І таму прыходзіць нейкая ўстойлівасьць. Разам з тым большасьць моладзі ўжо хоча новага жыцьця, хочуць больш ведаць, больш дзе бываць, рабіць іншым сваё матэрыяльнае жыцьцё. І яны ўжо шукаюць выхады і бачаць іх па-свойму. Магчыма, гэта зьмяншае схільнасьць да самагубстваў. Па-другое, тое, што нарэшце загаварылі аб алькагалізме і робяць першыя крокі, каб зьменшыць гэтую праблему — гэта таксама спрыяе зьмяншэньню колькасьці самагубстваў.

**Алексіевіч**: Я ўсё больш схіляюся да таго, што мы ўсе — закладнікі сваёй культуры. Ёсьць праблема адсутнасьці Дому, адсутнасьці сям'і, такое адчуваньне, што маеш справу зь бяздомнымі людзьмі. Нібыта жывуць мужчына і жанчына разам, але спытаеш — ці памятаеце вы дзень вашай першай сустрэчы, дзень вашага шлюбу? У Эўропе гэта людзі памятаюць і сьвяткуюць. А ў нас калі прайшло 10-20 гадоў — ня памятаюць людзі. Дні нараджэньня дзяцей — мужчыны ня памятаюць, кажа — «здаецца, у сакавіку». Нам у Беларусі не хапае мастацтва жыцьця. Ня проста пабег на трактар, на завод, а потым зь сябрамі

«адарваўся» ў лазьні ці ў падваротні «на траіх». Дзякаваць Богу, цяпер ужо сядзяць у нейкіх «забягалаўках», хоць нейкая культура, лепш, чым за кіёскам выпіць. У людзей няма адчуваньня, што гэта — адзінае жыцьцё, што ў ім ёсьць радасьці акрамя выжываньня. Тое, што грэкі называлі «мастацтвам жыць», у нашай культуры адсутнічае.

У нас ёсьць геніяльны досьвед выжываньня. Філязофію жыцьця памянялі на філязофію выжываньня. Менавіта таму і ўвесь час прыгадваем вайну. Гэта нейкая пастка для нашай культуры. Ёй закрываюцца ўсе праблемы і на ўзроўні дзяржавы, і ў сям'і, асабліва калі ў ёй ёсьць стары чалавек. У Эўропе сапраўды ўжо не гавораць пра вайну, хоць шмат людзей, якія перажылі яе, у Эўропе ж сярэдні ўзрост значна большы. І жахліва перажылі, хай гэта і непараўнальна з нашым савецкім досьведам, з жахлівым беларускім досьведам, дзе партызанская барацьба была надзвычай жорсткай. Але людзі прыгадалі, што ёсьць яшчэ і проста жыцьцё. І яны жывуць гэтым жыцьцём. Гэта ня значыць, што яны забылі. У нас ты адразу робісься блюзнерам, калі так кажаш. Я не кажу, што трэба забыць, я кажу, што трэба жыць.

## Фільм паводле кнігі С. Алексіевіч намінаваны на «Оскара»

4 лютага 2010
Валянціна Аксак, Менск

*Фільм ірляндзкіх кінэматаграфістаў Хуаніты Ўілсан і Джэймса Фліна «Дзьверы» ўвайшоў у канчатковы сьпіс намінантаў на прэмію «Оскар» у катэгорыі «найлепшы кароткамэтражны фільм». Ён зьняты паводле аднаго апавяданьня з кнігі Сьвятланы Алексіевіч «Чарнобыльская малітва».*

Апрача яго, на галоўную штогадовую прэмію Амэрыканскай акадэміі кінамастацтва прэтэндуюць стваральнікі яшчэ чатырох кароткамэтражных стужак, у якіх распавядаюцца сапраўдныя людзкія гісторыі.

Навіна засьпела **Сьвятлану Алексіевіч** у Бэрліне, дзе тая апошнім часам жыве. Пісьменьніца не хавае сваіх пачуцьцяў з гэтай нагоды, хоць і не перастае зьдзіўляцца, чаму Хуаніта Ўілсан выбрала для свайго кінасцэнару менавіта «Маналёг пра цэлае жыцьцё, напісаны на дзьвярох».

**Алексіевіч**: «Мне было цікава, чаму яна выбрала менавіта гэтае апавяданьне, бо па ўсім сьвеце ідуць дзясяткі п’ес і шмат фільмаў розных здымаецца па «Чарнобыльскай малітве». Але ніхто да яе на гэтым апавяданьні не спыняўся, а вось яе зацікавіла менавіта гэтае. І яна знайшла свой ход — гэта не дакумэнтальны фільм, а такі

новы дакумэнтальна-мастацкі паварот. Сцэнар зроблены пад дакумэнт, і разам з тым граюць акторы. І гэта ўжо яе бачаньне майго дакумэнту».

Фільм здымаўся на Прыпяці. У аснову пакладзеная гісторыя перасяленца, у якога ад радыяцыі памірае дачка. Перад пахаваньнем бацька хоча, згодна з даўнім звычаем, пакласьці яе на дзьверы роднай хаты, дзеля чаго яму трэба вярнуцца ў сваю адселеную вёску. Гэтая гісторыя ў свой час моцна ўразіла пісьменьніцу, а потым і ірляндзкую кінарэжысэрку.

**Алексіевіч:** «Калі я езьдзіла па Прыпяці, мяне дзьве гісторыі ўразілі. Першая — пра тое, як чалавек вывез з зоны адсяленьня дзьверы, якія памятаюць усё ягонае жыцьцё. І другая — як жанчына, ад'яжджаючы, зрабіла запавет, каб яе пасьля сьмерці прывезьлі назад і пахавалі ў той загінулай вёсцы. Але яна гаравала пра тое, што ня будуць пры гэтым выкананыя ўсе тыя звычаі, якія заўсёды ў іх сям'і выконваліся».

Дакумэнтальныя фільмы паводле кнігі «Чарнобыльская малітва» зьнятыя рэжысэрамі Нямеччыны, Францыі, Швэцыі, Японіі ды іншых краін. Багата стужак атрымлівалі ўзнагароды, але такой высокай намінацыі, як «Дзьверы», ніводная яшчэ ня мела. На пытаньне, ці паедзе пісьменьніца 7 сакавіка на цырымонію ўручэньня «Оскара», спадарыня Алексіевіч сказала: «Ня ведаю. Пакуль мяне ніхто не запрашаў».

## «Нянавісьцю мы нічога не народзім»

24 сьнежня 2010
Ганна Соўсь

*Госьця «Начной Свабоды» — пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч, якая напісала адкрыты ліст да кіраўніка Беларусі, дзе зьвяртаецца да яго як выбаршчыца і як пісьменьніца. Увечары 19 сьнежня некалькі дзясяткаў тысяч людзей выйшлі на вуліцы Менску і рушылі да Дому ўраду,дзе былі брутальна зьбітыя спэцпадразьдзяленьнямі міліцыі. Сотні людзей былі затрыманыя, у тым ліку — і большасьць кандыдатаў у прэзыдэнты.*

**Соўсь**: У гэтыя дні прагучала шмат гучных заяваў з асуджэньнем гвалту супраць удзельнікаў пасьлявыбарчых пратэстаў, заяваў зь непрызнаньнем вынікаў выбараў. Ваш адкрыты ліст адрозьніваецца ад большасьці лістоў. Вы наўпрост не патрабуеце вызваленьня вязьняў, не заклікаеце стаць на шлях дэмакратыі і павагі да правоў чалавека. Вы разважаеце і задаяце пытаньні Аляксандру Лукашэнку як пісьменьніца і як выбаршчыца. Скажыце, калі ласка, чаму Вы абралі такі шлях? Ці Вы лічыце, што мова заяваў, асуджэньняў, заклікаў у выпадку зь беларускім кіраўніком не спрацуе? Ці спрацуе такі разважлівы, філязофскі ліст?

**Алексіевіч**: Ніводзін чалавек сёньня ня можа спакойна чакаць Калядаў, калі нашы сябры сёньня недзе ў камэрах і мы, напрыклад, нічога

ня ведаем пра Валодзю Някляева. Хто можа застацца ў баку ад гэтага? Мы задыхаемся ад той нянавісьці, якой захлынуўся наш эфір, мы нічога ня знойдзем у той нянавісьці. І я як пісьменьніца не магла сабе дазволіць з шабляй кідацца чарговы раз. Мне здаецца, трэба, каб мы ўсе апамяталіся і пачалі гаварыць чалавечай мовай. З уладай трэба размаўляць. Там таксама ёсьць людзі, калісьці ж нехта пераканаў Ельцына выпусьціць з турмы ўсіх яго палітычных непрыяцеляў. Нехта знайшоў нейкія словы да яго. Нам трэба гэтыя словы шукаць. Мы нічога нянавісьцю не народзім. Мы толькі расколем сваю краіну.

**Соўсь**: У лісьце Лукашэнку вы параўноўваеце цяперашнія падзеі ў Беларусі з 30-мі сталінскімі гадамі. Я цытую: «Яшчэ трохі, і пачнуцца паказальныя працэсы. Навучаны натоўп будзе крычаць: «Укрыжуй яго!» Былыя паплечнікі і сябры стануць здраднікамі, студэнты будуць выдаваць сваіх прафэсараў, а прафэсары будуць выдаваць сваіх студэнтаў. Настаўнікі сваіх вучняў».

Ці глядзелі Вы хаця б фрагмэнтарна прэсавую канфэрэнцыю Лукашэнкі на другі дзень пасьля выбараў? Я кажу не пра выступ кіраўніка Беларусі, а пра твары ў залі і пра рэакцыю чыноўнікаў на ягоны словы. Міністар аховы здароўя ўсьміхаецца, калі Лукашэнка зьдзекліва гаворыць пра стан здароўя зьбітага Ўладзімера Някляева. Як пісьменьніцы Вам цікавыя гэтыя людзі, якія ствараюць сьвіту Аляксандра Лукашэнкі, якія забясьпечваюць яму ўладу? Ці Вы хацелі б напісаць пра іх? Ці хацелі б пранікнуць у іх галовы?

**Алексіевіч**: Я слухала гэтую прэс-канфэрэнцыю. І мне было сорамна. Сорамна і за тых, хто сядзеў у зале і слухаў гэта, мне было сорамна за прэзыдэнта. Як пісьменьніца я хацела б ведаць, якім чынам людзі не разумеюць, што робяць. Бо ёсьць гісторыя, ад яе нікуды не падзецца. У іх жа растуць дзеці. Усім вядомыя гэтыя імёны. Я была разгубленая перад тым, што ў нас няма пачуцьця ўласнай годнасьці, перад тым, наколькі слабая чалавечая прырода. Гэта было непрыемнае відовішча.

## «У сучасным сьвеце выжыве толькі гуманітарны чалавек»

14 красавіка 2011
Юры Дракахруст, Прага

*11 красавіка на станцыі «Кастрычніцкая» Менскага мэтрапалітэну адбыўся тэракт, у выніку якога 15 чалавек загінулі і больш за 200 былі параненыя. Свой погляд на сэнс і наступствы тэрарыстычнага выбуху мы папрасілі выкласьці пісьменьніцу Сьвятлану Алексіевіч.*

**Дракахруст**: На ваш погляд, якія высновы вынікаюць з таго, што і ў Беларусь прыйшоў сапраўдны тэрарызм?

**Алексіевіч**: Мы цяпер можам сказаць, што мы таксама не змаглі адседзецца на прызьбе. У адной з найлепшых аповесьцяў Быкава «Знак бяды» герой думае, што пераседзіць вайну на хутары. А канчаецца тым, што вайна яго зацягвае і ён гіне разам зь сям’ёй. Так і тут: гэтыя парадак і стабільнасьць, пра якія мы так шмат гаварылі, пра якія наша ўлада гаварыла, ня могуць супрацьстаяць глябальнаму сьвету, у якім нешта адбываецца з чалавекам. Страчаны сэнс жыцьця, каханьня, працы. Чалавек застаўся ў пустаце, ні з чым, твар у твар са сьмерцю.

Частка людзей ідэйна займаецца зьнішчэньнем сабе падобных. Але самае страшнае — што мы ў руках самотніка. Здаецца, што такіх будзе ўсё больш — тых, якія не вытрымліваюць ціску гэтага сьвету.

**Дракахруст:** Але калі справядлівая вэрсія сьледзтва, можа тут словы пра ўключэньне ў глябальны сьвет не зусім дарэчныя? Проста чалавек з псыхічнымі адхіленьнямі, але з добрымі тэхнічнымі здольнасьцямі.

**Алексіевіч**: Сёньня ўлада прымае меры, якія, магчыма, вынікаюць зь яе сьветапогляду: трэба ціснуць, трэба сілай усё спыніць, і яно спыніцца. Такі курс узяты пасьля выбараў, курс на сілу, на кантроль над грамадзтвам. Гаворыцца, што трэба дапытаць апазыцыю, тых, хто інакш думае, маўляў, яны вінаватыя ў тым, што ў паветры нейкі мікроб разбуральных ідэяў. Але гэты мікроб — у паветры ня толькі Беларусі, ён у паветры ўсяго сьвету.

Мне пагрозы прэзыдэнта нагадалі мае ўражаньні, калі я была ў чарнобыльскай зоне неўзабаве пасьля выбуху. І там вакол рэактара велізарная колькасьць людзей бегала з аўтаматамі. Поўная бездапаможнасьць чалавека перад новым выклікам. І цяпер нешта падобнае адбываецца ў Беларусі. Здаецца, што калі ўсіх запалохаць, усіх пракантраляваць... Ды немагчыма ўсіх пракантраляваць. Як вы пракантралюеце маньяка-самотніка?

Тэрарызму можна супрацьпаставіць толькі ідэі, але ідэй сёньня ў сьвеце няма. Пасьля таго, як перасталі працаваць моцныя ідэі сацыялізму, фашызму, якія, хай шляхам сілы і крыві, маглі згуртаваць нацыю, сёньня чалавек застаецца самотны. І сучасны тэхнагенны сьвет выклікае пратэст. Людзі са слабой псыхікай шукаюць

такія формы самарэалізацыі. Мне здаецца, што ўсе бясьсільныя перад гэтым выклікам. Гэта ня толькі наша праблема.

І калі сёньня я чытаю, што, маўляў, Лукашэнка ўзарваў... Кепска, што людзі так думаюць, што гэта магла зрабіць улада. Я ня думаю, што наш сялянскі мэнталітэт здольны на такія рэчы, мы што зьверху, што зьнізу — аднолькавыя людзі, гэта маларэальна. Мы проста ўключыліся ў гэты глябальны разбуральны працэс.

**Дракахруст**: Вы ўжо пачалі гаворку пра рэакцыю грамадзтва на выбух. Назіралася некалькі аўтаматычных рэакцыяў літаральна пасьля яго. Частка адразу адрэагавала (гэта было бачна, прынамсі, у Інтэрнэце): гэта ўлада, гэта Лукашэнка, і думаць больш няма пра што. А з боку прадстаўнікоў улады мы чулі развагі пра тое, што і выбух у 2008 годзе, і падзеі 19 сьнежня, і валютны крызіс, і цяперашні тэракт — усё гэта зьвёны аднаго ланцуга, вакол ворагі. Усё гэта гаварылася адразу, як толькі стала вядома пра тэракт. Што азначае такая аўтаматычная рэакцыя адных і другіх?

**Алексіевіч**: Яна азначае, што мы — людзі пляскатага сьвету. Мы выйшлі са сьвету таталітарнага і апынуліся ў аўтарытарным сьвеце. Чорнае — белае, белае — чырвонае... Прызнаць, што сьвет больш складаны, чым адносіны Лукашэнкі і апазыцыі — гэта для многіх людзей вялікая праца. Яны зноў гатовыя дэлегаваць адказнасьць за тое, што адбываецца, некаму аднаму. Тым больш, што ўся сыстэма замкнёная на адным чалавеку. Яму прыпісваецца і ўсё найлепшае, і ўсё найгоршае.

Гэта гаворыць аб няздольнасьці да самастойнага мысьленьня. Сьвет значна больш складаны, асабліва сучасны сьвет. А мы замкнуліся ў гэтай беларускай капсуле і сядзім у ёй нявылазна. І здаецца, што сьвет — гэта нашы стасункі з нашым прэзыдэнтам. Гэта гаворыць аб інтэлектуальнай бездапаможнасьці і ўлады, і апазыцыі, і грамадзтва.

**Дракахруст**: Многія людзі адзначылі, што ў сытуацыі выкліку беларускае грамадзтва паказала высокі ўзровень салідарнасьці і ўзаемадапамогі: таксісты вазілі людзей бясплатна, стаялі чэргі здаваць кроў. Вы згодныя з тым, што нягледзячы на нязвыкласьць выкліку беларускае грамадзтва прадэманстравала сваю моц?

**Алексіевіч**: Нешта падобнае адбывалася ў Японіі. Выклікала захапленьне тое, як яны паводзілі сябе ў гэты жахлівы час. Не было марадзёрства, нават аўтаматы з газіроўкай і шакаляндам ніхто не чапаў. Я была ў Японіі і бачыла, што народ адчувае сябе адзіным цэлым.

І калі я слухала і чытала пра тое, што адбывалася ў нашым грамадзтве ў гэтыя дні, я падумала, што гэта зусім не падобна на тое, што адбывалася пасьля тэрактаў у Расеі.

Я зразумела, што ў Беларусі дагэтуль жыве савецкі чалавек. Мы пра гэта заўсёды гаворым са знакам мінус. Але ў яго было шмат перавагаў. Я мяркую, што менавіта гэта, плюс наша сялянская мэнтальнасьць, адыгралі сваю ролю. Быў гэты савецкі чалавек, які мог ахвяраваць сабой дзеля іншага чалавека. Мог і прасядзець у куточку, ні-

чога не зрабіўшы для іншага, але мог зрабіць і тое, што нашы людзі і прадэманстравалі.

Мы дарма сьпяшаемся разьвітацца з нашымі каштоўнасьцямі, якія напрацаваныя. Людзі ня выжывуць паасобку, трэба адчуваць сябе адзінай нацыяй, адным народам.

Там былі факты, якія ўражвалі. Калі жанчына выклікала таксі, казала, што ў яе дзіця не адказвае на тэлефон. І таксіст яе падвёз і ня ўзяў грошай. Гэта тое, што нам трэба шанаваць у сабе.

Гэтыя сілавыя прыёмы, якія ўжывае ўлада, яны вельмі небясьпечныя тым, што замест аднаго народу стане два. Падчас такіх падзеяў бачна, што людзі — гэта ня тое, што пра іх кажа і ўлада, і апазыцыя. Гэта выдатныя савецкія людзі, якіх я люблю.

**Дракахруст**: Аднак вы ў свой час пісалі, што нам трэба пераадолець нашу культуру сьмерці, наша ўменьне паміраць і няўменьне проста жыць і радавацца жыцьцю. Але такія сытуацыі гавораць пра тое, што забываць гэты досьвед проста не атрымліваецца.

**Алексіевіч**: Проста ў сучасным сьвеце мяжа паміж вайной і мірам сьцёртая.

Тэрарызм цалкам разбурае традыцыйны вобраз сьвету. Я была ў Ізраілі, дык там людзі жывуць на антыдэпрэсантах. Увесь час. Калі ты толькі ўпусьціш страх у сябе — ты прапаў, табе трэба зьяжджаць. Інакш ты ня вытрымаеш. Такі цяперашні час, і нам нікуды ад гэтага не падзецца. Немагчыма жыць асобнай выспай, хай мы нават паставім кулямёты і ракеты ўздоўж мяжы.

І гэтыя якасьці нашага народу — здольнасьць выжываць, згуртаванасьць, мужнасьць жыць, на жаль, яны зноў патрэбныя.

Сьвет ня робіцца лепшым, як мы рамантычна верылі 20 гадоў таму, у часы перабудовы. Таго сьвету не атрымалася і ў пэўным сэнсе мы да гэтага гатовыя.

У мяне ў новай кнізе будзе расповед маці, дачка якой стала інвалідам пасьля тэракту ў маскоўскім мэтро. І яна казала — я вельмі старалася не азлобіцца, але ў мяне гэта не атрымалася.

Я сама бачыла ў маскоўскім двары, як дзеці гуляюць у тэрарыстаў. І ўсе з ахвотай хочуць быць тэрарыстамі, ніхто — ахвярамі. Гэтая гульня ў тэрарыстаў стала часткай нашага жыцьця.

У нашым сьвеце на зьмену гуманітарнаму чалавеку зьяўляецца чалавек палітычны. Усё гуманітарнае даверана царкве, якая спраўляецца з гэтым не найлепшым чынам, а займаецца дрэскодамі, гомасэксуалістамі і немаведама чым яшчэ. Чалавек палітычны і рацыянальны ня выжыве ў сучасным сьвеце, выжыве толькі гуманітарны чалавек. І атамізаваны чалавек ня выжыве.

З таго нашага жыцьця, якое мы пакінулі ў мінулым, нам трэба сёе-тое і ўзяць у дарогу. Я не кажу, што сталінскія лягеры — гэта добра. Але калі вы ўвесь час жывяце, як на вайне, то ўзьнікае пачуцьцё чалавечага братэрства, суседзтва — і яго ня трэба страчваць дзеля «мэрсэдэса» і паездкі на Канары. Свабода аказалася больш складанай, чым мы думалі.

## «Нацыянальная ідэя сёньня не працуе з гістарычных прычынаў»

7 чэрвеня 2011
Юры Дракахруст, Прага

*Чаму беларусы не пратэстуюць супраць зьбядненьня і жорсткіх палітычных рэпрэсіяў? Ці рэвалюцыянізавалі грамадзтва эканамічны крызіс і судовыя працэсы ў справе 19 сьнежня? Ці набліжаюць сёньняшнія ахвяры час пераменаў? Па гэтых пытаньнях у «Праскім акцэнце» вядуць спрэчку пісьменьнікі Сьвятлана Алексіевіч і Сяргей Дубавец і намесьніца старшыні «Маладога Фронту» Наста Палажанка.*

**Дракахруст**: У замежных публікацыях пра цяперашні беларускі крызіс — як заходніх, гэтак і расейскіх — увесь час выказваецца пэўнае неразуменьне: ну як беларусы ўсё гэта цярпяць, калі ж ужо выкажуць свой публічны пратэст? А яны ўсё не выказваюць і не выказваюць, аддаючы перавагу або цярпенью, або ўцёкам — паводле апошніх дадзеных цяпер істотна павялічыўся паток працоўных мігрантаў у Расею. А чаму? Запалоханыя? Ці можа, як лічаць некаторыя, беларусаў на пратэст падымае нацыянальная ідэя, а ня страўнік?

**Дубавец**: Запалоханыя — гэта адно. Нічым не аб’яднаныя — гэта другое. А трэцяе — тое, што пагаршэньне іх матэрыяльнага стану не фатальнае. Спытайце ў большасьці, скажуць, што мы

нармальна жывём, у палітыку ня лезем, ёсьць пэўныя цяжкасьці, але бывала і нашмат горш. Мне часам здаецца, што ўлада наўмысна зладзіла гэты крызіс, каб запабегчы пратэстныя настроі.

**Дракахруст**: Беларускія дасьледчыкі кажуць пра існаваньне своеасаблівага сацыяльнага кантракту: улада абавязалася падтрымліваць пэўны ўзровень жыцьця насельніцтва, насельніцтва ўзамен абавязалася дэманстраваць палітычную ляяльнасьць і ня лезьці з палітыку. Цяпер адзін бок — улада — свае абавязкі па кантракце не выконвае. Чаму другі бок працягвае выконваць свае?

**Дубавец**: Як сказаў Уладзімер Някляеў, горай ня будзе, бо лепш не было. Я ня бачу тут сацыяльнага кантракту. Я бачу, што цярпеньню беларусаў мяжы няма. Мяжой можа быць фатальнае пагаршэньне жыцьця, масавая страта працы зь немагчымасьцю знайсьці альтэрнатыву, проста канец усякага даходу. А пакуль хоць штосьці плацяць, пакуль ёсьць куды паехаць, пакуль ёсьць градкі, людзі бунтаваць ня будуць. Наадварот — чым будзе горш, тым цішэй будуць сябе паводзіць.

**Дракахруст**: Сьвятлана, у нядаўнім інтэрвію «Нямецкай хвалі» Вы сказалі, што пасьля жахлівых працэсаў па справе 19 сьнежня ўбачылі ў беларускім грамадзтве нейкія зрухі, Вы гаварылі пра тое, што «ўлада рэвалюцыянізавала грамадзтва», што «грамадзтву стала зразумела, што і як трэба рабіць». Але прыгадваецца, што раней Вы часта спасылаліся на меркаваньне вашага суседа па дачы пад Менскам, Пятра Сільвестравіча, які

мае пэнсію, чарку і шкварку і ня ведае дый ведаць ня хоча пра менскія інтэлігенцкія палітычныя жарсьці.

Ваша выснова пра «рэвалюцыянізацыю грамадзтва» — яна збудаваная на тым, што рэвалюцыянізаваўся Пятро Сільвестравіч? Ці яго меркаваньне раптам страціла значэньне, а набыло значэньне меркаваньне такіх змагароў і змагарак, як Наста?

**Алексіевіч**: Я напачатку хацела б працытаваць клясыка рэвалюцыі Леніна, паводле якога рэвалюцыя адбываецца не тады, калі гэтага нехта хоча, а калі яна сама гэтага хоча. Гэтае адчуваньне павісла ў паветры ў нашым грамадзтве. Я даўно ня бачыла Пятра Сільвестравіча, але я думаю, што спадар Даляр страсянуў грамадзтва больш, чым катастрофа апазыцыі 19 сьнежня. Адбываецца рэвалюцыйнае навучаньне каля абменьнікаў, дзе людзі б'юцца, у турагенцтвах, дзе яны ня могуць заплаціць. Даляр робіць за нас нашу працу.

А з другога боку неразумная савецкая рэакцыя ўлады і яе неадэкватная жорсткасьць рэвалюцыянізуе сьвядомасьць. Я пагадзілася б з тым, што ў беларусаў няма агульнай ідэі, ім няма на чым аб'яднацца. Нацыянальная ідэя сёньня не працуе з гістарычных прычынаў.

Але нешта зрушылася ў грамадзтве. Мне здаецца, што атмасфэра зьмянілася. Палітычныя абвалы адбываюцца нечакана і для прагназістаў, і для пісьменьнікаў. Мы можам пераконваць адно аднаго, чым мы і займаемся апошнія 17 гадоў. Мы можам пераканаць Галівуд, можам перака-

наць інтэлектуалаў Эўропы, але як пераканаць Пятра Сільвестравіча? У нас гэтай мовы няма. У Лукашэнкі яна ёсьць. Але нейкая сіла ўплішчылася ў працэс па-над усім. На жаль, гэта спадар Даляр, а не ідэя, якой, як хацелася б, мы былі б аб'яднаныя.

Я лічу, што значная частка грамадзтва годна вытрымала выпрабаваньне 19-м сьнежня. Маладыя людзі, якія сядзелі ў клетках на судах, былі больш моцныя і больш свабодныя, чым гэтыя судзьдзі. Па тварах гэтых судзьдзяў было бачна, што яны ўсьведамляюць, што ўдзельнічаюць у злачынстве. Я бачыла бацькоў гэтых вязьняў, людзей, якія іх падтрымлівалі. Я ня веру, што гэта дарма. Мне здаецца, што нейкі працэс менавіта пасьля 19-га пачаўся.

**Дракахруст**: Сьвятлана, у свой час на Вас шмат хто крыўдзіўся, калі Вам казалі пра грамадзкі ўздым, а Вы адказвалі, што ўсё гэта буры ў шклянцы вады, інтэлігенцкія ілюзіі, а народ як спаў, так і сьпіць. А цяпер на якой падставе Вы кажаце, што нешта зьмянілася? Якія прыкметы гэтых пераменаў, акрамя таго, што Вы як пісьменьнік гэта адчуваеце?

**Алексіевіч**: Эканамічная сытуацыя — гэта галоўнае для сьвядомасьці сёньняшняга беларуса. Калі выбіраць паміж сям'ёй, сваім домам і Лукашэнкам, беларус выбера сям'ю, ён яе будзе абараняць. Бо за Лукашэнкам няма ніякай ідэі, акрамя яго ўласнай улады. І ў Лукашэнкі няма іншага досьведу, каб супрацьстаяць таму, што адбываецца, акрамя савецкага досьведу і досьведу

расейскага «большого хапка». Іншага досьведу ў нашай намэнклятуры няма, і яна абсалютна бездапаможная перад тварам сацыяльнай катастрофы, якая пачалася. І я мяркую, што нават Пятро Сільвестравіч, у якога двое сыноў займаюцца бізнэсам і сёньня, наколькі я ведаю, іх бізнэс ляжыць — я ня ведаю, пра што ён там з мужыкамі гутарыць, калі выпівае ўвечары.

Мы засталіся апошняй краінай, дзе магчымая постсацыялістычная рэвалюцыя. Гэтыя рэвалюцыі робяць алігархі і намэнклятура. У нас алігархі і намэнклятура прыціснутыя, але ў намэнклятуры моцны інстынкт самазахаваньня, і яна нават у апазыцыі можа перахапіць плян выратаваньня сябе ў першую чаргу, а потым і краіны. Бо магчымасьць ператварэньня Беларусі ў губэрню сёньня навідавоку. Гэта ўсё разам стварае прадчуваньне катастрофы для ўлады.

**Дракахруст**: Наста, вось тая рэвалюцыянізацыя, пра якую казала сп-ня Сьвятлана, калі і адбываецца, то неяк дзіўна. Пачытаеш Фэйсбук, ЖЖ — дык уражаньне, што рэвалюцыя ўжо здарылася, Лукашэнку поўны ШОС («Штоб он сдох» — *Рэд.*) Але вось вакол судоў, дзе праходзілі працэсы над вязьнямі 19 сьнежня, не назіралася ня тое што тысячаў, але нават і сотняў людзей. Як сказаў у маёй нядаўняй перадачы блогер Рэваншыст, «для адных былі выбары, для іншых цяпер надышоў крызіс».

Можа, беларускае грамадзтва і працягвае заставацца сэгмэнтаваным: для кагосьці тыя самыя працэсы па справе 19-га — падстава абурацца,

нешта пераасэнсоўваць, дзейнічаць, ахвяраваць сабой, а для іншых — як падзеі дзе-небудзь у Тунісе, якая нам справа да іх?

**Палажанка**: Мне таксама здаецца, што ў нашым грамадзтве нешта мяняецца. У краіне адбываюцца зьмены сьвядомасьці пасьля 19 сьнежня. Тое, што беларусы цярплівыя — гэта безумоўна так, гэта такая Боская рыса. Але акрамя гэтай рысы, Госпад даў беларусам і адчуваньне справядлівасьці. Калі адбыўся разгон Плошчы 19 сьнежня, то паводле дадзеных НІСЭПД сярод моладзі да 30 гадоў 60% асудзілі дзеяньні ўлады, яны былі перакананыя ў тым, што акцыя пратэсту мела мірны характар. Людзі праз такія падзеі ўсьведамляюць, што ў краіне адбываецца нешта звышнесправядлівае ў адносінах да простага чалавека.

Я магу пагадзіцца, што гэтае стаўленьне сэгмэнтаванае — нехта адчувае гэта больш балюча, нехта ставіцца нэўтральна, бо яго гэта нібыта не турбуе. Гэта адбываецца таму, што ў нас няма агульнай бяды, агульнай праблемы.

Я ня веру, што калісьці стане вырашальнай тая эканамічная напружанасьць, якая цяпер мае месца ў нашай краіне. Я перакананая, што Расея ніколі ня дасьць беларусу загінуць ад голаду. Так, яна зробіць так, каб жыцьцё ў Расеі падавалася лепшым і прыгажэйшым, тым больш напярэдадні іх прэзыдэнцкай кампаніі, каб разбурыць міт, што ў маленькай Беларусі пад кіраўніцтвам Лукашэнкі добра жывецца. Ня тое мусіць стаць чыньнікам, за які людзі гатовыя пайсьці, ахвяра-

ваць сабой і дамагчыся новай дзяржавы, новай улады. Але тое, што гэта падштурхоўвае — гэта безумоўна. Аднак падштурхне толькі тады, калі людзі ўсьвядомяць сувязь паміж наяўнасьцю ў турмах палітвязьняў і адсутнасьцю грошай у іх кішэнях, калі зразумеюць, чаму іншыя краіны адвярнуліся ад Беларусі, чаму ніхто з годных эўрапейскіх палітыкаў ня можа падаць руку Аляксандру Рыгоравічу, хто ў гэтым вінаваты.

Калі людзі ўсьвядомяць гэтую сувязь, можна будзе казаць, што наша грамадзтва рэвалюцыянізавалася.

Калі я выйшла з турмы, я была ўражаная атмасфэрай салідарнасьці. Я зьдзівілася, што яе выказвалі ня толькі тыя, хто быў актывістам, хто быў сябрам нейкай партыі ці грамадзкай арганізацыі. Гэта былі людзі, якія проста востра адчулі тое, што адбываецца ў краіне.

Я даведалася, што блізу 50 тысяч даляраў сабралі звычайныя беларусы на сядзібе БНФ, каб падтрымаць тых, хто знаходзіцца ў турмах. Што гэта, калі ня зьмены? Многія з гэтых людзей ня могуць дапамагчы пратэстам, тым, што яны выйдуць на Плошчу. Яны пакуль ня бачаць, за кім пайсьці, не ўсьведамляюць, чаму яны мусяць гэта рабіць. Але каб людзі ўсьвядомілі прычыну і з гэтага пачалі свой пратэстны шлях, трэба працаваць дэмакратычнай супольнасьці Беларусі. Менавіта для гэтага яна і існуе і менавіта гэтым павінна займацца.

Пратэстных настрояў можа і няма, але ёсьць моцнае раздражненьне. Гэта можна было паба-

чыць па вядомым відэа, як людзі баранілі ад міліцыі пасажыра без квітка. Яны ўжо пачынаюць рэагаваць на сыстэму, у якой жывуць. То ім гэты бедны міліцыянт трапіўся, то нехта падобны.

**Дракахруст**: Сяргей, і Сьвятлана, і Наста бачаць гэтыя «гронкі гневу», бачаць патэнцыял пратэсту, які нарастае і нават выплюхваецца на паверхню. А вы ня бачыце. Яны вас не перакаsuccessfulналі?

**Дубавец**: Не. Што такое пратэст? Мы чакаем каўбаснага бунту ці чаго? Пратэстныя настроі былі б заўважныя, калі б увасабляліся ў нейкія арганізаваныя формы. Дзе незалежныя прафсаюзы? Іх не чуваць. Дзе рабочы рух? Яго не чуваць. Тое самае можна сказаць і пра нацыянальны рух, якога не відаць і не чуваць. Настроі настроямі, але мы ж думаем пра тое, да чаго яны прывядуць і да чаго мусяць прывесьці. Прывядуць толькі тады, калі структурызуюцца. Інакш будзе проста дзікі бунт.

**Дракахруст**: Ці не зьяўляецца адной з прычынаў народнага маўчаньня і цярпеньня тое, што народ па вялікім рахунку ня бачыць у апазыцыі прывабнай альтэрнатывы? Бо што прапануе апазыцыя? Эўропу і рынкавыя рэформы. А што такое рэформы? Прыватызацыя са скіданьнем з балянсаў прадпрыемстваў «сацыялкі», беспрацоўе, маёмасная дыфэрэнцыяцыя — капіталізм, словам. А беларус, на думку, напрыклад, Сьвятланы Алексіевіч — сацыяліст. І вось нейкі, скажам, рабочы з МТЗ можа разважаць, што ў тым рынкавым парадызе Насьце Палажанцы,

Сяргею Дубаўцу, Сьвятлане Алексіевіч, Юрыю Дракахрусту будзе добра. А яму кепска. Дык з чаго ён папрэцца на Плошчу, нават калі яму цяпер кепска? Каб яму стала яшчэ горш?

**Алексіевіч**: Я хацела б напачатку адказаць Сяргею. Ён кажа аб структурнай падрыхтаванасьці грамадзтва да рэвалюцыі. Але што мы назіраем цяпер на Ўсходзе — гэты каскад рэвалюцыяў? Якая там структурнасьць? Ніякай. Там ёсьць пачуцьцё справядлівасьці і часу, народ ня хоча жыць на пэрыфэрыі гісторыі і ўрываецца туды.

Для рэвалюцыі дастаткова пачуцьця справядлівасьці і голаду. Ня ўсе беларусы хочуць стаць Малдовай, ператварыцца ў гастарбайтэраў, каб іх жонкі ехалі ў 50 гадоў глядзець дзяцей у Італіі ці Парыжы.

Гэта ў 90-я гады людзі згаджаліся на гэта. А цяпер у беларусаў іншае, падкормленае і затрыманае разьвіцьцё. Тое, пра што Вы, Юры, кажаце, адбудзецца пасьля рэвалюцыі. Ня трэба хаваць — час, калі сыдзе Лукашэнка, будзе дастаткова складаным. Ён ужо наступае. Мы згубілі час, амаль 20 гадоў. Самае жахлівае, што засталося ад сацыялізму і застанецца ад Лукашэнкі, які затрымаў мутанта сацыялізму — гэта чалавек.

Гэта, з аднаго боку, чалавек заціснуты. Як герой клясыка амэрыканскай літаратуры, які сьпіць у гумовым мяху, і кажа, што калі заціснуцца, то і някепска — можна нават бачыць сны. Вось нешта падобнае адбываецца і зь беларусам. Яны суцяшаюцца патрыманай машынай, нечым

іншым, у іх свая сыстэма каштоўнасьцяў. А з другога боку гэта дарослае дзіця. І жыцьцё ўдарыць яго аб зямлю вельмі балюча. Гэта будзе вельмі цяжкі час. І я разумею Пятра Сільвестравіча, які кажа мне дакладна тое, што цяпер, Юры, сказалі Вы. Але гэта як хвароба. Калі вы баіцеся ісьці на апэрацыю, гэта ня значыць, што вы застаняцеся жывым. Іншага выйсьця ў нас няма.

**Дракахруст**: Сяргей, а як Вы ацэньваеце гэты, так бы мовіць, клясавы аспэкт працэсаў, якія цяпер адбываюцца ў Беларусі? Можа і сапраўды мы, нашае кола, адстойваем свой грубы групавы інтарэс? Мы ўсьведамляем, што калі сыдзе Лукашэнка, нам канкрэтна будзе жыць добра. А як будзе астатнім — нас гэта па вялікім рахунку не цікавіць. А гэтыя астатнія асьцерагаюцца, што ім будзе жыць горш. Наста, і не яна першая, сказала, што ў беларусаў вельмі моцны матыў дзеяньняў, вельмі важная для іх каштоўнасьць — гэта справядлівасьць. І можа людзі цяпер не страйкуюць, не бунтуюць менавіта таму, што лічаць, што тое, што прыйдзе на зьмену Лукашэнку — будзе несправядліва.

**Дубавец**: Мне здаецца, што людзі ў масе сваёй ня мысьляць прагнозна, тым больш у катэгорыях усёй краіны і эканомікі. Штосьці думаюць пра сям’ю — што зь ёй будзе, а ў цэлым жывуць сёньняшнім днём. Яны не параўноўваюць, што можа быць з Лукашэнкам і без Лукашэнкі. Іншая рэч, што вось гэты стыхійны бунт, які прарочыць сп-ня Алексіевіч, можа быць. Але для гэтага павінны фатальна пагоршыцца ўмовы

жыцьця. Мне б больш хацелася разважаць пра тое, якая структура створыцца ў грамадзтве, якая яна павінна быць — тая, што возьме ўладу пасьля Лукашэнкі.

Напачатку 90-х быў Беларускі Народны Фронт, які фармуляваў ідэі дэмакратыі і нацыянальнага адраджэньня. І больш-менш у тым накірунку ўсё і рухалася, гэты ўсеагульны народны пратэст увасабляўся ў цывілізаваныя формы, ствараўся рабочы рух, страйкамы і г. д. Я мяркую, што было б абсалютна прымальным такое deja vu. Але сёньня БНФу няма, вось у чым праблема, няма масавай арганізацыі, аб'яднанай каштоўнасьцямі, а ня чымсьці іншым — грантамі там, паездкамі, асабістымі адносінамі.

**Дракахруст**: Наста, а як Вы лічыце — ці не існуе паміж інтэлігенцыяй, актывістамі і народам разрыў інтарэсаў, разрыў паміж уяўленьнямі пра справядлівасьць? Для адных несправядлівасьць — калі за 19-е саджаюць, за разьбітыя дзьверы фактычна, а для іншых несправядлівасьць — калі беспрацоўе будзе, калі прыйдзе на МАЗ замежны інвэстар і скажа: палову гэтых — на вуліцу, усю «сацыялку» — прэч, лішнія клопаты і лішнія людзі мне не патрэбныя. Хай іх корміць хто заўгодна. Або хай паміраюць.

**Палажанка**: Тыя людзі, якія імкнуцца мець уладу ў гэтай краіне, мусяць усьведамляць, што яны бяруць на сябе адказнасьць за гэтых людзей, якія могуць ня верыць ім, якія ўскладуць на іх свае спадзяваньні. Нехта цяпер можа баяцца, што будзе кепска. Дык горш ня будзе. Мне здаецца,

што кожны беларус мусіць ведаць інфармацыю, за кошт каго і чаго жыла наша краіна, што яна даўно не зарабляе грошы, а жыве за кошт пазыкаў і крэдытаў. І тое, што стала кепска цяпер, не азначае, што менавіта цяпер зьмянілася палітыка нашай дзяржавы. Гэта азначае, што 17 гадоў у нас была праблема, якую ад беларусаў утойвалі. І цяпер мы пажынаем гэтыя плады. Калі чалавек хварэе, яму баліць. Дык ён лечыцца, хоць лячэньне можа быць і непрыемным. У рэшце рэшт яму стане лепш.

Я згодная з тым, што савецкую спажывецкую сыстэму мяняць на рынкавую, на эўрапейскі выгляд будзе складана. І зразумела, што калі гэта будзе мяняцца, улада мусіць думаць пра народ, мусіць думаць пра тое, як зрабіць менш балючымі гэтыя перамены. Але палітыкі, якія імкнуцца да ўлады, ня мусяць хлусіць, яны мусяць гаварыць адкрыта, што будзе складана. Гэта сапраўды так. Але інакш свабоду ніяк не заваюеш.

**Дракахруст**: Як вы ставіцеся да такога фаталістычнага погляду на гісторыю і палітыку: пакуль не прыйшоў час нейкай сыстэме абрынуцца, дык хоць ты на галаву ўстань, што б хто ні прыдумаў, яна ўсе роўна вытрымае і проста раструшчыць лёсы тых, хто паўстае супраць яе. А прыйдзе час, калі ўзьнімецца народ, а ня толькі самаахвярныя актывісты, ну тады ўсё і адбудзецца. Сьвятлана Алексіевіч у прыгаданым інтэрвію «Нямецкай хвалі», гаворачы пра працэсы па справе 19 сьнежня, сказала: «Я абсалютна ня веру ў тое,

што ўсе гэтыя ахвяры, думкі, здрада пройдуць бясьсьледна».

А можа і пройдуць. Нехта параўноўвае Лукашэнку з Чаўшэску, маўляў, ёсьць Божы суд і на зямлі, дачакаецца. А чаму не са Сталіным, Мао, Франкам, безьліччу іншых дэспатаў, якія спакойна сабе памерлі ў сваіх ложках, і толькі пасьля іх сьмерці нешта пачало мяняцца? І «ахвяры, думкі, здрада» савецкіх, кітайскіх, гішпанскіх змагароў з тыраніяй — хіба яны пакінулі нейкі сьлед? Прыйшоў іншы час і ўсё зьмяніў. Можа гэта ўжо потым інтэлектуалы прыдумляюць, што сьляды застаюцца?

**Алексіевіч**: Ёсьць розныя катэгорыі часу — час блізкі і час далёкі. Далёкі час справядлівы. Сёньня мы, маючы факты, можам усё сказаць пра 1937 год. А тады людзі не маглі гэта сказаць, а хто спрабаваў, вельмі дорага за гэта плаціў. Я ня Глоба, але ў мяне ёсьць свой прагноз. Мне здаецца, што ў блізкім часе ўсе мы працуем на перамогу намэнклятуры.

Структуры, якая б аб’ядноўвала, няма, БНФ сам сябе цалкам дыскваліфікаваў у народнай сьвядомасьці. Застаўся адзіны стрыжань у грамадзтве, які прызнаюць усе — ад бамжа да таго самага намэнклятуршчыка — гэта намэнклятура. Яна скарыстаецца плёнам нашых высілкаў, гэта будзе прамежкавы варыянт. Як мы з гэтага выблытаемся ў дэмакратычную, справядлівую прастору?

Мы карыстаемся гэтымі словамі, але дэмакратыю трэба песьціць, для яе патрэбныя свабодныя

людзі, якіх сёньня нідзе няма. Паслухаеш нашых апазыцыянэраў, дык яны разважаюць на ўзроўні майго любімага героя Пятра Сільвестравіча.

У Эўропе дэмакратыю песьцяць, як газон, 200 гадоў. У нас няма гэтых гадоў. Намэнклятурная рэвалюцыя будзе прагрэсам у параўнаньні з тым, што мы маем сёньня. У нас цяпер то Андропаў зьяўляецца, то іншая несянеціца. На блізкі час спадзевы ў мяне невялікія.

**Дубавец**: Я гатовы падзяліць фаталістычны погляд: рабі, што мусіш, і хай будзе, што будзе. Калі казаць пра дэмакратычную частку нашага грамадзтва і асабліва пра лідэраў, мы 15 гадоў чуем, што восеньню яго ня будзе — і заля задаволена чакае да восені. Альбо што праз год яго ня будзе. Гэта мы чуем з 1996 году. І ў дэмакратычных актывістаў ствараецца ўражаньне, што, па-першае, яны вельмі актыўна і плённа працуюць, а па-другое — што яны, як і належыць, чакаюць, калі гэта ўсё абрынецца і абваліцца. На маю думку трэба зьмяніць ракурс бачаньня гэтай праблемы, і някепска, калі гэты ракурс будзе фаталістычны — рабі, што мусіш, і хай будзе, што будзе.

**Дракахруст**: Наста, Вы знаходзіцеся на пярэднім краі барацьбы. Вы кіруецеся гэтым прынцыпам, пра які нагадаў Сяргей, ці ўсё ж спадзяецеся, што Вашы высілкі, Вашы пакуты — яны нешта наблізяць, нешта зрушаць?

**Палажанка**: Безумоўна, усе высілкі і пакуты людзей, якія імкнуцца нешта рабіць, адбіваюцца ў сьвядомасьці людзей. Я як веруючы чалавек

усьведамляю, што ў гэтай краіне не адбудзецца нічога да таго моманту, пакуль гэтага не захоча Бог. Мы можам разважаць, што цяперашні крызіс — наступства ранейшай палітыкі. І ў гэтым будзе частка праўды. Але можна глядзець і зь іншага пункту гледжаньня і спытаць, ці не дэманструе Госпад сваю волю ў гэтай краіне, ці не карае ён цяпер людзей, якія ў нечым наракалі на свой лёс, нехта не скарыстаўся той свабодай, якой мусіў, нехта не адстойваў тое, што хацеў. І ў выніку мы маем тое, што маем. Я ведаю, што ўсяму ёсьць свой час. І чалавек яго ня ведае. І ён мусіць рабіць усё, на што ён здольны, ён мусіць выкладацца, ён ня мусіць ляжаць і чакаць, што нешта зрынецца безь ніякага яго ўдзелу. Не — маліся і працуй, гэта мусіць быць лёзунгам тых, хто верыць у нейкія перамены і зьвяртаецца да Госпада ў гэты час. Сапраўды, ты павінен рабіць тое, што ты можаш рабіць, але пры гэтым разумець, што ня ўсё ў тваёй уладзе і ўсяму свой час.

Беларусь — сапраўды шматпакутная краіна. Але Госпадам яна не забытая. І шмат яшчэ трэба служыць, шмат чым ахвяраваць. І тое, што я бачыла 19 сьнежня — гэта такое беззаконьне. Калі яно пяройдзе мяжу, за гэтую краіну заступяцца. Я ў гэтым перакананая.

**Алексіевіч**: Я паважаю пачуцьці Насты, але я ня думаю, што ва ўсім, што з намі адбываецца, мы павінны бачыць волю Бога. Гэта і наша воля, наша баязьлівасьць, наша мужнасьць, наша няўменьне. Мне здаецца, што на сёньняшні момант гэта была б больш шчырая нота. Ня ўсе падзяляюць погляд,

што ўсё ў руках Божых. Наша ўласнае жыцьцё ў нашых руках.

**Палажанка**: Я ведаю, што чалавеку дадзена Богам дастаткова свабоды, каб прадэманстраваць мужнасьць, баязьлівасьць, пайсьці на перадавую ці адступіць. Гэта ўсё ў моцы чалавечай. Але ў глябальным пляне тое, што адбываецца ў нашай краіне, залежыць не ад нас саміх. Аднак вы маеце рацыю — чалавек народжаны свабодным, і ў яго свабодзе ўсе дзеяньні, якія адбываюцца. І паводле сваёй свабоды ён будзе калі-небудзь адказваць.

## «Цалкам бясьпечнага грамадзтва ўжо ня будзе ніколі»

27 ліпеня 2011
Юры Дракахруст, Прага

*22 ліпеня ў Нарвегіі, у Осьле і на высьпе Утэя адбыліся тэракты, у выніку 77 чалавек загінулі і 319 параненыя. Тэракты ўчыніў экстрэміст Андэрс Брэйвік. Пра прычыны і ўрокі тэрактаў у Нарвэгіі — гутарка зь пісьменьніцай Сьвятланай Алексіевіч.*

**Дракахруст**: Як вы лічыце, у чым прычына тэракту ў Нарвэгіі? Краіна — сусьветны лідэр дабрабыту, лідэр свабоды, мусульманская грамада ў краіне не такая ўжо вялікая. Дык чаму?

**Алексіевіч**: Дзякуючы сучасным тэхналёгіям мы жывем у агульным сьвеце. А доля мусульманскага насельніцтва ў краіне ўжо нічога ня значыць. Гэта адна з прычынаў. Я месяц таму была ў Нарвэгіі. Гэта вельмі прыгожая і спакойная краіна. Але я там была пасьля Масквы і злавіла сябе на думцы, што доўга там не магла б жыць — нудзілася б. І там такая астраўная псыхалёгія, многія людзі, зь якімі я размаўляла, а гэта пераважна інтэлектуалы, казалі, што ўвесь жах жыцьця — гэта недзе далёка, у іх гэта немагчыма. Але гэтыя мікробы, інтэлектуальная зараза ўплывае на ўвесь сьвет.

Мне здаецца, што тут пэўную ролю адыграла рамантызацыя зла, гэтыя ўсе вампіры, пачвары

ў сучасным мастацтве... У нас зьмяніліся стасункі са злом, яно ўжо не зусім зло, яно нават ідэалізуецца. Мне здаецца, што гэта небясьпечна. Асабліва калі чытаеш развагі гэтага нарвэскага стралка, бачыш, якая каша ў яго ў галаве. Сумна, нудна, няма чым жыць.

Сучасны тэрарызм — двух відаў: тэрарызм ідэі (Чачня, Ізраіль) і тэрарызм без ідэі. Гэта, як высьветлілася, аднолькава небясьпечна — быць фанатыкам ідэі ці жыць проста без ідэі. Мы ад гэта не застрахаваныя, адзіночка ўсё часьцей кідае выклік сьвету. Нешта такое і ў нас адбылося. Здавалася б Беларусь зусім ціхая, правінцыйная краіна. І што мяне яшчэ ўразіла — што гэты нарвэскі стралок трэніраваўся на кампутары. Кампутар — гэта іншая рэчаіснасьць, адчуваньне болю, зла робіцца эфэмэрным, як бы не ўсур'ёз.

Але найбольш мяне ўразіла тое, што на вуліцы Осла і іншых гарадоў Нарвэгіі выйшлі тысячы людзей. Я ўбачыла тое, што я не магла ўбачыць ні ў нас у Беларусі, ні ў Расеі, гэтае экзыстэнцыйнае ўзрушэньне, якое было напісана на твары кожнага з гэтых людзей. Кожны гэта перажываў, кожны не дэлегаваў гэтае ўзрушэньне камусьці, як было ў нас — усе расхоплівалі газэты і чакалі, якога генэрала здымуць і што скажа прэзыдэнт. А там было відаць, як працуе чалавечая душа. Людзі гуртуюцца, людзі думаюць. А ў нас гэта ператвараецца ў новую якасьць нянавісьці.

**Дракахруст**: У вашай кнізе пра Чарнобыль прыводзіцца такі эпізод: пасьля катастрофы на ЧАЭС эвакуацыяй займаліся ўзброеныя вайс-

коўцы. Вы пісалі аб абсурднасьці сытуацыі — у каго яны зьбіраліся страляць са сваіх аўтаматаў, у радыяцыю? Гэтак і тут, у выпадку тэрарыста-адзіночкі — якая тут можа быць адэкватная рэакцыя? Ну схапілі яго, а далей што?

**Алексіевіч**: Гэтае чаканьне, што мы можам неяк абараніцца — пры сучасных тэхналёгіях гэта немагчыма. Мы будзем чым далей, тым больш, залежаць ад аднаго чалавека.

У нядаўняй катастрофе з параходам «Булгарыя» ў Расеі мяне ўразілі лічбы: са 102 жанчын ураталіся толькі 32, з 56 мужчын — 26, з 44 дзяцей — толькі 14. Іншымі словамі, выжывалі больш моцныя. Яны адкідалі дзяцей і жанчын ад шлюпак, якіх было няшмат.

Сацыяльны чалавек у экстрэмальнай сытуацыі зьнікае імгненна, застаецца біялягічны. Я думала пра тое, што культура няшмат можа, што не закладзена ў чалавеку мэханізму абароны блізкага, закладзены інстынкт самазахаваньня. І не выпадае спадзявацца, што дасьць вынік культура, палітыка ці нейкая таталітарнасьць — у кожны дом заходзіць і правяраць — гэта нерэальна.

Я мяркую, што адкрытасьць, пра якую гавораць у Нарвэгіі пасьля тэракту — гэта адзіны шлях. Каб чалавечая душа ўсё ж апрацоўвалася. Бо калі замест любові будзе нянавісьць, будзе яшчэ горш. Цалкам бясьпечным грамадзтва ўжо ніколі ня будзе. Мы можам яго зрабіць толькі больш бясьпечным. І толькі любоўю.

**Дракахруст**: На ваш погляд, ці магчыма нешта падобнае ў Беларусі? Ну ў красавіку нешта

падобнае і адбылося. Але я маю на ўвазе нешта падобнае з подбіўкай этнічнай ксэнафобіі. У Беларусі іншаэтнічная грамада не такая вялікая, але і ў Нарвэгіі таксама.

**Алексіевіч**: Я мяркую, што вельмі кепска, што гэтаму стралку далі магчымасьць выкласьці свае погляды. Правільна, што суд зрабілі закрытым, але тысячы, калі не мільёны, людзей чыталі гэты яго вар'яцкі маніфэст, яшчэ адзін «Майн кампф».

З аднаго боку, мы павінны мець інфармацыю, але зь іншага боку, гэта як вірус — трэба ведаць, што ён ёсьць, але ня трэба пускаць яго ў паветра. Я мяркую, што ўжо нельга казаць, што нейкае грамадзтва можа быць нечым абароненае — правінцыйнасьцю, адсталасьцю ці высокай культурай. Усе ўразьлівыя.

З таго, што нашы ўлады маўчаць аб тэракце ў Менску, не вынікае, што яны нейкім чынам да яго датычныя, хоць і гэта ня выключана. Але я мяркую, што ўлада ў шоку ад таго, што нават пры такім татальным кантролі, як у нашым грамадзтве, яна ня можа пракантраляваць такія рэчы. Гэта вельмі моцна прынізіла і ўразіла таталітарную сьвядомасьць нашай улады. Людзі ня любяць казаць пра тое, чаго яны не разумеюць, калі яны прайгралі і не разумеюць чаму. У гэтым змаганьні з адзіночкай чалавецтва прайграе.

**Дракахруст**: А ці ня можа здарыцца так, што гэты нарвэскі тэрарыст урэшце даможацца свайго, прыцягне ўвагу да праблемы іншаэтнічнай, іншарэлігійнай іміграцыі? Праблема ж існуе,

мы бачым гэта па канфліктах і палітычных пераменах у Эўропе, у Расеі. Ці не атрымаецца так, што ён у пэўным сэнсе выйграе?

**Алексіевіч**: Зразумела, зь яго зробяць сьцяг нейкія людзі. У Беларусі гэта малаімаверна, але ў Расеі ў яго можа знайсьціся шмат прыхільнікаў, і ў Эўропе такія знойдуцца. Цяперашняя мультыкультурнасьць, тое, што сьвет ператвараецца ў караван-сарай, можа спарадзіць шмат розных складанасьцяў. Я цяпер жыву ў Бэрліне ў вельмі буржуазным раёне, ён вельмі прыгожы, спакойны. Але праз 500 мэтраў, праз чыгунку — там турэцкі раён. Там усё зусім іншае — і людзі, і крамы. І ўвечары лепш туды не хадзіць. Як гэта можа зрасьціся — я ня ведаю. І існуе ўзаемная варожасьць. Яна проста зьмікшыраваная палітыкай, але тое, што напружанасьць ёсьць — няма сумневу.

## «Ідзе назапашваньне энэргіі»

6 кастрычніка 2011
Радыё Свабода

*6 кастрычніка дырэктар Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў (НІСЭПД) прафэсар Алег Манаеў быў затрыманы каля польскай амбасады, дзе ён зьбіраўся ўзяць удзел у брыфінгу незалежных экспэртаў для дыпляматычнага корпусу. Сацыёляг быў дастаўлены ў аддзяленьне міліцыі і праз амаль тры гадзіны адпушчаны. Пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч пракамэнтавала для нашага радыё затрыманьне Манаева і словы наконт гэтай справы, якія прагучалі на прэсавай канфэрэнцыі Аляксандра Лукашэнкі.*

**Алексіевіч**: Я паважаю і заўсёды паважала прафэсара Манаева за тое, што ён застаўся непадкупным навукоўцам. Ён ніколі не працуе ні на апазыцыю, ні на ўладу, ён сапраўды працуе з рэальнасьцю, і ўсе яго высновы — яны заўсёды адкрываюць тое, што насамрэч адбываецца, і ён мае сьмеласьць гэта сказаць. І гэта не падабаецца ні адным, ні другім. Яго абстрэльваюць з абодвух бакоў.

Ён меў сьмеласьць сказаць, што Лукашэнка выйграў выбары. Ня так прыгожа, але ён іх выйграў. Гэта сумленны навуковец, які робіць сваю працу. І такія людзі ў такі складаны час нам патрэбныя, бо мы маем справу са сваімі ідэямі, са

сваімі схільнасьцямі — адзін і другі бакі. І ніхто ня ведае, што адбываецца там, на вуліцы, у глыбіні нашай краіны.

Апошнія высновы, якія агучыў Манаеў — пра падзеньне рэйтынгу Лукашэнкі — гэта абсалютна адпавядае рэчаіснасьці. Тое, што народ не выходзіць на вуліцы, гэта ня значыць, што яму падабаецца тое, што адбываецца. Мне падаецца, што ідзе назапашваньне энэргіі і гэта вельмі небясьпечнае назапашваньне. Яно пакуль ня мае формы, але ў любы момант яно можа ператварыцца ў гарачую лаву і заліць усё.

І ўлада гэта разумее, і Лукашэнка разумее. Адносна яго дакладней сказаць, што ён не разумее, а адчувае небясьпеку. І вось у гэтым рэйтынгу ён убачыў небясьпеку. Сам ён яго ведае, я мяркую, у нейкія моманты прасьвятленьня. Я мяркую, што за гэтым стаіць рэальны страх. Навуковец сказаў праўду. І гэта навуковец, які заўсёды кажа праўду, не прыслугоўвае.

Тое, што было агучана на прэсавай канфэрэнцыі — гэта тэатар, я ніколі не магла сур'ёзна ставіцца да прэсавых канфэрэнцыяў Лукашэнкі, гэта заўсёды тэатар аднаго актора. Усё, што кажа прэзыдэнт, ніколі не адпавядае рэчаіснасьці, гэта заўсёды наадварот, заўсёды адно ў галаве, іншае на языку, гэта заўсёды гульня. Я нават не разумею, як журналісты знаходзяць у гэтым тэмы для абмеркаваньня. І гэта адбываецца 17 гадоў.

А насамрэч мы проста рухаемся да прорвы. І навуковец гэта сказаў.

У цяперашняй сытуацыі яго нельга пасадзіць у турму. Хоць прэцэдэнт небясьпечны. Напісаў сёньня артыкул, ён не спадабаўся — цябе ў пастарунак пацягнулі. А там, глядзіш, і ў турму. Гэта такі лацінаамэрыканскі варыянт, да якога мы скочваемся.

Але цяпер нам патрэбныя крэдыты, таму мы спрабуем рабіць добрую міну.

Мы можам прыйсьці да бескантрольнай дыктатуры. Цяпер яна крышачку кантралюецца, крышачку Эўропай, крышачку Расеяй. Нейкая мера яшчэ захоўваецца. Але ўсё можа сарвацца, і ўсё можа быць значна больш змрочным.

Эўропа не да канца разумее, што ў нашай эліты, у нашага народу няма сілаў справіцца з сытуацыяй. І нас нельга сам-насам пакідаць з нашай уладай.

## Сьвятлана Алексіевіч атрымала прэстыжную прэмію

4 сьнежня 2011
Радыё Свабода

*Пісьменьніца зь Беларусі Сьвятлана Алексіевіч у мінулую суботу была ўганараваная літаратурнай прэміяй Цэнтральнай Эўропы «Angelus». Прэміяй адзначаная кніга «У вайны не жаночае аблічча», паведамляе Gazeta Wyborcza.*

Пры атрыманьні прэміі ў Польскім тэатры ва Ўроцлаве, Сьвятлана Алексіевіч сказала, спасылаючыся на Фёдара Дастаеўскага, што нацыі Цэнтральнай Эўропы паходзяць «з аднаго вар'яцтва — з вар'яцтва сацыялізму».

Дасюль трагедыя і краса ідуць разам. Мы глядзім на трагедыю, і яна падаецца нам прыгожай, і гэта самае страшнае, — сказала Алексіевіч.

Прафэсар Анджэй Завада, які ўваходзіць у журы прэміі «Angelus», падкрэсьліў, што сёлета выбар пераможцы быў вельмі цяжкі. «Кожная з кніг, якія трапілі ў фінал, своеасаблівая і непаўторная», сказаў прафэсар.

Літаратурная прэмія Цэнтральнай Эўропы «Angelus» прызнаецца за найлепшую кнігу з тых, што выйшлі па-польску ў папярэдні год. Выдаўцы могуць вылучаць на яе жывых аўтараў з 21 краіны Цэнтральнай Эўропы. Прэмія складаецца са статуэткі «Angelus» і чэка на 150 тысяч злотых.

# «Быкаў быў рамантыкам нацыянальнай ідэі»

10 студзеня 2012
Іван Талстой, Прага

*У цыклі «Альфабэт іншадумства» перадачы «Паверх бар'ераў» расейскай службы Радыё Свабода пра асобу Васіля Быкава, ягоную грамадзянскую пазыцыю разважаюць пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч, дысыдэнт Валерыя Навадворская і журналіст Сяргей Навумчык.*

**Алексіевіч** : Я памятаю нашы размовы з Быкавым, таму што гэта два мае настаўнікі — Адамовіч і Быкаў. Пра вайну, калі яны казалі, было відаць, што гэта найглыбейшая траўма. Я думаю, што іншадумства ішло адсюль. Я б не сказала, што іншадумства тут дакладнае слова, хутчэй гэта — супраціў. Ішоў адсюль супраціў гэтай сыстэме, якая здавалася з цэмэнту ўся або з чагосьці магутнага, а аказалася ўсё ня так зусім. Так што, я думаю, гэта сілкавалася тымі ідэямі. І гэта ваеннае пакаленьне магутна заявіла сябе, яны моцна сябе падтрымлівалі, гэта я бачыла па сабе, як яны мяне падтрымлівалі, таму што яны падтрымлівалі любую праўду, якая пра той час гучала, паколькі гэта была праўда ня толькі пра вайну, але і праўда пра ідэі, пра гэтую страшэнную ідэю, якая прыняла ў нас такія формы страшэнныя.

Гэта быў час, калі ва ўсіх нас быў вялікі вораг — камунізм. Гэта стала цалкам відавочна на вайне. Калі ў часы ГУЛАГу можна было людзей адасlаць у Сібір, і там гэтыя мільёны гінулі, і ніхто іх ня бачыў, дык на вайне было відаць, як гінулі гэтыя людзі, як яны нічога не каштавалі, і гэта была найглыбейшая траўма для гэтай моладзі, якая і выйграла перамогу. Бо на вайне ваявалі 18 -гадовыя і 20-гадовыя хлапчукі, яны з гэтым прыйшлі і яны прагналі ворага. Але ж яны зразумелі, што ўся праблема ў іншым, што ўся праблема ў гэтай ідэі і, вядома, яны працягвалі гэтую барацьбу ўжо іншымі спосабамі. Адно выходзіла з другога, і справа нават была ня ў тым, што гэтая ідэя выяўлялася нейкімі канкрэтнымі імёнамі — Брэжнеў, Хрушчоў, Малянкоў — яны разумелі, што справа не ў Хрушчове, ня ў Брэжневе, а ў сыстэме.

Нядаўна я сустракалася са сваёй сяброўкай, вядомай левай ў Італіі, якая кажа, што 15 гадоў яе жыцьця было выдаткавана на барацьбу з Бэрлюсконі, нарэшце, няма Бэрлюсконі, яны дамагліся свайго і зразумелі, што справа не ў Бэрлюсконі, што справа значна глыбей. Сапраўды гэтак жа і гэтыя людзі зразумелі, што справа значна глыбей, яна палягае глыбей, чым гэтае пакаленьне меркавала.

Калі пачалася перабудова, я памятаю асобы Адамовіча і таго самага Быкава, як яны верылі, яны былі проста рамантыкі абсалютныя з пункту гледжаньня сёньняшняга дня, з пункту гледжаньня нашых паразаў і расчараваньняў. Яны думалі, што зараз ня будзе камунізму і будзе

нешта зусім іншае. А аказалася, што справа ня толькі ў камунізьме, а ўсё мае больш глыбокія карані. Так што супраціў, іншадумства — яно ж таксама ў руху. Нам здаецца, што вораг — гэты, а потым праходзіць час, і мы высьвятляем, што вораг ня толькі гэта, а нешта ў мэнтальнасьці, у гісторыі, у самой структуры гэтага дэспатычнага мэханізму.

**Талстой**: А які быў Быкаў апошніх сваіх гадоў? Бо ён адыграў вялікую ролю ў руху за беларускую нацыянальную самасьвядомасьць?

**Алексіевіч**: Мы шмат спрачаліся зь ім пра гэта. Ён застаўся рамантыкам. Калі раней ён быў рамантыкам-шасьцідзясятнікам, дык потым ён ... Я ня стаўлю гэта ім у віну, ні ў якім разе, я, наадварот, захапляюся гэтым пакаленьнем, але нельга абагнаць час, нельга абагнаць уласны народ. Гэта ўсё адбываецца, на жаль, па нейкіх сваіх законах. Дык вось потым ён стаў рамантыкам нацыянальнай ідэі, нашых нацыянальных лідэраў, якія тут жа выраджаліся ў Гамсахурдыя, толькі не пасьпелі нічога зрабіць, а было б тое самае. І ён стаў рамантыкам гэтай ідэі.

А потым таксама, па-мойму, быў вельмі расчараваны. Гэта было вельмі складана. Ва ўсякім выпадку, я думаю, што ён мог бы, як і Астаф'еў, напісаць, што «я радасна прыйшоў у гэты сьвет, а сыходжу ўзрушаным, расчараваным і адзінокім».

Мне здаецца, такога Быкава я сустракала за мяжой. Я памятаю, аднойчы мы сустрэліся ў Франкфурце, ён прыйшоў з жонкай, і ў нас было

трошкі часу пагаварыць. І так я была засмучаная ягоным душэўным станам, што ён ня мог вярнуцца дадому, што ён шмат у чым расчараваўся, што ўсё аказалася ня так, як мы сабе ўяўлялі, што пасьля шэрых прыйшлі чорныя, што я нават села на цягнік, які ехаў у адваротны бок. І да гэтага часу памятаю гэтыя дзьве фігуркі на плятформе, якія махалі мне, зусім разгубленыя, у гэтым новым, незразумелым сьвеце.

## «Пра вайну мы ня ведаем праўды — асабліва беларусы пра партызанскую вайну»

15 сакавіка 2012
Сяргей Шупа

*На кніжным кірмашы ў Ляйпцыгу, дзе прысутнічае вялікая дэлегацыя беларускіх літаратараў, пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч адказала на пытаньні нашага карэспандэнта.*

**Шупа**: Колькі часу вайна яшчэ будзе заставацца актуальнаю ў сьвядомасьці беларускага чытача?

**Алексіевіч**: Што тычыцца беларускага чытача, гэта будзе вельмі доўга. Тое самае і для расейскага чытача. Паколькі зьнікла чырвоная імпэрыя, то і зьнікла напрацаваная ідэя. Ня важна якая яна... Вядома, засталіся мора крыві і бочкі мяса, і поўная катастрофа ў розумах людзей. Адначасова сёньня людзям яшчэ горай жыць, асабліва маленькаму чалавеку, і ён разгублены. Маленькі чалавек ня думае ж стратэгічна, ён жа не пісьменьнік, каб сядзець і думаць аб важных рэчах Ён глядзіць — няма грошай, пайшоў...

Я асабліва паезьдзіла па Расеі, дык там жах. У нас яшчэ нейкая своеасаблівая сумесь фэўдалізмуі і сацыялізму, яшчэ больш-менш схавана ўсё на нейкі час. Таму, з аднаго боку, пра вайну мы ня ведаем праўды — асабліва беларусы

пра партызанскую вайну. Калі ваюе армія — гэта арганізаваная ваенная машына, добрая ці дрэнная, але машына, ёсьць законы, статут, правы, гэта значыць, ёсьць інстытут, колькі жыве чалавецтва, столькі гэтаму інстытуту гадоў. Партызанская вайна, гэта, агулам, поўны разбой. Ты залежыш ад камандзіра, асабліва жанчыны (што я добра ведаю); калі ты габрэй, табе могуць і ў сьпіну стрэліць.

Усё гэта мы ведаем, і мы гэтага ня ведаем. Гэта значыць, што мы ведаем пра гэта як сьведкі, ад бацькоў, ад дзядоў, вось мне бабуля зь дзедам расказвалі, што яны баяліся ноччу адных, а днём іншых... А літаратура аб гэтым ня піша, літаратуры аб гэтым няма або вельмі мала...

**Шупа**: А ці ня позна ўжо?

**Алексіевіч**: Я ня думаю. Наадварот, сёньня да гэтых рэчаў можна зусім інакш падысьці. Гэта тое, што я спрабавала сёньня сказаць. Мяне, на ўзроўні такіх канкрэтнасьцяў, зусім не цікавіць (гэта, можа, ужо і позна) — колькі падарвалі эшалёнаў, як адны гераічна забівалі іншых і г. д. Але паколькі мы жывем у эпоху спажывецтва, у чалавека няма стрыжня. І вось яму няма на чым... Ну ўсе мы троху праваслаўныя, так, але сапраўдных вернікаў, якія па сапраўднаму ведаюць і чытаюць Біблію, ня так і шмат... А бітва дабра і зла ў чалавечым сэрцы вядзецца заўсёды, і таму такія матэрыялы, такая гісторыя дае магчымасьць размовы з такім чалавекам. На якім яшчэ матэрыяле вы можаце сёньня гаварыць з нашым чалавекам аб дабры і злу? Аб чым?

**Шупа**: Але паглядзіце, ўдзельнікаў вайны ўжо амаль не засталося, засталіся састарэлыя сьведкі. Ці зьмянілася нешта сёньня ў іх успамінах?

**Алексіевіч**: Я недзе пяць гадоў таму кнігу дапоўніла — я дапісала, бо яны сёньня гаварылі лепш, чым тады. Сёньня яны больш свабодныя. Калі раней я мусіла іх пераконваць, што пра гэта можна расказваць, то сёньня яны ўжо і самі гэта ведаюць.

**Шупа**: Але ці разумеюць сёньняшнія чытачы? Ужо вырасьлі два-тры новыя пакаленьні...

**Алексіевіч**: Калі вы зойдзеце ў польскую кнігарню — паглядзіце, як чытаюць «У вайны не жаночае аблічча». Кніга выйшла ў Польшчы — дзьве прэміі. Гэта ж пра нешта гаворыць? Гэта гаворыць пра тое, што гэта — прадмет размовы. У палякаў складанае стаўленьне да расейскай гісторыі — хто толькі не ваяваў на гэтай тэрыторыі — былі беларускія інтарэсы, польскія, украінскія, савецкія. Мы ж нічога гэтага ня ведаем. Урэшце ёсьць жа архівы, ёсьць дакумэнты — калі б гэта нехта апісаў, усе б гэта чыталі сёньня, бо мы па вялікім рахунку нічога пра сябе ня ведаем. У нас ёсьць сталінская вэрсія, і мы дагэтуль па ёй жывем. Калі ты раскажаш гісторыю па-людзку, пра лёс чалавека — просты, «маленькі» чалавек будзе чытаць. Чаму ў нас сёньня на сэкцыі не атрымалася размова? Бо ў гісторыка адзін погляд, а ў пісьменьніка іншы.

## «Калі столькі хлусьні, удзельнічаць у гэтым непрыстойна»

20 верасьня 2012
Алесь Дашчынскі

*У Беларусі працягваецца датэрміновае галасаваньне на выбарах у Палату прадстаўнікоў. Пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч сказала, што хоць і будзе ў дзень выбараў у Беларусі, але галасаваць ня пойдзе, бо лічыць, што адбываецца чарговае палітычнае шоў. Сьвятлана будзе працаваць над новай кнігай «Час second-hand. Канец чырвонага чалавека».*

**Алексіевіч**: У тых абставінах, пры той уладзе, якая ў нас, усё гэта ілжыва, непрыстойна. Мы па вялікім рахунку ня ведаем, што адбываецца ў краіне, якія сілы, якія людзі насамрэч карыстаюцца даверам, насамрэч могуць нешта зрабіць. Гэта ўсё свавольства, усеўладзьдзе такое. Мы жывем у краіне нічога пра яе ня ведаючы. А існі яшчэ раз гэта памнажаць — навошта? Калі сядзяць палітвязьні, калі людзям, якія вылучаюцца, не даюць слова, калі столькі падману, хлусьні, удзельнічаць у гэтым проста непрыстойна. Мы ўсе апынуліся ў пастцы. З аднаго боку, трэба нешта рабіць, а з другога боку, поўнае бясьсільле і немагчымасьць нешта рабіць. Я бачу, што ўсе паралізаваныя. Гэта ўжо ня страх як такі, а гэта поўнае адчуваньне свайго бясьсільля, бездапаможнасьці. І амаль адчай. Ён ва ўсіх — і ў тых, хто

езьдзіць на джыпе, і ў тых, хто цягне ад заробку да заробку. Гэта нейкі агульны адчай таго, што мы выпадаем з часу. Поўнае нейкае палітычнае і чалавечае бяспраўе»

## «Народ — гэта зусім ня тое, што пра яго прынята думаць: што гэта людзі, якіх апанаваў страх, рабы»

24 сьнежня 2012
Радыё Свабода

*На відэапартале YouTube зьявіўся дакумэнтальны фільм «Плошча. Жанчыны». Ідэя праекту належыць пісьменьніцы Сьвятлане Алексіевіч. Сьвятлана Алексіевіч адказала на пытаньні «Свабоды».*

**Алексіевіч**: Зразумела, вельмі хацелася б, каб гэтае відэа паглядзела як мага болей людзей. Каб не прайшлі міма нас тыя пакуты, якія перажылі гэтыя жанчыны ды іх дзеці. Каб час ад часу ўзгадвалася пра тое, што не ва ўсіх матак вытрымала сэрца ад таго, што здарылася зь іхнымі хлопчыкамі. У нашым фільме распавядаецца, што маці двух палітвязьняў памерлі. Вось такімі гісторыямі можна абудзіць свой народ, а ня нейкімі палітычнымі лёзунгамі... Трэба гаварыць пра чалавечыя рэчы і такім чынам прабівацца да іншых. Бо кожны з нас можа апынуцца на месцы гераінь гэтага фільму.

**Свабода**: Фільм зьняты мабільным тэлефонам з убудаванай відэакамэрай. Гэта звычайныя чалавечыя размовы пра тое, што ў жыцьці далёкіх калісьці ад палітыкі жанчын зьмянілася пасьля падзеяў 19 сьнежня 2010 году. Падставай для праекту стала сустрэча ў Вас дома з вашымі

сяброўкамі — мастацтвазнаўцай, журналісткамі. Размова ішла пра тое (гэта Ваша тэма), што гісторыя народу, краіны жыве ў кожным маленькім чалавеку, што гэта трэба фіксаваць на любы даступны носьбіт. І тады адна зь іх — мастацтвазнаўца Тацяна Цюрына — сказала: «Ага, у мяне ёсьць мабільнік...»

**Алексіевіч**: Так, мы гаварылі пра тое, што кожны чалавек носіць гісторыю ў сабе ды зносіць, сыходзячы, з сабой. Толькі ў аднаго гэта дзьве старонкі, а ў другога — дзесяць, і г. д... Літаратура ўжо не пасьпявае адлюстраваць усё гэта. Пісьменьнік спрабуе шукаць нейкія новыя словы, аднак энэргія зь іх сышла. Каму давярае цяпер наш сучасьнік? Гэта, зразумела, сьведкі, сьведчаньні... І гэтыя сьведчаньні важна сёньня захаваць на любым носьбіце — дыктафоне, камэры, тэлефоне... Ня важна як. Галоўнае — убачыць, пачуць. І зафіксаваць. Зафіксаваць гэты момант можа мастак, журналіст... У гэтым праекце такое ўдалося. Мы, дарэчы, хочам зрабіць і працяг, які будзе называцца «Плошча. Мужчыны». Будуць два такія погляды... Мне самой цікава, што з гэтага выйдзе.

**Свабода**: «Плошча. Жанчыны», «Плошча. Мужчыны». У гэтых назвах акцэнт робіцца на падзеі амаль двухгадовай даўніны. Хоць у тым самым відэафільме пра падзеі 19 сьнежня гаворыцца ня так ужо і шмат...

**Алексіевіч**: Лічу, што Плошча, тыя падзеі, якія адбыліся 19 сьнежня 2010 году — вельмі знакавыя. Гэта яшчэ раз пацьвярджае здагадку,

што мы, з аднаго боку, ператварыліся ў гета, дзе наверсе жыцьцё робіцца, так бы мовіць, «па паняцьцях», аднак усярэдзіне адбываюцца нейкія нязвыклыя і цікавыя працэсы, якія сёньня ня кожны разумее ды ўсьведамляе...

Мы ўбачылі, што народ — гэта зусім ня тое, што пра яго прынята думаць: што гэта людзі, якіх апанаваў страх, рабы. Так, гэта прысутнічае, аднак, тым ня менш, пры гэтым наверх могуць выйсьці зусім іншыя сілы... Як адбываецца часта ў экстрэмальных умовах, у тым ліку на вайне (гэта і мая тэма таксама) — кажуць пра пакуты герояў, аднак ніхто ня кажа пра пакуты жанчын. У нашым такім крыху патрыярхальным грамадзтве традыцыйна лічылася і лічыцца, што жанчына нібыта звонку, а жыцьцё — як старое, так і сучаснае — робяць мужчыны. Насамрэч вядомыя падзеі паказалі зусім іншае.

Я лічу, што калі абставіны зьменяцца, а яны зьменяцца, у палітыку ды грамадзкае жыцьцё прыйдзе шмат жанчын. Бо яны ёсьць, і іх рост як асобаў вельмі адчувальны. Яны растуць на фоне гэтых падзеяў, на фоне страху, нават асабістых стратаў, на той зьнявазе, якую мы перажываем як нацыя. Жанчыны «праб'юцца». Бо трымаць іх далей на другасных ролях проста немагчыма. Пра гэта наш расказ... Для мяне вельмі важная канцоўка фільму, калі на сустрэчы блізкіх сваякоў палітвязьняў старэйшая жанчына, у сям'і якой ніхто не пацярпеў, ніхто не сядзеў, кажа: «Я пражыла ўсё жыцьцё ў СССР, а прыходжу сюды, каб адчуваць сябе свабоднай.

## «Для свабоды патрэбныя свабодныя людзі»

24 красавіка 2013
Алена Радкевіч, Прага

*Наколькі запатрабаваная ў Беларусі літаратура кшталту кнігі Юрыя Бандажэўскага «Турма і здароўе», якая выйшла ў сэрыі «Бібліятэка Свабоды — XIX стагодзьдзе»?*

**Радкевіч:** Вядомы беларускі навуковец і асьветнік Барыс Кіт, якому сёлета споўнілася 103 гады, узгадвае пра сябе так: «Два разы я сядзеў пры польскай уладзе і адзін раз пры нямецкай у Глыбокім, у камэры сьмяротнікаў. Вельмі сумна і дрэнна, але такі, відаць, наш лёс беларускі — заўсёды даводзіцца сядзець у турмах. Ніяк ня можа Беларусь трапіць у добры час». Ці ня ў сувязі з гэтай сваёй турэмнай гісторыяй беларусы так спакойна і з фаталізмам успрымаюць умовы сваёй несвабоды?

**Алексіевіч:** Я думаю, што гэта сапраўды можна разглядаць як мэтафару — ёсьць рэальная турма, турэмныя тэрміны, там сядзяць людзі з пакаленьня ў пакаленьне. Можа, толькі ў апошнія часы СССР гэтага не было, а так гэта сапраўды ўвесь час нас суправаджае. Дастаткова прайсьці па вуліцах Менску, дзе ўсё чыста, прыгладжана, але ўбачыць гэтую несвабоду можна ў паводках людзей, у іх поглядах, у тым, як яны паводзяць сябе ў грамадзкім транспарце. Усё гэта паводзіны

несвабодных людзей. Гэта таксама нейкая форма турмы. Тут вы маеце рацыю.

**Радкевіч:** А ці ня склалася так, што беларусы ўжо і пабойваюцца свабоды?

**Алексіевіч:** Чалавек, які ўсё жыцьцё сядзіць у турме, вядома, баіцца свабоды. Там міска баланды і знаёмыя правілы паводзінаў, і раптам цябе выкідаюць у так званую свабоду. Таму многія з гэтых людзей вяртаюцца назад у турму — у іх няма навыкаў іншага жыцьця. Чаму вось нічога не атрымалася зь перабудовы? Такая выдатная ідэя, людзі памкнуліся насустрач свабодзе. Але аказалася, што ніхто ўяўленьня ня мае, што такое свабода.

Не было свабодных людзей. А для свабоды патрэбныя свабодныя людзі. А іх не было. Адны сядзелі на кухнях і лаяліся, чакалі, што нехта нешта зьменіць наверсе, хтосьці на заводах і фабрыках у курылках абмяркоўваў тое самае.

Я думаю, што ў нашай культуры няма ніякага іншага досьведу, апрача досьведу гвалту. У нас няма досьведу радасьці, досьведу жыцьця, культуры радасьці, культуры жыцьця. У нас толькі досьвед гвалту, выжываньня, агулам — толькі ваенны досьвед. Сёньня і людзі паводзяць сябе таксама: паміж імі нейкія жорсткія дачыненьні. Дастаткова ўвайсьці ў тралейбус ці мэтро — і гэтая жорсткасьць і страх там разьлітыя ў паветры. Хоць людзі ўжо езьдзяць на добрых машынах і носяць ужо ня толькі кітайскія і турэцкія касьцюмы, але гэтыя погляды няўпэўненасьці і нянавісьці застаюцца. Я вось жыву побач з ма-

ленькай царкоўкай і бачыла, як сьвятар асьвячаў дарагія машыны. А пасьля гэтага да іх уладальнікаў падышоў бомж. І яны, якія, здавалася, толькі што дакрануліся да Бога, пачалі яго гнаць зь нецэнзурнай лаянкай прэч...

**Радкевіч:** Вось Вы казалі, што ў пачатку перабудовы людзі яшчэ ня ведалі, што такое свабода. А як Вы думаеце: цяпер беларусы ўжо пачынаюць акрэсьліваць для сябе, што такое свабода? Валянцін Акудовіч казаў неяк, што беларусы атрымліваюць пакуль асалоду ад прыватнага спажываньня, ад прыватнага жыцьця. А вось да разуменьня патрэбы грамадзкіх свабодаў яны яшчэ не дарасьлі?

**Алексіевіч:** Я думаю, што гэта дэфармацыя росту, гэта першапачатковае. Гэта яшчэ такі вульгарны пэрыяд. Людзі раней нічога ня мелі. Спачатку беднасьць, аскетызм. Людзям хацелася проста наесьціся. Мне ў адной краме сказалі: якая свабода, вунь пайдзі, гарэлкі колькі хочаш, нават бананы ляжаць, каўбасы поўна, якая яшчэ свабода табе патрэбная, нам і гэтага хопіць. Адначасова гэта не зусім так. У галовах нашых людзей як бы дзьве палічкі. На адной ляжаць гэтыя матэрыяльныя тавары, тое, што мы можам сабе дазволіць. А зь іншага боку, нейкая частка людзей езьдзіць за мяжу, бачыць іншы сьвет, яны здагадваюцца, што можа быць іншае жыцьцё, і яно можа быць інакш арганізаванае, але гэта як бы «не пра нас».

Таму што калі яны прыяжджаюць, дастаткова перайсьці мяжу альбо апынуцца ў залі чаканьня

ці пашпартнага кантролю, ты апынаесься ў іншым часе, у іншых узаемаадносінах. Тыя людзі, якія раскланьваліся зь немцамі альбо з італьянцамі, я іх бачыла, як яны праходзілі пашпартны кантроль у Рыме — і зусім гэта іншыя людзі, калі яны апынуліся на пашпартным кантролі ў Беларусі. Яны неяк жорстка адзін з адным. А ўжо калі яны ўзялі рэчы і выходзяць да сваіх — яны зноў вяртаюцца ў нейкі канон, канон несвабоды, які прысутнічае ў сьвядомасьці. І гэта, на жаль, напэўна, рост, але рост такі зацяжны, хваравіты, вельмі доўгі рост. Я думаю. што на сёньняшні дзень мы валодаем толькі ваенным досьведам, турэмным досьведам, і гэты досьвед — пастка. Ён перашкаджае і інтэлектуалам, і палітыкам, і простым людзям. Ён перашкаджае нам прарвацца ў нейкае іншае жыцьцё, бо мы абмежаваныя гэтым, гэта ўспрымаецца як норма.

Што такое кніга Бандажэўскага, якога я вельмі паважаю, які сапраўды асоба, і гэты досьвед турэмны асьвечаны моцнай, цікавай, неардынарнай асобай. І ён проста кажа, як выжыць. Але ў Шаламава ёсьць выказваньне, што лягерны досьвед нікому не патрэбны. Ён патрэбны толькі ў лягеры. Ён разбэшчвае і ка́та, і ахвяру. І вось я думаю, ёсьць яшчэ больш жорсткае вызначэньне — што лягерны досьвед ка́та і ахвяру зьвязвае, гэта — братэрства ў падзеньні. І гэта жорстка, але гэта тое, што з намі сапраўды адбываецца. Мы разбэшчаныя, мы адно ад аднаго залежныя. Вось уся краіна абмяркоўвае тое, што сказаў Лукашэнка. Сказаў глупства, на ўзроўні

«гопніка» — але ўся краіна гэта абмяркоўвае. І ўся дурнее...

**Радкевіч:** Вось Вы сказалі наконт кнігі Юрыя Бандажэўскага, што, вядома, гэта не мастацкая кніга, гэта свайго кшталту кніга па сыстэме выжываньня. Гэта кніга, напісаная ў турме, значыць, яна можа быць аднесеная да турэмнай літаратуры. У сучасным беларускім літаратурным працэсе ўзьнік цэлы пласт такой літаратуры, які пакуль не ацэнены. Я невыпадкова сказала «пакуль», бо сёньня на прэзэнтацыі кнігі Бандажэўскага было абвешчана аб заснаваньні новай літаратурнай узнагароды — гэта супольная прэмія Радыё Свабода і Беларускага ПЭН-цэнтру. Сучасная турэмная літаратура — Вы знаёмыя з такой творчасьцю?

**Алексіевіч:** Ну, міжволі я чытала, калісьці Павал Шарамет нешта пісаў, ну і ўвогуле расейская літаратура багатая гэтым досьведам, але там болей са сталінскіх лягероў. Я хачу сказаць, што для турэмнай літаратуры ёсьць вельмі высокая планка, якую задала расейская літаратура сталінскіх лягероў — Разгон, Салжаніцын, Шаламаў. Гэта вельмі высокая планка. Вядома, такая прэмія патрэбная ў нас. Але я ізноў думаю, што мы па-ранейшаму закладнікі гэтага турэмнага досьведу. Гэта нейкая бясконцае кола, зь якога мы ня можам вырвацца.

**Радкевіч:** Вы бачыце ў Беларусі нейкія знакі таго, што яна вырываецца за гэтае кола?

**Алексіевіч:** Ну калі Вы кажаце пра турэмны досьвед— пакуль у нас няма шанцаў думаць, што

нешта ў бліжэйшым часе памяняецца. І ўлада шкодзіць сама сабе, таму што калі б яна была больш разумнай, яна б не стварала ні турэмную літаратуру, ні турэмную сытуацыю, паколькі турэмныя сытуацыі ствараюць толькі рэвалюцыйныя сытуацыі, выракляюць толькі рэвалюцыянэраў. Я ня ведаю нікога з маладых людзей, хто б ня выйшаў у Беларусі з турмы без рэвалюцыйных ідэй, без рэвалюцыйных настрояў, нават калі яны пасядзелі ў Акрэсьціна 15 сутак. Сёньня турэмная літаратура працуе на ідэю вызваленьня, улада робіць больш, чым робіць апазыцыя для гэтага. Але што да турэмнай літаратуры як такой — існуюць вельмі высокія эталёны.

**Радкевіч:** А з Вашага погляду, турэмныя пакуты, яны разбураюць творчасьць ці сілкуюць яе? Існуе нейкая ўнівэрсальная формула, ці кожны раз гэта — індывідуальна?

**Алексіевіч:** Думаю, усё залежыць толькі ад таленту. Калі я прыходзіла ў літаратуру, казалі, што каб напісаць пра вайну, трэба мець ваенны досьвед. Ні пакуты, ні тое, што чалавек перажыў ці перадумаў — зусім ня тоесна таму, што яму ўдаецца сказаць. Талент. Тут мастацтва — жорсткае. Адзіны крытэр — талент.

# «Ад беларускай культуры я не адмаўлялася!»

22 чэрвеня 2013
Сяргей Шупа, Прага

*У нямецкай газэце Frankfurter Allgemeine Zeitung зьявілася публікацыя, дзе пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч нібыта крытычна выказалася пра беларускую мову.*

У інтэрвію з нагоды прысуджэньня Сьвятлане Алексіевіч прэстыжнай Прэміі міру нямецкіх кнігавыдаўцоў, пісьменьніца выказалася наконт сваёй культурнай прыналежнасьці і стаўленьня да беларускай мовы.

На рэпліку газэты «Хоць Менск — Ваш родны горад, але Вы ня пішаце па-беларуску», Сьвятлана Алексіевіч адказала:

Так, я пішу толькі па-расейску і таксама лічу сябе прадстаўніцай расейскай культуры. Беларуская мова вельмі вясковая і літаратурна нявысьпелая».

На пытаньні, якія могуць узьнікнуць у чытачоў інтэрвію мы папрасілі адказаць саму пісьменьніцу.

**Алексіевіч**: Вядома ж, я такога не казала. Тут той выпадак, калі на тэкст і дух інтэрвію наклалася асоба чалавека, які яго рабіў. Са мной гаварыла маскоўская карэспандэнтка газэты, магчыма, яе расейская мова была недасканалая,

магчыма, яна падала там нешта так, як бы сама хацела гэта пачуць.

Я ніяк не магла сказаць тое, што напісана ў тэксьце інтэрвію. Гэта зусім не адпавядае маім перакананьням. Я заўсёды казала, што ў мяне дзьве маці — беларуская вёска, у якой я вырасла, і расейская культура, у якой я выхоўвалася. Як можна ад іх адмовіцца? Беларуская мова для мяне — гэта і вясковыя краявіды, і вясковыя бабкі, сярод якіх я расла, праз беларускую мову я пазнавала сьвет жаночага голасу — я ніколі не лічыла і не лічу яе нейкай адсталай ці нясьпелай.

## Камэнтар у FAZ: На прысуджэньне Алексіевіч прэміі ў Беларусі не рэагуюць

24 чэрвеня 2013
Радыё Свабода

*«Прысуджэньне Сьвятлане Алексіевіч Прэміі міру нямецкіх кнігагандляроў сустрэта ў Беларусі халаднавата», — заўважае Інго Пэц у камэнтары ў газэце Frankfurter Allgemeine Zeitung, прысьвечаным рэакцыі на гэтую падзею ў Беларусі.*

З уручэньнем Прэміі міру нямецкіх кнігагандляроў пісьменьніцы Сьвятлане Алексіевіч, піша Інго Пэц, у цэнтар увагі трапляе краіна, да якой прылеплена этыкетка «апошняя дыктатура Эўропы»: Беларусь. Гісторыя гэтай постсавецкай краіны адзначана войнамі і катастрофамі. Здавалася б, навіна аб такой прэстыжнай прэміі мусіла выклікаць буру радасьці. Пра прысуджэньне прэміі паведамілі важныя незалежныя газэты і інтэрнэт-парталы краіны — нават дзяржаўныя мэдыі, якія традыцыйна мала цікавяцца творчасьцю Алексіевіч. 65-гадовая пісьменьніца ўжо шмат гадоў адкрыта пазыцыянуе сябе як апанэнт рэжыму прэзыдэнта Лукашэнкі.

Але дарэмна шукаць ў Беларусі — як і ў Расеі — ацэнак, аналізу творчасьці або радасных віншаваньняў, нічога няма нават у Фэйсбуку і на сайце незалежнага Саюзу пісьменьнікаў. Маўчыць і Беларускі ПЭН-Цэнтар. На пытаньне пра адсутнасьць рэакцыяў прэзыдэнт ПЭН-Цэнтру **Анд-**

**рэй Хадановіч** пытаецца ў адказ: «А што там за прэмія? У яе ўжо столькі гэтых прэміяў...»

Беларускае грамадзтва да сёньняшняга дня, нягледзячы на інтэрнэт і спадарожнікавую тэлевізію, застаецца ізаляванае і адчувае ўзьдзеяньне прапаганды. Літаратурная перакладчыца **Ірына Герасімовіч** спасылаецца на мэнталітэт, які, відаць, уласьцівы беларусам:

«Да моцных бакоў беларусаў не належыць тое, што яны ня хочуць бачыць далей за свой нос. Бо гэта б значыла, што трэба было б параўноўваць сябе з узроўнем іншых эўрапейскіх пісьменьнікаў, а гэта выклікае страх».

Журналіст **Алесь Кудрыцкі** лічыць, што Алексіевіч трапіла ў звыклую пастку эмігранта, бо яна доўгі час жыла за мяжою:

«Калі пісьменьнік выяжджае за мяжу, магчыма ён знаходзіць іншую аўдыторыю, але як тады быць з чытачамі на Бацькаўшчыне? На такіх людзей у нас глядзяць скептычна. Ім робяць закід, што яны вядуць прыемнае жыцьцё за мяжою, замест таго, каб працаваць дзеля свайго народу».

**Сяргей Шупа**, спэцыяліст па літаратуры ў беларускамоўнай службе Радыё Свабодная Эўропа, мае іншае тлумачэньне:

«Алексіевіч надзвычай цяжка паддаецца ідэнтыфікацыі. Яна грамадзянка Беларусі, піша па-расейску. Якая ў яе ідэнтычнасьць? Магчыма, постсавецкая».

Беларусь да сёньняшняга дня культурна расколата. Большыня гаворыць па-расейску, беларускую мову рэжым Лукашэнкі сьвядома маргі-

налізуе. Гэтак нэасавецкі прэзыдэнт змагаецца супраць нацыянальнай апазыцыі і ўзмацненьня заходняй арыентацыі, якія для шмат каго зь дзеячоў культуры сымбалізуе беларуская мова. Алексіевіч сказала ў інтэрвію для FAZ: «Так, я пішу толькі па-расейску і таксама лічу сябе прадстаўніцай расейскай культуры. Беларуская мова вельмі вясковая і літаратурна нявысьпелая». Радыё Свабода скарысталася гэтым адказам, каб спытацца, ці ня хоча гэтак Алексіевіч разьвітацца зь беларускай культурай. Неразважнае выказваньне пісьменьніцы магчыма яшчэ выкліча найбліжэйшымі днямі паток рэакцыяў, лічыць **Інго Пэц,** нямецкі журналіст, які спэцыялізуецца на беларускай тэматыцы.

## Журналістка FAZ кажа, што працытавала Алексіевіч дакладна

24 чэрвеня 2013
Радыё Свабода

*Журналістка нямецкага выданьня Frankfurter Allgemeine Zeitung Керстын Гольм пракамэнтавала для Радыё Свабода сытуацыю вакол інтэрвію Сьвятланы Алексіевіч з нагоды прысуджэньня пісьменьніцы прэстыжнай Прэміі міру нямецкіх кнігавыдаўцоў. Паводле* ***Сьвятланы Алексіевіч****, пададзеная у газэце цытата — «Беларуская мова вельмі вясковая і літаратурна нявысьпелая» — недакладная.*

У інтэрвію Радыё Свабода спадарыня **Алексіевіч** патлумачыла: «Я ніяк не магла сказаць тое, што напісана ў тэксьце інтэрвію. Гэта зусім не адпавядае маім перакананьням. Я заўсёды казала, што ў мяне дзьве маці — беларуская вёска, у якой я вырасла, і расейская культура, у якой я выхоўвалася. Як можна ад іх адмовіцца?

Беларуская мова для мяне — гэта і вясковыя краявіды, і вясковыя бабкі, сярод якіх я расла, празь беларускую мову я пазнавала сьвет жаночага голасу — я ніколі не лічыла і не лічу яе нейкай адсталай ці нясьпелай».

**Керстын Гольм** піша: «Цытаваная мною фармулёўка існуе даслоўна ў запісе інтэрвію. Пра «дзьвюх маці» і свае прыгожыя фармулёўкі наконт «праўды жаночага голасу» яна мне тады

аднак нічога не казала. Але гэта без сумневу таксама важна і таксама праўда. Таму я б успрымала гэтае высьвятленьне Сьвятланы Алексіевіч хутчэй за ўсё як тлумачэньне і дапаўненьне. Бо ж у інтэрвію людзі гавораць шмат пра што (занадта) коратка. Таму я хацела б яшчэ дадаць ад сябе: Сьвятлана Алексіевіч расказвала мне пра бібліятэкараў у Пінску і пра прыроду, якая дае ёй столькі надзеі, і мне здаецца ясным, што ўсё гэта мае дачыненьне да беларускай мовы. І яшчэ ад мяне: Расейская мова ў постсавецкай прасторы выконвае ролю lingua franca, як некалі лацінская ў Эўропе, на якой пішуць, калі хочуць, каб цябе пачулі ў сьвеце. Пра расейскія адпаведнікі словаў «bäuerlich» і «unausgereift»: У размове гэта гучала адпаведна як «крестьянский» і «несозревший».

## Код адсутнасьці Сьвятланы Алексіевіч

25 чэрвеня 2013
Севярын Квяткоўскі, Менск

Кася Камоцкая аднойчы распавяла:

Мяне дачка зарэгістравала на «Аднаклясьніках». І мяне адразу знайшоў былы вучань маёй школы — даўно жыве ў ЗША.

Кася зьдзівілася, калі ў лісьце прачытала, што «вельмі моцна паўплывала на лёс» свайго школьнага прыяцеля:

«Я цябе слухаў па радыё «101,2 FM», — пераказвала Кася, — апошні эфір перад закрыцьцём станцыі ў 1996. Блізка да самага фіналу загучала песьня «Людзі на балоце», і я раптам вырашыў — усё! Трэба зьяжджаць!»

**

Сьвятлану Алексіевіч на Захадзе ведаюць, а Касю Камоцкую — не. Як ня ведаюць аўтараў вершаў, якія выконваў Касін гурт «Новае Неба».

Філёзаф Валянцін Акудовіч — адзін зь вялікіх прыхільнікаў гурту. Ягоную кнігу «Код Адсутнасьці» таксама ня ведаюць у Заходняй Эўропе.

Што францускі ці нямецкі аматар інтэлектуальнай літаратуры мусіць перажыць, каб прачытаць ці паслухаць і прасякнуцца тэкстамі песень «Новага Неба» з назвамі «Людзі на балоце», «Мая краіна», «Падводнае гета», «Чаканьне Калядаў»?

Ці — не адарвацца ад тэкстаў Валянціна Акудовіча «Ідэя Адражэньня», «Мова (Знак бяды)», «Беларусь як прастора сакральнага», «Межы Айчыны і мовы»?

**

Сьвятлана Алексіевіч дае чытачу жах і несправядлівасьць у тых форме і маштабе, якіх ніколі не было ў Заходняй Эўропе.

Жах і несправядлівасьць Другой сусьветнай, якія ў большай або меншай ступені ведаюць у кожнай беларускай сям'і проста ад відавочцаў.

Жах і несправядлівасьць вайны ў Афганістане, пачутыя ад удзельнікаў падзеяў у дварах на лавачках, у калегаў па вучобе ці рабоце.

Жах і несправядлівасьць Чарнобылю, пра якія мы напачатку дазнаваліся з вуснаў у вусны, а пасьля шырока праз СМІ.

Жах і несправядлівасьць — як сталы фон жыцьця ў савецкай, а пасьля постсавецкай сыстэме.

Жах і несправядлівасьць, ад якіх зьехаў аднаклясьнік Касі Камоцкай, калі пабачыў, што пасьля кароткай перадышкі ўсё зноў вяртаецца на свае колы.

Той перадышкі, калі зьявіўся гурт «Новае Неба» сярод мноства творчых ініцыятываў.

Тых творцаў, якія працягваюць дзень за днём будаваць сваю прастору, дзе няма месца жаху і несправядлівасьці, а толькі — свабодзе і любові.

⁎⁎

Неяк я вандраваў у адной байдарцы з Валянцінам Акудовічам. Камандзе зь некалькіх чаўноў трэба было трапіць з возера Нарач у рэчку Нарачанку.

Уваход у раку быў шчыльна зарослы трысьнягом. Наша — першая — байда літаральна прасякала шлях наперад. Больш за гадзіну няспыннай працы. Так сталася, што найстарэйшы з усіх — Валянцін Акудовіч — зрабіў найбольшы кавалак работы.

Пазьней, калі стомлена-радасныя мы пацiху пачыналі ісьці па вольнай вадзе ракі, Валянцін стаўся самым апошнім. Па старой сваёй звычцы замыкаў ар’ергард, зрабіўшы на карме байдаркі падабенства трона з заплечніка і дыванка.

Я быў пасярэдзіне, а на носе кіравала тэоляг Ірына Дубянецкая. Задача першага ў байдзе — пільнаваць карчы, завалы ды іншыя небясьпечныя перашкоды на шляху вандроўнікаў. А галоўная рулявая цяга, якая дае магчымасьць максымальна хутка разьвярнуць човен, знаходзіцца ў вясьле капітана на карме.

⁎⁎

Менавіта Сьвятлана Алексіевіч, а не Валянцін Акудовіч — амбасадар Беларусі ў Заходняй Эўропе. Пісьменьніца-дакумэнталістка рэпрэзэнтуе позьнедысыдэнцкую савецкую думку.

Сьвятлана Алексіевіч ня толькі фізычна даўно адсутная ў Беларусі. Ад пачатку сваёй дзейнасьці і да сёньня яна мэнтальна жыве ў позьнім СССР, перажывае і пераасэнсоўвае людзей, якія і думаць ня думалі пра будаваньне чагосьці іншага, апроч уласнага жыцьця ў савецкай рэальнасьці. А на Захадзе пакуль ня бачаць прынцыповых цывілізацыйных зьменаў з боку большасьці былых савецкіх рэспублік.

Як можна пабачыць размовы беларускіх нацыянальных дысыдэнтаў пра новую меркаваную беларускую рэальнасьць на кухнях, у кавярнях, ці, напрыклад, падчас вандровак на байдарках?

Сп-ня Алексіевіч ня можа быць расейскай ці беларускай пісьменьніцай. Яна савецкая пісьменьніца, чыя творчасьць будзе актуальнай роўна столькі, колькі на тэрыторыі былога СССР будзе існаваць дысыдэнцкая інтэлектуальная апазыцыя (пост)савецкай сыстэме.

Гэта прыблізна да таго часу, калі кожны беларускі школьнік будзе ведаць верш «Мая краіна» і кнігу «Код Адсутнасьці».

**

Корч, корч! — закрычала Ірына Дубянецкая.

Так, — задуменна зацягваючыся цыгарэтай адказаў Валянцін Акудовіч. — Там наперадзе будзе яшчэ шмат карчоў.

## У Беларусі заблякаваны доступ да сайту Сьвятланы Алексіевіч

19 жніўня 2013
Іна Студзінская, Менск

*Ужо больш за 10 дзён сайт alexievich.info не адчыняецца ў Беларусі.*

Хостынг знаходзіцца ў Нямеччыне. Раней сайт у Беларусі быў даступны. У іншых краінах ён цяпер адчыняецца без праблем.

Сама пісьменьніца ведае пра гэта:

«Гэта доўжыцца ўжо больш за тыдзень. Спачатку я думала, што гэта проста часовыя тэхнічныя непаладкі. Потым даручыла чалавеку, адказнаму за сайт, правесьці такую тэхнічную праверку. У дзевяці краінах людзі адгукнуліся, што ўсё ў парадку. Такім чынам высьветлілася, што толькі ў Беларусі сайт заблякаваны. Дзякуй богу, што хоць ва ўсім сьвеце ён даступны.

Сайт дзьвюхмоўны, чыста літаратурны. Таму я не разумею, навошта гэта. Можа, мне хочуць проста дапячы напярэдадні ўручэньня прэміі. Гэта проста нейкае глупства».

Заснавальнік парталу tut.by **Юры Зісер** кажа:

«У мяне няма ніякіх ідэяў, я нават не ўяўляю, што гэта можа быць і каму гэта патрэбна».

Радыё Свабода правяла экспэрымэнт: наўпрост сайт недаступны, але праз проксі-сэрвэры адчыняецца. Пытаньне, ці ёсьць гэты сайт у сьпісах абмежаванага доступу, пакуль што адкрытае.

## Юлія Чарняўская пра Сьвятлану, сястру гастарбайтэра

4 кастрычніка 2013

*Нататкі пра кнігу Сьвятланы Алексіевіч «Час second-hand»*

Некалькі дзён таму ў Менск прыйшла кніга, якую беларусы чакалі ўжо даўно: «Час second-hand» Сьвятланы Алексіевіч. Чакалі рознага: хто — праўды пра час і сябе, хто — «паклёпу» на беларусаў, хто — крытыкі СССР, хто — апалёгіі «саўка». Гэтыя сацыяльныя экспэктацыі блукалі па прасторы байнэту — па форумах і сацыяльных сетках, выраджаючыся ў пякучае пытаньне: беларуская пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч ці не (расейская, «савецкая» — патрэбнае падкрэсьліць)? Вагі схіляліся да меркаваньня «савецкая».

Памятаю: пасьля выхаду яе першай кнігі «У вайны не жаночае аблічча» таксама казалі: ня наша. Толькі тады мелася на ўвазе — не савецкая. «Не такая» ў яе вайна. Няправільная, негераічная, занадта страшная. Няма станоўчых прыкладаў для падрастаючага пакаленьня. Цяпер сказалі б: няма пазытыву. Затое Быкаў і Адамовіч прызналі: наша.

Памятаю вэрхал, які ўзьняўся пасьля кнігі Алексіевіч «Цынкавыя хлопчыкі». Тады крычалі, што яна аплёўвае войска... І зноў яна была «ня наша». Заступіліся за яе пісьменьнікі-франтавікі:

Мікола Аўрамчык, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Аляксандар Дракахруст, Навум Кісьлік, Валянцін Тарас. Для іх яна была — свая.

Памятаю, пасьля падзеяў 19 сьнежня 2010 году Алексіевіч напісала адкрыты ліст прэзыдэнту. Што, яе хвалілі за сьмеласьць, дзякавалі за адкрытую спробу заступніцтва? Не, яе лаялі за фармулёўку «Паважаны спадар прэзыдэнт». Ну так, мы значна лепш разумеем фотажабу, крык, лаянку: у гэтым мы куды больш савецкія, чым Алексіевіч. А сутнасьць ліста засталася за кадрам.

Трыццаць гадоў на Бацькаўшчыне Сьвятлану Алексіевіч спрабуюць «на зуб», імкнучыся паставіць на ёй лэйбл, пячатку. Дык чыя яна, Сьвятлана Алексіевіч? Ці пачуем мы яе голас у гэтым шумным хоры?

Алексіевіч кажа: я савецкі чалавек. Яшчэ яна кажа: я пішу па-расейску, гэта мая родная мова, мне блізкая расейская літаратурная традыцыя. А яшчэ: я беларуска, я вырасла ў беларускай вёсцы, мае кнігі нарадзіліся з размоваў беларускіх сялянак — пра вайну, пра Сталіна, пра голад, пра гора... За гэтыя трыццаць гадоў яна стала сваёй для амэрыканцаў, швэдаў, немцаў, японцаў. Ідэнтычнасьць бывае падвойная, трайная — асабліва ў сучаснасьці, гэта — асновы этналёгіі. Але як з гэтым справіцца тым, хто прывык мераць простым крытэрам «наша — ня наша»?

Чытаючы кнігу, я ні разу не задумалася над тым, чый жа пісьменьнік Сьвятлана Алексіевіч. Як не задумваюся, чытаючы Кундэру або Сара-

магу. Вялікі пісьменьнік належыць сьвету. Святлана Алексіевіч — ня проста добры пісьменьнік: яна пісьменьнік вялікі.

Тыя, каго турбуе «этнічнае пачуцьцё» і палітычная плятформа аўтара, лёгка знойдуць у кнізе пацьверджаньне сваім спэкуляцыям. Там ёсьць усё — і «беларускасьць», і «расейскасьць», і «савецкасьць», і «антысавецкасьць». Яе герой — і дэмакрат, і сталініст, і лібэрал, і прыхільнік моцнай рукі — такая ўжо сьвядомасьць чалавека, якога захапіла хваляй гісторыі і выкінула на незнаёмы бераг — бераг іншых ідэй і каштоўнасьцяў, іншых стэрэатыпаў, іншых уяўленьняў. І вось ён стаіць, выплёўваючы салёную ваду, спрабуе адкашляцца — спалохана азіраецца, спрабуе будаваць свой маленькі дом з абломкаў ранейшых ілюзій і новых патрабаваньняў. Герой Алексіевіч — чалавек узрушаны. Яна кажа: я — гэта таксама ён. Можна пасьмяяцца зь яго, можна вывесьці яго за інтэлектуальныя дужкі, але за дужкі жыцьця — ня выйдзе.

Вось голас старога бальшавіка: паміраючы, ён хрыпіць пра рэвалюцыю, якой здрадзілі. А вось — Марыі Вайцяшонак, дачкі польскага афіцэра-асадніка — аб ссылцы на рудніку, пра гады жыцьця ў зямлянцы, аб страшным сіроцтве ў савецкім прытулку. Хто зь іх савецкі, хто не? Абое савецкія. Мы постфактум можам выбіраць, якая ідэнтычнасьць нас больш грэе, але нарадзіцца і вырасьці ў іншым месцы ўжо не атрымаецца. Таўро радзімы. Дык, можа быць, паспрабаваць зразумець: што з намі было, каго

з нас рабілі, кім мы сталі? Выкрасьліць — або ўсьвядоміць? Усьвядоміўшы — пераадолець.

Урэзалася ў памяць — баюся, назаўсёды: «Котку прынесьлі з-за зоны. У зоне катоў не было. Яны не выжывалі, таму што не заставалася ніякіх рэштак ежы, мы ўсё падбіралі. Елі нейкую траву, карэньчыкі, аблізвалі каменьчыкі. Нам вельмі хацелася пачаставаць чым-небудзь котку, але ў нас нічога не было, і мы кармілі яе сваёй сьлінай пасьля абеду і — яна ела. Яна ела!» І яшчэ — пра партызанаў. Яны ўзялі ў свой атрад уцекачоў з гета — габрэяў. Гэтыя партызаны гераічна змагаліся з ворагам, а ў вольны час гвалтавалі «жыдовачку» Розу. Роза зацяжарала — і яе застрэлілі. І тут жа, на суседніх старонках — пра дэманстрацыі, пра пірагі, якія бабуля пякла 7 лістапада, пра палкае жаданьне ўступіць у піянэры. Пра братэрства. Пра вялікі і цікавы культурны кантэкст: пра кнігі, якія рабіліся ня проста літаратурнымі падзеямі — часткай асабістага сьветапогляду. Аб добрых суседзях, якія былі ну проста як родныя... Перагорнеш старонку: і вось, арыштаваная маці просіць суседку выгадаваць дачку, і тая гадуе, сямнаццаць гадоў няньчыць, ратуе, беражэ дзіця, робіцца другой мамай — але менавіта яна напісала данос на сяброўку, пакваліўшыся на яе пакой.

Думалі, што зло — гэта Сталін, а зло — гэта прыгожая і вясёлая цётка Оля, якая «настукала» на роднага брата. Ён загінуў у лягеры. З гэтым як? Выкрасьлім? Або пакінем?

Перагорнем яшчэ некалькі старонак. «Мароз! У маёй жонкі лёгкае паліто, яна цяжарная. Грузім на станцыі вугаль, дровы, цягаем тачкамі. Незнаёмая дзяўчына пытаецца ў жонкі: «У цябе такое лёгкае паліто. А цяплейшага няма?» «Не». «Ведаеш, а ў мяне два. Было добрае сваё, і ад Чырвонага Крыжа атрымала новае. Ты скажы мне свой адрас, я вечарам прынясу». Увечары яна прынесла нам паліто, але не старое сваё паліто, а новае». Таксама выкрасьлім? Або пакінем? Ці падзелім напалам? Маўляў, тое, што дровы грузілі ў мароз — гэта савецкае. А што паліто новае прынесла (цікава, колькі гадоў у яе потым не было новага паліто — пяць, дзесяць?) — вось гэта чалавечае. А ці выйдзе падзяліць — зьлітае ў адно.

Такі ўжо ён, савецкі чалавек. І дзіця чужое выгадуе, і данос напіша. І кашулю апошнюю зь сябе здыме — і ў анус падсьледнаму ножку старога крэсла запхне.

Толькі вось думаю: а, можа, не савецкі? Можа, і не было яго, савецкага чалавека? «Культура — толькі тоненькая яблычная лупіна над распаленым хаосам» — гэта не Максім Горкі сказаў, гэта Ніцшэ. І ідэалёгія, і палітыка, і этыка — яблычная лупіна. І распалены хаос нашых страхаў і жаданьняў унутры. Чалавек — ён розны, у залежнасьці ад таго, што пераможа: не ва ўладзе пераможа — у яго асабістым выбары: тонкая лупіна або распалены хаос? І не таму, што ён савецкі. Таму што чалавек. «Не, шырокі чалавек, занадта нават шырокі, я б звузіў».

Савецкае ў кнізе — толькі падстава, ракурс.

Чаго патрабавала гэтая краіна? О,рознага — у розныя пэрыяды свайго існаваньня. Непасільнага. Подзьвігу, узьведзенага ў норму. Прыніжэньня, узьведзенага ў яе ж. Як быццам усе мы — шараговыя штрафбату. Але важнейшае іншае: як гэтыя патрабаваньні адбіваліся на чалавечай прыродзе? Чым адгукаліся? Адны кажуць: я толькі выконваў загад. Іншыя бяруць адказнасьць за ўсё — і спрабуюць выскачыць зь сябе, стаць лепшымі, лепшымі. Задыхаюцца, згараюць — але ад іх ідзе нешта накшталт цёплай хвалі. Распаўсюджваецца. Кранае кагосьці хоць краёчкам. Трэція крычаць: вялікую дзяржаву развалілі, сукі... Чацьвёртыя: гэта краіна вінаватая, вось будзе ў нас дэмакратыя... А ў маладых у галовах усё гэта намяшана — перамяшана.

Што лепш — мучыцца віной велізарнай краіны, якая яшчэ шуміць у вушах — як сваёю, асабістай віной? Адчуваць віну за тое, што не зрабіў? Зь якой нагоды?

Ці выкрасьліць гэтую краіну-віну з падручнікаў — і са сьвядомасьці? Паверыць, што яна ніколі і не была тваёй? Замяніць больш прывабным вобразам: лякіраваным СССР, дзе ўсе былі браты і сёстры, ліцьвінскім праектам, эўрапейскім мінулым? А куды падзець жыцьцё дзядоў і бабуль, татаў і мам, плоць ад плоці, кроў ад крыві? Таксама выкрасьліць — як выдаткі? Ці пакінуць цалкам для «хатняга ўжываньня», сказаўшы сабе: вось «увойдзем у Эўропу», і ў нас такое будзе немагчыма апрыёры. А як жа зь немцамі, якія жылі ў самой, што ні на ёсьць, «эўрапейскай Эўропе»? З

італьянцамі пры Мусаліні? Таксама выкрасьліць? Ці ня шмат што мы выкрэсьліваем, спадарства? Ці не сябе саміх?

Яшчэ дзьве, тры старонкі...

...Забівалі за ўсё ... ня там нарадзіўся, не на той мове размаўляеш. Не спадабаўся камусьці з аўтаматам... А да таго як мы жылі? У сьвяты першы тост у нас быў «за сяброўства»... Жылі разам...»

Скажаце, гэта хлусьня, дзяржаўная ідэалёгія? Не паверу. Лёзунгі «За савецкі інтэрнацыяналізм» — вось гэта дзяржаўная ідэалёгія. Прамовы Брэжнева. Палітінфармацыі ў школе. А тосты за сяброўскім сталом — не. Як і той факт, што праз ь некалькі тыдняў малыя дзеці гэтых сяброў білі ножыкам пудзіла. «Хто гэта?» — «Гэта армянская старая. Мы яе забіваем. Цётка Рыта, а хто ты? Чаму ў цябе рускае імя?» Шырокі чалавек...

Кніга Алексіевіч — акт пакаяньня. Просьба да нас — не, не аб пакаяньні, гэта асабістая справа кожнага. Аб пытаньні да самога сябе. Бо пытаньне да сябе — самае страшнае пытаньне. Але калі не задавацца гэтымі жудаснымі пытаньнямі — хто гарантуе нам, што на новым вітку сьпіралі яны зноў ня вернуцца да нас: і зноў у форме выбару паміж жыцьцём і сьмерцю, здрадай або гібельлю? А мы будзем не гатовыя. Не таму, што ў нас не было Нюрнбэрскага працэсу над камуністамі — таму, што ў нас не было Нюрнбэрскага працэсу над сабой.

Для сябе ў нас заўсёды знойдзецца апраўданьне: Ленін, Сталін, Брэжнеў. А гэта ня Сталін. Гэта прыгожая цётка Оля.

Вось з чаго ствараласся тканка таго самага жахлівага СССР. Тканка большай часткі постсавецкіх краін — з таго самага. Плюс «недаразьвіты капіталізм», маскульт, інтэрнэт, нязграбна-глямурны папулізм у палітыцы... патрэбнае падкрэсьліць, адсутнае дадаць. Пярэстая сумесь. Вось таму і «час second-hand».

Алексіевіч не асуджае. Просіць: задумайцеся. Пачніце зь сябе. Як зрабіла сама.

Што ж, калі зь сябе... У мяне няма тугі па «вялікай дзяржаве», але я ведаю, што нарадзілася ў СССР. Так было запісана ў маім пашпарце і напісана ў маім буквары. Гэта — зусім ня ордэн, хутчэй, стыгма, але яе не адменіш. Радзіма — тое, дзе табе выпала нарадзіцца і вырасьці. Яе можна любіць або ненавідзець, або і адно і другое аднaчасна, але постфактум падмяніць месца нараджэньня нельга. Толькі — схлусіўшы. І таму Алексіевіч — мой пісьменьнік, а яе героі — часткі майго «я»: стары салдат-самагубца і юны паэт-самагубца, маскоўская дзяўчынка, якая трапіла ў тэракт у мэтро, і менская дзяўчынка, якая трапіла ў турму; армянка, якая выйшла замуж за азербайджанца; і малады таджыцкі гастарбайтэр, які жыве ў склепе.

«А ты ведаеш, што ў нас была вялікая вайна?... Кожны дзень я бачыў па два-тры трупы. Мама ў школу не пусьціла. Я сядзеў дома і чытаў Хаяма.

У нас усе чытаюць Хаяма. А ты яго ведаеш? Калі ведаеш, то ты мне сястра».

Скончу некалькімі фразамі зь ліста Алексіевіч прэзыдэнту. Ліста, ўжо забытага намі — бо 2010 год таксама сыходзіць з нашай сьвядомасьці: занадта мы занятыя аддзяленьнем ягнят ад козьлішчаў і развагамі на тэму, хто «свой», а хто «чужы».

Вы верыце ў сілу, я веру — у слова. Баюся, што ў гэтай узаемнай нянавісьці мы можам страціць тое, што большае за ўсіх нас — Беларусь. У гісторыі застаюцца не героі «зачыстак», а тыя, хто мудры і велікадушны».

Ці пачуем?

## Алексіевіч атрымала прэмію міру ад нямецкіх кнігавыдаўцоў

Радыё Свабода
13 кастрычніка 2013

*Пісьменьніцы Сьвятлане Алексіевіч уручаная прэстыжная Прэмія міру Саюзу нямецкага кнігагандлю. Цырымонія ўручэньня адбылася ў царкве сьвятога Паўла ў Франкфурце-на-Майне.*

Прэмія ўручалася падчас адмысловай цырымоніі ў прысутнасьці 1000 чалавек і старшыні нямецкага бундэстагу Норбэрта Лямэрта.

Прэмія міру Саюзу нямецкага кнігагандлю была заснаваная ў 1950 годзе і сёньня складае 25 тысяч эўра. Ёй ганаруюць пісьменьнікаў, мастакоў, навукоўцаў і грамадзкіх дзеячоў, якія зрабілі ўнёсак ва ўмацаваньне міру, перш за ўсё сваёй дзейнасьцю ў галіне мастацтва і навукі.

У лік ляўрэатаў узнагароды мінулых гадоў уваходзяць такія выбітныя асобы, як лекар і філёзаф-гуманіст Альбэрт Швэйцэр, пісьменьнік і мастак Герман Гесэ, філёзаф і псыхоляг Карл Яспэрс, дзіцячая пісьменьніца Астрыд Ліндгрэн, літаратуразнаўца і дысыдэнт Леў Копелеў, драматург і палітык Вацлаў Гавэл, а таксама празаік Архан Памук.

## Пра беднага Джойса, аўтара «Дзеяслова»

25 кастрычніка 2013
Аляксандар Лукашук, Прага

*Фрагмэнт агляду часопісу «Дзеяслоў»*

Да Прагі апошні, 65-ты нумар «Дзеяслова» дайшоў ужо пасьля Нобэлеўскіх жарсьцяў — а ў Менску ён зьявіўся раней, і адкрывала нумар Сьвятлана Алексіевіч,«Час second-hand» у перакладзе на беларускую Валера Стралко.

Гэтая публікацыя, бязьлітасная як прамы ўдар у скіўцу на пачатку першага раўнду — магчыма, самае моцнае рэдактарскае рашэньне і ўдача ў найноўшай гісторыі беларускіх часопісаў. Своечасова, да месца, на піку ўсясьветнага літаратурнага году. Здымаю капялюш, як кажа адзін мой сябар, перад Барысам Пятровічам.

Але надвор'е — рэч пераменлівая, таму пра «Second-hand» скажу ў галаўным уборы — чытаць Алексіевіч цікава, але немагчыма. Можна толькі цытаваць.

Наўгад:

«Я нарадзіўся ў СССР, і мне там падабалася».

«Гарбачоў — сакрэтны амэрыканскі агент... Масон... Здрадзіў камунізму».

«Тэлевізар у нас дома не выключаўся... Праграму «Новости» глядзелі кожную гадзіну».

І так — кілямэтрамі. Па-мойму, мы назіраем поўную перамогу матэрыялу над аўтарам. Алек-

сіевіч паверыла Алесю Адамовічу, які быў чалавекам вясёлым, яго заносіла ў розныя бліскучыя прорвы, і там ён, каб адчапіліся канваіры, якіх нэрвавалі яго крокі ўлева-ўправа- ўцёкі, прыдумаў «звышлітаратуру». Уся справа, вучыў падступны Алесь, у тэхніцы: вось Дастаеўскаму спатрэбіўся досьвед сьмяротнага прысуду і катаргі, каб дабрацца да бездані чалавечай шляхам «глыбіннага бурэньня», «сілай таленту прабіцца да такога матэрыялу». А сучасны літаратар мае «коўш», як Адамовіч называе магнітафон, і адкрытым спосабам, не раўнуючы ротарны экскаватар, перамолвае тоны чалавечай руды.

Гэты артыкул Адамовіча, дзе ён пісаў пра пісьменьніка як пра кіроўцу землярыйнай машыны (прысьвечаны, дарэчы, якраз Сьвятлане Алексіевіч), называўся як інструкцыя («Як быць геніяльным») і нагадваў стары анэкдот:

Адна зьбяднелая арыстакратка паехала ў Нью-Ёрк і вярнулася адтуль у вельмі дарагім футры. На пытаньне пакаёўкі адказала, што сустрэла аднаго джэнтэльмэна. Пакаёўка таксама паехала ў Нью-Ёрк і вярнулася ў такім самым футры. На пытаньне зьдзіўленай гаспадыні патлумачыла, што проста ёй давялося сустрэцца зь пяцьцюдзесяцьцю джэнтэльмэнамі.

«Second-hand» мог бы напісаць, напрыклад, Джэймс Джойс, калі б працаваў на экскаватары. Ці гандляваў футрамі.

# «Слава Богу, што людзі хочуць гаварыць па-беларуску»

23 лістапада 2013
Ян Максімюк, Прага

## Ліставаньне з прэзыдэнтамі

**Максімюк**: На пачатку прыміце мае віншаваньні з нагоды прэміі Мэдычы, якую днямі далі Вам у Францыі за кнігу «Час second-hand». І ў сувязі з гэтым маё першае пытаньне. Яно можа Вам падацца досыць рытарычным, але я ўсё ж пастаўлю яго. Можаце адказваць, можаце не. Гэта прыемна — атрымліваць літаратурныя прэміі за мяжою?

**Алексіевіч**: Сапраўды, дзіўнае пытаньне. Вядома, гэта заўсёды радасна, таму што прэмія сьведчыць аб тым, што твая праца знаходзіць водгук і што цябе разумеюць, цябе чытаюць. Для пісьменьніка гэта, безумоўна, добрыя хвіліны.

Хацелася б, каб і на бацькаўшчыне было нешта такое — ня ў тым сэнсе, што я хачу прэміі — а каб былі такія адносіны да пісьменьніка, як за мяжою.

Напрыклад, я атрымала ліст ад прэзыдэнта Нямеччыны, якога тады, калі мне ўручалі Прэмію міру нямецкіх кнігавыдаўцоў у кастрычніку, не было ў Нямеччыне. Ён піша, што шкадуе аб гэтым, але хоча са мной сустрэцца. І ён кажа: я ведаю, што вы будзеце яшчэ ў сьнежні, вось давайце і сустрэнемся. Вы разумееце, які там узровень

адносінаў да пісьменьніка, да тэмаў, якімі мы займаемся? Гэта радасна і сумна адначасова.

**Максімюк**: А ці атрымалі Вы калі-небудзь нейкую літаратурную прэмію ў Беларусі?

**Алексіевіч**: Не, у Беларусі ў мяне не было ніводнай прэміі. Расейскія прэміі былі, вялікія і малыя — напрыклад, вельмі вялікая прэмія «Трыюмф». Беларускіх не было ніколі.

**Максімюк**: Вы згадалі ліст ад прэзыдэнта Нямеччыны. А вось Вы калісьці напісалі ліст беларускаму прэзыдэнту. Ён Вам адказаў?

**Алексіевіч**: Ведаеце... Гэта Кацярына ІІ адказвала сваім пісьменьнікам, перапісвалася з Вальтэрам... На жаль, наш прэзыдэнт ня лічыць патрэбным кантактаваць зь пісьменьнікамі.

**Максімюк**: У Вас да яго прэтэнзія ці, можа, Вы спадзяваліся на адсутнасьць рэакцыі на Ваш ліст зь яго боку?

**Алексіевіч**: Не, справа не ў прэтэнзіі. Я проста хачу сказаць, што заўсёды сумна ўсьведамляць сабе, у якім часе мы жывем і якія ў нас адносіны палітычнай эліты з гуманітарнай ды наогул між людзьмі. Вельмі сумна якраз ад таго, што ў нашым грамадзтве няма дыялёгу, што ў нас нейкі камандны стыль ва ўсім. Ну і зразумела, што дыктатура ці любая форма аўтарытарнай улады робіць наша жыцьцё вельмі прымітыўным. Уся піраміда сходзіцца недзе зьверху на адным чалавеку. Гэта як у партызанскім атрадзе — усё залежыць ад таго, што гэта за чалавек, ад узроўню яго адукацыі, ад узроўню яго разуменьня жыцьця. Нешта такое адбываецца і ў нас.

## Час расчараваньня

**Максімюк**: А як бы Вы параўналі стаўленьне ўлады да пісьменьніка цяпер і, скажам, 25 гадоў таму, калі яшчэ існавала савецкая сыстэма?

**Алексіевіч**: Я павінна прызнаць, што ў савецкую эпоху — як ні дзіўна гэта будзе гучаць — мы жылі ў больш эўрапейскім часе. Таму што існавалі нейкія стандарты. Падпадаў Брэжнеў або Машэраў пад гэтыя стандарты ці не — але гэтыя стандарты існавалі. І быў акрэсьлены ўзровень патрабаваньняў да эліты. Я тут не кажу пра савецкую літаратуру, але ўсё ж размова тады ішла пра «чалавека на выраст». А цяпер людзей пакінулі самім сабе, цяпер няма ніякіх аб'яднальных ідэй, акрамя таго, каб выжыць. Трэба прызнаць, што грамадзтва дэградуе. Адзінае, на што можна паспадзявацца, дык на жывую сілу ў людзях. Яны ўсё ж езьдзяць з тымі клятчастымі сумкамі па ўсім сьвеце ўжо 20 гадоў, яны бачаць, як жывуць іншыя, яны чамусьці вучацца. У кожным разе, калі зойдзеш у дом нават сярэдне заможнага чалавека, дык убачыш, што ўжо няма тых катухоў і маленькіх пакойчыкаў, а ёсьць вялікая вітальня, якую ён бачыў у Польшчы або Чэхіі. Гэта ўжо крыху іншае жыцьцё. Іншыя кветкі растуць у агародчыку. То бок само жыцьцё неяк рухаецца. І надзея толькі на гэта. А грамадзтва, у прынцыпе, рассыпалася.

**Максімюк**: Дык вось я хачу запытацца ў Вас пра сучаснае жыцьцё і грамадзтва. Я толькі што прачытаў Ваш «Час second-hand». У гэтай кніжцы

расчараваньне жыцьцём у вашых герояў, якое наступіла пасьля падзеньня камунізму, калі можна так сказаць, заглушае ўсе іншыя эмоцыі. Французская перакладчыца Вашай кнігі якраз слова «расчараваньне» вынесла ў загаловак французскага выданьня, якое называецца «Канец чырвонага чалавека, або Час расчараваньня». З чым у першую чаргу зьвязанае гэтае расчараваньне — толькі з тым, што 25 гадоў таму вашы героі былі маладыя, а маладосьць — яна і ў таталітарнай сыстэме маладосьць, то бок найлепшы час у жыцьці чалавека? Ці, можа, ёсьць іншыя, менш асабістыя прычыны для гэтага татальнага расчараваньня жыцьцём у часе, які вы называеце «second-hand»?

**Алексіевіч**: Я думаю, што зводзіць усё да біялёгіі — гэта занадта спрошчаны погляд на людзей і на час, у якім мы апынуліся. Калі прыйшоў гарбачоўскі час, усе людзі рванулі — яны рванулі да нейкага справядлівага, сумленнага жыцьця. Гэта была, безумоўна, ілюзія. Мы тады былі наіўныя, праўда? І тое, што атрымалася, нікому не падабаецца — тое, як усё падзелена; тое, хто сёньня пры ўладзе; тое, якая цяпер улада; тое, што калі ў цябе ёсьць грошы, дык ты чалавек; а калі няма грошай, дык пайшоў ты пад стол і маўчы... Калі ў цябе ёсьць грошы, ты можаш жыць у запаведным лесе і ставіць сваё жытло, дзе толькі захочаш... А калі ты прыбліжаны да галоўнага, дык ты ўвогуле можаш рабіць што заўгодна. І, вядома, ёсьць расчараваньне ўсім, што, як кажуць, атрымалася яшчэ горшым, чым было. Не заўсёды можна з гэ-

тым пагадзіцца, але людзям не падабаецца сёньняшняе жыцьцё. Ну, ня несьлі ж яны плякаты ў 90-тыя гады з падтрымкай Абрамовіча або з надпісам «Лукашэнку да ўлады». Ніхто ж гэтага не хацеў. Вось з чым зьвязана расчараваньне. Пры чым тут маладосьць? Маладосьць — гэта цалкам асобная рэч. А рэч у тым, што ў нас зноў атрымалася ня тое, чаго мы хацелі. Нельга нікога акрамя сябе вінаваціць у гэтым. Мы не былі да гэтага падрыхтаваныя, ні эліта, ні народ, якога мы, праўду кажучы, ня ведалі. Мы сядзелі на кухні і прыдумвалі сабе нешта. Так што вось аб чым людзі шкадуюць — аб тым, што ты сёньня яшчэ болей ніхто, чым пры савецкай уладзе. І гэта праўда.

Я, напрыклад, нядаўна езьдзіла па вёсках, была ў сям'і выдатных настаўнікаў, у якіх выдатныя дзеці. І яны ня могуць вучыць гэтых дзяўчатак. А ў савецкі час мае бацькі, настаўнікі, вывучылі траіх дзяцей, траім дзецям далі вышэйшую адукацыю. Сёньня гэта ўжо немагчыма.

## Пісьменьніцкая доля

**Максімюк**: У сувязі з гэтым я хачу Вам паставіць больш асабістае пытаньне. Вас, Сьвятлану Алексіевіч, найбольш вядомую ў сьвеце пісьменьніцу зь Беларусі, жыцьцё ў цяперашнім часе таксама расчаравала? Калі так, дык чым?

**Алексіевіч**: Безумоўна, мяне расчаравала тое, што атрымалася — як і ўсіх нас. Я думаю, што ўсе, хто жыве непасрэдна тут, нейкага зачарава-

ньня і надзеі на «эфэкт травы», то бок на тое, што вырастуць новыя пакаленьні, ня маюць. Новыя пакаленьні растуць, але яны даволі сэрвільныя. І гэта мне нейкага вялікага аптымізму не дадае.

А як пісьменьнік я адчуваю сябе чалавекам, які рабіў бы сваю справу пры любым рэжыме — і пры савецкай уладзе, і цяпер. Значыць, на маё прыватнае жыцьцё гэта ніяк не магло паўплываць.

**Максімюк**: Скажыце, а як цяпер зьмянілася грамадзкае стаўленьне да пісьменьніка? Я калісьці размаўляў на гэтую тэму зь вядомым чэскім пісьменьнікам і дысыдэнтам, Іванам Клімам, і ён тады ці то паўжартам, ці то паўсур'ёзна сказаў нешта накшталт: У таталітарную эпоху, калі я быў пісьменьнікам, якога афіцыйна не публікавалі, а мае рэчы выходзілі самвыдатам, людзі потайкам падыходзілі да мяне на вуліцы і, аглядаючыся па баках, паціху дзяліліся ўражаньнямі ад маёй апошняй кніжкі. Тады, казаў Кліма, я быў для грамадзтва нейкай пэрсонай. Цяпер, калі ўжо няма камунізму, на мяне і сабака не забрэша... Ці Вы таксама адчуваеце, што нешта ў гэтым сэнсе зьмянілася?

**Алексіевіч**: Па-мойму, можна казаць пра нешта падобнае. Аўтарытэт пісьменьнікаў у грамадзтве быў зьведзены да нуля. Гэта выглядае крыху іначай у Расеі, крыху іначай у нас. Мы для ўлады ўжо не ўяўляем нейкага сур'ёзнага супраціву. Калі ўлада і баіцца нас, дык па інэрцыі... А насамрэч, калі я гавару зь людзьмі, якіх сустракаю на вуліцы ці ў кавярні і якія мяне пазнаюць, дык выяўляецца, што людзі практычна нічога

ня ведаюць пра беларускую літаратуру. Толькі зрэдку можна знайсьці такога патрыятычна настроенага, нацыянальна арыентаванага чалавека, які можа пра яе нешта сказаць. Але гэта вельмі рэдка. А так — людзі занятыя зусім іншым... Вось сёньня, як казаў мне адзін таксіст, у якога дзьве дзяўчынкі, я зарабляю на куртачкі для іх, у наступным месяцы я павінен зарабіць ім на абутак, а потым куды-небудзь іх паслаць, даць адукацыю... Як добра сказаў адзін з расейскіх сацыёлягаў, наш сьвет населены людзьмі, якія «спрабуюць». Калі ў 1990-х прыйшла свабода, яны ня кінуліся чытаць Салжаніцына, асэнсоўваць, што адбылося, слухаць і чытаць беларускіх нацыянальных лідэраў, якія змагаліся ў свой час за Беларусь... Яны сталі «спрабаваць», езьдзіць, глядзець на сьвет. То бок іх зацікаўленасьць стала вельмі моцна матэрыяльнай. І нам абсалютна ня варта перабольшваць сваю ролю.

## Што такое Эўропа?

**Максімюк**: Ну і Вы таксама сталі езьдзіць. Вы сталі бываць у Эўропе, жылі там даўжэйшы час. Скажыце, як Вам тамтэйшае эўрапейскае жыцьцё? Чым яно Вас уразіла і ў які бок — станоўчы ці адмоўны?

**Алексіевіч**: Я пражыла ў Эўропе 12 гадоў, у найбольш разьвітых эўрапейскіх краінах: Нямеччыне, Францыі, Італіі, Швэцыі. Мне спадабалася тое жыцьцё, хоць у ім ёсьць і свае страты, і свае тупікі... Але ў ім ёсьць нейкі такі мэханізм, у якім

розныя групы людзей знаходзяцца ў дыялёгу. Гэта ўжо адладжаны мэханізм, і ён існуе на ўсіх узроўнях. Там нікому нельга зьняважыць міністра, як гэта робіцца ў нас. Няхай бы Мэркель паспрабавала каго-небудзь так зьняважыць. Назаўтра на вуліцу выйшлі б мільёны людзей. Вось гэта і ёсьць Эўропа. Эўропа — гэта ня «аўдзі» і не якая-небудзь шмотка, а вось гэта, пра што я сказала. А калі ў нас людзі сядзяць у турме — я пра гэта ня раз пыталася ў дзясяткаў людзей — дык мне адказвалі: ну вось, дурні, палезьлі і атрымалі. То бок ніхто на вуліцы ня выйшаў. Выйшлі сотні, ня болей за гэта... Пра якую Эўропу тут можна весьці гутарку? А там гэты мэханізм адладжаны. Там ёсьць пачуцьцё чалавечай годнасьці, якога ў нас не знайсьці днём з агнём, ні зьверху, ні зьнізу. Вось гэта самае моцнае эўрапейскае ўражаньне.

**Максімюк**: Калі я Вас зразумеў, жыцьцё ў Беларусі адрозьніваецца ад эўрапейскага перш за ўсё ўзроўнем грамадзкай салідарнасьці і павагі да чалавека як да асобы. Ёсьць яшчэ іншыя адрозьненьні?

**Алексіевіч**: Нядаўна мяне моцна зьдзівіў адзін беларускі пісьменьнік, які раптам задаў француcкаму прэс-аташэ па культуры пытаньне: праўда, што беларусы эўрапейцы, у адрозьненьне ад расейцаў? Уяўляеце, да якой ступені мы захварэлі, калі мы ўсё гэта разумеем на такім узроўні?

Я хачу сказаць, што Эўропа — гэта не геаграфічнае паняцьце, а мэнтальнае. Маё жыцьцё ў Эўропе мяне цалкам упэўніла ў тым, што нас проста немагчыма супаставіць з галяндцамі

або французамі па самаадчуваньні. Там чалавек проста не дазволіць абыходзіцца з сабою так, як у нас. Там чалавек ня будзе галасаваць за чалавека, якога не паважае. Там працуе грамадзтва, працуе калектыў. Калі трэба паставіць нейкі помнік у горадзе, дык гарадзкая грамадзкасьць абмяркоўвае гэта два гады. А ў нас прыйшоў і сказаў — будзе там. А чаму будзе? А хто гэта вырашыў? Дзе вучоныя, дзе архітэктары? Вось у чым эўрапейскае жыцьцё. Яно — ва ўсіх дробязях, яно і ў тым, як людзі раніцай выносяць сьмецьце, рассартоўваючы яго ў тры або чатыры кантэйнэры. Эўропа — гэта выкананая велізарная праца, і то не адным пакаленьнем. Я думаю, што размовы нашых маладых людзей пра Эўропу сьведчаць толькі пра тое, што яны ўяўляюць сабе Эўропу на ўзроўні мітаў. І Эўропу, і сваё месца ў ёй.

Я не магу ўявіць сабе, каб у нас пры такой колькасьці дзяцей з анкалягічнымі захворваньнямі не было таварыства мацярок у абарону гэтых дзяцей. У нас няма проціатамнага руху, няма моцнага экалягічнага руху, у нас няма сапраўднага валянтэрства. З гэтага тчэцца арганізм чалавечага жыцьця ў Эўропе. У нас нічога падобнага няма. А ёсьць нейкія мары маладых людзей за келіхам віна ў кавярні...

**Максімюк**: Гэта прагучала даволі пэсымістычна. Вы ня бачыце зрухаў у постсавецкім грамадзтве да такога разуменьня грамадзкага жыцьця, да якога дайшлі высокаразьвітыя грамадзтвы ў Эўропе?

**Алексіевіч**: У Беларусі я гэтага ня бачу. У Расеі я нешта такое бачыла, калі там былі пажары і калі валянтэры дапамагалі людзям... Праўда, у нас такое таксама здаралася некалькі разоў. Калі я зьбірала матэрыял для новай кнігі для аповеду пра маладых, якія сядзелі ў турме на Акрэсьціна, тады я гэта бачыла, калі маладым везьлі і грошы, і рэчы... На гэта бязь сьлёз нельга было глядзець...

**Максімюк**: Дык, можа, адказ на пытаньне пра рух Беларусі да Эўропы якраз і хаваецца ў маладых — трэба адно, другое, трэцяе пакаленьне, каб грамадзтва зьмянілася?

**Алексіевіч**: Ведаеце, я ня думаю, што справа тут толькі ў пакаленьнях. Маё пакаленьне шасьцідзесяцігадовых непатрэбнае, яно кудысьці адышло, сьцерлася... Пасьля таго, як я вярнулася з Эўропы, мяне ўвесь час хвалюе адно пытаньне: дзе нашы людзі? Калі я выяжджала, мне здавалася, што нас было вельмі шмат. А цяпер — нікога няма. Маё пакаленьне сышло са сцэны, сышло з адчуваньнем паразы. Я думаю, маё пакаленьне магло яшчэ шмат чаго зрабіць. Але, безумоўна, Вы тут маеце рацыю. Толькі час і, магчыма, тэхніка — смартфоны, якія хутка будуць разумнейшыя за нас — працуюць на свабоду.

## Пытаньне не даспадобы

**Максімюк**: Вы заўсёды моцна падкрэсьліваеце сваё ўкараненьне ў расейскай культуры. З другога боку, Вы жывяце ў Беларусі і не адмаўляецеся ад беларускай ідэнтычнасьці. Таму наступнае пытаньне да Вас я кірую як да экспэрта ў беларуска-расейскіх дачыненьнях. Скажыце, чым па-Вашаму адрозьніваецца беларускі і расейскі мэнталітэт, склад думкі, характар, сьветапогляд, ці як гэта яшчэ назваць? Чым беларус адрозьніваецца ад расейца, калі наогул?

**Алексіевіч**: Ведаеце, такая пастаноўка пытаньня, мне, шчыра кажучы, не падабаецца. Вось можаце сабе ўявіць пытаньне — чым мы адрозьніваемся ад французаў або ад італьянцаў? У галаву ж ня прыйдзе. А ў нас яшчэ цяпер вельмі балючы момант гістарычных крыўдаў і вельмі складаных адносін з Расеяй... Я ня ведаю. Я не магу гаварыць агулам пра Расею, або агулам пра Беларусь. Я магу гаварыць пра людзей. І ў Расеі, і ў Беларусі я знаходжу вельмі шмат людзей, якія блізкія мне па духу. Я зь імі блізка, як і з тымі эўрапейцамі, зь якімі пасябравала ў Эўропе. Але часам ты адчуваеш сябе так, як той турэцкі пісьменьнік, які аднойчы сказаў: у Эўропе я адчуваю сябе лепш, чым дома, таму што дома — я чужы. Я там як бы чалавек іншай арыентацыі, як бы не зусім турак. Так што такія паняцьці як сапраўдны расеец, сапраўдны беларус — мне не падабаюцца ні расейскія патрыёты, ні такія занадта ўжо «выпечаныя» беларусы. Мне здаецца,

што трэба навучыцца ўсім разам жыць і браць адзін у аднаго з культуры тое, што можна ўзяць. А вось такая жорсткая пастаноўка пытаньня мне неяк не падабаецца...

**Максімюк**: А да якой канкрэтна расейскай культуры Вы сябе залічваеце? Таксама да культуры, у якой выступае і расейскі імпэрскі дыскурс, які такія «ўскраіны» як Беларусь і Ўкраіну лічыць неадʼемнай часткай шырэйшага «рускага сьвету»?

**Алексіевіч**: Вы ж самі ведаеце адказ на гэтае пытаньне. Як нармальны інтэлектуал, я, зразумела, не магу аднесьці сябе да імпэрскага дыскурсу. Таму што для нармальнага гуманітарыя гэта абсалютна агідная рэч. Я гэта не магу падтрымліваць. То бок я падтрымліваю гуманітарны дыскурс, тое, дзе чалавек падобны на чалавека, і дзе чалавек з чалавекам сыходзяцца. Я магу да гэтага паставіцца толькі так. А вось да гэтых часовых пастановак пытаньняў — да гэтых дзіцячых захворваньняў — я, зразумела, не магу па- сурʼёзнаму паставіцца... Я ж не падтрымліваю ні расейскіх патрыётаў ці расейскіх фашыстаў, або Пуціна зь нейкімі ягонымі гульнямі з Украінай і Беларусьсю. Вы ж самі як нармальны інтэлектуал ведаеце адказ на гэта...

## Чаму гэтая размова магла і не адбыцца?

**Максімюк**: Я ведаю адказ, але я проста хацеў бы, каб у нашай размове прагучалі адказы і на зусім відавочныя пытаньні...

**Алексіевіч**: Калі Вы чыталі мае кнігі, дык Вы ведаеце, што там зусім іншае стаўленьне. Я стаўлюся да гэтага сьвету як гуманітарый...

**Максімюк**: А я стаўлю такія відавочныя пытаньні якраз таму, што ведаю, якія камэнтары ў Беларусі зьбіраюць Вашы інтэрвію... Людзі цяпер, калі можна так сказаць, чапляюцца за кожнае ваша слова...

**Алексіевіч**: Ну дык вось чаму мне і ня вельмі хацелася з Вамі размаўляць. Не таму, што я дрэнна стаўлюся да Радыё Свабода, хоць яно ўжо крыху стала такім гета — туды ходзяць асаблівыя людзі, асаблівы адбор такіх агрэсіўных людзей... А таму, што я ведаю, што ўсё роўна нешта знойдуць... Наша культура і наш час — настолькі табуіраваныя, што замест сур'ёзнага аналізу, абмеркаваньня, цьвярозага стаўленьня да сябе і сапраўды сур'ёзных размоваў, якія маглі б адбывацца хоць бы ў нашым коле — зараз зноў пачнецца гутарка пра тое, што яна не гаворыць па-беларуску і што яна ня вельмі любіць беларусаў. Рэч ня ў тым, люблю я беларусаў або не. Я хачу, каб мы думалі. Час цяпер вельмі складаны. Ад таго, што мы тут адзін аднаго б'ём па галаве, да ўлады прыходзяць зусім іншыя людзі, і наша Беларусь засталася тры кілямэтры ззаду замест таго, каб выкарыстаць тыя шанцы, якія былі ў яе ў пачатку перабудовы. І мы, менавіта з-за такой агрэсіўнасьці часткі нашага грамадзтва, страцілі той час і тую магчымасьць.

**Максімюк**: Я не магу Вам абяцаць, што рэакцыя на гэтую нашу размову будзе неагрэсіўная.

Але я маю надзею, што сам я гавару з Вамі не агрэсіўна...

**Алексіевіч**: Так, не перажывайце. Я пагадзілася на размову з Вамі таму, што гэта якраз Вы папрасілі...

## Пра савецкае і беларускае

**Максімюк**: У расейскай Вікіпэдыі пішуць, што Вы — савецкая і беларуская пісьменьніца. Вы прымаеце без засьцярогі абодва гэтыя эпітэты? Савецкая пісьменьніца — гэта гучыць горда? А як зь беларускай?

**Алексіевіч**: Ну, чаму горда? Гэта быў час, у якім я пражыла большую частку свайго жыцьця. І я ў сваіх «чырвоных утопіях», скажам так, стала энцыкляпэдыстам савецкага часу — гэтых 100 гадоў, таму што савецкі, «чырвоны чалавек» ня скончыўся з канцом савецкай сыстэмы, а жыве і ў наш час... Я апісвала гэты час. Я была часткай гэтага часу. Я не магу сказаць пра кагосьці «савок» або «гома савецікус», бо я была такім самым «гома савецікусам», як і тыя людзі, зь якімі я жыла. Навошта адмаўляцца ад свайго часу, ад пражытага жыцьця? Трэба зразумець, што гэта было і чаму гэта зьнікла, і як гэта зьнікала. Вось у чым справа. Так што эпітэт «савецкі» зусім мяне не прыніжае.

А беларуская пісьменьніца? Я жыву ў Беларусі і я лічу сябе беларускай пісьменьніцай. Адначасова я не магу адмовіцца ад расейскай культуры, проста я апынулася ў такім часе, дзе ўсё гэта

было зьмешана, дзе ўсё гэта было як бы ў адным сплаве. І гэта немагчыма так агрэсіўна разьдзяліць. 90% Беларусі размаўляе на расейскай мове. І што вы з гэтым зробіце, нават калі на кожным скрыжаваньні вы будзеце крычаць, што трэба любіць родную мову? Каб любіць родную мову, трэба было па-іншаму пражыць апошнія 200 гадоў. Гэтай магчымасьці ў нашага народу не было. Але гэта ня значыць, што я не павінна яго любіць і паважаць. Проста гэты наш час існуе ў такім раскладзе. У гэтым трэба існаваць і палітыкам, і нам, гуманітарнай эліце. Трэба гэта зразумець. Мне падабаецца, як вы гаворыце па- беларуску, мне падабаецца мова шмат якіх маладых людзей... А вось вывучаная беларуская мова, на якой гаворыць частка людзей, гэта не зусім беларуская мова. Ды важна, што людзі хочуць на ёй гаварыць, і слава Богу. Але народ гаворыць або на трасянцы, або па-расейску.

## Пра Станкевіча і Федарэнку

**Максімюк**: Калі гаворым пра любоў да беларускай мовы, у мяне такое пытаньне: наколькі для Вас істотнае тое, што ў Беларусі ствараецца на беларускай мове — то бок перш за ўсё беларуская літаратура, пераклады, песьні бардаў? Для Вас важна, каб беларуская мова не памерла для нацыянальнай культуры? Ці, можа, яе сьмерць — ужо непазьбежны працэс, а значыць, ня варта моцна і натужвацца?

**Алексіевіч**: Магчыма, я да гэтага падыходжу крыху інакш. Мне цікавы ўзровень, на якім зроблена нейкая рэч. Разумееце, любіць нешта бяздарнае або сярэдняе проста ад патрыятызму я не лічу абавязковым. Я люблю тое, што мяне адкрывае, я люблю сапраўдныя рэчы... Напрыклад, «Любіць ноч — права пацукоў» Юрыя Станкевіча. Я помню, што калі гэта прачытала, я ахнула. Я ўбачыла добра зробленую рэч. Для мяне важны ўзровень, а ня тое, на якой гэта мове... Які сэнс у чымсьці, што перакладзенае на іншую мову нагадвае дзіцячы садзік.

**Максімюк**: Акрамя Станкевіча, якога вы згадалі, ёсьць яшчэ іншыя беларускія пісьменьнікі, узровень якіх вам падыходзіць?

**Алексіевіч**: У свой час мне было цікава чытаць Андрэя Федарэнку. Я вырасла на вёсцы, але паколькі мае бацькі былі савецкімі настаўнікамі, я больш жыла сярод кніг. Але мяне заўсёды хвалявала тое вясковае жыцьцё, за якім я ўсё ж назірала збоку. А ў Фэдарэнкі гэтае жыцьцё і вясковыя людзі паказаны вельмі матэрыяльна і цікава. Ён зрабіў на мне вялікае ўражаньне. Ну і, зразумела, я чытала хутчэй клясыкаў, чым сучасных беларускіх пісьменьнікаў — напрыклад, Вячаслава Адамчыка, Янку Брыля...

## Самыя ўлюбёныя пытаньні

**Максімюк**: Яшчэ адноідавочнае пытаньне. У сэнсе — відавочнае для мяне, але не зусім відавочнае каму іншаму. Як Вы лічыце, ці магчымая

беларуская нацыянальная культура на расейскай мове? Як Вы гледзіце на сваю творчасьць — Вашы кнігі, гэта частка і беларускай нацыянальнай культуры, ці яны належаць выключна расейскай культуры?

**Алексіевіч**: Я б гэтага не хацела, і гэта была б няпраўда, калі б сказалі, што мае кнігі — гэта частка толькі расейскай культуры. Яны — таксама частка беларускай культуры, таму што і ў характарах, і ў дэталях, і ў самым жыцьці вельмі шмат беларускага матэрыялу. Гэта і першае, і другое. Проста ідэя «ўтопія» гаварыла на расейскай мове, і вось зрабіць мой праект, як я яго сабе ўяўляла, можна было толькі на расейскай мове. Я вось чытала некаторыя выказваньні ў той дыскусіі вакол Нобэлеўскай прэміі, дзе некаторыя пыталіся — а хто гэтыя людзі? У сэнсе — хто героі маіх кнігаў? А хто тут жыў у савецкі час — няўжо марсіяне? Тут жылі беларусы, і яны якраз так жылі... Калі б я напісала гэтую сваю «мастацкую энцыклапэдыю», назавем яе так, на беларускай мове, гэта была б няпраўда. Не гаварыў у савецкі час народ тут на беларускай мове.

**Максімюк**: Паколькі Вы згадалі дыскусію вакол Нобэлеўскай прэміі для Алексіевіч, дазвольце мне паставіць Вам адно пытаньне ва ўмоўным ладзе. Толькі адно, абяцаю. Дапусьцім, Сьвятлана Алексіевіч атрымала Нобэлеўскую літаратурную прэмію. У Стакгольме з нобэлеўскай лекцыяй яна выступала б як беларуская пісьменьніца ці як расейская? І ці згадала б яна ў сваёй лекцыі пра беларускую мову і пра тое, што ёй у Беларусі

пагражае пагібель як мове жывой культуры і камунікацыі?

**Алексіевіч**: Вы задаяце пытаньні, адказы на якія відавочныя. А яшчэ, я Вам адкажу на гэтыя пытаньні, калі атрымаю гэтую прэмію.

**Максімюк**: Перш чым паставіць традыцыйнае пытаньне для пісьменьніка на заканчэньне, я хачу яшчэ згадаць адзін інцыдэнт, які выклікаў вельмі гучную рэакцыю ў Беларусі. Я хачу вярнуцца да інтэрвію, якое Вы далі паўгода таму нямецкай газэце Frankfurter Allgemeine Zeitung, і да таго няшчаснага пасажу пра беларускую як «вельмі вясковую» і «нявысьпелую» мову. Выказваньне выклікала шквал абурэньня ў сацыяльных сетках і на розных сайтах, і Вы, як кажуць, атрымалі за гэта па поўнай. Вы ўжо тлумачылі, што насамрэч так пра беларускую мову ня думаеце, што тут, так сказаць, фраза была вырваная з шырэйшага кантэксту. Дык вось, давайце ня будзем вяртацца да гэтай фразы, а Вы нам скажыце пару словаў пра шырэйшы кантэкст. Якую ролю беларуская мова адыгрывала і адыгрывае ў вашым жыцьці?

**Алексіевіч**: Я вырасла ў беларускай і ўкраінскай вёсцы. З украінскай вёскі я выехала, калі была зусім маленькая. Але калі я бываю ва Ўкраіне, усё ж нешта ва мне адгукаецца. А Беларусь — гэта там, дзе я расла, я іншых людзей проста ня ведаю. На самым пачатку, калі пасьля студэнцтва я працавала ў газэце, падзеі вясковага жыцьця былі маімі ўлюбёнымі тэмамі. Чалавек, які вырас сярод усяго гэтага, можа ставіцца да яго толькі зь

любоўю. Гэта той сьвет, у якім я вырасла, і іншага сьвету я ня ведаю.

## Дзьве наступныя кнігі

**Максімюк**: Кніжка «Час second-hand» — гэта, як Вы сказалі, завяршэньне вашага цыклу пра «чырвонага чалавека». Што далей? У Вас ужо ёсьць уяўленьне, пра што будзе Ваша наступная кніга? Магчыма, Вы яе ўжо пачалі?

**Алексіевіч**: Так. Ёсьць дзьве ідэі, якімі я занятая ўжо даўно. Мой праект — гэтае пяцікніжжа пра гісторыю «чырвонага чалавека» — завершаны. А наступныя кнігі будуць пра іншае. Але для гэтага мне самой трэба стаць іншым чалавекам, таму што гэтыя мае новыя ідэі патрабуюць іншага інструмэнту, нават іншага слоўніка. Гэта будзе пра тое, вакол чаго круціцца наша жыцьцё — гісторыя любові і гісторыя старасьці, адыходу, сьмерці — пра рэчы, якія мне па-сапраўднаму цікавыя. Ёсьць надзея, што калі яшчэ ў мяне будзе час, я зраблю гэтыя дзьве кнігі — пра любоў і пра старасьць, пра сьмерць, калі чалавек задумваецца аб тым, навошта ўсё было. А любоў — гэта найважнейшае ў нашым жыцьці. Таму што чалавек не нараджаецца дзеля таго, каб залезьці з лапатай на дах чарнобыльскага рэактара. Напэўна ён нараджаецца дзеля нечага іншага. Я хачу дасьледаваць, прадумаць, напісаць пра чалавека, калі ён ужо вызваліўся ад вялікай ідэі, якая яго душыла, калі ён вучыцца жыць сваім жыцьцём і ня мае ў гэтым ніякага дасьведчаньня.

Ні ў беларускай, ні ў расейскай культуры няма досьведу шчасьця. Дарэчы, што такое эўрапейскі чалавек? Гэта той, які думае пра такія вось рэчы, а не пра тыя напалову ваенныя рэчы, якімі занятая і наша культура, і наша сьвядомасьць увесь час. Дык вось я хачу дасьледаваць чалавека, які вучыцца — дарэчы, як і я — жыць гэтым новым жыцьцём.

**Максімюк**: Гучыць даволі забаўліва. Жанр гэтых дзьвюх кнігаў, якія Вы задумалі, будзе падобны на жанр папярэдніх, гэта значыць, мы зноў пачуем галасы людзей, а сама пісьменьніца будзе «схаваная» за імі?

**Алексіевіч**: Не, пісьменьніка ніколі не схаваеш. Вось мне заўсёды цікава — чаму ў паэта ніколі не пытаюць, чаму ён ня піша прозы? А ў мяне заўсёды пытаюць — а чаму вы ўсё ж так пішаце? Гэта мой жанр, з кніжкі ў кніжку я яго крыху мяняю, шмат што ўдасканальваю, нечага шукаю ў ім. Зразумела, я буду пісаць далей у гэтым жанры. Можна назваць гэты жанр «раманам галасоў», як называў яго мой настаўнік Алесь Адамовіч, або «саборным раманам»... Бо мне здаецца, што мы жывем у вельмі хуткім часе, і чалавек не пасьпявае ў гэтым часе сам за сабой. І толькі стварыўшы такі калектыўны партрэт, нам удаецца хаця б часткова даць вобраз часу. Я не хачу здраджваць самой сабе. Так настроеныя мае вочы, так чуе маё вуха, так я бачу сьвет.

## Генадзь Бураўкін: «Алексіевіч ніколі не была ворагам беларускай мовы»

29 лістапада 2013
Міхась Скобла, Менск

*Зь перадачы, прысьвечанай прэзэнтацыі ў Музэі гісторыі Беларусі Саюз беларускіх пісьменьнікаў паэтычна-міталягічнага календара «Першапачатак».*

**Скобла**: Апошнім часам шмат дыскусій на інтэрнэт-форумах было зьвязана зь імем Сьвятланы Алексіевіч, зь яе стаўленьнем да беларускай мовы. Мне запомніліся яе словы: «Я не прыгонная беларускай мовы». А вы прыгонны?

**Бураўкін**: Я? Вядома ж. Гэта вызначана ня толькі лёсам, гэта выбрана мною сьвядома і, як мне падаецца, асьвячана Богам. Я добра ведаю Сьвятлану і хачу сказаць, што яна ніколі не была ворагам беларускай мовы. Іншая справа, што мне было б намнога прыемней, калі б яна карысталася беларускай мовай у сваёй творчасьці — цікавай і таленавітай. Але гэта вельмі тонкія рэчы. Прыкладам, Алесь Адамовіч бліскуча гаварыў па-беларуску, па-беларуску пісаў і свае літаратуразнаўчыя працы. А вось прозу сваю пісаў па-расейску. І калі я пытаўся ў яго, у чым справа, ён адказваў: «Ня ведаю. Вось саджуся за пісьмовы стол, і каб выказацца, мне патрэбна расейская мова». Магчыма, нешта падобнае і ў Сьвятланы. Але я быў бы вельмі рады, калі б яна стала ляўрэатам

Нобэлеўскай прэміі. Гэта, я думаю, паслужыла б на карысьць Беларусі.

**Скобла**: Ці на карысьць расейскамоўнай літаратуры ў Беларусі, вакол якой таксама апошнім часам шмат дзідаў было паламана?

**Бураўкін**: Не, Міхась, я так ня думаю. Творчасьць Сьвятланы Алексіевіч ніколі не была падтрымкай Чаргінцу і яго паплечнікам Аўруціну ці Красновай-Гусачэнка. Наадварот, яны на дух не пераносяць і ненавідзяць яе творчасьць. Таму, паўтаруся, яе Нобэль быў бы падтрымкай ня гэтак званым «беларускім расейскамоўным пісьменьнікам», а — дэмакратычнай Беларусі.

## «Час любой формы таталітарызму ўсё ж такі сканчаецца»

8 лютага 2014
Іна Студзінская, Менск

*8 лютага на Менскай міжнароднай кніжнай выставе- кірмашы адбылася прэзэнтацыя кнігі Сьвятланы Алексіевіч «Час second-hand».*

Сустрэча зь пісьменьніцай шырока не анансавалася, інфармацыя распаўсюджвалася ў асноўным праз сацыяльныя сеткі. Закуток, у якім праводзілася сустрэча, па памерах быў крыху больш за кухню, як трапна выказваліся тыя, каму пашчасьціла туды трапіць. Туды здолела ўмясьціцца максымум дзясяткі чатыры чалавек, а прыйшло на сустрэчу каля трох соцень.

Побач з павільёнам, дзе праходзіла сустрэча са Сьвятланай Алексіевіч, выступаюць народныя калектывы, самадзейныя артысты сваімі сьпевамі і народнымі інструмэнтамі заглушаюць голас пісьменьніцы — у такіх умовах даводзілася вельмі напружвацца, каб пачуць яе. Спачатку распавяла кораценька, пра што яе новы твор:

«Гэтая кніга больш за ўсё пра тое, як мы жылі, і як гэта жыцьцё скончылася, і мы апынуліся ў разгубленасьці. У нас у Беларусі час наагул спыніўся...

Гэтая кніга вызваляе нас ад чорна-белага сьвету. Раптам мы бачым, што сацыялізм — больш складаная зьява. Чалавек, які застаўся

пасьля сацыялізму — ён і ахвяра, і кат адначасова. Гэтая кніга прымушае нас думаць пра гэты сьвет, і як цяжка людзям у гэтым сьвеце перарабіцца самім».

Потым было шмат пытаньняў — і пра літаратуру, і пра тое, як зьмяніць жыцьцё, пра мэнтальнасьць беларусаў, і наагул, філязофскіх пытаньняў. На думку Сьвятланы Алексіевіч:

«Самая галоўная бітва адбываецца не на барыкадах, не на Плошчы, не на Майдане. Самая галоўная бітва адбываецца, калі чалавек вырашае, ідзе ён на Майдан ці не ідзе, выдае ён кнігу ці не выдае, выганяе ён студэнта, які быў на Плошчы ці не, студэнт вырашае, іду я на Плошчу ці не. Дабро і зло змагаюцца ўнутры чалавека. Вось там самая галоўная барацьба».

Спрадвечнае пытаньне: чаму Алексіевіч не размаўляе і ня піша па- беларуску?

«Вы ведаеце, тое, што я рабіла — вось гэтую вялікую працу — гэта была энцыкляпэдыя ўтопіі, гісторыя ўтопіі. А «ўтопія» размаўляла на расейскай мове. Калі б я напісала толькі пра беларусаў — гэта была б няпраўда. Тады была сапраўды велізарная краіна, ахопленая велізарнай ідэяй. Таму я пра гэта пішу. Усё ж нядаўна мы былі агульнай велізарнай краінай».

На пытаньне, ці лічыць Сьвятлана Алексіевіч беларускую нацыю выміраючай, пісьменьніца адказала так:

«Калі мяне не зусім дакладна перадала нямецкая журналістка, было вельмі шмат спрэчак, маўляў, Алексіевіч супраць беларускай мовы.

Не, я ня супраць беларускай мовы. Я сказала проста, што 200 гадоў ёй не давалі разьвівацца, і гэта адбіваецца сёньня. Гаворка ішла толькі пра гэта. Што 200 гадоў нам не далі жыць як паўнавартаснай нацыі, зьнішчыўшы эліту. Размаўлялі ў асноўным па-расейску. Гаворка ішла толькі пра гэта. Я ня думаю, што беларусы — выміраючая нацыя. Ні ў якім разе!»

Кнігі Сьвятланы Алексіевіч выдадзеныя ў 30 краінах сьвету, найбольш папулярнымі яны сталі ў Швэцыі, Нямеччыне, Францыі. Сама яна больш за 10 гадоў жыла за мяжой і правяла сотні сустрэч з чытачамі. Што больш за ўсё цікавіць замежнікаў, якія пытаньні яны задаюць на сустрэчах?

«Скажыце, чаму вось бясконцыя пакуты, прыніжэньні не канвэртуюцца ў свабоду, годнасьць? Ну чаму людзі, што перамаглі ў такой страшнай вайне, потым ідуць у стойла? Адзінае, што яны бачаць — што праблема нашмат шырэйшая, больш шматгранная, чым яны сабе ўяўлялі: што Пуцін — дыктатар, Лукашэнка — дыктатар. Не. Як яны кажуць: мы разумеем з кнігі, што гэтыя тыпажы — замова грамадзтва, гэта акумуляванае жаданьне грамадзтва. Значыць, грамадзтва знаходзіцца на такой стадыі разьвіцьця. Яны пытаюцца, чаму гэтыя пакуты не канвэртуюцца ў свабоду. Вось чаму?!»

Што да прагнозаў на будучыню, пісьменьніца іх ня робіць. Але надзею на будучыню ў прысутных яна паспрабавала ўсяліць. Сказала, што верыць у эфэкт травы, якая ўсё ж праб'ецца:

«Тым, хто старэйшы, я хацела б сказаць: ня трэба адчайвацца. Усё ж галоўнае мы зрабілі: камунізм пераможаны. А маладым людзям я хацела б сказаць: рыхтуйцеся да будучыні, яна ўсё адно прыйдзе. Будзе эўрапейская будучыня. Але рыхтуйце сябе — гэты час вельмі жорсткі...

Час любой формы таталітарызму ўсё ж канчаецца. Ужо нельга зрабіць Паўночную Карэю ў цэнтры Эўропы. Усе такія рэчы канчаюцца».

## Алексіевіч: «Выдавецтва «ЛогвінаЎ» і Барыс Пятровіч — малайцы!»

18 лютага 2014
Іна Студзінская, Менск

*18 лютага ў крэатыўнай прасторы «ЦЭХ» адбудзецца прэзэнтацыя беларускай вэрсіі новай кнігі Сьвятланы Алексіевіч «Час second-hand. Канец чырвонага чалавека» з удзелам аўтаркі.*

Прэзэнтацыю ладзіць кнігарня «ЛогвінаЎ», паведаміў арт-дырэктар кнігарні Павал Касьцюкевіч:

«Сьвятлана Алексіевіч — самадастатковая пэрсона, фармат яе выступу звычайна сольны. На імпрэзу запрошаныя перакладчыкі Валер Стралко і Ціхан Чарнякевіч».

Кніга выйшла ў выдавецтве «ЛогвінаЎ» у бібліятэцы Саюзу беларускіх пісьменьнікаў «Кнігарня пісьменьніка». Некалькі дзён таму, на прэзэнтацыі гэтага твору на XXI Менскай міжнароднай выставе- кірмашы, **Сьвятлана Алексіевіч** падзякавала за выданьне свайго твору па-беларуску:

«Выдавецтва «ЛогвінаЎ» і Барыс Пятровіч зь Беларускім саюзам пісьменьнікаў — малайцы. Вось прыклад таго, што ўсё залежыць ад чалавека. Таму што яны маглі таксама сказаць: «Лепш ня зьвязвацца з гэтай Алексіевіч. Лепш ня мець непрыемнасьцяў...» Не, яны бяруць і выдаюць маю кнігу. Дарэчы, вельмі добра яе выдаюць...

Гэта я да чаго? Што ўсё залежыць ад нас. Усё залежыць ад цябе. Можна сказаць і нічога не зрабіць, чакаць, што хтосьці штосьці зробіць — і рэвалюцыю, і новае жыцьцё. А можна самому зрабіць кавалачак перамен. Вось хлопцы ўзялі і зрабілі».

## «Ня ведаю больш савецкай краіны, чым Беларусь»

19 лютага 2014
Радыё Свабода

*Учора ў крэатыўнай прасторы «Цэх» на сустрэчы са Сьвятланай Алексіевіч з нагоды прэзэнтацыі яе кнігі «Час second-hand. Канец чырвонага чалавека» ў перакладзе на беларускую мову сабралася багата людзей. Паразмаўляць зь пісьменьніцай прыйшлі тыя, хто не патрапіў на нядаўнюю сустрэчу зь ёю падчас кніжнага кірмашу ў Менску.*

Выданьне кнігі «Час second-hand», якая выйшла ў выдавецтве «Логвінаў» і прадаецца цяпер за 89 тысяч рублёў (кошт на кнігу па-расейску ад выдавецтва «Время» складае да 25 эўра) — першы за доўгі час выпадак, калі творы сусьветна вядомай беларускай пісьменьніцы друкаваліся на радзіме. Апошнім разам у канцы 90-х, у невялікім менскім выдавецтве выйшла яе «Чарнобыльская малітва». Цяпер жа выйшла кніга, якая завяршае нізку «Галасы ўтопіі».

Алексіевіч мяркуе далей пісаць пра нешта іншае: каханьне, старасьць:

«Сёньня мяне ўжо цікавіць чалавек увогуле, іншыя тэмы. Паглядзіце, вось людзі дзякуючы мэдыцыне атрымалі плюс 30–40 гадоў жыцьця, але ніхто ня ведае, што зь ім рабіць. Асабліва ў Беларусі. Адна старая немка мне неяк сказала: старасьць — гэта таксама вельмі цікава».

Вялікую ўвагу на сустрэчы прыцягнуў да сябе хударлявы дзед, які задаваў пытаньні відавочна ня проста так... А потым узяў і заявіў: «А дзе асабіста Вы былі, калі героі, пра якіх Вы пішаце, пісалі даносы?»

Што не магло ня выклікаць сьмеху і нават абурэньня ў зале. Дзед неўзабаве сышоў. Але засталіся ўдумлівыя, дапытлівыя людзі, якія хацелі пачуць адказы на розныя пытаньні. Некаторыя выклікалі раздражненьне ў самой пісьменьніцы праз тое, што пра тое самае пытаюцца занадта часта, іншыя — праз хіхіканьне ў зале. Як, напрыклад, прадказальнае пытаньне пра беларускую мову. Але ніводнае пытаньне не засталося без адказу. Тым больш цікава слухаць Сьвятлану Алексіевіч, якая, адказваючы на нейкае вонкава простае пытаньне, закранае экзістэнцыйныя глыбінныя, а ня проста часовыя зьявы.

*Пісьменьніца выказалася пра нянавісьць, свабоду і Майдан.*

**Алексіевіч**: Такое адчуваньне, што жыцьцё рухаецца па нейкім тым самым коле, быццам мы ня ведаем гісторыі. А калі б мы ведалі гісторыю, дык, можа быць, некалі ў нас ня так бы гарэлі вочы, мы паводзілі б сябе больш разумна. І, можа быць, ведаючы чалавека больш, мы б нейкія рэчы маглі раней прадказаць. Вартаваць у сабе чалавека вельмі важна, вельмі лёгка сасьлізнуць: канфармізм, нянавісьць. Гэтыя рэчы вельмі лёгка робяцца. Тым больш у нашай культуры. Нас толькі і вучылі культуры гвалту: спачатку

прыйшлі людзі з рэвалюцыі, потым прыйшлі з вайны, з Чарнобылю, з Афгану. Вось ён — галоўны досьвед нашага жыцьця. І таму я ніколі не зьдзіўляюся нянавісьці. Я разумею, што гэта пачуцьцё слабога чалавека, які нічога не зразумеў і ня хоча разумець.

А нянавісьць — ніколі ня выйсьце. І вось пятая кніга падвяла для мяне пэўны падрахунак і абсалютна нечакана вывела мяне да тэмы рэстаўрацыі. Яшчэ пяць гадоў таму, здавалася б, у паветры гэтым ня пахла. Хаця тое, што ў нас адбываецца, гэта наогул «спынены час»: капіталізм, сацыялізм, імпэратарства — усё разам. І раптам у Расеі запахла рэстаўрацыяй, і хутка мы гэта ў сябе адчуем. І як гэтаму супрацьстаяць? Мы ня вельмі гатовыя да гэтага... Я думаю, Кіеў не напалохае гэтых рэстаўратараў...

Так што сёньня вельмі складаны час. Камунізм сышоў, застаўся чалавек, які ня ведае, як жыць. Гэтыя ўсе нашы рамантычныя ўяўленьні пра жыцьцё, яны такія кухонныя, тусовачныя. Нават вымаўляючы слова «свабода», мы дрэнна разумеем, што гэта такое. Таму што калі б чалавек верыў, што нашы прыйдуць — і будзе свабода, ён бы не пісаў мне «будзем такіх, як ты, ставіць да сьценкі». Гэта не свабода. Значыць ні на тым баку барыкад, ні на гэтым пра свабоду ніхто ня мае ўяўленьня. Каштоўнасьць жыцьця — капейкі. Вы разумееце, што гэта самае страшнае? Вось нават калі я гляджу на Кіеў (я ж напалову ўкраінка)... як я захоплена ўспрымала ўсё спачатку! І як цяпер, калі бачу многія рэчы, мне страшна. Мае сябры адтуль

пішуць — ім таксама страшна. Таму што няма свабодных людзей. Усе гавораць пра свабоду. А свабодных людзей няма. І вось тое, што павінна рабіць літаратура, і тое, у імя чаго я напісала ўсе гэтыя пяць кніг: гэта пра тое, што свабода не на вуліцы, а ўнутры. Вось дзе адбываецца, як кажа Дастаеўскі, барацьба дабра і зла. У душы — на гэтай тэрыторыі адбываецца самае галоўнае. Няма чаго бегчы на вуліцу, таму што, калі душа пустая, ты пабяжыш туды з сякерай.

**Пытаньне**: Хто зь літаратараў зрабіў на Вас найбольшы ўплыў?

**Алексіевіч**: Нейкі ўплыў на мяне зрабіў Міхась Стральцоў. Яго мова ў «Смаленьні вепрука», я лічу, геніяльная. Потым апавяданьне Янкі Брыля, я памятаю, вельмі моцнае: пра тое, як сышлі немцы, а ляжаць бяз ног засталася паліцайка, і бабы бягуць па хатах і шукаюць, у каго засталася прасьціна, каб яе перавязаць... І канешне Адамчык — «Кароль нябожа». А вось хто мэтафізык у нас — дык гэта Кузьма Чорны. І ў Віктара Казько гэта троху ёсьць: адчуваньне сусьвету, дрэва, прыроды, чалавека. З сусьветнай літаратуры некалі вельмі паўплываў на мяне Рэмарк, Маркес. Але самы моцны ўплыў зрабіла інтэлектуальная проза Картасара і Борхеса. Лацінаамэрыканская літаратура, гэты каляровы сьвет, некалі ўразілі мяне вельмі моцна.

**Адзін з чытачоў** задаў разгорнутае пытаньне: Чаму працягваюць зьяўляцца ка́ты і ахвяры? Чаму працягваюць зьяўляцца людзі, галоўны прынцып для якіх — «мая хата з краю»? Вось нядаўна ў Нямеччыне апублікавалі перапіску

Гёбэльса. І ў адным з сваіх лістоў да жонкі ён піша: «Дарагая, прабач, шмат працы, еду ў Асьвенцім». Чаму, як толькі зьяўляецца дыктатура, адразу зьяўляюцца людзі, для якіх вось гэтая справа ёсьць працай? І як доўга мы будзем блукаць па гэтым замкнёным коле?

**Алексіевіч:** Нядаўна я чытала кнігу, напісаную ад імя афіцэра СС — «Благоволительницы» (раман, напісаны на французскай мове амэрыканскім аўтарам Джонатанам Літэлам — *Рэд.).* Ён расказвае пра расстрэлы, вечарынкі пасьля іх, як яму падабаецца прыгожая яўрэйская дзяўчынка, а ўвечары, у рэстаране, была грудка пад нейкім неверагодным соўсам... Герой кнігі вельмі жорстка адказвае на Вашае пытаньне. Ён гаворыць: ня думай, чытач, што ты лепшы за мяне. Ты ня ведаеш, які ты, пакуль ня прыйдуць выпрабаваньні. Ці зможаш ты іх вынесьці? Вось я выйшаў з гэтых выпрабаваньняў такім чынам. І я ведаю, хто я і як ты мяне назавеш, але ня будзь надта ўпэўнены... Такі агульны пасыл кнігі. Мне здаецца, у сьвеце ідзе барацьба дабра і зла. І ніякая тэхналёгія нас ад гэтага не ўратуе. Людзі, якія былі ў лягерах, на вайне, казалі мне, што культура — гэта тонкі слой. У лягеры ён зьлятае за 10 дзён. На вайне — яшчэ хутчэй. Вось тэма, якая мяне заўжды хвалюе: як дапамагчы чалавеку ўпільнаваць у сабе чалавека. Мне здаецца, што гэта вечная праца. Гэта было і пры Сталіне, і пры дэмакратах...

**Пытаньне**: Чаму Вы не размаўляеце на беларускай мове? Ці лічыце Вы важным папулярызаваць і пашыраць ужываньне беларускай мовы?

**Алексіевіч**: Адзін раз адкажу на такога кшталту пытаньне і больш не адказваю. Я займалася гісторыяй «чырвонай утопіі», гэтых амаль ста гадоў савецкай улады. Утопія размаўляла на расейскай мове. Як мне недзе ў водгуках напісалі: «А навошта яна запісвала гэтых расейцаў, трэба было сваіх толькі людзей». Ну, разумееце, я займалася той краінай, зь якой мы ўсе выйшлі, усе размаўлялі на расейскай мове. Я запісвала свае кнігі ў Іркуцку, Маскве, Кіеве, Ужгарадзе, я ўжо не кажу пра Беларусь. І гэта было на расейскай мове. Больш за тое (я ніколі гэтага не хавала), я размаўляю на беларускай мове, але паколькі я ўвесь час карыстаюся расейскай, я ня роўная сабе, калі карыстаюся беларускай: я ня так хутка гавару, у мяне няма гэтай практыкі. Я разумею, што пытаньне мовы вельмі важнае для нацыі, якая хоча стаць самастойнай. Але я пісала абсалютна пра іншае. І таму ў мяне расейская мова. І ставіць гэта мне ў віну — гэта неяк... Я ўжо стамілася ад гэтага за 20 гадоў...

**Пытаньне**: Калі Вы кажаце «мы» ў сваіх кнігах, Вы маеце на ўвазе Расею ці Беларусь?

**Алексіевіч**: Яшчэ раз кажу, што я займалася гісторыяй «чырвонай утопіі». І тады было «мы», «я» зьявілася толькі ў апошнія гады. У апошняй кнізе ўжо часьцей сустракаецца «я», а тады «я» людзі амаль казалі, была адна велізарная краіна. Можа быць, зьявяцца іншыя пісьменьнікі, якія напішуць, якім гэты час быў менавіта ў Беларусі. Я займалася тэмай «чырвонай утопіі» наогул: што робіць з чалавекам вялікі падман.

**Пытаньне**: А Вы ня думалі ўзяць інтэрвію у Лукашэнкі?

**Алексіевіч**: Я яму напісала ліст. І што, ён мне адказаў, як Кацярына II адказвала? Не...

**Пытаньне**: Адкуль бераце сілы працягваць?

**Алексіевіч**: На Радыё Свабода і на tut.by пасьля першага майго выступу на кніжнай выставе камэнтары было жудасна чытаць. На мяне вылілі столькі бруду. Разумееце, я стаўлюся да ўсяго гэтага як інтэлектуал, хоць я таксама чалавек. Я разумею, што вось гэта Homo sovieticus у чыстым выглядзе: нянавісьць. Вельмі добры артыкул Віржыні Шыманец, калі яна гаворыць пра іншае ў беларускай культуры: іншы Быкаў. Нават Быкаў, які пісаў па-беларуску і антысаветчык быў. Але ўсё роўна быў іншы, бо ён бачыў пытаньні вышэй. А то часам атрымліваецца, што беларушчына — гэта спосаб не працаваць над сабой, не займацца гэтай катаржнай справай, а некага ненавідзець. Ходзяць зь ёй, як з аўтаматам. А беларускія ж людзі сустракаюцца цудоўныя! На цудоўнай мове гавораць. Такая мова! Я яе цяпер чую толькі ад маладых людзей. Калі я вучылася, такой беларускай мовы не было. І гэтая мяккасьць нашая. І гэтае разуменьне рэчаў — відаць, што людзі эўрапейскіх аўтараў чыталі. Але разам з тым ніякія мовы, і ніякая інтэлектуальнасьць не выратоўвае ад нянавісьці. Гэта ўжо нейкія больш глыбокія пытаньні. І, вядома, абараняцца ад гэтага можна толькі адным: вось гэта мая справа ў жыцьці, я яе выбрала, я так разумею сэнс свайго жыцьця. У мяне шчасьлівая прафэсія, яна супа-

дае з тым, што чалавек наогул павінен рабіць у жыцьці: абдумваць нейкія рэчы, гаварыць пра іх зь іншымі, з самім сабой. Такой прафэсіі можна толькі пазайздросьціць. Хоць, як казаў Ільля Эрэнбург, прафэсія цудоўная, толькі паміраем як шахцёры, у такой колькасьці. Гэта вельмі складанае напружаньне ўсё ж.

Нянавісьць чырвонага чалавека страшная. Я вам хачу сказаць, што нас яшчэ чакае такая палярызацыя ў грамадзтве — яшчэ невядома, як усё будзе. Спадзяюся, ня як ва Ўкраіне. Магчыма, некаму гэта не спадабаецца, але я б не хацела, каб вогнішчы палалі ў цэнтры Менску. Я б хацела, каб мы вырашылі гэта талерантна ў сваім грамадзтве.

**Пытаньне**: Што для Вас патрыятызм?

**Алексіевіч**: Пасьля чарнобыльскай кнігі для мяне гэтага пытаньня няма. Там, у Чарнобылі, адбыўся пераварот усёй маёй сьвядомасьці. Раптам я чую аповед бортніка, што пчолы тыдзень не вылазілі з вульляў. Яны ведалі, мы — не. Рыбакі распавядалі, што чарвяка не маглі дастаць зь зямлі, чэрві сышлі ўглыб. Нядаўна я была ў чарнобыльскай зоне — са школы выбягаюць ваўкі. Зь іншага памяшканьня — статак кабаноў. Першае ўражаньне, што ты не беларуска, не расейка, не француженка, а прадстаўнік біявіду, які можа зьнікнуць, як мятлік. Я прыехала адтуль з пачуцьцём яднаньня і з абсалютна касмапалітычным поглядам. Я зразумела, што ёсьць зямля, чалавек — і ўсё. Нашая нацыянальнасьць — чалавек. Для мяне гэта так.

## Кніга «Час second-hand» Алексіевіч вылучаная на расейскую літаратурную прэмію «Нацыянальны бэстсэлер»

28 лютага 2014
Радыё Свабода

*Кніга Сьвятланы Алексіевіч знаходзіцца ў сьпісе намінантаў на адну з найбольш прэстыжных расейскіх літаратурных прэміяў.*

«Гэтая кніга — пяты, фінальны том эпапэі Алексіевіч, у якую ўваходзяць таксама «У вайны не жаночае аблічча», «Апошнія сьведкі», «Цынкавыя хлопчыкі» і «Чарнобыльская малітва»; сама Алексіевіч называе яе «Чырвоны цыкл». Як і раней, гэтая кніга складаецца пераважна з інтэрвію — зь людзьмі ананімнымі, якія, як мяркуецца, павінны сваім «хорам» скласьці нейкі партрэт часу і пазначыць нейкую пэўную праблему. Тут праблема найбольш амбітная: Алексіевіч і яе героі, ні больш ні менш, занятыя адказам на пытаньне «чаму ў нас нічога ня выйшла» — гэта значыць, асэнсоўваюць вынікі апошніх дваццаці пяці гадоў Расеі», — піша ў прадмове крытык Арцём Роднараў.

«Нацыянальны бэстсэлер» — расейская літаратурная прэмія, генэральныя фундатары якой — расейскі тэлеканал « 2Ч2» і кінакампанія «Цэнтрал Партнэршып».

На прэмію могуць быць вылучаны празаічныя творы, упершыню апублікаваныя на расейскай мове. Мэта прэміі — выявіць празаічныя творы, якія адзначаюцца высокай мастацкасьцю ці іншымі добрымі якасьцямі.

Пераможца атрымлівае грашовую прэмію ў 750 000 расейскіх рублёў.

18 лютага ў Менску прэзэнтавалі беларускі пераклад гэтай кнігі.

Раней — на Міжнародным кніжным кірмашы ў Менску — Алексіевіч прэзэнтавала расейскамоўнае выданьне.

## «Сёньня беларуская мова — гэта форма супраціву»

16 красавіка 2014
Алесь Дашчынскі, Менск

*Сьвятлана Алексіевіч адказала на пытаньні карэспандэнта Свабоды пра Расею пасьля анэксіі Крыму, пра сытуацыю ва Ўкраіне і пра яе ўплыў на Беларусь.*

**Дашчынскі**: У нядаўнім артыкуле ў нямецкай «Frankfurter Allgemeine» пра Расею пасьля Крыму Вы пішаце пра вяртаньне да сталінізму ў Расеі на хвалі патрыятызму. Да сталінізму, толькі праваслаўнага. Чаму такое стала магчымым у Расеі?

**Алексіевіч**: Прычына адна. Вось гэты маленькі «чырвоны чалавек» затаіўся, ён застаўся жыць з пачуцьцём паразы. Бо і ня ён рабіў тое, што называецца «перабудовай». Гэта рабіў Гарбачоў і кучка інтэлігенцыі. А маленькі «чырвоны чалавек» прачнуўся нечакана ў зусім незнаёмай яму краіне. І ён нічога не хацеў апроч таго, каб добра жыць. І ніхто не займаўся вывучэньнем мінуўшчыны, не чытаў Салжаніцына, Шаламава. Гэта ўжо нікому не было цікава пасьля перабудовы, хаця ўсё гэта ляжала на кніжных развалах. А чаканьні не ажыцьцявіліся, бо атрымаўся дзікі капіталізм, і гэта нікога не задавальняе, бо людзей абрабавалі, краіну раскралі. І вядома, адчуваньне рэваншу. Гэта жаданьне маленькай пераможнай

вайны вельмі глыбока сядзела. І гэтае імпэрскае пачуцьцё, «вялікая Расея», каб нас зноў баяліся. На жаль, тлумачэньні самыя банальныя. Але гэта не адзін Пуцін. Гэта насамрэч Пуцін у кожным з расейцаў. Я, напрыклад, згубіла вельмі шмат расейскіх сяброў, бо не магла падзяліць іх патрыятызм, іх узрушанасьць ад слова «аншлюс», «анэксія». Я чалавек маленькай нацыі, і мы зусім пазбаўленыя гэтых пачуцьцяў. Як інтэлектуал я зусім іначай гляджу на гэтыя праблемы.

**Дашчынскі**: То бок мы назіраем вяртаньне гэтага «чырвонага чалавечка»?

**Алексіевіч**: Ён затаіўся. І гэты маленькі «чырвоны чалавек» не абавязкова нейкі рабацяга. Гэта і людзі ўлады, хаця ў іх грошы з кішэні сыплюцца. Усё роўна сьвядомасьць абсалютна чырвоная. Вось у іх грошы з кішэні сыплюцца, а для эўрапейскай эліты яны ўсё роўна шпана. Тут усё інакш уладкавана. Тут над мэханізмам свабоднай грамадзянскай дзяржавы вельмі многа працавалі. Гэта ўжо адладжаны мэханізм. Таму 20 гадоў — гэта вельмі маленькі тэрмін. Была такая вялікая спрэчка ў расейскай літаратуры паміж Шаламавым і Салжаніцыным. Салжаніцын казаў, што лягер ачышчае чалавека, падымае, зь лягеру ён выходзіць вялікім. А Шаламаў казаў, што лягерны досьвед нічому добраму ня вучыць, ён бэсьціць чалавека, і ён патрэбны толькі ў лягеры. І вось гэты маленькі «чырвоны чалавек» выйшаў зь лягеру. І што ён зрабіў праз 20 гадоў? Зноў пабудаваў лягер. Адсюль і назва маёй кнігі

«Час second-hand». Дадалося толькі праваслаўе ў самым цемрашальскім варыянце.

**Дашчынскі**: А ў Крыме таксама гэты «чырвоны чалавек»?

**Алексіевіч**: Яны былі далёка ад Расеі. Я думаю, тут віна і Ўкраіны ёсьць. Украіна, відаць, і ня мела тых рэсурсаў, і людзі там, кажуць, цяжка жылі. Як і па ўсёй Украіне. У мяне шмат сваякоў ва Ўкраіне, і людзі вельмі цяжка жывуць. А цяпер я ня ведаю, што будзе. І здалёк пачынаецца ідэалізацыя гэтай вялізнай краіны. Мы ж усе з грамадзтва гвалту, у нас няма іншага досьведу жыцьця. І таму ўсялякая праява сілы здаецца веліччу. І такой, відаць, здалёк ім гэтая краіна і здавалася. Я думаю, што і насамрэч Крым прагаласаваў за ўваходжаньне ў Расею. Мне самой Севастопаль здаецца расейскім горадам. Але ўсё, што адбылося і як гэта адбылося — гэта не цывілізавана. Бо з такой цяжкасьцю пасьля Другой сусьветнай вайны выбудавалі сьвет, пэўныя правілы, і раптам аказваецца, што ўсё гэта можна ўзарваць за некалькі тыдняў. Я жыву абсалютна з пачуцьцём паразы, якое ёсьць у многіх людзей майго пакаленьня. Бо Пуцін зусім пахаваў мару пра тое, што Расея будзе эўрапейскай. І тое, што ў Беларусі ёсьць эўрапейскія шляхі. Мы таксама ад іх вельмі залежым, на жаль, мы вельмі зьвязаныя. Цяпер ужо прадэманстраваная такая сіла, што Лукашэнка апынуўся на кароткім ланцужку, яму ўжо дакладна ня вырвацца.

**Дашчынскі**: А як, на Ваш погляд, будзе ўплываць гэтая сытуацыя на Беларусь?

**Алексіевіч**: Я думаю, што да пары да часу мы захаваем такі вось сувэрэнітэт. Але калі нічога не памяняецца, малаверагодна, што нешта можа памяняцца. Бо былі часы макартызму ў Амэрыцы — гэта працягвалася не адзін год. Такія цёмныя энэргіі, калі вырываюцца з народу, маюць вельмі доўгую цэнтрабежную сілу. Яны доўга будуць працягвацца. Магчыма, некалькі пакаленьняў будуць заражаны гэтым. У нас будзе слабая незалежнасьць, і таму ўлада маўчыць, бо гэта зразумела.

**Дашчынскі**: Лукашэнка казаў, што ў нас уся краіна расейскамоўная, то гэта, маўляў, глупства нейкіх расейскамоўных тут абараняць? Ці была ўсё ж памылковай гэтая русыфікацыя Беларусі апошнімі гадамі?

**Алексіевіч**: У нас расейскамоўнасьць не з-за страху, не з-за нейкай мэтанакіраванай палітыкі. Для сёньняшняй расейскай эліты сур'ёзна не існавала ні ўкраінскай дзяржавы, ні беларускай дзяржавы. А тое, што мы гаворым на расейскай мове — гэта нашы глыбокія гістарычныя праблемы. Невялікі народ быў заўсёды прыгнечаны, ніколі ня жыў сваім жыцьцём. Таму расейскамоўнасьць — не палітычная задума, гэта нашы ўнутраныя гістарычныя праблемы, нашы ўласныя комплексы. Мяне вельмі радуе цяперашняя цікавасьць да беларускай мовы, столькі людзей запісваецца на курсы. На сёньняшні момант — гэта форма супраціву. Ня браць жа вінтоўку і ісьці ў лес. Гэта сёньня малаверагодна. Гэта да якой ступені адчаю трэба давесьці народ, як ва

Ўкраіне, каб гэта здарылася. І ня дай Бог, каб гэта адбылося. Я прыхільніца паўзучай эвалюцыі. Гэта лепш, чым любая рэвалюцыя. Ніводная рэвалюцыя не прыносіла прыгожых пладоў. Я прыхільніца руху жыцьця.

**Дашчынскі**: Як Вы думаеце, што далей будзе з Украінай?

**Алексіевіч**: Я не палітык, я творца. Я думаю, што справа можа нават дайсьці да партызанскай вайны ў некаторых абласьцях Украіны. Але мне верыцца, што ўсё ж гэта моцны народ. Мне падабаўся і першы Майдан, і другі Майдан. То бок мне падабаліся людзі, якія гэта рабілі. Хоць што тычыцца другога Майдану, то там ёсьць праблемы з «Правым сэктарам», з радыкаламі. Мне падабаліся самі людзі, але палітыкі, якія потым разьменьвалі гэты Майдан ці ператваралі яго ў нешта іншае, гэта ўжо іншы бок справы.

Мне здаецца, што Ўкраіна вельмі слабая цяпер. І калі насамрэч ЗША і Эўропа не дапамогуць Украіне эканамічна і палітычна, то гэта будзе вельмі трагічна. Гэта можа быць Югаславія побач. Бо беднага чалавека прымусіць некага ненавідзець вельмі лёгка. Калі знойдзецца лідэр не такі гарачы як Цімашэнка, калі знойдзецца моцная, разумная асоба, няхай гэта будзе не Рузвэльт, але разумны, цьвярозы чалавек, якога прыме Захад і зь якім будзе лічыцца Расея, тады захаваецца ўкраінская дзяржава. Гэтым разам Захад даволі згуртаваны. Расея адчула сілу Захаду, бо ўсе зразумелі, як гэта небясьпечна. Я думаю, што Эўропа прыкладзе намаганьні, каб украінская дзяржава захавалася, ня

зьнікла як Самалі. Але небясьпека вялікая, што яе разарвуць на нейкія кавалкі.

Я шмат людзей ведаю ва Ўкраіне, і яны вераць у сваю будучыню. Напэўна, трэба жыць там, каб гэта адчуць. І наколькі я расчаравалася ў некаторых сваіх расейскіх сябрах, настолькі мяне захапілі ўкраінскія. Я думаю, у гэтай краіны ёсьць будучыня, хоць цяпер цяжкі час. А што да Пуціна, я думаю, яму не дазволяць гэтыя ваенныя паходы, і я падазраю, што ён і сам гэтага ня хоча. Але ён узяў на сябе нейкую місію, і цяпер вымушаны ёй адпавядаць. А маленькаму чалавек цяжка ўвесь час быць вялікім, у нейкай мэсіянскай позе. Яго занадта містыфікуюць. Расея не такая моцная, каб рабіць выклік сьвету.

**Дашчынскі**: Пуцін кажа пра бандэраўцаў, кажа, што не прызнае новую ўладу...

**Алексіевіч**: Гэта сыходзіць з аднаго, што яны сур'ёзна ня ставяцца да Ўкраіны як да асобнай дзяржавы. Ім здаецца, што той, хто сышоў з гэтага расейскага шляху, то гэта нейкія здраднікі. Яны нават са сваёй элітай наладзілі разборкі: калі ты ня з намі, то ты ўжо нацыянал-здраднік. На гэтым фоне ўжо Лукашэнка выглядае меншым дыктатарам, чым Пуцін. Ва ўсякім разе ў нас няма гэтых дзікіх законаў пра сэксуальныя меншасьці, аб абароне праваслаўя. Я нават зьдзівілася, што мы не паўтарылі гэтыя глупствы.

**Дашчынскі**: Лукашэнка кажа, што ён супраць фэдэралізацыі Ўкраіны, прызнае легітымнасьць уладаў. Вы верыце гэтым заявам?

**Алексіевіч**: Я наогул ня веру вялікім палітыкам. Я думаю, што яны самі ня ведаюць, у што яны вераць. Яны будуць верыць у тое, што на гэты момант служыць іх нейкім мэтам. Я ня веру ні Пуціну, ні Лукашэнку. У нашых краях палітыкам нельга верыць. А тым больш такім таталітарным. Мы бачым, што ёсьць пераапранутыя расейскія вайскоўцы ва Ўкраіне. А Пуцін глядзіць у твар сьвету і кажа, што там іх няма. Ён казаў, што іх не было і ў Крыме. Эўрапейцам таксама цяжка нас зразумець. Мне здаецца, што Абама і Эўропа паводзяць сябе вельмі разумна. Вось Лукашэнка кажа, што гэта слабыя палітыкі. А гэта насамрэч сучасныя палітыкі. Гэта палітыкі, якія прадстаўляюць грамадзтва, якое зусім ня хоча абуць дурныя боты, узяць аўтамат і некуды ісьці. Людзі любяць жыцьцё і ўмеюць жыць. У іх зусім іншыя каштоўнасьці. Ніякі вайсковец там ня скажа, як нядаўна казаў Грачоў, што нашы хлопцы паміралі ў Чачні з усьмешкай. Такое мог сказаць чалавек, які вылез зь нейкай барыкады, на якой правёў усё жыцьцё.

## «Нас чакаюць вельмі вялікія выпрабаваньні»

17 верасьня 2014
Іна Студзінская, Менск

*16 верасьня ў менскай крэатыўнай прасторы «Цэх» адбылася адкрытая дыскусія з удзелам пісьменьніцы Сьвятланы Алексіевіч «Час для нон-фікшн: размова пра краіну і літаратуру». На сустрэчу прыйшло больш за сотню чалавек, пытаньні задавалі ўсё ахвотныя. Прапануем некаторыя адказы і разважаньні Сьвятланы Алексіевіч.*

**Пытаньне**: У вас украінскія карані. Перажываеце, баліць за Ўкраіну?

**Алексіевіч**: Ня тое слова... Учора я паўгадзіны плакала. Пасьля таго, што я бачыла на вайне ў Афганістане, пасьля таго, што я чула ад герояў сваіх кніг, мне заплакаць цяжка... Але я адкрыла інтэрнэт, і там было відэа: вялікія рэфрыжэратары ехалі па ўсёй Украіне і пакідалі труны. І на многія дзясяткі кілямэтраў уздоўж дарогі людзі стаялі на каленях. Ведаеце, гэта немагчыма... Я ўглядалася ў твары гэтых людзей. Гэта былі простыя савецкія людзі: мужыкі, па якіх бачна, што п’юць, жанчыны, якія ўсё цягнуць на сабе... Стаялі на каленях і дзеці, якія, ня дай Божа, яшчэ дажывуць да вайны. Я глядзела на гэтыя твары і думала: чырвоны чалавек яшчэ не сышоў, і гэтае разьвітаньне будзе яшчэ вельмі доўгім.

Украіна сёньня — прыклад для ўсіх нас. Вось гэтае жаданьне разьвітацца зь мінулым канчаткова — вартае павагі. Я пісала прадмову для кнігі, якую сабрала Аксана Забужка, дзе людзі казалі, чаму яны ішлі на Майдан. Я чытала гэта і думала: наўрад ці ў нас на такім узроўні гэта казалі б. І не магу сказаць, што нашы людзі на гэта няздольныя. Проста такая неабуджанасьць. А там была ўзрушанасьць людзей. Яны былі абуджаныя ад сну, і так можна распавядаць толькі ў стане ўзрушанасьці. Ва Ўкраіне адбываецца штосьці галоўнае для ўсіх нас, галоўны адказ на нейкія пытаньні, а ў нас не хапала сіл, ні інтэлектуальных, ні народных. А яны гэта зрабілі, хаця ім дарага гэта абышлося, але яны гэта зрабілі.

**Пытаньне**: А ў Беларусі хутка будуць зьмены?

**Алексіевіч:** Не, не. Ня хутка, ня хутка.

**Пытаньне**: Пра што сёньня варта гаварыць і пісаць у першую чаргу?

**Алексіевіч:** У кожнага пісьменьніка свой шлях: хтосьці піша пра гэта, хтосьці — пра іншае. Калі казаць пра мой шлях, 30 гадоў я займалася вывучэньнем таго, хто мы: чырвоная ідэя і чырвоны чалавек — што гэта было. Але ўсё адно цікавілі мяне рэчы больш глыбокія: што такое наагул — чалавек? І вось сёньня новыя ідэі маіх кніг — пра каханьне і пра старасьць — гэта наагул пра чалавечае жыцьцё, хто мы такія? Навошта? Як? Гэта тыя пытаньні, якія мы сабе ніколі не задавалі. Былі вайна, Чарнобыль, Афганістан... Ніколі не

было ў нас размоваў пра шчасьце, пра каханьне, гэта неяк за межамі нашай культуры.

**Пытаньне**: Чаго чакаць ад Вас у гэтым годзе? Ці будзе новая кніга?

**Алексіевіч**: Ад мяне — не. Я вельмі доўга пішу свае кнігі. Пачуць гук часу, пачуць дух, ухапіць вобраз — для гэтага трэба вельмі шмат часу. Нягледзячы на тое, што мая новая кніга цяпер выходзіць у многіх краінах, я шмат ежджу, — але як толькі ў мяне здараецца паўза, я запісваю людзей, размовы зь імі, і вось па гэтых тэмах, якія мяне цікавяць, хачу зразумець гук.

**Пытаньне**: Шмат часу Вы ўжо на радзіме, да гэтага шмат гадоў жылі ў Нямеччыне, Швэцыі, Італіі. Не стаміліся на радзіме? Ці не ўзьнікае жаданьне зьехаць зноў?

**Алексіевіч**: Не, я нікуды не хачу зьехаць, я ўжо прыехала. Я буду жыць тут. Ну а туды я вельмі часта і шмат ежджу, паколькі выходзяць кнігі, спэктаклі, фільмы. Але я хачу жыць дома, мне тут падабаецца, мне падабаюцца нашы людзі. Каб пісаць, трэба жыць тут. Хоць тое, што адбываецца вакол, палохае мяне. Да таго ж, сытуацыя вакол трывожная: вайна, і ўсё гэта так блізка. Па-мойму, нас чакаюць вельмі вялікія выпрабаваньні.

**Пытаньне**: Вы адышлі ад савецкага мэнталітэту, а расейскага ніяк яшчэ ня можаце пазбавіцца. Ці вернецеся Вы ў стан беларускай мовы і ў стан беларускай культуры?

**Алексіевіч**: 20 гадоў мне задаюць тое самае пытаньне... Я вельмі хварэю за беларускую мову і культуру і вельмі хацела б, каб гэта была асоб-

ная незалежная краіна, і каб яна ацалела ў гэтым жаху, які насоўваецца, і мы нічога ня можам зрабіць. Але я нарадзілася ў той час, калі была гэтая ўтопія, я ішла за ёю, і ўтопія размаўляла на расейскай мове. Зрабіць тое, што я зрабіла, на беларускай мове было немагчыма. Я займалася цэлым агромністым савецкім сьветам. У гэтым пытаньні, якое вы задалі, ёсьць адчуваньне, што мы ня можам пусьціць сябе ў вялікі сьвет, а ён размаўляе на многіх мовах, размаўляе па-рознаму. Калі я чытаю Памука, для мяне важна штосьці зразумець пра чалавека, калі я чытаю Зарэцкага, таксама для мяне важна зразумець пра чалавека. І сама мова для мяне ўжо не істотная, паколькі я ня буду ўжо пісаць на беларускай мове. Я ў гэтай культуры, і, думаю, для гэтай культуры я ўжо нешта зрабіла.

**Пытаньне**: Ці ёсьць у Вас прадчуваньне вайны?

**Алексіевіч**: Калі я зьбірала матэрыял для кнігі «Час second-hand», я вельмі шмат езьдзіла па Ўкраіне, была ў Казахстане, Сібіры, Маскве. І калі я апавядала сваім расейскім сябрам, што я там бачыла і чула, яны казалі: «Сьвятлана, гэта ўсё прайшло, цяпер дэмакратыя, усё гэта незваротнае, гэта ў вас у Беларусі яшчэ такое магчыма. А ў нас усё ў мінулым». Ну і што мы бачым цяпер? Адкуль вылезла ўся гэтая дрымучасьць, уся гэтая нянавісьць? Краіна ператварылася зноў у ізгоя. І гэта, па-мойму, больш страшна і небясьпечна за тое, што было пры Савецкім Саюзе. Таму што тыя людзі, якія цяпер ва ўладзе, яны нават менш

адукаваныя і ня стрыманыя ніякай ідэяй, ніякім марксізмам-ленінізмам, які ўсё ж заганяў думкі ў нейкую загародку. А тут — законы шпаны, законы грошай, законы невуцтва».

**Пытаньне**: Як Вы ставіцеся да імпэрыі і да расейцаў?

**Алексіевіч**: Я думаю, што імпэрыя яшчэ не сышла. І асабіста ў мяне вельмі трывожнае адчуваньне, што без крыві яна ня сыдзе. Тое, што вайна будзе ва Ўкраіне — гэта несумненна. І тое замірэньне, пра якое дамовіліся ў Менску — яно ненадоўга. І ад таго, што я чула ад людзей у Расеі, у мяне ўвесь час было прадчуваньне магчымасьці грамадзянскай вайны ў самой Расеі.

Разваліласа вялікая краіна. Але асноўная махіна — Расея — засталася. І сьвет нядоўга пажыў з наіўнасьцю і рамантызмам. Я памятаю 1989 год, калі разбурылі Бэрлінскі мур. Мы зь сяброўкай заблукалі ў Бэрліне і запыталіся ў пажылой пары, як прайсьці кудысьці. І калі яны даведаліся, што мы рускія — сталі нас цалаваць, абдымаць. Яны не падзялялі нас на беларусаў, расейцаў. Цяпер усё наадварот. Нейкі італьянскі рэстаратар вывесіў аб'яву: «Расейцаў не абслугоўваем». Зараз зноў спалохаліся: што ў гэтай бездані, дзе ёсьць ядзерная зброя і цалкам вар'яцкія геапалітычныя ідэі? Ды яшчэ адсутнасьць паняцьця пра міжнароднае права, пра крохкі сьвет, які ледзьве зацыравалі? Гэта вельмі складаныя працэсы.

Я нядаўна прыехала з Масквы і была вельмі ўзрушаная. Быццам бы разумныя інтэлектуалы, пісьменьнікі — і адкуль гэты патрыятычны чад,

гэтая нянавісьць і да Эўропы, нянавісьць і да мінулага, і да таго, што адбылося? Гэта страшна. У Расеі ідзе вельмі небясьпечны працэс. Я ўжо казала, што будзе вялікая вайна. А вялікая вайна яшчэ больш правакуе чалавечую прыроду.

Мне падаецца, у беларусаў гэта ўсё ня так. Побач з намі Эўропа, мы вельмі патрыярхальная краіна, і хрысьціянская культура адыгрывае сваю станоўчую ролю. У нас няма гэтай стыхійнасьці, гэтай вольнасьці нават у мэнталітэце. Гэта ўсё ж іншы сьвет.

Ня ведаю, як вы, але я жыву з пачуцьцём паразы. Тая наіўнасьць і рамантызм 1990-х, што заўтра будзе іншы сьвет, што аўтобусы павязуць нас у цудоўную будучыню, прайшоў. Цяпер я думаю: адкуль мы ўсё гэта ўзялі, прыдумалі? Быццам разумныя людзі...

## «Быць дысыдэнтам — гэта ў нас нармальна»

22 кастрычніка 2014
Радыё Свабода

*Учора беларуская пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч атрымала званьне афіцэра Ганаровага ордэну мастацтваў і літаратуры Францыі. Узнагароджаньне адбылося ў рэзыдэнцыі амбасадара Францыі ў Беларусі. З гэтай нагоды Свабода пагутарыла са Сьвятланай Алексіевіч пра прызнаньне — за мяжой і дома.*

**Свабода**: Сьвятлана Аляксандраўна, шчыра віншуем Вас з гэтай ганаровай узнагародай! Раскажыце, якія ўражаньні ў Вас засталіся ад гэтай падзеі?

**Алексіевіч:** У мяне шмат французскіх літаратурных узнагарод, але гэта такая ўрадавая ўзнагарода. Больш за ўсё мне спадабалася, як гэта робяць французы. Мне патэлефанавалі з амбасады, сказалі, што вось вы атрымалі ўзнагароду і вы можаце запрасіць 20–30 сваіх сяброў і адзначыць зь імі ў нас гэты вечар. Таму ўзнагароджаньне адбывалася зусім нефармальна. Я сапраўды запрасіла сваіх сяброў, я даўно ўжо не жыла дома, і прыемна было, што ўсе мае сябры прыйшлі, тым больш, што многіх зь іх я ўжо даўно ня бачыла. Гэта быў добры вечар.

**Свабода**: Гэта далёка ня першая ўзнагарода, якую Вы атрымліваеце на міжнародным узроўні,

але ў Беларусі вашы заслугі да гэтага часу ніяк не адзначаныя. Чаму так адбываецца?

**Алексіевіч**: Таму што ў Беларусі сёньня тая ўлада, якой такія людзі, як я, не патрэбныя. І абсалютна зразумела, што яна ігнаруе маё існаваньне. Мяне няма ні на радыё, ні на тэлебачаньні, і мае кнігі тут не выходзяць. Гэта такая палітычная сытуацыя, да якой я стаўлюся абсалютна нармальна. Быць дысыдэнтам у адносінах да ўлады — гэта ў нас нармальна, гэта ў нас традыцыя.

Іншая справа, што цяжка быць дысыдэнтам у адносінах да ўласнага народу. Гэта тое, што я чую ад сваіх расейскіх сяброў, калі яны ў меншасьці сярод уласнага народу. Гэта тое, што мы тут, эліта, адчуваем паразу, таму што ў народа іншы выбар, іншае разуменьне таго, што адбываецца. Увогуле пра гэта мая апошняя кніга «Час second-hand». Мы думалі, што так лёгка можна вызваліцца ад нашага мінулага. Але не. Гэты постсавецкі прамежкавы час будзе трываць яшчэ вельмі доўга. Вызваленьне — гэта вельмі доўгі працэс. Дзякуй Богу, што ў нас пакуль яшчэ не страляюць...

**Свабода**: Наколькі для Вас як для пісьменьніцы важнае прызнаньне на радзіме? Або Вы да гэтых пытаньняў ставіцеся больш касмапалітычна...

**Алексіевіч**: Не, вядома, я б хацела, каб мяне як мага больш выдавалі ў Беларусі, Расеі. У Расеі якраз выходзяць мае кнігі, там мяне запрашаюць выступаць і ва ўнівэрсытэты, і ў кнігарні. Але для мяне тое, каб мяне чытаў мой чытач, сярод якога я жыву — гэта вельмі шмат значыць. Таму

я пажыла 11 гадоў у Эўропе і вярнулася дадому. Я жыву інтэлектуальна ў сьвеце, але я вельмі прывязаная да свайго дома.

**Свабода**: Калі апошні раз у Беларусі выдаваліся вашы кнігі?

**Алексіевіч**: Напэўна, апошняя кніга выйшла ў год прыходу Лукашэнкі да ўлады. Потым ужо не выдавалі. Адзінае, што я павінна прызнаць, што мой пяцітомнік, які быў выдадзены ў Расеі, ёсьць у беларускіх крамах. Але ў яго нейкая ашаламляльна вялікая цана — для нашых людзей проста непад'ёмная.

## Алексіевіч не патрапіла ў тройку прэміі «Вялікая кніга», хоць чытачы аддалі ёй перавагу

25 лістапада 2014
Кацярына Зайкоўская

*Сёлета расейскую прэмію «Вялікая кніга» атрымаў раман Захара Прылепіна «Обитель». Другая прэмія ў Уладзіміра Сарокіна за раман «Теллурия», а трэцюю атрымаў Уладзімір Шароў за кнігу «Возвращение в Египет».*

Пры гэтым, паводле апытаньня на сайце прэміі, чытачы аддалі перавагу кнізе беларускай пісьменьніцы Сьвятланы Алексіевіч «Час second-hand».

Прэміяльны фонд прэміі «Вялікая кніга» складае 6,1 млн расейскіх рублёў.

Напярэдадні вызначэньня пераможцаў **Сьвятлана Алексіевіч** паведаміла Свабодзе з Масквы, што вельмі некамфортна пачуваецца ў шорт-лісьце разам з Захарам Прылепіным:

«Адчуваю сябе вельмі, вельмі некамфортна. Справа ў тым, што гэты чалавек абсалютна іншых перакананьняў. Я лічу, што пісьменьнік, які прапаведуе вайну, абараняе яе, і яму гэта падабаецца, — гэта не пісьменьнік, не прафэсіянал. Гэта чалавек нейкай іншай прафэсіі».

24 лістапада 2014 году скончылася традыцыйнае чытацкае галасаваньне «Вялікая кніга», паводле якога першае месца атрымала Сьвятлана

Алексіевіч. Захар Прылепін — на другім. Алексіевіч з гэтай нагоды сказала:

«У народным галасаваньні я перамагла Захара Прылепіна. Гэта мяне пераканала ў тым, што ня ўсе тут зьехалі з глузду і ня ўсіх захапіла мілітарысцкая гістэрыя. Мне здаецца, што людзі самі зьбянтэжаныя і разгубленыя. Ёсьць нармальныя людзі. Народнае галасаваньне мяне вельмі парадавала. Нават не з-за таго, што я перамагла, а з-за таго, што не атрымаў першае месца Захар Прылепін, які вельмі нахабна ішоў да перамогі».

Разам з тым Сьвятлана Алексіевіч сказала, што ня мае спадзеваў на перамогу ў конкурсе — на яе думку, журы можа не ўлічыць вынік народнага галасаваньня і зрабіць выбар на карысьць Захара Прылепіна:

«У мяне няма ўпэўненасьці, што я перамагу. Таму што ў агульным стане расейскае грамадзтва сёньня вельмі нечаканае, вельмі агрэсіўнае. Увогуле, ёсьць рэваншысцкі комплекс у расейскага грамадзтва».

## Першая пастаноўка паводле «Часу second-hand» — у Магілёве

27 студзеня 2015
Радыё Свабода, Магілеў

*27 студзеня ў Магілёўскім драматычным тэатры адбудзецца грамадзкі прагляд новага спэктаклю «Час second-hand» паводле аднайменнага твору Сьвятланы Алексіевіч. 28-га — прэм'ера. У Беларусі гэта — першая пастаноўка паводле кнігі вядомай пісьменьніцы, да якой улады ставяцца з падазронасьцю і недаверам. Паставіў спэктакль актор магілёўскага тэатру **Ўладзімер Пятровіч.** Напярэдадні рэжысэр-пастаноўшчык адказаў на пытаньні беларускай Свабоды.*

З Уладзімерам Пятровічам гутарым у ягонай грымёрцы. У спэктаклі, кажа суразмоўца, тры маналёгі, узятыя з твору Сьвятланы Аляксеевіч «Час second-hand». Падзеі адбываюцца ў Савецкім Саюзе, у перабудову:

«Гэта маналёгі людзей пра час, сябе, пра сытуацыі, у якія яны траплялі і якія рабілі іх альбо мацнейшымі, альбо ламалі».

Рэжысэр-пастаноўшчык заўважае, што твор Сьвятланы Алексіевіч выдаўся няпростым для спэктакля. Дужа ён эмацыйны. Некаторыя актрысы, кажа суразмоўца, напачатку не вытрымлівалі і зрываліся на плач. Ён жа ўзяўся за пастаноўку, бо ня мог заставацца абыякавым да тых падзеяў, якія адбываюцца вакол нас усіх.

## Алексіевіч пра Пуціна і Саўчанку: «Сорамна ваяваць з жанчынай»

Радыё Свабода
10 лютага 2015

*Група грамадзкіх дзеячоў з Расеі, Украіны, Беларусі і іншых краін сьвету зьвярнулася да Ўладзіміра Пуціна з просьбай праявіць «асабістую міласэрнасьць» і вызваліць з-пад варты ўкраінскую вайскоўку Надзею Саўчанку. Свае подпісы пад лістом, апублікаваным на інтэрнэт-сайце «Новой газеты», паставілі ўжо больш за пяць тысяч чалавек. У Басманным судзе Масквы сёньня разглядаецца пытаньне аб падаўжэньні арышту Саўчанкі, якая без малога два месяцы трымае галадоўку, лічачы сваё затрыманьне незаконным.*

У інтэрвію Свабодзе пісьменьніца Святлана Алексіевіч тлумачыць, чаму яна чакае ад Уладзімера Пуціна міласэрнасьці.

**Алексіевіч**: Мне вельмі падабаецца гэтая жанчына. Гэта чалавек перакананьня, чалавек з поглядам, гэта вайсковец, які рабіў сваю справу — абараняў сваю радзіму. Я лічу, што ўкраінская армія абараняе сваю радзіму. Яе падманам выкралі, зьвезьлі, ня маюць супраць яе ніякіх доказаў, у яе ёсьць алібі. І калі я падпісвала ліст, я ўзгадала гэты знакаміты здымак, дзе паўголы Пуцін на кані, і я падумала: як гэта ўжываецца, што мужчыны ваююць з жанчынамі? Такімі моцнымі і цікавымі жанчынамі, тым больш, што

ўжо зразумела: трэба зусім няшмат, каб яе ня стала. Сапраўдны салдат паважае сілу іншага салдата— гэта рабілі нават немцы ў часе вайны, колькі такіх прыкладаў! А чамусьці расейская ўлада на гэта ня здольная.

**Свабода**: Вас не засмучае гэты жанр звароту да тырана з просьбай пра міласэрнасьць?

**Алексіевіч**: А каго прасіць, калі ў гэтай краіне ўсё належыць тырану? У гэты пераходны посттаталітарны час мы патрапілі абсалютна ў новыя таталітарныя пасткі, і больш зьвяртацца няма да каго — да Бога і тырана, да каго яшчэ?

Я разьлічваю, што адыграе ролю хаця б мужчынскі сорам — я ўжо ня буду казаць пра нейкія перакананьні. Так, яны — салдаты розных пазыцый, але мужчынскі сорам — ёсьць альбо не?

**Свабода**: Выходзіць, у вайны зноў жаночае аблічча?

**Алексіевіч**: Так, я абсалютны пацыфіст, але заўсёды паважаю жанчын — і гэтая любоў у мяне ад кнігі «У вайны не жаночае аблічча» — я паважаю жанчын такой сілы. Саўчанка мне вельмі падабаецца. І я жадаю, каб яна была жывая!

**Свабода**: Заўтра ў Менску пройдуць перамовы аб спробах чарговага мірнага вырашэньня крызісу ва Ўкраіне. Вы верыце ў посьпех?

**Алексіевіч**: Я ня вельмі веру ў посьпех. Мне здаецца, зброя ўжо занадта доўга гуляе па краіне, і людзі ўжо перайшлі гэтую рысу забойства. І як мы ведаем, гэтыя ўсе замірэньні нават у маленькай Чачні праходзілі вельмі доўга. І я думаю, што тут занадта вялікія геапалітычныя інтарэсы

замяшаныя. Людзі навучыліся забіваць, людзі прывыклі забіваць, людзі знаходзяць гэтаму апраўданьне. І я баюся, што гэта ўсё надоўга. Хоць хочацца верыць, але калі бачыш, зь якой разьюшанасьцю, зь якой лютасьцю яны забіваюць адзін аднаго, калі бачыш, што чалавек можа тварыць зь іншым, як хутка заводзіцца гэтая пякельная машына ў мужчын, вы ведаеце, надзей ня шмат. Але ўсё ж я спадзяюся. Часьцей бы публікаваць гэтыя фатаграфіі няшчасных уцекачоў, дзяцей, якія засталіся без бацькоў... Мне здаецца, каб ад сьлепаты вызваліўся народ, гэта трэба часьцей бачыць. Трэба забіваць ідэі — павінны спрачацца ідэі — а не забіваць людзей. Гэта ўжо як людаедзтва, гэта ўсё ўжо, я ня ведаю, XVI стагодзьдзе.

**Свабода**: Якой разьвязкі канфлікту Вы чакаеце?

**Алексіевіч**: Гэта будзе вельмі доўга цягнуцца, мне так здаецца, у той або іншай ступені. Гэта пагражае, нават калі будзе прыняты нейкі дакумэнт, партызанскай барацьбой. Я баюся, што будзе вялікая вайна. Мы жывем тут побач, і чым больш я гавару зь людзьмі, беларусамі, якія тут побач — ва ўсіх, тым больш, вайна прайшла па Беларусі, кожны чацьвёрты загінуў, Другая сусьветная вайна, і гэтая памяць яшчэ блізкая — у людзей досыць змрочныя прадчуваньні. Але мне падабаецца той розум, які праяўляюць эўрапейскія палітыкі, тая асьцярожнасьць, якую праяўляе Абама. Эўрапейскі чалавек не жадае паміраць, ён не гатовы паміраць. Гэта ў нас знаходзяцца людзі, якія гатовыя паехаць і вось так

паміраць за 15 тысяч у месяц, нават не заўсёды за ідэю, а проста вось за жаданьне пабыць такім мужчынам, хоць гэта — пабыць не мужчынам, а жывёлай. Я баюся, што гэта надоўга. І на мяжы з гэтым мы жывем.

**Свабода**: Вы, з аднаго боку, апэлюеце да маральных каштоўнасьцяў, да маральных нейкіх якасьцяў характару Ўладзіміра Пуціна, калі падпісваеце гэты ліст, а з другога боку, усё, што Вы кажаце, сьведчыць пра пазамаральнасьць таго, што адбываецца. Як гэта спалучаецца ўнутры вашай канцэпцыі разуменьня сьвету?

**Алексіевіч**: Вось я ўвесь час думаю, што ў той культуры, у якой мы жывем, я спадзяюся, усё ж застаецца... Гэта патрыярхальная культура, гэта не сучасная эўрапейская культура, дзе мужчына і жанчына — партнэры, гэта мачызм такі. А з другога боку, вось жанчына як бы на другіх ролях. І таму, зыходзячы з таго, што мы маем, з нашага выхаваньня, з нашых паняцьцяў, я хачу сказаць, што сорамна ваяваць з жанчынай. Сорамна! Сорамна яе так зьневажаць перш за ўсё, сорамна яе так не шкадаваць. Сорамна быць не мужчынам! І ўжо пачынаецца гандаль Саўчанкай, яе імем, яе сымбалем. Гэта такі козыр, які досыць пошла прыхоўваюць палітыкі. Гэты гандаль — памойму, верх цынізму.

## Непазьбежнасьць гета Сьвятланы Алексіевіч

28 красавіка 2015
Віталь Цыганкоў, Менск

У апошнім інтэрвію «Белсату» Сьвятлана Алексіевіч па-свойму ўбачыла місію і функцыю Радыё Свабода. «Радыё Свабода абслугоўвае гета. Яно не абслугоўвае шырокую масу беларускіх людзей, яно абслугоўвае беларускамоўнае гета. І гэта злое, малаадукаванае, прымітыўнае гета... Пачытайце камэнтары да маіх выступаў, гэта менавіта злыя і прымітыўныя камэнтары», — сказала Алексіевіч.

Першае памкненьне, якое ўзьнікае пасьля такіх словаў, — гэта параіць шаноўнай Сьвятлане пачытаць камэнтары на «Нашай Ніве», Tut.by ці Онлайнэры. На Свабодзе, бадай, самая строгая сярод усіх беларускіх мэдыяў прэмадэрацыя камэнтароў. Але баюся, што гэта нічога б не зьмяніла, бо нэгатыўнае стаўленьне да «беларускамоўных» прарывалася ў Алексіевіч некалькі разоў праз усё інтэрвію — часам нават вырывалася спантанна, без адпаведнага пытаньня вядучай. Я ня буду вылучаць вэрсіі наконт таго, чым гэтая «злобная і малаадукаваная група» (паводле Алексіевіч) спрычыніла такую цяжкую псыхалягічную траўму шаноўнай пісьменьніцы. Падзялюся толькі адным сваім уражаньнем — пакуль быў жывы Васіль Быкаў, Алексіевіч так не выказвалася.

Але больш, чым пра што іншае, мне б хацелася пагаварыць пра папулярную апошнім часам мэтафару гета. Прызнаюся, пэўную няёмкасьць выклікае той факт, што «заганяе ў гета» іншых асоба, якая сама знаходзіцца ў гета — толькі ў іншым квартале. Здаецца, Сьвятлана Алексіевіч — гэта не Аляксандар Саладуха, на вуліцах да яе масава не чапляюцца з просьбамі аб аўтографе, яе не публікуюць у дзяржаўных друкарнях, не пускаюць на тэлеканалы, у школы і на ўрачыстыя канцэрты. Яна вядомая даволі вузкаму колу людзей, якія чытаюць беларускую сур'ёзную літаратуру — няважна ў дадзеным выпадку, расейскамоўную ці беларускамоўную. Колькі іх? Адзін працэнт насельніцтва, палова працэнта? Колькі людзей пранікаюцца тымі экзыстэнцыйнымі праблемамі, якія ставіць у сваіх інтэрвію Алексіевіч?

Нядаўна я быў на сэмінары ў Грузіі, і тамтэйшая журналістка скардзілася на тое, як далёкія для большасьці грузінаў пытаньні гендэрнай роўнасьці, эмансыпацыі жанчын, якія цемрашальскія погляды мае пераважная большасьць грузінаў. «Мы (людзі з прагрэсіўнымі поглядамі) у гэтым пытаньні, як на востраве», — казала яна, ня ведаючы, відаць, беларускай мэтафары з «гета» — і я ня стаў падкідаць ёй гэты яркі, але недакладны, як на маю думку, вобраз.

У Чэхіі мясцовы праваабаронца скардзіўся мне, што чэхам нічога ня трэба, ім бы толькі ляжаць на канапе ды піва піць. А амэрыканскі журналіст з нашага радыё зьдзівіў мяне ў свой час развагамі пра тое, якія тупыя большасьць

амэрыканцаў, наколькі яны ня здольныя ўспрымаць сур'ёзную культуру, нават проста глядзець эўрапейскія фільмы.

Прыводжу гэтыя прыклады, каб патлумачыць тую відавочную для мяне рэч, што любы «мысьлячы чалавек» у любым грамадзтве асуджаны на тую або іншую форму гетаізацыі.

Але адны спакойна гэта разумеюць і ўспрымаюць, а другія з тых або іншых прычын спалохана лямантуюць — «ды не, я нічым не адрозьніваюся ад іншых, я з большасьці».

«Мова — гэта ўсё бура ў шклянцы ПЭН-цэнтру, Саюзу пісьменьнікаў, маленькай беларускамоўнай тусоўкі. А выйдзіце на вуліцы — і пабачыце, што ў людзей іншае ў галовах», — кажа Алексіевіч. ОК, выйшаў. І што? Я і без таго ведаю, што ў людзей у галовах — напрыклад, думкі, з кім бы выпіць, падтрымка Лукашэнкі і дзеяньняў Пуціна ва Ўкраіне.

Увогуле, мяне раздражняе гэтае крывадушнае спаборніцтва палітыкаў ці інтэлектуалаў на тэму «хто лепш ведае народ». Альбо гэта наіўная вера, што разуменьне праблемаў «простых людзей» робіць цябе нейкім асабліва мудрым, набліжаным да зрэбнай праўды жыцьця.

«Я дасьледую масавага чалавека», — кажа Алексіевіч. Добрае слова, дарэчы, — «дасьледую». Бо заоляг таксама дасьледуе кузурак, але пры гэтым ён не заяўляе з надрывам, што наблізіўся да іх разуменьня і жыве іхнімі праблемамі. Прабачце, мне гэта нагадвае сюжэты пра цынічных палітыкаў, якія самі езьдзяць на «Бэнтлі», а на сустрэчы

з выбарцамі прыяжджаюць на аўто сярэдняга ўзроўню, каб быць бліжэй да народу.

Па шчырасьці, любы чалавек у Беларусі, якога хвалююць ня толькі практычныя жыцьцёвыя рэчы, а такія «абстракцыі», як свабода, культура, правы — знаходзіцца ў глыбокім гета, а з-за высокага плота з калючым дротам на яго са зьдзіўленьнем пазіраюць «звычайныя грамадзяне».

Цікава, дзе ў гэтай сытуацыі знаходзіцца сам літаратар, чалавек, які працуе са словам. Калі ня ў гета, дык дзе — разам з ахоўнікамі і канваірамі? Ці з марадзёрамі, якія рабуюць і займаюць месцы, вызваленыя тымі, каго загналі ў гета? Ці проста з нэўтральнымі абывацелямі, якіх нічога не тычыцца?

## «Сталін магутным каўпаком лёг на нашу сьвядомасьцьь»

Андрэй Шары, Прага
7 траўня 2015

*Напярэдадні Дня перамогі беларуская пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч дала інтэрвію расейскай службе Радыё Свабода.*

Размова пачалася з кніжкі «У вайны не жаночае аблічча», якая выйшла ў 1985 годзе з цэнзурнымі купюрамі.

**Алексіевіч**: У 2002 годзе, калі ў мяне выходзіў чатырохтомнік у маскоўскім выдавецтве «Время», я напісала новую прадмову да кнігі «У вайны не жаночае аблічча» — пра тое, як шмат пры першым выданьні з кнігі было выкінута, па якіх матывах гэта выкідалі. Па меры таго, як разьвівалася перабудова, многія людзі неяк патроху «падымаліся». Тым больш мае гераіні, жанчыны ваеннага часу. Гэта былі ўжо старыя людзі, як яны сябе называлі, людзі з натуры, якая сыходзіць, але яны не хацелі сысьці, да канца ня выказаўшыся. І яны мне ўжо пасьля выхаду кнігі дасылалі матэрыялы, тэлефанавалі, зь некаторымі я зноў сустракалася. У апошніх перавыданьнях (спачатку чатырохтомнік, потым пяцітомнік) кніга «У вайны не жаночае аблічча» выйшла такая, якой яна была задуманая ў самым пачатку.

Уласныя ўнутраныя абмежаваньні, вядома, у савецкі час і ў мяне таксама былі, і я таксама

не магла нейкія рэчы прыняць, паколькі цэлы пласт сусьветнай ваеннай літаратуры прайшоў міма мяне. Сутнасьць савецкага разуменьня ваеннага супрацьстаяньня была такой: «вайна — бяда», а экзыстэнцыйныя пытаньні адсутнічалі. Пра іх упершыню, і то не зусім да канца, у адкрытай манеры загаварыў Васіль Быкаў. Мы ў цэлым былі занадта прывязаныя да свайго часу, і спатрэбілася пажыць у стане хоць бы духоўнай паўсвабоды (у якой мы да гэтага часу ўсе жывем), каб нейкія рэчы я зразумела і змагла сказаць. Каб я зразумела: чалавек — і страшны, і выдатны, і незразумелы, зло — і яркае, і драпежнае, вайна — страшны, але вельмі яркі і вельмі розны сьвет, і чалавек у гэтым сьвеце таксама вельмі розны. Сёньня, гартаючы апошнія выданьні кнігі, магу сказаць: я зрабіла ўсё, што ў маіх сілах. Было б у мяне ў 1980-я гады сёньняшняе адчуваньне часу, напэўна, часткова іншым было б і разуменьне вайны. Але і трыццаць гадоў таму я зрабіла ўсё, што змагла.

**Шары**: Вы казалі ў адным з інтэрвію, што для вас важнай у працы над ваеннай прозай была традыцыя Алеся Адамовіча. Як вы ацэньваеце савецкую літаратуру пра вайну? Чаму не напісана вялікага расейскага раману пра вялікую вайну, як вы лічыце?

**Алексіевіч**: Я думаю, паўплывала абмежаваньне ідэй савецкага часу. Сталін магутным каўпаком лёг на нашу сьвядомасьць — і, як высьвятляецца, гэты каўпак да гэтага часу прыціскае і новыя пакаленьні, і валадароў, і масавую

сьвядомасьць. Мы бачым, што пачынаецца новае адраджэньне Сталіна. І вядома, наша ўяўленьне аб сьвеце было моцна звужанае, сьвет дзяліўся толькі на ахвяры і катаў, а сьвет насамрэч куды больш складаны. Калі паглядзець, што дзеецца сёньня ва Ўкраіне, адкуль я нядаўна прыехала, то там палова людзей — закладнікі, якія апынуліся ў сытуацыі акупацыі. Я бачыла вочы ўцекачоў, зусім разгубленыя, сьвет для іх пахіснуўся. Цэлае пакаленьне старых савецкіх людзей ад інфарктаў і інсультаў сёньня памірае, іх сьвет абсалютна абрынуўся.

Мы былі паралізаваныя гэтай карцінай чорна-белага сьвету, нават найлепшыя, нават самыя таленавітыя людзі. Як казаў, здаецца, Усевалад Гаршын ці Леанід Андрэеў, для нас вайна — бяда, а вайна насамрэч — гэта вар'яцтва. Я ўжо адношу сябе да пакаленьня, якому ўдалося вырвацца з чорна-белага ўспрыманьня вайны. Для нас, вядома, вайна ставіць велізарную колькасьць экзыстэнцыйных пытаньняў: чалавек застаецца сам-насам з думкай аб тым, што ён можа забіць іншага чалавека. У чым справядлівасьць вайны, якая адноснасьць гэтай справядлівасьці? Адзін з маіх герояў сказаў: «Я напісаў завяшчаньне, каб, калі я памру, мае мэдалі не хавалі са мной, як гэта зрабілі з маімі аднапалчанамі, а аднесьлі іх у царкву. Бо і я забіваў». Гэта іншы, экзыстэнцыйны ўзровень разуменьня вайны.

На жаль, экзыстэнцыйная рэфлексія ў нашай культуры адсутнічае — гэта тычыцца і лягернай тэмы, і сталінскай тэмы, і вайны, асабліва парты-

занскай вайны, сумленная кніга пра якую яшчэ не напісана. Разумееце, вялікі раман магчымы, толькі калі ў яго аснову лягуць асабістыя, экзыстэнцыйныя пытаньні — чалавечай прыроды, узаемаадносін з космасам. Калі ставяцца пытаньні не пра тое, хто такі Сталін, а пра тое, што такое чалавек. Гэтыя пытаньні былі для нас у савецкі пэрыяд закрытымі. Вось я гляджу на сусьветную літаратуру: яны былі бліжэй да гэтых пытаньняў, яны былі болей свабоднымі. Можа быць, таму моладзь цяпер чытае Рэмарка, а не чытае Юрыя Бондарава, хоць «Гарачы сьнег» — для свайго часу вельмі таленавітая рэч. Але час цяпер вырваўся на агульны прастор, у агульнае жаданьне зразумець чалавека: навошта наогул усё гэта, хто ён, што ён? А мы зноў зачыніліся ў нейкую ракавіну, у абсалютна ўнутраную сацыяльнасьць.

**Шары**: Вы згадалі Юрыя Бондарава, ён бадай ці не апошні з жывых пісьменьнікаў «пакаленьня лейтэнантаў», а пасьля іх шмат і дэталёва пра вайну ўжо ніхто не пісаў. Як Вы лічыце, чаму ў апошнія дзесяцігодзьдзі ўпала цікавасьць да тэмы Другой сусьветнай вайны? Леў Талстой напісаў «Вайну і мір» праз паўстагодзьдзя пасьля заканчэньня вайны з Напалеонам. У Расеі быццам бы прыйшоў час, калі трэба ставіць тыя самыя экзыстэнцыйныя пытаньні, пра якія Вы кажаце. Чаму ніхто з Вашага пакаленьня пісьменьнікаў-мэтраў ці больш маладых літаратараў не зьвяртаецца да гэтай тэмы ўсур’ёз?

**Алексіевіч**: Таму што наша постсавецкая культура жыве ў закрытым стане. Мы ня выйшлі ў

адкрыты сьвет, мы не ўпусьцілі ў сябе сьвет. У гэтым зачыненым стане мы ня можам набыць сувязі з новымі маладымі людзьмі, таму што гэтыя маладыя людзі належаць іншаму сьвету. А закрыты стан культуры нараджае такія самыя абсалютна закрытыя, гермэтычныя кнігі, яны не цікавыя ні зьнешняму сьвету, ні маладым чытачам. Калі маладое пакаленьне і чытае нешта, то ўспаміны Мікалая Нікуліна пра вайну — кнігу, якая недзе доўга ляжала, яе не было, і раптам яна зусім у новым вобразе прадставіла вайну. Або кніга пра вайну актора Георгія Жжонава. Гэтыя людзі ішлі ад асабістага досьведу, вайна або лягер былі іх асабістым узрушэньнем, яны не паддаліся нівэліроўцы прапаганды. І, магчыма, выратавала іх кнігі яшчэ і тое, што яны не былі прафэсійнымі літаратарамі, у іх не было навыку банальнасьці, канону.

Я, напрыклад, раней вельмі шмат чытала пра вайну (хоць ужо даўно не чытаю), але вось Нікуліна я прачытала, і гэта было для мяне адкрыцьцё, гэта было цікава. Вядома, у абставінах той гермэтычнасьці, у якую мы зноў апускаемся, чакаць нараджэньня моцных і яркіх рэчаў зусім не прыходзіцца. Затое ёсьць у нас прыдворныя пісьменьнікі, накшталт Захара Прылепіна і падобных яму, зь іх ідэямі гвалту... Мастак ня можа прымаць ідэю гвалту, сапраўдны мастак ня можа ў нашы дні быць імпэрцам, дзяржаўнікам, гэта не сумяшчаецца. І вядома, у такім коле ідэй нічога значнага ня можа нарадзіцца — тым больш калі Дума друкуе зусім сярэднявечныя ўказы: заба-

раніць, нельга думаць... Што гэта за грамадзтва, што за культура, калі казакі з нагайкамі будуць вырашаць, які спэктакль ставіць, а які не? Ну які вялікі новы раман у гэтых умовах можа зьявіцца, як можа захавацца вялікі новы чалавек? У часы Сталіна былі Андрэй Платонаў і іншыя, але, напэўна, тады яшчэ заставалася энэргія духоўнага супраціву, а цяпер, праз сто гадоў, яна, па-мойму, канчаткова задушана.

**Шары**: Даводзіцца, значыць, адмаўляцца ад разуменьня таго, што «паэт у Расеі болей чым паэт»? А чаму постсавецкія грамадзтвы (перш за ўсё я маю на ўвазе расейскае і беларускае, і ў значна меншай ступені ўкраінскае грамадзтва) «не ўпусьцілі ў сябе сьвет»? Улада вінаватая, народ вінаваты, грамадзкія ўмовы так склаліся — у чым прычына, як Вы яе бачыце?

**Алексіевіч**: Самая складаная праблема, што ў нас засталася ад савецкага часу — гэта, вядома, сьвядомасьць чалавека. І ўлада, і эліта, і грамадзтва аказаліся няздольнымі пабудаваць новую дзяржаву, абжыць новыя ідэі, як гэта зрабілі нашы суседзі — тая самая Прыбалтыка, тыя самыя Чэхія і Польшча... Там эліта паволі робіць сваю працу, яна выракляе новыя ідэі. Як мне сказаў адзін польскі рэжысэр, «ваша эліта пабегла да рэштак са стала алігархаў, а ў нас алігархі хочуць, каб мы іх запрасілі да свайго стала» — мастак у гэтых сусьветах займае цалкам рознае месца. Калі я раптам чую ад вядомага расейскага тэатральнага дзеяча: ня сорамна абвяшчаць па тэлевізары, што ў цябе ў самалёце стаіць залаты ўнітаз, ён жа

зароблены... Ці калі вядомая журналістка кажа: у чалавека з грашыма — асаблівы пах, гэта асаблівы чалавек, паколькі яго грошы маюць нейкую энэргію, сілу... Я ўяўляю, сказала б яна гэта дзенебудзь у Францыі — ёй бы назаўтра ніхто рукі не падаў!

Няма маральных правілаў, няма маральных законаў, ёсьць законы паняцьцяў, законы мафіі, законы выпадкова прыхопленых бізантыйскіх або нейкіх яшчэ ідэй. Няма магутнага ядра эліты, якое б генэравала новыя ідэі. Усё гэта прыхоплена, усё гэта досыць прымітыўна. Хай грошы з кішэняў сыплюцца, але ўсё роўна людзі з такімі паняцьцямі — чужыя для сьвету, сьмешныя ў вонкавым сьвеце, усё роўна яны выклікаюць страх, а не павагу. Не далей як учора ў Бэрліне я ўдзельнічала ў сустрэчы, дзе гаварылася аб гэтых тэмах, выступалі пісьменьнікі і палітыкі, у тым ліку нямецкі міністар замежных справаў Вальтэр Штайнмаер. Гэта зусім іншы ўзровень размовы: гаварылася аб гуманітарных каштоўнасьцях, аб тым, што дзяленьне сьвету на катаў і ахвяр — вельмі спрошчаны погляд. Я сядзела якраз побач зь міністрам і думала: Бог мой, калі я пачую ў сваёй краіне або ў Расеі ад міністра такія вось інтэлектуальныя словы, тады Расея і Беларусь стануць іншымі дзяржавамі! Але сёньня гэтага няма і новай дзяржавы няма — таму што па ўзроўні разуменьня сьвету мы засталіся на ўзроўні Аляксандра III, які лічыў, што адзіныя сябры Расеі — гэта яе армія і флёт.

**Шары**: Вы згадалі, што нядаўна вярнуліся з Украіны. У гэтай краіне цяпер па-іншаму адзначаюць даты, зьвязаныя з заканчэньнем Другой сусьветнай вайны ў Эўропе. Як Вы ставіцеся да гэтых спробаў?

**Алексіевіч**: Ведаеце, я прыехала з Украіны зь вельмі добрым пачуцьцём. Я выступала там у Кіева-Магілянскай акадэміі, ва ўнівэрсытэце, на кніжным кірмашы «Кніжны арсэнал». Нягледзячы на ўсе складанасьці, у маладых людзей гараць вочы, яны хочуць новага жыцьця, яны гатовыя нават (хоць гэта барбарства, вядома) на ахвяры. У прынцыпе, любое рашэньне праблемы спосабам гвалту, калі гінуць людзі — гэта, вядома, барбарства, гераічнае барбарства або проста барбарства, садысцкае, бандыцкае. Трэба забіваць ідэі, а не людзей. Ужо прайшоў час набіраць абароты тэхнікі і без канца дэманстраваць сьвету танкі і гарматы. У інтэрнэце я кожны дзень бачу якую-небудзь навінку расейскага ўзбраеньня і акрамя як барбарствам гэта назваць не магу.

Украінцы сапраўды хочуць пачаць новае жыцьцё, і сапраўды ёсьць небясьпека, што чыноўнік зноў зжарэ ўкраінскую рэвалюцыю. Але цяпер народ настроены рашуча, можа быць, таму, што з часу аранжавай рэвалюцыі вырасла новае пакаленьне — іх бацькі вынесьлі б Януковіча, а маладыя адмовіліся ўдзельнічаць у гэтай змове супраць сваёй будучыні. Ва Ўкраіне адчуваецца дух часу, адчуваецца дух абноўленай нацыі, якая ня хоча, каб яе зацягвала ў расейскую яміну. Я хацела б верыць, што ў іх гэта атрымаецца, што

не атрымаецца расейскага сярэднявечча, якое сёньня пачалося — зацягнуць украінцаў у стары час. Вельмі б хацелася спадзявацца. У гэтыя дні ва Ўкраіне замест георгіеўскіх стужачак носяць выявы макаў. Яны хочуць сьвяткаваць дзень вызваленьня з усёй Эўропай, а ня ладзіць сталінскія сьвяты асобна ад усяго сьвету.

**Шары**: Як Вы лічыце, пакаленьням, якія жывуць цяпер у Расеі, ва Ўкраіне і Беларусі, удасца неяк прымірыць розныя праўды аб Другой сусьветнай вайне?

**Алексіевіч**: Я думаю, што гэта будзе вельмі доўгая барацьба. Гістарычная праўда — складаная рэч. Я 30 гадоў займаюся дакумэнтамі і магу сьцьвярджаць: дакумэнту не бывае ў чыстым выглядзе, усё роўна гэта чыясьці жарсьць, чыясьці вера, імгненная або доўгатэрміновая, але ўсё роўна — у руках і волі чалавека. Але ўрэшце ўступае ў дзеяньне час. Ёсьць блізкі час, калі мы як бы спавіты ідэямі сёньняшняга дня, воляй тых, хто сёньня ва ўладзе, іх разуменьнем падзей і зьяваў, іх дыяпазонам. Што да Расеі і Беларусі — вядома, гэта стары сьвет. На вуліцах новыя машыны, каля будынкаў трошкі новай архітэктуры, людзі носяць новыя касьцюмы, але гэта стары сьвет, сьвет старых паняцьцяў, і ён сёньня пайшоў у апошні савецкі бой. Не за тую вышэйшую справядлівасьць, якую можна было б атрымаць з савецкага досьведу — там было шмат сталінскіх здрадаў, але ўсё ж у пачатку было і шмат рамантычных спадзяваньняў, якія пацярпелі поўную катастрофу. Скончылася ўсё крывёю, як кажа

адзін з маіх герояў: «Бочкі мяса засталіся і мора крыві, так канчаецца ў нас уся гісторыя...»

Гэта будзе яшчэ вельмі доўгая барацьба, я думаю, яна зацягнецца на некалькі дзесяцігодзьдзяў. Але як бы ні стараліся нашысты і лукашысты — сёньняшняе акасьцяненьне скончыцца, таму што сьвет усё ж рухаецца, і мы ня можам сядзець на ўзбочыне, гэта нерэальна хоць бы з прычыны новых тэхналёгій. На нейкі час можна стварыць рэзэрвацыю, ну, можа быць, нават на працяглы час (у рэшце рэшт, ёсьць досьвед Паўночнай Карэі), але, тым ня менш, чалавецтва рухаецца ў бок больш нармальнага сэнсу жыцьця, калі чалавечы дух не прыніжаны, калі чалавечыя паняцьці не зьняважаныя. Гэта тычыцца ўсяго мінулага — ня толькі вайны, але і ГУЛАГу, які таксама аказаўся спрэчным паняцьцем, як высьвятляецца. Напрыклад, музэй «Перм-36» — ужо не музэй ахвяраў ГУЛАГу, а музэй работнікаў ГУЛАГу. Будзем цяпер кланяцца катам, чытаць, як яны пакутавалі, зьдзекуючыся над ахвярамі...

Усё вельмі перамяшалася, але я думаю, што старая ідэя выдыхаецца. Сьвет ідзе ў бок таго, каб чалавек застаўся чалавекам у тым, у боскім сэнсе слова — пра гэта пісалі Аляксандар Мень і Аляксандар Шмеман — калі сапраўды гаворка ідзе пра дух чалавечы.

## «У кожным расейцу ёсьць трохі Пуціна»

Радыё Свабода
14 траўня 2015

*«Расейскіх журналістаў трэба судзіць за тое, што яны гавораць пра вайну на Данбасе», — сказала на сустрэчы з чытачамі ў Варшаве беларуская пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч.*

Польскі пераклад кніжкі Алексіевіч «Час second-hand» намінаваны на літаратурную прэмію імя Рышарда Капусьцінскага, выдатнага польскага пісьменьніка ў жанры літаратурнага рэпартажу і дакумэнтальнай прозы, які нарадзіўся ў Пінску.

«Сапраўднай праблемай зьяўляецца тое, што расіяне хочуць слухаць тую хлусьню. У кожным расейцу ёсьць трохі Пуціна. Чырвоная імпэрыя адышла, але савецкі чалавек застаўся. Больш чым 100 гадоў выхоўваюць яго ў кульце вайны. І яму ніколі не жылося добра. Савецкага чалавека некалькі дзясяткаў гадоў падманвалі, а потым, пасьля перабудовы, сыстэматычна абкрадалі. Таму гэта вельмі жорсткі і агрэсіўны тып чалавека», — цытуе Сьвятлану Алексіевіч сайт tokfm.pl.

Сайт згадвае адзін інцыдэнт падчас сустрэчы Алексіевіч у Варшаве — калі яна закранула тэму вайны ў Данбасе, нехта з залі выкрыкнуў: «Гэта бандэраўская прапаганда!». На што пісьменьніца адрэагавала:

«Якраз з-за такіх рэакцый мы пачынаем страляць адны ў адных. Калі б сёньня паслалі ў спакойную Беларусь сто танкаў, выявілася б, хутчэй за ўсё, што частка хоча далучыцца да Польшчы, частка да Расеі. Адно толькі несумненна: пралілася б кроў».

## Алексіевіч атрымала прэмію імя Капусьцінскага

Радыё Свабода
15 траўня 2015

*Пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч другі раз стала ляўрэатам міжнароднай прэміі імя Рышарда Капусьцінскага за дакумэнтальную прозу.*

Цырымонія ўручэньня прэміі імя Рышарда Капусьцінскага адбылася ўвечары 14 траўня ў Палацы культуры і навукі Варшавы. Прэмія ўручаецца за найлепшую рэпарцёрсую кнігу, якая закранае важныя праблемы сучаснасьці. Яе арганізатары — мэрыя Варшавы і «Gazeta Wyborcza».

Журы пад кіраўніцтвам польскага публіцыста з Швэцыі Мацея Зарэмбы-Бяляўскага ацэньвала 84 кнігі.

У гэтым годзе прэмію атрымалі два ляўрэаты: беларуская пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч за кнігу «Час second-hand. Канец чырвонага чалавека» і польскі пісьменьнік, журналіст Міхал Альшэўскі за кнігу «Найлепшыя чаравікі ў сьвеце», паведаміў зь месца падзеі карэспандэнт «Хартыі 97».

Прэміі ляўрэатам уручала асабіста мэр Варшавы Ханна Гранкевіч-Вальц. Зь вітальнымі словамі выступілі галоўны рэдактар выданьня «Gazeta Wyborcza» Адам Міхнік і вядомы аўстрыйскі публіцыст Марцін Полак.

Выступаючы на цырымоніі, Сьвятлана Алексіевіч падзякавала ўладам Польшчы за падтрымку беларусаў, якія былі вымушаныя пакінуць сваю краіну з-за палітычнага перасьледу на радзіме:

«Я вельмі рада, што другі раз стаю на гэтай сцэне і атрымліваю гэтую ўзнагароду. Усё гэта вельмі для мяне важна, і я нават падумала, што я шчасьлівы чалавек. Рэдка думаеш пра сябе, што ты шчасьлівы чалавек, але я магу гэта сказаць. 40 гадоў я рабіла тое, што хацела рабіць. Мне ўдалося зрабіць тое, што я задумала яшчэ ў юнацтве.

Сваё дзяцінства я правяла ў Беларусі і Ўкраіне і памятаю бясконцы жаночы хор. Як я разумею цяпер, гэта, напэўна, была глыбокая траўма, таму я чула пастаянныя размовы пра «верхніх» людзей, пра сьмерць, пра тых, хто сышоў. І калі я з вуліцы прыходзіла дадому і садзілася за кнігі, мне здавалася, што ўсё роўна ў гэтых кнігах няма таго, што я чую на вуліцы. Цяпер я рада, што гэтыя галасы, якія ўвесь час гучалі ўва мне, у маёй сьвядомасьці, у маіх днях, начах, размовах, цяпер сталі словам, кнігай і належаць сьвету.

Камунізм ня зьнік. Ён, можа быць, цяпер сыходзіць, але сыходзіць зь вялікай крывёю. Калі я сёньня бачу ўкраінскіх уцекачоў, іх твары, асабліва твары дзяцей, мяне не пакідае адчуваньне вялікай вайны.

Асобна я хацела б сказаць словы падзякі Польшчы і асабліва Варшаве за тое, што вы падтрымліваеце беларусаў. Я толькі другі дзень тут і сустрэла ўжо дзясяткі людзей зь Беларусі, якія знайшлі тут прытулак, падтрымку, сяброўскае плячо.

## Чарга па літаратурны «Нобэль»

6 кастрычніка 2015
Ян Максімюк, Прага

### Нацыянальнасьць літаратуры

Францыя — краіна, пісьменьнікі якой атрымалі найбольш Нобэлеўскіх літаратурных прэмій. Зь леташняй прэміяй для Патрыка Мадыяно атрымліваецца агулам 15 штук. Другое месца трымаюць ex aequo ЗША і Вялікабрытанія (па 10 прэмій).

Што варта заўважыць пры нагодзе гэтага ранжыру? А тое, што не заўсёды прэміяваны пісьменьнік пісаў на тытульнай мове краіны, да якой яго залічылі у нобэлеўскіх статыстыках.

Фрэдэрык Містраль (ляўрэат 1904 году) пісаў на аксытанскай мове. Іван Бунін (1933) — парасейску. Сэмюэл Бэкет (1969) — па-француску і па-ангельску. Усе трое здабылі «нобэлі» для Францыі. Іосіф Бродзкі (1987) — у нобэлеўскай камандзе ЗША. Эліяс Канэці (1981) — які нарадзіўся ў Баўгарыі і пісаў па-нямецку — значыцца як ляўрэат Вялікабрытаніі. У гэтых выпадках вырашальным было грамадзянства пісьменьніка ў часе прысуджэньня прэміі, а ня мова, на якой ён пісаў.

Калі аднак вырашала грамадзянства, дык чаму Генрыка Сянкевіча залічылі ў пул нобэлеўскіх ляўрэатаў Польшчы? У 1905-м, калі яго прэмія-

валі, ён быў падданым Расейскай імпэрыі, а Польшчы як палітычнага суб'екту тады не існавала...

Існуе думка — зь якой я абсалютна не пагаджаюся — што літаратура наогул ня мае нацыянальнасьці. Маўляў, пісьменьнікаў трэба дзяліць на геніяў, добрых і графаманаў, а не на нямецкіх, італьянскіх ці вугорскіх. Па-мойму, літаратура, нават тая вяршынная, якая становіцца здабыткам сусьветнай чытацкай аўдыторыі, заўсёды грунтуецца на нацыянальным. «Дон Кіхот» Сэрвантэса, «Пыха і перадузятасьць» Остэн, «Мадам Бавары» Флябэра, «Злачынства і пакараньне» Дастаеўскага, «Будэнброкі» Мана, «Уліс» Джойса — іхная ўнівэрсальнасьць моцна заякараная якраз у нацыянальным, «сваім» для аўтараў. Кніга «Сто гадоў самоты» Маркеса не магла ўзьнікнуць ні ў Гішпаніі, ні ў ЗША, а толькі там, дзе ўзьнікла — у Калюмбіі. Можна дапусьціць, што яна магла б яшчэ ўзьнікнуць у Вэнэсуэле або Мэксыцы (гэтыя краіны спалучае з Калюмбіяй ня столькі агульная літаратурная мова, колькі агульная памяць пра каляніяльнае мінулае), але напэўна ня ў Францыі ці ў Нямеччыне... Існуе моцная повязь паміж культурай, у якой літаратура ўзьнікае, і тым, пра што і як гэтая літаратура гаворыць.

Насамрэч пераважная большасьць літаратуры на сьвеце настолькі моцна «нацыянальная», што і ня мае шанцаў стаць «унівэрсальнай». Тым ня менш — гэта літаратура важная для нацыі, якая яе спарадзіла.

Беларуская літаратура — тыповы прыклад такой «вузканацыянальнай» літаратуры. Янка Ку-

пала і Якуб Колас — пісьменьнікі важныя толькі і выключна для беларусаў. Ніхто Купалу і Коласа ня стане чытаць ні ў Польшчы, ні ў Літве, ня кажучы пра Францыю зь Нямеччынай. Але гэта ня значыць, што Купала і Колас — не-пісьменьнікі ці кепскія пісьменьнікі. Яны — «занадта нацыянальныя» пісьменьнікі.

## Іншыя таксама хочуць

Што б ні казаць пра Нобэлеўскую прэмію, то ўсё ж трэба прызнаць, што яна так ці інакш падымае нацыянальную літаратуру на «ўнівэрсальны ўзровень» у чытацкай сьвядомасьці. За нешматлікімі выключэньнямі, нобэлеўскімі ляўрэатамі станавіліся пісьменьнікі, чыю «ўнівэрсальнасьць» раней ці пазьней пацьвярджалі пераклады на іншыя мовы і выданьні ў замежжы. Гэта адна з прычынаў, чаму нацыянальныя літаратуры, якія пакуль ня маюць нобэлеўскага ляўрэата, так моцна хочуць яго займець.

Не іначай зь Беларусьсю. І справа тут ня ў тым, ці дадуць «нобэля» канкрэтна Георгію Марчуку або Ўладзімеру Някляеву — справа хутчэй у тым, што калі так станецца, то дадуць яго менавіта беларускай літаратуры. Бо беларуская літаратура ўсё яшчэ патрабуе вонкавага прызнаньня, «уваходу на літаратурную мапу Эўропы», каб самасьцьвердзіцца. Ніякага такога самасьцьвярджэньня не патрабуюць літаратуры Францыі, Нямеччыны, Вялікабрытаніі або Італіі. А беларуская — патрабуе, як і многія іншыя літаратуры, якія да гэтай

пары застаюцца ў ценю больш прабіўных літаратураў і моваў...

Хто яшчэ чакае свайго «нобэля», калі мець на ўвазе нацыянальныя літаратуры і мовы?

Пісьменьнікі нідэрляндзкай мовы ні разу не былі ўдастоеныя швэдзкімі акадэмікамі — ні галяндцы, ні флямандцы. Ня маюць нобэлеўскага ляўрэата славакі, румыны, баўгары, альбанцы і ўсе пост-югаслаўскія нацыі — славенцы, харваты, басьнійцы, македонцы і сэрбы з чарнагорцамі. (Іва Андрыч, які нарадзіўся басьнійцам і залічваў сябе да сэрбскай літаратуры — гэта хутчэй агульнаюгаслаўская літаратурная зьява, чым выключна басьнійская або сэрбская).

Ня маюць нобэлеўскіх ляўрэатаў балты (Літва, Латвія, Эстонія) і тры іншыя краіны «Міжмор'я»: Беларусь Украіна, Малдова.

З моцных літаратураў па-за Эўропай «нобэля» ніколі не атрымалі аргентынцы і бразыльцы!

Калі глянуць на Азію, дык там прэміявалі толькі японцаў (2), кітайцаў (2) і індусаў (1).

І ў самой Эўропе ёсьць краіны, якія атрымалі «нобэля» толькі раз і так даўно, што ўсе ўжо пра гэта начыста забылі. Пра Бэльгію, напрыклад (1911). Або пра Фінляндыю (1939).

## Посткаляніяльны сындром

Справа з «нобэлем» для Беларусі выглядае вельмі складанай перш за ўсё таму, што рэальныя шанцы атрымаць яго ў агляднай пэрспэктыве мае толькі Сьвятлана Алексіевіч, якая піша па-расей-

ску. І яшчэ таму, што сытуацыя зь беларускай мовай у Беларусі такая, а ня іншая.

Шмат хто лічыць, што Нобэлеўская прэмія для Сьвятланы Алексіевіч стане «апошнім цьвіком у труну» беларускамоўнай літаратуры. То бок яна стане ўскосным пацьверджаньнем аднаго «крылатага злаcлоўя», паводле якога «на беларускай мове нельга выказаць нічога вялікага».

Гэта, канешне, той гістарычна-эмацыянальны кантэкст, у якім прыхільнікі літаратуры ў Беларусі ўжо некалькі гадоў запар сочаць за букмэйкерскімі прагнозамі адносна «нобэля» і заўзята дыскуюць у сацсетках цягам некалькіх дзён у кастрычніку, што лічыць беларускай літаратурай, а што не.

Я час ад часу і сам уступаю ў такія дыскусіі, прытрымліваючыся меркаваньня, што літаратура на расейскай мове ў Беларусі сёньня — гэта састаўная частка нацыянальнай літаратуры беларусаў.

Асноўны контраргумэнт, які чую ад сваіх апанэнтаў, можна зьвесьці да наступнага пытаньня: А ці ёсьць расейская літаратура на беларускай мове? Або — ці ёсьць польская літаратура на беларускай мове?

Безумоўна, няма ні польскай літаратуры пабеларуску, ні расейскай. Нельга супастаўляць рэчы ex definitione несупастаўляльныя. Гэта ж не Беларусь калянізавала (эканамічна і культурна) Польшчу і Расею, а наадварот. Сытуацыю Беларусі можна больш-менш апраўдана супаставіць

толькі з сытуацыяй тых краінаў, якія былі паддадзеныя жорсткай калянізацыі.

Супаставіць з Ірляндыяй, напрыклад. Або з Калюмбіяй ці Мэксыкай. Зь Нігерыяй таксама не зусім благое будзе параўнаньне.

Ірляндцам не прыходзіць у галаву «аддаваць» брытанцам сваіх нобэлеўскіх ляўрэатаў — Уільяма Ейтса і Шэймаса Хіні — хоць пісалі яны па-ангельску. Габрыэля Гарсію Маркеса і Актавіё Паса ніхто не залічвае да гішпанскай літаратуры, хоць пісалі яны па-гішпанску. І Воле Шаінка таксама належыць не ангельскай літаратуры, а нігерыйскай, хоць піша ён на мове калянізатараў, а не на сваёй роднай (ёруба).

Кажучы, што Алексіевіч, калі яна атрымае Нобэлеўскую прэмію, атрымае яе і для Беларусі — я выступаю проста за новае разуменьне беларускага кантэксту.

Яшчэ іначай: пытаньне ня ў тым, як ставяцца да творчасьці Сьвятланы Алексіевіч расейцы, то бок, ці лічаць яе расейскай пісьменьніцай ці не. Пытаньне перш за ўсё ў тым, як паставімся да яе мы, беларусы. Гэта адзін з тых выпадкаў, калі можна хоць крыху палячыць свой посткаляніяльны сындром і рэальна сказаць Расеі сваё «не».

## Алексіевіч: «Да заўтрашняга дня ніякіх камэнтароў»

7 кастрычніка 2015
Ян Максімюк, Прага

*Свабода патэлефанавала Сьвятлане Алексіевіч з просьбай падзяліцца сваімі адчуваньнямі ў ролі фаварыткі букмэйкераў на атрыманьне сёлетняй Нобэлеўскай прэміі па літаратуры.*

Пісьменьніца сказала, што цяпер яна знаходзіцца па-за межамі Беларусі, і паабяцала пагаварыць з Радыё Свабода пасьля таго, як стане вядомы пераможца. «Да заўтрашняга дня нічога не камэнтую», — падкрэсьліла яна.

Сьвятлана Алексіевіч ужо трэці год запар бачыцца некаторымі букмэйкерскімі канторамі на Захадзе як адзін з найбольш верагодных атрымальнікаў швэдзкай прэміі.

## Як быць з Алексіевіч?

8 кастрычніка 2015
Сяргей Навумчык, Прага

Інфармацыя пра вялікія шанцы Сьвятланы Алексіевіч быць уганараванай Нобэлеўскай прэміяй па літаратуры ізноў актывізавала дыскусію вакол стаўленьня пісьменьніцы да нацыянальных каштоўнасьцяў.

Канешне, няўдзячная справа — спрабаваць аналізаваць тое, што яшчэ не адбылося (і можа ўвогуле не адбыцца). Аднак асабіста я разглядаю верагоднасьць атрыманьня Нобэля Сьвятланай Алексіевіч як вельмі вялікую — калі ня ў гэтым годзе, дык у бліжэйшых. Скажу болей: у тым, што яна ўрэшце атрымае прэмію, у мяне няма ніякіх сумневаў.

Не сумняваюся я і ў рэакцыі.

Лёгка магу ўявіць, як успрыме навіну пра Нобэлеўскую прэмію мая дачка, калі ім у праскай школе абвесьцяць пра навіну: *«Ганна, пісьменьніца з тваёй Беларусі атрымала Нобэлеўскую прэмію!» — «Так? Супэр!»*

І гэтак сама ўганараваньне будзе ўспрынята ў сьвеце: атрымала прэмію пісьменьніца зь Беларусі.

Здавалася б, іншага і быць ня можа: фармальна нобэлеўскі ляўрэат далучаецца да той краіны, пашпарт якой ён мае.

Але тут пачынаюцца нюансы.

Сама магчымасьць наданьня Нобэлеўскай прэміі пісьменьніцы зь Беларусі, якая піша па-расейску, успрымаецца неадназначна.

У 1998 годзе ў эфіры Радыё Свабода адбылася дыскусія на тэму патэнцыйнага беларускага літаратурнага Нобэля, працытую два меркаваньні.

Сяргей Дубавец: «Асабіста я нічога ня маю супраць Сьвятланы Алексіевіч. І калі б зоркі леглі для яе шчасьліва, варта было б шчыра парадавацца за пісьменьніцу, якая піша па-расейску. Але не за Беларусь. Бо, парадаксальным чынам, такая прэмія магла б стаць апошнім цьвіком у труну беларускае мовы, якая пасьля такога прызнаньня расейскамоўнае літаратуры ў Беларусі наўрад ці ўжо ачомалася б да паўнавартаснага грамадзкага існаваньня. Магчыма, яна б атрымала статус ірляндзкае мовы, на якой яшчэ гавораць сяляне ў краіне, дзе сямёра англамоўных пісьменьнікаў носяць званьне ляўрэатаў Нобэля».

Аляксандар Лукашук: «Нобэлеўская прэмія для Беларусі — як Чарнобыль наадварот. Ейнае выпраменьваньне прасякнула б жыцьцё нацыі на пакаленьні наперад і асьвяціла б на пакаленьні назад. У гэтым сьвятле адкрылася б — і так стала існай — уся Беларусь, мінулая і будучая, для сьвету і для сябе самой. Спраўдзілася б Купалава мэтафара пра пачэсны пасад між народамі. З Нобэлеўскага п'едэсталу загаварыла б уся нашая задушаная, закатаваная, расстраляная ў XX стагодзьдзі літаратура і мова. Яна б уваскросла як Хрыстос пасьля зьняцьця з крыжа. Тое, што я сказаў, — аргумэнты слабасьці. Вонкавае прызна-

ньне, пацьверджаньне істотнасьці існаваньня, яго вартаснасьці — патрэбнае тым, хто сумняваецца ў сабе. Беларусы сумняваюцца. Для мяне асабіста гэта быў бы самы шчасьлівы дзень у жыцьці. Толькі слабыя ведаюць, што такое перамога».

Мушу прызнацца, што доўгі час я быў салідарны з ацэнкай Сяргея Дубаўца, але цяпер скарэктаваў меркаваньне.

Не, я не магу прыкласьці вызначэньне Аляксандра Лукашука («Чарнобыль наадварот») — менавіта да Сьвятланы Алексіевіч (зрэшты, аўтар вызначэньня і ня меў на ўвазе менавіта яе — нагадаю, што ў 1998 годзе, калі запісвалася гутарка, сярод найбольш верагодных беларускіх пісьменьнікаў у якасьці Нобэлеўскіх ляўрэатаў называўся Васіль Быкаў).

І справа ня ў мове на якой піша Алексіевіч — а ў яе стаўленьні да мовы, да нацыянальных каштоўнасьцяў.

Увосень 1995-га, пасьля так званага рэфэрэндуму, Сьвятлана Алексіевіч падпісала калектыўны ліст беларускіх пісьменьнікаў (разам з Васілём Быкавым, Нілам Гілевічам, Рыгорам Барадуліным, Уладзімерам Арловым, Васілём Зуёнкам, Карласам Шэрманам, Генадзем Бураўкіным, Сяргеем Законьнікавым, Анатолем Кудраўцом) супраць вяртаньня да савецкай мэтодыкі ў сыстэме гуманітарнай адукацыі (я цытую гэты ліст у сваёй кнізе «Дзевяноста пяты — «Новы крок вышэйшай улады — ня што іншае, як замах на духоўную і інтэлектуальную свабоду нацыі, а значыць, і на яе будучыню»).

Але, на вялікі жаль, у апошнія гады прагучалі зь яе вуснаў словы, якія можна інтэрпрэтаваць як непрыязнасьць да нацыянальнай ідэі. Станоўчых зьменаў у стаўленьні Алексіевіч да беларускай культуры і беларускай мовы я ня бачу.

Праўда, патрабаваць іншага ад Алексіевіч — усё роўна, што папракаць яе ў тым, што ў сваіх творах у 90-ых гадах, пра якія піша, яна акцэнтуе ўвагу не на плюсах аднаўленьня незалежнай Беларусі, а на мінусах распаду СССР. Што абрала сваімі героямі не «адраджэнцаў», а тых, хто новы час альбо ўспрыняў напалохана, альбо не ўспрыняў зусім.

Абіраць тую або іншую тэму, разглядаць яе ў тым або іншым ракурсе — гэта сьвятое права аўтара. Гэтак жа, як права кожнага чалавека — выходзіць на Плошчу ці не выходзіць.

Справа тут у іншым.

Проста я пераканаўся, што мы вельмі перабольшваем фактар замежнага прызнаньня, замежнага аўтарытэту, увогуле — замежнага ўплыву на ўнутранае жыцьцё Беларусі. Перабольшваем найчасьцей у палітыцы, але і ў культуры — таксама.

Ну, не заявіць Алексіевіч у Нобэлеўскай лекцыі, што наяўнасьць дзьвюхмоўя ў Беларусі — гэта правільна. Яна ўвогуле можа і не ўзгадаць Беларусь, хіба што ў зьвязку з тым самым Чарнобылем (а калі прыгадае Чарнобыль — ёй за гэта варта будзе падзякаваць).

І ня будзе яна — я перакананы — бэсьціць беларускую мову і яе носьбітаў, ізноў залічваць іх у

«гета» — занадта ўжо дробна гэта для нобэлеўскага ляўрэата.

Але ўявім — што заявіць, што будзе бэсьціць. І што гэта зьменіць? Павялічыць колькасьць непрыяцеляў беларушчыны? Ва ўстановах, дзе прымаюцца рашэньні, іх і без таго хапае. Беларуская культура, беларускамоўная адукацыя пазбавіцца якіх-небудзь істотных заходніх прэфэрэнцыяў — з-за пазыцыі набэліянта? Ды не было ніякіх прэфэрэнцыяў. Тэма нацыянальнай дыскрымінацыі неаднаразова гучала ў міжнародных аўдыторыях і заўсёды пакідала палітыкаў абыякавымі— не таму, што артыкулявалася недастаткова аўтарытэтнымі асобамі, проста гэтая тэма (у дачыненьні да якой заўгодна краіны, ня толькі Беларусі) не ўваходзіць у катэгорыю прыярытэтных і лічыцца выключна ўнутранай справай краіны. У адрозьненьне ад правоў чалавека, напрыклад.

Таму — няма чаго губляць.

Лёс Беларусі, яе культуры, яе мовы, як і раней, будуць залежаць найперш ад саміх беларусаў, ад нашай самасьвядомасьці, ад нашай адданасьці і салідарнасьці.

А не ад Нобэлеўскага камітэту Швэдзкай акадэміі.

8 кастрычніка 2015 года ў Стакгольме было абвешчана пра наданьне беларускай пісьменьніцы Сьвятлане Алексіевіч Нобэлеўскай прэміі.

Праз некалькі гадзінаў яна прыехала ў офіс незалежнай газэты «Наша Ніва» і адказала на пытаньні журналістаў.

## Літаратурны Нобэль 2015 прысуджаны Сьвятлане Алексіевіч

Радыё Свабода
8 кастрычніка 2015

*Сёньня ў Стакгольме ляўрэатам Нобэлеўскай прэміі ў галіне літаратуры была абвешчаная Сьвятлана Алексіевіч зь Беларусі.*

У сваім вэрдыкце Швэдзкая акадэмія напісала, што Алексіевіч была ўзнагароджаная за «яе паліфанічныя творы, якія зьяўляюцца помнікам пакутам і адвазе ў нашы часы».

Сьвятлана Алексіевіч (нар.у 1948 у Івана-Франкоўску), якая піша на расейскай мове, дэбютавала як журналістка ў 1975 годзе. Яна — аўтар кніг «У вайны не жаночае аблічча» (1985), «Апошнія сьведкі» (1985), «Цынкавыя хлопчыкі» (1990). «Зачараваныя сьмерцю» (1993), «Чарнобыльская малітва» (1997), «Час second-hand» (2013).

Яе кнігі перакладаліся на ўсе асноўныя эўрапейскія мовы.

Перад Нобэлеўскай прэміяй Сьвятлана Алексіевіч атрымала шмат іншых міжнародных прэмій, у іх ліку Прэмію Гердэра (Нямеччына, 1999), Нацыянальную прэмію крытыкі (ЗША, 2006), Прэмію Angelus (Польшча, 2010), Прэмію міру Нямецкага кнігагандлю (Нямеччына, 2013). У Рэспубліцы Беларусь не прэміявалася.

## Марыя Вайцяшонак: «Хочацца крычаць, сьпяваць і танцаваць»

8 кастрычніка 2015
Радыё Свабода

*Вельмі эмацыйна адрэагавала на навіну пра Нобэлеўскую прэмію па літаратуры Сьвятлане Алексіевіч яе блізкая сяброўка Марыя Вайцяшонак.*

«Усе апошнія дні былі як сонечная бура, столькі хваляваньняў і трывогі. Гэта нібы зьява прыроды, а ня справа рук чалавечых, што ў нас у Беларусі Нобэлеўская прэмія!

Хочацца крычаць, сьпяваць і танцаваць. Сказаць што мы, усе яе сябры рады — не сказаць нічога».

Марыя Вайцяшонак сказала, што Алексіевіч цяпер у адной з краін Балтыі, але неўзабаве вернецца ў Менск.

## Барыс Пятровіч: Мы чакалі Нобэля з часоў намінацыі Быкава

8 кастрычніка 2015
Радыё Свабода

*Старшыня Саюзу беларускіх пісьменьнікаў Барыс Пятровіч камэнтуе рашэньне Нобэлеўскага камітэту.*

**Пятровіч**: «Мы сачылі за Нобэлеўскай прэміяй у жывым эфіры. Вельмі рады, што літаратурны Нобэль атрымала Сьвятлана Алексіевіч. Шчасьлівыя, што гэта нарэшце здарылася. Мы вельмі даўно чакаем гэтага — з тых часоў, калі быў намінаваны Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Уладзімер Някляеў. І вось нарэшце гэта здарылася. Гэта найвялікшая падзея для ўсёй беларускай літаратуры, культуры і нашай краіны. Я віншую ўсіх, у першую чаргу саму Сьвятлану Алексіевіч», — сказаў Свабодзе старшыня Саюзу беларускіх пісьменьнікаў.

Барыс Пятровіч выказаў меркаваньне, што літаратурны Нобэль замірыць прыхільнікаў і праціўнікаў Сьвятланы Алексіевіч:

«Яны павінны прымірыцца. Сьвятлана Аляксандраўна была, ёсьць і застаецца грамадзянкай Беларусі. А беларуская літаратура заўсёды існавала ня толькі на беларускай мове, яны была на розных мовах. Так што я думаю, што гэта стане пунктам, зь якога пачнецца замірэньне».

## Севярынец спадзяецца пачуць ад Алексіевіч выступ па-беларуску

8 кастрычніка 2015
Радыё Свабода

*Сустаршыня аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» Павал Севярынец пракамэнтаваў Радыё Свабода прысуджэньне Сьвятлане Алексіевіч Нобэлеўскай прэміі ў галіне літаратуры.*

**Севярынец**: «Мае віншаваньні Сьвятлане Алексіевіч! Тое, што яшчэ адзін прадстаўнік Беларусі атрымаў Нобэлеўскую прэмію — гэта сьведчаньне таго, што беларусы — нацыя таленавітая, гэта нацыя глыбокіх геніяў. Я нагадаю, што нобэлеўскія ляўрэаты ў галіне літаратуры, зьвязаныя зь Беларусьсю або паходжаньнем зь Беларусі, — і Генрых Сянкевіч, і Чэслаў Мілаш. Ёсьць дыскусія ў беларускім грамадзтве адносна мовы — расейскай мовы, на якой піша Сьвятлана Алексіевіч, наконт яе стаўленьня да самой беларускай мовы. Але я спадзяюся, што цяпер, з гэтага нобэлеўскага п’едэстала, спадарыня Сьвятлана выкажа ўжо больш узважаную пазыцыю, і мы пачуем ад яе выступ па-беларуску, пачуем у Нобэлеўскай лекцыі, у выступах імёны і прозьвішчы беларусаў, якія пісалі па-беларуску. Таму, скажам так, ёсьць пэўныя спадзяваньні».

## Лявон Баршчэўскі: «Гэта першы выпадак на постсавецкай прасторы»

8 кастрычніка 2015
Радыё Свабода

*Перакладчык Лявон Баршчэўскі пра тое, што Сьвятлана Алексіевіч атрымала Нобэлеўскую прэмію па літаратуры, даведаўся ад Радыё Свабода.*

**Баршчэўскі**: «Гэта вялікая падзея, зь якой трэба павіншаваць беларускую літаратуру. Наша літаратура заслугоўвае. Гэта першы выпадак атрыманьня прэміі на ўсёй постсавецкай прасторы. Раней толькі расейскія літаратары атрымлівалі, дый тое яшчэ да распаду Савецкага Саюзу.

Характэрна, што я чытаў расейскія сродкі масавай інфармацыі, і ніхто не называе яе «нашай пісьменьніцай». Кажуць — «беларуская пісьменьніца», а «ад нас балятуецца Яўген Еўтушэнка». Трэба павіншаваць. Увага да беларускай літаратуры павялічыцца».

## Чаргінец: «Няхай мільён пойдзе на карысьць Сьвятлане Алексіевіч»

8 кастрычніка 2015
Радыё Свабода

*Старшыня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец адзначыў, што Алексіевіч па-сапраўднаму займаецца літаратурай Беларусі, яна напісала цэлы шэраг твораў.*

**Чаргінец**: «Для беларускай літаратуры гэта вельмі прыемна, што наша аўтарка атрымала прызнаньне такога высокага ўзроўню. У сувязі з тым, што прадстаўнік нашай краіны атрымаў Нобэля, беларускую літаратуру стануць больш чытаць у сьвеце, зьявіцца больш выданьняў на розных мовах — і гэта будзе станоўча ня толькі для самой Сьвятланы Алексіевіч, але і для іншых нашых аўтараў. Я жадаю, каб мільён эўра, які атрымае Сьвятлана Алексіевіч, пайшоў ёй на карысьць, буду вельмі рады павіншаваць яе ва ўрачыстай атмасфэры», — сказаў Чаргінец.

## Уладзімер Арлоў: «Прэміяй уганараваная ўся Беларусь»

8 кастрычніка 2015
Радыё Свабода

*Нобэлеўскую прэмію Сьвятланы Алексіевіч камэнтуе пісьменьнік Уладзімер Арлоў.*

**Арлоў**: «Сардэчна віншую дарагую Сьвятлану! — кажа Арлоў. — Найперш гэта прэмія за яе кнігі, якія чытаюць ва ўсім сьвеце! Але я ўспрымаю прэмію і як высокае прызнаньне нашай літаратуры, як узнагароду ўсёй незалежнай беларускай супольнасьці. Прэміяй уганараваная сёньня ўся Беларусь. Я добра адчуваю гэта цяпер, бо знаходжуся на літаратурным фэсьце ў Літве, дзе з радасьцю прымаю віншаваньне за гэты посьпех Сьвятланы — і ўсёй нашай літаратуры».

## Някляеў: «Давайце ўсе разам падымем келіхі з шампанскім і вып'ем за Сьвятлану Алексіевіч!

8 кастрычніка 2015
Радыё Свабода

*Паэт Уладзімер Някляеў ацаніў прысуджэньне Сьвятлане Алексіевіч Нобэлеўскай прэміі ў галіне літаратуры як сапраўднае сьвята.*

**Някляеў**: «Гэта сьвята для нашай літаратуры, для нашай культуры, для нашай грамадзянскай супольнасьці, для нашай краіны, для нашага народу. Ня ў кожнай зь безьлічы краін сьвету ёсьць нобэлеўскія ляўрэаты, і тым больш ляўрэаты ў галіне літаратуры. Тыя меркаваньні, якія выказваюцца ў адмоўным сэнсе — маўляў, Сьвятлана Алексіевіч не беларуская пісьменьніца — перакрываюцца афіцыйнай інфармацыяй пра прысуджэньне ёй Нобэлеўскай прэміі, дзе сказана наўпрост, што Нобэлеўскую прэмію ў галіне літаратуры атрымаў менавіта беларускі аўтар. Таму давайце ўсе разам, як на Новы год (а гэта своеасаблівы Новы год для беларускай літаратуры) падымем келіхі з шампанскім і вып'ем за ўдачу Алексіевіч, за яе здароўе».

## Павал Якубовіч: «Ганаруся, што беларуска атрымала Нобэля»

8 кастрычніка 2015
Радыё Свабода

*Галоўны рэдактар газэты адміністрацыі прэзыдэнта «СБ — Беларусь сегодня» Павал Якубовіч у праграме Беларускага тэлебачаньня «Клюб рэдактараў» яшчэ 4 кастрычніка прадказаў перамогу Сьвятланы Алексіевіч і некалькі хвілін сьпяваў ёй дытырамбы:*

**Якубовіч**: Нос у мяне вы ж ведаеце які. Вакол імя разгарнулася палеміка, якая мне не падабалася... Вакол Алексіевіч ламаліся дзіды: «яна піша па-расейску», «яна не беларуская пісьменьніца». З другога боку, «старая гвардыя» ня можа ёй дараваць цудоўных, праўдзівых кніг пра вайну, пра Чарнобыль, пра Афганістан...

Але колькі яе выдаюць у самых разьвітых краінах сьвету — кажа само за сябе. Я ў душы заўсёды чакаў, што яна стане ляўрэатам, і ганаруся тым, што наш беларускі літаратар так гучна заявіў пра сябе на ўвесь сьвет і атрымаў прызнаньне.

**РС**: А цяпер каверзнае пытаньне. Калі апошні раз «СБ — Беларусь сегодня» пісала пра Сьвятлану Алексіевіч, публікавала яе інтэрвію, узгадвала пра яе?

**Якубовіч**: Я асабіста падтрымліваю са Сьвятланай добрыя адносіны. Некалі яна ў нас друкавалася. Я асабіста шмат намаганьняў прыклаў,

каб летась на Міжнародным кніжным кірмашы ў Менску адбылася сустрэча чытачоў зь ёй. Але апошнім часам сувязяў па лініі газэты не было, таму што, як мне падаецца, Сьвятлана — ня вельмі вялікая ахвотніца супрацоўнічаць зь дзяржаўнымі СМІ і з нашай газэтай. Я яе аўтарскія адчуваньні павінен паважаць і не назаляю ёй. Але я асабіста захапляюся яе заслугамі ў літаратуры і вельмі ганаруся, што беларуска атрымала Нобэля.

**РС**: Павал Ізотавіч, а ў наступным нумары «СБ — Беларусь сегодня» напіша пра Алексіевіч? Вы заўсёды трапныя загалоўкі прыдумляеце, можа, ужо і загаловак ёсьць?

**Якубовіч**: Вядома, напішам! Загаловак яшчэ не прыдумаў. У нядзелю ў праграме «Клюб рэдактараў» я хацеў апярэдзіць падзею і выказаць тэлегледачам сваё меркаваньне пра Сьвятлану Алексіевіч, таму што насамрэч вельмі шмат было з розных бакоў зроблена намаганьняў, каб яе прынізіць, дыскрэдытаваць, на жаль, і шмат разоў гэта рабілася. Таму на я на самую вялікую аўдыторыю выказаў сваё меркаваньне пра гэтую праблему, хоць праблемы няма: Сьвятлана — найвыбітнейшы зь беларускіх літаратараў, якія працуюць сёньня.

## Марачкін: «У мяне радасьці вельмі мала з нагоды яе перамогі»

8 кастрычніка 2015
Радыё Свабода

*Мастак і сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў Аляксей Марачкін сказаў, што мае высокае меркаваньне пра творчасьць Сьвятланы Алексіевіч.*

«Кнігі Сьвятланы Алексіевіч — гэта наш боль. Яна бярэ самыя балючыя тэмы, да якіх ніхто не дакранаецца. Яна не баіцца такіх тэмаў», — сказаў Марачкін Свабодзе.

«Але вельмі шкада, што ў свой час не атрымаў Нобэлеўскую прэмію Васіль Быкаў. Ён ад пачатку да канца быў з народам і заўсёды быў гатовы ўзяць адказнасьць за свой народ. Ён ніколі не хаваў сваёй пазыцыі і пісаў на беларускай мове, зь якой яго перакладалі на шматлікія іншыя. Я думаю, што і сама Сьвятлана радавалася б, калі б прэмію далі Васілю Быкаву. Але так атрымалася, што ляўрэат — яна».

Аляксей Марачкін сказаў, што асноўная прэтэнзія да ляўрэаткі — тое, што яна піша па-расейску:

«Мне не падабаецца, што Сьвятлана Алексіевіч — расейскамоўная пісьменьніца. Таму прысуджэньне ёй Нобэля — гэта цаглінка ў падмурак «русского мира». Чаму? Таму што нядобразычліўцы могуць сказаць, што гэта пасыл беларускамоўным пісьменьнікам: маўляў, бачыце,

Нобэля атрымала расейскамоўная беларуская пісьменьніца, а беларускамоўныя са сваёй сялянскай мовай далёка ня пойдуць. Таму ў мяне радасьці вельмі мала з нагоды яе перамогі. Мы сёньня змагаемся за тое, каб беларуская мова жыла. Я быў бы рады, каб Нобэля атрымаў беларус, які піша на мове тытульнай нацыі».

## Лукашэнка павіншаваў Сьвятлану Алексіевіч

8 кастрычніка 2015
Радыё Свабода

*Кіраўнік Беларусі Аляксандар Лукашэнка павіншаваў Сьвятлану Алексіевіч з прысуджэньнем Нобэлеўскай прэміі па літаратуры.*

Пра гэта паведаміла прэзыдэнцкая прэс-служба.

«Ваша творчасьць не пакінула абыякавымі ня толькі беларусаў, але і чытачоў у многіх краінах сьвету. Шчыра рады за Ваш посьпех. Вельмі спадзяюся, што Ваша ўзнагарода паслужыць нашай дзяржаве і беларускаму народу», гаворыцца ў віншаваньні. Лукашэнка таксама пажадаў Сьвятлане Алексіевіч здароўя, шчасьця і новых творчых дасягненьняў на карысьць роднай Беларусі.

## Юлія Чарняўская: «Уся Эўропа цяпер піша пра маленькага чалавека»

8 кастрычніка 2015
Радыё Свабода

*Нобэлеўскую прэмію Сьвятланы Алексіевіч камэнтуе літаратар і культуроляг Юлія Чарняўская.*

«Для Беларусі гэтая прэмія значыць, што нас будуць ведаць. Будуць ведаць, што ёсьць такая краіна — Беларусь. Пачуюць нашы галасы, пачуюць тыя галасы, што ў Сьвятланы ў кнігах: галасы чарнобыльцаў, галасы падлеткаў вайны, жанчын вайны...

Хіба апошняя яе кніга была сабраная ня толькі з галасоў беларусаў, усе яе іншыя кнігі — гэта толькі нашы галасы: і мой, і ваш, і вашых блізкіх.

Тое, што піша Алексіевіч, гэта жанр літаратурнай *oral history*. Менавіта літаратурнай, гэта дакумэнтальная літаратура высокага кшталту. У сьвеце цяпер у авангардзе ідзе дакумэнтальны тэатар, дакумэнтальная фатаграфія, дакумэнтальная літаратура. Уся Эўропа цяпер піша пра маленькага чалавека, прагне жывых галасоў эпохі. У нас на постсавецкай прасторы ўжо даўно ніхто не асэнсоўвае вайну, а ўся Эўропа піша пра чалавека на вайне ці ў нейкім катаклізьме, такія творы досыць папулярныя.

У гэтай літаратуры ёсьць свая касмагонія. Алексіевіч піша кнігі пра вялікі пералом з чалавекам, як чалавек гэта перажывае, цісьне зь сябе раба. Пісьменьнік можа напісаць і пра аднаго чалавека, і гэта будзе космас, цікавы ўсім.

Я друкавала на Свабодзе артыкул пра тое, што Сьвятлана — менавіта беларускі аўтар.

Я так лічу і буду лічыць далей. І для краіны свой «Нобэль» — вялікі-вялікі бонус. Гэта перамога Беларусі — калі гэтага нехта не разумее цяпер, зразумеюць потым, убачаць. Гэта інтэлектуальны брэнд краіны. Да нас прачнецца цікавасьць, ад нас будуць чакаць большага і большага, нас будуць перакладаць. Допінг свайго кшталту. Я, напрыклад, буду вельмі чакаць, калі перакладуць Бабкова ці Бахарэвіча. Ці Чарухіна, які піша на расейскай, але без сумневаў беларускі аўтар».

## Андрэй Хадановіч: «Цяпер улада стаіць перад неабходнасьцю фліртаваць з Алексіевіч»

8 кастрычніка 2015
Радыё Свабода

*Нобэлеўскую прэмію Сьвятланы Алексіевіч камэнтуе паэт, прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру Андрэй Хадановіч.*

«Калі б спадарыня Алексіевіч атрымала Нобэлеўскую прэмію некалькі гадоў таму, я б зьдзівіўся. Але чаканьне, напружаньне ад букмэйкерскіх прагнозаў, чаканьняў радасных, трывожных, гістэрычных прывучыла да Нобэля Алексіевіч як да непазьбежнага.

І гэта здарылася непазьбежна. Калі сур’ёзна, гэта даўно заслужаная Алексіевіч рэч.

На яе апошнія гады сыпаўся град эўрапейскіх узнагарод. Яна самая вядомая ў літаратуры грамадзянка Беларусі, як бы некаторыя яе зласьліўцы ні камэнтавалі праблему яе расейскамоўнасьці-беларускамоўнасьці.

Яна піша тое, што ў нармальнай, сьпелай эўрапейскай літаратуры займае яе палову — non-fiction. Гэта займае палову швэдзкай, польскай, ангельскай, францускай літаратуры. І гэта выглядала б глыбока недаразьвітым у Беларусі, каб не Алексіевіч, якая амаль самотна запаўняе гэты прагал. Гэта самая папулярная літаратура ў сьвеце, як бы ні наракалі паэты.

Гэта літаратура-дакумэнт, штосьці на мяжы між пісьменьніцтвам і журналістыкай. Алексіевіч гэта падхапіла, у нас былі майстры non-fiction і раней, але яна разьвівае гэта. Яе кнігі аказаліся канвэртабэльнымі ў сэнсе перакладаў на іншыя мовы, даходжаньня да чытачоў.

Я як грамадзянін Беларусі гэтаму цешуся, як чытач гэтаму цешуся, як знаёмы Сьвятланы гэтаму цешуся. І заклікаю беларусаў гэтаму цешыцца — ды яны і без таго цешацца, калі паглядзець сацыяльныя сеткі. Агульнае адчуваньне радасьці. Нарэшце ў нас спыніцца хваравіты комплекс непаўнавартасьці, што калі ж, калі ж нашаму дадуць Нобэля — гэта было на мяжы непрыстойнасьці апошнія гады. Гэта знак нейкага сталеньня самой культуры: праехалі, перахварэлі на дзіцячую хваробу чаканьня Нобэля. Шмат беларусаў жывуць зь нейкім комплексам непаўнавартасьці: усё цікавае можа адбывацца ў Нью-Ёрку, у Парыжы, у Маскве, калі ў каго Масква ў галаве... але не ў Беларусі! Мне здаецца, што Нобэль Алексіевіч шмат каго можа пераканаць, вярнуць беларусам крышачку самапавагі.

Другое — што Нобэль Сьвятланы Алексіевіч паспрыяе больш канструктыўным стасункам розных сэгмэнтаў беларускай літаратуры: старэйшых і маладзейшых, больш і менш апазыцыйных, беларускамоўных і расейскамоўных, прыдуманай літаратуры і непрыдуманай. Гэта паспрыяе большаму паразуменьню ў самой Беларусі.

Мяне цікавіць іншае. Да сёньняшняга дня спадарыня Алексіевіч, як і некаторыя іншыя бе-

ларускія пісьменьнікі, належала да непублікаванага «чорнага сьпісу». А цяпер улада стаіць перад неабходнасьцю фліртаваць зь ёй, прыручаць яе, рабіць рэвэрансы, камплімэнты, выцягваць да супрацоўніцтва. Я заінтрыгаваны, што з гэтага выйдзе. Жадаю Сьвятлане мудрасьці і мужнасьці».

## Віктар Дашук: «Да таго, што Сьвятлана Алексіевіч піша па-расейску, я стаўлюся спакойна»

8 кастрычніка 2015
Іна Студзінская, Менск

*Народны артыст Беларусі, рэжысэр, кінадакумэнталіст Віктар Дашук — у пэўным сэнсе «хросны бацька» Сьвятланы Алексіевіч: у 1985 годзе за цыклі фільмаў «Я з вогненнай вёскі» і «У вайны не жаночае аблічча» ён стаў ляўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР.*

Сьвятлана Алексіевіч мае багата міжнародных прэміяў, але ніводнай беларускай узнагароды. Што да Нобэлеўскай прэміі Сьвятланы Алексіевіч, Віктар Дашук выказаў такое меркаваньне:

**Дашук**: Сьвятлана адкрывае сьпіс беларускіх ляўрэатаў, і мне ня проста прыемна, мяне перапаўняе гонар за тое, што мы пачыналі працаваць у адной паралелі, паралелі вельмі цудоўных людзей, вядомых ня толькі ў Беларусі, але і ў сьвеце — разам з Васілём Быкавым і Алесем Адамовічам.

Мне вельмі прыемна, што Сьвятлана заслужана атрымала Нобэля, я адчуваю ня толькі гонар за яе, але гонар і за нашу краіну. Бо кожны з нас, які тут нараджаецца, вучыцца, фармуецца і разьвіваецца як асоба, ня можа разьвівацца ў некім адасобленым асяродку.

Яна бярэ энэргію ад іншых талентаў, і гэтымі талентамі зьяўляюцца, паўтаруся, Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў, якія таксама маглі быць у гэтым сьпісе.

Але такія законы часу, яны дыктуюць свае ўмовы, свае правілы. І яны былі ў адным прамежку часу. Я рады за Сьвятлану проста па-чалавечы. Яна — першаадкрывальніца гэтага сьпісу.

Я перакананы, што і ў жывапісе, і ў іншых відах мастацтва, і ў навуцы — у кожнай галіне ёсьць беларусы, годныя Нобэлеўскай прэміі. Я ганаруся, Сьвятлана зрабіла першы крок. Я рады яе павіншаваць ад шчырага сэрца.

**РС**: Спадар Віктар, але некаторыя ўпікаюць Алексіевіч: ну якая яна беларуская пісьменьніца, яна ж піша па-расейску, ганарыцца расейскай культурай...

**Дашук**: Калі я прыйшоў абедаць у рэстаран, і салата не спадабалася, а афіцыянтка была прыгожая, ветлівая, то я ўжо не зьвяртаю ўвагі на нейкую там салату... У кожнага чалавека ёсьць нейкія рысы, якія не адпавядаюць майму сьветапогляду, і гэта нармальна. І ў мяне са Сьвятланай былі розныя меркаваньні, рознагалосьсі. Але мы жывыя людзі, і калі кожны — асоба, яны ня могуць плыць у адным кірунку.

Мне таксама хацелася б, каб яна была беларускай у чыстым выглядзе, ва ўсім. Але дайце чалавеку свабоду! Бацька ў яе беларус, маці — украінка. А тое, што Сьвятлана піша па-расейску — гэта дробныя рэчы, гэта мітусьлівыя рэчы.

Я ведаю беларускую мову лепей за расейскую, але свае артыкулы — за 20 гадоў іх было 10, і я пісаў іх па-расейску з адной простай прычыны: каб болей было чытачоў. Бо ў нашай складанай беларускай сытуацыі галоўнае, каб тваё слова, тваё шчырае імкненьне дайшло да як мага большай колькасьці людзей. Я стаўлюся да гэтага спакойна.

## Івонка Сурвіла: «Ганаруся і спадзяюся, што не дазволіце называць Вас расейскай пісьменьніцай»

8 кастрычніка 2015
Радыё Свабода

*Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла павіншавала Сьвятлану Алексіевіч.*

«Паважаная Сьвятлана, ад імя Рады БНР шчыра віншую Вас з атрыманьнем Нобэлеўскае прэміі! Я ганаруся, што Нобэлеўская Рада дала ўзнагароду Вам, пісьменьніцы зь Беларусі — гэтаксама, як ганаруся Васілём Быкавым, Адамам Міцкевічам, Маркам Шагалам, Міхалам Клеафасам Агінскім і ўсімі іншымі геніяльнымі творцамі, якіх дала чалавецтву наша зямля», — піша **Івонка Сурвіла** ў сваім віншаваньні.

«Упершыню беларуска стала ляўрэатам Нобэлеўскай прэміі па літаратуры. Гэта вельмі важная і радасная падзея для Беларусі і беларусаў усяго сьвету. Для тых людзей у замежжы, хто яшчэ нічога ня ведае пра Беларусь — а такіх ёсьць шмат — гэта найлепшым чынам распавядзе пра нашую краіну. Я зь вялікім захапленьнем чытала Вашыя творы ў перакладах на францускую і ангельскую мовы. Спадзяюся, што калі-небудзь прачытаю іх і па-беларуску. Ганаруся Вамі — і адначасна спадзяюся, што Вы самі нікому не дазволіце назваць Вас расейскай пісьменьніцай. Посьпехаў Вам і здароўя!» — гаворыцца ў віншаваньні старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы.

## Першая прэсавая канфэрэнцыя нобэлеўскай ляўрэаткі: «Сказала б дзякуй маім настаўнікам: Адамовічу і Быкаву»

8 кастрычніка 2015
Аляксандра Дынько, Радыё Свабода, Менск

*Праз некалькі гадзінаў пасьля таго, як было абвешчана рашэньне Нобэлеўскага камітэту, Сьвятлана Алексіевіч дала першую ў новым статусе прэсавую канфэрэнцыю. У суправаджэньні швэдзкіх дыпляматаў і журналістаў яна прыехала ў рэдакцыю газэты «Наша Ніва», якую сама выбрала для прэсавай канфэрэнцыі. Некалькі дзясяткаў журналістаў не ўмясьціліся ў невялікае памяшканьне, шмат хто слухаў пісьменьніцу ў калідоры. Ніжэй — поўны тэкст прэсавай канфэрэнцыі.*

**Алексіевіч**: Я канешне падумала ня пра сябе. Адзін тэатар нямецкі ставіў «У вайны не жаночае аблічча» і хацеў, каб некалькі гераінь прыехалі ў Франкфурт. І вы ведаеце, я абтэлефанавала нумароў 50, і нікога няма ў жывых. А перад гэтым у мяне такі самы досьвед быў з маім героем з Чарнобылю. І я падумала: а вось як шкада, што гэтыя людзі не даведаюцца. Але кнігу яны трымалі ў руках. Падумала пра тое, што гэта ня толькі мне ўзнагарода, а ўзнагарода... і наогул,

нашу культуру ў нашай маленькай краіне, якая ўсю гісторыю і цяпер у нейкіх жорнах, калі яе ціснуць з усіх бакоў. Неяк я падумала пра гэта. Я ня буду хаваць, вядома, гэта была моцная асабістая радасьць, ну і вядома ж трывога, таму што ўсё ж такі вялікія цені такія — Бунін, Пастэрнак... Гэта занадта вялікія цені, і яны як бы ажылі для мяне, гэта вельмі сур'ёзна, і калі часам я задумвалася, што я стамілася, што я расчаравалася ў нейкіх рэчах, то цяпер я падумала, што не, планку немагчыма будзе зьнізіць.

**Пытаньне**: А каму б Вы хацелі падзякаваць ў першую чаргу?

**Алексіевіч**: У першую чаргу я б вядома сказала дзякуй маім настаўнікам: Адамовічу і Быкаву. Вось гэта мае настаўнікі. І Быкаў, які быў прыкладам такой чалавечай стойкасьці, і Алесь Адамовіч, які, вось як ставяць голас, я б сказала ён паставіў мне машыну мысьленьня, гэты чалавек. Я нікога роўнага яму ў беларускай культуры ня ведаю, па эўрапейскім размаху. Вось пра гэтых людзей, што тычыцца Беларусі, я падумала ў першую чаргу. А так у мяне шмат: мае героі, мае выдаўцы па ўсім сьвеце, людзі, якія прымушалі мяне пра нешта падумаць, якія дарылі мне нейкую здагадку пра чалавека, таму што каб новае пачуць, трэба па-новаму спытаць. Так што ўсе мы складаемся з настаўнікаў. Усе мы стаім на плячах роду, на плячах людзей, якіх сустрэлі.

Нядаўна, учора прачытала ў блогах, адзін кажа: калі мяне спыталі, як ты ставісься да таго, што Алексіевіч могуць даць прэмію. А другі кажа, я

не чытаю яе кнігі, толькі фільм яе глядзеў. А я, кажа, адчуваю гонар. Вось я б хацела, каб гэта быў гонар. Што мы — маленькая ганарлівая краіна.

**Пытаньне**: Вы можаце растлумачыць, што азначае для Вас быць беларускім пісьменьнікам, які піша на расейскай мове?

**Алексіевіч**: Я пішу пра чалавека-ўтопію, пра чырвонага чалавека, 70 гадоў гэтай утопіі, а потым 20 гадоў, як мы выходзім з гэтай утопіі. І яна размаўляла на расейскай мове. І адсюль у мяне мова, паколькі мае героі гэта і ўкраінцы, і расейцы, і беларусы, і татары, і цыганы нават ёсьць там — адна гераіня цыганка, то бок вельмі розныя, і я б магла сказаць, што я сябе адчуваю чалавекам беларускага сьвету, чалавекам расейскай культуры, вельмі магутная прышчэпка расейскай культуры, і чалавекам, які доўга жыў у сьвеце і, вядома, касмапалітам. Чалавек, які глядзіць на сьвет як на велізарную касьмічную прастору. Яшчэ мяне пераканаў у гэтым Чарнобыль, калі я пасьля Чарнобылю вельмі шмат езьдзіла, і ў мяне ёсьць кніга «Чарнобыльская малітва», і там, вы ведаеце, не адчуваеш сябе «я беларус», а ты адчуваеш, што ўсё жывое ў адным сьвеце, што мы усе адзін від. Гэта вельмі моцнае адчуваньне.

**Пытаньне**: Чаму Вас дагэтуль не павіншаваў беларускі прэзыдэнт, і як увогуле да Вас ставіцца беларуская ўлада?

**Алексіевіч**: Ну, беларуская улада робіць выгляд, што мяне няма, мяне не друкуюць, я не магу нідзе выступаць, ва ўсякім выпадку беларускае тэлебачаньне... Беларускі прэзыдэнт таксама.

Дзьве гадзіны прайшло, як абвясьцілі прэмію, і лістоў 200 я ўжо атрымала, і там адзін вельмі добры хлопец напісаў: вось цікава, як будзе паводзіць сябе Лукашэнка, вось Домрачавай ён даў героя Рэспублікі Беларусь, што ён будзе рабіць? Мяне павіншаваў толькі міністар інфармацыі Расеі, Грыгор’еў, ён мяне павіншаваў адным зь першых.

**Пытаньне**: А званьне героя прымеце?

**Алексіевіч**: Трэба падумаць, але гэта ўсё роўна не ад Лукашэнкі, а ад Радзімы.

**Пытаньне**: Як толькі стала вядома пра Вашу ўзнагароду, у камэнтарах на расейскіх сайтах напісалі, што яна атрымала Нобэля дзякуючы нянавісьці да Расеі, «рускага сьвету», Пуціна і г. д. Ці лічыце Вы, што і праўда на нянавісьці Вы атрымалі прэмію і ці ёсьць у Вас нянавісьць да «рускага сьвету», дарэчы, Алег Кашын назваў вас адэптам «рускага сьвету».

**Алексіевіч**: Калі ў людзей такія фанатычныя ідэі, яны, вядома, шукаюць іх усюды. Я толькі кавалачак прачытала Кашына, вельмі зьдзівілася яму. Там яшчэ Прылепін такі ёсьць. Я хачу сказаць, што тое самае пішуць і ў Беларусі, што я ненавіджу і беларускі народ, і ненавіджу ня толькі ўладу, але і народ. Я думаю, ніхто ня любіць праўду. Я кажу тое, што думаю. Я люблю беларускі народ, я люблю расейскі народ, мае сваякі ўсе з боку бацькі былі беларусы, мой любімы дзядуля, і наогул я ў чацьвёртым пакаленьні сельскі настаўнік, мой прадзед вучыўся разам зь Якубам Коласам, так што я адчуваю, што гэта мая ра-

дзіма, мая зямля. І разам з тым, мая бабуля, мая маці — яны ўкраінцы. Я вельмі люблю Ўкраіну. І вось калі я была на Майдане, на плошчы, і бачыла гэтыя фатаграфіі Нябеснай сотні, я стаяла і плакала. Гэта таксама мая зямля. Так што няма нянавісьці, гэта не нянавісьць. Цяжка быць сумленным чалавекам, вельмі цяжка. І трэба не паддавацца гэтаму згодніцтву, на якое гэтая таталітарная ўлада заўсёды разьлічвае. Я люблю кнігу «Сумленьне нацыстаў», час ад часу яе перачытваю, там пра тое, як фашызм упаўзаў у жыцьцё немцаў у 1930-я гады. Спачатку, калі немцам казалі: не хадзі да таго лекара, да таго краўца, яны наадварот, яны ішлі да габрэйскіх лекараў, дантыстаў, але вельмі магутна працавала машына, вельмі магутна націскала на кнопкі самыя прымітыўныя, тое, што мы сёньня бачым у Расеі, і за дзесяць гадоў яны зрабілі зусім іншы народ. Я і бацьку свайго пыталася «Як вы гэта перажылі?» І ён толькі адно мне казаў: было вельмі цяжка, было вельмі страшна. Я думаю, што чалавекам застацца заўсёды страшна, заўсёды складана, нават калі ня так масава саджалі, як у тыя гады, але бачыце, у Расеі ўжо саджаюць, і ў нас ужо саджаюць. Але трэба мець гэта мужнасьць, а тое, што кажуць — ну што ж.

**Пытаньне**: А вы можаце вызначыць сваё стаўленьне да «рускага сьвету»? Які «рускі сьвет» вам падабаецца, а які вам не падабаецца, улічваючы, што вы пішаце на расейскай мове?

**Алексіевіч**: І мае героі расейцы, так? Я люблю «рускі сьвет», праўда я да гэтага часу не магу зра-

зумець, што яны маюць на ўвазе. Я люблю добры рускі сьвет, гуманітарны рускі сьвет, той сьвет, перад якім да гэтага часу схіляецца ўвесь сьвет, перад той літаратурай, перад тым балетам, перад той музыкай вялікай. Так, я гэты сьвет люблю. Але я не люблю сьвет Берыі, Сталіна, Пуціна, Шайгу — гэта ня мой сьвет.

**Пытаньне**: Наколькі Ваша апошняя кніга актуальная ў сёньняшніх умовах?

**Алексіевіч**: «Час second-hand» — гэта не пра мінулае кніга. Яна пра тое, на чым мы ўсе стаім, пра наш падмурак. Вось адкуль мы выйшлі. Мне дарагія словы, якія я адмыслова вынесла ў эпіграф, што «таталітарызм разбэшчвае і ка́та і ахвяру». Мы жывем у гэты траўмаваны пэрыяд. Усе мы так або інакш прыбітыя ды гэтага савецкага досьведу. І тое, як адпусьцілі і нават справакавалі сытуацыю ў Расеі, і 86% людзей сталі рады таму, як забівалі людзей у Данецку, і сьмяяліся з гэтых «хахлоў». Або тыя, хто цяпер лічаць, што ўсё можна вырашыць з пазыцыі сілы.

**Пытаньне**: Скажыце, беларусы будуць пазнаваць першага ў гісторыі краіны ляўрэата Нобэлеўскай прэміі? І Вам бы гэтага хацелася?

**Алексіевіч**: У 2013 годзе, калі я таксама ўвайшла ў тройку прэтэндэнтаў, я такая стомленая ехала, з Бэрліну ці што, і да мяне падбягае зусім такі малады чалавек і кажа: вы Сьвятлана Алексіевіч? Я кажу, так. Дык вы ж вось на Нобэля, усё. Ой божа, у мяне ня тое што кніжкі, паперкі няма. І дастае пачак ад цыгарэт — расьпішыцеся на ім! Я зусім не пыхлівы чалавек, і не люблю

публічнасьць, і не люблю, калі цябе пазнаюць, таму што ты розны і не заўсёды гатовы да людзей, ты вельмі стаміўся, але ёсьць хвіліны, калі ты думаеш, значыць тое, што ты робіш, чапляе гэтага чалавека. Калі б гэта яму было ня дорага і ня трэба, ён бы не падбег з гэтым пачкам ад цыгарэт. Я не хачу, як Кіркораў ледзь не ў жаночай сукенцы, выходзіць на вуліцу, але часам, калі ты бачыш, што людзям гэта трэба і яны гатовыя з табой пагаварыць, і яны табе давяраюць, і калі ты прыходзіш у дом, яны табе давяраюць як суразмоўцу — гэта, вядома, прыемна.

**Пытаньне**: У вашай апошняй кнізе Вы паказваеце чытачам, наколькі цяжка простаму чалавеку было перажыць менавіта крушэньне Савецкага саюзу. Ёсьць нейкія моманты, якія недаапісаныя і недаацэненыя з гэтага досьведу, якія, Вам здаецца, трэба падкрэсьліць яшчэ? Нейкія цяжкасьці пераходнага этапу?

**Алексіевіч**: Я думаю, вядома, мы гэта час яшчэ не адрэфлексавалі і нават не зразумелі. Я напісала кнігу, але я думаю яшчэ сто Салжаніцынаў можа працаваць на гэтым участку, таму што гэта ж 70 з чымсьці гадоў, мільёны загінулых людзей, ідэя, якая пачыналася з жаданьня пабудаваць «горад сонца», а скончылася такой крывёю. Пра гэта трэба яшчэ шмат думаць. Я ня думаю, што мне ўдалося расказаць усё. Але тое, што я зразумела, што я змагла распавесьці, я зрабіла даўно ў гэтых пяці кнігах, у гэтым цыклі пра «чырвонага чалавека». Вось можа хто-небудзь з вас павінен прыйсьці і зрабіць.

**Пытаньне**: Над чым Вы працуеце цяпер?

**Алексіевіч**: Цяпер у мяне ў працы дзьве кнігі. Такія мэтафізычныя тэмы. Жыцьцё ў нас, вядома, заўжды не атрымліваецца. Пачнем нешта будаваць, а канчаецца, усё тым самым — як у анэкдоце, «аўтаматам Калашнікава». Цяпер іншыя людзі ўсё ж, якія хочуць быць шчасьлівымі. Хочуць кахаць. Ведаюць радасьць жыцьця. Шмат хто бачыў сьвет. Я пішу адну кнігу пра каханьне — у ёй пра каханьне распавядаюць і мужчыны, і жанчыны. І другая — пра старасьць, пра зьнікненьне, пра канец жыцьця. Навошта ўсё гэта, і што гэта такое. Вось да гэтай другой кнігі культура, асабліва расейская, больш падрыхтаваная. А вось да кнігі пра шчасьце…Усе хочуць быць шчасьлівымі, але ніхто ня ведае, што гэта такое.

**Пытаньне**: У гэтыя выходныя ў нас прэзыдэнцкія выбары, ці пойдзеце Вы і за каго будзеце галасаваць?

**Алексіевіч**: Я не пайду на выбары. Але калі б я пайшла, галасавала б за Караткевіч. З жаночай салідарнасьці. З-за таго, што я бачу нармальны твар, чую нармальную лексыку, якой я абсалютна ня чую ад мужчын-палітыкаў. Нармальныя касьцюмы, нармальныя рэакцыі. Тое, чаго ў мужчынаў-палітыкаў няма. Дый проста з-за таго, што нейкія спадзевы. А тое, што «Караткевіч — падсадная качка», як піша Пазьняк… Я ня веру ў гэта. Я ня ведаю, хто за ёй стаіць, якія грошы… Але я ведаю, што гэта быў бы новы паварот у нашым жыцьці. А не пайду на выбары таму, бо мы ж з вамі ведаем, хто пераможа. Мы ведаем, што

пераможа Лукашэнка. Напэўна, у яго будзе 76%. Я так думаю. Ён паглядзіць на настроі грамадзтва і прыкіне, колькі можна.

**Пытаньне**: Вы сказалі, Адамовіч, Быкаў — а роля беларускай інтэлігенцыі, андэрграўнду, наколькі яна фармуючая, важная, наколькі важна мець гэтыя маральныя аўтарытэты?

**Алексіевіч**: Нашы «магікане» памерлі несвоечасова. Як нам цяпер не хапае Адамовіча, Быкава, іх слова, іх разуменьня, іх узроўню. Я думаю, шмат чаго не дазволілі б сабе тыя, хто дазваляе, калі іх няма. Мы ня можам сабе дазволіць такую свабоду — сядзець дзесьці, як некаторыя мае нямецкія сябры-пісьменьнікі — зьяжджаюць у вёску і пішуць. Мы жывем у такі недасканалы час, у такім недасканалым грамадзтве. Я не барыкадны чалавек, але ўвесь час цягне на барыкады. Таму што сорамна, сорамна за тое, што адбываецца.

**Пытаньне**: Ці лічыце Вы, што Ваш голас у будучыні будзе больш важкім у беларускім грамадзтве?

**Алексіевіч**: Ну я ня ведаю, бачыце ж, у нас такая ўлада… Ну, спадзяюся, ёй патлумачаць, што такое Нобэль, і можа быць будзе нейкая рэакцыя, можа асьцярожная. Агульны ўзровень палітычнай эліты ў нас савецкага складу. Нават яшчэ горш. У савецкай былі планкі, якія не парушаліся. Там былі людзі, доўга трэба было паўзьці па гэтай лесьвіцы, каб дапаўзьці. А сёньня ты з «гразі ў князі» — і кіруеш. Хто толькі ня быў міністрам культуры — і будаўнік, і хабзаец нейкі, хто толькі

ня быў. Я думаю, трэба рабіць сваю справу і казаць тое, што ты думаеш.

**Пытаньне**: Як Вы ацэньваеце той факт, што Вы першая ў Беларусі ў літаратуры?

**Алексіевіч**: Мне складана сказаць. Што датычыцца навуковых распрацовак, фізыкі, хіміі, гэта патрабуе вялікага і тэхналягічнага ўзроўню ў краіне, вялікага навуковага патэнцыялу. Памойму, усё гэта ў нас разбурана. І я думаю, у нас шмат таленавітых людзей, але яны вымушаны ці іміграваць, як у Расеі, ці непаўнавартасна пражыць сваё жыцьцё.

**Пытаньне**: Што Вы думаеце пра сытуацыю ва Ўкраіне і пра расейскую авіябазу ў Беларусі?

**Алексіевіч**: Думаю, што расейская авіабаза нам не патрэбная. Але баюся, што яна будзе ў нас. Ня бачу я ў Лукашэнкі сілаў і рэсурсаў гэтаму супрацьстаяць. І ня бачу гэтых сіл супраціву ў грамадзтве. Грамадзтва прыме ўсё, што прапануе ўлада, на жаль. Што да Ўкраіны, то я ўсё ж думаю, што гэта, вядома ж, акупацыя, замежнае ўварваньне. Хаця там ёсьць шмат людзей, якія незадаволеныя тым, як было ва Ўкраіне і хацелі нейкіх перамен, але яны б ніколі не ваявалі. Яны б знайшлі іншы шлях пераменаў. Прывязіце да нас дзясяткі два грузавікоў, і заўжды знойдуцца людзі, якіх можна ўзброіць. Я чула ад аднаго чалавека, здавалася б, вельмі сымпатычнага, сталы падпалкоўнік, расеец. Але ён быў такі ўзрушаны, калі акупавалі Крым, і сказаў: «Ды мы таксама можам «тряхнуть стариной» і пісталет ёсьць, і тужурка ёсьць.

**Пытаньне**: А вы плянуеце ехаць ва Ўкраіну?

**Алексіевіч**: А была нядаўна. Бабуля памерла ўжо, а больш такіх блізкіх сваякоў не засталося.

**Пытаньне**: На Вашу думку, ці ёсьць нейкія прыкметы перамен у Беларусі, ці надзея на перамены, і ў якім накірунку яны будуць разьвівацца?

**Алексіевіч**: У Лукашэнкі вельмі цяжкае цяпер становішча. Ён вельмі хацеў бы адарвацца ад Расеі. Але хто ж яму дасьць. З аднаго боку, яго трымае ягоная ўласная мінуўшчына. А з другога боку, яго трымае Пуцін. Пад уласным мінулым я маю на ўвазе, што ён ня ведае іншых правіл гульні. Ён з гэтым вырас, нягледзячы на тое, што трэба прызнаць: у яго вельмі моцная палітычная чуйнасьць.

**Пытаньне**: А базу яму навязваюць?

**Алексіевіч**: Базу яму, вядома, навязваюць. Я ня думаю, што ён гэтага хоча сам. Паратунак Беларусі, калі б яна павярнула ў бок Эўразьвязу. Але ніхто яе не адпусьціць.

**Пытаньне**: А што Вы хацелі б сказаць Нобэлеўскай камісіі?

**Алексіевіч**: Я не ведаю нікога зь іх. Я магу ім сказаць толькі дзякуй.

**Пытаньне**: А калі яны Вам патэлефанавалі?

**Алексіевіч**: За некалькі хвілін, як вы даведаліся пра ўсё гэта. Я якраз вярнулася зь леціішча, і яны патэлефанавалі.

**Пытаньне**: Дзе Вы былі ўчора, на лецішчы?

**Алексіевіч**: Так.

**Пытаньне**: Вы зьбіраецеся жыць у Беларусі?

**Алексіевіч**: Так.

**Пытаньне**: На што Вы прэмію патраціце?

**Алексіевіч**: За прэміі я заўжды купляю свабоду. Я пішу кнігі свае вельмі доўга — 5-10 гадоў. Гэта доўгі час, і трэба грошы, і трэба езьдзіць, друкаваць. Цяпер я магу спакойна працаваць, ня думаючы пра тое, дзе іх зарабіць.

**Пытаньне**: А ці ўплывае Ваша перамога на стаўленьне да беларускай культуры ў замежжы, у сьвеце?

**Алексіевіч**: Мне цяжка гаварыць, я думаю, трэба, каб існавала не адно імя. Ва ўсякім выпадку нядаўна я была ў Аўстрыі, да мяне падыходзяць у кавярні і пытаюцца: адкуль? Я кажу, зь Беларусі. А мне кажуць, о, Домрачава, Лукашэнка. Так што бачыце, ужо крыху ведаюць.

**Пытаньне**: У якой Беларусі Вы бы хацелі жыць?

**Алексіевіч**: Я, вядома, хацела б, каб Беларусь была падобная да скандынаўскіх краінаў. Гэта мара для маленькай краіны, як мы. Альбо хаця б на тое, як выглядае Прыбалтыка.

**Пытаньне**: Вы атрымалі прэмію і за Вашу працу пра Афганскую вайну. Ці лічыце Вы, што Пуцін рызыкуе паўтарыць досьвед Афганістану ў Сырыі цяпер?

**Алексіевіч**: Была гадавіна Афганістану і яму *(*Пуціну — *РС.)* задалі пытаньні, ці было гэта памылкай. А ён кажа: не, правільна, што мы там былі. Калі б ня мы, то былі б амэрыканцы. Я думаю так, пасьля Афгану былі чачэнцы, цяпер будуць сырыйцы. Я сустракала людзей, якія ў савецкім часе ваявалі ў Афрыцы. Гэта краіна

салдатаў. Ці адкрытых салдатаў ці падпольных салдатаў. Але ўвогуле мы жывем у вайсковым асяродзьдзі, вайсковым мысьленьні. Яно зьверху данізу. Ад ураду да простых людзей.

**Пытаньне**: Гэта датычыцца Беларусі, Расеі, постсавецкай прасторы?

**Алексіевіч**: Так, на жаль, мы яшчэ завязаны ў гэты вузел.

**Пытаньне**: На беларускай мове не зьбіраецеся пісаць?

**Алексіевіч**: Мне часта задаюць такое пытаньне. Што такое беларуская мова сапраўды? Я ведаю беларускую мову, але ня так, каб добра на ёй пісаць. І тая мова, якую я ведаю, гэта наркамаўка. І ў мой час вучылі толькі такой мове. Для мяне гэта ніколі ня будзе самамэтай.

**Пытаньне**: Дзе Вам камфортней за ўсё жывецца, пішацца, у якой краіне? Вы шмат дзе жылі.

**Алексіевіч**: Напэўна, усё ж дома, у Беларусі. На лецішчы.

**Пытаньне**: Дзе Вы былі, калі Вам патэлефанавалі і сказалі?

**Алексіевіч**: Дома, дома была. Я прасавала, між іншым.

**Пытаньне**: Вы дваццаць гадоў не друкаваліся ў Беларусі? І ніводнай прэміі беларускай у вас няма?

**Алексіевіч**: Так, няма.

**Пытаньне**: Вы сказалі, што ўсё ж належыце да беларускага сьвету. А што, па-Вашаму, такое — беларускі сьвет?

**Алексіевіч**: Вось мой бацька беларус. Яго ласкавы погляд, спакойны. Ніколі кепска ня скажа. Ён быў дырэктарам школы, потым у старасьці настаўнікам. Гэтыя старыя жанчыны, сярод які я вырасла. Вясковыя. Гэты голас. Вось гэтая паэтычнасьць іх позірку. І нават калі Чарнобыль быў, я бачыла разгубленасьць чыноўнікаў, вайскоўцаў, і толькі гэтыя старыя жанчыны, сяляне, прыродныя людзі, знаходзілі пункты апоры. Яны цэласна разумелі, што адбылося. Хоць гэта было жорстка. Прыродныя людзі напакутаваліся больш за ўсіх.

**Пытаньне**: Ці дапаможа Ваша перамога папулярызацыі беларускай літаратуры і больш шырокаму друку? І ў сьвеце, і ў нас?

**Алексіевіч**: Вы ведаеце, гэта не залежыць ад гэтага, усё залежыць ад кнігі. То бок калі прадставіць кнігу, яе надрукуюць, а не ад таго, што гэтую краіну ведаюць. Вось лацінаамэрыканцы, яны прапанавалі сьветапогляд новы, і ўвесь сьвет іх друкаваў. Рышард Капусьцінскі прапанаваў свой погляд, і яго паўсюль друкавалі. Куды, у якое выдавецтва я б ні прыехала — а вось мы Рышарда Капусьцінскага выдаем. Справа ня ў тым, што нехта там ёсьць у гэтай краіне, а ў тым, што мы павінны зь нейкім тэкстам прыйсьці ў гэты сьвет. У нас быў гэты тэкст, чарнобыльскі тэкст, цяпер гэта тэкст постдыктатуры, што муціруе, як... Але, на жаль, у постсавецкіх клішэ не даюць вырвацца і даць нейкае новае тлумачэньне гэтаму.

**Пытаньне**: Вы пішаце пра лёс маленькага савецкага і постсавецкага чалавека, ці згодны Вы з тым, што Ваша прэмія беларуская?

**Алексіевіч**: Усё ж напэўна шырэйшая, бо героі маіх кніг — гэта ўся постсавецкая прастора. «У вайны не жаночае аблічча»… Я памятаю, мне адзін навуковец казаў, а навошта ты брала гераінь расейскіх жанчын? Трэба было нашых браць, беларусак. Не, бо мая кніга шырэйшая, па-філязофску: жанчына і вайна, чалавек і вайна. Так што гэта больш шырокі ахоп.

**Пытаньне**: Вы казалі пра Капусьцінскага, а паўзьдзейнічала яго творчасьць на Вас?

**Алексіевіч**: Ну, ва ўсякім выпадку, мне быў вельмі цікавы яго погляд, і я прачытала першы раз яго кнігу «Імпэрыя» і ўбачыла, як цікава ён шукаў у гэтай вобласьці дакумэнтальнага рэпартажу, у якой я працую. Мне падабалася польская Ханна Краль, вельмі цікава працуе ў гэтым накірунку, і Капусьцінскі. І нічога падобнага няма ў Беларусі, хоць тут ёсьць кніга Адамовіча, Брыля і Калесьніка «Я з вогненнай вёскі», я лічу, гэта геніяльная кніга, але там гэта цэлы пласт культуры ў Польшчы — дакумэнтальная кніга. Таму што расейская, беларуская культуры яшчэ як бы не пусьцілі сябе ў сьвет, крыху традыцыйныя, яны працуюць самадастаткова, самі ў сабе. І я адкрывала сьвет менавіта праз такія фігуры, як Ханна Краль, Капусьцінскі.

**Пытаньне**: Вы сказалі, што ня будзеце галасаваць на выбарах, таму што ў гэтым няма ніякага

сэнсу, Вы лічыце, што грамадзяне краіны павінны пайсьці за Вашым прыкладам?

**Алексіевіч**: Байкатаваць выбары ні ў якім разе нельга. Таму што калі вы байкатуеце, то Лукашэнка атрымлівае больш шанцаў... Таму што калі прагаласуе з тысячу чалавек васемсот чалавек, то ён можа паставіць сабе такую колькасьць галасоў. А калі прыйдзе толькі пяцьсот чалавек, то вырастуць яго працэнты. Гэта няправільныя паводзіны. Я лічу, што заклік да байкоту — гэта памылка апазыцыі. Гэта можна элемэнтарна падлічыць, што калі мы байкатуем выбары, мы даем шанец павысіць колькасьць працэнтаў Лукашэнкі. Гэта вельмі проста. Я ўжо недзе расчараваная ў нашай апазыцыі, і ў нашым народзе, калі так можна сказаць. Што мы ніяк не прачнемся. Я думаю, што гэта доўгі шлях.

**Пытаньне**: Калі Ваша кніжка апошні раз выходзіла ў Беларусі? Ці помніце Вы гэта?

**Алексіевіч**: Гадоў 25 таму…

**Пытаньне**: Апошні Ваш «Час second-hand» выйшаў?

**Алексіевіч**: Ой, так, але ж гэта такая паўпадпольная кніга, недзяржаўная.

**Пытаньне**: А дзяржаўныя выдавецтвы калі апошні раз выдавалі і якую?

**Алексіевіч**: Па-мойму «Цынкавыя хлопчыкі» нейкае маленькае выдавецтва выдавала… «Беларусь» выдавецтва. Але гэта таксама было маленькае выдавецтва і асабісты ўчынак рэдактара.

**Пытаньне**: Калі б Вам давялося ў адным паведамленьні сказаць нешта беларусам, што б гэта было?

**Алексіевіч**: Давайце пастараемся жыць у вартай краіне. Кожны павінен штосьці для гэтага зрабіць. Ня трэба чакаць, што гэта зробіць сусед, сын твой, усе павінны нешта рабіць. Інакш па адным вельмі лёгка нас шантажаваць, напалохаць, з намі расправіцца. Давайце будзем ісьці разам, але разам з тым я супраць рэвалюцыі. Мне не падабаецца кроў. Я не хачу, каб хаця б адно жыцьцё маладога хлопца было страчанае. Я лічу, мы мусім знайсьці свой беларускі «гандзізм». Калі мы будзем разам, мы яго знойдзем, вядома.

**Пытаньне**: Цяпер шмат войнаў, ці няма ў Вас расчараваньня, што кнігі нібыта нічому ня вучаць? Ці магчымае цяпер зьліжэньне Ўсходу і Захаду, ня новая халодная вайна, а агульны «мир», не расейскі, не заходні?

**Алексіевіч**: У сьвеце ёсьць ня толькі кнігі, Талстой, яшчэ нехта, а ёсьць і Біблія, і Францішак Асызскі, і Антоні Суражскі, на камяні стаяў колькі дзён, рэлігійныя гэтыя пакутнікі… А чалавек не зьмяняецца. Але ўсё ж хочацца верыць, што нешта зьмяняецца, хоць падзеі ў Данецку і вайна ў Адэсе мяне напужалі. Як хутка зьлятае культура, і як хутка вылазіць зьвер з чалавека. Так што я думаю, калі мы кінем рабіць сваю справу, можа быць яшчэ горш. Як там у апостала Паўла, гора мне, калі я перастану прапаведаваць. Што тычыцца антызаходніцтва, як гэта цяпер у Расеі, то я лічу, што гэта сыдзе. Сыдзе разам зь

цяперашнімі лідэрамі. Няма гэтай нянавісьці ў народзе. Ні ў расейскім, ні ў беларускім няма нянавісьці да Захаду, да Эўропы. Гэта ўсё пена, якая створаная палітыкамі. Ну і заўсёды знойдуцца маладыя, якім захочацца згуляць у сваю нейкую гульню. Так што гэта не глыбока, але адзінае, што ў прамежкавым часе мы будзем жыць яшчэ доўга. Мы занадта былі наіўныя ў 90-я гады, калі думалі, што раз — і тут жа мы станем свабоднымі. Не, гэта немагчыма, як выявілася. Усім здавалася, людзі прачытаюць Салжаніцына — і тут жа зробяцца чыстымі, а людзі кожны дзень некага забівалі ў пад'ездах. Я думаю, самая цяжкая спадчына, якая засталася ад сацыялізму — гэта траўмаваны чалавек, таму што лягер разбэшчвае і ка́та, і ахвяру.

## Нобэль для Беларусі

8 кастрычніка 2015
Аляксандар Фядута, Кіеў

Аспрэчваць рашэньне Нобэлеўскага камітэту — справа бессэнсоўная і нікчэмная. Ня нашы грошы, ня нам і вырашаць, каму іх аддаваць. І хто іх варты — ня нам вырашаць: не прапісваў такой працэдуры нябожчык Альфрэд Нобэль.

Нам застаецца толькі радавацца таму, што самая вядомая зь літаратурных прэмій сьвету стала ўзнагародай для грамадзяніна сувэрэннай Рэспублікі Беларусь. І радавацца таму, што гэтую прэмію атрымала пісьменьніца з сапраўды сусьветнай вядомасьцю. Гэтага, я думаю, нават самыя жорсткія апанэнты «Нобэля для Алексіевіч» ня будуць адмаўляць.

Рынак — справа суровая. Ён галасуе. Наклады перакладаў на асноўныя мовы сьвету — сьведчаньне ўзроўню запатрабаванасьці таленту пісьменьніка і ўзьнятай ім тэмы. Мы жывем не ў савецкія часы, калі пераклады «арганізоўваліся», калі перакладчыкам з брацкіх краінаў і левых партый паказвалі, каго ім перакладаць і якія менавіта тэксты. Цяпер — ня так.

Я бачыў людзей каля паліцаў з кнігамі Сьвятланы Алексіевіч у Варшаве, Кіеве, Маскве. Яны выходзілі з кнігарняў зь яе выданьнямі, калі яна яшчэ не была нобэлеўскім ляўрэатам.

Ніхто не прымушаў іх даставаць грошы і банкаўскія карткі і купляць «Час second-hand».

Прычым гэта былі людзі featured рознага ўзросту, пераважна — тыя, хто маладзейшы за мяне, для каго апавяданьні герояў Алексіевіч — гісторыя.

Чаго яны там шукалі?

Мне здаецца, адказу на пытаньне, чаму мы ўсе жывем так, а не інакш. Цяперашняе тлумачыцца мінулым; мінулае па-іншаму прымушае ацэньваць сучаснасьць. І тая лютасьць, зь якой расейская ўлада рабіла ўсё, каб Захар Прылепін перамог Сьвятлану Алексіевіч у конкурсе на прэмію «Вялікая Кніга» — гэта лютасьць пацыента ў адносінах да лекара, які дакладна паставіў дыягназ.

«Нобэль» Сьвятлане Алексіевіч — прэмія лекара, які паставіў дакладны дыягназ постсавецкім грамадзтвам. Усім, без выключэньня. Зь іх нецярпімасьцю, неталерантнасьцю, гатовасьцю ў любы момант прыступіць да выкарыстаньня гвалту адзін супраць аднаго. «Ветлівыя зялёныя чалавечкі» — мутанты, выпушчаныя з нашых душ на дзяржаўным узроўні. Алексіевіч пра гэта не пісала, але з напісанага ёю вынікала, што такое — магчыма.

Часам мне здаецца, што спакой і нават холад, якія дэманструюцца самай вядомай пісьменьніцай сучаснай Беларусі ў адносінах і да нашай краіны, і да нашых праблем — гэта холад і спакой лекара-дыягноста, які спрабуе не памыліцца.

І не памыляецца.

З гэтым можна згаджацца, можна не згаджацца. Але, падобна, яна мае рацыю.

Кажуць, што «Нобэль» па літаратуры гранічна палітызаваны. Што яго ўручаюць з улікам так-

сама і палітычнай пазыцыі аўтара — наколькі супадае яна з агульнасусьветным парадкам дня.

Пазыцыя Алексіевіч супала.

Яна піша на расейскай мове, але выступае супраць «рускага сьвету» як канцэпцыі, якая апраўдвае гвалт і палітычную экспансію Пуціна.

Яна грамадзянка Беларусі і катэгарычна асуджае той рэжым, які ўсталяваў у краіне Лукашэнка.

Яна пісала пра Чарнобыль, пра Афганістан, пра душэўны распад чалавека постсацыялістычнай эпохі.

І яна пісала таленавіта, зразумела і цікава. Яе чыталі і чытаюць.

І, спадзяюся, будуць чытаць.

Усё астатняе — праблемы не сусьветнага чытача, не сусьветнай літаратурнай супольнасьці, а наш унутраны міжсабойчык. Нават калі нам балюча ад таго, што наша пазыцыя, наша ўласнае меркаваньне не супадаюць з пазыцыяй і меркаваньнем Алексіевіч, пра гэта ня ведаюць чытачы Японіі, Нямеччыны, Швэцыі і ЗША. А калі пазнаюць — проста пацiснуць плячыма ў зьдзіўленьні: якое дачыненьне ўсё гэта мае да «Нобэля для Алексіевіч»?

Нам трэба зрабіць усё, каб «Нобэль для Алексіевіч» стаў «Нобэлем для Беларусі». Яна ўнесла Беларусь у «парадак дня» сусьветнай культуры, і цяпер выдаўцы сьвету будуць цікавіцца яе меркаваньнем: ці ёсьць там, у яе краіне, іншыя пісьменьнікі, маладыя і таленавітыя, якіх варта

перакладаць, варта даваць ім шанец. І чым больш новых, таленавітых кніг будзе выдавацца ў нашай краіне, тым прасьцей ёй будзе адказваць на гэтае пытаньне. І тым бліжэй будзе другі «Нобэль для Беларусі». І значна большы будзе шанец, што кнігі, за якія ён будзе ўручаны, будуць не пра мінулае, а пра будучыню, і што напісаны яны будуць на беларускай мове.

Дзьверы адчыніліся, сябры мае. Беларусь запрашаюць увайсьці ў сьвет...

## Жарэс Алфёраў: «Алексіевіч — віншую, беларуская мова — мая, а Быкава я ведаў асабіста»

9 кастрычніка 2015
Сяргей Навумчык, Прага

*Нобэлеўскі ляўрэат па фізыцы Жарэс Алфёраў вітае ўганараваньне Сьвятланы Алексіевіч і хоча запрасіць яе ў свой унівэрсытэт.*

Жарэс Алфёраў нарадзіўся ў 1930 годзе ў Віцебску. Ляўрэат Нобэлеўскай прэміі па фізыцы (2000) за разьвіцьцё паўправадніковых гетэраструктураў для высокахуткаснай оптаэлектронікі. Дэпутат Дзяржаўнай думы РФ ад КПРФ, віцэ-прэзыдэнт Расейскай Акадэміі навук.

**Навумчык**: Спадар Алфёраў, Вы нарадзіліся ў Беларусі. Як Вы ўспрынялі прысуджэньне Нобэлеўскай прэміі Сьвятлане Алексіевіч?

**Алфёраў**: Я вельмі рады, што беларуская пісьменьніца атрымала Нобэлеўскую прэмію. Я ўсё шукаю яе электронную пошту, каб даслаць ёй віншаваньне.

**Навумчык**: А Вы што-небудзь чыталі Алексіевіч?

**Алфёраў**: Я праглядаў, разумееце. Адзінае, што я крыху больш глядзеў — гэта «У вайны не жаночае аблічча». Я магу сказаць наступнае. Гэта шосты пісьменьнік, які піша па-расейску — яна беларуска, так, — але гэта шосты пісьменьнік, які атрымаў Нобэлеўскую прэмію пасьля Буніна,

Пастэрнака, Шолахава, Салжаніцына і Бродзкага. І Алексіевіч. Але, за выключэньнем Шолахава, ва ўсіх астатніх Нобэлеўскіх прэміях, я б сказаў, быў элемэнт антысаветызму ў працах, за які давалася Нобэлеўская прэмія. Я думаю, менш за ўсё гэта было ў Бродзкага. Прэмія Бродзскага ў мяне выклікала выключна станоўчую рэакцыю яшчэ і таму, што ён прадэманстраваў бліскучыя здольнасьці адначасна і як расейскі, і як ангельскі паэт.

**Навумчык**: А Вы ня бачыце нейкага палітычнага складніку?

**Алфёраў**: Напэўна, напэўна ён, магчыма, і ёсьць, але ў выпадку са Сьвятланай Алексіевіч... Па-першае, ужо часы іншыя, гэта раз. Па-другое, у мяне такое ўнутранае перакананьне, што ў яе гэта абсалютна шчыра. Я ня ўпэўнены, скажам, у шчырасьці Салжаніцына, у тым ліку і ў ягоным «Гулагу», і ў шмат якіх іншых рэчах. Хаця ён, вядома, цудоўны пісьменьнік, і для мяне «Матронін двор» — яго найлепшы твор. А вось у Алексіевіч, я думаю, гэта цалкам шчыра. Можна пра гэта размаўляць. Я думаю, я б з задавальненьнем зь ёй сустрэўся і паразмаўляў. І ў нашай Беларусі, і запрасіў бы яе да сабе ў акадэмічны ўнівэрсытэт. Я абавязкова яе прачытаю. Але з таго, што я цяпер пасьпеў паглядзець, гэта, безумоўна, шчыра і цікава. І я думаю, што яна цалкам заслужыла прэмію.

**Навумчык**: Вы родам зь Віцебску. Скажыце, а віцябляне і ўвогуле беларусы могуць Вас таксама лічыць «сваім» нобэлеўскім ляўрэатам?

**Алфёраў**: Ну, а як жа? Беларусы мяне і лічаць сваім нобэлеўскім ляўрэатам. Ня толькі віцябляне, але й мянчане. І калі я прыяжджаю ў Беларусь, я прыяжджаю ў сваю родную краіну.

**Навумчык**: Гэта справядліва так лічыць?

**Алфёраў**: Ну я там ня толькі нарадзіўся, я там скончыў школу. Мае бацькі пражылі практычна ўсё жыцьцё там. У мяне ўсе беларускія карані. Я люблю наш цудоўны народ. Я магу сказаць, што я неаднаразова казаў, што калі вы сёньня едзеце на аўтамабілі з Расеі ў Беларусь, у Пскоўскай вобласьці (асабліва летам гэта дакладна бачна) вы едзеце між палёў, што парасьлі бур'янам, — а потым пераяжджаеце і трапляеце ў сучасную, цывілізаваную, эўрапейскую краіну.

**Навумчык**: І такое пытаньне, паколькі Вы — для мяне, прызнацца, нечакана — выявілі такое стаўленьне да Бродзкага і як фізык выказалі добрае веданьне літаратуры. Цяпер шмат пішацца (і New Yorker сёньня напісаў), што ўпершыню за доўгі час атрымала прэмію аўтар літаратуры нон-фікшн — не бэлетрыстыкі, не раманаў мастацкіх, а менавіта аўтар дакумэнталістыкі. Гэта ўпершыню пасьля Чэрчыля.

**Алфёраў**: Разумееце, ёсьць вялікая розьніца паміж дакумэнталістыкай Чэрчыля і творамі Сьвятланы Алексіевіч. Дакумэнталістыка Чэрчыля... Я думаю, тады шмат хто быў зьдзіўлены Нобэлеўскай прэміяй па літаратуры. Канечне, Чэрчыль цудоўна пісаў свае прамовы. Прэмія была нададзеная за шасьцітамовік мэмуараў. Вядома, што калі ў 1953 годзе Чэрчылю паведамілі,

што ён ляўрэат Нобэлеўскай прэміі, ягоная рэакцыя была такая: «Спадзяюся — не за мір?» Гэтым самым, дарэчы, ён адразу паставіў прэмію за мір на пэўны ўзровень. Вось. Але ў Чэрчыля — гэта дакумэнталістыка, і большая частка шасьцітамовіка — гэта дакумэнты, акрамя ўсяго іншага. Хаця месцы ёсьць бліскуча напісаныя. Я да гэтага часу ў захапленьні ад ягонай бліскучай прамовы 22 чэрвеня 1941 году. А Алексіевіч — гэта ўсё ж і журналістыка, і літаратура. Літаратура! Магчыма, нават новы жанр літаратуры... Хаця, напэўна, не яна зьяўляецца тут першым аўтарам. Не дарэмна і Алеся Адамовіча прыгадваюць.

**Навумчык**: І Данііла Граніна ...

**Алфёраў**: Данііла Граніна ў меншай ступені, Адамовіч больш яркі ў гэтым пляне, хаця, магчыма, у мяне не зусім аб'ектыўны погляд. Гэта — літаратура. І не дарэмна яны адзначылі, што ў літаратуры, якую яна стварыла, галасы людзей чуюцца. Але гэта трэба было здолець напісаць! Таму яна для мяне — пісьменьніца, я шкадую, што я мала яе чытаў. І канечне, прачытаю і буду рады зь ёй пазнаёміцца.

**Навумчык**: А каго зь беларускіх пісьменьнікаў Вы ведаеце, акрамя Адамовіча? Магчыма, Быкава?

**Алфёраў**: Ну, Васіля Быкава я ведаў асабіста і вельмі добра да яго ставіўся. Увогуле, трэба сказаць, што калі вучыўся ў школе пасьля вайны ў Менску, дык маім бліжэйшым сябрам быў Ігар Атраховіч, сын Кандрата Крапівы. І пісьменьнікаў таго часу — і Коласа, і Міхася Лынькова, і

Пятруся Броўку, і Пятра Глебку, і Куляшова — я ўсіх іх ведаў! Юнаком іх ведаў. Я вельмі захапляўся Куляшовым. Ягоная паэма «Сьцяг брыгады» — гэта бліскучы твор.

**Навумчык**: Вы напэўна, маглі б і па-беларуску размаўляць, калі б прыгадалі?

**Алфёраў**: *(Пераходзіць на беларускую)* А як жа? Гэта ж мая мова.

**Навумчык**: Усяго добрага вам і дзякуй за гутарку!

**Алфёраў**: Калі ласка!

## Аксана Забужка: «Алексіевіч зьдзейсьніла літаратурны подзьвіг»

9 кастрычніка 2015
Радыё Свабода

Украінская пісьменьніца Аксана Забужка пракамэнтавала прысуджэньне Нобэлеўскай прэміі беларускай пісьменьніцы Сьвятлане Алексіевіч.

«Упершыню ад распаду Савецкага Саюзу ў культурны фокус Захаду трапіў вось гэты фэномэн, які спадарыня Сьвятлана 40 гадоў цярпліва дасьледавала сваім пісьменьніцкім інструмэнтарыем — вось гэты страшны нэа-оруэлаўскі паняволены розум, кажучы мовай Чэслава Мілаша. Толькі гэты паняволены розум значна больш шырокага фармату — тут гаворка ідзе ўжо, напэўна, аб паняволенай душы, якая як рак разьядае чалавецтва, і ахвярай ужо становяцца цэлыя краіны, і асабліва Расея. Алексіевіч, у прынцыпе, зьдзейсьніла літаратурны подзьвіг — так, яна беларуска, яна чалавек з савецкім бэкграўндам, але яна зьнешні чалавек у адносінах да расейскай літаратуры, і яна дала справаздачу замест расейскай літаратуры, якая аказалася не на ўзроўні сваёй гістарычнай місіі. Алексіевіч дала партрэт вось гэтага раку мозгу і душы, які гэтая чэкісцкая сыстэма на працягу ста гадоў практыкавала», — сказала Забужка ўкраінскай службе Радыё Свабода.

## Як Лукашэнка вучыў Алексіевіч пісаць кніжкі

9 кастрычніка 2015
Валер Карбалевіч, Менск

*Прысуджэньне Нобэлеўскай прэміі па літаратуры Сьвятлане Алексіевіч стварыла для Аляксандра Лукашэнкі вельмі нязручную сытуацыю.*

З аднаго боку, знакамітая пісьменьніца для яго — прынцыповы ідэйны апанэнт.

А з другога боку, не заўважыць такую падзею, як прысуджэньне галоўнай сусьветнай прэміі, немагчыма. Асабліва з улікам таго, што Лукашэнка віншуе з днём нараджэньня нават другарадных прадстаўнікоў расейскай культуры. Вось нядаўна прэм'ер Кабякоў у Маскве ўручыў беларускія ўзнагароды малавядомым расейскім журналістам. Таму ў Лукашэнкі хапіла здаровага сэнсу павіншаваць Сьвятлану Алексіевіч з узнагародай.

Гэтая сытуацыя падобная да ўзаемаадносін Лукашэнкі з Васілём Быкавым. Знакамітую фразу пра «стихи Быкова» ён сказаў у адказ на вострае пытаньне на расейскім тэлеканале пра непавагу да знакамітага пісьменьніка.

Нязручная сытуацыя для Лукашэнкі ўзьнікае яшчэ ў адным сэнсе. Ён увесь час выказвае прэтэнзіі беларускім пісьменьнікам, што яны не ствараюць выбітных твораў. Маўляў, дайце мне,

пакажыце, напішыце «Вайну і мір», і тады я вас уганарую.

Дык вось, калі ласка, Сьвятлана Алексіевіч атрымала прызнаньне, вышэйшага за якое ў сьвеце няма. І тут высьвятляецца, што за час кіраваньня Лукашэнкі беларускія дзяржаўныя выдавецтвы не друкавалі яе кніжак. Няма прарока дома пад бокам. «Вайна і мір» ёсьць, толькі ўлады яе не заўважылі і не прызналі.

Але тут існуе і глыбейшая праблема. Справа ня толькі ў тым, што Лукашэнка кніг не чытае. «Усе кніжкі я ўжо прачытаў раней», — казаў ён, адказваючы на пытаньні расейскіх журналістаў у кастрычніку 2007 году. Кіраўнік Беларусі ў поўнай меры не разумее самакаштоўнасьці культуры і мастацтва, існаваньня адмысловага мастацкага сьвету. Як і ў савецкія часы, гэты сьвет успрымаецца ім утылітарна, толькі як галіна народнай гаспадаркі. «Нацыянальную культуру мы разглядаем як надзвычай важны стратэгічны рэсурс дзяржавы», — казаў ён на адмысловай нарадзе ў 2001 годзе. То бок культура бачыцца ім не як унікальны сацыяльны фэномэн, а ўсяго толькі як рэсурс дзяржавы, нароўні з вайсковым, фінансавым і іншымі рэсурсамі.

Акрамя таго, па савецкай традыцыі Лукашэнка разглядае культуру як інструмэнт у руках дзяржавы па «выхаваньні» народу ў рэчышчы апошніх палітычных установак.

На сустрэчы з кіраўніцтвам Саюзу беларускіх пісьменьнікаў у верасьні 1998 году кіраўнік Беларусі стаў крытыкаваць Сьвятлану Алек-

сіевіч. Маўляў, няправільна піша. Вось ягоныя развагі:

«І кніжкі Сьвятланы Алексіевіч выдадзеныя ня толькі таму, што яна зь Беларусі ці што яна падняла чарнобыльскія праблемы ці праблемы воінаў-«афганцаў». Вы спытайце: ці была яна ў Чарнобылі або Афганістане? Ці прайшла гэтыя дарогі? Ці прачула тых людзей? Тым, хто бывае ў чарнобыльскай зоне, жыў ці працаваў там, сорамна яе кніжкі чытаць. Часам асобныя месцы ў кніжцы — проста абраза для гэтых людзей. Дзякуй Богу, што ня ўсе яны яе чыталі... Бог ёй судзьдзя, Сьвятлане. Але ў яе няма пачуцьця трагедыі Чарнобылю, нават калі яна прэтэндуе на аб'ектыўнасьць і праўду. Але і праўда з рознымі знакамі бывае. Ёсьць голая праўда — гэта самая страшная праўда. Але ці патрэбная ў літаратуры гэтая голая праўда сёньня? Праўда павінна быць хоць зь нейкім мабілізуючым, аб'яднаўчым адценьнем, каб яна не забівала людзей. Вы разумееце, пра што я хачу сказаць? Так, павінна быць усё сказана — дакладна, канкрэтна, праўдзіва. Але ўсё гэта павінна будзіць сілы да жыцьця. Можа, веліч празаіка і паэта і палягае ў тым, каб умець тонка падаць або, можа, абысьці самыя страшныя месцы. Можа, так, падтэкстам падаць, каб многіх гэтая голая праўда не спалохала. Тыя, хто хоча дакапацца да ісьціны, заўсёды разьбяруцца і будуць рады, што яны ўсё самі асэнсавалі. А іншы, каго гэтая праўда палохае, сьвядома да гэтых глыбінь ня будзе дакопвацца. У гэтым жа жыцьцё». *(«Советская Белоруссия», 1998, 16 верасьня.)*

У гэтых развагах уголас — і непахісная ўпэўненасьць правадыра ў праве даваць указаньні мастакам, і эстэтычная глухата, і вельмі прымітыўнае ўяўленьне пра сацыяльную ролю мастацтва, якая зводзіцца да «мабілізацыі».

## Сьвятлана Алексіевіч, голас Чырвонага чалавека

9 кастрычніка 2015
Міленка Ергавіч

*Харвацка-басьнійскі пісьменьнік Міленка Ергавіч піша пра прысуджэньне нобэлеўскай прэміі ў галіне літаратуры Сьвятлане Алексіевіч. Пераклад Сяргея Шупы.*

Чацьвер, трынаццаць дваццаць. Я толькі што прыйшоў з кавярні «Ван Гог», дзе я ў жывой трансьляцыі на сайце nobelprize.org сачыў за абвяшчэньнем ляўрэата Нобэлеўскай прэміі ў галіне літаратуры. Паслаў віншаваньне майму беларускаму сябру і перакладчыку. Я ўсё яшчэ ўзрушаны і спрабую як найдаўжэй расьцягнуць сваю ўзрушанасьць. Гэтак бывае рэдка: здараецца нешта вялікае і важнае, што выклікае захапленьне, якое перамагае ўсе пакуты, беды і нягоды будзёншчыны, усю банальнасьць жыцьця ў краіне, дзе таблоіды і фэйсбук замянілі сабою патрэбу ў літаратуры, пісьменьніках, кнігах, у размове пра тое, што прачыталася. Вядома ж, вялікасьць падзеі ня ў тым, што абвешчаны нобэлеўскі ляўрэат, і што нават гэтая непісьменная частка сьвету, Харвацкае радыё і тэлевізія і іншыя недаробленыя мас-мэдыі пра нейкага пісьменьніка, дакладней пісьменьніцу, ад гэтага моманту будуць гаварыць зь іншым тонам і акцэнтам, а ў тым і вялікасьць, і важнасьць, што

Нобэлеўскай прэміяй у літаратуры ўшанаваная менавіта Сьвятлана Алексіевіч.

Гэта вельмі эўрапейскі, а разам з тым і вельмі асаблівы выбар. Як тады, калі быў узнагароджаны вялікі баўгарын, габрэй, аўстрыец, нямецкамоўны пісьменьнік Эліяс Канэці, або калі трыма гадамі раней, у 1978 годзе, прэмію атрымаў Іцхак Башэвіс Зынгер, які пісаў на адной эўрапейскай мове, што зьнікла з дымам нацыстоўскіх крэматорыяў, або калі ў 1961 годзе быў ушанаваны вялікі югаслаўскі (нашчадкамі якога лічаць сябе сэрбы і сёй-той басьнійскі харват...) апавядальнік і раманіст Іва Андрыч, які стварыў літаратурную гісторыю пра малую і закінутую эўрапейскую краіну Босьнію і які ў эўрапейскую літаратурную сьвядомасьць вярнуў атаманскую Турцыю як яе складовую частку; ды ўрэшце такім самым, вельмі асаблівым нобэлеўскім выбарам быў і сам Архан Памук, які вярнуў эўрапейскай літаратуры вялікую гісторыю пра горад і гарадзкі характар нашай цывілізацыі.

Так, і да Сьвятланы Алексіевіч былі набэлісты з Усходняй Эўропы, але не з такой закінутай, прыніжанай і маргіналізаванай краіны, як Беларусь, і ня ў тым часе, калі Ўсходняя Эўропа раптам перастала быць тэмай эўрапейскіх дэмакратычных і літаратурных абмеркаваньняў, пасьля таго, як ёй падманам замест абяцанай свабоды падсунулі банальныя макдональдсаўскія забягалаўкі. Былі і раней усходнеславянскія набэлісты, але пасьля Аляксандра Салжаніцына ў 1970 годзе не было таго або той, хто б сваім сло-

вам сьведчыў пра жахлівы стан свайго сьвету. Тым часам як Салжаніцын сьведчыў пра краіну Гулагу, лягераў і бясконцага прыніжэньня, якое зазнае першая асоба адзіночнага ліку, Сьвятлана Алексіевіч сьведчыць пра нешта яшчэ горшае і страшнейшае: сьведчыць пра паразу свабоды і пра страту апошніх ілюзіяў наконт самой магчымасьці свабоды. Можа, яна магчымая для нейкага будучага пакаленьня, таго, якое яшчэ не пачало нараджацца, але для нас, жывых, яе ўжо ніколі ня будзе — мы, жывыя сьведкі камунізму і вязьні посткамуністычнага сьвету, свабоды ўжо не пабачым. Ці ня ёсьць перабольшаньнем і гэтая першая асоба множнага ліку, і зьмяшчэньне нас, тутэйшых, у алексіевіцкую постсавецкую і постбрэжнеўскую парадыгму? На жаль, не. І хоць наша колішняя будзёншчына непараўнальная з будзёншчынай працоўных людзей і грамадзянаў у краінах рэальнага сацыялізму, нашы посткамуністычныя нягоды нікольки ня розьняцца. Паміж Харватыяй і Беларусьсю або Харватыяй і Расеяй розьніца толькі ў нюансах, ну і вядома, у памерах.

Сьвятлана Алексіевіч — сама па сабе літаратурная велічыня, бо яе сукупная жыцьцёвая творчасьць сьведчыць пра нашу эпоху так, як можа сьведчыць толькі літаратура.

Выбар Сьвятланы Алексіевіч у нечым належыць да выключэньняў: яна ня піша вершаў, раманаў і апавяданьняў. Не займаецца мастацкім выдумваньнем, гэта пярэчыць ня толькі яе пісьменьніцкім стратэгіям, але і яе маралі. Яна

забараніла сама сабе нешта прыдумляць. Сьвятлана Алексіевіч насамрэч журналістка, але няма нічога скандальнага або нязвыклага — хоць сярод харватаў знайшліся б і зьдзіўленыя, і раззлаваныя — у тым, што ёй прысуджана Нобэлеўская прэмія. Гаворка тут не пра агульнавядомы факт, які прынагодна схільныя пахваліць і тутэйшыя людзі, што журналістыка часам набывае літаратурную каштоўнасьць і што ня мусіць быць розьніцы паміж добрым стылем у журналістыцы і добрым бэлетрыстычным стылем; Сьвятлана Алексіевіч — сама па сабе літаратурная велічыня, бо яе сукупная жыцьцёвая творчасьць сьведчыць пра нашу эпоху так, як можа сьведчыць толькі літаратура.

Дзякуючы выдавецтву Edicije Božičević і ў нас, амаль нечакана, два гады таму выйшла яе кніга «Час second-hand» з падзагалоўкам «Канец чырвонага чалавека» (пераклаў Фікрэт Цацан), зь дзясяткамі сьведчаньняў пра распад Савецкага Саюзу. Што здараецца, калі найбольшая імпэрыя сьвету, дзе ніколі не заходзіць сонца і чые гаспадары амаль паўстагодзьдзя валодаюць большай часткай плянэты, абрынецца на галовы сваіх падданых? Алексіевіцкія гісторыі, без адзінага выключэньня, інтымныя і прыватныя. Яна бярэ інтэрвію ў звычайных, зможаных людзей, дае ім выгаварыцца, падштурхоўвае іх да таго, каб яны казалі і тое, у чым яны да Суднага дня не прызналіся б ні сабе, ні іншым, і перадае іх споведзі як драматычныя маналёгі, зь якіх нейкім дзіўным чынам прабіваецца шматвяковы літа-

ратурны досьвед, ад Антыгоны да Шэксьпіра і да Дастаеўскага, так што чытач на імгненьне і ня ведае, што ён насамрэч чытае і якая тут роля самой Сьвятланы Алексіевіч. Яна ня робіць высноваў, не гаворыць, маўчыць, яе голасу ў гэтай кнізе няма.

«Час second-hand» — гэта частка адной вельмі жывой і важнай усходнеэўрапейскай літаратурнай традыцыі, якая асабліва прысутная ў Польшчы, дзе кнігі нон-фікшн, літаратурныя рэпартажы і падарожныя нататкі выдаюцца з асаблівай увагай і шанаваньнем, а ў асяродзьдзі добра выхаванай літаратурнай публікі часам чытаныя больш за бэлетрыстыку і раманы. Такая традыцыя паклікаецца на волатаў накшталт Гамбровіча і Хэрлінг-Грудзінскага, а таксама на вялікага клясыка польскай рэпартажнай журналістыкі Рышарда Капусьцінскага, чые кнігі часта перакладаюцца і на нашы мовы. Калі ў 2011 годзе Сьвятлана Алексіевіч атрымала ва Ўроцлаве «Ангелуса», прэмію, якая прысуджаецца найлепшай сярэднеэўрапейскай кнізе, за кнігу пра жанчын, беларусак, украінак і расеек з франтоў Другой сусьветнай вайны, абышоўшы геніяльнага апавядальніка і раманіста Ісмаіла Кадарэ, ніхто не зьдзівіўся, не знайшлося на старонках сур'ёзных польскіх газэт і літаратурных часопісаў тых, хто б мудра разважаў пра адрозьненьні паміж журналістыкай і высокай літаратурай.

Пісьменьнікі накшталт Сьвятланы Алексіевіч магчымыя толькі ў краінах і культурах з традыцыяй прозы нон-фікшн, дзе ёсьць разуменьне

таго, што гісторыя існуе толькі тады, калі яна расказаная і што сьведчаньняў пра эпоху не бывае па-за словамі і мовай.

Пісьменьнікі накшталт Сьвятланы Алексіевіч магчымыя толькі ў краінах і культурах з традыцыяй прозы нон-фікшн, дзе ёсьць разуменьне таго, што гісторыя існуе толькі тады, калі яна расказаная і што сьведчаньняў пра эпоху не бывае па-за словамі і мовай. Дарэмныя фільм і фатаграфія, дарэмная тэлевізія: чалавек — апавядальная істота, няма гісторыі па-за тэкстам. У нашых убогіх паўднёваслявянскіх правінцыях ня будзе лёгка тым, хто зараз паспрабуе чытаць Сьвятлану Алексіевіч, каб зразумець, што было ў галаве ў Швэдзкай акадэміі, калі яна сёньня а першай гадзіне папаўдні абвясьціла гораду і сьвету сваё рашэньне. А што б усчалася, калі б знайшоўся нехта, хто б ім сказаў, што Акадэмія ўжо даўно не прымала такіх сьмелых і зь літаратурнага гледзішча чыстых рашэньняў.

Сустрэнем воплескамі Сьвятлану Алексіевіч і яе велічыню, сустрэнем воплескамі швэдзкіх акадэмікаў, бо яны сёньня далі нам нагоду пагаварыць пра гэтую жанчыну, якая і ўчора была нічым ня меншая. Яе ўшанавалі Нобэлем, але і Нобэль у нечым быў ушанаваны Сьвятланай Алексіевіч.

Яна нарадзілася 31 траўня 1948 году ў Станіслававе, які сёньня завецца Івана-Франкоўск, горадзе ў Заходняй Украіне, ад бацькі беларуса і маці ўкраінкі. Журналістыцы вучылася ў Менску і ў савецкія часы працавала ў розных мясцовых

газэтах і літаратурных часопісах. Вядомасьць прынесьлі ёй кнігі-сьведчаньні пра Другую сусьветную вайну, Чарнобыльскую катастрофу, савецка-аўганскую вайну. Выгнаная рэжымам Аляксандра Лукашэнкі, у 2000 годзе выяжджае з краіны і гадамі жыве ў Парыжы, Гётэборгу, Бэрліне, пакуль у 2011 годзе не вяртаецца ў Менск. Рэжым у міжчасе не зьмяніўся, але, думаю, рэжымныя псы ў міжчасе зразумелі, хто такая Сьвятлана Алексіевіч. На працягу дзевяностых і дзьвюхтысячных яна атрымлівае найважнейшыя літаратурныя прэміі па ўсёй Эўропе — у тым ліку і заснаваную ў 2011 годзе прэмію Рышарда Капусьцінскага, якая хоць далёка і ня самая важная, затое вельмі значная, знакавая — але мала перакладаецца на ангельскую мову. Гэта варта нагадаць, бо паасобныя амэрыканскія літаратурныя крытыкі і журналісты, ня бачачы праблему ва ўласнай культуры, могуць пагардліва сьцьвердзіць, што Нобэлеўскую прэмію зноў атрымаў нехта, пра каго яны ніколі ня чулі.

Сьвятлана Алексіевіч, як мы ўжо сказалі, мяшанага нацыянальнага паходжаньня — прынамсі з тутэйшай пэрспэктывы — а што яшчэ страшней, піша не на беларускай, а на расейскай мове. Беларускія пісьменьнікі часам бываюць схільныя яе гэтым папракаць, што і ня дзіўна, калі ведаеш, што іх мова, як і ўкраінская, аж да здабыцьця незалежнасьці была адсунутая на ўзбочыну жыцьця, а тыя, хто на ёй гаварыў, лічыліся нацыяналістамі і правінцыяламі. Але напэўна нікому ўжо й заўтра ня прыйдзе ў галаву сказаць, што

Сьвятлана Алексіевіч не беларуская, а расейская пісьменьніца. Беларусь, як і Ўкраіна, дзьвюхмоўная ў такой ступені, што мова функцыянуе інклюзіўна, а не эксклюзіўна, выключаючы.

Кажуць, што яна мае непрыемны характар і ў паводзінах іншых часам адчувае агрэсіўнасьць, нават калі для гэтага няма ніякіх падставаў. Ня ведаю чаму, але калі я пра гэта пачуў, мне падалося, што яна мае рацыю. Ва ўсякім разе, заўтра Сьвятлану Алексіевіч будуць любіць і цаніць больш, чым учора. І хоць, праўда, не ў яе краіне, знойдуцца і такія, бо ідыётаў, параноікаў, літаратурных аналітыкаў і геастратэгаў ніколі не бракуе, хто ў прэміі для Алексіевіч будзе шукаць нейкія пазалітаратурныя прычыны і матывы. Я ўжо й цяпер іх чую, тут ня трэба вялікай фантазіі, як яны крычаць пра тое, што сёлетні Нобэль прысуджаны пад рэха вайны ва Ўкраіне. Але чаму тады ўшанаваная не Аксана Забужка, чаму ня Юры Андруховіч, бо ж яны ўкраінскія пісьменьнікі, або чаму ня нейкі апазыцыйны расейскі літаратар — і такія б лёгка знайшліся? Сьвятлану Алексіевіч з вайною ва Ўкраіне зьвяжа толькі той, хто ні пра тую вайну нічога ня ведае, ні саму Алексіевіч не чытаў.

Сьвятлана Алексіевіч у сваёй літаратурнай творчасьці сьведчыць пра паразу і страту. Пра што б яна ні пісала, з кім бы ні гаварыла, гэта яе дзьве неадступныя тэмы. Калі ў наступным годзе будзе адзначацца круглая, трыццатая гадавіна Чарнобыльскай катастрофы, магчыма, знойдзецца нехта, хто пераклaдзе і гэтую яе кнігу. Не-

калі ў Харватыі былі выдавецтвы, якія спаборнічалі за тое, каб першымі выкупіць правы і выдаць кнігу новага ляўрэата Нобэлеўскай прэміі. Але тады былі іншыя выдаўцы і іншыя рэдактары. І так, было б несправядліва менавіта цяпер, у тры сорак, у той дзень, калі Алексіевіч атрымала Нобэлеўскую прэмію, забыцца павіншаваць Наташу Мэдвэд, якая бездакорна адрэдагавала для выдавецтва Edicije Božičević гэтую кнігу, не замінаючы калегу-перакладчыку ў нюансах. Калі б не яна, Сьвятлана Алексіевіч так і засталася б для нашага чытача абсалютна ананімнай. Важна, што так ня здарылася і што мы яшчэ на маленькі крок наблізіліся да Эўропы.

## Саўка ды Грышка пра выбары і Нобэлеўскую прэмію Алексіевіч

11 кастрычніка 2015
Лявон Вольскі, Менск

*«На выбары, ўпярод, беларусЫ! І не забудзьце прычасаць усы»... «Выбары ў параўнаньні з Нобэлем — дробная фікцыя, Саўка, ня болей» — спрачаюцца музычныя героі Лявона Вольскага.*

**Саўка:**

На выбары, друзья, ўпярод і зь песьней!
Чэм дальшэ, цем всё будзет інцерэсьней.
Но ў меру інцерэсна — ўсё культурна -
Сто грам на грудзь, і бюлецені ў урны.
Я сам быў прэдседацелем кагда-та.
Студзенты галасуюць так, как нада,
А такжэ людзі із госапарата.
Как нада галасуюць і салдаты.

**Грышка:**

Гэта мышыная ўсё валтузьня,
Бо Алексіевіч Нобэля ўзяла.
Выбары ў параўнаньні з Нобэлем —
Дробная фікцыя, Саўка, ня болей.

**Саўка:**

Якога, Грышка, Нобеля, аксьціcь ты!
Как нада галасуюць і арцісты.
Ані ужэ праехалі па сёлам
З шоў агітацыонным, но вясёлым.
Ані ўсім абʼясьнілі харашэнька,
Што прэзідзентам будзет... самы сільны,
Дастойны самы, самы лучшы, мудры...
Сто грам на грудзь, і бюлецені ў урны!

**Грышка:**

Выбары — дзея трэцяга пляну,
Калі параўнаць з трыюмфам Сьвятланы.
Усім надакучылі вашыя фішкі,
Дробныя, шэрыя гора-людзішкі.

**Саўка:**

Друзья, прашу, ня слушайце убогіх!
І, есьлі нада, талханіце ў бок іх.
На выбары, ўпярод, беларусЫ!
І не забудзьце прычасаць усы.

**Грышка:**

Я пастаянна галасаваў,
Пасьля чаго быў поўны завал.
Дык вось цяпер не пайду я і ўрэшце,
Хочацца верыць, зьменіцца нешта.

## «Не сумняваюся, што настане той час, калі беларусы ўганаруюць Алексіевіч як нацыянальную гераіню»

24 кастрычніка 2015
Валянцін Жданко, Менск

*З агляду лістоў на Свабоду «Паштовая скрынка 111».*

... Адна з найбольш адметных і радасных для Беларусі падзей апошняга часу — прысуджэньне літаратурнага Нобэля Сьвятлане Алексіевіч. Першая ў нацыянальнай гісторыі Нобэлеўская прэмія — падстава для гонару краіны. Беларускія ўлады, аднак, адрэагавалі на падзею больш чым стрымана. Прычына зразумелая: Сьвятлану Алексіевіч ніяк не залічыш у прыхільнікі Лукашэнкавай палітыкі. З падазрэньнем паставіліся да трыюмфу беларускай пісьменьніцы і некаторыя нашы слухачы. У прыватнасьці, вось што піша Барыс Руцько зь Менску:

«Прысуджэньне Нобэлеўскай прэміі Сьвятлане Алексіевіч — гэта пачатак ажыцьцяўленьня адмысловага пляну супраць Беларусі, мэта якога — стварэньне хаосу дзеля таго, каб зрынуць Лукашэнку. Асабіста я чакаю, што Алексіевіч неўзабаве стане лідэрам беларускай апазыцыі, а потым — і кандыдатам у прэзыдэнты ад гэтай апазыцыі. Прычым, хутчэй за ўсё, не праз пяць гадоў, а гады праз два-тры.

Нобэлеўскія прэміі Захад дае не за геніяльнасьць і не за забесьпячэньне міру, а дзеля таго, каб вядомая асоба стала агентам уплыву. Ну, вось Салжаніцын хіба ня быў агентам уплыву Захаду? Ці Сахараў? Дый Пастарнак таксама, хоць, мабыць, толькі напалову...

Так што Алексіевіч цяпер будзе ўсяляк крытыкаваць, абліваць брудам дзеячаў Беларусі і Расеі. У Захаду адносна яе далёкасяжныя пляны....», — гэтак лічыць Барыс Руцько зь Менску.

Вось цікава, спадар Барыс, а савецкі пісьменьнік Шолахаў, усяляк аблашчаны камуністычным рэжымам, таксама быў «агентам уплыву Захаду»? А расейскі акадэмік і прыхільнік расейскіх камуністаў Жарэс Алфёраў? А савецкі фізык і двойчы герой сацыялістычнай працы Пётар Капіца? А савецкі акадэмік, ляўрэат ня толькі Нобэлеўскай, але і Ленінскай, і трох Сталінскіх прэміяў Леў Ландаў?

Сьвятлана Алексіевіч да палітычнай апазыцыі ніколі сябе не прылічвала і, наколькі вядома, займацца палітычнай дзейнасьцю не зьбіраецца. А вось тое, што яна стала бясспрэчным маральным аўтарытэтам для лепшай часткі беларускага грамадзтва — гэта безумоўна. Ніколькі не сумняваюся, што настане той час, калі беларусы ўганаруюць Алексіевіч як нацыянальную гераіню. Яна вартая таго, бо зрабіла для сваёй краіны значна больш, чым усе нашы няўцямныя бляклыя палітыкі і хакеісты, разам узятыя. Але адбудзецца гэта, зразумела, не пры сёньняшняй уладзе...

## Лукашэнка пра Алексіевіч: «Не пасьпела атрымаць Нобэлеўскую прэмію, а ўжо выліла бруд на краіну»

25 кастрычніка 2015
Радыё Свабода, Менск

*Аляксандар Лукашэнка наведаў творчы вечар расейскага кампазытара Віктара Дробыша, які быў арганізаваны ў «Менск-Арэне».*

Як паведамляе БелТА, ён яму ўручыў ордэн Францішка Скарыны і падкрэсьліў, што шануе Віктара Дробыша за яго творчасьць, але «больш за ўсё за тое, што вы ніколі, нават быўшы далёка ад нашай Радзімы, калі пра нас ня вельмі добра казалі, не саромеліся называць сябе беларусам, у адрозьненьне ад асобных нашых «творцаў»».

«Скажу зноў жа пра нашых асобных «творцаў», творчых асобаў, нават ляўрэатаў Нобэлеўскай прэміі, якія не пасьпелі яшчэ яе атрымаць, выехалі за межы краіны і пастараліся цэбар бруду выліць на сваю краіну. Гэта няправільна, гэта не апазыцыйнасьць. Гэта абсалютна няправільна, таму што Радзіму, сваю зямлю, як і сваіх бацькоў, сваю маці не выбіраюць. Яна такая, якая яна ёсьць. Калі ты дрэнна кажаш пра Радзіму, саромеесься яе, значыць, ты, перш за ўсё дрэнны сын», — працягнуў Аляксандр Лукашэнка.

## Што Сьвятлана Алексіевіч казала пра рэжым Аляксандра Лукашэнкі

25 кастрычніка 2015
Радыё Свабода, Менск

*Аляксандар Лукашэнка выказаў незадаволенасьць пазыцыяй сёлетняй нобэлеўскай ляўрэаткі па літаратуры Сьвятланы Алексіевіч. Паводле яго словаў, ляўрэатка Нобэлеўскай прэміі выехала за межы Беларусі і пастаралася «цэбар бруду выліць на сваю краіну».*

Тут сабраныя выказваньні пісьменьніцы пра цяперашнюю ўладу пасьля таго, як стала вядома пра яе ўганараваньне Нобэлеўскай прэміяй.

### Выступаючы ў Ягелёнскім унівэрсытэце ў Кракаве, пісьменьніца казала:

«У Беларусі Лукашэнка спыніў час. Яго ўменьне прадаваць сваю біяграфію то Эўропе, то Расеі і атрымліваць за гэта газ і нафту... Гэтыя грошы сыходзяць на тое, што мы іх проста праядаем, а ня ўкладваем у будучыню, у тэхналёгіі. Але ён спыніў і сацыялізм. Заводы і фабрыкі належаць дзяржаве. Па вялікім рахунку, нічога не прададзена, нават маленькія прадпрыемствы. Ён захаваў псыхалёгію сацыялізму, бо ён сам гэтай псыхалёгіі чалавек. Ён увесь час гаворыць на гэтых прадпрымальнікаў, лічачы, што яны бандыты, што гэта несумленныя людзі. І адбылося такое

спыненьне. І ў беларусаў мякчэйшы варыянт гэтага сацыялізму».

«Лукашэнка баіцца, што Пуцін заваюе нас. Але ня трэба ваяваць зь Беларусьсю. Нам проста дастаткова зімой закруціць два краны — нафтавы і газавы. Усё. І Беларусі няма, і Лукашэнкі няма. Так што... Лукашэнка цалкам у руках Пуціна. І ніякі Захад ня возьме Лукашэнку на ўтрыманьне так, як яго ўзяў на ўтрыманьне Пуцін, плацячы яму за тое, што ён зь ім. Таму што Беларусь засталася адзіным сябрам Расеі. Ужо, як вы ведаеце, авіябаза будзе ў нас расейская. То бок, гэта будуць ракеты.

Усе выдатна разумеюць, што гэта будзе месцам першага ўдару ў выпадку чаго. Лукашэнка кажа, што ён гэтага не дапусьціць, але гэта нічога ня значыць. Гэта значыць, што ён проста таргуецца з Пуціным. Ён хоча, каб Пуцін яму за гэта яшчэ больш заплаціў. Так што вось такія адносіны. Відаць, што калі яны стаяць побач, то яны адзін аднаго не трываюць. Таму што Лукашэнка часта абражае Пуціна, як бы паказваючы нейкую сваю самастойнасьць. І мужыкі ў вёсцы кажуць: «А глядзі-тка як наш! Як ён гэтага карліка!». Ён на гэта і цісьне.

## На прэс-канфэрэнцыі ў Бэрліне Алексіевіч таксама казала пра Беларусь.

*Аб прэзыдэнцкіх выбарах 2015 года:*

«Мы ўсе маем падазрэньне, што для Лукашэнкі няважна, як мы галасуем. Як казаў Сталін, ня важна, як галасуюць, а важна, хто падлічвае. Тут нібыта той выпадак. Так што ніхто з нас не чакае ніякіх сюрпрызаў, і ўсе маюць адчуваньне: тое, што ў Расеі і Беларусі, — усё гэта надоўга».

*Аб расейскай вайсковай авіябазе ў Беларусі:*

«Я ня думаю, што ён сапраўды супраць базы. Я думаю, што ён таргуецца — ён спадзяецца, што Расея дасьць яму грошай. Гэта ягоная вядомая гульня. Калі кепска з Расеяй, ён паварочваецца ў бок Эўропы. За гэты час у Эўропе памянялася кіраўніцтва — кожныя чатыры гады прыходзяць новыя людзі, і яны думаюць, што перайграюць Лукашэнку. Яны спрабуюць гэта зрабіць, ня ведаючы, што гэта ненадзейны чалавек, і калі Расея дасьць яму грошай, ён адразу ж адвернецца ад Захаду. Мы гэта бачылі — разоў пяць гэта было на нашых вачах».

## Пра пэрспэктыву збліжэньня Лукашэнкі з Эўразьвязам:

«Па-першае, ніхто гэтага Лукашэнку не адпусьціць. Ня трэба нават ніякіх «зялёных чалавечкаў»,

ніякіх салдатаў. Проста яму не дадуць газ ці нафту, і ўсё — мы будзем зіму жыць як на лёдзе».

*Пра выбары 2010 году:*

«Вы ведаеце, калі Лукашэнка пасадзіў людзей, калі людзі выйшлі на плошчу, 700 было арыштавана, многіх зь іх ён пасадзіў, нават кандыдатаў у прэзыдэнты, я напісала яму адкрыты ліст. Але вы ведаеце, што ў нас у краіне кіруе толькі адзін чалавек, ніхто мне не адказаў на гэты ліст. Адзінае, што я атрымлівала, — сотні лістоў ад людзей, якія хацелі гэта пачуць, каб хтосьці хаця б гэта сказаў. Мы ведалі, што мы бясьсільныя, але каб хтосьці хаця б гэта сказаў».

## Шушкевіч, Казько і Арлоў камэнтуюць словы Лукашэнкі пра Алексіевіч

25 кастрычніка 2014
Кацярына Зайкоўская, Менск

Былы старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч адзначае рост Сьвятланы Алексіевіч як палітыка і гаворыць пра недарэчнасьць варожых выказваньняў Аляксандра Лукашэнкі ў бок пісьменьніцы.

**Шушкевіч**: «Лукашэнка ўвогуле не разумее, што такое Нобэлеўская прэмія. Любы прэзыдэнт маліцца павінен, каб прадстаўнік яго краіны стаў ляўрэатам, таму што гэта вялізнае прызнаньне на сусьветным узроўні. Што бачым мы? Абвінавачаньне ў апазыцыйнасьці пісьменьніцы, якая ўпершыню такое прызнаньне атрымала.

Гэта яшчэ адно сьведчаньне таго, што Аляксандр Лукашэнка — антыбеларус і ўся яго 20-гадовая дзейнасьць антыбеларуская. Ён стаіць на задніх лапках перад расейскім кіраўніком і выконвае ўсё, што яму загадаюць з Крамля.

Я вельмі пільна сачу за ўсімі выступамі Сьвятланы Алексіевіч і магу адзначыць, што яна вельмі моцна ўдасканалілася ў палітычным пляне. Можна сказаць, што стала сапраўдным палітыкам. А яе выступ у Кракаве — гэта вельмі ўзважаная ацэнка і аналіз сытуацыі. Магу сказаць, што мае думкі супадаюць з тым пра што кажа Алексіевіч. Адзінае, што яна ўмее вельмі выкшталцона іх выкласьці. Я лічу, што мы павінны ганарыцца

такім чалавекам. Найперш, беларускія жанчыны павінны ганарыцца».

Пісьменьнік, ляўрэат літаратурнай прэміі Гедройця ў 2015 годзе Віктар Казько адзначае, што прэзыдэнт Аляксандр Лукашэнка дэманструе неспагадлівае стаўленьне ня толькі да канкрэтнай асобы нобэлеўскай ляўрэаткі Сьвятланы Алексіевіч, а да ўсёй культуры, да таго, што мае прыкметы беларускай сацыянальнасьці.

**Казько**: «Яму хочацца, каб мы былі як авечкі ў загоне, слухалі, што скажа пастух-правадыр. Але ў мастацтве так ня можа быць. Мастак таму і мастак, што мае сваё меркаваньне. І толькі праз адлюстраваньне гэтага меркаваньня можа адбывацца творчасьць. Мастакі ня хочуць быць у статку, брахаць на загад.

Сьвятлана Алексіевіч — асоба, да якой прыслухоўваюцца. Як да Коласа, як да Купалы. Таму што ў словах такіх літаратараў заўсёды ёсьць нешта прарочае. Вось Лукашэнка і злуецца, што людзі хутчэй прыслухаюцца да Алексіевіч, чым да яго».

Віктар Казько падкрэсьліў, што вельмі высока цэніць творчасьць Сьвятланы Алексіевіч, але адзначыў, што ў «нобэлеўскія кабінэты Беларусі дарогу праклаў Васіль Быкаў».

Пісьменьнік Уладзімер Арлоў пералічыў прычыны нэрвовага стаўленьня Аляксандра Лукашэнкі да Сьвятланы Алексіевіч.

**Арлоў**: «Я лічу, што такая нэрвовая рэакцыя ўладаў на атрыманьне Сьвятланай Алексіевіч

Нобэлеўскай прэміі выклікана некалькімі чыньнікамі.

Па-першае, насуперак неаднаразовым заявам Аляксандра Лукашэнкі пра тое, што нашыя пісьменьнікі нічога ня вартыя — маўляў, другую «Вайну і мір» не напісалі — высьвятляецца, што беларускія літаратары могуць дасягнуць вельмі высокага ўзроўню.

Па-другое, Сьвятлана Алексіевіч належыць не да Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, якім кіруе генэрал Чаргінец, а да незалежнага Саюзу беларускіх пісьменьнікаў — арганізацыі, якая лічыцца ўладамі выразна апазыцыйнай.

Па-трэцяе, Сьвятлана Алексіевіч ніколі не хавала сваіх дэмакратычных поглядаў. Зразумела, што Нобэлеўская прэмія ніякім чынам на яе перакананьні не паўплывала, яна гаворыць пра тое, што не прымае цяперашнюю сытуацыю ў Беларусі».

Уладзімер Арлоў выказаў спадзеў, што ва ўладаў хопіць розуму не рабіць варожых крокаў у бок пісьменьніцы Алексіевіч.

**Арлоў**: «Наадварот — цяпер момант, калі дзяржаўныя выдавецтвы павінны азадачыцца друкам яе твораў, чаго не было ўжо апошнія чвэрць стагодзьдзя. Абавязкова павінны быць выдадзеныя пераклады яе твораў на беларускую мову — тым больш, што на іх ёсьць вялікі попыт.

Я таксама спадзяюся, што ня будзе адмененае рашэньне пра вяртаньне твораў Сьвятланы Алексіевіч у школьную праграму. Улады павінны

зразумець, што посьпех Сьвятланы — агульнанацыянальны, што прэмія атрыманая ня толькі ёй, але і ўсёй нашай краінай, што беларускі «Нобэль» павышае аўтарытэт усёй Беларусі. Пакуль жа сваімі заявамі прэзыдэнт дэманструе неразуменьне такіх элемэнтарных рэчаў».

## Алексіевіч адказала на крытыку Лукашэнкі: «Ніякай ідэі, абы ўтрымаць уладу»

25 кастрычніка 2015

*Ляўрэат Нобэлеўскай прэміі 2015 па літаратуры Сьвятлана Алексіевіч у нядзелю, 25 кастрычніка, у эфіры радыёстанцыі «Гаворыць Масква» пракамэнтавала крытыку прэзыдэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі на свой адрас.*

«Калі Лукашэнка павіншаваў мяне, хай ня першы, я была рада, таму што зразумела, усё ж ён палітык. І раптам вось гэты камэнтар», — сказала беларуская пісьменьніца.

Яна выказала меркаваньне, што віншаваньне Лукашэнкі з прысуджэньнем ёй Нобэлеўскай прэміі было зроблена таму, што набліжаліся выбары кіраўніка беларускай дзяржавы.

«Тут поўна было розных камісій міжнародных, і перад сваім народам трэба было трымаць твар, а цяпер ён вольны», — заявіла яна.

Паводле пісьменьніцы, яна ніколі не крытыкавала беларускі народ, а толькі палітычныя рашэньні прэзыдэнта.

«Я б сказала, што не пра гэта трэба сёньня прэзыдэнту гаварыць. Народ чакае рэформаў, у народзе назапасілася энэргія. А ў нас наогул ніякай ідэі. Толькі б утрымаць уладу. Калі гэта абраза беларускага або расейскага народу, то я

ня ведаю, дзе і ў якім часе мы жывем», — дадала Алексіевіч.

Раней у нядзелю Лукашэнка ў часе ўзнагароджаньня ў Менску кампазытара Віктара Дробыша параўнаў яго з Алексіевіч, падкрэсьліўшы, што Дробыш, будучы далёка ад роднай зямлі, ніколі не саромеўся называць сябе беларусам, «у адрозьненьне ад асобных нашых творцаў, творчых асоб, нават ляўрэатаў Нобэлеўскай прэміі, якія яшчэ не пасьпелі атрымаць яе, выехалі за межы краіны і пастараліся цэбар бруду выліць на сваю краіну». Прэзыдэнт таксама заявіў: «Радзіму, сваю зямлю, як і сваіх бацькоў, сваю маці не выбіраюць. Яна такая, якая ёсьць. І калі ты дрэнна кажаш пра Радзіму, саромеесься яе, значыць ты, перш за ўсё, дрэнны сын».

Верагодна, кіраўнік дзяржавы адрэагаваў на выказваньні пісьменьніцы за мяжой, у прыватнасьці на сустрэчы з заходнімі журналістамі ў Бэрліне 10 кастрычніка. Тады Алексіевіч папярэдзіла Эўропу пра тое, што Лукашэнка «таргуецца, каб набіць сабе цану ў адносінах з Расеяй, і зноў адвернецца ад Эўропы, калі атрымае расейскія грошы».

## Алексіевіч і Лукашэнка

25 кастрычніка 2015
Юры Дракахруст, Прага

Звычайна ці вельмі часта публіцыстычная, грамадзянская і творчая пазыцыя пісьменьніка супадаюць.

Зразумела, творчасьць ня зводзіцца да грамадзянскай пазыцыі, але супярэчнасьць сустракаецца даволі рэдка. У сваіх кнігах прынамсі Дастаеўскі не супярэчыў, скажам, сваёй «любові» да палякаў ці свайму «канстантынопальнаш», выкладзеным у «Дзёньніку пісьменьніка».

Ну а вось Сьвятлана Алексіевіч... Вядомая яе грамадзянская пазыцыя, за якую яе ў Расеі ахрысьцілі русафобкай, яе жорсткая крытыка як Пуціна, гэтак і Лукашэнкі.

Але што да творчасьці, то адзін знаёмы распавёў гісторыю пра напісаньне «Час second-hand». Вядома, што для сваіх кніг пісьменьніца апытвае дзясяткі, калі ня сотні, людзей, у кнігу трапляе тое, што кладзецца ў яе бачаньне. Дык вось, знаёмы распавёў пра адну з гутарак пісьменьніцы для «Час second-hand» з пасьпяховым бізнэсоўцам. Той распавёў Алексіевіч, што цяперашні час, нягледзячы ні на што, шчасьлівы ў ягоным жыцьці ці, прынамсі, значна шчасьлівейшы, чым савецкі. Яго і рабавалі, і кідалі, і грошы ён губляў, і з бандытамі даводзілася разьбірацца, і з чыноўнікамі. Але гэта было паўнакроўнае жыцьцё,

рэалізацыя здольнасьцяў гэтага чалавека. Нават ня ў грошах справа, ці не ў адных іх.

Гэты чалавек змог рэалізаваць сябе, змог, кажучы высокім штылем, здабыць сваё шчасьце менавіта дзякуючы таму, што абрынуўся «савок», і наўпрост гэта і сказаў пісьменьніцы.

Чытачы кнігі ведаюць — гэтая гісторыя ў кнігу не ўвайшла. Абсалютна не ў папрок аўтару — як сьпяваў Акуджава, «каждый пишет, что он слышит», кнігі Алексіевіч — гэта менавіта літаратура, а не рэпартаж і не ўсебаковае навуковае дасьледаваньне. Але я менавіта пра тое, што чуе вуха, душа пісьменьніка.

Чуе, як памятаюць чытачы, расповед іншага бізнэсоўца, былога афіцэра СА, які цяпер гандлюе італьянскай сантэхнікай. Ён можа і ня менш пасьпяховы, чым той, чый расповед не ўвайшоў у кнігу, але што ён кажа? Ну так, бабкі, усе справы, але тады, у СССР, я ведаў, для чаго жыву, была мэта, місія, вышэйшая за мяне, сэнс жыцьця. А цяпер які сэнс — сральнікі замежныя прадаваць?

Утрырую, можа, крыху, але сэнс шчыраваньняў такі. Так, у кнізе ёсьць жахлівыя ўспаміны людзей пра сталінскі тэрор, што, магчыма, пільныя расейскія аглядальнікі палічылі русафобіяй і паклёпам на іхняе сьветлае сёньня. Але калі глядзець на экзыстэнцыйныя сэнсы герояў кнігі, то яны ўсе ў цяперашнім часе — прайграўшыя, расчараваныя, упаўшыя ў роспач, пачынаючы зь першага завочнага дыялёгу дзьвюх жанчын: былой апазыцыянэркі, удзельніцы дэмакратыч-

нага руху і былой намэнклятурніцы. Прайгралі ж абедзьве: другая — таму што абрынуўся яе сьвет, першая — таму што сьвет, за які яна змагалася, аказаўся не такім, як марылася ў часы перабудовы, падступным і бязьлітасным.

У кнізе няма шчасьлівых людзей. А калі і ёсьць, то яны шчасьлівыя адно як людзі, ад таго, што на сьвеце засталася любоў, спагада, чалавечая цеплыня. Але ад калясальнага злому, зьмены, якая адбылася на ўсёй постсавецкай прасторы, прайгралі ўсе. Усе героі «Часу second-hand». Насамрэч прайгралі далёка ня ўсе, але тых, хто выйграў, у кнізе няма — «каждый пишет, что он слышит».

Каб быў Лукашэнка чалавекам больш тонкім, чуйным, каб зразумеў глыбінны сэнс, абстрагаваўшыся ад антысталінскіх ідэалягічных «жупелаў» — дык загадаў бы выдаць «Час second-hand» мільённым накладам, каб кнігу прачытаў кожны беларус. Бо яна тлумачыць, чаму Лукашэнка (і Пуцін) магчымыя. А ў межах аўтарскага бачаньня — нават чаму яны непазьбежныя і чаму, уласна, нічога іншага і чакаць было ня варта. Кніга тлумачыць нават апошнія, пасьлявыбарчыя «терзания» Лукашэнкі, які насуперак ім жа прызначаным урадоўцам кажа, што ня хоча «рэзаць па жывым». Бо тое жывое — нават ня ўзровень жыцьця, ня грошы, ня статусы, як у гераіні кнігі, якую дзялкі «разьвялі» і адабралі кватэру ў Маскве, а сэнсы жыцьця. Як у таго былога афіцэра савецкай арміі, таксама героя кнігі Алексіевіч — бабло ёсьць, а сэнсу жыцьця няма. Для такіх людзей у Расеі «крымнаш» — гэта вернуты, набыты сэнс. А ў

Беларусі — Лукашэнкаў сацыялізм. Гэта ж справядліва, гэта ж па праўдзе.

Як у Багдановіча — і тчэ, забыўшыся, рука. Гэтак і у Алексіевіч — як рацыянальны, сьвядомы чалавек, яна адкідае, крытыкуе парадкі ў сваёй Радзіме. Але як творца, калі руку вядзе ня ўласны розум, а Бог — бадай што апалягетызуе іх.

Паважаю вялікіх беларусаў і беларусак. Але сымпатыі мае — хутчэй на баку таго бізнэсоўца, «буржуя», чый расповед не ўвайшоў у кнігу Алексіевіч. Хоць урокі вялікіх трэба ведаць і ўсьведамляць. Хаця б як пагрозу, як біблійныя «мэнэ, тэкэл, фарэс», напісаныя на сьцяне беларускай гісторыі.

## Беларуска на Нобэлеўскім п’едэстале

8 лістапада 2015
Сяргей Навумчык

Уначы званок з Канады (на іншым баку плянэты яшчэ дзень), Івонка Сурвіла: «Толькі што па тэлебачаньні паказвалі інтэрвію з Алексіевіч, прамаўляла яна так цудоўна, сказала пра маленькі і дарагі ёй кавалак зямлі — пра Беларусь, вельмі я ўсьцешаная такімі яе словамі!»

Такія ацэнкі ў першы «пасьлянобэлеўскі» месяц давялося чуць часта — у тым ліку і ад тых, хто раней выказваў сумневы, ці ня будзе ўзнагарода аднесеная ў скарбонку усходняга суседа. І ці захоча сама ляўрэатка лічыць сябе беларускай, а не расейскай пісьменьніцай.

Да ліку гэтых людзей належаў і аўтар гэтых радкоў.

У нечым — дарэмна. А ў нечым — і небеспадстаўна.

Калі знаёмісься, год за годам, з выказваньнямі Сьвятланы Алексіевіч на Радыё Свабода — у інтэрвію, камэнтарах, дыскусіях, — пераконваесься, што ніколі — ні ў дзевяностыя, ні ў нулявыя — пісьменьніца Беларусі не выракалася. У адным з апошніх сваіх інтэрвію Генадзь Бураўкін, які добра ведаў Алексіевіч, наўпрост заявіў, што «яна ніколі не была ворагам беларускай мовы. Іншая справа, што мне было б намнога прыемней, калі б яна карысталася беларускай мовай у сваёй творчасьці — цікавай і таленавітай. Але гэта

вельмі тонкія рэчы. Прыкладам, Алесь Адамовіч бліскуча гаварыў па-беларуску, па-беларуску пісаў і свае літаратуразнаўчыя працы. А вось прозу сваю пісаў па-расейску. І калі я пытаўся ў яго, у чым справа, ён адказваў: «Ня ведаю. Вось саджуся за пісьмовы стол, і каб выказацца, мне патрэбна расейская мова». Магчыма, нешта падобнае і ў Сьвятланы».

Вось і адказ на пытаньне пра мову твораў.

Што да тэматыкі, дык маюць рацыю тыя, хто заўважае: у апошняй кнізе Алексіевіч вы ня знойдзеце нікога, хто ня быў бы расчараваны пераменамі, якія адбыліся пасьля распаду СССР і крушэньня камуністычнай сыстэмы. Хаця бясспрэчна, былі і ёсьць людзі, якія інакш успрынялі тыя часы. А ў Беларусі (як і ва Украіне) былі і ёсьць тыя, хто ня лічыць тыя гады страчанымі найперш таму, што ўдалося дасягнуць незалежнасьці сваіх краінаў. Вось такіх споведзяў — няма ў творах Алексіевіч. Але гэта — безумоўнае і неад'емнае права пісьменьніка, вольнага выбіраць і тэмы, і герояў, і танальнасьць. Сапраўды, дзіўна было б папракаць Дастаеўскага ці Быкава ў тым, што адзін бачыў толькі «цёмныя» бакі Пецярбургу а другі — толькі бруд і кроў вайны. Важна, што атрымалася ў выніку. А вынік такі, што швэдзкія акадэмікі прызналі тэксты Алексіевіч вартымі найвышэйшай літаратурнай узнагароды — той самай, якой былі адзначаны Бунін, Хэмінгуэй, Пастэрнак, Маркес...

Але вось выказваньні палітычнай, грамадзянскай пазыцыі, публічныя ацэнкі — гэта зусім

іншае, тут ужо ёсьць права патрабаваць ад таго, хто гэтую пазыцыю агучвае, аб'ектыўнасьці і, як мінімум, адпаведнасьці фактам.

Проста сумна было чытаць некаторыя выказваньні Сьвятланы Алексіевіч на адрас нацыянальнага руху канца 80-х — пачатку 90-х і яго лідэраў, апагеем непрыманьня якіх назаву параўнаньне з Гамсахурдзія (дзе былы грузінскі прэзыдэнт — дыктатар і падбухторшчык грамадзянскай вайны). Ніводнага доказу, ніводнага факту на карысьць такой ацэнкі пісьменьніца не прыводзіць. Даволі часта яе выказваньні вынікалі з простага няведаньня: напрыклад, яна бачыла памылку БНФ у тым, што той, нібыта, імкнуўся спачатку пабудаваць нацыянальную дзяржаву, і толькі потым — дэмакратычную. Сёньняшняя моладзь, вакол якой штучна ўтвораны інфармацыйны гістарычны вакуўм, можа і ня ведаць, што той самы БНФ якраз дэмакратычныя рэформы вылучаў на першае месца, дамагаючыся і роспуску камуністычнага Вярхоўнага Савету, і прыняцьця Канстытуцыі, якая б гарантавала дэмакратычны шлях разьвіцьця дзяржавы. Так, гаварылася і пра беларускую мову — пра выкананьне Закону, прынятага яшчэ Вярхоўным Саветам БССР, у якім ніводнага «франтаўца» не было. Моладзь можа гэтага ня ведаць (і ў большасьці — ня ведае), але той, хто хоць мінімальна сачыў за палітычнымі падзеямі — мусіў бы ведаць.

І гэтыя «белыя плямы» ды спрэчныя высновы — побач з філязофскімі, вобразнымі ацэнкамі прыроды чалавека, надзвычай глыбокімі

назіраньнямі за трансфармацыяй грамадзтва ў нашыя сапраўды няпростыя, драматычныя часы.

Мне хочацца (магчыма, наіўна) гэткім чынам патлумачыць гэтыя «белыя плямы»: Сьвятлана Алексіевіч не ўключала тэлевізар, ня слухала радыё, не чытала газэт, магчыма, увогуле адсутнічала ў Беларусі ў нейкія лёсавызначальныя моманты 90-ых — апытвала людзей, працавала над сваімі творамі.

Над кнігамі, якія, акрамя ўсяго іншага, узьнесьлі яе на такі п’едэстал, на якім ніхто зь беларусаў яшчэ ня быў. І зь якога яна можа пра Беларусь гэтак гучна сказаць — як ніколі яшчэ не гучала.

Зрэшты, якім бы ціхім голасам, хоць бы і шэптам, ні прамаўляла цяпер Сьвятлана Алексіевіч — кожнае ейнае слова будзе шматкроць узмацняцца.

Гэтую вагу свайго слова пісьменьніца цудоўна ўсьведамляе — тое было бачна на першай прэсавай канфэрэнцыі ў «Нашай Ніве» (усе адразу адзначылі, што Алексіевіч сама выбрала сьціплы пакойчык незалежнай беларускай газэты, хаця ў той дзень магла б разьлічваць на якое заўгодна памяшканьне ў сталіцы).

І мне падаецца, што ніхто зь ліку самых цьвёрдых абаронцаў беларушчыны пасьля таго «нобэлеўскага» дня ня можа папракнуць яе нічым. Старыя спрэчкі павінны застацца ў мінулым.

А ў сёньняшнім дні, і ў будучым, і назаўсёды — Беларусь мае сваю нобэлеўскую ляўрэатку — якая, дарэчы, у дзень свайго трыюмфу прыгадала і Васіля Быкава, і Алеся Адамовіча. А таксама і тое, што яе прадзед вучыўся разам зь Якубам Коласам.

## Сьвятлана Алексіевіч і два рускія сьветы

12 лістапада 2015
Юлія Чарняўская

За городом вырос пустынный квартал
На почве болотной и зыбкой.
Там жили поэты, — и каждый встречал
Другого надменной улыбкой.
Аляксандр Блок

«Ну і актыўнасьць, — думаў горка, —
Такая з роду не была.
О, каб і творчая гаворка
На ўздыме гэтакім ішла!..»
Вядзьмак Лысагорскі

Трохі пра факты агульнавядомыя — каб увайсьці ў кантэкст. Нобэлеўская прэмія па літаратуры прысуджаецца з 1901 году. Узнагароджаньне не праводзілася толькі сем разоў: у 1914, 1918, 1935, 1940–1943 гадах. Сто сем ляўрэатаў былі мужчынамі. Наша суайчыньніца Сьвятлана Алексіевіч — толькі чатырнаццатая жанчына-ляўрэат. І, нягледзячы на несканчоныя спрэчкі ў Беларусі — а ці беларуская пісьменьніца Алексіевіч, якая піша па-расейску? — значная частка тых, хто адмаўляе яе «беларускасьць», зьмякчыла сваю думку пасьля Нобэля. Або, прынамсі, цывілізавана павіншавала. Я цяпер кажу не пра форумных хамячкоў, фрыкаў, троляў і да т. п. — а пра публічных асобаў: яны ведаюць пра сваю адказнасьць. Таму што Нобэль для краіны — як ні

круці — гэта карона для каралевы. Нездарма цяпер увесь сьвет выстуквае ў Гугле імя «Belarus».

Што гэта значыць? Што на нас цяпер будзе накіраваны пільны позірк Эўропы і сьвету. Магчыма, гэта дасьць магчымасьць пабачыць новыя, пакуль невядомыя камяні ў навюткай беларускай кароне: эх, падбалі б аб перакладах Быкава і Барадуліна — глядзіш, іх было б ужо тры. Але магчымыя новыя, не адкрытыя яшчэ імёны... І новыя пераклады. І ўзьлёты: таму што ўвага сьвету падахвочвае чалавека да дзеяньня. Значна больш рэальнай стала эўрапейская вядомасьць для іншых беларусаў: адзначаная «Нобэлем» ці не — гэта ня важна. Прэмія Сьвятланы Алексіевіч адкрывае нас сьвету — ня толькі з боку Лукашэнкі і БАТЭ, але і з боку дасягненьняў культуры. І магчыма, больш ня трэба будзе тлумачыць іспанскаму службоўцу на рэцэпцыі або амэрыканскаму мэнэджэру, дзе ж такая краіна — Беларусь.

Да ўсяго гэтага, нобэлеўскі ляўрэат — бясспрэчны аўтарытэт, які можа «истину царям с улыбкой говорить», і цары яго — хай зь неахвотай, але чуюць. З нобэлеўскім ляўрэатам даводзіцца лічыцца. І беларускія інтэлектуалы — крытыкі, літаратуразнаўцы, эсэісты, пісьменьнікі, — як правіла, гэта разумеюць: «за» яны ці «супраць».

Разумеюць і расейскія. І калі дэмаркацыйная лінія «Алексіевіч» для шмат каго з нас пасьля Нобэля згладзілася, то ў Расеі, наадварот, паглыбілася і прадэманстравала разрыў, які існаваў у

Расеі зь пятроўскіх часоў: разрыў «почвенников» і «западников».

Ня буду, як сёньня заведзена, ганіць усю Расею ва ўсе часы. Ня стану паўтараць мантру пра імпэрскія амбіцыі расейцаў, якія ўласьцівыя ім нібыта «генэтычна»: я знаёмая з многімі рускімі людзьмі, якія ня ведаюць, куды схаваць вочы ад болю і сораму за тое, што цяпер адбываецца ў іх краіне. Гэта Макарэвіч навідавоку, а колькі людзей для нас не заўважныя? Нават калі іх усяго 15%, то ад 146 355 892 чалавек насельніцтва — выходзіць немалая лічба. Я нават ня буду ганіць ахвяр пуцінскай прапаганды: калі б сядзелі на троне Абама ці Мэркель, яны б з тым самым даверам ставіліся да іх, як цяпер — да Пуціна. Маўклівая большасьць у гэтым пытаньні падобная паўсюль. Важна — хто вядзе.

Але вядзе ня толькі Пуцін, але і цьвет нацыі — інтэлектуалы. У Расеі, традыцыйна літаратурацэнтрычнай краіне, гэта, у першую чаргу, пісьменьнікі. Таму я буду казаць пра іх, а таксама пра крытыкаў, літаратуразнаўцаў, прафэсараў-гуманітарыяў і іх стаўленьне да беларускага Нобэля і набэліяткі. Таму што гэта квінтэсэнцыя такога расколу ў творчым асяродзьдзі, які нам, беларусам, нібыта «нацыі з расколатым мысьленьнем», і ня сьніўся. Мы — хоць на ўзроўні асабістых адносін не-не дый знойдзем кампраміс. У Расеі — краіне велізарных прастораў і ўсялякіх крайнасьцяў — гэта нашмат больш складана. Так што крытыка і Нобэлеўскага камітэту, і Алексіевіч прыкра нагадвае бойку падчас застольля.

Сьпярша дамо слова «почвенникам» або «неопочвенникам»: ім паложана, яны больш прыродныя, брутальныя і, галоўнае, старажытныя па паходжаньні і «рускаму духу», уваскрашэньнем якога вельмі ганарацца. Якія прэтэнзіі яны выстаўляюць Нобэлеўскаму камітэту і самой Алексіевіч? Як і мае быць у правільным застольлі, пачнём са слабейшага градуса, а павышаць яго будзем паступова.

Прэтэнзія № 1. Жаночая проза

Вось жа, карыфэй Эдуард Лімонаў. Тое, што былы дысыдэнт перакаваўся ў нацболы, — не неспадзяванка. Чалавек, які не дамогся посьпеху на Захадзе, па праве героя вяртаецца на радзіму і абараняе яе так, што рукі трасуцца, а зубы скрыгочуць. Таму і сьцьвярджае: «Я не цаню, па-першае, Нобэлеўскую прэмію, а па-другое, не цаню і Сьвятлану Алексіевіч». Мае права. Неспадзяванка толькі ў тым, што Алексіевіч ён называе «зоркай для хатніх гаспадынь» і «траваеднай хатняй гаспадыняй». Чаму былы «Эдичка» вырашыў, што хатнія гаспадыні (у ягоным разуменьні, мабыць, усе яны сэнтымэнтальныя і дурныя) чытаюць Алексіевіч — загадка. Такія ўяўныя жанчыны, хутчэй, будуць чытаць «50 адценьняў шэрага». А калі ўспомняць пра прозу Лімонава — дык эпізод пра сэкс ягонага лірычнага героя з выпадковым цемнаскурым мужчынам, альбо іншы, дзе нейкая дама мастурбуе, прыпусьціўшы нячыстыя трусікі. Наўрад ці яны прачытаюць па-сапраўднаму добрую кнігу Лімонава «У нас была вялікая эпоха». Яе тэматыка ў чымсьці перагукаецца з матывамі

Алексіевіч: маленькі чалавек у таталітарным сьвеце. Але здарыўся пераварот: цяперашні Лімонаў прагне менавіта гэтага, таталітарнага сьвету, а Алексіевіч — не. Баюся, толькі зайздрасьць можа засланіць вочы настолькі, каб можна было напісаць: «Адзіная праца пісьменьніцы, якая выклікала хоць нейкае ажыўленьне, — “Цынкавыя хлопчыкі”. Але гэта было ў канцы 1980-х, і кніга даўно састарэла». Па-першае, не адзіная, па-другое, пра якое састарэньне можа ісьці гаворка цяпер, калі расейскія хлопчыкі зноў у баі? Зноў забіваюць. І іх забіваюць таксама. І прысылаюць дадому ў трунах.

Алексіевіч піша пра рэальнасьць вайны, Чарнобылю, Афгану, краху імпэрыі. Гэтыя тэмы выдатна разумеюць у Эўропе, але іх развучыўся разумець Лімонаў. Ён заняты больш важнымі справамі, уладкоўвае Расею: клапоціцца аб перанясеньні сталіцы ў Паўднёвую Сібір, аб павышэньні падаткаў, увядзеньні падатку на раскошу і г. д.

Прэтэнзія № 2. Публіцыстыка

У гэтым адзначылася большасьць праціўнікаў Нобэля для Алексіевіч: ад гарэзы Задорнава (які не пагрэбаваў адмачыць жарт з нагоды катастрофы зьбітага над Данбасам малайзійскага «Боінга-777») і фантаста Лазарчука — і да бліскучай Тацяны Талстой, якой я б з радасьцю дала любую прэмію, уключна з Нобэлем. Таму засмуціла адна фраза: «Я віншую яе, мільён даляраў яшчэ нікому кішэню не адцягваў». Далей Тацяна Талстая тлумачыць сваю рэакцыю: «Гэтым рашэньнем

Нобэлеўскі камітэт сказаў, што сыры магнітафонны запіс, малаапрацаваныя, непрывабныя тэксты цяпер цэняцца... Гэта характарызуе культурны ўзровень самога Нобэлеўскага камітэту». Я шчыра спадзяюся, што пасаж пра мільён у кішэні не характарызуе ўзровень Тацяны Талстой. Ня царская гэта справа... Думаю, усё больш складана: Талстая і па незабытым паходжаньні, і па стылістыцы, і па звычках — арыстакратка, сучасная, вядома, але тым ня менш. Сьвятлана Алексіевіч — і па паходжаньні, і па сутнасьці разначынец. Тыя «маленькія людзі» — недарэчныя векавухі, кампаньёнкі, адзінокія і няшчасныя, пра якіх піша Талстая, намаляваныя зь пяшчотай, зь любоўю, але і крыху звысоку. Не раўня: слабыя, якім моцны можа дапамагчы, а можа — і не, чым потым папракне сябе. А Алексіевіч піша пра гэтых людзей як пра роўню, яна сама — адна зь іх. Яна ім сястра. Роўнасьць — катэгорыя не арыстакратычная. Таму, мне здаецца, рэч менавіта ў клясавай непрыязі, а не ў мільёне, які кішэню не адцягвае.

Людміла Ўліцкая паступіла іначай: шчыра прызнаўшыся, што Алексіевіч — не яе пісьменьнік, павіншавала набэліятку, а таксама і расейскую, і беларускую літаратуру. І дадала: «Сьвятлана Алексіевіч выдатна робіць тую справу, якую яна робіць». Гэта зразумелая і годная рэакцыя.

Да Праханава, Прылепіна і Лімонава, мабыць, на покліч душы далучыўся і яшчэ адзін «неопочвенник», Вадзім Левенталь. Гэта малады пісьменьнік. На ягоным рахунку літаратурная

крытыка, некалькі апавяданьняў і аповесьцяў і невялікі раман «Маша Рэгіна». Я чытала, калі выйшаў, два гады таму. Запомнілася нямногае: правінцыйная дзяўчына Маша становіцца знакамітым эўрапейскім кінарэжысэрам, а шчасьця ў жыцьці ўсё няма і няма. «Маша і тры мядзьведзі» (у сэнсе — тры мужчыны) — і з усімі ўсё дрэнна. І вось тлумачыць нам, някемлівым, аўтар у калёнцы «Известий», што «чалавек, які зьбірае і расшыфроўвае інтэрвію — гэта журналіст. Пісьменьнік — ён стварае гісторыі».

Праблема ў тым, што любая з гісторыяў Сьвятланы Алексіевіч кранае і цаляе ў цябе чулым словам значна больш, чым проза Левенталя. Таму што гісторыі ён стварае прыкладна так: «... чарада не падзей нават (якія ж гэта падзеі; размазьня адна), а чыстага, дыстыляваная жаху, — менавіта яна, мяркуючы па ўсім, і падштурхне Машу да думкі пра тое, што — зноў жа: гэта не была думка, гэта было прыцягненьне зямлі для ядра, якое ляціць (прывітаньне Стопарду) зь Пізанскай вежы, пэўная зьнешняя непазьбежнасьць таго, што — ёй трэба як мага хутчэй нарадзіць дзіця». Зразумела, што дакладнасьць і выразнасьць Алексіевіч такога пісьменьніка можа ўсур'ёз спалохаць.

Гэта, і праўда, самы просты шлях — абвінавачваць аўтара, які працуе ў жанры verbatim, у тым, што ён нічога ня робіць — толькі запісвае.

Але Алексіевіч ня проста запісвае — стварае поліфанічны гул галасоў, скрупулёзна камбінуючы, будуючы кампазыцыю трагедыі. «У сапраўднай трагедыі гіне не герой — гіне хор», —

пісаў Бродзкі. Гэта можна было б паставіць эпіграфам да ўсёй яе творчасьці. Усе мы ведаем, што прыгожы кадар і нават добры актор — гэта не кіно, кіно — гэта шмат і шмат у чым рэжысэрскі мантаж, а ўжо дакумэнтальнае кіно...

Памятаеце, Адорна пытаўся: «Ці магчымая паэзія пасьля Асьвенціма?». Пасьля вайны, Афгану, Чарнобылю, краху краіны, якую многія лічылі сваёй? Адамовіч, Брыль, Калесьнік, Гранін разумелі гэтую праблему. Часам прыдумляць і прыкладаць ад сябе — проста няёмка: такія ўжо гісторыі, пра якія «літаратурна» ў нашым звыклым разуменьні гэтага слова ня скажаш. Таму нон-фікшн (у прыватнасьці, verbatim — жанр Алексіевіч) становіцца ўсё больш папулярны — і ў сусьветнай літаратуры, і ў тэатры, а постсавецкая прастора па-ранейшаму «паперадзе плянэты ўсёй».

Дадам: нобэлеўскія прэміі па літаратуры ў гэтым стагодзьдзі былі прысуджаныя Тэадору Момзэну (за «Рымскую гісторыю»), Анры Бэргсону (за філязофскія кнігі), Бэртрану Расэлу (за філязофію і публіцыстыку), Уінстану Чэрчылю (за мэмуары). Наўрад ці тады хтосьці галасіў, трасучы кулакамі: «А Бібліі б вы таксама не далі Нобэля, гэта ж нон-фікшн нібы?» — пытаецца наконт гэтага расейскі пісьменьнік Ігар Сьвінарэнка. Гратэск, але праўда.

Чаму дакумэнтальны фільм можа атрымаць галоўны прыз Канскага фэстывалю, а проза, створаная на дакумэнтальнай аснове, ня можа атрымаць Нобэля? Напэўна, таму што — стоп, увага, зноў

Левенталь: «Нягледзячы на тое, што фармальна Алексіевіч і беларускі журналіст (аргкамітэт назваў яе беларускай пісьменьніцай), але піша (расшыфроўвае) яна на расейскай мове, і прэмію далі «у залік» расейскамоўнай скарбонкі — цяпер справа да нас дойдзе ня хутка».

Вось яно што: праціўнікі беларускага Нобэля могуць называць у якасьці прэтэндэнтаў чые заўгодна імёны — самых годных Петрушэўскай, Бітава і Іскандэра — але ўсё роўна прымяраюць карону на сябе. У тым сэнсе, што, эх, няхутка, глядзіш, я і не дажыву да Нобэля. Можа, і не дажыве...

Дарэчы, наконт «не дадуць сваім» — гэта няпраўда, нягледзячы на расейскамоўнасьць Алексіевіч. Паміж прэміямі Пастэрнаку і Шолахаву прайшло восем гадоў, паміж прэміямі Шолахаву і Салжаніцыну — пяць. І гэта ўжо ня кажучы пра тое, што беларускі пісьменьнік — зь іншай краіны. Цікава, што б яны казалі, калі б на прэмію прэтэндавалі расейскамоўныя Марыям Петрасян (Армэнія), Алена Бачарышвілі (грузінка, якая жыве ў Канадзе) і Міхаіл Шышкін, які жыве ў Швэйцарыі? Думаю, было б менш прэтэнзіяў. Таму што яны ня «нашы», а Алексіевіч, якая пісала пра дзьве вайны, павінна быць «наша, руская, раз беларуска», ажно вось думае і піша не па-нашаму. Тое, што «рускі» і «беларускі» для сьвядомасьці абывацеля адно і тое ж — гэта чакалася. Нечакана, што сынонімамі іх лічыць частка літаратурнай эліты.

Алексіевіч — спадкаемца некалькіх школ: зусім ня толькі расейскай клясыкі, але і беларускай франтавой прозы, і заходняй экзыстэнцыяльнай літаратуры. Вось дзьве апошнія часткі сынтэзу і раздражняюць. Для пуцінскага «рускага сьвету» Беларусь па-ранейшаму частка Расеі. «Малодшы» брат — здраднік «старэйшага». А Захад — вораг апрыёры.

Адсюль прэтэнзія № 3. Русафобія

Вось што піша сустаршыня Саюзу пісьменьнікаў Расеі Ўладзімір Крупін: «Нобэлеўскую прэмію заўсёды ўручаюць у сьвятле палітычных матываў... Заслужана ўручылі Нобэля толькі Шолахаву, дый тое з-за таго, што спалохаліся савецкіх ракет на Кубе... Прэмію ўручалі Буніну за яго «Акаянныя дні», дзе ён лае Расею, Пастэрнаку ўручылі за іншадумства, а так ён слабенькі празаік і не высокага кшталту паэт». Мяркуючы па ўсім, Пастэрнака Крупін так і не знайшоў час прачытаць, але асуджае. А Буніну прэмія была ўручана з фармулёўкай «за строгае майстэрства, зь якім ён разьвівае традыцыі расейскай клясычнай прозы» і «за праўдзівы артыстычны талент, зь якім ён узнавіў у мастацкай прозе тыпова рускі характар». Сам Бунін лічыў, што яго ўзнагародзілі за «Жыцьцё Арсеньнева».

На думцы Праханава і спыняцца не варта: Праханаў, як той казаў, ён і ў Афрыцы «Господин Гексоген»: усе мы ведаем, што ён можа сказаць. Тое і кажа.

Самы адораны з «почвенников», безумоўна, — Прылепін. Летась на «Вялікай кнізе» чытачы

яго пакрыўдзілі, аддаўшы перавагу Алексіевіч. Журы вырашыла ўсё правільна, па-прылепінску (а ці магло быць інакш?), «але асадачак застаўся». Вось і піша цяпер: «Акадэмікі... выбралі самы недарэчны, самы ўбогі варыянт: даць прэмію добрай журналістцы, якая больш за ўсё слаўная сваімі нават для людзей яе перакананьняў надзіва банальнымі інтэрвію з прыпевам: „Расея ўсіх забіла, забіла, забіла, заўсёды ўсіх забівала і будзе забіваць, спыніце гэтае зло, гэтыя рабы, яны ніколі не перастануць быць рабамі, там Сталін і папы, і вы ведаеце, чым усё гэта сканчаецца, і асабліва я ведаю"...»

Прылепіну, якога ўздымаюць у жывыя клясыкі, відавочна здраджвае густ (дарэчы, і без таго найбольш уразьлівая грань ягоных здольнасьцяў). Вось чытаеш гэтае «слаўная сваімі нават для людзей яе перакананьняў надзіва...» — і дзіву даесься: няўжо гэта той самы, безумоўна, таленавіты чалавек, які калісьці напісаў «Санькю» — хоць гэта, як сказала пра Алексіевіч Уліцкая, «ня мой кандыдат». «На самой справе гэтая прэмія — Расеі, — усклікае Прылепін. — Яе незалежнасьці, яе ўплыву, яе месцу ў сьвеце. Дарэчы, хочаце прагноз? У бліжэйшы год прэмію дадуць чалавеку якога-небудзь трэцяга ці пятага полу».

У асобе Прылепіна — каторы ўжо раз — паўтараецца сумная гісторыя самародка, занадта вернападданага, каб аказацца золатам. Зрэшты, галоўны рэдактар улюбёнай некалі інтэлігенцыяй «Літаратуркі» Юры Палякоў бярэ круцей: на яго думку, Алексіевіч атрымала Нобэля, таму што

Расея пачала бамбіць Сырыю. І няважна, што Алексіевіч ужо колькі гадоў была ў «шорт-лістах» прэміі і што канчатковае рашэньне Нобэлеўскага камітэту прымалася на пачатку верасьня, а першае бамбаваньне адбылося 30 верасьня.

У гэтым лягеры і Касандра мужчынскага полу Халмагораў, які лічыць, што прэмія — вынік «флірту» Лукашэнкі з Захадам. Мабыць, ён мяркуе, што Сьвятлана Алексіевіч — улюбёны аўтар прэзыдэнта нашай краіны...

І тут мы плаўна пераходзім да прэтэнзіі № 4, прамоўленай зноў жа вуснамі сп. Халмагорава: «незалежныя» расейскамоўныя аўтары вельмі любяць умешвацца ў палітыку краіны і народу, ад якога яны аднезалежыліся, — піша ён. — А трэба ў Беларусі ня так ужо і шмат. Пастаянная падтрымка той часткі інтэлігенцыі, якая арыентаваная на Расею і рускі сьвет. Пасьлядоўнае падтрыманьне ідэі еднасьці рускай зямлі і рускага праваслаўя ва ўсе эпохі. Ахова памяці пра рускіх герояў, якія баранілі беларускі народ ад палянізацыі — мітрапаліта Ёсіфа (Сямашку) (ганьба, што ён дагэтуль не кананізаваны РПЦ), Міхаіла Мураўёва, якому няма ніводнага помніка, гісторыка Міхаіла Каяловіча...». Паказальны падбор імёнаў, хоць, вядома, заходнерусіст Каяловіч менш адыёзны, чым «вешальнік» Мураўёў і мітрапаліт Ёсіф, якога яшчэ Герцэн называў «у Юдзе здраднік, кат, які заслужыў эўрапейскую вядомасьць» (артыкул «Секущее православие» ў лонданскім «Колоколе»). Гэта і ёсьць тое, што трэба беларусам? А што, калі яны ня згодныя

зь Ягорам Халмагоравым? Але Халмагорава не хвалюе, што думаюць беларусы. Ён ужо абвясьціў нам сваю адзіна слушную праўду, і, мабыць, палічыў бы, што «торг тут не да месца».

Словам:

«У поэтов есть такой обычай —
В круг сойдясь, оплевывать друг друга» (с).

Гэтыя аўтары пішуць ад імя Расеі — і настолькі ўпэўнена, што можа скласьціся ўражаньне: усе расейцы лічаць так. Няпраўда. Ня ўсе.

Вось адказ расейскага палітычнага журналіста і пісьменьніка Алега Кашына: «Чалавек зь Беларускай ССР, Алексіевіч, якая піша на расейскай мове, належыць да таго адгалінаваньня савецкай расейскамоўнай культуры, якое і ў савецкія гады, калі яго прыкрываў статус саюзнай рэспублікі, існавала аўтаномна і магло сабе дазволіць больш, чым было прынята ў Маскве, прычым (і гэта ўнікальная беларуская рыса) ніякіх абавязковых вышыванак і іншых паказных этнічных аксэсуараў на гэтую культуру накладзена не было... ня менш важна тое, што Сьвятлана Алексіевіч ня мае наогул ніякага дачыненьня да цяперашняй Расейскай Фэдэрацыі. Яна ніколі ў ёй не жыла, яна вольная ад партыйных і групавых абавязаньняў і абмежаваньняў, накладзеных рознай сілы акалічнасьцямі на ўсіх іншых гульцоў на расейскім культурным полі... З Нобэлеўскай прэміяй Алексіевіч сёньня ж зможа прэтэндаваць на лідэрства ў альтэрнатыўным рускім сьвеце — у тым, дзе слова «людзі» пішацца зь вялікай літары, дзе

няма каштоўнасьці вышэйшай, чым чалавечае жыцьцё, і дзе Эўропа — не садомскі запаведнік граху, а родны дом для кожнага чалавека расейскай культуры».

Падобнай думкі прытрымліваецца і Андрэй Архангельскі, які назваў творчасьць Алексіевіч «гуманістычным сыгналам сьвету»; і Дзьмітры Быкаў, які казаў пра яе «дзіўнае ўменьне адчуваць болевы нэрв эпохі і пранікаць у самыя цёмныя зоны змаўчаньня»; і Людміла Уліцкая, якая «рада за расейскую літаратуру і за беларускую літаратуру»; і знакаміты булгакавазнаўца Марыэта Чудакова («У сваіх кнігах яна закранае тое, над чым усе мы думаем і ніяк ні да чога ня можам прыйсьці: што ж такое адбываецца, чаму людзі, зусім абыякавыя да відавочна жудасных рэчаў, якія адбываюцца, усё ўхваляюць?»). Гэта і Барыс Мінаеў, які называе Алексіевіч «жывым клясыкам» і лічыць ганебнай рэакцыю Прылепіна з Халмогоравым і да іх падобных. Так лічыць доктар філялёгіі Гасан Гусейнаў, які адзначае ўнікальнасьць беларускай самасьвядомасьці Алексіевіч, да таго ж перададзенай на інакшай расейскай мове, чым у Расеі. У ліку тых, хто радуецца Нобэлю-2015 — і пісьменьнік Павал Басінскі, які тлумачыць недасьведчаным, што жанр verbatim даўно ўжо прызнаны сьветам, і толькі на постсавецкай прасторы пра гэта ня ў курсе (у гэтым мы, як заўсёды, «паперадзе плянэты ўсёй»). І пісьменьнік Дзяніс Драгунскі, які настойвае на тым, што «“Бесаў” Дастаеўскага, напісаных пад уражаньнем ад нячаеўскага працэсу, таксама можна назваць

дакумэнтальнай прозай». «Прэміі вартая добрая проза, — заключае ён. — А проза Алексіевіч — на мой погляд, проста выдатная».

Найбліжэйшы да разуменьня прозы Алексіевіч, на мой погляд, іншы Архангельскі — Аляксандар: «Сьвет Алексіевіч часта бывае ня вельмі прыемны: ён прыглушаны, яркія фарбы ў ім немагчымыя, але і чорна-белай графікі тут таксама няма. Калі ўжо шукаць нейкае параўнаньне з мастацтвам, то яе невясёлая проза нагадвае выцьвілыя фрэскі. Гэта было. Гэта ня скончылася. Гэтага няма. І праславуты дакумэнталізм, якім яе папракаюць у Расеі, — ня проста мэтад збору матэрыялу, але і адзіна магчымы стыль для выражэньня такога жаху — які вечна згасае. Ён... набліжае да гэтага бледнага і няшчаснага жыцьця, голасам якога стала шмат гадоў таму Алексіевіч. Яна несупынна прамаўляе катастрофу, і пакуль пісьменьніца не змаўкае, катастрофа нас ня зможа паглынуць. Праўда, і скончыцца — ня зможа...»

Так што, на шчасьце, існуе і іншы рускі сьвет — той, пра які кажа сама Алексіевіч: «Я люблю добры гуманітарны рускі сьвет, перад якім схіляецца ўвесь сьвет. Перад літаратурай, балетам, музыкай, — сказала яна. — Але не люблю сьвет Берыі, Сталіна, Пуціна».

І вось гэты першы сьвет не варожы ні беларускаму сьвету, ні заходняму. Давайце спадзявацца, што прыйдзе дзень, і ў спрэчцы двух «рускіх сьветаў» пераможа менавіта гэты. Хоць бы таму, што нашмат менш крычыць і значна больш робіць.

## « Сёньня ня час Вацлава Гаўла, а час Пуціна, Лукашэнкі, час сілы»

16 лістапада 2015
Алесь Дашчынскі, Менск

*14 лістапада ў Парыжы адбылася сэрыя тэрарыстычных актаў, у выніку якіх загінулі больш як 130 чалавек, сотні параненых. Адказнасьць узяла на сябе «Ісламская дзяржава». Нобэлеўскі ляўрэат Сьвятлана Алексіевіч пракамэнтавала сытуацыю вакол тэрактаў у Парыжы.*

**Дашчынскі**: Тэракты ў Парыжы скаланулі ўвесь сьвет. Як Вы ацэньваеце гэтыя падзеі? Чаму мішэньню стала менавіта Францыя?

**Алексіевіч**: Я думаю, што тое, што адбылося ў Парыжы — гэта толькі пачатак. Насамрэч «Ісламская дзяржава» абвясьціла ўсім вайну. І гэта ўжо было ў Расеі. Бо катастрофа над Сынаем — гэта тэракт. Эўропа, Расея, якая таксама ўступіла ў гэтую вайну, павінна быць гатова да выкліку, які зрабіў ісламскі сьвет. Нас чакаюць новыя страты, новыя катастрофы. Гэта зусім відавочна, паколькі эўрапейская кааліцыя аб'ядналася, Расея ўступіла. А яны там ужо бездапаможныя, таму яны будуць дзейнічаць партызанскімі, тэрарыстычнымі мэтадамі. А тут мы зусім бездапаможныя перад вар'яцтвам адзіночак. Сучаснае грамадзтва ўразьлівае перад адзіночкамі. І гэта будзе ланцуг адзіночак і сьмяротнікаў. Наогул,

гэта новая форма вайны. І насамрэч сутыкнуліся дзьве цывілізацыі, два сусьветы.

**Дашчынскі**: Як гэтыя тэракты могуць паўплываць на сытуацыю ў сьвеце? Ці можа Эўропа адмовіцца ад дэмакратычных каштоўнасьцяў дзеля бясьпекі?

**Алексіевіч**: Так, гэта вялікі выклік эўрапейскаму сьвету, эўрапейскім каштоўнасьцям. Пра гэта заўсёды кажа Мэркель. Зь іншага боку, Эўропа, асабліва Нямеччына, прымае такую вялікую колькасьць уцекачоў. Я сама бачыла як гэта адбываецца, як людзі гатовыя дапамагчы. Разам з тым аказваецца, што сярод тых, каго прынялі, выяўляюцца тэрарысты. Для звычайнай сьвядомасьці вельмі цяжка прыняць усё гэта. Эўропа будзе супрацiўляцца, там вельмі моцны сьвет эўрапейскіх каштоўнасьцяў Але гэта выпрабаваньне, вядома.

**Дашчынскі**: А як гэта будзе ўплываць на Расею, ці будзе мяняцца палітыка Пуціна?

**Алексіевіч**: Палітыка Пуціна сёньня пабудавана на пазыцыі сілы. Сьвет не заўважыў, як Расея пераўзброілася, мае добрае войска, новую зброю. Мая апошняя кніга называецца «Час second-hand». Мы зноў вярнуліся да сьвету са зброяй. Зноў зброя ўсё вырашае. Я лічу, што трэба змагацца з ідэямі, а не забіваць людзей. Але сэканд-хэнд поўны — сьвет вярнуўся да мінуўшчыны. Я асьцерагаюся, што гэта будзе вайна ня ў звыклай форме, а ў форме адзінкавых партызанскіх вылазак. Але партызанства будзе распаўзацца па ўсім сьвеце. Нядаўна я ляцела з Па-

рыжу, і нейкі халадок, ужо ўсяму не давяраеш. Побач сеў юнак арабскай зьнешнасьці, ува мне, даволі талерантнай беларусцы, зьявіўся недавер. Ён усьміхаецца, а ў мяне недавер. І я разумею, што мы ўсе нясем вось гэтыя страты. Хаця ў мяне вельмі многа сяброў сярод мусульманаў, вельмі адукаваных, цікавых людзей. Але калі пераможа барбарскі мусульманскі сьвет, то яны стануць першымі ахвярамі, яны гэта цудоўна разумеюць. То бок мы стаім перад новымі выклікамі.

**Дашчынскі**: А тое, што рабіла Расея ва Ўкраіне, анэксія Крыму, акупацыя Данбасу, ці можа гэта быць стымулам для такіх дзеяньняў, якія здарыліся ў Парыжы?

**Алексіевіч**: Там больш складана, бо Данбас — гэта бліцкрыг, які не атрымаўся. Як аказалася, гэта значна складаней. Ну разьвязалі грамадзянскую вайну, але сьвет выступіў супраць, і Ўкраіна гэта не прыняла. То бок тое, на што спадзяваліся, не адбылося. Таму і Сырыя ў тым ліку, гэта вырашаюцца нейкія вялікія геапалітычныя праблемы. Але я не палітык і я магу толькі здагадвацца і казаць, што мы сталі жыць у іншым сьвеце. і ўжо перасталі давяраць адно аднаму. Калі вас правяраюць ад і да, то я не разумею як на стадыён можна пранесьці аўтамат Калашнікава? Прычым стадыён недалёка ад таго месца, дзе знаходзіцца рэзыдэнцыя прэзыдэнта Францыі. А ў той самы час, у мяне забіраюць крэм, тонік... То бок сьвет не гатовы супраціўляцца гэтай новай форме вайны. І калі яны там перабіралі мой

чамадан, гэта дзіўна выглядала на фоне таго, што адбылося.

**Дашчынскі**: Як падзеі ў Парыжы будуць уплываць на Беларусь, на яе дачыненьні з Эўропай? Здаецца як заўсёды Лукашэнка выйграе ад такой сытуацыі.

**Алексіевіч**: Ён і цяпер выйграе. І тое, што Лукашэнка кажа, што рэформаў ня будзе, гэта тое, што кажа мой сусед у вёсцы Пятро Сільвестравіч. Ён кажа тое, што кажа народ, у Лукашэнкі вялікае чуцьцё. У выніку мы спазьняемся, хаця мы і так нацыя, якая спазьняецца. Усё больш страху — і Майдан, і Данбас, і Сырыя, і цяпер Парыж. Я думаю, гэтыя фактары згуртуюць людзей вакол прэзыдэнта. Тым больш ён дэманструе тып кіраўніка культу сілы, упэўненасьці такой, і, я думаю, ён далей гэта будзе дэманстраваць. І народ будзе аб'ядноўвацца менавіта вакол такіх лідэраў. Бо сёньня ня час Вацлава Гаўла, а час Пуціна, Лукашэнкі, час сілы. І гэта як мастак я ўспрымаю як паразу, але спадзяюся, што гэта часовае.

**Дашчынскі**: Ці можа Эўропа ісьці на нейкія саступкі такім, як Лукашэнка?

**Алексіевіч**: Я думаю, што ў Эўропе гэтыя саступкі маларэальныя. Там ня так лёгка ўраду зрабіць нейкі жорсткі крок. Тут Лукашэнка вырашыў, раніцай падпісаў указ — і ўсё. Там гэта ўсё грамадзтва абмяркоўвае вельмі доўга, розныя партыі, рухі, розныя лідэры. Я тры гады жыла ў Парыжы, я гэта ведаю. Ня так проста з пазыцыі сілы зрабіць нейкія рэчы. Вось Пуцін гэта можа зрабіць. У Эўропе гэта ня так лёгка. І потым людзі

выхаваныя ў іншым духу. Я бязь сьлёз не магла глядзець, калі яны ідуць, твары ў крыві і сьпяваюць «Марсэльезу». Яны ж не крычаць нейкія словы нянавісьці. Яны кажуць не. Мы не здамося, мы не аддамо тое, што ў нас ёсьць. Менавіта нашы каштоўнасьці найперш.

**Дашчынскі**: А вам не хацелася б апісаць гэта ў новай кнізе?

**Алексіевіч**: Усё, што я хацела, я зрабіла за гэтыя амаль 40 гадоў. Гісторыя чырвонай утопіі — гэта была мая ідэя. А так я не журналіст. Тое, што вы мне прапануеце, — журналісцкі падыход да асьвятленьня падзей. Тое, што я зразумела пра дабро і зло менавіта на глебе расейскага бальшавізму, я гэта зрабіла.

## «Надзея Саўчанка стала ўкраінскай Жаннай д’Арк»

2 сьнежня 2015
Іна Студзінская, Менск

*«Украіна будзе вольнай, свабоднай, незалежнай. Іншая справа — хацелася, каб было менш крыві», — заявіла нобэлеўская ляўрэатка Сьвятлана Алексіевіч, перадаючы ва ўкраінскую амбасаду кнігі і ліст для Надзеі Саўчанкі.*

2 сьнежня ў амбасадзе Ўкраіны ў Менску ляўрэатка Нобэлеўскай прэміі па літаратуры Сьвятлана Алексіевіч перадала для ўкраінскай лётчыцы Надзеі Саўчанкі, якая цяпер у расейскай турме, свае кнігі «У вайны не жаночае аблічча», «Цынкавыя хлопчыкі» і «Чарнобыльская малітва», а таксама ліст да яе.

Сьвятлана Алексіевіч назвала Надзею Саўчанку «ўкраінскай Жаннай д’Арк» і выказала словы павагі і ўдзячнасьці:

«Я вельмі захапляюся Надзеяй Саўчанкай, гэта чалавек, які абараняе сваю радзіму, сапраўдны салдат. Асабліва гэта зразумела ў Беларусі, дзе была партызанская вайна, калі велічэзная дзяржава навальваецца на іншую дзяржаву, менш падрыхтаваную да вайны. Тады ўсё залежыць ад мужнасьці асобных людзей, ад самаахвярнасьці. Зразумець гэта складана ў мірны час. Я разумею, як гэта няпроста — сёньня паміраць. Тым больш, што ўкраінская армія аказалася не-

падрыхтаваная да такой маштабнай інтэрвэнцыі.

Хутчэй за ўсё, тыя мужчыны, якія яе захапілі, падумалі, што яна проста баба. Я сама была на вайне ў Афганістане, калі пісала кнігу „Цынкавыя хлопчыкі“, і ведаю, як мужчыны ставяцца на вайне да жанчыны — крыху высакамерна. Яны думалі, што гэта баба, а Надзея аказалася ўкраінскай Жаннай д’Арк. Гэта сымбаль барацьбы ўкраінскага народу».

Народнага дэпутата Ўкраіны, лётчыцу Надзею Саўчанку ў Расеі абвінавачваюць у саўдзеле ў забойстве двух супрацоўнікаў расейскага тэлебачаньня, якія летам 2014 году нелегальна знаходзіліся пад Луганскам і трапілі пад артылерыйскі абстрэл. Саўчанка абвінавачаньні адмаўляе.

Што будзе далей з Надзеяй Саўчанкай, які лёс яе чакае — прадказаць цяжка, мяркуе Сьвятлана Алексіевіч:

«Гэта залежыць ад міжнароднай каньюнктуры — ці яе памяняюць на кагосьці, ці проста адпусьцяць. Гэта цяпер незразумела, як незразумелая і геапалітычная мапа ў сьвеце, якая мяняецца кожны дзень. Вось Сырыя і ні з пушчы ні з поля Турэччына раптам сталі ворагамі. Расея цяпер апынулася ў коле ворагаў, і гэта знаёмая формула для Расеі.

Надзя — карта ў гэтай гульні, невялікая, але сур’ёзная карта. Яна паводзіць сябе так, што гэта каштуе ёй жыцьця, я ведаю, як яна галадала, я памятаю яе першы допыт — гэта была неймаверная годнасьць!

Я сама напалову ўкраінка, у мяне маці ўкраінка, я вельмі рада, што ўва мне цячэ ўкраінская кроў. Я нядаўна была ва Ўкраіне, была на Майдане, я бачыла гэтых людзей, я схіляю галаву перад Нябеснай сотняй. Гэта героі, гэта людзі, якія былі гатовыя памерці за сваю краіну. Я мела вельмі шмат сустрэчаў з маладымі людзьмі і бачыла гэтыя палымяныя вочы, жаданьне пабудаваць новую краіну. Гэта ўсё складаецца ў мяне ў адзіную карціну, што Ўкраіна будзе вольнай, свабоднай, незалежнай краінай. Іншая справа — хацелася, каб было менш крыві...

Я бачыла, як рэфрыжэратары развозілі па Ўкраіне загінулых герояў, украінскіх салдат. Як беглі да дарогі жанчыны, дзеці, мужчыны станавіліся на калені ўздоўж дарогі — я пра гэта і цяпер бязь сьлёз не магу гаварыць. Што б там ні казалі пра карупцыю, Расею, няўменьне Ўкраіны процістаяць, адсутнасьць моцнай баяздольнай арміі, якую раскралі, іншыя праблемы — але было адчуваньне, што гэта народ».

Украінскія дыпляматы ў лістападзе перадалі нобэлеўскай ляўрэатцы Сьвятлане Алексіевіч кнігу ўкраінскай лётчыцы Надзеі Саўчанкі «Сильне ім’я Надія». Легендарная ўкраінка ў знак павагі да Алексіевіч напісала: «Любити свій народ, свою Батьківщину, людей і залишатися людиною!»

Сьвятлана Алексіевіч сказала, што кнігу Надзеі Саўчанкі, якую тая напісала ў вязьніцы, яна прачытала і была вельмі ўражаная:

«Мне вельмі спадабалася, што ў кнізе Надзея такая, як у жыцьці — там усё ёсьць. Яна перадала дух армейскага побыту, годнасьць, пагарду да катаў. Чым страшная таталітарная сыстэма, як цяпер кажуць, — Бэрыі і Сталіна? А хто пісаў даносы, хто ахоўваў, хто зьбіваў ахвяраў, зьдзекаваўся, судзіў? Ёсьць мільёны маленькіх катаў. І гэта яна вельмі добра паказала — наколькі зло банальнае, наколькі яно пранізвае ўсё жыцьцё. Такіх людзей, як Надзя, ня вельмі шмат. І тое, што яны ёсьць, — гэта ратуе нашу агульную годнасьць».

Часовы паверany ў справах Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Валер Джыгун падзякаваў Сьвятлане і выказаў спадзяваньне, што, магчыма, аўтарытэт нобэлеўскай ляўрэаткі паспрыяе вызваленьню Надзеі Саўчанкі.

Сьвятлана Алексіевіч паабяцала, што пасьля ўрачыстасьцяў у Швэцыі і лячэньня ў Ізраілі абавязкова наведае Ўкраіну.

## Жывой трансьляцыі нобэлеўскіх урачыстасьцяў на беларускіх дзяржаўных каналах ня будзе

3 сьнежня 2015
Іна Студзінская, Менск

*З 6 па 12 сьнежня ў сталіцы Швэцыі Стакгольме пройдзе тыдзень нобэлеўскіх урачыстасьцяў.*

*Сярод шматлікіх імпрэзаў вялікую цікавасьць выклікаюць Нобэлеўская мэмарыяльная лекцыя, зь якой павінен выступіць кожны ляўрэат (выступ Сьвятланы Алексіевіч заплянаваны на вечар 7 сьнежня), а таксама сама ўрачыстая цырымонія 10 сьнежня, на якой кароль Швэцыі Карл XVI Густаў уручыць ляўрэатам дыплёмы і мэдалі.*

*Ці будуць беларускія дзяржаўныя тэлеканалы весьці жывую трансьляцыю з гэтых мерапрыемстваў, высьвятляла карэспандэнтка Свабоды.*

Сьвятлана Краскоўская-Смалонская, прэс-сакратар Белтэлерадыёкампаніі, куды ўваходзяць і Першы тэлеканал — «Беларусь 1», культурніцкі тэлеканал «Беларусь 3», адмысловы канал «Культура», сказала:

— У сувязі з наяўнасьцю пэўных арганізацыйна-тэхнічных, фінансавых і юрыдычных пытаньняў і аспэктаў Белтэлерадыёкампанія не плянавала набыцьцё правоў на жывую трансьляцыю цырымоніі ўзнагароджаньня Нобэлеўскай прэміяй за 2015 год. Разам з тым, хачу адзначыць,

і радыё-, і тэлеканалы мэдыяхолдынгу будуць шырока асьвятляць гэтую падзею.

— То бок гэта азначае, што карэспандэнты будуць на самой імпрэзе?

— Ну, магчыма.

— То бок яшчэ не дакладна?

— Я ж вам сказала, што мы плянуем шырока асьвятляць гэтую падзею інфармацыйна.

Прэс-сакратар каналу АНТ Юлія Дубоўская паведаміла Радыё Свабода, што жывой трансьляцыі са Стакгольму з цырымоніі ўзнагароджаньня нобэлеўскіх ляўрэатаў ня будзе — ніхто не прапаноўваў тэлекампаніі купіць правы на трансьляцыю, а самі не зьвярталіся. Але асьвятляць падзею інфармацыйна тэлеканал будзе. На пытаньне, ці паедуць у Стакгольм карэспандэнты АНТ, Юлія Дубоўская адказала, што з дакладнасьцю пакуль ня ведае. Але запэўніла, што прынамсі ў інфармацыйных выпусках сюжэты пра ўрачыстасьці ў Стакгольме абавязкова будуць.

Тэлеканал «Белсат», які вяшчае па-беларуску з Польшчы, накіроўвае сваіх карэспандэнтаў у Стакгольм, паведаміў Свабодзе кіраўнік рэдакцыі інфармацыйных праграмаў Аляксей Дзікавіцкі.

Што тычыцца жывой трансьляцыі Нобэлеўскай мэмарыяльнай лекцыі Сьвятланы Алексіевіч, спадар Дзікавіцкі паведаміў, што кіраўніцтва каналу робіць усё магчымае, каб гэта зрабіць, але канчатковы адказ будзе толькі 4 сьнежня.

Аляксей Дзікавіцкі патлумачыў, што «Белсат» зьвярнуўся ў EBU (Эўрапейскі вяшчальны

саюз — European Broadcast Union). EBU будзе мецць пэўныя трансьляцыі праз Швэдзкае тэлебачаньне. Беларускія тэлеканалы ўваходзяць у EBU, за што плацяць штомесячныя складкі, і могуць лёгка зьвярнуцца на Швэдзкае тэлебачаньне з просьбай аб трансьляцыі.

«Мы будзем рабіць трансьляцыю асноўных урачыстасьцяў 10 сьнежня, дзе таксама нельга здымаць, але робім гэта праз Швэдзкае тэлебачаньне. Мы будзем рабіць трансьляцыю і з прэсавай канфэрэнцыі 6 сьнежня, якую будзе даваць Алексіевіч — таксама праз EBU. Што тычыцца Нобэлеўскай мэмарыяльнай лекцыі, мы яшчэ ня ведаем, ці швэды дамовіліся з Нобэлеўскім камітэтам, каб гэтую лекцыю трансьляваць. Чакаем пацьверджаньня, ці дадуць нам сыгнал Нобэлеўскай лекцыі, якая адбудзецца ў панядзелак. Калі ў пятніцу нам адкажуць, то мы будзем наўпрост яе трансьляваць».

Таварыства беларускай мовы зьвярнулася да старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Генадзя Давыдзькі зь лістом, у якім гаворыцца, што жывую трансьляцыю трэба правесьці, «улічваючы значнасьць для нашай краіны гэтай падзеі і шматлікія просьбы грамадзян Беларусі». Афіцыйнага адказу ад спадара Давыдзькі пакуль няма.

## Вялікія думкі напярэдадні Нобэля

3 сьнежня 2015
Сяргей Дубавец, Менск

Вялікія, казаў Уладзімер Караткевіч, ня ў сэнсе «великие», а ў сэнсе «большие».

Аляксандар Лукашук калісьці назваў літаратурнага Нобэля для Беларусі Чарнобылем наадварот. Маштаб гэтай пазытыўнай падзеі для нацыі сувымерны з маштабам той нэгатыўнай.

Літаратурных набэлістаў называюць геніямі чалавецтва. Кожнае іх слова ўспрымаецца як ісьціна і прароцтва па ўсім сьвеце. Мы, вядома, можам гэта ўсё аспрэчваць, але нашы пікіроўкі адыдуць у нябыт разам з намі, з нашым зямным існаваньнем. Тады як літаратурны Нобэль для Беларусі — набытак, які не дэвальвуецца часам. Праз тры ці пятнаццаць пакаленьняў нашы нашчадкі будуць радасна распраўляць плечы пры слове «Алексіевіч». Праўда, і наступствы Чарнобылю праз тры ці пятнаццаць пакаленьняў, дзякуючы навуцы, стануць яўнымі і таму рэальна страшнымі.

Трэба сказаць, што ва ўласнай нашай гісторыі маштабу літаратурнага Нобэля адпавядае, бадай, толькі постаць Скарыны — першадрукара беларускай Біблії, трэцяй такой у сьвеце (пасьля немцаў і чэхаў). Праз год зь невялікім нашай першай друкаванай кнізе споўніцца 500 гадоў. Але набліжэньня гэтай падзеі не адчуваецца. Як і набліжэньня нобэлеўскага трыюмфу Алексіевіч.

Мала хто пра гэта чуў, ведае і ведаць хоча. Нацыя не заўважае сваіх посьпехаў у маштабе ўсяго чалавецтва і на ўсе вякі.

Вядома, можна сказаць, што нацыя толькі фармуецца (ці можа наадварот — расфармоўваецца), што русыфікацыя прывучыла беларусаў адчуваць сябе жыхарамі якога-небудзь правінцыйнага Таганрогу, што Лукашэнка — агент ФСБ і ўвогуле кіраўнік саўгаснага маштабу… Напэўна, праўда ў гэтым ёсьць. Але гэта ня праўда анталягічнага ўзроўню, а толькі праўда штодзённых газэт.

Жыцьцёвы досьвед дазваляе мне быць высокай думкі пра наш народ. І не ў прэзыдэнцкім сэнсе, што «народ харашо ражает і кушает», а якраз паводле мудрасьці, арыстакратызму душы і таленту. Урэшце фэрма ня можа ўзрасьціць генія чалавецтва. І ўся гэтая русыфікацыя і замбаваньне крымнашамі — рэчы наносныя і ў маштабах вечнасьці вокамгненныя. Усё мінецца, сутнасьць застанецца.

Дык вось пра сутнасьць. Беларусы не заўважаюць Скарыну, не заўважаюць Нобэля, але ж і Чарнобылю яны не заўважылі. Хваробы і сьмерці блізкіх заўважылі, вядома, хто сутыкнуўся. Але найбуйнейшай тэхнагеннай катастрофы ў гісторыі чалавецтва — не.

І вось што падумалася. Для беларусаў Скарына, Чарнобыль і Нобэль — зьявы ня толькі аднаго касьмічнага маштабу, але і аднаго парадку. У гэтым шэрагу ёсьць яшчэ адна падзея — Вайна. Касьмічна стратная для народа Першая сусьветная, якая перайшла ў сувымерныя паводле стра-

таў сталінскія рэпрэсіі і завяршылася гэткай жа маштабнай Другой сусьветнай.

Гэта як глыбінная прышчэпка — у самую сарцавіну людзкога мэнталітэту — ад усяго касьмічнага, сусьветнага і глябальнага — добрага ці благога. Ай, лепш ня трэба — ні думаць пра гэта, ні ведаць, ні разумець. Сама істота на ўзроўні падсьвядомасьці адштурхоўваецца ад Нобэля, як ад Чарнобылю. Дайце спакою, не чапайце, не траўмуйце псыхіку. Хай сабе вялікае ўбачыцца на адлегласьці, але не цяпер, не пры нас. Занадта блізкае сонца спапяляе. Гэта далёка яно цёплае, ласкавае, усьміхаецца.

Савецкая траўма на беларускай мэнтальнасьці не загаілася. Усе гэтыя два дзясяткі гадоў яе вярэдзіць і вярэдзіць улада. Адсюль ідуць і ўнутраныя забароны думаць пра палітыку, пра родную мову ці заходнюю цывілізацыю.

Але час мацнейшы за ўладу, за траўму і за мэнтальнасьць.

Беларускія габрэі, каб не траўмаваць дзяцей, пачалі расказваць ім пра галакост толькі праз сорак гадоў пасьля вайны.

Некалі раскажуць і беларусы.

І пра Скарыну, і пра Чарнобыль, і пра літаратурнага Нобэля.

Пагатоў нікуды ад нас ужо ня дзенуцца ні першы, ні другі, ні трэці. Назаўжды.

## «Было б дзіўна, калі б я гаварыла ў вечаровай сукенцы і дэкальтэ пра Чарнобыль»

5 сьнежня 2015
Аляксандра Дынько, Менск-Стакгольм

*Сьвятлана Алексіевіч вылецела зь Менску ў Стакгольм для атрыманьня Нобэлеўскай прэміі ў галіне літаратуры.*

Сьвятлана Алексіевіч прыбыла ў аэрапорт разам са сваёй пляменьніцай Натальляй, яе дачкой Янай і мужам Натальлі. Але яны толькі праводзілі ляўрэата. А ў Стакгольм разам з Алексіевіч ляцяць драматург Юлія Чарняўская і яе муж, заснавальнік парталу tut.by Юры Зісер.

Сьвятлану сустрэлі на стойцы рэгістрацы «Белавія». Яе правялі ў бізнэс-залю, дзе яна чакала пасадкі. Алексіевіч было вырашана падвезьці да трапа асобым транспартам — гэткі клопат з боку «Белавія».

Журналістам Сьвятлана сказала, што пачала зьбіраць валізкі ў дарогу толькі а другой гадзіне ночы. Выступаць з нобэлеўскай лекцыяй яна будзе не ў сукенцы, а ў касьцюме з штанамі:

«Я пішу пра даволі страшныя рэчы. І было б дзіўна, калі б я гаварыла ў вечаровай сукенцы і дэкальтэ пра Чарнобыль».

Алексіевіч адказала на пытаньні журналістаў. Адно зь іх тычылася таго, як яна рэагуе на тое,

што беларускія тэлеканалы адмовіліся трансьляваць уручэньне ёй Нобэлеўскай прэміі. Пісьменьніца адказала, што для яе гэта было відавочна. Яна зьвязвае гэта з асабістым стаўленьнем да яе беларускага прэзыдэнта:

«Гэта, мабыць, рэўнасьць. Ён у нас адзін. Мяне цешыць, што людзі на гэта рэагуюць. Яны мяне сустракаюць.

А што прэзыдэнт? Які страшны быў Сталін. І дзе ён? Дзе Брэжнеў? Дзіўна, што аўтарытарныя кіраўнікі гэтага не разумеюць».

Спадарыня Алексіевіч таксама сказала:

«У нас павінна быць культура. І гэта мусіць вырашаць улада, а не адзін чалавек. А ў нас улада — адзін чалавек. Таму ўсё залежыць ад яго, як у партызанскім атрадзе».

Нобэлеўская ляўрэатка сказала, што ніякіх афіцыйных віншаваньняў ад беларускай улады яна дагэтуль не атрымлівала. А прадстаўнікі беларускай амбасады ў Швэцыі не зьвярталіся да яе з нагоды нобэлеўскіх мерапрыемстваў.

У пісьменьніцы запыталіся, ці сустракалася яны калі-небудзь асабіста з Аляксандрам Лукашэнкам. Яна адказала адмоўна і дадала, што цяпер ужо і ня варта сустракацца, калі мужчына так сябе паводзіць.

Было таксама пытаньне: што вы адкажаце тым, хто ўпэўнены — беларускі пісьменьнік павінен пісаць на беларускай мове. На гэта Алексіевіч адказала, што яна пісала пра ўтопію. А ўтопія не гаварыла па-беларуску. Утопія гаварыла парасейску.

## «Калі б я была прэзыдэнтам, пастаралася б, каб грамадзтва пачало рухацца»

5 сьнежня 2015
Аляксандра Дынько, Стакгольм

*«Кожны з нас вінаваты ў тым, што Лукашэнка ўжо 20 гадоў пры ўладзе», — у самалёце на шляху ў Стакгольм, дзе 10 сьнежня Сьвятлана Алексіевіч будзе ўзнагароджаная Нобелеўскай прэміяй, пісьменьніца адказала на пытаньні Радыё Свабода.*

Сьвятлана Алексіевіч прыляцела сёньня ў Стакгольм у бізнэс-клясе авіякампаніі Белавія. Супрацоўнікі аэрапорту суправадзілі Сьвятлану ў залю чаканьня бізнэс-клясы, а да борта даставілі яе на асобным аўтамабілі.

Капітан самалёта павіншаваў пісьменьніцу з атрыманьнем Нобэлеўскай прэміі. На фоне ігнараваньня перамогі афіцыйнымі ўладамі і адмовай тэлеканалаў трансьляваць цырымонію ўзнагароджаньня, такія ўчынкі выклікаюць зьдзіўленьне і павагу. У самалёце Сьвятлана атрымала запіску зь віншаваньнямі ад дзьвюх швэдак, якія ўжо 16 гадоў дапамагаюць беларускім рэгіёнам, што пацярпелі ад Чарнобылю. «Цяпер усе ў Швэцыі гавораць пра Беларусь», — кажуць гэтыя жанчыны.

Сьвятлана нікому не адмаўляе ў гутарцы, аднак кажа, што такая публічнасьць даецца ёй цяжка. Сама яна трымаецца вельмі бадзёра і рашуча,

хоць раней і скардзілася на праблемы са здароўем. «А хто мяне з Лукашэнкам параўноўваў?» — найперш рэагуе Сьвятлана на маю просьбу адказаць на нашы пытаньні, згадваючы мой артыкул напісаны пры канцы 90-х. Я параўноўвала, але цяпер час іншых пытаньняў.

**Дынько**: Ваш цыкль пра «ўтопію» завершаны, але ці скончаная гісторыя «чырвонага чалавека»?

**Алексіевіч**: Гісторыя «чырвонага чалавека» яшчэ будзе доўгая і без крыві не абыдзецца. І ва Ўкраіне і ў нас. Я сваю працу скончыла. Усё, што я магла сказаць пра гэтага чалавека, я ўжо сказала. У мяне была свая ідэя, на гэтым матэрыяле можна было напісаць сотні кніг, сотні «салжаніцыных» маглі б працаваць. Я прайшла свой шлях.

**Дынько**: І хто ідзе яму на зьмену? Ці Вы бачыце ўжо новага чалавека, годнага дасьледаваньня?

**Алексіевіч**: Прыйдзе проста чалавек, як ва ўсім сьвеце. А калі гэта будзе — гэта вялікае пытаньне. Мы трапілі ў прамежкавы час. Адчуваньне, што гэта будзе доўга і цяжка. Што тычыцца Беларусі, то тут увогуле час спынены. Чалавек паставіў плаціну, грамадзтва ня рухаецца, а калі й разьвіваецца, то насуперак. Канечне, «эфэкт травы» ёсьць, нешта адбываецца і з моладзьдзю, і з грамадзтвам. Нешта робіцца, нешта будуецца, але ўсё гэта шалёна павольна. Злачынна павольна. А самае галоўнае, што зь людзьмі нічога не адбываецца, іх нібы закансэрвавалі. Ім не даюць свабоды, не даюць магчымасьцяў разьвівацца. Можаце ўявіць, калі б нашае грамадзтва прыйшло

ў рух? Колькі ўсяго было б цікавага, як бы мы маглі рвануць. Гэтага не адбываецца 20 гадоў. А што такое сёньня згубіць 20 гадоў? Калі распаўся Саюз, у Беларусі былі такія шанцы! Цяпер гэтых шанцаў ужо няма.

**Дынько**: Вы казалі, што вы чалавек беларускага сьвету і расейскай культуры. А якія ў Вас дачыненьні зь беларускай культурай?

**Алексіевіч**: Мой бацька беларус, мой дзед беларус, мой прадзед вучыўся разам зь Якубам Коласам і быў сельскім настаўнікам, вельмі рана памёр. Я вырасла ў беларускай вёсцы. Вельмі люблю старых беларускіх жанчын, бо бачыла, якое ў іх было жыцьцё, як яны працуюць, як яны сьпяваюць. Слухала, як яны распавядаюць, краявіды — усё гэта літаральна на фізіялягічным узроўні ўсмактана. Дзяцінства — гэта, канечне, Украіна, я выхаваная ўкраінскай бабуляй. Але выхаваная я, канечне, расейскай культурай. Без Дастаўескага ці Чэхава я сябе не ўяўляю. Я адтуль.

**Дынько**: Вы згадалі, што я параўнавала вас з Лукашэнкам, але так і атрымалася, што калі раней Беларусь у сьвеце ведалі толькі праз Лукашэнку, то ўжо цяпер яе найперш будуць ведаць праз Сьвятлану Алексіевіч, як Вам у такім статусе?

**Алексіевіч**: Я яшчэ не абжыла гэты стан, яшчэ пра гэта ня думала. Гэта фізычна вельмі цяжка. Вось гэтая пастаянная публічнасьць.

**Дынько**: Якой была б краіна, калі б Вы былі прэзыдэнтам?

**Алексіевіч**: Ва ўсялякім разе я б пастаралася, каб грамадзтва прыйшло ў рух. Ёсьць жа прыклад

Сынгапуру, калі прыйшоў адзін чалавек, асоба. І першае што ён зрабіў — адукацыя, ён даў магчымасьць вучыцца. Ён змог саўладаць з карупцыяй. Праз 20 гадоў Сынгапур ужо не пазнаць. Гэта не «балота з камарамі», як было да таго. Я лічу, што трэба, каб грамадзтва прыйшло ў рух. Разумных людзей і таленавітых у нас хапае.

Галоўнае, што мяне найбольш засмучае, гэта тое, што ў вёсцы, дый ня толькі ў вёсцы, але і ў горадзе бедныя людзі ня могуць вучыць сваіх дзяцей. Гэта самае вялікае злачынства, якое робіць улада. Самае вялікае! І сельскія бібліятэкі, якія зьніклі. Урэшце ня ў кожнай вёсцы ёсьць інтэрнэт, вельмі мала ў каго ён ёсьць.

Вось наш патэнцыял — гэта новае маладое пакаленьне, якому трэба даць магчымасьць. Колькі я ежджу па вёсках, я бачу, як бацькі сёньня пакутуюць ад таго, што ня могуць вучыць сваіх дзяцей. А ўсе гэтыя патасныя рэчы — езьдзіць то на дрэвакамбінат, то на Салігорскі камбінат — гэта ня справа прэзыдэнта. Прэзыдэнт мусіць стратэгічна думаць.

**Дынько**: Вы сталі ледзь не «афіцыйным» ворагам аўтарытарных лідэраў на тэрыторыі Ўсходняй Эўропы, чаму ў Вас няма страху? Вы не баіцеся?

**Алексіевіч**: У нас усяго можна чакаць. Калісьці я размаўляла зь Беразоўскім, і ён сказаў: «Расейскі капіталізм малады, злы і бязьлітасны». Гэта сапраўды так. Гэта напэўна ўваходзіць у рызыку, у нашу прафэсію. Трэба быць сумленным. Я нічога не кажу такога, што прыніжае гэтых людзей. Я проста спрачаюся, кажу, як я гэта бачу. Нам усім

трэба не «великая Россия» і «вялікая Беларусь», а нармальная Беларусь і нармальная Расея. Нармальная краіна, дзе людзі з годнасьцю і спакойна жывуць. Хаця варта прызнаць і тое, што я прыехала праз 10 гадоў, і не пазнала Беларусі. Калі едзеш па Беларусі, то вельмі зьмянілася вёска. Беларускі капіталізм не расквітнеў нахабным цьветам. Гэта трэба паставіць у заслугу Лукашэнку.

А я кажу, як я бачу. Са мной можна спрачацца.

**Дынько**: Ці тлумачыцца Ваша сьмеласьць тым, што Вы жанчына?

**Алексіевіч**: Не, вельмі шмат сьмелых людзей, якія кажуць сьмелыя рэчы. І ў нашай апазыцыі, якая разрозьненая і ўсё ня можа знайсьці аднаго лідэра, дастаткова моцных мужчын і жанчын у тым ліку. Мне вельмі падабаецца Караткевіч. Моцная жанчына. Як хутка яна абагнала нашых старых апазыцыйных лідэраў. Гэта сапраўды новая моцная фігура.

**Дынько**: Тое, што Лукашэнка 20 гадоў знаходзіцца пры ўладзе, гэта віна апазыцыі ці бяда?

**Алексіевіч**: Апазыцыя аніяк на гэта не ўплывае. Справа ў нашым народзе і яго гісторыі. У гэтым страху, які цягнецца на працягу стагодзьдзяў. Думаю, перакладаць усю віну на апазыцыю было б несумленна. Кожны з нас у гэтым вінаваты. Уся эліта. Чаму толькі апазыцыя мусіць несьці адказнасьць за тое, што з намі адбываецца? Гэта было б несправядліва.

**Дынько**: Вы распавядалі пра вашага аднавяскоўца Пятра Сільвестравіча, які вельмі любіць

Лукашэнку і перакананы, што той выяўляе яго памкненьні. Дык, можа, сапраўды Лукашэнка — народны прэзыдэнт?

**Алексіевіч**: Гэта праўда. Ён (Лукашэнка. — РС) абсалютна крыштальна адлюстроўвае ўзровень нашага народу. Іншая справа, што нам усё ж патрэбны Вацлаў Гавэл. Чалавек, які ішоў бы наперадзе. Нельга ісьці на повадзе ў масавай сьвядомасьці. У нас ёсьць моцныя людзі. Трэба даць шанец грамадзтву прыйсьці ў рух, загаварыць, выбіраць. Тады і зьявіцца гэты чалавек. Яго нельга прызначыць.

Але я ўпэўненая, што калі б былі сумленныя і свабодныя выбары, калі б быў не ручны, а сапраўдны парлямэнт, мы б пабачылі абсалютна новых людзей — цікавых, моцных. Гэта без сумненьняў.

## Іскра Алексіевіч па-новаму асьвеціць Беларусь

6 сьнежня 2015
Карл Гершман, Вашынгтон

*Прызнаньне Нобэлеўскім камітэтам творчасьці Сьвятланы Алексіевіч дае нагоду глянуць сьвежым вокам на спадчыну камунізму ў краіне, якую часта называюць «апошняй дыктатурай Эўропы», лічыць Карл Гершман, прэзыдэнт Нацыянальнага фонду ў падтрымку дэмакратыі (NED).*

У чацьвер Нобэлеўскі камітэт перадасьць прэмію па літаратуры Сьвятлане Алексіевіч, пісьменьніцы зь Беларусі, якую часам называюць «апошняй дыктатурай Эўропы». У адрозьненьне ад бальшыні аўтараў, якія атрымлівалі гэтую прэмію, Алексіевіч ня піша ні прозу, ні паэзію. Яе кнігі заснаваныя на размовах са звычайнымі людзьмі, якія гавораць ад свайго імя пра траўмы найноўшай гісторыі Беларусі, улучна з Чарнобыльскай катастрофай, вайной у Афганістане і досьведам існаваньня ў «скрыўленым часе» пры дыктатуры Аляксандра Лукашэнкі. Гэтыя «галасы ўтопіі», як яна іх называе, дакумэнтальна фіксуюць «homo sovieticus'а», сьведчаць пра сьвядомасьць людзей, якія жывуць у, як яна гэта называе, «часе second-hand... старых, старых забабонаў».

Цэнтральная ідэя Алексіевіч палягае ў тым, што посткамуністычныя краіны, накшталт

Беларусі — яна ўлучае сюды таксама Расею і Ўкраіну — ня стануць свабоднымі і дэмакратычнымі, калі народы гэтых краін ня вызваляцца ад разбуральнай савецкай спадчыны, якая ўплывае нават на маладых людзей, якія ніколі не жылі пры камунізьме. Адна справа прыбраць вонкавыя атрыбуты камунізму, кажа яна, «але зусім іншая — вырваць яго з сваёй душы».

Яе не пакідае надзея, бо людзі, чый балючы досьвед яна запісала ў сваіх кнігах, выяўляюць «сілу чалавечага духу». Але яна ведае таксама, што пакуль калектыўная памяць пра даносы, гулагі, прымусовую калектывізацыю і перакручаную орвэлаўскую праўду ня будзе пастаўленая пад пытаньне, ня стане прадметам дыскусій і вывучэньня, постсавецкае жыцьцё будзе заставацца «сумесьсю турмы і дзіцячага садка».

Лукашэнка, архетыпічны «савецкі чалавек» робіць задачу такога праўдзівага разбору вельмі цяжкай. Ён быў абраны прэзыдэнтам два дзесяцігодзьдзя таму дзякуючы абуджэньню настальгіі па савецкіх часах, ён карыстаецца дзяржаўным кантролем над усімі электроннымі СМІ і адукацыйнымі ўстановы Беларусі, каб прасоўваць савецкую ідэалёгію, асабліва па тэме Вялікай айчыннай вайны, як «рускі мір» называе Другую сусьветную вайну.

Як цьвердзіць гісторык Тымаці Снайдэр, ніводная краіна не зазнала ў вайну такога праліцьця крыві і разбурэньняў, як Беларусь, «цэнтар канфрантацыі паміж нацыстоўскай Нямеччынай і Савецкім Саюзам». Адна пятая

з дзесяцімільённага насельніцтва была забітая, яшчэ траціна была дэпартаваная ў якасьці прымусовай працоўнай сілы, або ўцякла з краіны. Тым ня менш, піша Снайдэр, рэжым зрабіў з гэтага разбуральнага канфлікту аб’ект настальгіі, «ператварыўшы попел ваенных пакутаў у золата палітычнай вартасьці». Тэма вайны ўжываецца ня толькі каб уславіць гераізм савецкіх салдатаў, але і каб сьцерці з памяці злачынствы сталінізму, на сумленьні якога да 1,6 мільёна ахвяраў у Беларусі падчас Вялікай Чысткі 1937–1941.

Рэжым Лукашэнкі не адчувае сабе ніякай пагрозы, бо рэпрэсіі ў Беларусі спараджаюць страх і апатыю, і, як зазначае Алексіевіч, грамадзтва застаецца разьяднанае і зьнявечанае. І ўсё ж пры гэтым яна верыць, што «зьяўляюцца новыя людзі з грамадзянскай сьмеласьцю». Патэнцыйных прыхільнікаў пераменаў выяўляюць сацыялягічныя апытаньні, паводле якіх палова насельніцтва адчувае, што краіна ідзе ў няправільным кірунку, а 84 працэнты хочуць рэформаў; іх можна бачыць і ў прадстаўніках грамадзкіх рухаў, якія штогод арганізуюць мітынгі памяці ў Курапатах, месцы масавых пахаваньняў ахвяраў чыстак.

Але невялікая дэмакратычная супольнасьць у Беларусі застаецца адносна ізаляваная ад шырокіх масаў. Існуе раздробленая палітычная апазыцыя, якая мае стабільную электаральную базу парадку 25-30 працэнтаў, але не разглядаецца як рэальная альтэрнатыва Лукашэнку. Ёй трэба аб’яднацца, пашырыць базу сваіх прыхільнікаў

на шырокія масы і запрапанаваць пераканаўчую канцэпцыю будучыні краіны. Алексіевіч таксама заклікае беларускіх інтэлектуалаў даць сябе пачуць і распачаць дыялёг з моладзьдзю, каб дапамагчы ёй «пачаць засвойваць цяжкі досьвед свабоды».

Злучаныя Штаты і Эўрапейскі Зьвяз могуць таксама дапамагчы, настойліва дамагаючыся рэальных і эканамічных пераменаў у Беларусі і вызначыўшы ясныя крытэрыі ацэнкі прагрэсу. Цяперашняя заходняя палітыка «малых крокаў» азначае адсутнасьць цьвёрдых патрабаваньняў і чаканьня істотных вынікаў. Гэта вынік умелага балянсаваньня Лукашэнкі паміж Расеяй і Эўропай і прапановы правесьці ў Менску перамовы аб спыненьні агню ва Ўкраіне. Аднак эканамічныя цяжкасьці Беларусі і яе занепакоенасьць рэваншызмам Пуціна азначаюць, што ў Захаду ёсьць свае інструмэнты ціску на Лукашэнку, якія ён бы мусіў ужыць.

Прызнаньне Нобэлеўскім камітэтам творчасьці Сьвятланы Алексіевіч дае нагоду глянуць сьвежым вокам на Беларусь. Беларускі драматург Андрэй Курэйчык кажа, што яна — «новы нацыянальны лідэр», які мае «большы аўтарытэт, чым любы палітык». Алексіевіч — не палітык, але здабыла гонар для сваёй шматпакутнай краіны, а ўвага, якую прыцягнуць цяпер яе ідэі, магла б зрабіцца той іскрай, якая абудзіць Беларусь і дапаможа ёй знайсьці сваё месца ў сучасным сьвеце.

## «Я не адразу стала свабоднай і вызвалілася ад камуністычных ілюзій»

6 сьнежня 2015
Аляксандра Дынько, Стакгольм

*У Стакгольме прайшла прэсавая канфэрэнцыя Сьвятланы Алексіевіч. Першае пытаньне было ад карэспандэнткі Радыё Свабода.*

**Дынько**: Спадарыня Сьвятлана, мы абсалютна шчасьлівыя вашай перамогай і падзяляем яе, зараз ваш голас як Нобэлеўская ляўрэаткі моцны, як ніколі. Скажыце калі ласка, што яшчэ трэба зрабіць для таго, каб гэты ваш новы цудоўны статус быў скарыстаны для ўсіх жыхароў Беларусі, для ўсіх беларускіх людзей? (пытаньне прагучала па-беларуску і па-ангельску — рэд.).

**Алексіевіч**: Я думаю, што трэба рабіць тое, што рабілася заўсёды. Рабіць сваю справу, рабіць яе спакойна, бяз роспачы. Але, на жаль, нават статус не заўсёды дапамагае, калі ты жывеш ва ўмовах дыктатуры, аўтарытарнай сістэмы. Таму што дыктатура гэта, як правіла, прымітыўныя стварэньні. Людзі, якія вакол гэтай дыктатуры, на чале яе - ня самыя разумныя людзі. І я ўжо за гэтыя некалькі тыдняў падпісала некалькі лістоў, у абарону афіцэра ўкраінскай арміі Надзеі Саўчанкі, яшчэ, але заўсёды, падпісваючы, усё роўна адчуваеш нейкі адчай: як мала могуць сёньня добрыя людзі.

## Алексіевіч і «стрэлы нянавісьці»

6 сьнежня 2015
Сяргей Дубавец, Менск

Трэба прызнаць, што сёлетні выбар літаратурнага набэліста — найбольш зьмястоўны за апошнія гады.

Прынамсі на такую думку наводзяць некаторыя камэнтары на сайце Свабоды, тыя «стрэлы нянавісьці», якія выпускаюцца ў мішэнь-Алексіевіч безь ніякіх шанцаў даляцець да мэты.

Нават не магу прыгадаць роўнага выпадку, калі б згоду і нязгоду выклікала ня столькі асоба ляўрэата і характар пісьма, колькі знакі часу, маркеры чалавека і болевыя кропкі сьвету. Мы спрачаемся пра «чырвонага чалавека», «русский мир», лукашэнкаўскі аўтарытарызм і тыя маральныя і псыхалягічныя эпідэміі, што працягваюць гуляць на прасторы Зямлі, пра граблі, граблі і яшчэ раз граблі. Мяняецца матэрыял, зь якога яны зробленыя, колер і кошт, але наступаць на іх ад гэтага беднае чалавецтва не перастае.

Ёсьць, вядома, і тыя, хто пускае «стрэлы нянавісьці» ў талент пісьменьніцы і ў яе «нелітаратурную» прозу, але ў параўнаньні з азначанымі тэмамі гэтыя выпады зусім ужо нікчэмныя, як пакусваньні сябе самога ад злосьці на кагосьці.

Глыбіня і маштаб тэмаў робіць гэтую прэмію ня столькі прыватнай адзнакай канкрэтнага таленту, колькі самастойнай падзеяй, што здольная

ўплываць на лёс краіны, рэгіёну і народаў, якія жывуць тут.

Чыста па адчуваньнях, Алексіевіч зрабіла сябе як набэліста сама. Гэта і вялізная праца, і ўнікальная здольнасьць фармаваць сытуацыю і прастору вакол сябе і свае творчасьці. У гэтым сэнсе Алексіевіч таксама цяжка параўнаць з кім-небудзь зь яе папярэднікаў.

Выбар ляўрэата стварыў новую сытуацыю для постсавецкай культуры, для расейскай літаратуры, а найперш для беларускай мовы і культуры. Мы быццам застылі ў думаньні пра іх на гэтыя 20 гадоў, а Нобэль саштурхоўвае думку зь мёртвае кропкі. Бо стала ясна, што лёс мовы і культуры цалкам залежыць толькі ад нас — тых, хто адчувае за іх адказнасьць. Роля дзяржавы ва ўсім гэтым перастала быць фатальнай. Магутны інструмэнт, які мы атрымалі, можна ўжыць як для самагубства, так і для разьвіцьця — парадаксальных зьменаў сытуацыі да лепшага.

Цяпер усім, хто не абыякавы да лёсу беларушчыны, нашмат прасьцей будзе прадстаўляць яе ў сьвеце і выклікаць інтарэс да краіны, яе культуры і літаратуры. Нашмат прасьцей, чым суседзям-украінцам ці суседзям-літоўцам і прадстаўнікам яшчэ 150 краін. І моўнае пытаньне тут будзе акурат на 150-м месцы, бо ў сьвеце толькі нязначная колькасьць эліт чытае па-расейску ці па-беларуску. А таго, што гэта прэмія Беларусі, беларусам і беларускай культуры і літаратуры, не аспрэчыць ніхто. Нават мы самі.

## Алексіевіч і яе сябрам наладзілі экскурсію па Нобэлеўскім музэі

6 сьнежня 2015
Аляксандра Дынько, Стакгольм

*Заснавальнік парталу TUT.by Юры Зісер — адзін з удзельнікаў каманды сяброў і аднадумцаў, якія суправаджаюць Сьвятлану Алексіевіч на цырымонію ўручэньня Нобэлеўскай прэміі ў Стакгольм — расказаў, што раніцай 6 сьнежня ўсе ляўрэаты сабраліся ў Нобэлеўскім музэі.*

Мерапрыемства суправаджалі сур'ёзныя захады бясьпекі: доступ у будынак для староньніх наведнікаў быў зачынены, бліжэйшыя кварталы кантралявалі супрацоўнікі праваахоўных органаў.

Паводле спадара Зісера, імпрэза пачалася зь вітальнага слова на адрас сёлетніх пераможцаў у сваіх намінацыях, прысутных вітаў асабіста дырэктар музэю.

Пасьля гэтага была наладжана экскурсія па музэйнай экспазыцыі: да Сьвятланы Алексіевіч і яе сяброў была прыстаўленая расейскамоўная культуроляг-экскурсавод, якая па большай частцы знаёміла гасьцей з экспазыцыяй савецка-расейскага пэрыяду.

У бібліятэчнай краме багаты выбар кніжнай прадукцыі, на швэдзкую мову перакладзеныя ўсе творы беларускай Нобэлеўскай ляўрэаткі. А 15 гадзіне паводле менскага часу пачалася

першая публічная падзея з удзелам Сьвятланы Алексіевіч у Швэцыі — прэсавая канфэрэнцыя ў вялікай залі Швэдзкай акадэміі.

## Дзьмітры Плакс: Праз паказ спэцыфічнай савецкай мэнтальнасьці Алексіевіч распавядае пра чалавека як такога

6 сьнежня 2015
Ян Максімюк, Сяргей Шупа, Прага

*Пра Сьвятлану Алексіевіч, яе вядомасьць у Швэцыі, выданьні яе кніг, сустрэчы з чытачамі Свабода пагаварыла з супрацоўнікам Швэдзкага радыё, беларускім пісьменьнікам і перакладчыкам, які жыве ў Стакгольме, Дзьмітрыем Плаксам.*

**Радыё Свабода**: Нядаўна давялося прачытаць, што Сьвятлана Алексіевіч дзевяць гадоў пісала сваю калёнку ў швэдзкай газэце, у Гётэборгу. Большасьць яе чытачоў у Беларусі, як падаецца, пра гэта і ня ведала. Вы чыталі гэтыя тэксты? Пра што яна пісала?

**Плакс**: Я ўсе тэксты, думаю, не чытаў, толькі некаторыя. Яна пісала па актуальных тэмах, якія ў той час дыскутаваліся і мелі нейкае дачыненьне да былога Савецкага Саюзу. «Гётэборгс-постэн» — рэгіянальная газэта, тэксты Сьвятланы зьяўляліся там, як памятаю, нерэгулярна, з канкрэтных нагодаў. Актыўней яна пісала ў газэту тыя пару гадоў, што яна жыла ў Гётэборгу.

**Радыё Свабода**: Наколькі па-вашаму гэтая газэтная актыўнасьць дапамагла Алексіевіч паказаць сябе ў Швэцыі і «павялічыць свае шанцы на Нобэля»?

**Плакс**: Нінакольki. Яе ў Швэцыі ўспрымаюць, натуральна, не як журналістку, а як вядомую пісьменьніцу. Яе публіцыстычныя тэксты ў газэце былі выказваньнямі вядомай асобы і менавіта ў якасьці такіх былі цікавыя. Так што гэта ніяк не паўплывала на яе вядомасьць і на шанцы атрымаць Нобэлеўскую прэмію. Наадварот — яе вядомасьць спрыяла чытаньню гэтых тэкстаў.

**Радыё Свабода**: Які розгалас мелі гэтыя тэксты?

**Плакс**: Агульнашвэдзкі розгалас. Рэч у тым, што швэдзкія рэгіянальныя газэты па сваёй, так скажам, важнасьці не саступаюць «цэнтральным» — тут прывычнай для Беларусі газэтнай герархіі няма. Бывае так, што вядомы і паважаны аўтар друкуецца ў мясцовай газэце, і яго будуць чытаць усе, каму цікава.

**Радыё Свабода**: Скажыце пару словаў пра выдавецтва «Ersatz», у якім выходзілі кнігі Алексіевіч у швэдзкім перакладзе. Гэта, як выглядае, малое, даволі элітарнае выдавецтва? У кожным разе — яны не выдаюць мэйнстрымавую літаратуру...

**Плакс**: Першыя кніжкі Алексіевіч выйшлі ў іншым выдавецтве — «Ordfront», гэта нашмат буйнейшае выдавецтва. Але пасьля выданьнем яе кніг занялася выдавецтва «Ersatz» — гэта выдавецтва «якаснай» літаратуры, яно спэцыялізуецца на літаратуры, якая шырока ў Швэцыі не прадстаўленая. Сярод іншага яно арыентуецца на літаратуру краінаў былога Савецкага Саюзу, зь беларускіх пісьменьнікаў яны таксама

выдалі, напрыклад, «Горад сонца» Артура Клінава, «Вольныя вершы» Андрэя Хадановіча, там выйшла і мая найноўшая кніжка...

**Радыё Свабода**: Калі Алексіевіч жыла ў Швэцыі, вы зь ёю сустракаліся?

**Плакс**: Ну, ня так часта, бо яна жыла ў Гётэборгу, а я ў Стакгольме, але кантакты меў. Тады яшчэ існавала Беларуская служба Швэдзкага радыё, дзе я працаваў, і мы, вядома ж, зьвярталіся да яе па камэнтары па тых або іншых пытаньнях. Памятаю адну імпрэзу з удзелам Сьвятланы і Барыса Пятровіча ў цэнтральнай бібліятэцы гораду Мальмё, я там таксама быў у якасьці перакладчыка твораў Барыса. Раз яна таксама падарожнічала па Поўначы краіны на запрашэньне Марыі Сёдэрбэрг.

**Радыё Свабода**: Алексіевіч папулярная ў швэдзкіх фэміністцкіх колах. Як яна здабыла гэтую папулярнасьць?

**Плакс**: Гэтак, вядома ж, сталася дзякуючы кнізе «У вайны не жаночае аблічча». Гэта ўнікальная кніга ў тым сэнсе, што вайна там падаецца з жаночай пэрспэктывы — наколькі мне вядома, такога ў сусьветнай літаратуры да яе ніхто не рабіў. Акрамя таго, што гэта моцны літаратурны твор, гэта яшчэ вельмі цікавы матэрыял як для гендэрных дасьледаваньняў, так і для фэміністычнага руху наагул.

**Радыё Свабода**: У букмэйкераў Алексіевіч трапіла ў фаварыты кандыдатаў на Нобэля гады тры-чатыры таму. Калі ў Швэцыі адчулі, што Сьвятлана Алексіевіч — гэта рэальная кандыдатка?

**Плакс**: Для мяне стала абсалютна відавочным, калі я два гады таму прачытаў яе апошнюю кнігу — «Час second-hand». Я адчуў, што, па-першае, гэта літаратура відавочна вартая Нобэлеўскай прэміі, і, па-другое, што Алексіевіч безумоўна яе атрымае. Але я ня думаў, што яна атрымае яе так хутка. Кніга «Час second-hand» праліла новае сьвятло на ўсё, што яна дагэтуль напісала, яна надае зваротную пэрспэктыву і выбудоўвае з усіх папярэдніх кніжак адзіны «opus magnum». Гэтая кніга мела ў Швэцыі вельмі добрыя рэцэнзіі і нават уваходзіла ў сьпісы бэстсэлераў, што нячаста здараецца зь «цяжкай» літаратурай.

**Радыё Свабода**: Вы прысутнічалі на аўтарскіх сустрэчах Алексіевіч са швэдзкімі чытачамі? Як яе ўспрымалі швэды?

**Плакс**: У Швэцыі фармат сустрэчаў зь пісьменьнікамі іншы, чым той, да якога прызвычаіліся ў Беларусі. Тут ня так, што публіка прысылае паперкі з пытаньнямі і пісьменьнік на іх адказвае ў інтэрактыўным рэжыме. Тут звычайна на сцэне сядзіць пісьменьнік і чалавек, які задае яму пытаньні ў фармаце інтэрвію. Публіка проста слухае і актыўна ў размове ня ўдзельнічае. Але на тых сустрэчах, дзе быў я, свабодных месцаў не было. Пасьля сустрэчаў, як тут прынята, пісьменьнік падпісвае свае кнігі. Да Сьвятланы заўсёды стаялі доўгія-доўгія чэргі, яна зь вялікай адказнасьцю заставалася і падпісвала кнігі ўсім ахвочым хоць часам гэта займала і цэлую гадзіну.

**Радыё Свабода**: Вы працуеце рэжысэрам і драматургам радыётэатру Швэдзкага нацыянальнага

радыё. Ставіце п’есы па кнігах Алексіевіч? Што пра іх кажуць акторы?

**Плакс**: Пакуль што я паставіў толькі адзін спэктакль — па кнізе «Час second-hand». Фармат спэктаклю — 55 хвілін, гэта каля 40 старонак тэксту, а ў кнізе — каля 700... Чым кнігі Алексіевіч цікавыя — і асабліва гэтая найноўшая — дык гэта менавіта тым, што яна праз паказ спэцыфічнай савецкай мэнтальнасьці распавядае нешта пра чалавека як такога, пра нешта ўнівэрсальнае, што ўласьціва чалавеку як біялягічнаму віду. І я ня думаю, што гэтая спэцыфіка «homo sovieticus’a» нейкім чынам замінае зразумець агульначалавечае вымярэньне. Наадварот. У «Часе second-hand» паказана вельмі добра, што месца і час уплываюць на тое, як паводзіць сябе чалавек, і любы чалавек у пэўных абставінах, напэўна, можа паводзіць сябе па-рознаму — у тым ліку і як той самы савецкі чалавек.

**Радыё Свабода**: Наколькі прысуджэньне прэміі беларускай пісьменьніцы зьмяніла ўспрыманьне Беларусі ў Швэцыі?

**Плакс**: Па-першае, наагул зьявілася хоць нейкае ўспрыманьне. Дагэтуль ведалі хіба што пра Лукашэнку, пэрыядычную паліцэйскую брутальнасьць падчас выбараў. А тут — ужо адно тое, што найбуйнейшая швэдзкая газэта Dagens Nyheter, а таксама рэдакцыя культуры Швэдзкага радыё пачалі ўжываць замест Vitryssland (Белая Расея) назву Belarus — гэта сьведчаньне таго, што да Беларусі пачалі ставіцца з большай увагай,

з большай павагай, і гэта не ў апошнюю, а, можа, і ў першую чаргу — дзякуючы гэтай падзеі.

Заўважна павялічылася колькасьць артыкулаў і рэпартажаў пра Беларусь, хоць звычайна ў Беларусі адбываецца, з мэдыяльнага пункту гледжаньня, няшмат. Пару дзён назад, напрыклад, мне пазванілі з швэдзкага тэлеграфнага агенцтва ТТ і спрабавалі высьветліць, ці прадаюцца кніжкі Алексіевіч у менскіх кнігарнях. Яшчэ тры месяцы таму такое было немагчыма сабе ўявіць.

## Эрыксан: «Калі пачуў пра Нобэлеўскую прэмію для Беларусі — закрычаў»

7 сьнежня 2015
Аляксандра Дынько, Стакгольм

*Стэфан Эрыксан правёў у Беларусі сем гадоў разам з жонкай і дзецьмі. Быў першым кіраўніком дыпляматычнага прадстаўніцтва Швэцыі. Вывучыў беларускую мову лепш за многіх беларусаў, пасябраваў зь пісьменьнікамі, паэтамі і музыкамі і пасьпеў заваяваць любоў грамады.*

Калі ў 2012 годзе беларускія ўлады вырашылі не працягваць Эрыксану дыпляматычную акрэдытацыю, гэта азначала выгнаньне. Цяпер Стэфан Эрыксан — нобэлеўскі аташэ сёлетняй ляўрэаткі Сьвятланы Алексіевіч. Ён адказны за яе знаходжаньне ў Стакгольме, паўсюль суправаджае яе і, як выглядае, надзвычай шчасьлівы сваёй пасадай.

«Я ўпэўнены, што Беларусь шмат чаго можа прапанаваць Эўропе. Але галоўнае, каб беларусы самі цанілі сваё», — кажа Стэфан у інтэрвію Свабодзе ў адным з пакояў «Гранд-атэлю» ў цэнтры Стакгольму, дзе жывуць нобэлеўскія ляўрэаты.

**Дынько**: Вы, відаць, ужо ня дзівіцеся, калі вас называюць «амбасадарам беларускай культуры» ў Эўропе, а пасьля таго, як Сьвятлана Алексіевіч атрымала Нобэлеўскую прэмію, то і ў сьвеце. Але нашае першае пытаньне ўсё ж пра нобэлеўскую ляўрэатку, якую вы суправаджаеце на працягу

Нобэлеўскага тыдня ў Стакгольме. Як Сьвятлана правяла гэтыя дні?

**Эрыксан**: Вы прысутнічалі з самага пачатку, нават прыляцелі разам зь ёю. Фактычна ўсё, думаю, бачылі. Канечне, праграма даволі цяжкая, бо шмат журналістаў хочуць сустракацца. Сёньня была прэс-канфэрэнцыя. Але я думаю, што спадарыня Сьвятлана знаходзіць сілы, каб гэта правесьці. Канечне, гэта для яе вялікая падзея, як і для нас усіх, хто прымае ў гэтым удзел.

**Дынько**: Вядомая афіцыйная праграма, але апроч яе хтосьці выказаў жаданьне асабіста сустрэцца са Сьвятланай?

**Эрыксан**: У праграме ёсьць абавязковая частка — гэта ўзнагароджаньне, сьвяточная вячэра пасьля яго, таксама будзе вячэра ў Каралеўскім палацы. Гэта самае галоўнае, але спадарыня Сьвятлана пагадзілася яшчэ на некаторыя пункты ў праграме. У панядзелак адбудзецца размова зь міністрам замежных спраў Швэцыі Маргот Вальстрэм. Да гэтай падзеі вялікая цікавасьць.

Будзе таксама наведаньне школы ў нашых прадмесьцях, якое традыцыйна прапануецца ўсім ляўрэатам па літаратуры. Вядома, адбываюцца асабістыя сустрэчы зь людзьмі, якія блізка знаёмыя са Сьвятланай. Гэта яе выдавецтва, напрыклад, фатограф Марыя Сёдэрбэрг (арганізатарка дзён беларуска-швэдзкай культуры ў Беларусі — РС.). Гэта тыя людзі, якія шмат гадоў зь ёй працуюць.

**Дынько**: Вось калі казаць пра шмат гадоў, то бадай не сакрэт, што Швэцыі можна прыпісаць

галоўную заслугу ў тым, што Сьвятлана атрымала Нобэлеўскую прэмію. Тут варта згадаць намаганьні Швэдзкага ПЭН-цэнтру, які намінаваў Сьвятлану на прэмію, і ўсіх тых людзей, якія былі побач. Вы маглі б расказаць, як гэта адбывалася, колькі гадоў заняло, хто ў гэтым удзельнічаў?

**Эрыксан**: Перш за ўсё гэта заслуга Сьвятланы, бо гэта яе творы атрымалі ўвагу Нобэлеўскага камітэту. У сьвеце шмат прыстойных літаратараў, і нават Швэдзкая акадэмія ня можа чытаць усё, што пішацца. І шмат залежыць ад таго, што даступна на мовах, на якіх чытаюць у Швэдзкай акадэміі. Усіх пералічыць цяжка. Канечне, гэта выдавецтва і агент Сьвятланы. Яе кнігі даволі рана выйшлі па-швэдзку і выклікалі вялікі інтарэс у швэдзкіх чытачоў. Гэта зрабіла адно маленькае выдавецтва «Ersatz». Іх заслуга шмат у чым, бо яны верылі, што гэта прыстойная літаратура, што трэба яе перакладаць, і выдалі ўсе пяць кніг утопіі пра «чырвонага чалавека».

Таксама Сьвятлана два, калі не памыляюся, гады жыла ў Гётэборгу. Тады таксама склаліся добрыя адносіны са Швэцыяй. Вы таксама ведаеце, што разьвіваліся літаратурныя стасункі. Прыяжджала шмат швэдзкіх літаратараў у Беларусь. Марыя Сёдэрбэрг, у тым ліку, арганізоўвала вандроўкі. Прыяжджала ў Беларусь сябра Швэдзкай акадэміі Катарына Фростэнсан.

Тут цяжка казаць, што было самым галоўным. Натуральна, у аснове гэтай прэміі якасная літаратура, і гэта найперш заслуга Сьвятланы.

**Дынько**: На плошчы перад Нобэлеўскім музэем я пыталася ў людзей, ці ведаюць яны Сьвятлану Алексіевіч. І першы літаральна хлапец адказаў мне «так, я чытаў дзьве яе кнігі па-швэдзку». Я была вельмі ўражаная, бо калі з такім пытаньнем выходзіш на вуліцы Менску, рэдка сустрэнеш чалавека, які цэлыя дзьве кнігі Алексіевіч прачытаў. Ці стаўленьне да твораў Алексіевіч і да яе постаці ў Швэцыі адрозьніваецца ад таго, як, як вам падаецца, да яе ставяцца ў Беларусі?

**Эрыксан**: Сапраўды, у Швэцыі шмат людзей чыталі яе кнігі. Ня кожны год бывае так, што абвяшчаюць нобэлеўскага ляўрэата па літаратуры, і людзі ведаюць, хто гэта. Але сёлета так. У тым ліку міністар замежных спраў таму і захацела правесьці размову са Сьвятланай, бо прачытала яе кнігі. Нельга сказаць, што гэта масава, але шмат людзей, якія цікавіцца літаратурай, знаёмяцца зь яе творамі.

Тыя балючыя тэмы, пра якія піша Сьвятлана, для нас трохі на адлегласьці. Беларусы, былыя жыхары Савецкага Саюзу, перажылі гэта больш, чым мы. Але ўсё роўна працэсы, пра якія распавядае Сьвятлана, аказваюцца вельмі важнымі і для нашых людзей. Яны нас кранаюць. Нашая краіна прайшла іншы шлях. «Чырвонага чалавека» да такой ступені мы ня мелі. Але падобныя тэндэнцыі былі. Таму, думаю, тое, пра што Сьвятлана піша, для нас зьяўляецца вельмі актуальным.

**Дынько**: Ці ёсьць у вас тлумачэньне, чаму беларуская ўлада заняла пазыцыю ігнараваньня

нобэлеўскай ляўрэаткі і самога факту наданьня ёй прэміі?

**Эрыксан**: Я бадай ня той чалавек, які можа адказаць на гэтае пытаньне. Ведаю, што большасьць беларусаў успрынялі навіну пра прэмію Сьвятланы вельмі станоўча. Гэта стала для людзей сапраўднай падзеяй. Канечне, усім, асабліва ў нашыя часы, патрэбныя добрыя навіны. Для любой краіны гэта вялікая падзея. Людзі цешацца гэтай навіне. Мяне гэта таксама вельмі радуе.

**Дынько**: Шмат кажуць пра тое, што Нобэлеўская прэмія для беларускай аўтаркі — гэта шанец для ўсяго сьвету, і для беларусаў найперш, паглядзець на Беларусь па-новаму. Перастаць быць «апошняй дыктатурай Эўропы», якой мы воляю лёсу ўжо нават і перасталі быць, а стаць краінай Нобэлеўскага ляўрэата. Ці зьменіцца пасьля гэтага стаўленьне да Беларусі ў сьвеце?

**Эрыксан**: Перш за ўсё гэта вельмі важны момант для саміх беларусаў. Для мяне гэтая ўзнагарода — доказ таго, што Беларусь зьяўляецца часткай Эўропы і астатняга сьвету. Што тое, што адбывалася і адбываецца ў Беларусі, гэта цікава і важна. Гэта крок збліжэньня Беларусі з астатнім сьветам. Бо ў чымсьці падзеі ў Беларусі разьвіваліся трохі ізалявана.

Я магу толькі казаць пра Швэцыю. Канечне, былі людзі, якія добра ведалі пра Беларусь. Мабыць, у Швэцыі нават больш, чым у сярэдняй эўрапейскай краіне. Але натуральна гэтая падзея пашырыць вядомасьць ня толькі Сьвятланы Алексіевіч. Таксама людзі будуць больш ведаць

пра краіну Беларусь. Гэта сапраўды шанец для краіны стаць эўрапейскай.

**Дынько**: Як вы правялі гэтыя тры гады і як вам удалося ня тое што не забыцца, а нават удасканаліць беларускую мову?

**Эрыксан**: Я нікуды не падзеўся. Працягваю працаваць у швэдзкім МЗС. Ужо не наўпрост па беларускім накірунку. Але сем гадоў жыцьця — гэта даволі шмат. Таму інтарэс да таго, што адбываецца ў Беларусі, у мяне захаваўся. Дзякуючы Фэйсбуку і іншым сацмэдыям можна, так сказаць, быць часткай падзеяў, нават калі знаходзісься за мяжой.

А з мовай так атрымліваецца, што шмат беларусаў прыяжджаюць сюды. Калі ня кожны тыдзень, то кожны месяц я маю радасьць сустракацца зь беларускімі знаёмымі, сябрамі. Такім чынам імкнуся падтрымліваць мову на ўзроўні.

**Дынько**: Ці вы не трымаеце крыўды на Беларусь за тое, што вам давялося пакінуць яе супраць волі?

**Эрыксан**: Ведаеце, я не злапамятны. Па-расейску ёсьць такая прыказка «на обиженных воду возят». Я да канца так і не зразумеў, пра каго так кажуць, але мне падабаецца. Таму я рэдка крыўдую.

Я калі даведаўся пра ўзнагароду з прамога эфіру на пачатку кастрычніка, то закрычаў нават так, што калегі падумалі, што нешта адбылося. Для мяне асабіста вельмі прыемна, што я магу прынесьці карысьць цяпер спадарыні Сьвятлане у якасьці нобэлеўскага аташэ. Склалася такая тра-

дыцыя, што швэдзкі МЗС прадстаўляе нобэлеўскаму камітэту дыпляматаў, якія суправаджаюць ляўрэатаў падчас Нобэлеўскага тыдня. Шчыра кажучы я спачатку падумаў, што, можа, ня варта. Але калегі пераканалі, што трэба абавязкова прасіцца на такое заданьне. Цяпер я не шкадую, а для мяне гэта вялікі гонар, што я магу быць карысны для Сьвятланы падчас яе знаходжаньня тут у Швэцыі.

## Расейскі выдавец: «Пройдзе некалькі гадоў, і Сьвятлану будуць успрымаць як прадстаўніка слаўнай традыцыі расейскай літаратуры»

7 сьнежня 2015
Аляксандра Дынько, Стакгольм

Расейскае выдавецтва выдала ўсе кнігі Сьвятланы і штогод запрашала пісьменьніцу прэзэнтаваць іх на сваім стэндзе падчас Менскага кніжнага кірмашу. Да стэнда «Время» ў беларускай сталіцы выстройваліся чэргі ўдзячных чытачоў, а для Алексіевіч гэта была адна з рэдкіх магчымасьцяў сустрэцца зь імі на адкрытай пляцоўцы.

Дый само выдавецтва ў тыя часы, калі беларускія выдаўцы Алексіевіч перавыдаваць не сьпяшаліся, заставалася верным беларускай аўтарцы. «Мы спадзяваліся на гэтую прэмію, і нам пашанцавала», — распавядае цяпер у Стакгольме Барыс Пастэрнак.

**Дынько**: Барыс Натанавіч, як складвалася ваша супрацоўніцтва са Сьвятланай Аляксандраўнай і ці думалі вы, што выдаяце кнігі Нобэлеўскага ляўрэата?

**Пастэрнак**: Мы са Сьветай знаёмыя гадоў 45, людзі столькі не жывуць, як вядома. Разам працавалі ў Менску ў «Сельскай газэце». Яна туды прыйшла ў аддзел «грамадзтва» карэспандэнтам, я быў намесьнікам адказнага сакратара. Маладых людзей там было ня так шмат. А мы былі маладыя і натуральна сябравалі. Пасьля, канечне, разь-

бегліся, але я вельмі добра памятаю Сьвету таго часу. Яна была не па гадах сур’ёзная. Зразумела было, што яе цікавіць, ужо тады. Яна была вельмі ўдумлівая, вельмі настырная. Тэксты, якія яна тады пісала, далёка ня ўсім падабаліся. Многім падавалася, што яны заскладаныя для простай рэспубліканскай газэты, тым больш сельскай. Але жыцьцё паказала, што гэта быў яе шлях і правільна абраны.

Пасьля мы на шмат гадоў разьбегліся, але натуральна падтрымлівалі выпадковыя стасункі, часам сустракаліся. Нашаму выдавецтву цяпер 15 гадоў. А ў 2005 годзе мы сустрэліся на нейкім кірмашы, і я зь велізарным зьдзіўленьнем для сябе даведаўся, што правы на яе творы свабодныя. Яна выходзіла ў некалькіх выдавецтвах і ў Менску, і ў Маскве. Я лічыў, што там трывалыя доўгатэрміновыя стасункі, а яна сказала, што правы свабодныя. Мы, канечне, ахнулі і сказалі, што адразу падпісваем. Асабістага ў гэтым было зусім няшмат. Было выразнае разуменьне таго, што моцны і прызнаны пісьменьнік можа прынесьці нам свае кнігі.

Мне нават няёмка пераказваць гэтую гісторыю чарговы раз, але я яе распавяду. Рэч ў тым, што калі мы падпісалі дамову на ўсе чатыры яе кнігі (пятай яшчэ тады не было), хацелася выдаць іх усе адразу. Але грошай не было, і я вырашыў папрасіць адзін вядомы фонд дапамагчы нам з гэтым. Напісаў ім ліст, і першы абзац быў пра тое, што Сьвятлана Алексіевіч зьяўляецца найбольш верагодным прэтэндэнтам на атрыманьне

Нобэлеўскай прэміі па літаратуры. Гэта быў з аднаго боку нейкі рэклямны ход, але зь іншага боку гэта была праўда.

Я магу патлумачыць, чаму я так напісаў. Многія людзі ў Расеі ўспрымаюць Нобэлеўскую прэмію як нейкі Чэмпіянат сьвету па літаратуры. 25 чалавек спаборнічаюць, хто ў гэтым годзе вызначыўся, то найлепшаму зь іх мэдаль на грудзі. Гэта абсалютна ня так, гэта падманнае ўяўленьне. Трэба разумець, што Нобэлеўская прэмія — гэта найперш міжнароднае прызнаньне. Яе атрымлівае чалавек, які робіць вялікі ўплыў на грамадзкае меркаваньне ў сьвеце. Калі кажуць, што «адзін надзвычай таленавіты пісьменьнік яе не атрымаў, а іншы геніяльны нават не разглядаўся», мяне гэта зьдзіўляе. Адразу зьяўляецца пытаньне, а што ўласна зрабіў гэты чалавек з надзвычайным талентам? Ён напісаў такую колькасьць кніг? Ён сабраў іх неяк? Яны перакладзеныя ва ўсім сьвеце? Яны сталі сьцягам для пэўнай колькасьці людзей? Яны паўплывалі на грамадзкае меркаваньне ці не?

Вось са Сьвятланай гэта ўсё адбылося літаральна зь першай кнігі. На сёньняшні дзень, здаецца, 120 выданьняў ва ўсім сьвеце яе кніг на 20 мовах. Велізарная колькасьць спэктакляў, што важны паказьнік. Яе кнігі дыялягічныя і просяцца на сцэну. Знаходзіцца маса людзей ад школьных тэатраў да прафэсійных, якія іх інсцэнізуюць. Людзі захоплена гэта глядзяць. Гэта такая каштоўная якасьць, якая мала ў каго зь пісьменьнікаў ёсьць.

Мы да яе ставіліся як да вельмі буйнога, выбітнага пісьменьніка, ацэньваючы абсалютна не ступень стылістычных штукарстваў або надзвычайнага мастацкага таленту, а ацэньваючы ступень яе сумленнасьці і шчырасьці і яе здольнасьць уплываць на грамадзкія працэсы ў сьвеце. Усё гэта ў яе ёсьць і, дзякуй богу, захавалася.

Нам пашанцавала, што мы тады падпісалі гэтую дамову. Спадзяюся, што і Сьвятлане пашанцавала з выдаўцом, бо мы ўсё ж вельмі стараліся рабіць нашую працу добра.

Зьвярніце ўвагу, што ў нас выйшаў 5-томнік, і мы адразу зрабілі яго ў падарункавым варыянце. Не мяркуючы, што гэта будзе юбілейнае выданьне, але вельмі прыгожае, з выкарыстаньнем рэдкіх для Расеі тэхналёгій на супэрвокладцы. Мастак Валер Калныньш вельмі пастараўся, калі працаваў над гэтым выданьнем. Гэта прыгожае падарункавае выданьне, якое сёньня дораць як нобэлеўскае. Нам засталося на яго паставіць толькі радок «Нобэлеўская прэмія па літаратуры 2015 году» — і падарунак быў гатовы.

Так, мы чакалі, мы спадзяваліся на гэтую прэмію. Не магу сказаць, што разьлічвалі, ня ўсім шанцуе. А нам пашанцавала.

**Дынько**: Беларускія афіцыйныя ўлады абралі пазыцыю публічнага ігнараваньня і самой нобэлеўскай ляўрэаткі і факту ўручэньня ёй прэміі. У Расеі, як зазначае сама Сьвятлана Алексіевіч, прысуджэньне ёй Нобэлеўскай прэміі выклікала агрэсіўную рэакцыю. Чым вы гэта

можаце патлумачыць і ці не паўплывае гэта на працу вашага выдавецтва?

**Пастэрнак**: Мне здаецца, што тут блытаюцца дзьве рэчы: рэакцыя на яе кнігі і на яе выказваньні. Яна сумленны чалавек, яна найчасьцей не зьмякчае свой пункт гледжаньня, калі яе просяць выказацца. Калі вы пакладзяце перад любым афіцыёзным журналістам ці палітычным дзеячом яе кнігі і спытаеце, «што ў іх вы бачыце такога антырасейскага, беларускага, антыпуцінскага ці антылукашэнкаўскага», то вам нічога ня знойдуць. Гэта кнігі бясспрэчныя ў этычным пляне. Яе кнігі не пра гэта. Яны пра чалавека, сутнасьць чалавека, пра ягоную этыку, а не дачыненьне да канкрэтнай улады ці кіраўніка. Але яна публічны чалавек. І калі ў яе пытаюцца, як вы ставіцеся да пэўных учынкаў ці выказваньняў прэзыдэнта, яна кажа, што думае. І вось тое, што яна думае, гэта шмат каму не падабаецца. Што я магу зрабіць?

Ёсьць людзі, якія абагаўляюць прэзыдэнтаў, якія кажуць пра гэта ўголас. Нядаўна адзін цудоўны расейскі сатырык падарыў свайму прэзыдэнту імпэратарскую карону. Напэўна, гэта адлюстроўвае ягоны пункт гледжаньня на прэзыдэнцкую ўладу. Ад Сьвятланы гэтага чакаць не даводзіцца, яна досыць жорстка выказваецца пра цяперашнюю ўладу, пра палітыку, якая праводзіцца як у Расеі, так і ў Беларусі.

У Беларусі мне вельмі спадабалася рэакцыя што называецца простых людзей. Я бачыў сам, як людзі віншавалі адны адных, абдымаліся,

кветкі дарылі, шампанскае пілі. Гэта здорава. Усе ўспрымаюць гэта як свайго, які стаў чэмпіёнам. Гэта важная кансалідацыя. Урэшце ў Беларусі ня так шмат сапраўдных герояў. Тым больш сярод інтэлектуалаў, хаця спартсмэны яшчэ ёсьць. І тое, што гэта ўспрымаюць як перамогу свайго, мне вельмі падабаецца.

У Расеі, можа, больш расколатае грамадзтва. Можа, яе ўспрымаюць не як сваю. Гэта ёсьць. Шмат хто кажа, што яна беларуска і што з таго, што яна піша па-расейску, яна «русскоязычная» — такое гідкае слова. Канечне, яна расейскі пісьменьнік, пра што размова. Ніхто гэтага ня можа адмяніць. Гэта факт і зьява расейскай літаратуры. Нават неяк недарэчна пра гэта спрачацца, хаця спрэчкі пра гэта ідуць у Расеі. Думаю, што гэта абсалютна наноснае пераходнае. Пройдзе некалькі гадоў, усё гэта сьцішыцца, і яе будуць успрымаць як прадстаўніка і носьбіта слаўнай традыцыі расейскай літаратуры. Абсалютна не сумняваюся.

На маёй памяці ўручэньне прэміі Пастэрнаку. Я памятаю гэта. Памятаю скандал і гістэрыку на гэты конт. Прычым што мяне найбольш зьдзіўляла: некаторыя казалі, што ён нядобры ўчынак зрабіў, што перадаў кнігу, каб апублікаваць за мяжой. Але былі сур'ёзныя людзі, літаратуразнаўцы, якія казалі пра выключную слабасьць яго паэтычнага і празаічнага таленту: «Як маглі за такі слабы твор даць такую годную прэмію». Пасьля роўна тыя самыя словы мы чулі наконт Бродзкага: «Як маглі даць прэмію такому слабому

паэту, які зразумела што нават не ў першым шэрагу, а ў другім расейскай паэзіі, ёсьць нашмат больш годныя паэты, якія вядомыя». Дзе гэтыя людзі, якія гэта казалі? Са Сьветай будзе роўна гэтаксама.

## У сацыяльных сетках запушчаны флэшмоб «Святкуем Нобэля разам»! (#нобельразам!)

7 сьнежня 2015
Іна Студзінская, Менск

*Белтэлерадыёкампанія, тэлеканалы АНТ, СТВ ня будуць трансьляваць ані Нобэлеўскую мэмарыяльную лекцыю, ані ўрачыстую цырымонію ўручэньня Нобэлеўскай прэміі Сьвятлане Алексіевіч. Але альтэрнатыва ёсьць.*

7 сьнежня ў 19.30 па беларускім часе на сайце Нобэлеўскага камітэту пачнецца жывая трансьляцыя са Швэдзкай Акадэміі Нобэлеўскай лекцыі па літаратуры, якую будзе прамаўляць беларуская аўтарка Сьвятлана Алексіевіч.

Як паведамляе афіцыйны сайт Нобэлеўскага камітэту, «лекцыя будзе на расейскай мове і будзе трансьлявацца ў жывым эфіры на Nobelprize.org. Стэнаграма расейскага тэксту, а таксама пераклады на нямецкую, францускую, ангельскую і швэдзкую мовы будуць апублікаваныя на сайце 7 сьнежня. Відэа лекцыі таксама будзе даступнае тут праз некалькі дзён». Пазьней тэксты лекцыяў усіх сёлетніх ляўрэатаў Нобэлеўскі фонд апублікуе ў адмысловым томе.

Акрамя рэтрансьляцыі на сайтах, у Беларусі будуць ладзіцца калектыўныя прагляды лекцыі і цырымоніі з удзелам Святланы Алексіевіч.

У сацыяльных сетках запушчаны флэшмоб «Святкуем Нобеля разам»! (#нобельразам!)

Блогер Антон Матолька зьвярнуўся да кіраўнікоў, адміністратараў папулярных клюбаў, кавярняў з просьбай арганізаваць на вялікіх экранах прагляд Нобэлеўскай лекцыі і ўзнагароджаньня Сьвятланы Алексіевіч:

«Я пісаў уладальнікам, гаспадарам, кіраўнікам установаў, клюбаў з прапановай запусьціць у пэўны час трансьляцыю Нобэлеўскіх урачыстасьцяў, яны адказвалі: „Так, мы згодныя, мы хочам, мы ня супраць“. Практычна ўсе, да каго я зьвяртаўся, казалі, што падключацца. Некалькі чалавек адказалі, што „мы з задавальненьнем, але паспрабуем удакладніць, як гэта зрабіць тэхнічна“. Толькі два чалавекі сказалі, што паспрабуем разабрацца, як гэта магчыма, але пакуль мне не адказалі, не пацьвердзілі канчаткова. Адміністратарка „Атэлье“ нават прапанавала за кошт установы пачаставаць келіхам шампанскага тых, хто прыйдзе паглядзець трансьляцыю. Барам, клюбам гэта выгадна і эканамічна, і яны самі з задавальненьнем паглядзяць. Грамадзтва даўно ўжо гатовае да такіх рэчаў. Тое, што людзі так прыязна рэагавалі і пагаджаліся — гэта таксама паказчык».

## « У Беларусь лёгка адправіць вайсковы атрад і сутыкнуць беларусаў з палякамі»

7 сьнежня 2015
Аляксандра Дынько, Стакгольм

*7 сьнежня нобэлеўская ляўрэатка Сьвятлана Алексіевіч у залі Гарадзкога тэатру Стакгольму адказала на пытаньні міністаркі замежных спраў Швэцыі Маргот Вальстрэм. Ініцыятаркай гэтай падзеі, як патлумачыў раней Радыё Свабода нобэлеўскі аташэ Стэфан Эрыксан, была сама міністарка, якая чытала кнігі Сьвятланы. Квіткі на яе мог купіць кожны ахвотны, заля была запоўненая, а публіка вельмі жыва рэагавала на словы пісьменьніцы.*

*Прапануем вытрымку найбольш яскравых выказваньняў Сьвятланы Алексіевіч падчас гэтай падзеі.*

**Нам цікава, як не вар'яцелі ад таго, што забілі столькі людзей**

Той дакумэнт, якім я займаюся, гэта не пра тое, колькі ваявала, колькі эшалёнаў падарвана. А пра тое, што людзі адчувалі. І калі распавядаюць людзі, яны ня проста нейкія радыёперадатчыкі, яны акторы і творцы. Каб дабіцца як мага большага набліжэньня да рэальнасьці, я распытваю сотні людзей, і ствараецца высокая тэмпэратура расповеду, дзе факт спальваецца....

Я займаюся гісторыяй, якую гісторыя як навука звычайна прапускае... чалавечымі пачуць-

цямі, перажываньнямі. Мне падаецца, што гэта самае галоўнае. Нам ужо сёньня зусім нецікава, якія дзе былі франты, што там адбывалася, а цікава, што адчуваў малады чалавек, які ўпершыню забіў. Як людзі не вар'яцелі ад таго, што столькі забівалі. Нам цікава чалавечае.

Мне адзін наш гісторык сказаў: «Сьвятлана вы падрываеце падставы нашай прафэсіі». А я думаю, што ў нас проста розныя прасторы для працы. Я прыходжу да чалавека і гавару зь ім як зь сябрам.

**Праўда не зьмяшчаецца ў адзін розум**

Я вырасла ў вёсцы, мае бацькі вясковыя настаўнікі. Пасьля вайны ў беларускай вёсцы, дзе мы жылі (гэта радзіма майго бацькі), былі толькі жанчыны, мужчыны загінулі. Кожны чацьверты беларус загінуў. І я нават маленькая памятаю, што на вуліцы было вельмі цікава. Гэтыя старыя жанчыны ўвечары зьбіраліся на лаўках, сядзелі, размаўлялі пра сваіх мужоў, пра вайну, плакалі. У доме было шмат кніг, але слухаць жанчын было цікавей.

Усё жыцьцё я памятаю танальнасьць гэтых расповедаў. Я закончыла факультэт журналістыкі і пасьля доўга шукала сябе. Колькі я езьдзіла, я ўвесь час мела адчуваньне, што з жывымі людзьмі нашмат цікавей размаўляць, гэта быў савецкі час друк быў партыйна-ідэалягічны. Але калі ты начуеш у вёсцы і пачынаеш увечары размаўляць з гаспадыняй, гэта былі ўражвальныя гадзіны Трэба сказаць пра славянскую традыцыю, якая

ёсьць і ў Расеі, і ва Ўкраіне, і ў Беларусі. Распавядаць, плакаць, гаварыць адно з адным — гэта цэлае мастацтва.

Такая традыцыя запісваць існавала яшчэ з часоў Першай сусьветнай вайны. Але гэта былі такія запісы размоваў з параненымі, спробы такой вуснай гісторыі. А пасьля ў Беларусі выйшла кніга Алеся Адамовіча і яшчэ двух пісьменьнікаў, але ідэя была Алеся Адамовіча. Яны запісалі людзей, якія засталіся цудам жывыя, калі немцы палілі вёскі. І калі я прачытала гэтую кнігу, я адразу пачула галасы сваёй вёскі. Было адчуваньне, што вось ён шлях, бо да гэтага мяне вельмі мучыла, што праўда не зьмяшчаецца ў адну сьвядомасьць, адзін розум. А вось з гэтых галасоў адчуваньне, што гэта раман.

Цяпер мне чалавечая размова падабаецца больш, чым кнігі. Шкада, колькі раманаў зьнікае разам зь людзьмі.

### Зь зямлянкі нельга адной выбегчы «па патрэбе», бо згвалцяць

У пакаленьня гэтай кнігі («У вайны не жаночае аблічча» — РС.) было дзьве тэмы, якія яны абыходзілі — Сталін і сэкс. Здавалася б, ужо пачыналася перабудова, мянялася жыцьцё, а ўсё адно Сталін — гэта было нешта, з чым яны не маглі разьвітацца, як са сваёй маладосьцю. Відаць, такіх людзей як яны, што так верылі ў ідэалы рэвалюцыі, ужо больш ніколі не было і ня будзе. Гэта людзі, якія ў 16-17 гадоў уцякалі на фронт. І калі я пытаюся, што вы бралі з сабой, яны казалі

«валізку шакалядных цукерак». Гэта было такое наіўнае, чыстае пакаленьне. Нават сёньня не зразумець. Усё было, і Гулаг праходзіў побач зь іх сьвядомасьцю, але была гэтая вера.

І ўжо разумеюць з узростам, калі жыцьцё памянялася, што іх ідэалы не зусім адпавядалі рэальнасьці, але ім усё адно ня хочацца з гэтым разьвітацца, як ня хочацца разьвітацца, нават калі чалавек разьлюбіў, з вобразам любімага чалавека.

І тэма сэксу — гэта тэма, на якую зь першай размовы ніколі не гаварылі.

«Сьветачка а гэта толькі для цябе, гэта ня трэба пісаць. Але ж ты ведаеш, якія мужчыны, чатыры гады без жанчынаў. Ім было цяжка».

Яны пачыналі распавядаць, як удзень ты гэтага мужчыну цягнеш з бою, з агню, а ўвечары баяліся выбегчы зь зямлянкі па патрэбе, бо калі ты зробіш гэта адна, цябе проста згвалцяць...

Ці сьвядома абіралі аднаго нейкага афіцэра, каб ужо камусьці аднаму належаць. Асабліва трагічны быў лёс у партызанах, дзе ўвогуле ніякага кантролю. Камандзір атраду быў бог. Што хацеў, то і рабіў з жанчынамі. Менавіта вайна агаляла гэтыя стасункі паміж мужчынам і жанчынай. Той узровень стаўленьня да жанчын, які быў у той час.

Але ім усё адно так не хацелася пра гэта гаварыць, і яны болей хацелі гаварыць, калі атрымлівалася сапраўднае каханьне. Гэта ўжо існавала цэлая міталёгія.

## Пасьля вайны атрымалася, што мужчыны — героі, а жанчыны — прастытуткі

Пасьля вайны жанчыны кажуць, што ім было страшней, чым на вайне. Яны кажуць: мы думалі, што мы таксама як мужчыны, героі, мы выратавалі краіну. А грамадзтва патрыярхальнае, яно тут жа падзяліла: мужчыны — героі, а вы самае ганебнае слова — прастытуткі. Пасьля вайны мужчын было мала, і пачалася вайна за мужчын, паляваньне. І канечне жанчыны, якія чатыры гады былі на вайне, развучыліся насіць туфлі, сукенкі, не былі такія лёгкія, усьмешлівыя, бо яны бачылі шмат чаго страшнага...

Ёсьць час парываў, калі людзі апынаюцца вышэйшыя за саміх сябе. І ёсьць проста жыцьцё, больш грубае, больш рэальнае. У гэтым жыцьці аніякія гераіні былі не патрэбныя. Ад адной жанчыны, гераіні з ордэнамі, знакамітай, якая ажанілася з мужам на вайне, пасьля вайны муж сышоў і сказаў: «Пайду шукаць нармальную жанчыну, каб ад яе не сьмярдзела ботамі».

Гэтым жанчынам зрадзілі і дзяржава, і мужчыны.

## Сучасны пісьменьнік ня можа казаць, што забіваць — гэта добра

Ёсьць такі конкурс «Большая книга» ў Расеі. Я таксама была там сярод прэтэндэнтаў. Там быў такі пісьменьнік Прылепін (Захар Прылепін — РС.). Першае, што ён стаў казаць, гэта як ваююць расейскія людзі ў Данбасе, якія яны героі. У нас на публіцы была размова, і я яму сказала, што

сучасны пісьменьнік ня можа казаць, што забіваць — гэта добра.

Я бачыла вайну ў Афганістане, калі езьдзіла і пісала кнігу, размаўляла ў Кіеве з уцекачамі з Данбасу. Чалавек ня можа любіць вайну. Мы цяпер жывем у такім часе, што можна сказаць, што мы зноў уступілі ў эпоху барбарства. Зноў эпоха сілы пачалася. У нас немагчыма ўключыць тэлевізар. Вельмі шмат расейскіх каналаў ідзе ў Беларусі, дзе я жыву, і там увесь час дыктар у захапленьні — новы расейскі самалёт, новая расейская падводная лодка.

Нядаўна я сяджу ў чарзе да зубнога доктара і чую, як мужчыны размаўляюць адзін з адным: «Ты разумееш, якая зброя цяпер у расейцаў, за 1500 км у Сырыі кагосьці забілі». Гэта такое захапленьне... Побач сядзелі мужчыны, і было відаць, што ім падабаецца гэтая размова, падабаецца, што гэтая моцная зброя ў расейцаў. Але я ня бачыла ніводнай жанчыны ў чарзе, якой бы гэта падабалася.

Мне падаецца, што мужчыны — закладнікі культуры вайны. Уся культура вайны робіцца мужчынамі і для мужчынаў.

Яны неяк навязваюць нам гэтае мысьленьне. А для мяне гэта барбарства.

Забіваць трэба ідэі, а не людзей.

## Разьвязаць грамадзянскую вайну на нашай тэрыторыі вельмі проста

Сучасная рэальнасьць прапаноўвае нам новыя формы вайны. Мы ў руках шалёных фанатыкаў-

адзіночак. Мне падаецца, усё адно трэба гаварыць пра каштоўнасьць чалавечага жыцьця.

Сучасны чалавек ня хоча паміраць.

Калі я была ва Ўкраіне і бясконца пыталася, хто ваюе, хто ідзе ваяваць, я чула, што людзі ішлі ваяваць з-за грошай. Заўжды знойдуцца людзі з крымінальнай сьвядомасьцю... У Расеі ў асноўным такія людзі там ваявалі. Канечне, там грамадзянская вайна, якую разьвязала Расея, а разьвязаць грамадзянскую вайну на нашай тэрыторыі вельмі проста.

Нават у Беларусь можна адправіць вайсковы атрад, як гэта было зроблена на Данбасе, і сутыкнуць палякаў зь беларусамі. Гэта лёгка зрабіць.

**Ка́ты і ахвяры перамяшаліся**

Ёсьць знакамітая спрэчка ў расейскай літаратуры паміж Салжаніцыным і Шаламавым. Абодва яны праседзелі ў сталінскіх лягерах... Ідэя Салжаніцына была, што лягер робіць чалавека моцным, ачышчае. А Шаламаў казаў, што лягер разбэшчвае і ка́та і ахвяру. Пасьля таго, як упала імпэрыя, мы бачым, што ка́ты і ахвяры перамяшаліся. У іх ва ўсіх досьвед разбэшчанасьці. Што такое дабро, што такое зло — ужо людзі не адрозьніваюць.

...Зло рассыпана па сьвеце, яно ў жыцьці кожнага з нас. Кожнаму трэба рабіць выбар і кожны робіць яго сам-насам. Вось тут літаратура можа дапамагчы.

## Уступнае слова Сары Даніюс да Нобэлеўскай лекцыі: Алексіевіч — дасьледніца катастрофаў і пачуцьцяў

7 сьнежня 2015

*Уступнае слова да Нобэлеўскай лекцыі Сьвятланы Алексіевіч у Біржавой залі Швэдзкай акадэміі 7 сьнежня 2015 году прамовіла сталая сакратарка Акадэміі Сара Даніюс. Пераклад Сяргея Шупы.*

Паважанае спадарства! Сардэчна вітаем у Швэдзкай акадэміі!

Гэта было ўжо два месяцы таму, на пачатку кастрычніка, менавіта тут, у Біржавой залі. Вялікая чарада журналістаў сабралася перад першай гадзінай папаўдні, каб даведацца, хто атрымае прэмію. Я адчыніла дзьверы, узышла на подыюм і нейкую хвіліну стаяла моўчкі. А тады я пачала гаварыць. І калі я прамовіла слова «беларуская», заля выбухнула радасьцю.

Зразумела, усе хацелі даведацца болей пра сёлетнюю ляўрэатку Нобэлеўскай прэміі ў літаратуры, Сьвятлану Алексіевіч. Дзе яна нарадзілася? Дзе яна вырасла? Што яна такога напісала? З чаго было пачаць? Ці яна сапраўды журналістка, і калі так — то якой, можа, нейкага новага тыпу? Ці можа яна прадстаўляе новы тып літаратуры факту? Я хадзіла ад аднаго журналіста да другога, трыццаць сэкундаў тут, тры хвіліны там, і прыблізна праз тры гадзіны імпрэза скончылася.

Тым часам я не пераставала думаць пра вялікія пытаньні, якія памалу зьбіраліся за маленькімі. Ніхто ў мяне пра іх не спытаўся. Вялікія пытаньні датычаць Чырвонага чалавека, узьлёту і падзеньня савецкага чалавека. А за гэтымі пытаньнямі ўзьнікалі яшчэ большыя. Чаму нас наагул павінна хваляваць гісторыя пра ўзьлёт і падзеньне Чырвонага чалавека? Бо ж ягоная імпэрыя зьнікла. Вялікі экспэрымэнт, даўжынёю ў сем дзесяцігодзьдзяў, быў пахаваны. А Чырвонага чалавека паступова пачаў замяняць іншы чалавек, чыё імя мы яшчэ й ня ведаем. Ці нам яго не хапае? Або хутчэй: чаму ён мусіць нас хваляваць?

Алексіевіч паставіла перад сабой задачу кантактаваць зь людзьмі. Кантактаваць, каб пачуць, што яны маюць ёй расказаць, і яна хоча гэта зрабіць, пакуль яшчэ ня позна. Апрача таго тут заўсёды гаворка ішла пра людзей, пра якіх гісторыя наагул не даведалася б, калі б яны выпадкова ня трапіліся Алексіевіч, калі б ня сталася так, што яна вырашыла напісаць пра гісторыю жанчын у Другой сусьветнай вайне, пра ўсіх тых жанчын, цэлы мільён, якія добраахвотна пайшлі на вайну. Што мы пра іх ведалі? — І калі я скажу вам, што два мільёны расейскамоўных купілі гэтую кнігу, вы можаце быць упэўненыя, што нават там людзі асабліва ня ведалі пра гэтых савецкіх удзельніц вайны. У вайну яны былі санінструктаркамі, снайпэркамі, артылерысткамі, зэнітчыцамі, сапёркамі, лётчыцамі... Цяпер яны былі фінансісткі, лябараторныя асыстэнткі, экскурсаводкі, настаўніцы... Афіцыйная вэрсія Другой сусьветнай

вайны была такой, якою хацеў яе бачыць савецкі чалавек. Алексіевіч паказала, як яно сапраўды было. І гэта бывае цяжка ўспрымаць.

А што мы ведалі пра дзяцей усіх тых дарослых, мужчын і жанчын, якія пайшлі на вайну? Або пра ўсё тое мноства салдатаў, якія выправіліся на дзесяцігадовую вайну з Афганістанам? Або пра ўсіх тых, хто вярнуўся ў Чарнобыль празь дзесяць гадоў пасьля катастрофы, часта ва ўмовах сьмяротнай небясьпекі, каб жыць далей? Або пра ўсіх тых людзей, усіх тых homo sovieticus’аў, якіх выкінула на бераг, калі скончыўся Савецкі Саюз, пра адных напачатку разгубленых, другіх напалоханых, іншых настроеных скептычна. Некаторыя зь іх надалей вераць у homo sovieticus’а, іншыя ўжо даўно перасталі.

Мы маем перад сабой падсумаваньне тых катастрофаў, якія наклалі адбітак на жыцьцё Чырвонага чалавека, ад рэвалюцыі 1917 году да каляпсу савецкага камунізму.

Творчасьць Алексіевіч трэба разглядаць з падвойнай пэрспэктывы. З аднаго боку, яна хацела сказаць нешта пра Чырвонага чалавека, пра ўвесь той досьвед, які зрабіў яго такім, якім ён ёсьць. З другога боку, яна хацела пачакаць, пакуль пачне выяўляцца сапраўдны чалавечы досьвед, не закрануты штампамі і перакручанымі вэрсіямі гісторыі. Недзе тут мы пачынаем набліжацца да ключавога моманту.

Ёй патрэбныя катастрофы, ёй таксама патрэбныя эмоцыі. Калі б катастрофы былі толькі інструмэнтам, ёй хапіла б адной, гэтага было б

дастаткова. І калі б пачуцьці, якія яна вышуквала, былі банальныя, дык і тут было б дастаткова адной кнігі. Катастрофа паказвае шлях, як і пачуцьцё, хоць кожны раз у іншым кірунку.

Я задумваюся над кнігай «У вайны не жаночае аблічча». У яе вялікая перавага: яна разглядае гістарычны досьвед, перажыты ўжо ў далёкім ад нас часе, і таму нам здаецца, што мы ведаем пра яго шмат. Але ўжо толькі пачаўшы чытаць гэтую кнігу, пачынаеш разумець, што тут цябе чакае нешта новае. Па-першае, што цэлы мільён жанчын добраахвотна пайшлі на вайну, якая звалася Вялікай айчыннай. Па-другое, што гэты жаночы ўдзел прычыніўся да зьмены ва ўспрыманьні вайны. І па-трэцяе, што гэтыя ўдзельніцы і іх досьвед пасьля былі прыніжаныя: мужчынаў усхвалялі як герояў, а жанчынам не засталося нічога. Іх не ўспрымалі сур'ёзна. Пасьля вайны лічылася, што яны былі курвамі і ставіліся да іх адпаведна.

Калі зьявілася Алексіевіч — тады ад канца вайны мінула гадоў трыццаць пяць — калі зьявілася Алексіевіч і захацела даведацца, як усё ўласна кажучы было, яна сустракала часам павагу, часам недавер. Але патрабавалася яшчэ шмат гадзін адданай працы. Яна слухала адзін раз, два, тры, часта і болей — пакуль нарэшце не прыходзіў той чароўны момант, калі чалавек раскрываў завесы таямніцы і расказваў, што адчуваеш, калі першы раз забіваеш чалавека, калі бачыш, як твой сябар падае, прабіты варожай куляй, калі ходзіш у ботах на шмат памераў

большых і цягаеш на сабе параненыя целы, калі пры гэтым сочыш за фрызурай, завіваеш валасы, калі страляеш трапней за мужчын... Усе гэта, што засталося далёка ў мінулым часе, Алексіевіч падае нам у голым і пры гэтым шматгалосым апісаньні.

Хто б мог гэта зрабіць? Алексіевіч аддала сваёй творчасьці амаль сорак гадоў. Яна сама называе сваіх папярэднікаў. Гэта і вялікі беларускі пісьменьнік Алесь Адамовіч (1927-1994), які разам з калегамі апісаў Ленінград часоў блякады падчас Другой сусьветнай вайны, блякады, якая для кашмарнага мноства людзей скончылася галоднай сьмерцю — голад быў спрычынены ворагам. Гэта і мэдсястра-пісьменьніца Соф'я Фядорчанка, якая шмат гадоў раней, падчас Першай сусьветнай вайны, апынулася на фронце і апісала тое, што казалі адно аднаму расейскія салдаты, калі думалі, што іх ніхто ня чуе — яны ня ведалі, што за сьпінай у іх мэдсястра, безыменная і занятая сваімі справамі, насамрэч сядзіць, слухае і запісвае тое, што ёй удаецца пачуць. Так што, вядома, папярэднікі былі. Калі трошкі пашырыць пэрспэктыву, мы заўважым і такіх гісторыкаў, як амэрыканец Стадс Тэркел, які памёр 96-гадовым усяго некалькі гадоў таму і які лічыцца адным з пачынальнікаў таго, што мы цяпер называем oral history, вусная гісторыя.

Алексіевіч сама ставіцца да Адамовіча з глыбокай павагай і неаднойчы адзначала ягоную важнасьць для яе праекту. Але яна — і я падазраю, што яна сама не пагодзіцца з гэтым — зрабіла

некалькі крокаў далей. Яна хоча размаўляць зь людзьмі, і я ўкладваю ў гэтыя словы самы глыбокі і шырокі сэнс. Яна любіць слова жывых людзей, усё тое, што зьнікае, калі таго суразмоўцы ўжо больш няма. Яна ня хоча мець справы з фатаграфіямі, дзёньнікамі, лістамі, газэтамі, месцамі. Яна хоча мець справы толькі з словам чалавека, і таму яна вяртаецца. І ня толькі гэта: яна адкідае ўсё лішняе і пакідае толькі ядро, сарцавіну. Яна нічога не дадае. Яна аднімае. Мы даведваемся, як чалавека завуць, колькі яму гадоў, чым ён займаецца — але апрача гэтага больш амаль нічога. І так мы ўрэшце маем перад сабой харавы твор, дзе паасобныя галасы злучаны паміж сабою. Вось у чым найбольшае дасягненьне Алексіевіч.

Але перад пісьменьнікам застаецца вялікае пытаньне гістарычнага досьведу чалавека. Чаму нас гэта павінна хваляваць? Алексіевіч дасьледавала адну катастрофу за другой. Яна ацаніла Другую сусьветную вайну з пэрспэктывы жанчын, якія ў ёй удзельнічалі. Яна дасьледавала, як вайну ў Афганістане перажылі мужчыны і іхныя маці. Яна напісала пра жахлівую Чарнобыльскую катастрофу і як яна паўплывала на тых, хто вярнуўся ў Зону празь дзесяць гадоў. І яна прасачыла за ўсімі тымі людзьмі, якія, так або іначай, перажылі падзеньне савецкага камунізму. Усё гэта — гістарычныя катастрофы. Ніводзін чалавек не застаецца пасьля іх цэлы і здаровы, нічога больш ня будзе такім, як было раней.

Чаму нам гэта трэба? Таму, што Алексіевіч расказвае нешта пра нас саміх, пра людзей, якімі

мы, магчыма, ёсьць або маглі б быць, пра нас — людзей, якія стаяць на краі гісторыі. Яна расказвае пра гісторыю пачуцьця, якое ўшчыльняецца ў выніку адной катастрофы за другой, пра цэлы рэгістар пачуцьцяў чалавека, які пакутуе, і асабліва пра любоў, пра роспачную любоў да тых, хто некалі быў побач з намі, да дзяцей, якіх мы страцілі, да мужа ці жонкі, да бацькоў, пра параненую любоў да ўсіх людзей, якіх больш з намі няма.

Яна расказвае таксама пра іншую любоў, пра роспачную любоў да радзімы, любоў, якую мы, магчыма, хацелі б успрымаць як дар зь іншых часоў, але якая, магчыма, зусім ня ёсьць гэтым, пра пачуцьцё, якое больш, чым нешта іншае, кажа нам нешта пра патрабаваньне радзімы да нас: не пытайся, што краіна можа патрабаваць ад цябе, пытайся, што ты можаш зрабіць для сваёй краіны. І менавіта тут, у параненай любові да радзімы, Алексіевіч таксама знаходзіць сваіх сучасьнікаў, усіх тых людзей, якія так доўга жылі ў спадзяваньні на іншую, лепшую краіну.

## Сятлана Алексіевіч. Нобэлеўская лекцыя

7 сьнежня 2015

*Сьвятлана Алексіевіч выступіла з Нобэлеўскай лекцыяй па літаратуры ў Швэдзкай Акадэміі. Пераклад Сяргея Шупы.*

Я стаю на гэтай трыбуне не адна... Вакол мяне галасы, сотні галасоў, яны заўсёды са мной. З майго дзяцінства. Я жыла ў вёсцы. Мы, дзеці, любілі гуляць на вуліцы, але ўвечары нас, як магнітам, цягнула да лавак, на якіх зьбіраліся каля сваіх дамоў або хат, як кажуць у нас, стомленыя бабы. Ні ў кога з іх не было мужоў, бацькоў, братоў, я ня памятаю мужчын пасьля вайны ў нашай вёсцы — падчас Другой сусьветнай вайны ў Беларусі на фронце і ў партызанах загінуў кожны чацьвёрты беларус. Наш дзіцячы сьвет пасьля вайны — гэта быў сьвет жанчын. Больш за ўсё мне запомнілася, што жанчыны гаварылі не пра сьмерць, а пра каханьне. Распавядалі, як разьвіталіся ў апошні дзень з каханымі, як чакалі іх, як дагэтуль чакаюць. Ужо гады прайшлі, а яны чакалі: «хай бяз рук, бяз ног вернецца, я яго на руках насіць буду». Бяз рук... бяз ног... Здаецца, я зь дзяцінства ведала, што такое каханьне... Вось толькі некалькі сумных мэлёдый з хору, які я чую...

Першы голас:

«Нашто табе гэта ведаць? Гэта так сумна. Я свайго мужа на вайне сустрэла. Была танкісткай. Да Бэрліну дайшла. Памятаю, як стаім, ён яшчэ мне ня муж тады быў, каля райхстагу, і ён мне кажа: „Давай пажэнімся. Я цябе кахаю“. А мяне такая крыўда ўзяла пасьля гэтых слоў — мы ўсю вайну ў гразі, у пыле, у крыві, вакол адзін мат. Я яму адказваю: „Ты спачатку зрабі з мяне жанчыну: дары кветкі, кажы ласкавыя словы, вось я дэмабілізуюся і сукенку сабе пашыю“. Мне нават ударыць хацелася яго ад крыўды. Ён гэта ўсё адчуў, а ў яго адна шчака была абпаленая, у рубцах, і я бачу на гэтых рубцах сьлёзы. „Добра, я выйду за цябе замуж“. Сказала так... сама не паверыла, што гэта сказала... Вакол сажа, бітая цэгла, адным словам, вайна вакол... »

Другі голас:

«Жылі мы каля Чарнобыльскай атамнай станцыі. Я працавала кандытарам, піражкі ляпіла. А мой муж быў пажарнікам. Мы толькі пажаніліся, хадзілі нават у краму, узяўшыся за рукі. У дзень, калі выбухнуў рэактар, муж якраз дзяжурыў у пажарнай частцы. Яны паехалі на выклік у сваіх кашулях, хатняй вопратцы, выбух на атамнай станцыі, а ім ніякага спэцадзеньня ня выдалі. Так мы жылі... Вы ведаеце... Усю ноч яны тушылі пажар і атрымалі радыядозы, несумяшчальныя з жыцьцём. Раніцай іх на самалёце адразу павезьлі ў Маскву. Вострая прамянёвая хвароба... чалавек жыве ўсяго некалькі тыдняў... Мой моцны быў, спартовец, памёр апошні. Калі я прыехала, мне

сказалі, што ён ляжыць у спэцыяльным боксе, туды нікога не пускаюць. „Я яго кахаю“, — прасіла я. — „Іх там салдаты абслугоўваюць. Куды ты?“ — „Кахаю“. — Мяне ўгаворвалі: „Гэта ўжо не каханы чалавек, а аб’ект, які падлягае дэзактывацыі. Разумееш?“ А я адно сабе паўтарала: кахаю, кахаю... Ноччу па пажарнай лесьвіцы падымалася да яго... Або ноччу вахцёраў прасіла, грошы ім плаціла, каб мяне прапускалі... Я яго не пакінула, да канца была зь ім... Пасьля яго сьмерці... празь некалькі месяцаў нарадзіла дзяўчынку, яна пражыла ўсяго некалькі дзён. Яна... Мы яе так чакалі, а я яе забіла... яна мяне выратавала, увесь радыяўдар яна прыняла на сябе. Такая маленькая... Крахатулечка... Але я любіла іх дваіх. Хіба можна забіць любоўю? Чаму гэта побач — каханьне і сьмерць? Заўсёды яны разам. Хто мне растлумачыць? Поўзаю ля магілы на каленках...»

Трэці голас:

«Як я першы раз забіў немца... Мне было дзесяць гадоў, партызаны ўжо бралі мяне з сабой на заданьні. Гэты немец ляжаў паранены... Мне сказалі забраць у яго пісталет, я падбег, а немец ўчапіўся ў пісталет дзьвюма рукамі і водзіць перад маім тварам. Але ён не пасьпявае першы стрэліць, пасьпяваю я...

Я не спалохаўся, што забіў... І ў вайну яго не ўспамінаў. Вакол было шмат забітых, мы жылі сярод забітых. Я зьдзівіўся, калі праз шмат гадоў, раптам зьявіўся сон пра гэтага немца. Гэта было нечакана... Сон прыходзіў і прыходзіў да мяне... То я лячу, і ён мяне не пускае. Вось пады-

маесься... Ляціш... ляціш... Ён даганяе, і я падаю разам зь ім. Правальваюся ў нейкую яму. То я хачу ўстаць... падняцца... А ён не дае... З-за яго я не магу паляцець...

Той самы сон... Ён мучыў мяне дзясяткі гадоў...

Я не магу свайму сыну расказаць пра гэты сон. Сын быў маленькі — я ня мог, чытаў яму казкі. Сын ужо вырас — усё роўна не магу... »

Флябэр казаў пра сябе, што ён чалавек-пяро, я магу сказаць пра сябе, што я чалавек-вуха. Калі я іду па вуліцы і да мяне прарываюцца нейкія словы, фразы, воклічы, заўсёды думаю: колькі ж раманаў бясьсьледна зьнікаюць у часе. У цемры. Ёсьць тая частка чалавечага жыцьця — размоўная, якую нам не ўдаецца адваяваць для літаратуры. Мы яе яшчэ не ацанілі, ня зьдзіўленыя і не захопленыя ёю. А мяне яна завараЖыла і зрабіла сваёй палоннай. Я люблю, як гаворыць чалавек... Люблю адзінокі чалавечы голас. Гэта мая самая вялікая любоў і жарсьць.

Мой шлях на гэтую трыбуну быў даўжынёю амаль сорак гадоў — ад чалавека да чалавека, ад голасу да голасу. Не магу сказаць, што ён заўсёды быў мне пад сілу, гэты шлях — шмат разоў я была ўзрушаная і напалоханая чалавекам, адчувала захапленьне і агіду, хацелася забыць тое, што я пачула, вярнуцца ў той час, калі была яшчэ ў няведаньні. Плакаць ад радасьці, што я ўбачыла чалавека цудоўным, я таксама ня раз хацела.

Я жыла ў краіне, дзе нас зь дзяцінства вучылі паміраць. Вучылі сьмерці. Нам казалі, што ча-

лавек існуе, каб аддаць сябе, каб згарэць, каб ахвяраваць сабой. Вучылі любіць чалавека са стрэльбай. Калі б я вырасла ў іншай краіне, то я б не змагла прайсьці гэты шлях. Зло бязьлітаснае, ад яго трэба мець прышчэпку. Але мы вырасьлі сярод катаў і ахвяраў. Хай нашы бацькі жылі ў страху і ня ўсе нам расказвалі, а часьцей нічога не расказвалі, але само паветра нашага жыцьця было атручана гэтым. Зло ўвесь час падглядвала за намі.

Я напісала пяць кніг, але мне здаецца, што ўсё гэта адна кніга. Кніга пра гісторыю адной утопіі...

Варлам Шаламаў пісаў: «Я быў удзельнікам велізарнай прайгранай бітвы за сапраўднае абнаўленьне чалавецтва». Я аднаўляю гісторыю гэтай бітвы, яе перамог і яе паразы. Як хацелі пабудаваць Царства Нябеснае на зямлі. Рай! Горад сонца! А скончылася тым, што засталося мора крыві, мільёны загубленых чалавечых жыцьцяў. Але быў час, калі ніводная палітычная ідэя XX стагодзьдзя не была параўнальная з камунізмам (і з Кастрычніцкай рэвалюцыяй, як яе сымбалем), не прыцягвала заходніх інтэлектуалаў і людзей ва ўсім сьвеце мацней і ярчэй. Раймон Арон называў расейскую рэвалюцыю «опіюмам для інтэлектуалаў». Ідэі аб камунізьме як найменей дзьве тысячы гадоў. Мы знойдзем яе ў Плятона — у вучэньнях аб ідэальнай і правільнай дзяржаве, у Арыстафана — у марах пра час, калі «ўсё стане агульным»... У Томаса Мора і Тамаза Кампанэла... Пазьней у Сэн-Сімона, Фур'е і Оўэна. Нешта ёсьць

ў расейскім духу такое, што прымусіла паспрабаваць зрабіць гэтыя мары рэальнасьцю.

Дваццаць гадоў таму мы правялі «чырвоную» імпэрыю з праклёнамі і са сьлязьмі. Сёньня ўжо можам паглядзець на нядаўнюю гісторыю спакойна, як на гістарычны досьвед. Гэта важна, таму што спрэчкі пра сацыялізм не сунімаюцца дагэтуль. Вырасла новае пакаленьне, у якога іншая карціна сьвету, але нямала маладых людзей зноў чытаюць Маркса і Леніна. У расейскіх гарадах адкрываюць музэі Сталіна, ставяць яму помнікі.

«Чырвонай» імпэрыі няма, а «чырвоны» чалавек застаўся. Працягваецца.

Мой бацька, ён нядаўна памёр, да канца быў верным камуністам. Захоўваў свой партыйны білет. Я ніколі не магу вымавіць слова «савок», тады мне давялося б так назваць свайго бацьку, «родных», знаёмых людзей. Сяброў. Яны ўсе адтуль — з сацыялізму. Сярод іх шмат ідэалістаў. Рамантыкаў. Сёньня іх называюць па-іншаму — рамантыкі рабства. Рабы ўтопіі. Я думаю, што ўсе яны маглі б пражыць іншае жыцьцё, але пражылі савецкае. Чаму? Адказ на гэтае пытаньне я доўга шукала — абʼезьдзіла велізарную краіну, якая нядаўна звалася СССР, запісала тысячы стужак. То быў сацыялізм і было проста наша жыцьцё. Па макулінках, па драбочках я зьбірала гісторыю «хатняга», «унутранага» сацыялізму. Тое, як ён жыў у чалавечай душы. Мяне прыцягвала вось гэтая маленькая прастора — чалавек... адзін чалавек. Насамрэч там усё і адбываецца.

Адразу пасьля вайны Тэадор Адорна быў узрушаны: «Пісаць вершы пасьля Асьвенціма — гэта барбарства». Мой настаўнік Алесь Адамовіч, чыё імя хачу назваць сёньня з удзячнасьцю, таксама лічыў, што пісаць прозу пра кашмары XX стагодзьдзя — блюзьнерства. Тут нельга выдумляць. Праўду трэба даваць, як яна ёсьць. Патрабуецца «звышлітаратура». Гаварыць павінен сьведка. Можна ўспомніць і Ніцшэ зь яго словамі, што ніводзін мастак ня вытрымае рэальнасьці. Не падніме яе.

Заўсёды мяне мучыла, што праўда не ўмяшчаецца ў адно сэрца, у адзін розум. Што яна нейкая раздробленая, яе шмат, яна розная, і рассыпаная ў сьвеце. У Дастаеўскага ёсьць думка, што чалавецтва ведае пра сябе больш, значна больш, чым яно пасьпела зафіксаваць у літаратуры. Што раблю я? Я зьбіраю штодзённасьць пачуцьцяў, думак, словаў. Зьбіраю жыцьцё свайго часу. Мяне цікавіць гісторыя душы. Побыт душы. Тое, што вялікая гісторыя звычайна прапускае, да чаго ставіцца з пагардай. Займаюся прапушчанай гісторыяй. Ня раз чула і цяпер чую, што гэта не літаратура, гэта дакумэнт. А што такое літаратура сёньня? Хто адкажа на гэтае пытаньне? Мы жывем хутчэй, чым раней. Зьмест рве форму. Ломіць і зьмяняе яе. Усё выходзіць з сваіх берагоў: і музыка, і жывапіс, і ў дакумэнце слова вырываецца за межы дакумэнту. Няма межаў паміж фактам і выдумкай, адно перацякае ў другое. Нават сьведка не бесстароньні. Распавядаючы, чалавек творыць,

ён змагаецца з часам, як скульптар з мармурам. Ён — актор і творца.

Мяне цікавіць маленькі чалавек. Маленькі вялікі чалавек, так я б сказала, таму што пакуты яго павялічваюць. Ён сам у маіх кнігах распавядае сваю маленькую гісторыю, а разам са сваёй гісторыяй і вялікую. Што адбылося і адбываецца з намі, яшчэ не асэнсавана, трэба вымавіць. Для пачатку хаця б вымавіць. Мы гэтага баімся, пакуль ня ў стане справіцца са сваім мінулым. У Дастаеўскага ў «Бесах» Шатаў кажа Стаўрогіну перад пачаткам гутаркі: «Мы дзьве істоты сышліся ў бязьмежнасьці... апошні раз у сьвеце. Пакіньце ваш тон і вазьміце чалавечы! Загаварыце хоць раз голасам чалавечым».

Прыблізна так пачынаюцца ў мяне размовы з маімі героямі. Вядома, чалавек кажа з свайго часу, ён ня можа гаварыць зь ніадкуль! Але прабіцца да чалавечай душы цяжка, яна засьмечаная забабонамі стагодзьдзя, яго прыхільнасьцямі і падманамі. Тэлевізарам і газэтамі.

Мне хацелася б узяць некалькі старонак з сваіх дзёньнікаў, каб паказаць, як рухаўся час... як памірала ідэя... Як я ішла па яе сьлядах...

1980 — 1985 гг.

Пішу кнігу пра вайну... Чаму пра вайну? Таму што мы ваенныя людзі — мы або ваявалі, або рыхтаваліся да вайны. Калі прыгледзецца, то мы ўсе думаем па-ваеннаму. Дома, на вуліцы. Таму ў нас так танна каштуе чалавечае жыцьцё. Усё, як на вайне.

Пачынала з сумневаў. Ну, яшчэ адна кніга пра вайну... Навошта?

У адной з журналісцкіх паездак я сустрэлася з жанчынай, яна была на вайне санінструктарам. Расказала: ішлі яны ўзімку праз Ладажскае возера, праціўнік заўважыў рух і пачаў абстрэльваць. Коні, людзі сыходзілі пад лёд. Адбывалася ўсё ноччу, і яна, як ёй здалося, схапіла і пачала цягнуць да берага параненага. «Валаку яго мокрага, голага, думала, вопратку сарвала, — расказвала. — А на беразе выявіла, што прыцягнула велізарную параненую бялугу. І загнула такім трохпавярховым матам — людзі пакутуюць, а зьвяры, птушкі, рыбы — за што? У іншай паездцы я пачула апавяданьне санінструктара кавалерыйскага эскадрону, як падчас бою прыцягнула яна ў варонку параненага немца, але што гэта немец, яна выявіла ўжо ў варонцы, нага ў яго перабіта, сьцякае крывёй. Гэта ж вораг! Што рабіць? Там наверсе свае хлопцы гінуць! Але яна перавязвае гэтага немца і паўзе далей. Прыцягвае рускага салдата, ён непрытомны, калі ачуньвае, хоча забіць немца, а той, калі прыходзіць у прытомнасьць, хапаецца за аўтамат і хоча забіць рускага. «То аднаму па мордзе дам, то другому. Ногі ў нас, — успамінала, — усё ў крыві. Кроў перамяшалася».

Гэта была вайна, якую я ня ведала. Жаночая вайна. Не пра герояў. Не пра тое, як адны людзі гераічна забівалі іншых людзей. Запомнілася жаночае галашэньне: «Ідзеш пасьля бою па полі. А яны ляжаць... Усе маладыя, такія прыгожыя.

Ляжаць і ў неба глядзяць. І адных, і другіх шкада». Вось гэта «і адных, і другіх» падказала мне, пра што будзе мая кніга. Пра тое, што вайна — гэта забойства. Так гэта засталося ў жаночай памяці. Толькі што чалавек усьміхаўся, курыў — і ўжо яго няма. Больш за ўсё жанчыны кажуць пра зьнікненьне, пра тое, як хутка на вайне ўсе ператвараецца ў нішто. І чалавек, і чалавечы час. Так, яны самі прасіліся на фронт, у 17-18 гадоў, але забіваць не хацелі. А памерці былі гатовыя. Памерці за Радзіму. З гісторыі словаў ня выкінеш — за Сталіна таксама.

Кнігу два гады не друкавалі, яе не друкавалі да перабудовы. Да Гарбачова. «Пасьля вашай кнігі ніхто ня пойдзе ваяваць, — вучыў мяне цэнзар. — Ваша вайна страшная. Чаму ў вас няма герояў?» Герояў я не шукала. Я пісала гісторыю праз расказ нікім не заўважанага яе сьведкі і ўдзельніка. Яго ніхто ніколі не распытваў. Што думаюць людзі, проста людзі пра вялікія ідэі — мы ня ведаем. Адразу пасьля вайны чалавек расказаў бы адну вайну, празь дзясяткі гадоў іншую, вядома, у яго нешта мяняецца, таму што ён складае ва ўспаміны ўсё сваё жыцьцё. Усяго сябе. Тое, як ён жыў гэтыя гады, што чытаў, бачыў, каго сустрэў. У што верыць. Нарэшце, шчасьлівы ён або не шчасьлівы. Дакумэнты — жывыя істоты, яны зьмяняюцца разам з намі...

Але я абсалютна ўпэўненая, што такіх дзяўчатак, як ваенныя дзяўчаткі 41-га году, больш ніколі ня будзе. Гэта быў самы высокі час «чырвонай» ідэі, нават вышэйшы, чым рэвалюцыя і Ленін. Іх

Перамога дагэтуль засланяе сабой ГУЛАГ. Я бясконца люблю гэтых дзяўчатак. Але зь імі нельга было пагаварыць пра Сталіна, пра тое, як пасьля вайны цягнікі зь пераможцамі ішлі ў Сібір, з тымі, хто быў сьмялейшы. Астатнія вярнуліся і маўчалі. Аднойчы я пачула: «Свабоднымі мы былі толькі ў вайну. На перадавой». Наш галоўны капітал — пакута. Ня нафта, ня газ — пакута. Гэта адзінае, што мы ўвесь час здабываем. Увесь час шукаю адказ: чаму нашы пакуты не канвэртуюцца ў свабоду? Няўжо яны марныя? Меў рацыю Чаадаеў: Расея — краіна бяз памяці, прастора татальнай амнэзіі, цнатлівая сьвядомасьць для крытыкі і рэфлексіі.

Вялікія кнігі валяюцца пад нагамі...

1989

Я — у Кабуле. Я не хацела больш пісаць пра вайну. Але вось я на сапраўднай вайне. З газэты «Праўда»: «Мы дапамагаем братняму афганскаму народу будаваць сацыялізм». Усюды людзі вайны, рэчы вайны. Час вайны.

Мяне ўчора ня ўзялі ў бой: «Заставайцеся ў гатэлі, панначка. Адказвай пасьля за вас». Я сяджу ў гатэлі і думаю: нешта ёсьць амаральнае ў разглядваньні чужой мужнасьці і рызыкі. Другі тыдзень я ўжо тут і не магу вызваліцца ад пачуцьця, што вайна — спараджэньне мужчынскай прыроды, для мяне неспасьціжнай. Але будзённасьць вайны грандыёзная. Я адкрыла для сябе, што зброя прыгожая: аўтаматы, міны, танкі. Чалавек шмат думаў над тым, як лепш забіць іншага чалавека. Вечная спрэчка паміж ісьцінай і

прыгажосьцю. Мне паказалі новую італьянскую міну, мая «жаночая» рэакцыя: "Прыгожая. Чаму яна прыгожая?«Па-ваеннаму мне дакладна патлумачылі, што калі на гэтую міну наехаць або наступіць вось так... пад такім вось вуглом... ад чалавека застанецца паўвядра мяса. Пра ненармальнае тут кажуць, як пра нармальнае, само сабой зразумелае. Маўляў, вайна... Ніхто ня траціць розум ад гэтых карцін, што вось ляжыць на зямлі чалавек, забіты не стыхіяй, ня злым лёсам, а іншым чалавекам.

Бачыла загрузку «чорнага цюльпана» (самалёт, які вязе на Радзіму цынкавыя труны з загінулымі). Мёртвых часта апранаюць у старую вайсковую форму яшчэ саракавых гадоў, з галіфэ, бывае, што і гэтай формы не хапае. Салдаты перагаворваліся паміж сабой: «У лядоўню прывезьлі новых забітых. Быццам нясьвежым кабаном пахне». Буду пра гэта пісаць. Баюся, што дома мне не павераць. У нашых газэтах пішуць пра алеі дружбы, якія садзяць савецкія салдаты.

Размаўляю з хлопцамі, многія прыехалі добраахвотна. Прасіліся сюды. Заўважыла, што большасьць зь сем'яў інтэлігенцыі — настаўнікаў, лекараў, бібліятэкараў — адным словам, кніжных людзей. Шчыра марылі дапамагчы афганскаму народу будаваць сацыялізм. Цяпер сьмяюцца зь сябе. Паказалі мне месца ў аэрапорце, дзе ляжалі сотні цынкавых трунаў, таямніча блішчалі на сонцы. Афіцэр, які суправаджаў мяне, не стрымаўся: «Можа тут і мая труна... Засунуць туды...

А за што я тут ваюю?» Тут жа спалохаўся сваіх слоў: «Вы гэта не запісвайце».

Ноччу мне сьніліся забітыя, ва ўсіх былі зьдзіўленыя твары: як гэта я забіты? Няўжо я забіты?

Разам з мэдсёстрамі езьдзіла ў шпіталь для мірных афганцаў, мы вазілі дзецям падарункі. Дзіцячыя цацкі, цукеркі, печыва. Мне дасталася штук пяць плюшавых Мішак. Прыехалі ў шпіталь — доўгі барак, з пасьцелі і бялізны ва ўсіх толькі коўдры. Да мяне падышла маладая афганка зь дзіцем на руках, хацела нешта сказаць, за дзесяць гадоў тут усе навучыліся трохі размаўляць па-расейску, я дала дзіцёнку цацку, ён узяў яе зубамі. «Чаму зубамі?» — зьдзівілася я. Афганка ссунула коўдрачку з маленькага цельца, хлопчык быў без абедзьвюх рук. — «Гэта твае рускія бамбілі». Хтосьці ўтрымаў мяне, я падала...

Я бачыла, як наш «Град» ператварае кішлак ў перааранае поле. Была на афганскіх могілках, доўгіх як кішлак. Дзесьці пасярэдзіне могілак крычала старая афганка. Я ўспомніла, як у вёсцы пад Менскам уносілі ў дом цынкавую труну, і як выла маці. Гэта не чалавечы крык быў і не зьвярыны... Падобны да таго, што я чула на кабульскіх могілках...

Прызнаюся, я не адразу стала свабоднай. Я была шчырай са сваімі героямі, і яны давяралі мне. У кожнага з нас быў свой шлях да свабоды. Да Афганістану я верыла ў сацыялізм з чалавечым тварам. Адтуль вярнулася свабоднай ад усіх ілюзій. «Прабач мне, бацька, — сказала я пры сустрэчы, — ты выхаваў мяне зь верай у камуніс-

тычныя ідэалы, але дастаткова адзін раз убачыць як нядаўнія савецкія школьнікі, якіх вы з мамай вучыце (мае бацькі былі сельскія настаўнікі), на чужой зямлі забіваюць невядомых ім людзей, каб усе твае словы ператварыліся ў пыл. Мы — забойцы, тата, разумееш!?» Бацька заплакаў.

З Афганістану вярталася шмат вольных людзей. Але ў мяне ёсьць і іншы прыклад. Там, у Афганістане, хлопец мне крычаў: «Што ты, жанчына, можаш зразумець пра вайну? Хіба людзі так паміраюць на вайне, як у кнігах і кіно? Там яны паміраюць прыгожа, а ў мяне ўчора сябра забілі, куля трапіла ў галаву. Ён яшчэ мэтраў дзесяць бег і лавіў свае мазгі...» А праз сем гадоў той самы хлопец — цяпер пасьпяховы бізнэсовец, любіць распавядаць пра Афган. — Патэлефанаваў мне: «Навошта твае кнігі? Яны занадта страшныя». Гэта ўжо быў іншы чалавек, ня той, якога я сустрэла сярод сьмерці і які не хацеў паміраць у дваццаць гадоў...

Я пыталася ў сябе, якую кнігу пра вайну я хацела б напісаць. Хацела б напісаць пра чалавека, які не страляе, ня можа стрэліць у іншага чалавека, каму сама думка пра вайну прыносіць пакуты. Дзе ён? Я яго не сустрэла.

1990–1997 гг.

Расейская літаратура цікавая тым, што яна адзіная можа расказаць пра ўнікальны досьвед, праз які прайшла калісьці велізарная краіна. У мяне часта пытаюцца: чаму вы ўвесь час пішаце пра трагічнае? Таму што мы так жывем. Хоць мы жывем цяпер у розных краінах, але ўсюды

жыве «чырвоны» чалавек. З таго жыцьця, з тымі ўспамінамі.

Я доўга не хацела пісаць пра Чарнобыль. Я ня ведала, як пра гэта напісаць, зь якім інструмэнтам і адкуль падступіцца? Імя маёй маленькай, закінутай у Эўропе краіны, пра якую сьвет раней амаль нічога ня чуў, загучала на ўсіх мовах, а мы, беларусы, сталі чарнобыльскім народам. Першымі дакрануліся да невядомага. Зрабілася ясна: акрамя камуністычных, нацыянальных і новых рэлігійных выклікаў, наперадзе нас чакаюць больш лютыя і татальныя, але пакуль яшчэ схаваныя ад вока. Нешта ўжо пасьля Чарнобылю прачынілася...

У памяці засталося, як стары таксіст адчайна вылаяўся, калі голуб стукнуўся аб лабавое шкло: «За дзень дзьве-тры птушкі разьбіваюцца. А ў газэтах пішуць сытуацыя пад кантролем».

У гарадзкіх парках зграбалі лісьце і везьлі за горад, там лісьце хавалі. Зразалі зямлю з заражаных плям і таксама хавалі — зямлю хавалі ў зямлі. Хавалі дровы, траву. Ва ўсіх былі крыху вар'яцкія твары. Распавядаў стары пчаляр: «Выйшаў раніцай у сад, чагосьці не хапае, нейкага знаёмага гуку. Ніводнай пчалы... Не чуваць ніводнай пчалы. Ніводнай! Што? Што такое? І на другі дзень яны ня вылецелі і на трэці... Потым нам паведамілі, што на атамнай станцыі — аварыя, а яна побач. Але доўга мы нічога ня ведалі. Пчолы ведалі, а мы не». Чарнобыльская інфармацыя ў газэтах была спрэс з ваенных словаў: выбух, героі, салдаты, эвакуацыя... На самой станцыі

працавала КДБ. Шукалі шпіёнаў і дывэрсантаў, хадзілі чуткі, што аварыя — заплянаваная акцыя заходніх спэцслужбаў, каб падарваць лягер сацыялізму. У кірунку Чарнобылю рухалася вайсковая тэхніка, ехалі салдаты. Сыстэма дзейнічала, як звычайна, па-вайсковаму, але салдат з новенькім аўтаматам у гэтым новым сьвеце быў трагічны. Усё, што ён мог, набраць вялікія радыядозы і памерці, калі вернецца дадому.

На маіх вачах дачарнобыльскі чалавек ператвараўся ў чарнобыльскага.

Радыяцыю нельга было ўбачыць, памацаць, пачуць яе пах... Такі знаёмы і незнаёмы сьвет ужо акружаў нас. Калі я паехала ў зону, мне хутка патлумачылі: кветкі рваць нельга, садзіцца на траву нельга, ваду з калодзежа ня піць... Сьмерць таілася паўсюль, але гэта ўжо была нейкая іншая сьмерць. Пад новымі маскамі. У незнаёмым абліччы. Старыя людзі, якія перажылі вайну, зноў зьяжджалі ў эвакуацыю — глядзелі на неба: «Сонца сьвеціць... Няма ні дыму, ні газу. Не страляюць. Ну, хіба гэта вайна? А трэба рабіцца ўцекачамі».

Раніцай усе прагна хапалі газэты і тут жа адкладалі іх з расчараваньнем — шпіёнаў не знайшлі. Пра ворагаў народу ня пішуць. Сьвет без шпіёнаў і ворагаў народу быў таксама незнаёмы. Пачыналася нешта новае. Чарнобыль усьлед за Афганістанам рабіў нас вольнымі людзьмі.

Для мяне сьвет рассунуўся. У зоне я не адчувала сябе ні беларускай, ні расейкай, ні ўкраінкай, а прадстаўніком біявіду, які можа быць зьніш-

чаны. Супалі дзьве катастрофы: сацыяльная — сыходзіла пад ваду сацыялістычная Атлянтыда, і касьмічная — Чарнобыль. Падзеньне імпэрыі хвалявала ўсіх: людзі былі заклапочаныя днём і бытам, на што купіць і як выжыць? У што верыць? Пад якія сьцягі зноў стаць? Або трэба вучыцца жыць безь вялікай ідэі? Апошняе нікому не знаёма, бо яшчэ ніколі так не жылі. Перад «чырвоным» чалавекам стаялі сотні пытаньняў, ён пераҗываў іх у адзіноце. Ніколі ён ня быў такі адзінокі, як у першыя дні свабоды. Вакол мяне былі ўзрушаныя людзі. Я іх слухала...

Закрываю свой дзёньнік...

Што з намі адбылося, калі імпэрыя ўпала? Раней сьвет дзяліўся: ка́ты і ахвяры — гэта ГУЛАГ, браты і сёстры — гэта вайна, электарат — гэта тэхналёгіі, сучасны сьвет. Раней наш сьвет яшчэ дзяліўся на тых, хто сядзеў і хто саджаў, сёньня дзяленьне на славянафілаў і заходнікаў, на нацыянал-здраднікаў і патрыётаў. А яшчэ на тых, хто можа купіць і хто ня можа купіць. Апошняе, я б сказала, самае жорсткае выпрабаваньне пасьля сацыялізму, бо нядаўна ўсе былі роўныя. «Чырвоны» чалавек так і ня здолеў увайсьці ў тое царства свабоды, пра якое марыў на кухні. Расею падзялілі безь яго, ён застаўся ні з чым. Зьняважаны і абкрадзены. Агрэсіўны і небясьпечны.

Што я чула, калі езьдзіла па Расеі...

— Мадэрнізацыя ў нас магчымая шляхам шарашак і расстрэлаў.

— Расейскі чалавек быццам бы і ня хоча быць багатым, нават баіцца. Чаго ж ён хоча? А ён за-

ўсёды хоча аднаго: каб нехта іншы не зрабіўся багатым. Багацейшым, чым ён.

— Сумленнага чалавека ў нас ня знойдзеш, а сьвятыя ёсьць.

— Нелупцаваных пакаленьняў нам не дачакацца; расейскі чалавек не разумее свабоды, яму патрэбны казак і бізун.

— Два галоўныя расейскія словы: вайна і турма. Скраў, пагуляў, сеў... выйшаў і зноў сеў...

— Расейскае жыцьцё павінна быць злое, нікчэмнае, тады душа падымаецца, яна ўсьведамляе, што не належыць гэтаму сьвету... Чым брудней і крывавей, тым больш для яе прасторы...

— Для новай рэвалюцыі няма ні сілы, ні нейкага вар'яцтва. Куражу няма. Расейскаму чалавеку патрэбная такая ідэя, каб мароз па скуры...

— Так наша жыцьцё і боўтаецца — паміж бардаком і баракам. Камунізм не памёр, нябожчык жывы.

Бяру на сябе сьмеласьць сказаць, што мы змарнавалі свой шанец, які ў нас быў у 90-ыя гады. На пытаньне: якой павінна быць краіна — моцнай або годнай, дзе людзям добра жыць, выбралі першы — моцнай. Цяпер зноў час сілы. Расейцы ваююць з украінцамі. З братамі. У мяне бацька — беларус, маці — украінка. І так у многіх. Расейскія самалёты бамбуюць Сырыю...

Час надзеі зьмяніўся часам страху. Час павярнуў назад... Час сэканд-хэнд...

Цяпер я ня ўпэўненая, што дапісала гісторыю «чырвонага» чалавека...

У мяне тры дамы — мая беларуская зямля, радзіма майго бацькі, дзе я пражыла ўсё жыццё, Украіна, радзіма маёй мамы, дзе я нарадзілася, і вялікая расейская культура, безь якой я сябе не ўяўляю. Яны мне ўсе дарагія. Але цяжка ў наш час казаць пра любоў.

## Разьвітальнае слова з прыпахам нафталіну

7 сьнежня 2015
Сяргей Дубавец, Менск

Найлепшае, што магла паказаць і паказала Сьвятлана Алексіевіч у сваёй Нобэлеўскай лекцыі, гэта сябе такую, якая яна ёсьць, а не такую, якую нехта хацеў пабачыць.

Яна сапраўды савецкі чалавек, як і яе героі. Яна толькі перастала ці перастае быць «чырвоным чалавекам». Зь лекцыі мы так і не зразумелі, ці мае для яе сэнс незалежная краіна Беларусь, якую яна прадстаўляе.

Яна не разьвіталася з Расеяй, каб цалкам прыйсьці да Беларусі. Яна і не плянуе гэтага рабіць, бо «русская культура» яе стварыла, а Беларусь — толькі «мая зямля».

У гэтым сэнсе Нобэлеўская лекцыя прагучала, як разьвітаньне Алексіевіч з сабою ўчорашняй. Па духу гэта была ўчорашняя лекцыя з прыпахам нафталіну. Аўтарка сапраўды падобная да Лукашэнкі зь яго непераадольнымі комплексамі «вялікай рускай культуры» і Беларусі, як «куска зямлі».

Лекцыя паказала, што гэты Нобэль у разуменьні ляўрэаткі — пэрсанальна для Алексіевіч, а не для Беларусі — незалежнай эўрапейскай краіны з уласнай культурай. Але высокі статус з пазнакай нашай краіны даецца назаўжды. Магчыма, пасьля гэтай разьвітальнай лекцыі мы пачуем некалі і прывітальную, заўтрашнюю, зьвернутую да новай Беларусі, яе культуры і мовы.

## «Яна сьмелая. Вельмі сьмелая» — Алексіевіч наведала школу ў эміграцкім прыгарадзе Стакгольму

9 сьнежня 2015
Аляксандра Дынько, Стакгольм

*Беларускую пісьменьніцу навучэнцы школы Рынкебю чакалі зранку ў бібліятэцы. Падрыхтавалі традыцыйны канцэрт, распавялі, што думаюць пра яе творы, намалявалі да іх ілюстрацыі і партрэт Сьвятланы, якія ўрачыста ўручылі ёй пасьля.*

У падзеі не было нічога патаснага, хіба што для нобэлеўскага ляўрэата абралі крэсла, адрознае ад іншых. Ніякіх афіцыйных выступаў ці прамоваў ад настаўнікаў і дырэктара не было — галоўнымі героямі сапраўды былі дзеці, і было зразумела — усё робіцца імі і разам зь імі.

Школа ў Рынкебю звычайная і незвычайная. У прадмесьці селяцца ўцекачы, таму шмат для каго з навучэнцаў швэдзкая мова ня родная, а іх сем'і паходзяць з зусім розных краінаў і частак сьвету. У многіх сем'ях свае гісторыі вайны і ратаваньня ад яе. Сёлета ўпершыню сустрэцца з нобэлеўскім ляўрэатам запрасілі і вучняў з клясаў з асаблівасьцямі разьвіцьця.

«Канечне, нашае жыцьцё вельмі недасканалае. Па-за межамі Швэцыі шмат войнаў. Канечне, чалавек ня створаны, каб забіваць іншага. Гэта барбарства, як бы прыгожа гэта ні называлі, —

пасьля імпрэзы Сьвятлана Алексіевіч зьвярнулася да вучняў. — Я жадаю, каб у вас у жыцьці гэтага ніколі ня здарылася. Жыцьцё само па сабе вельмі цікавае. Не здавайцеся жыцьцю. Заўжды старайцеся дабівацца большага. Таму што гэта вельмі цікава — ісьці далей, быць моцным і добрым. Будзьце шчасьлівыя».

«Я вельмі нэрвавалася і хвалявалася, у мяне нават каленкі дрыжалі», — распавядае вучаніца Сэхэр. «Вельмі было здорава яе пабачыць», — кажа яе сяброўка Баба. На пытаньне, якім чалавекам падалася ім пісьменьніца, абедзьве дзяўчынкі адначасова кажуць «сьмелая». «Вельмі сьмелая. І адначасова і добрая».

Нобэлеўскія ляўрэаты прыходзяць у гэтую школу ўжо 27-ы раз. Праект «Нобэлеўскі ляўрэат у Рынкебю» пад слоганам «Аднойчы ты можаш атрымаць Нобэлеўскую прэмію» прыдумала пісьменьніца Гуніла Люндгрэн і кіруе ім разам з ілюстратаркай Лотай Сыльвэрх’ельм.

«Было цудоўна! — дзеліцца ўражаньнямі ад сустрэчы Гуніла. — Дзеці змаглі выказаць свае думкі, і яны паставіліся да гэтага вельмі сур’ёзна. Выдатна, што Сьвятлана вылучыла час, каб сесьці разам зь імі і пагаварыць. Гэта была сапраўдная размова. Не рытуал і не прадстаўленьне, а шчырая сустрэча».

Само спатканьне зь пісьменьнікам — гэта толькі кульмінацыя доўгай і прафэсійнай працы з тэкстамі.

«Мы прачыталі шмат гісторый з „Цынкавых хлопчыкаў“ і з „Апошніх сьведкаў“, — распавядае

Гуніла. — Ня ўсе зь іх могуць добра чытаць, таму я спачатку чытала ім сама. Але некаторыя чыталі самі, і яны прасілі яшчэ і яшчэ. І пасьля яны рабілі ілюстрацыі да гісторый, якія абіралі самі».

Пераклады да дзіцячых прэзэнтацый зрабіла перакладчыца Лідзія Старадубцава. Паходзячы з Карэліі, Лідзія ўжо 4 гады жыве на поўдні Швэцыі і выкладае швэдзкую мову для імігрантаў:

«Мне здаецца, тэксты Сьвятланы Алексіевіч у такім кантэксьце вельмі добра працуюць, бо многія зь дзяцей, якія вучацца ў гэтай школе, якія прыходзяць у гэтую бібліятэку, альбо самі перажылі складаныя падзеі, зьвязаныя з вайной, уцёкамі ад вайны, ці растуць у сем’ях, дзе бацькі перажылі нешта падобнае. І гэта вельмі заўважна ў тых тэкстах, якія напісалі дзеці. Яны праводзяць паралелі паміж сваім жыцьцём і тым, пра што пісала Сьвятлана», — распавядае Лідзія.

Дырэктар школы Аніка Пінтан, на пытаньне, навошта дзецям сустракацца з нобэлеўскім ляўрэатам, кажа што гэта найлепшая адукацыя.

«Гэта важна, каб дзеці разумелі, навошта ім трэба адукацыя. Сьвятлана сёньня знайшла для гэтага цудоўныя словы, што вы мусіце знайсьці мэту, зразумець, што вы хочаце рабіць, і тады вы будзеце шчасьлівая. А ня толькі нудная школа, дзе вас нешта прымушаюць рабіць. Мы любім гэты праект. Яны штогод так многаму вучацца ад гэтых сустрэчаў, мы бачым, як яны растуць», — кажа Аніка.

«Гэта важна найперш для гэтых дзяцей, для гэтай школы, для гэтай бібліятэкі, каб адчуць, што яны знаходзяцца ў агульным культурным кантэксьце, а не зьяўляюцца гета. Бо шмат хто ўяўляе такія іміграндкія раёны як гета, дзе нічога не адбываецца і ня можа адбывацца, — лічыць перакладчыца Лідзія. — Важна і тое, што Нобэлеўскі ляўрэат сюды прыяжджае і бачыць, што Швэцыя — гэта ня толькі Grand Hôtel, ня толькі Швэдзкая акадэмія, але абсалютна іншае жыцьцё літаральна за дзесяць кілямэтраў ад цэнтру».

Швэцыя традыцыйна прымае шмат уцекачоў, больш, чым іншыя краіны. Я пытаюся ў Лідзіі, як у швэдаў атрымліваецца даваць гэтаму рады.

«Мы паглядзім, наколькі ўсе будуць заставацца людзьмі пасьля гэтай найноўшай хвалі. У сувязі з зацяжным канфліктам у Сырыі, уцекачоў у Швэцыі робіцца ўсё больш і больш, і клімат тут у дачыненьні да іх усё больш жорсткі, — адказвае яна. — Мне здаецца, што ў Скандынавіі такія моцныя традыцыі гуманізму, дэмакратыі і людзкага стаўленьня чалавека да чалавека, што гэтага надоўга хапае. Сацыяльныя сыстэма так добра ўладкаваная, што ў чалавека ёсьць магчымасьць атрымаць неабходную дапамогу. Я працую ў сыстэме моўнай інтэграцыі, і гэтая сыстэма працуе не ідэальна. Але я бачу, што большасьць людзей, якія ў гэтым удзельнічаюць, і прафэсійна і на ўзроўні энтузіястаў, гатовыя зрабіць вельмі шмат для таго, каб гэтая сыстэма працавала. Мне зда-

ецца, на чалавечым рэсурсе можна даволі шмат зрабіць».

Рынкебю — гэта беднае прадмесьце, дзе жыве шмат уцекачоў, — паўтарае Гуніла Люндгрэн. «Але Рынкебю — гэта міжнацыянальная частка Стакгольму. Тут жывуць людзі розных нацыянальнасьцяў, якія размаўляюць на розных мовах. Мы мусім ганарыцца тым, што ў Рынкебю гучаць усе гэтыя мовы. А Нобэлеўская прэмія — міжнародная, — кажа пісьменьніца. — Мы можам быць наперадзе ўсіх з такім праектам, і я кажу гэта дзецям. Мы ніколі не размаўляем пра праблемы, хаця шмат хто зь іх сапраўды ўцякаў ад вайны. Мы гаворым пра сучаснае, пра тое, як нам ствараць сусьвет, поўны ведаў».

Вы хочаце быць Нобэлеўскімі ляўрэаткамі? — пытаюся я ў Сэхэр і Бабы з дапамогай перакладу Лідзіі. «Так!» — захоплена адказваюць дзяўчаты.

— А чаму?

— Гэта весела!

## «Што, я мела крычаць «Жыве Беларусь» і скакаць на кані?»

9 сьнежня 2015
Аляксандра Дынько, Стакгольм

*Сьвятлана Алексіевіч папрасіла карэспандэнта Свабоды ў Стакгольме перадаць яе крытыкам:*

«Патлумачце сваім „героям“, што пісьменьнік мае гаварыць на сваёй мове, а не рабіць мітынг з Нобэлеўскай лекцыі. Што я – мусіла крычаць „Жыве Беларусь!“? Скакаць на кані? Скажыце пра гэта ад мяне. Я ўсё сказала, але як пісьменьнік. У банкетнай прамове будзе пра Беларусь».

Гэтую просьбу Сьвятлана Аляксандраўна выказала, знаходзячыся ў раёне Стакгольму, дзе жывуць мігранты, куды яна прыйшла на сустрэчу зь дзецьмі.

Некаторыя карыстальнікі сацыяльных сетак пасьля Нобэлеўскай лекцыі Алексіевіч крытыкавалі яе за расейскамоўны выступ і малую ўвагу да Беларусі.

10сьнежня 2015 года ў Стакгольме кароль Швэцыі Карл XVI Густаў уручыў Сьвятлане Алексіевіч Нобэлеўскую прэмію.



SVENSKA AKADEMIEN
har vid sin sammankomst den
8 oktober 2015 i överensstämmelse
med föreskrifterna i det av
ALFRED NOBEL
den 27 november 1895 upprättade
testamentet beslutat att 2015 års
Nobelpris i litteratur skall tilldelas
SVETLANA
ALEKSIJEVITJ
"för hennes mångstämmiga
verk, ett monument över
lidande och mod i vår tid"
STOCKHOLM DEN 10 DECEMBER 2015

## Сьвятлана Алексіевіч атрымала Нобэлеўскую прэмію

10 сьнежня 2015
Аляксандра Дынько, Стакгольм

*Беларуская пісьменьніца атрымала Нобэлеўскую прэмію з рук швэдзкага караля Карла XVI Густава.*

Узнагароджаньне адбылося ў Стакгольмскай канцэртнай залі. Спачатку выступіў старшыня Нобэлеўскага камітэту Касі Кулман Файв, а потым кароль Швэцыі Карл XVI Густаў уручыў кожнаму ляўрэату адмысловы мэдаль з выявай Альфрэда Нобэля і дыплём. А 21-й, паводле беларускага часу, — банкет у Блакітнай залі Стакгольмскай ратушы. «У банкетнай прамове будзе пра Беларусь», — сказала ляўрэатка Нобэлеўскай прэміі па літаратуры Сьвятлана Алексіевіч журналістам напярэдадні, 9 сьнежня, адказваючы на папрокі крытыкаў яе Нобэлеўскай лекцыі.

## Выступ старшыні Нобэлеўскага камітэту па літаратуры Пэра Вэстбэрга

10 сьнежня 2015

*Швэдзкі пісьменьнік Пэр Вэстбэрг, старшыня Нобэлеўскага камітэту па літаратуры, выступіў з прэзэнтацыяй Сьвятланы Алексіевіч на цырымоніі ўручэньня Нобэлеўскай прэміі. Пераклад Аляксея Знаткевіча.*

Шаноўнае спадарства, Вашы Каралеўскія Вялікасьці, паважаныя нобэлеўскія ляўрэаты!

Альфрэд Нобэль хацеў, каб гэтую прэмію атрымлівала асоба, якая стварыла найбольш выбітны твор ідэалістычнай скіраванасьці. Сьвятлана Алексіевіч выканала гэтае патрабаваньне.

«Галасы Ўтопіі» — яе сюіта зь пяці кнігаў, якія апісваюць катастрофы XX стагодзьдзя — гэта літаратурны і маральны шэдэўр Алексіевіч. Складаньне мапы мэнтальнай гісторыі савецкага грамадзяніна, якую яна зьвязвае з магіламі, праліцьцём крыві і бясконцым дыялёгам паміж ка́тамі і ахвярамі, якія намагаюцца схаваць як мага больш. Яна кажа, што гэтыя творы — пра здушаны крык Расеі, пра мінулае, якое не павінна вярнуцца, пра непрымальны цяперашні час і пра будучыню, якая не дае надзеі.

Як стэнаграфіст у высокім судзе, яна пералічвае несправядлівасьці, якія напаткалі непадрыхтаваных і безабаронных. Тут словы тысячаў сьведкаў першы і адзіны раз. Безь яе яны ніколі б не пабачылі сьвятла.

Яна шукае момант, які патрасае асобу да самай сутнасьці. Як у галасах Чарнобылю, калі мэдсястра папярэджвае жанчыну, што яе каханы ператварыўся ў рэактар, што ён ужо не чалавек, але жанчына ігнаруе папярэджаньне, і радыяцыя ад цела мужчыны забівае дзіця, якое яна носіць у сабе. Кніга робіцца папярэджаньнем пра тое, як мінулае выпраменьваньне дзесяцігодзьдзямі дыктуе нашыя жыцьці, нашую мараль.

У кнізе «У вайны не жаночае аблічча» Алексіевіч апытвае пяцьсот зь незьлічоных жанчын, якія служылі ў Чырвонай арміі. Яны расказваюць, як немцы з акопаў паказвалі адрэзаныя ногі палонных, пра маці, якая ўтапіла сваё дзіця, каб ня выдаць сваю вёску, і пра тое, як жанчыны рабілі бігудзі з сасновых шышак. А потым дома на іх глядзелі як на салдацкіх курваў і ад іх адчужаліся іх сем’і. Мужчыны былі героямі, а жанчынам не давалі мэдалёў.

Алексіевіч адкрывае аблічча зла працэсам праўды, дзе полымя спальвае хлусьню, і мовай, якая паміж радкоў перадае маўчаньне болю. Яна чакае пакуль галасы не паселяцца ў ёй, набываючы рэзкасьць. Гэта робіць яе найбольш чульлівай сярод сучасных гісторыкаў і вынаходнікам жанру.

Сваёй сухой празаічнасьцю, сваімі намаганьнямі трымаць вочы расплюшчанымі, а не запоўненымі сьлязьмі, яна турбуе нас, сваіх чытачоў, асабліва сёлета, у год патоку ўцекачоў, калі яе гісторыі ўпартасьці і мужнасьці бездапаможных больш актуальныя, чым калі-кольвечы. Узгада-

ваўшыся ў культуры смутку, больш сканцэнтраванай каля лясоў Беларусі, — краіны, дзе быў забіты кожны чацьверты — яна мае любоў да маленькіх людзей, а не да вялікіх ідэяў.

Вусны аповед гэта крыніца літаратуры. З дапамогай памяці людзі захоўваюць абрысы існаваньня. Даць гісторыі аблічча і зрабіць людзей бачнымі аднаго за другім — гэта велікадушнае дзеяньне, якое дакумэнталістыка пакідае ў спадчыну будучыні, а таксама непараўнальнае мастацкае дасягненьне.

Выкарыстоўваючы як сваю таемную зброю апытаньні і слуханьне, Алексіевіч пранікае ў пачуцьці таго дадатковага, на што не зьвяртала ўвагі гісторыя. Яна знаходзіць каханьне і сьмерць, прагу ўлады і нечаканую салідарнасьць. Яна называе сябе гісторыкам душы. Прадмет яе вывучэньня — чалавечыя таямніцы.

Алексіевіч аб'ядноўвае дакладнасьць гісторыка з эмпатыяй паэта ў плачы, у якім адгукаецца рэхам увесь магчымы досьвед. Яна дэтэктар хлусьні і невычэрпная крыніца ведаў пра паслухмянасьць як праклён і прапаганду як спакусу — карацей, пра стан чалавека. Бо калі яна нас напружвае, «ёсьць толькі адно выйсьце — пачаць любіць людзей, разумець іх з дапамогай любові».

(*па-расейску*) Шаноўная Сьвятлана Алексіевіч, Швэдзкая акадэмія віншуе Вас і просіць прыняць зараз сёлетнюю Нобэлеўскую прэмію ў галіне літаратуры з рук Яго Вялікасьці Караля.

## У Стакгольме адбыўся Нобэлеўскі банкет

10 сьнежня 2015

*Цырымонія прысуджэньня Нобэлеўскіх прэміяў за 2015 год закончылася банкетам у Блакітнай залі Стакгольмскай ратушы.*

На ўрачыстым банкеце ў Блакітнай залі Стакгольмскай ратушы Сьвятлана Алексіевіч, як і іншыя Нобэлеўскія ляўрэаты, сядзела разам з членамі каралеўскай сям'і і ўплывовымі палітыкамі.

Зьлева ад Алексіевіч — Свантэ Лінквіст, рыксмаршал (кіраўнік прыдворнага ведамства) Швэцыі, а па правую руку ад пісьменьніцы — Міхаэль Сольман, былы выканаўчы дырэктар Нобэлеўскага фонду.

Месца першага беларускага нобэлеўскага ляўрэата — за чатыры крэслы ад прынцэсы Сафіі і за сем крэслаў ад караля Швэцыі Карла XVI Густава (ён сядзіць па другі бок стала). А насупраць Сьвятланы Алексіевіч — міністар ў справах навукі Канады Крысьцін Дункан, прэм'ер-міністар Швэцыі Стэфан Лёвэн і сьпікер швэдзкага парляманту Урбан Алін.

## Банкетная прамова Сьвятланы Алексіевіч

10 сьнежня 2015

*Сьвятлана Алексіевіч выступіла з прамовай на банкеце ў Блакітнай залі Стакгольмскай ратушы, якім закончыліся ўрачыстасьці Нобэлеўскага тыдня. Пераклад Сяргея Шупы.*

Я дзякую Швэдзкай акадэміі за высокую ўзнагароду, якую ня маю права сабе прысвоіць, я разумею яе як паклон многім пакаленьням савецкіх людзей, якія яшчэ нядаўна жылі разам у велізарнай краіне СССР — марксісцкай лябараторыі сьветлай будучыні. Як паклон іх пакутам і іх болю. Яны сыходзілі ў нябыт у сталінскіх лягерах, на шахтах Магадану і Варкуты, атрымлівалі кулю ў патыліцу ў катавальнях НКВД, гінулі на франтах Другой сусьветнай вайны і іншых войнаў, якія вяла імпэрыя. Вялікая ідэя бязьлітасна пажырала сваіх дзяцей. Ідэям не бывае балюча. Шкада людзей.

У перабудову мы марылі пра свабоду, а апынуліся ў зусім іншым пункце гісторыі. На постсавецкай прасторы замест свабоды расквітнеў аўтататалітарызм розных масьцяў — расейскі, беларускі, казахскі... Павольна і няўпэўнена выбіраемся мы з пад абломкаў «чырвонай» імпэрыі. Адна з гераіняў маёй кнігі «Час second-hand», у якой уся сям’я была высланая ў Сібір і там за-

гінула, са сьлязамі на вачах сьпявала, калі мы сядзелі ў яе на кухні:

Утро красит нежным светом
Стены древнего Кремля,
Просыпается с рассветом
Вся советская земля...
Кипучая,
Могучая
Никем не победимая
Страна моя,
Москва моя,
Ты самая любимая...

Мінуўшчына не выпускала яе з сваіх драпежных абдымкаў. Яе навучылі верыць, у ёй усё яшчэ жыла тая дзяўчынка, у якой Сталін калісьці забраў усё, а яна ўсё роўна верыла. У што?

Я хачу расказаць пра маю краіну — Беларусь. У Менску ў аэрапорце, калі я ляцела ў Варшаву, да мяне падышлі дзьве маладыя дзяўчыны, яны плакалі: «Дзякуй вам! Разумееце, мы цяпер ёсьць! Цяпер усе ведаюць, дзе Беларусь!» Гэтую падзяку я перадаю ўсім вам. Пасьля жнівеньскага путчу 1991 году, калі Беларусь атрымала незалежнасьць, ужо вырасла некалькі пакаленьняў. У кожнага зь іх была свая рэвалюцыя, яны выходзілі на Плошчу, яны хацелі жыць у вольнай краіне, іх зьбівалі, адпраўлялі ў турмы, выганялі з інстытутаў, звальнялі з працы. Наша рэвалюцыя не перамагла, але героі рэвалюцыі ў нас ёсьць.

Свабода — гэта ня хуткае сьвята, як мы марылі. Гэта — шлях. Доўгі шлях. Цяпер мы гэта ведаем.

Мы ўсе жывем у агульным сьвеце. Ён называецца — Зямля. У гэтым нашым сьвеце зрабілася няўтульна. Уключаеш тэлевізар, і там, захлынаючыся ад захапленьня, дыктар расказвае пра новыя вайсковыя самалёты, караблі... На расейскай, ангельскай і іншых мовах. Зноў наступіла эпоха барбарства. Эпоха сілы. Дэмакратыя адступае. Узгадваюцца 90-я гады... Тады ўсім нам здавалася — і вам, і нам — што мы ўступілі ў бясьпечны сьвет. Я памятаю дыялёгі Гарбачова з Далай-ламам пра будучыню, пра канец гісторыі... Сёньня ўсё гэта здаецца прыгожай казкай. Цяпер мы сьведкі новай схваткі дабра і зла. Сьведкі і ўдзельнікі.

Што можа мастацтва? Мэта мастацтва — назапашваць чалавека ў чалавеку. Але калі я была на вайне ў Афганістане і цяпер, калі размаўляла ва Ўкраіне з уцекачамі з Данбасу, я чула, як хутка зьлятае з чалавека культура і выпаўзае пачвара. Выкрываецца зьвер... Але я пішу... працягваю пісаць... Пішу, як вучылі мяне мае настаўнікі, беларускія пісьменьнікі Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў, якіх у гэты дзень я хацела б прыгадаць з удзячнасьцю. Як вучыла мяне мая ўкраінская бабуля, якая ў дзяцінстве чытала мне «Кабзара» Тараса Шаўчэнкі напамяць. Пішу, нашто? Мяне называюць пісьменьнікам катастрофаў, гэта няпраўда, я ўвесь час шукаю словы любові. Нянавісьць нас не ўратуе. Нас уратуе толькі любоў. Я спадзяюся...

На разьвітаньне я хацела б, каб у гэтай цудоўнай залі прагучала беларускае слова, мова майго народу:

*У адной беларускай вёсачцы старая жанчына праводзіла мяне са словамі: “Хутка мы разыдземся з табой у розныя бакі. Дзякуй табе, што ты слухала мяне і панясеш маю больку людзям. Прашу цябе, калі пойдзеш, агляніся на маю хатку. Агляніся не адзін, а два разы. Другі раз чалавек аглядваецца не па чужынцы, а ўжо з сэрцам...*

Я хачу падзякаваць вам за ваша сэрца, за тое, што вы пачулі наш боль.

## Беларускі Нобэль як разьвітаньне з фантомамі

11 сьнежня 2015
Сяргей Дубавец, Менск

Пачуўшы беларускую прыпавесьць у заключнай прамове Сьвятланы Алексіевіч у Стакгольме, я заплакаў.

Так бывае, калі надзея спраўджваецца. А якраз такую надзею я меў пасьля Нобэлеўскай лекцыі. Гэта быў спадзеў на збліжэньне пазыцый — адзінае, што дазволіць нам… ня выжыць… «Выжываць — гэта любой цаною, а жыць — гэта ўсё-ткі менш ці больш сумленна» (Янка Брыль).

У пераднобэлеўскім інтэрвію Алексіевіч казала, што галоўнае для Беларусі — каб грамадзтва прыйшло ў рух. Але грамадзтва прыйдзе ў рух, калі захоча большага, чым мае. Насельніцтва Беларусі мае вялікі патэнцыял такога хаценьня — стаць народам — нармальным, сучасным, эўрапейскім і пры тым адметным сваёй культурай. Не сумняваюся, што Сьвятлана Алексіевіч хоча таго самага.

Яна шукала і не знайшла месца савецкаму чалавеку ў сучасных раскладах. Дзе яго месца? У СССР зь яго вялікай ідэяй і ўсім тым сьветлым, што помніцца? Але на месцы СССР — цяпер РФ, дзе няма ня тое што сьвятла, але й блікаў сьвятла таго, колішняга.

Алексіевіч адчувае, што стаіць перад патрэбаю ідэнтыфікацыі. Выйсьці з савецкага чалавека і

застацца «проста чалавекам» не атрымліваецца. Яна — беларуская пісьменьніца, якая прадстаўляе ў сьвеце Беларусь і беларусаў. Чаму гэта важна? Таму што грамадзтва павінна прыйсьці ў рух. Тое, як ёсьць і куды ўсё ідзе «само», не задавальняе, бо гэта катастрофа.

У прывітальным слове зьнік фантом «великой русской культуры» — як прыкмета сьветлага савецкага чалавека. Зьнік, бо ён не існуе безь Вялікай Расеі (як вялікая нямецкая культура не існуе безь Вялікай Нямеччыны). Беларуская прыпавесьць Алексіевіч, на якой я заплакаў, нічым не бліжэйшая да «русской культуры» Дастаеўскага і Чэхава, чым да культуры Рэйманта ці Акутагавы ці Авіжуса, як і Дастаеўскі з Чэхавым нічым не бліжэйшыя да Бялова з Распуціным, чым да Кафкі ці Сартра або Фолкнэра з Маркесам. Нарэшце, мне, чытачу Алексіевіч, прасьцей убачыць яе карані ў творах Адамовіча, Гарэцкага і Баркулабаўскай кронікі, чым у кнігах Распуціна і Бялова, а нават і Чэхава з Дастаеўскім. Але будучыя інтэрпрэтатары беларускага Нобэля зробяць гэта лепш за мяне. І за Алексіевіч.

Алексіевіч набліжаецца да Беларусі. Гэта чыста этычны крок, але ён безальтэрнатыўны. Альтэрнатыва — ісьці ў той бок, якога няма.

«Падступнасьць» сытуацыі ў тым, што здабыты Алексіевіч беларускі Нобэль ужо жыве сваім жыцьцём. У яго добрая будучыня. Як у дзясяткаў літаратурных Нобэляў розных краін і культур, імёны і творы ўладальнікаў якіх даўно забыліся. Калясальная магчымасьць сытуацыі ў

тым, што крок Алексіевіч да Беларусі можа стаць рэактыўным штуршком для нашай культуры, а магчыма, і для грамадзтва, якое павінна прыйсьці ў рух.

Новае слова набэлісткі прагучала драматычна, але было зьвернутае ў будучыню і ня мела таго прыпаху нафталіну, які пачуўся мне ў папярэдняй лекцыі. Прапала і падстава параўноўваць Алексіевіч з Лукашэнкам — менавіта фантомным савецкім чалавекам, які 20 гадоў трымае людзей у ілюзіі, што яны ўсё яшчэ жывуць у СССР.

Нехта пасьля словаў на нобэлеўскім банкеце заўважыў: «Дзякуй богу, што я жыву не ў эпоху Лукашэнкі, а ў эпоху Алексіевіч». Гэтыя словы — ўдзячнасьць да пісьменьніцы, што можа аб'яднаць маральную большасьць грамадзтва, якое «другі раз аглядваецца не па чужынцы, а ўжо з сэрцам…»

## Дзьмітры Плакс: Сьвятлана Алексіевіч расставіла акцэнты па-свойму

11 сьнежня 2015
Ян Максімюк, Прага

*Пісьменьнік і перакладчык Дзьмітры Плакс, рэжысэр і драматург радыётэатру Швэдзкага нацыянальнага радыё, пра тое, як Сьвятлана Алексіевіч парушыла этыкет і рэглямэнт Нобэлеўскай цырымоніі.*

**РС**: Дзьмітры, што вы думаеце пра ўчорашнюю прамову Сьвятланы Алексіевіч падчас Нобэлеўскага банкету ў Стакгольме?

**Плакс**: Сьвятлана Алексіевіч, як заўжды, вельмі адказна ставіцца да таго, што яна кажа. І яна, як заўжды, вельмі дакладна расстаўляе акцэнты. Мне здаецца, што галоўнае, як у яе Нобэлеўскай лекцыі, так і ў банкетнай прамове — гэта акцэнты.

Тут шмат чаго, на што можна зьвярнуць увагу. Пачну з таго, што яна адпрэчыла агульнапрыняты дрэс-код і прыйшла на Нобэлеўскі банкет не ў вечаровым строі, а так, як ёй было больш зручна. Я ня ведаю, ці такое калі-небудзь раней было.

Тое, што яна не зьвярнулася да караля, пачынаючы сваю прамову — гэта таксама нешта, што наўрад ці здаралася раней.

Ну і яшчэ яна парушыла рэглямэнт, прамаўляючы даўжэй, чым прапісана.

Што тычыцца зьместу, я думаю, вы самі разумееце, як там усё было прадумана.

**РС**: Прамовы іншых Нобэлеўскіх ляўрэатаў былі, калі можна так сказаць, лягчэйшага калібру. Яны распавядалі пра нейкія сямейныя справы, пра дзяцінства і вучобу ў школе... А банкетная прамова Сьвятланы Алексіевіч была сур'ёзнай — і па сваёй форме, і па зьмесьце. Яна гаварыла гэтую прамову так, як бы чытала Нобэлеўскую лекцыю. Ці гэта, па-вашаму, таксама было прадумана і заплянавана?

**Плакс**: Безумоўна. Мне падаецца, што яна нічога ня робіць выпадкова, асабліва пры такіх нагодах, як цяпер. І гэта таксама, як я разумею, парушэньне рэгляманту. Бо якраз банкетныя прамовы мусяць быць кароткімі, лёгкімі, тыпу «дзякуй каралю», «дзякуй Швэцыі», «дзякуй усім гасьцям банкету», «мне тут так прыемна», і ў дадатак нейкі анэкдот з уласнага жыцьця. Я думаю, яна плянавала нешта іншае ад самага пачатку. Яна выбрала, на мой погляд, вельмі канцэптуальны падыход. У Нобэлеўскай лекцыі яна казала пра сябе, а ў банкетнай прамове — пра ўсё астатняе, што для яе важнае.

**РС**: Па-вашаму, Сьвятлана Алексіевіч прывезла гэтую банкетную прамову зь Менску ці пісала яе ўжо недзе там на месцы, у Стакгольме?

**Плакс**: Я ў гэтым не арыентуюся вельмі моцна. Я ведаю, што тэкст Нобэлеўскай лекцыі трэба было напісаць у Менску, бо канчатковы тэрмін быў 21 лістапада ці нешта такое. Наконт банкетнай прамовы я дакладна ня ведаю, але, ведаючы

Сьвятлану, я магу сабе ўявіць, што яна, можа быць, напісала яе яшчэ ў Менску, але я амаль упэўнены, што яна перапісвала яе і дарабляла да апошняга моманту. Бо яна так працуе — шліфуе свае тэксты да самага апошняга моманту.

## Трактар ад Алексіевіч

12 сьнежня 2015
Зьміцер Бартосік , Менск

*Перадача з цыклю «Падарожжы Свабоды».*

Нобэлеўская прэмія па літаратуры валодае магіяй чароўнай палачкі. Прычым менавіта літаратурная, а не навуковая.

Бо кнігі ляўрэата, у адрозьненьне ад навуковага адкрыцьця, можна адразу пачаць чытаць. А ў мясьціны, дзе літаратар рос і выхоўваўся і якія паўплывалі на яго сьветапогляд, можна паехаць хоць заўтра. І тыя мясьціны, якімі б нецікавымі яны ні былі ўчора, пасьля дакрананьня чароўнай нобэлеўскай палачкі набываюць новыя рысы.

Дарога сярод вымерлых палескіх вёсак становіцца іншай. Бо гэта Яе дарога. Не сумняваюся, што калі-небудзь у Капаткевічы і Івашкавічы паедуць літаратурныя турысты. Усім раю са сталіцы ехаць праз Любань і Навасёлкі. Гэта карацей і даведаесься больш. А ў Навасёлках вас чакае сапраўднае адкрыцьцё. Можа быць, найлепшы помнік партызанам у Беларусі. Прынамсі, мяне гэты помнік проста агаломшыў. Я спыніўся і стаяў каля яго чвэрць гадзіны. Манумэнт уяўляе сабой тры агромністыя чалавечыя фігуры. Кожная вышынёй з трохпавярховы дом. Бэтонныя волаты не стаяць статычна, а выяўленыя ў дынаміцы. Тры гіганты з суворымі тварамі выходзяць зь лесу на вялікую дарогу.

І звычайная школа ў Капаткевічах, якую скончыла ў 1965 годзе Сьвятлана Алексіевіч, таксама дзякуючы чароўнаму Нобэлю перастае быць проста звычайнай школай. Дарэчы, школа сапраўды незвычайная. Школа выпусьціла каляндарык на будучы год, прысьвечаны Нобэлеўскай ляўрэатцы. А на дошцы абʼяваў на самым бачным месцы вісіць інфармацыя пра знакамітую выпускніцу.

Гэтую працу робіць настаўніца беларускай мовы Натальля Каліцька.

— Нашы настаўнікі заўжды падтрымлівалі цікавасьць да яе асобы. Хоць па праграме яна не вывучалася асабліва. Заўсёды зьвярталі ўвагу вучняў, што ў нас была такая выпускніца. Ёсьць і стэнд, прысьвечаны ёй. Нашы дзеці яе ведаюць.

Як шмат залежыць для выхаваньня пачуцьця радзімы ад выкладчыка беларускай мовы і літаратуры. Беларускую мову Сьвятлане Алексіевіч выкладала Аляксандра Антанішына.

— Матэматыку яна не любіла, беларускую мову яна ня надта паважала таксама. Яна цэлую сумку, кніг дзесяць, цягала з сабой. Часам у мяне на ўроку чытала. Я чытала яе кнігі. Цяжка чытаюцца. Яна апісвала найгоршыя эпізоды. Выбірала такіх людзей, хто перажыў многа. Аб партызанах адгукалася вельмі кепска. Гэта няправільна. Партызаны таксама былі людзі харошыя. Нашы Капаткевічы ў вайну спалілі. Дык партызаны апрацоўвалі агароды. А тое, што адзежу зьдзіралі... Дык людзі ж самі не давалі. Прыйдуць немцы,

дык ім з-за страху давалі ўсё. І партызану нічога не дадуць. Што ім заставалася рабіць? Трэба было рабаваць! Партызаны многа зрабілі харошага. Праўда, з-за іх людзей палілі. Але што зробіш? Гэта вайна.

Уявіце сабе ўрокі беларускай літаратуры без Караткевіча і Стральцова. Без Барадуліна і Адамчыка. Бяз Быкава і Адамовіча. Бо яны зьяўляцца ў школьнай праграме пазьней. А вось што было. І што не магло не адбіцца ў памяці юнай Сьветы Алексіевіч.

— Да яе ніяк не даходзіла, што такое «вобраз народу». Вобраз асобнага героя — гэта яна разумела. А агульны вобраз не даходзіў да яе. Гэта ж адзін народ. Рускі і беларускі. Усе так лічаць. Быў адзін і застаўся адзін.

А яшчэ чароўная нобэлеўская палачка цудоўна раскрывае людзей. Паслухаем словы старой настаўніцы на адрас сваёй знакамітай вучыніцы.

— Я зьдзіўляюся, як яна атрымала Нобэлеўскую прэмію. За тое, што плявузгала на Савецкі Саюз. Выбірала найгоршае. Чаму яна харошае не выбірала? Хай бы яна і тое, і другое апісвала. Навошта самае горшае?

Алексіевічы жылі ў Івашкавічах. У школу Сьвятлана хадзіла зь сяброўкаю, Надзеяй Шут. Надзея ўсё жыцьцё прарабіла сельскай бібліятэкаркай. І ўсё жыцьцё прапагандавала творчасьць сваёй сяброўкі.

— Яна ў самадзейнасьці ўдзельнічала і песьні нават пісала. Мы сьпявалі яе песьні.

Калгасныя кіраўнікі пабудавалі ў Івашкавічах аграсядзібу. Называецца «Матчына хата». Домікі ў той сядзібе зробленыя са зрубаў хат, дзе ніхто ўжо не жыве. Але дом, дзе жыла сям'я Алексіевічаў, калгасныя ўлады разбурылі і закапалі. І яго не ўваскрэсіць ніякая чароўная палачка. У мястэчку Асавец, дзе Алексіевічы жылі пасьля Івашкавічаў, таксама не засталося нічога памятнага — ні дома, ні школы, дзе пісьменьніца працавала свой першы працоўны год.

І гэта вельмі мяне ўзрадавала. Я нават знаходжу ў гэтым таксама ўмяшаньне чароўнай сілы. Бо няма чаго тут рабіць турыстам. Ну, ня слухаць жа шчырасьці ад былых настаўнікаў Асавецкай школы. Напрыклад, вось такія. Ад былой дырэктаркі, Галіны Крысько. Таксама выкладчыцы роднай мовы.

— Як Вы ўспрынялі навіну пра Нобэля?

— Адмоўна. Як яна з Народным фронтам зьвязалася, яна ня езьдзіць да нас. З Быкавым, я знаю, яна зьвязалася. Быкава я паважаю, як пісьменьніка. Але яго паводзіны! Адмоўныя! Як можна пайсьці пісьменьніку ў Народны фронт?! Як можна супраць народу свайго выступаць?

Вох, атрымаў бы Быкаў па «паводзінах» ад Галіны Рыгораўны двойку. Але ж былі залатыя часы ў асавецкай школе!

— Мы зрабілі першы ў раёне музэй Леніна! У нас быў зроблены шалаш. І Ленін быў зроблены. Сядзеў на пяньку і пісаў. Як у вялікім музэі. І маўзалей быў зроблены!

— А з чаго ж вы зрабілі Леніна?

— Выразалі. На пяньку сядзеў. У адзеньні. Усё, як трэба.

Шкада, што асавецкі філіял мадам Цюсо разбураны. Зрэшты, і Нобэлеўскую прэмію далі «не па адрасе». Якою б пісьменьніцай магла б быць сама Галіна Крысько! Калі б ня гэты маўзалей.

— «У вайны не жаночае аблічча» цяжка чытаецца. У яе няма ідэі нейкай. Праз кожныя пяць аркушаў новы расказчык. Дык я таксама так пісала! Сяду, афармлю і будзе тая самая кніга!

Васіль Марціновіч, колішні настаўнік працы, той самы «тата Карла», які з палена выразаў Леніна, бачыць сакрэт Нобэля Алексіевіч у душэўным сяброўстве Сьвятланы Аляксандраўны зь Зянонам Пазьняком.

— Няхай на здароўе атрымлівае. Яна ж працавала для гэтага. Калі б яна ня зьехала ў Францыю, то не далі б ёй. Ёсьць жа і разумнейшыя. Але так яна нас клявала, клявала. Расію і Беларусію. Яна ж з гэтым Пазьняком увесь час. Яны бэнээфаўцы. Ну во, чамусьці далі. Ну, для нас, для Беларусіі, няблага.

А жонка пана Марціновіча, Ганна, сакрэт посьпеху Алексіевіч знаходзіць не ў хаўрусе з Пазьняком, а з Лукашэнкам. Толькі ня ў кнігах пісьменьніцы.

— Яна сама вінаватая. Яна магла б яшчэ большым аўтарытэтам карыстацца. Калі б яна жыла ў Беларусіі. Пісала б аб беларусах. Яна абрала сабе такі шлях. Канечне, радасна. Што Нобэлеўскую

прэмію далі ёй. Але ў яе нямнога кніг. Ёсьць пісьменьнікі, у якіх творы мацнейшыя. Нобэлеўскую прэмію яна атрымала з-за таго, што многа ў яе выказваньняў было пра Лукашэнку. Але, як бы там ні было, я задаволеная. Хай будзе ў нас, у Беларусіі, Нобэлеўская прэмія.

А былая настаўніца гісторыі Галіна Кісель бачыць прычыну Нобэлю Алексіевіч у жыда-масонскай змове...

— Я з гэтай сям'ёй вельмі сябравала. Бацька вельмі харошы. Але высьветлілася аднойчы, што яны ўсё-ткі яўрэі! А я яўрэяў не ўважаю. Што яны робяць у сьвеце? Царскія ўлады не падпускалі яўрэяў блізка да Масквы і Піцеру. Вось чаму іх так многа на ускраінах. Асабліва ў Беларусіі. Чаму зараз усе расійскія алігархі яўрэі? Як і ў Штатах!

Дык як жа «адкрылася таямніца яўрэйства» Сьвятланы Алексіевіч? Аказваецца, прыехаў з Мазыра школьны інспэктар. І пачуў, як Алексіевіч старэйшая выкладала асавецкім дзеткам замест нямецкай мовы ідыш! А я ж, наіўны, думаў, што антысэміцкае трызьненьне засталося ў далёкім мінулым.

— Быў Зяленін, інспэктар. Ён сам з Навасібірску. Ён не стрымаўся пасьля яе ўроку. Ішоў і крычаў: «Як вы сьмееце на яўрэйскай мове выкладаць!»

Алексіевіч называе героя сваёй апошняй кнігі «чырвоным чалавекам». Гэтаму асавецкаму чалавеку мне цяжка падабраць колер.

— Са Сьветай я паддружвала. У нас розьніца невялікая ва ўзросьце. Але мне асабіста

яе кнігі не падабаюцца. Не маё. Ня наша! Цяпер Нобэлеўскую прэмію выдаюць Штаты. Сваім сябрам. За што Гарбачову далі? За тое, што Саюз разваліў. За што Абаму далі? За тое і Алексіевіч далі. Каб брахала на нас. Як можна не любіць Радзіму? Яна ганьбіць нас сваёй прэміяй.

Таемная яўрэйка, якая, пасябраваўшы зь Зянонам Пазьняком, зьвязалася з Васілём Быкавым, каб уступіць у Народны Фронт, каб пасьля атрымаць Нобэлеўскую прэмію ад Барака Абамы за тое, што «плявузгае» на Лукашэнку. Пасьля ўсяго пачутага на радзіме гераіні, мне вельмі хацелася адсюль як мага хутчэй зьбегчы. Бо сам ужо стаў непакоіцца за сваё псыхічнае здароўе. Каб спытацца карацейшага шляху я зайшоў у машынна-трактарны парк мясцовага СВК. Дзе курылі трактарысты і мэханікі. Неінтэлігентныя, грубыя мужыкі з мазолістымі мазутнымі рукамі. Тут і адбыўся дыялёг, які лягчэй уявіць на менскай кухні.

— Вы ня ведаеце Сьвятлану Алексіевіч?

— Вядома, ведаем.

— У мяне нават дзьве кнігі яе ёсьць. «Цынкавыя хлопчыкі», «У вайны не жаночае аблічча».

—Цяпер беларусы практычна нічога не паказваюць пра яе. А па спадарожніку, па канале «Белсат» я глядзеў, як яе ўзнагароджвалі. Нобэлеўская прэмія! Гэта ж першы раз такое ў Беларусі!

— Маці нямецкую мову выкладала, а бацька рабіў ваенруком.

— І пра яе нічога нашы навіны не паказваюць. Нічога! А на «Белсаце» будзе ўсё.

— Вы радыя?

— Радыя, вядома. Зямлячка.

— Хай бы ў родны калгас з таго мільёну купіла трактар. А мы б напісалі «Сьвятлана Алексіевіч».

— Гэта як раней на танках пісалі?

— Так, на трактары б напісалі.

Сапраўды, калі на фронце былі танкі «ад Любові Арловай», чаму б ня быць трактару «ад Сьвятланы Алексіевіч»? Ёсьць людзі, якія гэта заслугоўваюць.

# Вайна і мір Сьвятланы Алексіевіч

12 сьнежня 2015

*Што мы пачулі з Нобэлеўскай трыбуны, ці аб'яднае беларусаў прэмія і ці прывядзе грамадзтва ў рух? Пра гэта ў перадачы «Зона Свабоды» на тэлеканале «Белсат», якую вяла Алена Ціхановіч, дыскутавалі журналісты Радыё Свабода Аляксандра Дынько, Ян Максімюк і Сяргей Навумчык.*

«Бяру на сябе сьмеласьць сказаць, што мы змарнавалі свой шанец, які ў нас быў у 90-ыя гады. На пытаньне: якой павінна быць краіна — моцнай або годнай, дзе людзям добра жыць, выбралі першы — моцнай. Цяпер зноў час сілы. Расейцы ваююць з украінцамі. З братамі. У мяне бацька — беларус, маці — украінка. І так у многіх. Расейскія самалёты бамбуюць Сырыю... Час надзеі зьмяніўся часам страху. Час павярнуў назад... Час сэканд-хэнд...»

**Ціхановіч**: Гэта фрагмэнт Нобэлеўскай лекцыі — вайна і мір, і чалавек Сьвятланы Алексіевіч...

Першая ў гісторыі незалежнай Беларусі Нобэлеўская прэмія стала заслугай пісьменьніцы Сьвятланы Алексіевіч. Можа быць, таму, што яна першая так шмат увагі і патрабавальнасьці надала гераіні ў грамадзтве, а зь іншага боку, у сыстэме першага прэзыдэнта так шмат разгубленасьці і дэманстратыўнай няўвагі. Дык з чым нас, беларусаў, можна павіншаваць? Ці можна казаць,

што нацыя набыла свой новы маральны аўтарытэт? Першае пытаньне да Аляксандры Дынько, якая суправаджае пісьменьніцу на працягу ўсяго Нобэлеўскага тыдня. Якія ў вас уражаньні ад атмасфэры ўрачыстасьці, у якой была Алексіевіч, і увогуле, як вы яе ўспрынялі ў новай якасьці?

**Дынько**: Вы ведаеце, гэтыя мерапрыемствы, якія праходзяць падчас Нобэлеўскага тыдня — частка зь іх такая ўрачыстая, патасная, пратакольная і нават старамодная. Учора была цырымонія ўручэньня Нобэлеўскай узнагароды, і усе гэтыя дрэс-коды, калі мужчыны прыходзяць абавязкова ў фраках, а жанчыны ў доўгіх сукенках, удзел караля; калі кароль устае — усе ўстаюць, а падчас Нобэлеўскага банкету, напрыклад, пакуль кароль ня ўстане, ніхто ня можа ўстаць з-за стала, нават у туалет.

І вось гэтая ўрачыстасьць і патаснасьць, калі ты там прысутнічаеш, я ня ведаю, ці гэта было відаць праз трансьляцыю, але насамрэч ты адчуваеш, што гэта ўсё зроблена для таго, каб ушанаваць веліч чалавечага духу. Ты бачыш на сцэне дзесяць нобэлеўскіх ляўрэатаў — ты разумееш, што ты бачыш людзей, якія так цяжка працавалі і так шмат, якія настолькі таленавітыя, што ўнёсак кожнага з іх зьмяніў сьвет і тваё жыцьцё ў прыватнасьці. І ўсе гэтыя ўрачыстасьці зробленыя менавіта для гэтага. Не яны прыйшлі сустракацца з каралём, а кароль прыйшоў як сымбаль Швэцыі ўшанаваць, уганараваць іхны ўчынак.

Так было са Сьвятланай Алексіевіч, яна заўсёды была шчырая — гэта казалі мне ўсе, з кім

я размаўляла пасьля імпрэзаў зь яе ўдзелам, яна была адкрытая, было відаць, што яна хвалюецца, але гэтае хваляваньне не перашкаджала ёй казаць пра тое галоўнае, пра што яна хацела сказаць.

**Ціхановіч**: Ці не здалося вам, што аплядысмэнты, якімі заля сустракала Алексіевіч, былі самыя гучныя?

**Дынько**: Гэта справядліва. Так, Сьвятлану Алексіевіч ведаюць, і, я б сказала, паважаюць і любяць. Там было шмат швэдаў, усе кнігі Сьвятланы Алексіевіч перакладзеныя на швэдзкую мову, шмат хто яе чытаў, ну і вы ведаеце, што Нобэлеўскі ляўрэат па літаратуры проста бліжэйшы да публікі, таму што яго вядомасьць і разуменьне таго, што ён зрабіў, нашмат шырэйшыя, чым, напрыклад, Нобэлеўскага ляўрэата па хіміі.

**Ціхановіч**: Непасрэдна перад тым, як Сьвятлана Алексіевіч атрымала свой дыплём і залаты мэдаль з рук швэдзкага караля, старшыня Нобэлеўскага камітэту па літаратуры Пэр Вэстбэрг назваў яе пяць кніг літаратурным і маральным шэдэўрам. Ян, як вы думаеце, гэта моцны аргумэнт супраць тых, хто раней казаў, што тое, што піша Алексіевіч, гэта, маўляў, не літаратура?

**Максімюк**: Напэўна. Гэта моцны аргумэнт. Я прыгадваю, я быў у Беластоку праз два тыдні пасьля абвяшчэньня Нобэлеўскага вэрдыкту прэміі па літаратуры, і я ўбачыў у беластоцкіх кнігарнях чатыры кніжкі Алексіевіч на польскай мове. У кнігарнях у Празе мы бачым кніжкі на чэскай мове. Вось гэта ёсьць аргумэнт, людзі па-

чынаюць цікавіцца, хочуць даведацца, што існуе такая пісьменьніца, і я думаю, такое ўспрыманьне Алексіевіч чытачамі ў іншых краінах, бачаньне нашай пісьменьніцы вачыма іншых будзе аргумэнтам і будзе пераконваць тых, хто казаў: тое, што піша Алексіевіч, гэта журналістыка. Пачынаючы з часоў перабудовы гэта ўжо тысячы разоў перамалолася ў публіцыстыцы. Я думаю, успрыманьне Алексіевіч замежным чытачом, магчыма, дазволіць і нам убачыць яе ў іншым сьвятле, і ўбачыць таго, чаго да гэтай пары мы не бачылі.

**Ціхановіч**: А зараз пра тое, чаму над ёй вось так сёлета сышліся зоркі. Калі мы азірнемся на гэты год, які сыходзіць — у тую самую Нямеччыну прыйшоў мільён уцекачоў, калі зноў успыхнула вайна ў Сырыі, Расея пасьля Украіны кінулася біцца з Турэччынай. Сяргей, на вашу думку, ці можна назваць рашэньне Нобэлеўскага камітэту празорлівым, што яно дало прэмію таму аўтару, які дасьледуе чалавека ў часы катастрофы? Які піша літаратуру нон-фікш?

**Навумчык**: Справа ў тым, што ня толькі гэты год пераломаў, катастрофаў, як вы сказалі. Прыгадайце 2014 год — там увогуле ўварваньне Расеі ва Ўкраіну, упершыню краіна-сябар Рады бясьпекі ААН учыніла агрэсію — такога проста ніколі не было. Я бы ня стаў ня тое што перабольшваць палітычны фактар, а ўвогуле неяк яго браць пад увагу.

Мы ведаем, што архівы, стэнаграмы, пратаколы Нобэлеўскага камітэту рассакрэчваюцца толькі праз 50 гадоў, мы з вамі ўжо іх не прачы-

таем, нашы ўнукі напэўна, але вось тыя архівы, якія рассакрэчаныя, скажам, да 1964-65-га году, паказваюць, што нават у прэміі Пастэрнаку за «Доктара Жывага» палітычны фактар — мы памятаем, якія тады былі дэбаты, якія падзеі, яны фактычна падкасілі Пастэрнака — практычна ня браўся пад увагу. Ацэньваюцца мастацкія, гуманістычныя якасьці.

Калі гаварыць пра Алексіевіч — я думаю, тут два фактары. Мастацкія якасьці, праблемы гуманізму і тое, што мы казалі. Пасьля Чэрчыля за 60 гадоў аўтар атрымаў прэмію за нон-фікшн, за дакумэнтальную літаратуру. На Захадзе нон-фікшн даўно ўжо прызнаны як літаратурны жанр, там дзіды ня ломяць з гэтай нагоды. У нас напэўна пройдзе яшчэ 50 гадоў, пакуль прызнаюць. Але гэта, канечне, важны момант, проста Нобэлеўскі камітэт паказаў, што так — гэта літаратура. Ну і, канечне, Алексіевіч — гэта выдатная пісьменьніца.

**Ціхановіч**: Якія спадзяваньні нарадзіліся ў беларускіх элітаў у сувязі з здабыцьцём Нобэля? Ці былі адэкватнымі спадзяваньні, што Алексіевіч павінна стаць голасам і сумленьнем Беларусі і гаварыць толькі як беларуская пісьменьніца, выступаць супраць «русского мира»?

**Максімюк**: Я б сказаў, што такія спадзяваньні былі, і яны былі нешматлікія, хутчэй за ўсё, як вы кажаце, большасьць сумнявалася ў тым, ці ўвогуле яна выступіць як беларуская пісьменьніца, ня кажучы пра тое, ці будзе яна прадстаўляць беларускае бачаньне рэчаіснасьці. Што тычыцца

таго, ці беларуская яна пісьменьніца, ці нейкая іншая, думаю, яна дакладна адказала на гэтае пытаньне ў сваіх і Нобэлеўскай лекцыі, і банкетнай прамове. Што тычыцца таго, ці фактычна яна можа стаць голасам і сумленьнем Беларусі — я б тут быў асьцярожны. Я думаю, што тут натуральна кожны пісьменьнік, які атрымлівае такую прэмію, ёсьць нейкім чынам ня толькі прыватнай асобай, але і голасам народу. Але я ня думаю, што Сьвятлане Алексіевіч роля такога голасу народу выгадная, яна хутчэй за ўсё прыватны чалавек.

**Ціхановіч**: Мы ня можам не заўважыць таго разьвіцьця, якое Сьвятлана Алексіевіч прайшла літаральна на працягу гэтага Нобэлеўскага тыдня, я хачу якраз у сувязі з гэтым зьвярнуцца да Аляксандры як да бліжэйшай сьведкі. Памятаеце, Аляксандра, толькі напачатку, адразу пасьля лекцыі некаторыя беларускія аўтары пачалі крытыкаваць Алексіевіч за тое, што яна мала гаварыла пра Беларусь у сваёй лекцыі, што не сказала ні слова па-беларуску, і яна якраз выбрала вас, каб праз вас адказаць сваім крытыкам. А вось тое, што прагучала як разьвітальнае слова на банкеце, хіба не паказала, што яна сапраўды мае такое мудрае вуха, каб і пачуць крытыку і рэагаваць?

**Дынько**: Сапраўды гэтая прамова, якая прагучала на банкеце, яна зрабіла ўсю Беларусь шчасьлівай. Адну канкрэтную краіну адной канкрэтнай прамовай нобэлеўская ляўрэатка ашчасьлівіла. Я ведаю, гэтая прамова дапрацоўвалася, зьмены ў яе ўносіліся літаральна за гадзіны

да цырымоніі. Ня ведаю, у якой канкрэтна частцы яна была перарobленая, але тое, што Сьвятлана працавала над ёй да апошняга моманту — гэта сапраўды так, гэта тое, што мне сказалі падчас банкету. Канечне, я бачыла пасьля ў сацыяльных сетках, у Фэйсбуку, як людзі на гэта рэагавалі — усе былі шчасьлівыя. Я падышла пасьля да Сьвятланы Аляксандраўны, сказала, што я плакала падчас яе прамовы — гэта сапраўды так, але яна, праўда, мне адказала: «ну, Аляксандра, калі ўжо вы плакалі...».

**Ціхановіч**: Крытык Свабоды Сяргей Дубавец прызнаўся ў сваім блогу, што ён таксама, калі пачуў беларускую мову, плакаў, што Сьвятлана Алексіевіч усіх расчуліла. Я скажу, што многія крытыкі пісалі — гэта была бліскучая кульмінацыя.

Былы амбасадар Швэцыі ў Беларусі Стэфан Эрыксан быў усе гэтыя дні адмысловым нобэлеўскім аташэ ляўрэаткі, яе памочнікам і дарадцам. Вось што ён сказаў у інтэрвію Свабодзе.

**Эрыксан**: Перш за ўсё гэта такі важны момант для беларусаў, як успрымаць гэта. Для мяне гэтая ўзнагарода — гэта ўсё ж доказ таго, што Беларусь зьяўляецца часткай Эўропы і астатняга сьвету. Тое, што адбывалася, адбываецца ў Беларусі — гэта цікава, гэта важна ня толькі для саміх беларусаў, гэта такі крок, я бы сказаў, збліжэньня Беларусі з астатнім сьветам, таму што ў чымсьці, гэта Сьвятлана сама гаварыла, падзеі ў Беларусі разьвіваліся трохі асобна, мабыць, адарвана ад

працэсаў, якія адбываюцца ў астатнім сьвеце. У нас глябалізацыя, і таму, я лічу, вельмі важна мець стаўленьне да таго, што адбываецца ў суседніх краінах, і ня толькі ў суседніх. Нават тое, што адбываецца ў краінах на вялікай адлегласьці, мае для нас значэньне. Мы вывучаем самога сябе праз тое, як мы ўспрымаем, што адбываецца навокал. Я думаю, што ў Швэцыі я магу гаварыць толькі пра Швэцыю. Былі людзі, якія, хачу падкрэсьліць, добра ведалі пра Беларусь, мабыць, у Швэцыі больш, чым у сярэдняй эўрапейскай краіне, але натуральна, вось гэта падзея яшчэ пашырыць вядомасьць ня толькі Сьвятланы Алексіевіч, але людзі таксама будуць больш ведаць пра Беларусь. Я лічу, што гэта сапраўды шанец для краіны стаць эўрапейскай.

**Ціхановіч**: Ці ганарыцеся вы прэміяй, якую атрымала Сьвятлана Алексіевіч? Такое пытаньне наш карэспандэнт задаў мінакам на вуліцах Менску.

«— Канечне, ганаруся. Гэта першая для Беларусі Нобэлеўская прэмія. Таму гэта вельмі прыемна. Мне канечне ня блізкія напэўна яе апазыцыйныя настроі. Я лічу, што беларуска ўсё павінна пісаць — і пра Беларусь у цэлым, і нейкія пазытыўныя настроі.

— Я, на жаль, не глядзела.

— **РС**: Што не глядзелі?

— Нобэлеўскія прэміі. Яна сьпявачка?

— Я за яе радая. Але, на жаль, прабачце, ня ведаю, хто гэта. Таму што ў жыцьці іншыя праблемы.

— Не. Не ганаруся. З прычыны таго, што я ведаю, усю інфармацыю пра яе расказваюць, не, не ганаруся. Не падтрымліваю. Не магу гэта ўсё вам раскрыць, так што не.

— **РС**: З-за яе палітычных поглядаў?

— Палітычных.

— Ганаруся. Ну чаму, таму што хоць яна кажа, што яна паходжаньня трохі ўкраінскага, але ж беларускае таксама ёсьць.

— Так, вядома ж, ганаруся. Я проста не грамадзянін Беларусі, але я ганаруся за вас. І яе стаўленьне да Ўладзіміра Ўладзіміравіча Пуціна мне таксама вельмі падабаецца.

— Я вельмі ганаруся ёй. Ва ўсім сьвеце яе ведаюць, цэняць, і мне вельмі шкада, што ў маёй роднай краіне пра яе ніхто нават ня ведае. І што на самым высокім узроўні наш прэзыдэнт нават не павіншаваў яе, гэта абы-што».

**Ціхановіч**: Калегі, як вы мяркуеце, ці спраўдзіцца спадзеў Стэфана Эрыксана, што прэмія Алексіевіч аб’яднае беларусаў?

**Максімюк**: Я скажу так: хацелася б, каб ён спраўдзіўся, каб яна аб’яднала, хоць, што тычыцца такога палітычнага падзелу беларусаў, у мяне ёсьць сумневы, што яна можа да гэтага прычыніцца. Калі наступіць нейкае паразуменьне ці збліжэньне, то, хутчэй за ўсё, я б сказаў, у сфэры культуры, бо Сьвятлана Алексіевіч даказвае сваёй творчасьцю, сваёй асобай і тым, пра што яна гаварыла ў Стакгольме на гэтым тыдні, што магчыма быць выхаваным у расейскай культуры, магчыма ў Беларусі пісаць па-расейску,

і ўсё ж быць беларускай пісьменьніцай і сказаць у сваёй творчасьці пра свой народ, а ня толькі пра расейцаў ці пра савецкі народ агульна.

**Ціхановіч**: Сяргей, а як вы пракамэнтуеце той погляд, што некаторыя беларусы лічаць Алексіевіч апазыцыйнай пісьменьніцай? Памятаеце, які страх быў і разгубленасьць беларускага тэлебачаньня, якое адмовілася трансьляваць Нобэлеўскую лекцыю? Але па сутнасьці ў лекцыі не было нічога, чаго нельга было б паказаць па беларускім тэлебачаньні. Там не было ні Пуціна, ні Лукашэнкі. Вы сказалі, ну і добра — лекцыя павінна быць апалітычнай. Якія важныя акцэнты дадала тая разьвітальная прамова?

**Навумчык**: Я не лічу, што лекцыя павінна быць апалітычнай, я проста бачу, што могуць быць розныя лекцыі, і з палітычным ухілам, і зь нейкім тлумачэньнем творчага мэтаду. Алексіевіч выбрала апошні варыянт, гэта яе права. Нічога дзіўнага ў такім падыходзе некаторых людзей, апытаных на вуліцы, няма, таму што ўжо больш як дваццаць гадоў існуе ў Беларусі такая тэндэнцыя, якая навязваецца ўладамі праз дзяржаўныя СМІ. На гэтым вырасла пакаленьне, нават можа ўжо другое расьце пакаленьне, што тыя, хто не з Лукашэнкам, — тыя супраць усяго. Вось не пайшла яна на паклон да Лукашэнкі — значыць, яна апазыцыянэрка, хаця якраз-такі я б сказаў, калі прааналізаваць інтэрвію Сьвятланы Алексіевіч, пачынаючы з 90-х гадоў, яна далёка не ва ўсім падтрымлівала, напрыклад, Беларускі Народны Фронт. Я б сказаў, што яна ўвогуле БНФ

не падтрымлівала. Крытыкавала пэўных лідэраў Народнага Фронту, пры тым, што яна, безумоўна, чалавек дэмакратычных перакананьняў.

Наш калега Юры Дракахруст трапна заўважыў: калі б там у адміністрацыі сядзелі больш разумныя людзі, яны б «Час second-hand» друкавалі двух-трохмільённым накладам і зрабілі б абавязковым чытаньнем у школах, бо яна паказвае 90-я гады як сапраўды гады абсалютнай трагедыі. А мы ведаем, што 90-я гады былі і іншыя...

**Ціхановіч**: Мы ведаем, што ў тых спадзяваньнях, якія выказваліся сучаснымі беларусамі, якраз рабіўся націск на тое, што не хапае сучасных рэалій, не хапае іх ацэнкі. Яна гэта зрабіла ў сваёй разьвітальнай прамове.

**Навумчык**: Калі вы маеце на ўвазе творчасьць, то як пісьменьніца яна мае права выбіраць любую тэму, паказваць як ёй хочацца. Мы ня можам прад'яўляць прэтэнзіі, прабачце, да Дастаеўскага, што ён паказаў нейкія цёмныя бакі Пецярбургу ці таго часу. Я думаю, што цяпер мы павінны ўспрымаць і Нобэлеўскую лекцыю, і яе банкетную прамову ў комплексе. Нобэлеўская лекцыя была больш пра творчы мэтад і гуманістычныя ідэалы, а вось прамова ўжо мела больш актуальны, больш палітызаваны і, як мы бачым у завяршэньні, ужо нацыянальны ўхіл. Адзінае, што я скажу, я пагадзіўся б з тымі яе крытыкамі, якія сказалі, што ўсё ж у Нобэлеўскую лекцыю, паколькі яна застаецца назаўсёды, усё ж можна было сказаць пра праблемы беларускай мовы, пра праблемы нацыі.

**Ціхановіч**: Тое, што мая краіна — Беларусь.

**Навумчык**: Так, яна казала пра гэта, што Беларусь яе краіна, а вось банкетная прамова — я таксама вельмі эмацыйна яе ўспрыняў, асабліва калі пачуў, што яна прыгадала — у Нобэлеўскай лекцыі яна прыгадала Адамовіча, а тут яшчэ Васіля Быкава.

**Ціхановіч**: Аляксандра, у мяне пытаньне да вас, таму што, як я ўжо згадала, Алексіевіч выбрала вас як мэдыятара, які б адказаў за яе на крытыку. Як вы думаеце, мы ведаем Алексіевіч, што яна чалавек поглядаў, чалавек цьвёрды, верная сабе. Кароль хацеў, каб яна прыйшла ў вечаровай сукенцы да падлогі. Гэтага патрабуе і рэглямэнт Нобэлеўскага камітэту. Алексіевіч зручней ў штанах — яна прыйшла ў штанах. Беларусы хацелі, каб больш сказала пра Беларусь, каб сказала па-беларуску, і яна праявіла гнуткасьць. Як вы думаеце, чаму?

**Дынько**: У Сьвятланы Аляксандраўны ёсьць такія якасьці, якімі хацелася б, каб валодалі нашыя палітыкі. Яна сапраўды ідэальна ўмее фармуляваць праблемы сучаснасьці, і калі ёсьць закіды наконт таго, што яна нейк недасканала і недастаткова выказалася пра сваю палітычную пазыцыю, то гэта абсалютна ня так. Кажуць, што яна па-над палітыкай — ну гэта проста несправядліва, бо вакол гэтых падзеяў былі раздадзены мільёны інтэрвію, у якіх яна была празрыстая ў сваім стаўленьні да таго, што адбываецца і ў Беларусі, і ў Расеі, і ў канфлікце паміж Расеяй і Украінай. У яе вельмі вялікае палітычнае чуцьцё,

уменьне бачыць праблему, бачыць, чаго хочуць людзі, уменьне шчыра і ясна зьвяртацца да гэтых людзей. Я мела магчымасьць назіраць яе ў розных аўдыторыях, яна для кожнага знаходзіць свае словы.

**Ціхановіч**: Нельга яе абвінаваціць у тым, што яна, як Лукашэнка, трошку папуліст?

**Дынько**: Абсалютна не. Абсалютна няма такога ўражаньня, я ўжо казала, што ўсе зьвярталі ўвагу на яе шчырасьць, на яе вернасьць сабе, і вы толькі што сказалі, што гэтую вернасьць сабе можна і вонкава прасачыць. Заўважу, што падчас гэтай банкетнай прамовы яна мусіла зьвярнуцца да караля паводле этыкету — яна гэтага не зрабіла.

**Ціхановіч**: У адным з інтэрвію Свабодзе Алексіевіч ужыла такую фразу: калі б я была прэзыдэнтам. Можа быць, гэта такая моўная фігура? Сяргей, як вы ацэньваеце палітычныя амбіцыі Алексіевіч?

**Навумчык**: Я вельмі слаба асабіста ведаю Алексіевіч, знаёмы з ёй, але 22 гады таму апошні раз сустракаўся з ёй. Ну, акрамя па тэлефоне. Мне цяжка сказаць, але я адчуваю, яна абсалютна чалавек індыфэрэнтны да актыўнай палітыкі. У яе была магчымасьць сто разоў удзельнічаць у палітыцы, ісьці на нейкія выбары, дэпутатам і гэтак далей, яна гэтага не рабіла. Я думаю, яна проста адчувае сваё пакліканьне — гэта літаратура. Безумоўна, ніхто не аспрэчвае, што Нобэлеўская прэмія — гэта гістарычная падзея для Беларусі, гэта тое, што застанецца, і ўжо ад нас, ад

грамадзянаў Беларусі залежыць, ці зможам мы скарыстацца тым, што дае прэмія Сьвятланы Алексіевіч.

**Ціхановіч**: А калі казаць пра яе даволі жорсткія ацэнкі, якія гучаць? Перад адлётам у Стакгольм яна сказала: мы жывем як у партызанскім атрадзе, іншыя рэчы. З другога боку, яна выказвае спадзяваньне, што грамадзтва прыйдзе ў рух. Сам гэты Нобэль, сама Алексіевіч, якой яна стала, здольнае гэта быць такім штуршком, каб грамадзтва прыйшло ў рух?

**Максімюк**: Напэўна, так. Калі казаць пра пэрспэктывы ўдзелу ў палітыцы Алексіевіч, я б сказаў, што я сабе магу ўявіць, што яна можа прыйсьці на мітынг, дзе зьбіраюцца людзі і сказаць сваё слова зараз ужо ў іншай зусім якасьці, але я ня думаю, што яна б належала да тых, хто такі мітынг арганізаваў. Калі я зь ёй гаварыў два гады таму, яна сказала, што ёй яшчэ хочацца напісаць дзьве кнігі, а ведаючы, як Сьвятлана Алексіевіч працуе, не сьпяшаючыся, перапісваючы ўвесь час, энэргія, якая застаецца, у яе на гэтыя дзьве кнігі і пойдзе. Пра палітыку я тут не гаварыў бы.

**Ціхановіч**: Аляксандра, хто цяпер самы знакаміты беларус?

**Дынько**: Я вярнуся да вашага папярэдняга пытаньня, я шчыра лічу, што на дадзены момант Сьвятлана Алексіевіч ужо перамагла Аляксандра Лукашэнку. І цяпер людзі, якія будуць прадстаўляць Беларусь у сьвеце і казаць «Я зь Беларусі», першае, што людзі будуць згадваць — не Лукашэнку, не апошнюю дыктатуру Эўропы, а тое,

што Беларусь — краіна Нобэлеўскага ляўрэата. Гэта зрабіла Сьвятлана Алексіевіч.

**Ціхановіч**: Сьвет ацаніў Сьвятлану Алексіевіч за тое, што пачула, што сабрала галасы жыхароў савецкай утопіі, што падзяляла іх боль і ілюзіі, што ўрэшце сама з гэтымі ілюзіямі разьвіталася. Ну а беларусы атрымалі маральнае задавальненьне, што сказала і пра краіну, і пра мову, што вынесла нашу крыўду, нашы спадзяваньні, як Купала казаў, на сьвет цэлы. Адно з найважнейшых пытаньняў, якое ўзьняла пісьменьніца ў сваёй Нобэлеўскай лекцыі, застаецца адкрытым: чаму ўсе нашы пакуты і крыўды не канвэртуюцца ў свабоду? Гэта адно з пытаньняў, пра якія мы думаем, спрачаемся, шукаем адказы разам.

## Паказьнік асобаў

**Б**

**В**



**Г**

**Д**

**Е**



**Ж**



**З**



**І**



**К**

**Л**



**М**

**О**



**П**



**Р**

**С**

**Х**



**Ц**



**Ч**



**Ш**

**Э**



**Ю**



**Я**

## Сьвятлана Алексіевіч

Нарадзілася ў Станіслававе (цяпер Івана-Франкоўск) ва Ўкраіне, маці — украінка, бацька — беларус. У 1950 сям’я пераехала ў Беларусь. Скончыла Капаткевіцкую сярэднюю школу Петрыкаўскага раёну Гомельскай вобласьці, а ў 1972 — факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працавала ў раённых газэтах у Нароўлі і ў Бярозе, у «Сельской газете», была загадчыкам аддзелу нарысу і публіцыстыкі часопісу «Нёман». Член Саюзу пісьменьнікаў СССР (1983). Сябра Беларускага ПЭН-цэнтру (1989).

Аўтар кніг «У вайны не жаночае аблічча», «Апошнія сьведкі» , «Цынкавыя хлопчыкі», «Зачараваныя сьмерцю», «Чарнобыльская малітва», «Час second-hand (Канец чырвонага чалавека)».

У 2015 Сьвятлане Алексіевіч прысуджаная Нобэлеўская прэмія ў галіне літаратуры — за «яе паліфанічныя творы, якія зьяўляюцца помнікам пакутам і адвазе ў нашы часы».

## Summary

In 2015, the Swedish Academy honored Sviatlana Alexievich with the Nobel Prize in Literature, distinguishing the Belarusian author "for her polyphonic writing, a monument to suffering and courage in our time."

In current day Belarus, Alexievich's books remain unpublished by state presses, and are absent from recommended reading lists of schools and universities.  An outspoken critic of the Lukashenka government, Alexievich is persona non grata on Belarusian state radio and tv.

Since the early 1990s, Sviatlana Alexievich has been a frequent guest of RFE/RL.  She has been the subject of interviews and reports, and has participated in numerous discussions and on-line conferences.

Compiled on these pages are transcripts of those appearances, critiques of her works by various reviewers, and reports on her meetings with RFE/RL audiences.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03–25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.




**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобля.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.** Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




Альгерд Бахарэвіч. **Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.* **Справа Бяляцкага.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.* **Турма і здароўе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.* **Хто ўзарваў менскае мэтро?** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.* **Жывая мова.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.